УДК 811.161.3'373.6(038)
ББК 81.2Беи-4
Э 93

Укладальнікі:

І. І. Лучыц-Федарэц: *Пе — Пнюшок*;
Я. В. Волкава: *По — Попад*; І. У. Кур'ян: *Попарсак — Потр*;
В. Л. Авілава: *Потра — Пояс*; Р. М. Малько: *Пра — Праснак*;
Г. А. Цыхун (у межах названых фрагментаў): *перабіўка, перадрачваць, перасекаць, плашчыца, плямпаць, повяс, повірак, подан, подвалкі, покаст, покатам, покрык, пол$_3$, пола, полам, поні, пор, потвар, правальвацца, правы, прадавачка, прад'явіць, празмуста, пралля, прамара, прамер, прапускаць, прасконак.*

Рэдактар

доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук С. М. Запрудскі,
кандыдат філалагічных навук М. Н. Крыўко

**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 9. П /
Э 93 уклад. І. І. Лучыц-Федарэц [і інш.]; рэд. Г. А. Цыхун. — Мн.: Бел. навука, 2004. — 367 с.
ISBN 985-08-0629-X.

Гэта работа — крыніца для даследавання гісторыі развіцця лексікі беларускай мовы і яе суадносін з лексікай іншых славянскіх і неславянскіх моў.

Папярэдні том слоўніка выйшаў у 1993 годзе.

Дзевяты том уключае этымалагічны аналіз беларускай лексікі на літару П. Вялікая ўвага ўдзяляецца лінгвагеаграфіі слоў, словаўтварэнню, семантычным зрухам.

Разлічаны на лінгвістаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і ўсіх, хто цікавіцца сувязямі беларускай мовы з іншымі славянскімі і неславянскімі мовамі.

**УДК 811.161.3'373.6(038)**
**ББК 81.2Беи-4**



**ISBN 985-08-0629-X**

# АД РЭДАКТАРА

Пасля больш чым дзесяцігадовага перапынку працягваецца выданне чарговых тамоў “Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы”. За гэты час значна змяніўся склад аўтарскага калектыву, а таксама навуковы рэдактар слоўніка. У чарговым томе ў асноўным захаваны прынцыпы, якія былі выпрацаваны ў час работы над папярэднімі тамамі. У першую чаргу гэта датычыць па магчымасці поўнага ўліку лексікі, паходжанне якой, на думку аўтараў слоўніка, патрабуе высвятлення, яе геаграфічнага размеркавання. Разам з тым публікацыя новых збораў народнай лексікі, што прыводзіць да пашырэння рэестра разглядаемых слоў, прымушае перагледзець агульны аб’ём слоўніка, аднак ужо цяпер відаць, што колькасць папярэдне запланаваных дзесяці тамоў будзе перавышана. Выхад у свет у канцы мінулага і ў пачатку новага стагоддзяў шэрагу этымалагічных слоўнікаў славянскіх моў, а таксама абагульняючых прац па славянскай этымалогіі, што ўлічваюць апошнія навуковыя распрацоўкі, робяць збыткоўным падрабязны разгляд больш ранняй па часе літаратуры па кожным з аналізуемых слоў. У большасці выпадкаў аўтары слоўнікавых артыкулаў абмяжоўваюцца прывядзеннем некаторых з выказаных версій паходжання слоў, робячы спасылку на адпаведныя слоўнікі, дзе гэтыя версіі абагульнены на аснове вывучэння літаратурных крыніц.

Папаўненне спісу цытаваных крыніц і літаратуры ажыццявіў І. І. Лучыц-Федарэц. Ім таксама зроблена ўпарадкаванне сістэмы скарачэнняў. Камп’ютарны набор і тэхнічную падрыхтоўку тэкста слоўніка да друку ажыццявіла І. І. Лапуцкая.

# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

Брэн — Мѣстное этнографіческое описаніе Бѣльского уѣзда, составленное ... Келестином Ивановым Бренном, 1853 г. (рукапіс).

ГЧ — Гавораць чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі). Мн., 1994.

Даніл. Сл. — Даніловіч М. А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны. Гродна, 2000.

ЖНС — Жывое народнае слова. Мн., 1992.

Жукаў — Жуков П. И. Рыбы бассейна Немана. Мн., 1958.

Жыв. НС — Жывое наша слова: Дыялекталагічны зборнік: Да 90-годдзя члена-карэспандэнта НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч. Мн., 2001.

Жыв. св. — Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік. Мн., 1999.

ЛА — Лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Т. 1—5. Мн., 1993—1998.

Ляц. — Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белоруссов, I. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898.

Наша Слова — Наша Слова. Мн., 1990 і наст.

Нікан., Трансп. — Никончук М. В., Никончук О. М. Транспортна лексика правобережного Полісся в системі східнослов'янських мов. Київ, 1990.

ПСл — Кучук І. М., Малюк А. К. Палескі слоўнік: Лельчыцкі раён. Мазыр, 2000.

Расл. св. — Раслінны свет: Тэматычны слоўнік. Мн., 2001.

Сл. рэг. лекс. — Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны. Гродна, 1999.

Сл. Скар. — Слоўнік мовы Скарыны. Т. 1—3. Мн., 1977—1994.

ССБМ — Бардовіч А. М., Круталевіч М. М., Лукашанец А. А. Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы. Мн., 2000.

Стан. — Станкевіч Я. Беларуска-расійскі (вялікалітоўска-расійскі) слоўнік. New York, [1990].

Статут, 1529 — Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960.

Ст.-бел. лексікон — Прыгодзіч М. Р., Ціванова Г. К. Старабеларускі лексікон: Падручны перакладны слоўнік. Мн., 1997.

Сярж., Грыбы — Сяржаніна Г. Базідыяльныя грыбы Беларусі: балетальныя, агарыкальныя, русулальныя. Мн., 1994.

Тураўшч. — Тураўшчына: мінулае, сучаснасць, будучыня. Вып. 1. Тураў—Мінск, 2000 і наст.

Шлюб. — Шлюбскі А. Матэрыялы для вывучэння фальклёру і мовы Віцебшчыны. Ч. 1. Мн., 1927.

Шымк., Собр. — Словник білоруської мови Ф.С. Шимкевича: Собраніе слов литовско-русского (бѣлорускаго) нарѣчія. // Б. К. Галас. Ф. С. Шимкевич як лексикограф і українське словникарство (кінець XVIII — початок XX ст.). Ужгород, 1995. С. 147—180.

Яшк. Мясц. — Яшкін І. Я. Мясцовая беларуская лексіка 1851—1874 гадоў у матэрыялах фондаў аддзела рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта // Acta Baltica-Slavica. 1994. Т. 22. S. 147—220.

## ЛІТАРАТУРА

Albaruthenica — гл. Беларусіка.

Альтбаўэр — Biblical Scrolls in a Sixteenth Century Jewish Translation into Belorussian (Vilnius Codex 262) with Introduction and Notes by Moshe Altbauer. Jerusalem, 1992.

Абрэмбска-Яблонска, Śladami — Obrębska-Jabłońska A. Śladami żywego języka. Warszawa, 1993.

Анікін, Этимология — Аникин А. Е. Этимология и балто-славянское лексическое сравнение в праславянской лексикографии. Новосибирск, 1998.

Ареал. исслед. — Ареальные исследования в языкознании и этнографии: Тез. докл. и сообщ. Л., 1971 і наст.

Асоўскі, Stud. Slawist. — Ossowski L. Studia slawistyczne. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1992.

Балто-слав. этнояз. отнош. — Балто-славянские этноязыковые отношения. М., 1983.

Bałto-słow. zw. jęz. — Bałto-słowiańskie związki językowe. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1990.

Банькоўскі —Bańkowski A. Etymologiczny słownik języka polskiego. T. 1. Warszawa, 2000 і наст.

Беларусіка — Беларусіка — Albaruthenica. Кн. 1. Мн., 1993 і наст.

Борысь, Czak. stud. — Boryś W. Czakawskie studia leksykalne: Dziedzictwo prasłowiańskie w słownictwie czakawskim. Warszawa, 1999.

Бузук, Асн. пыт. — Бузук П. А. Асноўныя пытанні мовазнаўства. Менск, 1926.

Бяднарчук, Stosunki — Bednarczuk L. Stosunki językowe na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1999.

Бярнар, Бълг. изсл. — Бернар Р. Българистични изследвания. София, 1982.

Векслер, Hist. — Wexler P. A historical phonology of the Belorussian language. Heidelberg, 1977.

Векслер, Гіст. — Вэкслер П. Гістарычная фаналогія беларускае мовы. Мн., 2004.

Віткоўскі, Słownik — Słownik zapożyczeń polskich w języku rosyjskim / Zestawił W. Witkowski. Kraków, 1999.

Вяржбоўскі, Бел.-літ. лекс. — Вержбовский А. А. Белорусско-литовские лексические взаимосвязи: АКД. Вильнюс, 1961.

Гармонія — Гармонія беларускага слова: Падручныя нарысы для журналістаў // Зборкі пазнаньня чысьціні беларускае мовы. Гродна, 1999.

Глухак — Gluhak A. Hrvatski etimološki rječnik. Zagreb, 1993.

Горбач, Арго — Горбач О. Арґо українських лірників. Мюнхен, 1957.

ESJSt — Etymologický slovník jazyka staroslověnského, 1. Praha, 1989 і наст.

Грэк-Пабісова, Марынякова, Współcz — Grek-Pabisowa I., Maryniakowa I. Współczesne gwary polskie na dawnich Kresach północno-wschodnich. Warszawa, 1999.

JBS — Journal of Byelorussian Studies, London, 1965—1988.

Загароддзе — Загароддзе, 1. Мн., 1999 і наст.

Зализняк, Древненовг. — Зализняк А. А. Древненовгородский диалект. М., 1995.

Запіскі — Запіскі Аддзела гуманітарных навук: Працы класа філалогіі. Мн., 1928. Кн. 2 і наст.

Запісы — Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва, 1. Мюнхен; Нью-Йорк, 1952 і наст.

Запрудскі, дыс. — Запрудский С. Н. Сербскохорватско-белорусские лексические соответствия: Дисс. ... канд. филол. наук. Мн., 1989.

Зб. Абрэмбскай-Яблонскай — Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami : Studia poświęcone A. Obrębskiej-Jabłońskiej w stulecie urodzin. Warszawa, 2001.

Зб. Багародзіцкаму — Памяці В.А. Богородицкого: К столетию со дня рождения. Казань, 1961.

Зб. Відоескаму — Македонски јазик. Год. XL—XLI. 1989—1990: Посветено на Б. Видоески по повод 70-годишнината. Скопје, 1995.

Зб. Звалінскаму — PF. T. XXXII. Warszawa, 1985.

Зб. Івічу — ЈФ. Посвећено П. Ивићу. Књ LVI. Београд, 2000.

Зб. Лімінгу — Collectanea Slavica: in honorem H. Leeming. Kraków, 1996.

Зб. Русэку — Съкровище словесное: Studia slawistyczne ofiarowane profesorowi J. Ruskowi na 70. urodziny. Kraków, 2000.

Зб. памяці Слаўскага — Dzieje Słowian w świetle leksyki: Pamięci profesora Franciszka Sławskiego. Kraków, 2002.

Зб. памяці Талстога — Слово и культура. Памяти Н. И.Толстого. Т. 1—2. М., 1998.

Зб. Слаўскаму — Slawistyczne studia językoznawcze F. Sławskiemu w 70. rocznicę urodzin i 50-lecie pracy naukowej. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk—Łódź, 1987.

Зб. Супруну — Число — Язык — Текст: Сборник статей к 70-летию А. Е. Супруна. Мн., 1998.

Зб. Сяткоўскаму — PF. T. XLIV. Warszawa, 1999.

ZNGd — Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Gdańskiego. Gdańsk.

Золтан, Из истории — Золтан А. Из истории русской лексики. Будапешт, 1987.

Казлова, Регионализмы — Козлова Р. М. Белорусские регионализмы праславянского происхождения (на материале лексики Восточного Полесья): АКД. Мн., 1977.

Карскі, Белорусы — Карский Е. Ф. Белоруссы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильна, 1904.

Каруліс — Karulis K. Latviešu etimologijas vārdnīca, I—II. Rīga, 1992.

Кохман, Polonica — Kochman S. Polonica w leksykografii rosyjskiej XVIII wieku. Warszawa—Wrocław, 1975.

Краўчук, Дифференц. — Кравчук Р. В. Дифференциация праславянских культурных диалектов по данным словообразования (фрагменты славянского словообразования). IX Международный съезд славистов // Доклады. Мн., 1983.

Крыўя — Крыўя. Мн., 1996. № 1 і наст.

Крэмер, Słowniczek — Kremer A. Słowniczek prowincyonalizmów podolskich ułożony w Kamieńcu Podolskim w r. 1863 // Język polski dawnych Kresów Wschodnich. Warszawa, 1999. T. 2.

Куркіна, Диал. структура — Куркина Л. В. Диалектная структура праславянского языка по данным южнославянской лексики. Ljubljana, 1992.

Ластоўскі, Выбр. тв. — Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997.

ЛБ — Linguistica Baltica. International Journal of Baltic Linguistics, 1. Warszawa, 1992 і наст.

Lex. mac. du XVI[e] siècle — Un lexique macédonien du XVI[e] siècle, publié par Ciro Giannelli avec le concours de André Vaillant. Paris, 1958.

Лукашанец, Сацыядыял. — Лукашанец А. Г. Беларускія сацыядыялекты XIX ст. Мн., 2003.

Люканен, Восточнослав. I — гл. Ліўканен, Отглаг. сущ.

Лявіцкі — Левицкий В. В. Этимологический словарь германских языков. Т. 1—3. Черновцы, 2001.

Мартынаў, Балто-слав.-итал. изогл. — Мартынов В. В. Балто-славяно-италийские изоглосы. Мн., 1978.

Машынскі, Atlas —Moszyński K. Atlas kultury ludowej w Polsce, zesz, 1—3. Krakov, 1934—1936.

Машынскі, O sposobach — Moszyński K. O sposobach badania kultury materialnej Prasłowian. Wrocław, 1962.

Междунар. конф. балтистов — Международная конференция балтистов. Вильнюс, 1985.

Мифы — Мифы народов мира, 1. М., 1981 і наст.

Нававейскі, Zapożyczenia — Nowowiejski B. Zapożyczenia leksykalne z języka niemickiego w polszczyźnie XIX wieku (na materiale czasopism). Białystok, 1996.

Наша Ніва — Наша Ніва: Першая беларуская газэта, заснаваная ў 1906 г. Адноўленая ў 1991 г.

Неўская, Балт. терм. — Невская Л. Г. Балтийская географическая терминология. М., 1977.

Німчук, Давньорус. — Німчук В. В. Давньоруска спадщина в лексиці української мови. Київ, 1992.

НЈ — Наш језик. Књ. 1. Београд, 1932 і наст.

Огледна св. — Етимолошки одсек Института за српски језик САНУ: Огледна свезка. Београд, 1998.

ОЛА, Исследов. — Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. М., 1971 і наст.

Олеш, Thesaurus — Olesch R. Thesaurus linguae Dravaenopolabicae, I—III. Köln—Wien, 1983—1984.

Папоў, Из истории — Попов А. И. Из истории лексики языков Восточной Европы. Л., 1957.

Prasłowiańszczyzna — Prasłowiańszczyzna i jej rozpad. Warszawa, 1998.

Птицы, 1 — Надель-Червинская М. А., Червинский П. П. Энциклопедический мир Владимира Даля. Кн. 1: Птицы. Ростов-на-Дону, 1996. Т. 1—2.

ПЭСб — Полесский этнолингвистический сборник: Материалы и исследования. М., 1983.

Русэк, Dzieje — Rusek J. Dzieje nazw zawodów w językach słowiańskich. Warszawa, 1996.

SEK — Boryś W., Popowska-Taborska H. Słownik etymologiczny Kaszubszczyzny. Warszawa, 1994. Т. 1 і наст.

С і БФ — Славянский и балканский фольклор. М., 1978 і наст.

Сікіміч, Etimologija — Sikimić B. Etimologija i male folklorne forme. Beograd, 1996.

Слаўскі, Slavica — Sławski F. Slavica: Wybrane studia z językoznawstwa słowiańskiego. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk—Łódź, 1989.

Сл. Салж. — Русский словарь языкового расширения // Сост. А. И. Солженицын. М., 1990.

Снoй$_1$ — Snoj M. Slovenski etimološki slovar. Ljubljana, 1997.

Снoй$_2$ — Snoj M. Slovenski etimološki slovar. Druga pregl. in dopln. izd. Ljubljana, 2003.

Станкевіч, Зб. тв. — Станкевіч Я. Зб. тв.: У 2 т. Т. 1—2. Мн., 2002.

Станкевіч, Лексіка — Станкевіч А. А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках. Гомель, 1996.

Stud. R. Pozn. — Studia Rossica Posnaniensia, 1. Poznań, 1970 і наст.

Stud. Russica — Studia Russica, 1. Budapest, 1978 і наст.

Studia Etym. Brun. 1 — Studia Etymologica Brunensia, 1. Praha, 2000 і наст.

Супр. чыт., II — Белорусский и другие славянские языки: семантика и прагматика: Материалы Международной научной конференции "Вторые Супруновские чтения", Мн., 28—29 сентября 2001 г. Мн., 2002.

Супр. чыт., III — Палеославистика и компаративистика: Материалы Международной научной конференции "Третьи Супруновские чтения", 2. Мн., 27—28 сентября 2002 г. Мн., 2003.

Танец — Васильева-Рождественская М. Историкобытовой танец. М., 1987.

Трубачоў, Этногенез$_2$ — Трубачев О. Н. Этногенез и культура древнейших славян: Лингвистические исследования. 2-е изд., доп. М., 2003.

Тэрм. бюлетэнь — Тэрміналагічны бюлетэнь. Мн., 1997. Вып. 1 і наст.

Усачова, Слав. ихт. терм. — Усачева В. В. Славянская ихтиологическая терминология: Принципы и способы номинации. Обратный словарь. М., 2003.

Фалінска, Leksyka hodowli — Falińska B. Leksyka dotycząca hodowli na mapach Ogólnosłowiańskiego Atlasu językowego, I. Substantiva. Białystok, 2001.

Фанетыка бел. мовы — Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984.

Фрэнкель, Balt. Spr. — Fraenkel E. Die baltischen Sprache. Heidelberg, 1950.

Хінцэ, Z hist. — Hinze F. Z historii języków łużyckich. Warszawa, 1996.
Хромчанка, дыс. — Хромчанка А. Р. Паўночнамастоўскія гаворкі (арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка). Дыс. ... канд. філал. навук. Мн., 1997.
Цвяткоў, Запіскі 2 — Цьвяткоў Л. Некаторыя рысы іншаславянскай фонэтыкі ў беларускім лексічным матэрыяле // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук, 2: Працы кляса філёлёгіі. Мн., 1928. Т. 1.
Чарных — Черных П. Я. Историко-этимологический словарь современного русского языка. М., 1994. Т. 1—2.
Чарныш, Слов. лексика — Черниш Т. О. Слов'янська лексика в історико-етимологічному висвітленні (Гніздовий підхід). Київ, 2003.
Шанскі — Баброва — Шанский Н. М., Боброва Т. А. Этимологический словарь русского языка. М., 1994.
Шчарбакова — Бруева, Соц.-корп. лексика — Щербакова О. И., Бруева Е. Т. Социально-корпоративная лексика: Словарь жаргона преступников. Мн., 1994.
Шымкевич, Покажчик — Покажчик білоруської лексики в "Корнеслове русского языка..." Ф. С. Шимкевича (1842) — Галас Б. К. Ф. С. Шимкевич як лексикограф і українське словникарство (кінець XVIII — початок XX ст.). Ужгород, 1995. С. 211—235.
Энгелькінг, Klątwa — Engelking A. Klątwa. Rzecz o ludowej magii słowa. Wrocław, 2000.
ЭПБ — Энцыклапедыя прыроды Беларусі, 1—5. Мн., 1983—1986.
ЭССЯ — гл. Трубачоў, Эт. сл.
Этим. иссл. — Этимологические исследования, 7. Екатеринбург, 2001.
Etym. Brun. 1 — гл. Studia Etym. Brun., 1.
Etym. Brunensia, 1 — Etymologica Brunensia. Praha, 1978.

## МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ

аг.-бел. — агульнабеларускае
акц. — акцябрскае
арум. — арумынскае
арх. — архаічнае
валаш. — валашскае
вепск. — вепскае
вод. — водскае
вял.-польск. — вялікапольскае
дыял. — дыялектнае
івян. — івянецкае
кірг. — кіргізскае
клец. — клецкае
ковен. — ковенскае
курд. — курдскае
лемк. — лемкаўскае
мард. — мардоўскае
нова-в.-ням. — новаверхненямецкае
охрыд. — охрыдскае
пазн. — пазнанскае
плешч. — плешчаніцкае
рэз'ян. — рэз'янскае
с.- — сярэдне-...
свянц. — свянцянскае
сен. — сенненскае
скідз. — скідзельскае
сміл. — смілавіцкае
ст.-рус. — стараруское
ст.-сакс. — старажытнасаксонскае
стараж.-рус. — старажытнарускае
удм. — удмурцкае
халоп. — халопеніцкае
чарнаг. — чарнагорскае
шток. — штокаўскае

# П

**Пе-пе-пе** ‘падзыўныя для кароў’ (лях., ДАБМ, камент., 895). Гукапераймальнае, утворанае, магчыма, з пачатковага складу і.-е. назвы скаціны **pek'u-* (параўн. лац. *pecus* ‘скаціна’, ст.-інд. *páçu, paçús*, авест. *pasu-* ‘тс’, ст.-грэч. *πέκος* ‘шкура’, гоц. *faihu* ‘грошы’, ст.-в.-ням. *fihu* ‘скаціна’, прасл. **pьsъ* ‘(калматы) сабака’). Параўн. і інш. падзыўныя словы для кароў з гэтым жа коранем: *псе-псе-псе, псейка-псейка* (гл.).

**Пе́вень**, *піэвень, піёвянь, пе́вянь, півэнь, півінь* ‘самец курыцы’ (ДАБМ, к. 294; Сцяшк. Сл., Мядзв., Гарэц., Бяс., Мал., Шпіл., Шат., ТС), ‘журавель’ (пін., КЭС; Дразд.), ‘надзьмуты чалавек’ (шкл., Мат. Маг.), сюды ж *пе́вень, пеўні́к* ‘трэшчыны на лёдзе ад удару’ (ТС) з-за падабенства на хвост пеўня. Укр. *півень*, рус. дыял. *пе́вень*. Бел.-укр. ізалекса (на рус. тэрыторыі лексема пашырана ў дыялектах, прылягаючых да бел. і ўкр. моўнай тэрыторыі). Утворана пры дапамозе суф. *-ень* (< прасл. **-enь*) ад дзеяслова шматразовага дзеяння **pěv-ati*, які з **pěti, pojǫ* > *пець* (гл.), адносна словаўтварэння гл. Вярхоў, Аб некат. асабл., 36. Значэнне ‘журавель’, відаць, табуістычнае — процілеглае кантамінацыйнаму *жу-равель* (з *жораў* і *журба*), звязанаму з паняццем ‘журба, смутак’. Ст.-бел. *певень*: *петуховъ певніовъ чотыри* (1592) сведчыць пра першапачаткова ўдакладняючы характар назвы, аднак у Бярынды яны супрацьпастаўлены тэрытарыяльна: “волынски *певень*, литовски *петухъ*”, што паказвае на распаўсюджанне з поўдня.

**Пе́гаркі** ‘бульба з прыгаркамі’ (барыс., Шатал.). У выніку кантамінацыі лексем *пе́гі* ‘вяснушкі, плямы’ і *гарэць* (гл.).

**Пе́гі** ‘вяснушкі, рабацінне’ (астрав., Сл. ПЗБ), польск. *piega*, н.-луж. *pěga*, в.-луж. *piha*, чэш. *píha*, славац. *peha*, балг. *пе́га*

‘вяснушка’, славен. *pẹga* ‘вяснушка, пляма’, макед. *пега* ‘тс’, серб.-харв. *пѐга* ‘вяснушка; брудная пляма’, сюды ж рус. *пéгий* ‘плямісты; пярэсты; рабы’, ст.-слав. пѣготы ‘праказа, нарывы’. Прасл. **pěga* і прыметнік **pěgъ* узыходзяць да і.-е. **poi̯g-/*pei̯g* (з якімі звязана аснова **pig-* у ст.-інд. *piṅga* ‘чырвона-карычневы’, *piŋgas, piŋgalás, piñjaras* ‘залацiста-жоўты’, лац. *pingō* ‘малюю, вышываю’, ст.-грэч. πίγγαλος ‘яшчарка’), паралельнага да і.-е. **pei̯k’-*, што дало прасл. **pьsati*, першапачатковае значэнне якога было ‘маляваць’, параўн. укр. *пúсанка* ‘размаляванае велікоднае яйка’, рус. *писать* (картину) ‘маляваць’. Адзінкавая фіксацыя бел. *пéгі,* відаць, сведчыць пра запазычанне з польск. *piegi* ‘вяснушкі’.

**Педагóгіка** ‘навука аб метадах навучання і выхавання’ (ТСБМ). Узыходзіць да ст.-грэч. ἡ παιδαγωγική (τέχνη) ‘мастацтва выхавання, навучання’ <παιδαγωγικός ‘які адносіцца да выхавання ці навучання’ < παιδαγωγός ‘выхавацель, настаўнік’, а апошняе ўтворана з слоў παίς (παιδός) ‘дзіця’ і ἄγειν (ἄγω) ‘вяду’ < ‘той, хто вядзе хлопчыкаў’. Параўн. ст.-бел. *педакгокгия* ‘выхаванне’ (1663 г.), *педакгокгъ* ‘педагог’ (1598 г.).

**Педáль** ‘нажны рычаг у машынах і прыстасаваннях’ (ТСБМ), міёр. *підáліна* ‘тс’ (Нар. словатв.). Праз рус. мову прыйшло з ням. *Pedal* ці франц. *pédale*, якія з італ. *pedale* < лац. *pedālis* ‘нажны’, — спачатку ‘педаль у музычных інструментах’ (Фасмер, 3, 225; Голуб — Ліер, 364).

**Пéдарка** ‘божая кароўка’ (ст.-дар., Жыв. НС), *пéдурка-сéдурка* (кам., Шатал.; З жыцця, 166; ЛА, 1) — вынік трансфармацыі асновы **bedr-,* першапачаткова прыметніка **bedrъ*, утворанага ад дзеяслоўнай асновы **bed-/*bod-* ‘калоць’, гл. *бадаць*$_{1}$; у адносінах да божай кароўкі можна гаварыць пра значэнне ‘наколаты, пакрыты сямю кропкамі’. Лексема ўзнікла ў выніку другасных асэнсаванняў у сувязі з імёнамі людзей — у дадзеным выпадку *Фёдар/Пётр* і *Сідар.* Гл. таксама *федарка*, *петра-паўла* (Трубачоў, Эт. сл., 1, 180—182).

**Пéдрык** (*пэ́дрык)* ‘божая кароўка, Coccinella septempunctata’ (іван., Жыв. НС). Гл. папярэдняе слова. Параўн. таксама *вэ́дрык, петрык, петрачок* ‘тс’.

**П’едэстáл** ‘узвышэнне пад помнік, калону’ (ТСБМ). Праз польск. *piedestał* ці рус. *пьедестал* (пач. XVIII ст.) і ням. *Piedestal* з франц. *piédestal* ‘тс’, першапачаткова ‘падстаўка для ног’.

**Пейза́ж** ‘краявід’ (ТСБМ). З рус. *пейзаж* ці з польск. *pejzaż* (старое *pejsaż*) ‘краявід на карціне’, якія з франц. *paysage* < *pays* ‘мясцовасць, краіна’.

**Пе́йсы** ‘бакі’ (мазыр., Мат. Гом.), ‘патлы’ (светлаг., Мат. Гом.; ТС), ‘валасы’ (хоцім., ЛА, 3); сюды ж *пейса́ч, пейсмач, пейса́ты* ‘валасаты’ (ТС). Гл. *пэйс, пэйсы*.

**Пек** ‘густое вязкае або цвёрдае рэчыва чорнага колеру, якое застаецца пасля перагонкі дзёгцю або смалы’ (ТСБМ). З рус. *пек* ‘смала, дзёгаць’, якое (у пач. XVIII ст.) з гал. *pek* ‘смала’ (Фасмер, 3, 226).

**Пе́ка** ‘пухір’ (трак., Сл. ПЗБ). Магчыма, літуанізм, параўн. літ. *pèkė* ‘жаба’ (відаць, з-за бугрыстасці скуры), аднак нельга выключыць сувязь з *а-пёк, пекці* (гл.).

**Пе́кавіца** (*пэ́ковыца)* ‘пякотка’ (усх.-палес., Нікан.) — утворана ад *пек-ці* (прасл. **pekti*), *пячы́* (гл.) і суф. з адцягненным значэннем *-авіца*.

**Пе́калны** ў выразе: *пе́кална дзежка* ‘дзяжа, у якой расчыняюць цеста і замешваюць яго’ (Янк. 1; гом., Мат. Гом.), *пе́кальніца* ‘дзежка для цеста’ (рэч., б.-каш., Мат. Гом.), ‘дзяжа’ (Янк.). Узыходзіць да незафіксаванага ⁺*пекаць* (гл. *пекці*), параўн. рус. (дыял.) *пека́ть* ‘пячы’, *пекательная печь* = *русская печь* ‘печ’. Аб другасным зацвярдзенні *-л-* гл. Карскі (1, 316). Параўн. таксама рус. *пе́кная печь* ‘пякарня’, *пе́кная дежа* ‘дзяжа’.

**Пе́кальнік** ‘той, хто адпраўляе ў пекла’ (Рам.), смал. *пеке́льнік* ‘памагаты д’ябла’, укр. *пеке́льник* ‘д’ябал, жыхар пекла’. Запазычана з польск. *piekielnik* ‘д’ябал; асуджаны на вечныя пакуты; бязбожнік; скандаліст’ < ст.-чэш. *pekelník* ‘д’ябал; пракляты чалавек у пекле’ са зменай націску пад уплывам *пе́кла*, параўн. *пяке́льны* (гл.).

**Пекані́на** (*пікані́на)* ‘спякота, гарачыня’ (міёр., Нар. словатв.) — утварэнне з суф. *-анін-а* з адцягненым, злёгку экспрэсіўным значэннем ад *пе́кці* ‘пячы’.

**Пекані́цы** ‘здоба’ (шчуч., Сцяшк. Сл.) — аддзеепрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-іц-ы*, якое называе прадмет паводле яго ўласцівасці. Да *пекці* > ⁺*пе́каць* — дзеяслоў шматразовага дзеяння ‘пячы’, параўн. рус. *пека́ть* ‘тс’. Параўн. таксама *пе́канка* ‘печаная на вуголлі рыба’ (ТС).

**Пекану́ць**[1] (*пікану́ць, пе́кнуць),* ‘сунуць чым-небудзь запаленым у каго-небудзь’ (Нас.) ‘хутка даткнуцца гарачым жалезам;

хутка ўджаліць' (Шат.), сюды ж 'абдаць цяплом' (Нас.); 'ударыць, грукнуць, ляснуць, сцёбнуць, агрэць, моцна выцяць бізуном' (Нас., Растарг., ТС, Ян.; карм., Мат. Гом.). Да *пékaць₁* (гл.).

**Пекану́ць₂** 'папракнуць' (Нас.). Да *пékaць* 'папракаць'. Відаць, балтызм. Параўн. літ. *peĩkti* 'ганьбаваць, знеслаўляць'.

**Пéканы** (*пэканый*) 'спечаны' (кам.; Жыв. НС). Да *+пékaць* 'пячы' < *пячы́/ пéкці* (гл.).

**Пéкар₁** 'хлебапёк' (ТСБМ). Запазычанне з польск. *piekarz* 'тс', якое ўтворана пад уплывам нова-в.-ням. *Bäcker* 'тс' (Брукнер, 406), як і чэш. *pekár*, у якім суфікс — нямецкі (Махэк₂, 440); польск. *piekarz* (1450) Банькоўскі (2, 549) выводзіць з **pekti* (гл. *пячы*) у якасці словаўтваральнай інавацыі, бо суфікс *-арь* звычайна ўтварае назвы выканаўцаў ад назоўнікаў. Кантамінацыю з слав. *pek-* дапускае Скок (2, 628); гл. таксама Русэк, Dzieje, 63—64.

**Пéкар₂** 'дзіцячая гульня' (ТС), *пéкар* 'кіёк у гэтай гульні, які ўтыкаецца ў зямлю' (Скарбы), *пэ́кар* 'сторaж цуркі, якая ўтыкаецца ў кучу пяску пры гульні ў пікара' (пін., Нар. лекс.). Гл. *пікар* 'тс'.

**Пекары́ца**, *пякéрыца* 'згага, пякотка' (нараўл., Арх. ГУ; лельч., ЛА, 3), *пакары́ца* 'тс' (ельск., ЛА, 3). Да *пячы́* (гл.), суфікс *-ар-* з узмацняльным значэннем узнік, імаверна, пад уплывам лексем *жарыць, скварыць, варыць*.

**Пéката**, *пекатá* 'пякотка' (барыс., чэрв., Сл. ПЗБ). Утвораныя пры дапамозе суф. *-am-a* са значэннем 'вынік дзеяння' ад *пéкці/ пéкчы* < *пячы* (гл.).

**Пéкаць₁** 'біць чым-небудзь, што выдае глухі гук, напр., пранікам' (Нас.), 'біць пранікам бялізну' (рас., Шатал.), *пéканне* 'ладаванне, укладванне': *мяшкоў на калёсы пеканне* (Нас.). Рус. пск., цвяр. *пек!* 'плясь! шлёп!', *пéкать* 'біць; мітусіцца', славен. *pekáti* 'біць аб дошку для прання бялізны́; злёгку таўчы; біцца, важдацца, валтузіцца; сварыцца'. Гукапераймальнае; з іншым вакалізмам гл. *пя́каць* 'тс'; параўн. літ. *pýkšt* 'лясь', лат. *paukš* 'тс', эст. *(teineteist) peks-ma* 'біцца'.

**Пéкаць₂**: *пекаць гора* 'гараваць' (Гарэц.), *пéкъць, пéкъцца* 'цяжка працаваць, душыцца працай' (міёр., Нар. лекс.), *пéкацца* 'пётавацца, мець вялікія і цяжкія турботы' (ТС). Да папярэдняга, параўн. паралельныя ўтварэнні пад *пя́каць* 'біць' і 'цяжка працаваць' (гл.). Параўн. таксама *пекелявáць, пеклавáцца* (гл.), хутчэй за ўсё, пад уплывам *пéкла*.

**Пекелява́ць** ‘пакутаваць’ (брасл., Сл. ПЗБ). Відаць, утворана паводле польск. *piekłować* ‘рабіць пекла ў хаце’, *pieklić się* ‘злавацць, шалець, вар’яваць, скандаліць’ (ад *piekło*).

**Пе́ківа** ‘выпяканне’: *хлеб своего пеківа* (ТС). Утворана пры дапамозе суф. *-іва* (са значэннем ‘прадмет — вынік дзеяння’) ад *пе́кці* < *пячы́* (гл.), дзе *-к-* — другаснае і ўзнікла ў выніку аднаўлення прасл. **-k-* (**pekti* ’пячы’) праз аналогію да дз. 1 ас. адз. л. цяп. часу **pekǫ* > бел. *пяку*. Параўн. *печыва* (гл.).

**Пе́кла** ‘месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы памерлых грэшнікаў; месца, дзе адбываюцца жахлівыя падзеі’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Мік., Яруш., Мядзв., Шпіл., Мал., Касп., Растарг., Шат., Сл. ПЗБ), *пе́кло* ‘тс’ (ТС), ‘цяжкая работа’ (Шат.). Укр. *пе́кло*, зах.- і паўд.- рус. *пе́кло* ‘пекла’, рус.-ц.-слав. *пькълъ* ‘смала’ (1073 г.), ст.-слав. пьцьлъ ‘тс’, пьклъ ‘пекла’, польск. *piekło*, ст.-польск. *pkieł*, Р. скл. *piekła*, н.-луж. *pjakło*, в.-луж. *pjekło* ‘тс’, славац. *peklo*, чэш. *peklo*, ст.-чэш. *pkelná vrata* ‘вароты пекла’, славен. *pekə̏l, pekèł* ‘смала’, ‘пекла’, ‘дзёгаць’, серб.-харв. *па́као* ‘смала, пекла’, макед. *пекол* і *пекло* ‘пекла’, балг. *пъ́къл, пъ́кло, пъкло́* ‘смала, дзёгаць’. Прасл. *pьklъ* ‘смала’, што выводзіцца з і.-е. кораня **pĭ-k-*: лац. *pix, picis*, ст.-грэч. πίσσα (< **pik-i̯a*), алб. *pisë* ‘смала’; ст.-в.-ням. *pëh* (з лац. мовы). Значэнне ‘пекла’ прыйшло да зах. славянаў з Захаду, а потым пашырылася і на ўсх.-слав. тэрыторыі (Брукнер, 407; Фасмер, 3, 226; Голуб — Копечны, 269; Махэк$_2$, 441— 442; Бязлай, 3, 22).

**Пеклава́цца** ‘клапаціцца, даглядаць каго-небудзь’ (валож., Жыв. сл.), ‘выконваць цяжкую работу’ (Юрч.), ‘гараваць, бедаваць’ (карм., Мат. Гом.), *пеклава́нне* ‘клопаты, цяжкасці’ (Сцяшк. Сл.), ‘цяжкая пакутлівая праца’ (Юрч. СНЛ), смал. *пеклева́ться, пеклува́ться* ‘мучыцца, пакутаваць’, укр. *пеклува́тися* ‘клапаціцца, даглядаць’. З польск. *piekłować się* ‘рабіць, ствараць пекла; злавацца’, якое з чэш. *peklovati se* ‘стварыць пекла (сварыцца, страшэнна злавацца)’ < *pekliti se* ‘тс’ < *peklo* ‘пекла’; значэнне ‘клапаціцца, даглядаць’ — другаснае.

**Пе́клі́ца** ‘прыстасаванне для вялення ўюноў у печы ці на агні: дзве падстаўкі з зарэзамі, на якія кладуць папярочкі з нанізанымі ўюнамі’ (ТС). Першапачаткова абазначала ‘пекла’ ў пераносным сэнсе — ‘пекла для ўюноў’. Утворана ад *пекл-а* і

прасл. суф. *-ьсе: ръklьсе, у якім -ь- для зручнасці вымаўлення збегу зычных перайшло ў -і- (параўн. *sьrd-ьсе > 'сэрца').

**Пе́кліцца** 'мітусіцца' (смарг., Сл. ПЗБ), 'мучыцца' (Сцяшк. Сл.), *пе́кліць* 'мучыць, здзеквацца' (Сцяшк. Сл.). Да *пе́кла* (гл.), параўн. аналагічныя ўтварэнні: польск. *pieklić się* 'рабіць пекла, злавацца, рабіць скандал', чэш. *peklit se* 'пакутаваць, мучыцца; злавацца, крыўдзіцца', славен. *peklẹ́ti, peklíti, peklenẹ́ti* 'клапаціцца, трывожыцца; засмучаць', *peklim se* 'шалею, напаўняюся лютасцю', серб.-харв. *па̀клити* 'намазваць смалою'.

**Пе́кны** 'прыгожы, добры, слухмяны' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Яруш., Сцяшк. Сл.; докш., Янк. Мат.; Сл. ПЗБ; Нар. Гом.; мядз., Нар. словатв.), сюды ж *пекнота́* 'прыгажосць' (ТСБМ), ст.-бел. *пенкный, пекный, пиенкный* 'прыгожы' (XVI ст.) і інш. словы гэтага ж кораня. З польск. *piękny* і *piekny* 'тс' (па-беларуску павінна быць **пякны*, гл. Станкевіч, Зб. тв., 1, 35), якія разам з чэш. *pěkný*, славац. *pekný*, луж. *pěkny*, а таксама ст.-польск. *piękry* (насавое *е* ў польскіх лексемах — другаснае) узыходзяць (паводле Махэка$_2$, 442) да прасл. **pěkrъ* < і.-е. **poi̯k-ro-s*, параўн. лац. *pulcher* (< **polcros* < **poikros*). Яначак ("Sborník" пед. ін-та ў Оламаўцы, 5 (1959), 7), звязвае гэтае слова з літ. *bingùs* 'прыгожы', 'выкармлены', 'прыкметны', 'прадстаўнічы', лац. *pingius* 'тлусты', тады прасл. аснова будзе **pęk-*. Трубачоў (Этимология — 1968, 31) выводзіць больш старажытную форму **pekn-* і **pekr-ъ*, параўн. гоцк. *fagrs*, англ. *fair* 'цудоўны', з дагерманскага **pokrós*; мена пашыральнікаў асновы *r/n* адбылася яшчэ ў даславянскую эпоху.

**Пе́кун** 'бакас, Capella gallinago L.' (усх.-палес., асіп., ЛА, 1; жытк., Мат. Гом.; пух., Сл. ПЗБ; ТС). Гукапераймальнае. Параўн. *пе́кун... крычыць так: пеку, пеку* (пух., Сл. ПЗБ, 3, 478).

**Пе́кур** 'чалавек, які мае рабаціністы твар' (калінк., Сл. ПЗБ). З $^{+}$*пегур*, якое з *пег-* (*пегі* 'плямы на твары') і суф. *-ур* са значэннем зніжанасці.

**Пе́кці** 'пячы' (Касп., Нас., Растарг.), *пякці́* 'тс' (слуц., мін., дзісн., мазыр., ігум., вілей., Мат.), 'гатаваць; паліць, прыпякаць' (ТС), 'пячы сала' (рагач., акц., светлаг., ЛА, 4) — новаўтварэнне ад асноў дзеяслова на *-к-* з канчаткам *-чы*, перад якім гэтае *-к-* аднаўляецца (Карскі, 2—3, 276), параўн. *пе́кчы* 'пячы' (Мат. Маг.), 'пячы сала' (бых., ЛА, 4). Да *пячы́* (гл.).

**Пекяры́ца**, (*пекеры́ца)* 'пякотка' (нараўл., Мат. Гом.). Да *пе́кці, пячы́* (гл.), аснова якіх была падоўжана экспрэсіўным суф. *-ер-* (параўн. *блюзн-ер-ыць*).

**Пе́лена** 'падол (ніжні край спадніцы)' (нараўл., ельск., Мат. Гом.), 'ніжні край кашулі' (Арх. Федар.), 'прыпол' (лун., Сл. Брэс.; ТС), *пе́ліна* 'прыпол' (Мат. Гом.), *пелена́* 'падол, прыпол' (ПСл). Укр. *пе́лена́* 'падол кашулі; ніжні край страхі', рус. наўг., пск. *пелена́* 'сшытая полка; палотнішча', чэш., славац. *plena*, славен. *pelenica, pelna, plęna, plenica, pelnica*, серб.-харв. *п̏елена, pelèna*, макед., балг. *пелена*, ст.-слав. пелена. Прасл. **pelenā* і *pelnā*, роднасныя лац. *pellis* < *pelnis*, ст.-грэч. πέλας 'скура', ст.-в.-ням. *fel* 'тс', ст.-англ. *filmen* 'скурка (на крайняй плоці)', літ. *plėnẽ* 'скурка, плёўка', ст.-прус. *pleynis* < і.-е. **pel-* 'покрыва, адзежа, абалонка' (Махэк$_2$, 458; Аткупшчыкоў, Из истории, 134—135). Гл. таксама *пелянá.*

**Пеленгава́ць** 'выхоўваць, песціць, мілаваць' (Нас.), 'даглядаць, клапаціцца' (Сцяшк. Сл.), *пелянгава́ць* 'даглядаць' (шальч., Сл. ПЗБ), *пелёгаваць* 'выхоўваць, няньчыць, песціць; біць' (Растарг.). З польск. *pelęgnować, pielęgować, pielegować* 'даглядаць, песціць', 'клапаціцца', якое з ням. *pflegen* (в.-ням. *phlëgan*) 'тс'.

**Пелендрава́ць** 'вытоптваць пасеў (аб конях)' (Нас.), ст.-бел. *плендровати, плюндровати* 'рабаваць', якія праз польск. *plądrować* 'рабаваць, шнарыць, шукаць' запазычаны з ням. *plündern* 'рабаваць, спустошаць'; паўнагалоссе *-еле-* — другаснае.

**Пелесава́ць** 'жорстка цялесна караць плёткаю, сячы бічом; вытоптваць луг, пасеў (аб конях, каровах)' (Нас.). Да *пялясы* (гл.), што часцей выступае ў прыставачных утварэннях, гл. *перапялёсы* 'з папярочнымі палосамі'. Нельга выключыць кантамінацыю з *паласава́ць* 'біць вяроўкай ці бічом' (гл.) і *пялёжыць, пялёгаваць* 'біць, праводзячы паласы'. Суадносіны *-еле-/-ала-*, як *пелеска́ць/ паласка́ць* (Нас.). Паводле Карскага (1, 253), узнікла ў выніку т. зв. III поўнагалосся з усх.-слав. *⁺poĩs-* пад уплывам *пелесне́ць.*

**Пе́леск** 'плёскат, пляск', *пеляска́ць* 'паласкаць (бялізну)', 'муціць, хваляваць', *пеляска́цца* 'мыцца ў рацэ, у вадзе' (Нас.). У выніку кантамінацыі *паласкаць* і *пляскаць* (Шахматаў, Очерк, 153), параўн. *пялёскацца* (гл.).

**Пе́лесць,** *пе́люсць* 'вуха, рукаятка, тоўстыя канцы ў карыце, ночвах', *пе́люшчы* 'закраіны ў начоўках' (ТСБМ), *пе́лясць* 'біла лыжка' (смарг., Сцяшк. Сл.). Гл. *пелюсць$_1$*.

**Пе́лец** 'маленькі кавалак сала' (лун., Шатал.), *пе́лесць* 'пласт (мяса, сала)' (Нас.). Відазмененае пад уплывам польск. *połeć* ус-

ходне-славянскае *полъть* 'кавалак'. Гл. *полць*; магчымы ўплыў папярэдняга слова.

**Пéліва** 'поліва' (астрав., шальч., Сл. ПЗБ), *пéліць* 'палоць' (астрав., трак., Сл. ПЗБ). Відазмененыя *поліва*, *палоць* (гл.) пад уплывам польск. дз. *pleć*, 1-ая ас. *pielę, plić, plewić* 'палоць'.

**Пéліка,** *пéляка* 'няўдобіца' (докш., бярэз., барыс., чэрв., Сл. ПЗБ), 'жоўты пясок' (барыс., Яшк.), 'пясчаная неўрадлівая зямля' (мін., докш., барыс., бярэз., чэрв., ЛА, 2), *пелéчына* 'тс' (валож., там жа), *пялéка*, *пялéчына* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 4, 214), паходзіць з літ. *pelĕkas* 'шэры'.

**Пелікан** 'веслаcorrect птушка, Pelicanus opocrotalus' (БелСЭ, 8), ст.-бел. *пеликанъ* (пач. XVII ст.) са ст.-польск. *pelican* 'тс', (Булыка, Лекс. запазыч., 144), якое праз лац. *pelicānus* са ст.-грэч. *πελεκάν* ад *πέλεκυ* 'сякера, малаток', *πελεκάω* 'сяку, чашу' (Фасмер, 3, 230).

**Пель**, *пéля, пéлка, пéлька, пéлячка* 'нізіна сярод поля, звычайна круглая або авальная' (парыц., Янк. Мат.), 'лагчына' (жытк., Мат. Гом.); 'сажалка; балота' (брагін., Шатал.), 'лунка' (лельч., Нар. лекс.), 'палонка' (Шат., ТС, Сл. ПЗБ; рэчыц., Нар. сл.; петрык., Шатал.; Ян.; Растарг., Янк. 1; Мат.; Яшк.; хойн., Мат. Гом.; З жыцця; маг., гом., ЛА, 1), 'мачулішча' (добр., ЛА, 4), 'частка ракі, якая зімой не замерзла' (рэч., ЛА, 2); 'невялікі прыродны вадаём — круглы ў лесе ці на полі, дзе стаіць вада' (петрык., Шатал.; калінк., ЛА, 2). Балтызм, параўн. літ. *pélkė* 'балота', ст.-прус. *pelky* 'багна, твань', лат. *pelce* 'лужа'. Больш падрабязна гл. Талстой, Геогр., 167—169; яго ж, Этимология—1967, 145—157.

**Пéлька**$_1$ 'грудзі' (Растарг., Юрч., Янук., Касп.), 'ключыца' (Мат. Маг.), *пелькі* 'каўнер' (Касп.), 'грудзіна, грудная косць', 'грудная частка ялавічыны' (Нас., Нас. Сб.), *пелькавае мяса* 'тс' (Нас.), маюць непасрэдны працяг на рус. тэрыторыі: *пéлька, пéльки* 'частка адзення, якое закрывае грудзі', *пело* 'пярэдняя частка кашулі, што закрывае грудзі', 'жаночыя грудзі', *пéлить* 'пакрываць, прыкрываць' — якія можна генетычна атаясаміць з дадзенымі ўграфінскіх моў з агульным значэннем 'верх, тое, што пакрывае', параўн. вепск. *päl'ińe* 'верх, верхні бок', *päl'd'a, päl'da* 'нацягваць на што-н.', *päl̨et'i* 'адзін на адным', *pel'* 'вяршнік, вушак', удм. *pel* 'вуха', эст. *peale panema, pealistama* 'па-

крыць’. Цікавым будзе таксама і семантычны пераход: вепск. *ŕind* ‘грудзі’ і ‘каўнер адзення’.

**Пе́лька₂** ‘ўваход у жак або ў кош’ (ТС), рус. дыял. *пе́лька* ‘пятля, палонка’, укр. *пе́лька* ‘глотка’. У выніку семантычнага пераносу з *пель* (гл.) (Талстой, Этимология—1967, 148—149).

**Пельме́ні** ‘маленькія піражкі з цеста, начыненыя мясным або рыбным фаршам’ (ТСБМ). З рус. *пельме́ні*, якое з комі *pel'ńań* < комі, удм. *pel* ‘вуха’, *ńań* ‘хлеб’ — назва паводле формы, падобнай да вуха, гл. Папоў, Из истории, 28; Фасмер, 3, 230.

**Пе́льнік** ‘цяцюшнік прамастаячы, Euphrasia stricta Host.’ (гродз., Кіс.). Няясна, магчыма, звязана з *пе́ліць* ‘палоць’ (гл. *пеліва*): цяцюшнік з’яўляецца паўпаразітнай раслінай.

**Пе́льсць₁** ‘поўсць’ (мсцісл., З нар. сл.). З польск. *pilść* ‘лямец’, ‘валасяны матэрыял, унутранасць матраца’. Вакалізм складу *пе-* трэба разглядаць разам з *пельсць* ‘шалушэнне скуры, пархі’ (мсцісл., ЛА, 3), дзе *-е-* — пад уплывам лексемы *пе́рхаць*, параўн. *персць* ‘шалушэнне скуры’ (мядз., там жа).

**Пе́льсць₂**, *пелясць, пе́люсці, пэ́люстэ* ‘праход у печ, а таксама месца ў коміне над гэтым праходам’ (Сцяшк. МГ, Скарбы, Сл. ПЗБ; бяроз., Шатал.), ‘жарало ў печы’ (навагр., Нар. сл.), ‘выхад з печы’ (слонім., Нар. лекс.), ‘чалеснікі’ (ЛА, 4), ‘верх над чалеснікамі’ (там жа). Гэта рэалія ўяўляе сабой ‘тонкую цагляную сценку ў печы, пасярэдзіне якой знаходзіцца ўваход у печ’ (ваўк., В. В.) і семантычна, як ‘нешта плоскае’, лексему, што называе гэтую рэалію, можна звязаць з *пелюсць₁* (гл.).

**Пе́люсць**, *пе́лясць* ‘канец карыта, выступы ў ночвах, на якія клалі мыла, бялізну’ (Касп.; глыб., чэрв., пух., Сл. ПЗБ), *пелюсці* ‘тс’ (дзярж., Нар. сл.), ‘папярочная дошка, прыбітая зверху ў канцах лодкі’ (пух., Сл. ПЗБ), *пе́лясць* ‘спінка ў ложку’ (Сцяшк. Сл.), смал. *пеле́стинка* ‘тонкая пласціна’, рус. дыял. *пе́листь* ‘ручка карыта’, польск. дыял. *peluść, peluście* ‘тс’, чэш. *pelest* ‘спінка ў ложку ў галавах і ў нагах, бакавая дошка ў ложку’, мар. ‘канцы каменнага карыта’. Відаць, генетычна ўзыходзіць да і.-е. асновы **pelə-/ *plē* > прасл. **pelena/ plena* (Махек₂, 443 і 458), якая ў слав. мовах выступае з рознымі суфіксамі. Разглядаемая лексема ўтворана пры дапамозе суф. *-ut-* (*pel'-ut-ь* > *пелюсць*) ці *-et-* (*pel-et-ь* > *pelest*). Семантычны бок лексемы засяроджваецца на паняцці ‘тонкае, выцягнутае, плоскае’, ‘абалонка’, параўн., напрыклад,

зах.-бранск. *пелю́стка* ‘невялікі квадратны кавалачак раскатанага для варэнікаў цеста’, гл. таксама *пялёстак* ‘асобны лісток з вяночка кветкі’, што, магчыма, выводзіцца з **pelestъ*, **pel'ustь* ‘канец, край чаго-небудзь’ (Борысь, SFPS, 23, 106; БЕР, 5, 139).

**Пелюха́** ‘шалупінне, якое застаецца ў мякіне пасля абмалоту аўса’ (Мядзв.). Да *пе́люсць₁* (гл.); у разглядаемай лексеме рэалізавана значэнне ‘абалонка’ і.-е. **pelə/ plē-* (Махек₂, 458).

**Пе́люха** (*pielucha*) ‘пясчанае поле’ (Арх. Федар.) — да *пе́ліка* (гл.).

**Пелюшо́к₁** ‘варэнік без начынкі’ (брагін., Нар. словатв.), параўн. *пелю́шкі* ‘пернікі’ (Растарг.). З польск. *paluszek* ‘від пернікаў у выглядзе пальчыка’ < ‘пальчык’. *Пе-* замест *па-* пад уплывам лексемы *пельмені*.

**Пелюшо́к₂** ‘пень’ (бераст., Сцяшк. Сл.). Памянш. ад *пень* (гл.), параўн. польск. *pieniuszek* < *pień* ‘пень’ (з менай *н'* > *л'*).

**Пе́ля** ‘балотца паміж полем і стаячай вадой’ (Некр.), ‘лужа’ (Сабаленка), ‘частка ракі, якая зімою не замярзае’ (рэч., ЛА, 2), ‘палонка’ (петрык., нараўл., ЛА, 2). Да *пель* (гл.).

**Пе́ляка** ‘пясчаная неўрадлівая глеба’, *пелякава́тая* ‘тс’ (чэрв., Нар. лекс.), ‘пясчанае поле’ (чэрв., касцюк., ЛА, 2). Да *пе́ліка* (гл.).

**Пелямі́ца** (*пелеміца*) ‘вялікая хустка’ (ТС). З ⁺*пеленіца* (распадабненне *н* > *м*), параўн. чэш. *plena* ‘хустка’, ст.-рус. *пеленица* ‘пялёнка’ (з 1466 г.) < *пелена* ‘пакрывала’, ст.-слав. пелена ‘тс’. Гл. *пе́лена, пялёнка*.

**Пеляна́**, *пелена́, піліна́* ‘падол, пярэдні ніжні край кашулі’ (Федар. 1; Янк. 1; Маш.; Дзмітр.; навагр., Шн.; Сцяшк. Сл.), *пе́ляна* ‘тс’ (ст.-дар., Нар. сл.), *пе́ляна, пе́лянь, пе́лена́, пе́ліна, піляна́, пяляна́* ‘прыпол’ (Мат. Маг.), ‘падол у сарочцы, сукенцы’ (Сл. ПЗБ; мазыр., Мат. Гом.), ‘палатно, якім кума пакрывала дзіця пры абрадзе’ (карм., Мат. Гом.).

**Пеляні́ца** ‘цеста (з пшанічнае мукі)’ (рэч., Мат. Гом.). Відаць, няправільнае тлумачэнне ў арыгінале: *Што мы захацелі, тое і зрабілі: із мукі пеляніцу, а із дзеўкі — маладзіцу.* У такім выпадку — да *паляніца* (гл.). *Пе-* замест *па-*, магчыма, пад уплывам *пеклява́ная* мука ‘мука дробнага памолу’. *Пеленіца* ‘праснак’ (ТС). З *палéніца* ‘праснак з кіслага цеста’, спечаны перад полымем (там жа). Параўн. *пале́нік* ‘тоўсты блін’ (Касп.), *паляніца*

'праснак' (Касп.), пазней — 'булка з пшанічнай мукі' (Бяльк.), *подполо́нык, пудполо́нэк* 'тоўсты блін з хлебнага цеста (Сл. Брэс.), *подпа́ленік, подпа́льнік* (ТС), *ополоньк* 'корж з хлебнага цеста, які пяклі ў печы пры полымі' (драг., Вешт.), параўн. *подпалок*: *напэкла подпалків пэрэд полумнем на сніданне* (малар., Сл. Брэс.). Усе — да *по́лымя* (*поломніца/пламеніца, подпламеннік, о-поломнык, подполомнік > подпаленік*) і пад.

**Пелянтава́цца** 'корпацца' (шальч., Сл. ПЗБ). Няясна. Відаць, гэта фанетычны варыянт лексемы *пелянгавацца* 'даглядаць, апекавацца', якое з польск. *pielęgnować się* 'тс' < н.-ням. *pflegen*, в.-ням. *pflëgan* 'тс'.

**Пеляска́ць**, *пеляска́цца* 'паласкаць' (Гарэц.), мсцісл. *піліска́ньня* 'плёсканне', *пеляскацца* 'плёскацца' (Юрч. СНЛ), рус. смал. *пе́леск* 'плёскат, шум вады', *пеляска́нный* 'прапаласканы', смал., пск. *пелеска́ться* 'плёскацца; мыцца, купацца'. Узніклі ў выніку "несапраўднага" поўнагалосся: слова *плеск* успрымалася як царкоўнаславянізм, а змешванне *ѣ* і *е* на гэтых тэрыторыях пачалося раней, чым на іншых усх.-слав. землях. Да *пляск, плёскат* (гл.). Шахматаў (Очерк, 453) тлумачыць гэтыя словы як вынік кантамінацыі *полоскаться* + *плескаться*. Гл. таксама *пялёскацца*.

**Пелясну́ць**, 'разануць' (Касп.), рус. арханг. *пелеса́ть* 'мучыць, біць каго-небудзь', *пелеса́ться* 'біцца'. Няясна. Магчыма, фінізм, параўн. эст. *pekslema* 'біцца', або да *паласнуць* (гл.) з экспрэсіўнай зменай вакалізму (Карскі, 1, 253).

**Пе́мза** 'лёгкая порыстая горная парода вулканічнага паходжання' (ТСБМ). З рус. *пе́мза* 'тс', якое, паводле Фасмера (3, 231), з чэш. *pemza,* куды прыйшло з ст.-в.-ням. *pumiȥ, bumiȥ,* < лац. *pūmex* 'тс'. Не выключана, што крыніцай запазычання ў рус. мову можа быць с.-нідэр. *pums*.

**Пе́на** 'лёгкая пузырыстая маса на паверхні вадкасцей; маса, утвораная растворам мыла' (ТСБМ, Шат., ТС, Сл. ПЗБ), 'пена на мыльнай вадзе' (паўн.-усх., ЛА, 3), 'пот у каня' (Сл. ПЗБ), 'плесня' (арш., ЛА, 4), сюды ж *пе́нка* 'пенка на малацэ' (там жа), *пе́нкі* 'прыгаркі (бульба); 'лупіны (ад бульбы)' (там жа), *пе́няць* 'пеніцца, пакрывацца пенай' (Сл. ПЗБ). Укр. *пі́на*, рус. *пе́на* 'пена, сліна', польск. *piana*, н.-луж. *pěnki* 'пена', в.-луж. *pěna* 'накіп'; 'сліна ля рота', чэш. *pěna* 'пена, накіп', славац. *pena* 'тс',

славен. *pę̑na*, ст.-славен. *pejna*, серб.-харв. *пје̏на*, харв. *spjȅna*, макед. *пена*, балг. *пя́на*, ст.-слав. пѣны 'пена, пена ля рота'. Прасл. **pěna*, роднаснымі да якога будуць літ. *spáinė* 'смуга пены', ст.-прус. *spoayno* 'пена піва, якое бродзіць', лац. *spūma* 'пена, пырскі', *pūmex* 'пемза', ст.-в.-ням. *veim*, ст.-інд. *phḗnas* (м. р.), асец. *fink* 'пена, накіп' < і.-е. **(s)poi̯* + *-*mn-o/* *-*mn-ā* (Фасмер, 3, 231, з літ-рай; Аткупшчыкоў, Из истории, 233 і 235).

**Пена́л** 'футарал для ручак, алоўкаў, гумак і пад.' (ТСБМ). З с.-лац. вучнёўскага слова *pennāle* (< *penna* 'пяро'), якое палякі пераклалі як *piórnik*. У бел. мову, відаць, прыйшло з рус. *пена́л* < ням. *Pennal* 'тс'.

**Пе́начка** 'птушка атрада вераб'іных, Phylloscopus' (ТСБМ). Укр. *пі́ночка*, рус. *пе́ночка* 'тс', дыял. 'малінаўка', польск. *pienka* 'сітаўка, (жоўтая) пліска', ст.-польск. 'шчыгол', 'зяблік', н.-луж. *pěnica*, чэш. *pěnice*, славац. *penica*, славен. *pę́nica*, *penи́ca* 'валасянка'. Няма адзінай думкі наконт паходжання. Сной (Бязлай, 3, 25) зыходзіць з прасл. **pě(g)nica/*pęga* 'невялікая пеўчая птушка', пацвярджаючы супастаўленне Міклашыча (245) з літ. *spìgti* 'свістаць, шчабятаць', *speñgti* 'звінець, гудзець, шумець'. Махэк$_2$ (443) мяркуе, што *pěnice* паходзіць з **pěhnice* < *pěhza* 'валасянка', паходжанне якога няяснае. Брукнер (409) звязвае польск. *pienka* з *пянька́* (каноплі), Мараўскі (Sprawozdania Poznańskiego TPN, 1, 1928, 37) і Сакалоўскі (Ptaki ziem pol., 2, W-wa, 1952, 162) выводзяць слова з гукапераймання *pink-pink*, якое стала падставай нават для ням. *Fink* (ст.-в.-ням. *fincho* 'зяблік'), англ. *finch*, італ. *pincione*, грэч. σπίγγος 'тс', гл. Струтыньскі, 95, які мяркуе, што *pěnъka* ўзнікла на слав. глебе. Беларуская назва, хутчэй за ўсё, запазычана з рускай мовы.

**Пе́ндарка** (*пе́ндарко)* 'божая кароўка' (ст.-дар., ЖНС). З *педарка* (гл.), у якім *-д-* пад уплывам паралельнай формы: *петарка — федарка*; другасная назалізацыя, параўн. *пе́дурка — се́дурка*, *сэ́ндарка — пе́ндарка* (Жыв. св., 83—85).

**Пе́ндрыць** 'цяміць, кеміць, разумець'. Да *пе́трыць* (гл.). Пасля з'яўлення другаснай экспрэсіўнай назалізацыі *-т-* азванчэла.

**Пе́нек**, *пе́нькі*, (мазыр., Жыв. сл.), *пэнёкь*, мн. л. *пэ́нькэ* 'апенька, Armillariella mellea' (там жа), (нясвіж., краснап., хоцім., драг., калінк., лельч., ЛА, 1). Да *апенькі* (гл.) з адпадзеннем пачатковага *а-* (*о-*), характэрным пераважна ўсходнім гаворкам.

**Пе́не́ц** ‘урок, лекцыя’ (Шпіл.), ст.-бел. *пенсъ* ‘хатняе навучанне’ (1653), якое са ст.-польск. *pens* ‘заданне, практыкаванне, адзначаная частка ў кнізе, прызначаная для вывучвання напамяць’ < лац. *pēnsum* ‘заданне, абавязак’ (Варш. сл., 4, 110). Гл. *пэнс(а)*.

**Пе́нне** (*пе́ння*) ‘пер’е, якое адрастае пасля ліанькі птушак’ (рас., Шатал.). Зборны назоўнік ад *пень* ~ прасл. **pьnьje* з суф. *-ьje*.

**Пе́нсія**, *пэ́нсія*, *пэ́нсыя* ‘штомесячнае грашовае забеспячэнне ў старасці, заработная плата’ (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ), ‘жалаванне, узнагарода’ (Шпіл.). З польск. *pensja*, *penzja* ‘сталае гадавое жалаванне, плата’, якое з лац. *pēnsio* ‘ўзнагароджанне, плата, плацеж’.

**Пенснэ́** ‘акуляры без дужак’ (ТСБМ). З рус. *пенсне́*, *пенснэ́*, якія з франц. *pincenez* ‘тс’ (< *pincer* ‘шчыпаць’ і *nez* ‘нос’).

**Пе́нтах** ‘дзіця, якое злуецца, кіпіць’ (ТС). Відаць, генетычна звязана з *пе́ня₁* (гл.) і з польск. *pienia* ‘суцяга, звяднік’, *pieniacz, pieniaka* ‘той, хто любіць судзіцца, цягацца па судах’. Экспрэсіўны суф. *-тах*.

**Пентэ́лька** ‘пятля для зашпільвання’ (астрав., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі польск. *pętla* ‘пятля’ і бел. *пяце́лька*. Да *пятля́* (гл.).

**Пенцюха́йла**, *пенцяле́й* ‘непаваротлівы, тоўсты’, ‘цюхцяй, неразвіты’ (Нас.). Можна супаставіць з рус. *пе́ндюх* ‘цяльпук, мяла’, ‘пуза’, ‘нехлямяжы, нязграбны, няспрытны чалавек’, якое звязваюць з *пень* (Мацэнаўэр, LF, 12, 331; Праабражэнскі, 2, 36); збліжаюць з укр. *бендюх*, *бендюг* ‘бруха, унутранасці’ (Фасмер, 3, 232), альбо выводзяць з уласнага імя *Пенцеле́й*, рус. *Пе́нтелей* з *Пантелеймон* < грэч. Παντέλειος < παντλήμον < παντάλας ‘самы няшчасны’ (Нас., 397; Папоў, Из истории, 35). Параўн. таксама *пянцю́х* ‘абрубак дрэва’, ‘таўстун’ (гл.). Суфікс *-айла* ў адпрыметнікавых утварэннях, параўн.: *даўга́йла* ‘высокі’, *дыга́йла* ‘цыбаты’.

**Пе́нцік**, *пе́ньцік* ‘божая кароўка’ (ТС). Параўн. *пе́ндарка* (гл.).

**Пе́нчык** ‘хвосцік у яблыку, грушы’ (ТС). Памяншальная форма ад *пянёк* < *пень* (гл.). Перанос значэння паводле падабенства: ‘дрэва ля кораня’ > ‘корань яблыка’. Параўн. таксама *пенчу́к* ‘адростак пяра пасля лінькі’.

**Пень**, *пэнь* 'ніжняя частка ствала спілаванага або зламанага дрэва' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Яруш., Сл. ПЗБ, Ян., ТС), 'бервяно' (віл., воран., Сл. ПЗБ), 'дрэва наогул' (чэрв., барыс., Сл. ПЗБ), 'куча галля, ламачча' (брасл., Сл. ПЗБ), 'смаляны пень на падпал; хлыст дрэва', 'пень с карэннем; шышак': *пень, апенак*, 'цвёрдая частка пяра; адросткі пер'яў', *пéнне, пення* 'адросткі пер'яў' (Сл. ПЗБ), *пень* 'вулей, калода' (Скарбы), 'калодачны вулей' (Нікан., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), 'ляжачы вулей' (ЛА, 1), 'частка снапа ад перавясла да зрэзу' (мін., лаг., Шатал.), сюды ж *пеньчужóк* 'аб'едзенае жукамі сцябло бульбы' (Сл. ПЗБ), 'някемлівы, нездагадлівы' (міёр., З нар. сл.; барыс., Сл. ПЗБ; Мат. Маг.; Нас.); параўн. укр. *пень*, рус. *пень*, польск. *pień*, н.- і в.-луж. *pjeńk*, чэш., славац. *peň*, славен. *pę̑nj*, *pȃnj*, серб.-харв. *пȃњ*, макед. *пен*, балг. *пън*. Прасл. **pьn'ь*, роднаснае з літ. *pìnas* 'галіна', ст.-інд. *pínāka-* 'кій', ст.-грэч. πῖναξ 'бервяно, дошка', ст.-в.-ням. *witu-vîna*, ст.-н.-ням. *vîne* 'куча дроў' (Фасмер, 3, 233; Бязлай, 3, 7—8; Махэк$_2$, 443; Покарны, 830).

**Пéня**$_1$ 'гарачы, запальчывы чалавек' (ТС), *пеня́цца* 'крыўдзіцца' (чач., Мат. Гом.), *пеня́ць* 'скардзіцца' (лудз., Сл. ПЗБ). Укр. *пеня́* 'напасць, бяда; прыдзірлівы чалавек', *пеня́ти* 'наракаць'; рус. *пéня, пеня́* 'дакор, нараканне', *пеня́ться* 'крыўдзіцца, наракаць'; ст.-рус. *пеня* 'вымова, дакор, папрок', *пеняти* 'скардзіцца'; польск. *pienia, pieniacz, pieniaka* 'суцяга, зваднік', *pieniać się* 'зваднічаць', чэш. *pěnivý* 'ўзбуджальны', *pěniti* 'кіпець (пра кроў, жоўць)', 'шалець, лютаваць', в.-луж. *pěnić so* 'тс', славен. *pę́niti se* 'злавацца на каго-небудзь'. Да прасл. **pěna*, гл. *пéна*. Утварылася пры дапамозе суф. **-ja*, які наслаіўся на асноўнае **-n-a* > **n'a*, параўн. **ton'a* (< *topn'a*) — *tonǫti*, *соня* < *sopn'a* — *sъpati*. Семантыка лексемы стаіць бліжэй да зах.-слав. (уключаючы і славен.), а *пеня́ць* — да рус. моўнай тэрыторыі, хаця ў ст.-рус. мове *пеня* — 'спрэчка, судовая справа', таму можна меркаваць, што гэтае значэнне — адно са старажытных, з якога пазней развілася сема 'пакаранне, штраф'. Фасмер (3, 233) мяркуе, што апошняе прыйшло з польск. мовы. Булыка (Лекс. запазыч., 84) таксама мяркуе, што ст.-бел. *пеня* 'пеня' (1392 г.) паходзіць са ст.-польск. *pena* (якое з XVI ст.) < лац. *poena* 'пакаранне; штраф; пакуты'. Можна, аднак, дапусціць, што гэтае падабенства лац. і слав. лексем — вынік больш ранніх генетычных сувязей.

**Пéня₂**, *пéна* 'штраф' (ТСБМ, Гарэц., Шат.), *пéнія* 'пеня' (Юрч. СНЛ). Да *пéня₁* (гл.).

**Пенязі** (гіст.), ст.-бел. *пенези* 'грошы' (Жыв. НС), *пéнязь* 'дробная манета ў Польшчы ў XI—XIII стст.' (Гарб.), укр. *пéнязь* 'шэлег, паўгроша', польск. *pieniądz*, н.-луж. *péńez*, в.-луж. *pjenjez(e)*, чэш. *peníz*, славац. *peniaz* 'манета', славен. *pȇnez* 'тс', серб.-харв. *pjȅnez*, *pȉnezi* 'грошы', балг. *пéнез* 'манета для маніста', ст.-слав. пѣнѧзь 'дынарый'. Прасл. **pěnędzь* — запазычанне (пасля VIII ст. н. э.) са ст.-в.-ням. *pfenni(n)g, pfending* '(сярэбраная) манета' < лац. *pannus* 'кавалак, штука тавару' < і.-е. **pan-* 'кавалак палатна', **(s)pen-* 'прасці'. Наяўнасць *-ě-* замест *-e-* Мее (Études, 184) тлумачыць як падаўжэнне — кампенсацыя *nn-* > *n*. Іншыя версіі гл. Фасмер (233—234), Бязлай (3, 24), Махэк₂ (443).

**Пéнязь** 'скура ад падпяткаў ботаў ці чаравікаў' (Нас.). Няясна. Гл. *пяня́га* 'кавалак скуры'.

**Пепін**: *пéпін шафранны* 'сорт яблыкаў' (Сцяшк. Сл.), *пéпінка* 'шафран' (люб., жлоб., жытк., КЭС, ТС), *пэпінка, піпен-шафран* 'тс' (Мат. Гом.), люб. *пéпанка*, укр. *пéпін* 'сорт яблыкаў', рус. *пéпин шафрáнный* 'сорт яблыкаў, выведзены Мічурыным'. Ад франц. *pépin* 'зернейка, семачка'; гл. таксама *шафрáн*.

**Пéплецца** 'паволі рабіць', *пéпліць* 'марудзіць' (ТС). Магчыма, балтызм, гл. Санько (Kryuja, 1996, 1, 91), які параўноўвае з літ. *pëpis* 'вялы чалавек', *pépti* 'слабець, чэзнуць', параўн. таксама літ. *pëplinėti, pẽpinėti, pẽpinti* 'нязграбна, нехлямяжа хадзіць, разявіўшы рот', аднак геаграфія сведчыць, хутчэй, пра гукапераймальны ці імітатыўны характар слова, параўн. балг. *пъ́пля* 'паўзці, марудзіць' і пад.

**Пер** (*пэрь*) 'пярга' (ельск., Анох.). Відаць, з *перг* < *пяргá* ці з *перв'* < *пэрвá* (нараўл.) 'тс' пры ад'ідэацыі да *пéрвы(й).* Параўн. аналагічна рус. *пéрша* 'перхаць' — *першь* 'тс' (Даль, 3, 33).

**Пера-** — прыстаўка дзеясловаў і іх вытворных з шырокай семантыкай (накіраванасць, паўтарэнне, паслядоўнасць, дасягненне выніку дзеяння і пад.): *пераслаць, перабіць, перакласці, перачакаць* і г. д. (ТСБМ). У якасці дзеяслоўнай прыстаўкі (якая з прасл. **per-*) пашырана ў адпаведных формах (> *prě-/ pre-/ pere-*) па ўсёй слав. тэрыторыі ў асноўным значэнні 'праз'. У асоб-

ных дыялектах (мовах) ужываецца ў значэнні ‘перад’: ст.-слав. прѣдѣдъ ‘продак’, макед. *прededо, пребаба*, ст.-чэш. *přiemluva* ‘ўступ’, славац. *priedomie* ‘дворык перад хатай, домам’. Шырока прадстаўленыя і іншыя значэнні дзеяслоўнай прыстаўкі: ‘на другі бок’, ‘перарваць’, ‘перашкаджаць’, ‘зрабіць нанава, зноў’ і інш. У назоўнікаў гэтая прыстаўка свайго значэння не мае. У прыметнікаў і прыслоўяў выступае ва ўзмацняльнай функцыі: ст.-слав. прѣбогатъ ‘вельмі багаты’, прѣвеликъ ‘вельмі вялікі’ і мае найбольш дакладныя і.-е. паралелі: літ. *per-dìdelis* альбо *per dìdelis* ‘тс’, *permãžas* ‘вельмі малы’, лац. *peramārus* ‘вельмі горкі, жудасны’, *per-bene* ‘вельмі добра, цудоўна’, ст.-грэч. (часціца) περ ‘вельмі’, πέρι і περί ‘тс’ (περικαλλής ‘цудоўны’), ст.-інд. *pari-prī* ‘вельмі мілы’. У асноўным значэнні ‘праз’ прасл. прэфіксу **per* адпавядаюць: літ. *per-*, дыял. *par-*, лат. *pār-*, авест. *pairi*, гальск. *eri* (ст.-ірл. ‘з, для, з-за’), гоц. *fair-* (ням. *ver-*), алб. *për*. Прыстаўка *per-* узыходзіць да прыназоўніка **per*, які разам з **pro* і **pri* ўваходзіць у і.-е. групу прыназоўнікаў **p-r-*, развіццё якіх паралельнае ў і.-е. мовах: гоц. *fair-/ faúr/ fra-* адпавядае ст.-грэч. περί, παρά, πρό, ст.-інд. *pári, purā, prā-*, авест. *pairi, para-, fra-*, лац. *per, per- (por-), pro*, ст.-ірл. *er-* і *ro-*. У аснове ўсіх іх ляжыць значэнне ‘пранікание праз што-небудзь’ і ‘да чаго-небудзь’ ці ‘каля чаго-небудзь’ (Вальдэ — Гофман, 2, 283; Мее, Études, 155; Фасмер, 3, 236; ESSJ, 1, 162—169).

**Перабабіць** (*перэбабіць*) ‘прыняць дзіцё ад парадзіхі’ (Кос.). Да *бáбіць* (гл.) ‘рэзаць пупавіну’ (< прасл. **babiti* ‘дапамагаць парадзісе ў час родаў’), семантыка якога зацямнілася, таму ўжыта прыстаўка *пера-* з *пераразаць* (пупавіну).

**Перабагáціць** ‘усыпаць больш, чым трэба’ (брагін., Шатал.). Да *пера-* і *багáта* ‘шмат’ < *багáты* (гл.).

**Перабáвіць**₁ ‘пераадольваючы цяжкасці, пераправіць каго-небудзь, што-небудзь у іншае месца; перавезці (сена праз раку)’ (ТСБМ, Янк. 3; навагр., Шн.), сюды ж *перабáўка* ‘пераправа, перавоз’ (Гарэц., Яруш.). Да *пера-* і *бáвіць* — *бáвіцца₁* (гл.). Семантыка лексемы найбліжэй да чэш. мар. *baviti se* ‘дарэмна затрымлівацца з-за нейкай перашкоды’ і рус. разан. *бавиться* ‘з цяжкасцю абыходзіцца’ і, магчыма, ст.-слав. бавити ‘выратаваць’.

**Перабáвіць**$_2$ 'прыклікаць, паклікаць' (навагр., Дзмітр.). Відаць, з *прывабіць* < *вáба* (гл.).

**Перабажáцца** 'перастаць моцна хацець' (Нас.). Да *пера-* і *бажáць* 'моцна прасіць' (гл.).

**Перабалэ́хтаць** 'перабоўтаць' (карэліц., Жыв. сл.). Да *пера-* (гл.) і *балэ́хтаць*, якое з гукаперайманне *балэх!* 'бух', узмоцненага суфіксам *-т-* (< прасл. **-ъt-*) , як у *кудахтаць* і *кудакаць*.

**Перабахтýрываць** 'пераліваць праз край, наліваць звыш меры' (Нас.). Да *пера-* (гл.) і *бухторыць* 'праз меру ліць вадкасць', 'празмерна піць (гарэлку)', якое ад прасл. **buxъtěti* < **buxati* < **bux!* пры дапамозе суф. *-or-* са значэннем паўтаральнасці дзеяння (узнікшага, магчыма, пад уплывам **vъtorъ* 'другі').

**Перабéлуха** (*пырыбілуха)* 'акуратная жанчына' (іван., Нар. лекс.). З $^+$*prěběluxa*, у якім прыстаўка *prě-* мае ўзмацняльнае значэнне, а *běl-ux-a* азначае 'тая, якая адрозніваецца беллю, чысцінёй ' < **bělъ* > *бéлы* (гл.).

**Перабéрыць** 'замучыць' у сказе: *Гэта боль пераберыць мяне* (мядз., Жыв. сл.). Да *пера-* (гл.) і $^+$*бéрыць*, якое, відаць, генетычна суадносіцца з *бароць* (гл.). Аб пераходзе *о* > *е* па нявытлумачаных прычынах гл. Карскі, 1, 154—158.

**Перабілíндаваць** (неадабр.) 'перагаварыць аб усім' (воран., Сцяшк. Сл.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *bylà* 'размова', 'маўленне'. Магчыма, гэта кантамінаванае ўтварэнне ад *bylà* і *bìldinti* 'грукатаць, грукаць', параўн. рус. *натрепáться* 'нагаварыцца', бел. *налягскаць* (языком).

**Перабіндзюгáцца** 'ад гультайства стаць бадзягай' (Нас.). Да *пера-* (гл.) і *біндзюгáцца* 'быць гуляшчым, бадзякай, гультаём', якое ад *біндзюга(йла)* (гл.) < літ. *biñdė* 'гультай', *bìndza* 'гультай, нядбайнік; бадзяка' (Аткупшчыкоў, Лекс. балтызмы, 34—35; Лаўчутэ, Балтизмы, 59). Параўн. таксама *бíндус* 'гультай', *біндзю́к* 'хлапчук — гультай і гарэза', укр. *бинджук* 'гультай, абібок'.

**Перабíра** 'жывёла, якая дрэнна есць корм' (Мат. Гом.), *перэбíра* 'пераборлівы, наравісты, капрызны' (палес., КЭС). Да *перабірáць* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-а* са значэннем 'дзеючая асоба'.

**Перабірáць** 'пластаваць сена; сартаваць; чысціць (кішкі); перабіраць з ядой; выбіраць, перабіраць з дзяўчатамі' (Сл. ПЗБ); 'прыцэньвацца, таргавацца; гаварыць лішняе; нанава вязаць сві-

тэр' (ЖНС), *пірабіра́іць* (вушамі) 'стрыжэ (аб кані)' (сен., ЛА, 1), *перабіра́ць* 'патрашыць рыбу' (лаг., глыб., там жа). Прасл. **per-birati* са значэннем шматразовага дзеяння, утворанае ад **per-bьrati*. Да *пера-* і *браць* (гл.). Сюды ж *перабіраны* 'сабраны ў фалды', *перабіра́нец* 'даматканы ручнік', *перабіра́чка* 'дзяруга, вытканая асаблівым, складаным спосабам' (ЖНС), *перабірысты* 'від дывана, які ткаўся спосабам перабору рознакаляровых нітак' (Скарбы); *перабіра́нка, перэбіра́нка* 'посцілка, вытканая перабіраным спосабам (у 4—6—8 нічальніц), саматканы дыван' (маладз., Янк. Мат.; Сл. ПЗБ, ТС; жытк., Мат. Гом.; З нар. сл.; валож., Жыв. сл.; глус., Мат. Маг., Сцяшк. Сл.), 'пласт сена' (Юрч.); *пераборы* 'падрыхтоўка да ткацтва' (мсцісл., Жыв. сл.), *піра́біра́ньне* 'нарад, падрыхтоўка да ткацтва': *перва ныря́д здзёлыюць, а тады ткуць* (мсцісл., Жыв. сл.); *пірабіра́ньніца* 'жанчына, якая нараджае, г. зн. рыхтуе кросны да ткацтва' (там жа); *пірябіркі* 'рэшткі пасля неаднаразовага перабірання' (Юрч. СНС), *перабірка* 'рэшткі, адыходы' (Скарбы), астрав. *перабіранка* 'адабраная для пасадкі бульба', *перабіра́нік* 'саматканы дыван, вытканы ніткамі аднаго колеру на чорнай ці белай аснове' (Сл. рэг. лекс.). Паводле Грынавяцкене і інш. (SOr, 39, 317), *перабіранкі* 'даматканыя пасцілкі з узорамі' калькуе літ. *rinktíniai* 'тс', што цяжка давесці, хутчэй наадварот.

**Перабі́тка** 'старое рэчышча ракі' (Скарбы). Фармальна — да *пера-* і *біць* (гл.), аднак цяжкасці выклікае семантыка: 'перабітая рака' (?). Параўн. наступнае слова.

**Перабі́ўка** 'тонкая перагародка ў жылым памяшканні' (Жд. 1). Паводле Чэкмана (Baltistica 8(2), 149), адлюстроўвае ўплыў літ. *pértmušti* 'перагарадзіць' (< *mùšti* 'біць, дзяліць'), што няпэўна. Параўн. *перабойка* (гл.).

**Пераблагава́ць** 'пакінуць зямлю пад аблогу' (Ян.). Да *пера-* і *аблогаваць* 'зарастаць дзірваном, знаходзіцца ў запушчаным стане' < *аблог* (гл.).

**Пераблёхацца** 'перабоўтацца' (Ян.). Да *пера-* (гл.) і *блёхацца*, якое ўтварылася ў выніку кантамінацыі слоў *боўтацца* і *плёхацца* (гл.).

**Пераблукуня́цца** 'паблукаць, пашвэндацца' (Нас.), *пірі-блукуня́ць, піріблутуня́цца* 'праблукаць' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *блукуня́цца* 'блудзіць, швэндацца', якое да *блука́ць* (гл.);

суфікс *-ун-я-*, у якім *-у-* ўзнікла ў выніку прыпадабнення; генетычна суадносіцца з літ. *–inė'-* параўн. *dramblinėti, blinkinėti, blydinėti, klaikinėti* 'сноўдацца, блукаць'.

**Перабóй₁** 'падарункі ад кумоў у час хрысцін' (ТС). Да *пера-* і *біць* (гл.) — у час хрысцін разбіваюць гаршчок з бабінай кашай, і бабка-павітуха атрымоўвае падарунак.

**Перабóй₂** 'светаяннік, Hypericum perforatum L.' (чач., ЛА, 1). Фармальна да *пера-* і *біць* (гл.). Аднак, параўнаўшы іншыя назвы расліны, можна дапусціць, што *перабой* — таксама відазмененая назва *зверабой* 'тс', як *сверабой, верабой, зварабой, варэбой* (там жа).

**Перабóйка** 'перагародка ў кватэры' (віл., в.-дзв., Сл. ПЗБ; Ян.), *пірябойка, перабойка* 'тс' (віц., леп., ЛА, 4), рус. *перебойка* 'дашчаная перагародка ў хаце', серб.-харв. *прȅбој* 'перагародка'. Да *пера-* і *біць* 'дзяліць'. Параўн. лат. *šķērssiena* 'перагародка', першая частка якога звязваецца са словам *šķērēt* 'рэзаць'.

**Перабóр₁** *пярабор, перабір, пярэбір, пярэбірак, пяр́эбірка* 'пласт сена' (ЛА, 2). Да *пера-* і *біраць* 'складваць сена пластамі' (гл.), што адлюстроўвае зграбанне сена граблямі да ног.

**Перабóр₂** 'адтуліна ў жалейцы' (брагін., Мат. Гом.), сюды ж віц. *pirabór*, якое Машынскі параўноўвае з харв. далмацінск. *prebirač*, луж. *přeberawa*, польск. позн. *przebierka* 'пішчалка ў дудзе' (Машынскі, Atlas, 3). Ад *перабіра́ць* (пальцамі) — у выніку пераносу значэння 'перабіранне' > 'адтуліна'.

**Перабора₁** (*перэбóра)* 'зяць-прымак' (ТС). Утворана пры дапамозе суф. м. р. nomen agentis *-а* (<**-а*) ад *перабірацца* (у хату жонкі). Да *пера-* і *браць* (гл.).

**Перабóра₂** 'рознакаляровы пояс' (хойн., Мат. Гом.). Да *перабіраць* (гл.). Суф. *-а* (ж. р.), як у *перабіранка* (гл.).

**Пераборка** (*піраборка*) 'дашчаная перагародка ў хаце; канявая сцяна' (бялын., докш., Янк. Мат.; Сцяшк. Сл.; Яруш.; Др.-Падб.; Гарэц.; рас., Шатал.; барыс., шуміл., кругл., ЛА, 4). Да *пера-* і *браць* (гл.) у значэнні 'аддзяляць частку' (ТСБМ). Параўн. *заборка* 'тс' (рас., Янк. Мат.), рус. дыял. *перебира́ть* 'перагароджваць', *переборка* 'перагародка'.

**Перабукáцца** (*пырыбукáтыся*) 'перакуліцца' (малар., Нар. лекс.), *пірябу́кыцца* 'пабіцца (пра бараноў)' (Юрч. СНЛ). Да *пера-*

і *букáць* (гл.). Звычайна апошнюю лексему адносяць да гукапераймальных (Фасмер, 1, 236; Трубачоў, Эт. сл., 3, 88; ЕСУМ, 1, 285 і інш.). У разгледзеным слове адбыўся перанос семантыкі: 'біцца лбамі' > 'біцца' > (і — як вынік) 'перакульвацца'.

**Перабунтавáць** 'перабіць размову' (Гарэц.), 'пераблытаць, збіць з ліку, перашкодзіць' (Юрч. Нас.), *пірібунтóвывыць* 'пераблытваць', 'перашкаджаць' (Юрч. СНЛ), 'зрабіць мутным' (Нас.). Да *пера-* і *бунт₁* (гл.).

**Перабуры́ць** 'перастаць моцна, з вялікай сілай дзьмуць (пра вецер)' (ТС). Да *пера-* і *буры́ць, бýра* (гл.). Апошняе да прасл. **buriti (sę)* < і.-е. **bheu̯-*. Параўнаўшы з паралельнай прасл. парай **buna* — **buniti* (з блізкімі значэннямі), можна бачыць што *-r-* у *bur'a* — суфіксальнае (Трубачоў, Эт. сл., 3, 95—96 і 98—99).

**Перабуты́рыць** 'пераліць праз верх сасуда' (Шпіл.), *пірібухтóрівыньня* 'пераліванне без патрэбы' (Юрч. СНЛ), смал. *перебухтáривать, перебухтóривать, перебуты́рить* 'тс'. Да *пера-* і *бухторыць* 'празмерна ліць вадкасць', 'непамерна многа піць (гарэлку, ваду)', якое з прасл. інтэнсіва *buxъtati (sę)* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 3, 81), пашыранага суфіксам *-or-* (як, напр., рус. *тараторить*). Да гукапераймальнага *bux-ati* > *бýхаць* (гл.). Мена *-óр-* > *-ы́р-* — вынік экспрэсіі. Параўн. бел. паўд.-зах. *уды́рыць* < *ударыць*.

**Перабушмáчванне** (*пірібушмáчывыньня*) 'пусты пераказ' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і ⁺*бушмáчыць* — экспрэсіўнага ўтварэння з суф. *-ма(к/ч)*, магчыма, першапачаткова ў выразе *бушма бушаваць*, як *крычма крычаць*, *лежма ляжаць* і пад., тады да *бушавáць* (гл.).

***Перабэ́ндзаваць**, *пырыбэ́ндзюваты, пырибэ́ндзôватэ* 'гультаяваць, забаўляцца, нічога не рабіць, дарэмна праводзіць час' (драг., Клім., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *пэрэбэ́ньдювати* 'перабіраць, капрызіць' (Бес.), *пырыбэндзюватэ* 'перабіраць у ежы' (кобр., Нар. лекс.). Укр. *перебéндювати* 'капрызіць', 'балбатаць', *перебéндя, перебéндюха* 'пустамеля, пераборлівы, капрызная', *перебéнда* 'жарт, балаканне, балбатня'. Арэальнае ўтварэнне ад формы 3 ас. адз. л. польск. дзеяслова *przebyć* 'правесці час' — *przebędzie* > *перебендя* (як *прыдзіра, гуляка, мурза, непаседа* і інш.) з заменай прыстаўкі на *пера-*.

**Перабэ́чыцца** 'схіліцца на бок', *перабэчыць* 'схіліць на бок, наставіць (напр., жывот)' (Скарбы). Да *пера-* і *бок* (гл.), параўн.

чаргаванне *крок/крэч* ‘крык’ і пад., паралельнае да польск. дыял. *znewu* ‘znowu’, *depire* ‘dopiero’ (Клемянсевіч, Gr., 96).

**Перабязу́ліцца** ‘надурэцца, насваволіцца’ (Нас.). Да *пера-* (гл.) і *бязу́ліцца, бязу́ліць* ‘гарэзаваць, дурэць, дурыцца, непрыстойна паводзіць сябе’, *бязу́льны* ‘шалапутны’, *бязу́ля* ‘гарэзлівы’, гл. *бязула.*

**Перава́га** ‘асаблівасць, якая выгадна адрознівае адно ад аднаго’ (ТСБМ, Гарэц., Нас.), сюды ж *у перавагу* — гульня (гродз., Нар. словатв.). Ст.-бел. *превага* (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *przewaga* ‘кошт, затраты, перамога’. У выглядзе *перавага* афармілася, відаць, пазней; формы з *пера-* зафіксаваны толькі ў вытворных: *переваженье*, *переважити(ся), переважоный* (Булыка, Запазыч., 54). Гл. таксама *вага́.* Сюды ж *перaважсыць, пераважны* і інш.

**Пераво́дзіць** ‘пасварыць усіх, пасеяць разлад, нязгоду’ (Др.-Падб.). Да *пера-* (гл.) і *вадзіц₁* ‘шкодзіць’ (гл.).

**Перава́жаваць** ‘навязваць (карову) у іншым месцы’, *пераважа́ць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *pérvedžioti* ‘пераводзіць’.

**Перава́л**: *перава́ламі* (*ісці*) (аб дажджы) ‘з перапынкамі’ (чэрв., Нар. лекс., ЛА, 2). Да *пера-* і *валіць* (гл.). Параўн. паралельныя рус. валаг., перм. *перева́ла* ‘чорная, дажджавая хмара, якая раптоўна набягае, і з яе ідзе кароткачасовы дождж’, ст.-польск. *przewał* ‘дождж’, у якіх захоўваецца старажытная семантыка ‘падаць, ісці (пра дождж)’, параўн. балг. *вали́* ‘падае дождж’.

**Перавала́кванне** (*пірівыла́кывыньня*) ‘перабудова’ (Юрч. СНЛ). Да *валачы́ць* (гл.) у старым тэрміналагічным будаўнічым значэнні, параўн. *на́валак* ‘паверх’ (гл.), *сво́лак, су́валак* ‘кладзь, якая служыла апорай страхі на сохах’ і пад.

**Перавалачы́** ‘сцебануць, ударыць’ (слонім., Нар. словатв.). Відаць, з польск. *przewlec* ‘перацягнуць’ пры ад’ідэацыі бел. *перацягну́ць* ‘сцебануць’.

**Перавалачы́ць** (*переволочы́ць)* ‘апрацаваць (грады)’ (хойн., Мат. Гом.), сюды ж *піравалака́ць* ‘пасеяную і забаранаваную збажыну пераяжджаць бараной уздоўж загонаў’ (Варл.). Да *пера-* і *валачы́ць* са старым значэннем ‘рыхліць (зямлю)’, з якім слова ўжывалася ў больш старажытныя часы, калі замест сахі

або бараны выкарыстоўвалася *вершаліна* 'верхняя частка яліны з завостранымі сукамі'.

**Перава́лка** 'перагрузка (тавараў) на іншыя вазы' (Нас., Яруш.; ТСБМ). З рус. *перева́лка* 'перанясенне (груза) з аднаго месца на іншае', якое з *перевали́ть* 'перакінуць, перанесці, перасунуць', параўн. адаптаванае *перавало́ка* 'тс' (Гарэц., Др.-Падб.), да *пера-* і *валачы* (гл.).

**Перава́лкі**, *перэва́лкі* 'канаплянае валакно, непрыгоднае на прадзіва' (ельск., Уладз.; в.-дзв., Шатал.). Да *пера-* і *вал*$_5$ 'тоўстая пража' (гл.). Слова незвычайнае тым, што дзеяслоўная прыстаўка *пера-* далучаецца да назоўніка *вал* 'адыходы пры трапанні льну: грубае пачассе, ільнавалакно, куча кастрыцы' і 'тоўстае палатно з гэтага валакна, грубая пража' (Сцяшк. МГ; Шн. 3; Янк. 2; гродз., ваўкав., беласт., Сл. ПЗБ).

**Паравалока** 'затрымка, замаруджванне' (Нас.). Афармленае па-беларуску рус. *проволо́чка* 'тс'.

**Перава́льны** (стоўп) 'указальны слуп для арыентацыі на рацэ' (гродз., Нар. сл.). Да *перавaліць* 'прайсці пэўную мяжу', што з *пера-* і *валіць*$_1$ (гл.), тут у значэнні 'пераарыентавацца з аднаго знаку на іншы', параўн. рус. дыял. *перева́л* (у рацэ) 'парог', *перевал во́ды* 'паварот плыні'.

**Паравaро́т** 'рэзкі паварот, змены ў развіцці, ходзе чаго-небудзь' (Яруш., ТСБМ), 'заварот кішок' (даўг., Сл. ПЗБ; петрык., Мат. Гом.). Да прасл. **per-vortъ*, якое з **per-vortiti* 'перавярнуць': ст.-рус. *переворотити* 'павярнуць у іншы бок; даць справе іншы ход', польск. *przewrócić* 'перакінуць; перавярнуць, папераварочваць', ст.-чэш. *přěvrátiti* 'перавярнуць, знішчыць, звесці, змяніць, падавіць', серб.-харв. *преврȃтити* 'перавярнуць', славен. *prevráčati* 'перакідваць, пераварочваць, перакульвацца', балг. *превръщам* 'пераўтвараць, пераварочваць, перарабляць', ст.-слав. прѣвратити 'пераўтварыць'; параўн. лац. *pervertere* 'перакульваць, псаваць, перакручваць, скажаць', гоц. *frawardjan* 'псаваць', ст.-в.-ням. *farwarttan*, *far-werten*, ст.-англ. *for-weorþan*, ст.-сакс. *far-werđan* 'знікаць', 'псавацца' — словаўтваральна-семантычны паралелізм. З іншых і.-е. адпаведнікаў прасл. **vьrtiti* < **vertiti* (якое не захавалася) можна адзначыць ст.-інд. *vartatē*, літ. *ver̃sti* 'пераварочваць, перакульваць, пераўтвараць адно ў іншае' (Трубачоў, Проспект, 71). Лексема *паравaрот* 'гвалтоўная змена

манарха' (ТСБМ) — калька (XVIII ст.) з франц. *révolution* 'тс' < лац. *revolūtio* 'адкат, кругаварот' — праз польск. ці рус. мовы (Фасмер, 3, 236). Сюды ж *піраваро́тнік* 'чалавек, што добраахвотна ці па прымусу прыняў іншую веру' (Варл.).

**Параваршы́ны** 'частка току' (Мат. I дыял. канф., 71). Узнікла ў выніку кантамінацыі слоў *пера-гародка* і паўд.-бел. *вары́на, вор'е* 'жэрдкі ў плоце; кол у штакетніку'.

**Паравашава́ць** 'перакапаць' (трак., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *вашава́ць* 'глыбока рыць, капаць' (гл.), якое да літ. *vašúoti* 'рваць крукам' < *vą̃šas* 'крук' (параўн. палес. *клю́чка* 'прылада для капання бульбы').

**Параве́д** 'адведзіны маці дачкі, якая нядаўна выйшла замуж' (Федар.), укр. *перевідувати* 'наведваць', *перевідуватися* 'тс'. З польск. мовы, параўн. *przewiadywać się* 'даведвацца, дазнавацца'.

**Пе́равезень** (*пе́ревезень, пе́рівізінь)* 'перавясла' (Бяльк.), *пе́рвязень* 'тс' (Юрч.). Да *пера-* і *вяза́ць* (гл.); суфікс *-ень* (< прасл. **-enь*) надае значэнне прадмета дзеяння (Сцяцко, Афікс. наз., 38); новае ўтварэнне замест *перавя́сла* (гл.).

**Параве́зці** 'перавезці, даставіць што-небудзь транспартам на іншае месца' (ТСБМ), укр. *перевезти́*, рус., ст.-рус. *перевезти́* 'тс', польск. *przewieźć* 'паравязці, правезці', н.-луж. *pśewjaść* 'перавезці, перавесці', в.-луж. *přewjezć* 'пераязджаць, перавезці (побач)', чэш. *převézt* 'перавезці', славац. *previezt'* 'тс', славен. *prevésti* 'перавесці', серб.-харв. *прѐвести* 'перавезці', 'перавесці', балг. *превозя* 'перавезці', ст.-слав. прѣвести 'перавезці'. Прасл. **pervezti*, якое можна супаставіць з паралельным утварэннем лац. *per-vehĕre* 'правозіць, перавозіць' (Трубачоў, Праспект, 70). Да *пера-* і *везці* (гл.).

**Параве́рзці** 'сказаць, няправільна расказаць' (Яруш.; Нас.), *параве́рзць, паравярза́ць* 'у перакручаным выглядзе перадаваць што-небудзь' (Растарг.). Да *пера-* і *вярзці́* (гл.).

**Параве́рцень** 'пярэварацень; ваўкалак' (Шн. 3; Скарбы), рус. кур., варонеж. *переве́ртень* 'той, хто перайшоў у іншую веру; які часта мяняе свае планы, намеры; ваўкалак', чэш. *převrácenec* 'вераадступнік'. Да *пера-* і *вярце́ць* (гл.), якое з прасл. **vьrt-ěti* (з аслабленай асновай з *-ь-*); суфікс *-ень* надае слову экспрэсіўны характар. Параўн. *пярэ́вярцень* (гл.).

**Пераве́с** ‘вага ў студні з жураўлём’ (горац., ДАБМ, камент., 809), ‘лішак’ (Сл. ПЗБ) — утварэнні ад *пераве́сіць*, якое да *пера-* і *ве́сіць — вісе́ць* (гл.) у выніку семантычнага пераходу ‘перавага’ > ‘вага ў студні’, ‘перавага’ > ‘лішак’.

**Пераве́сці** ‘знішчыць, вывесці’ (ТСБМ), ‘разбіць, згубіць’ (капыл., Жыв. сл.), *перавóдзіцца* ‘знішчацца’ (Некр.), *пірявó-дзіцца* ‘худнець, мізарнець’ (Юрч. СНЛ). Да *пера-* і *ве́сці* (гл.) у выніку семантычнага пераносу ‘змяніць характар існавання’ > ‘марна расходаваць, знішчыць’.

**Перавет** (гіст.), ст.-бел. смаленска-полацкае *перевѣтъ* ‘данос, здрада’, паўн.-зах. стараж.-рус. *перевѣтъ* ‘тайныя перагаворы; здрада’, *перевѣтникъ* ‘здраднік’ (Філін, Происх., 578). Да *пера-* (гл.) *-вет* (параўн. стараж.-рус. *вѣтъ* ‘рада; дагавор’), роднаснага з літ. *vaitenù* ‘мяркую, абмяркоўваю’, ст.-прус. *waitiātai* ‘мы гаворым’, авест. *vaēϑa* ‘судовае заключэнне’ (Фасмер, 1, 305).

**Перавóд₁** ‘соламя — падоўжная бэлька, якая кладзецца на сохі; доўгае тонкае бервяно, на якое кладуць прымітыўныя кроквы — крукі’ (б.-каш., ЛА, 4; Касп.), ‘бэлька ў столі’ (паўн.-усх., Бломкв.), ‘бервяно ў апошнім вянку зруба над бэлькамі’ (Мат. Маг.), *піряводзіна, пераводзіна, пераводзень* ‘вага ў студні з жураўлём’ (сен., рэч., ДАБМ, камент., 809), ‘верхняя перакладзіна ў ткацкім варштаце, якая змацоўвае яго’ (Касп.). Стараж.-рус. *прѣводъ, превод* ‘скляпенне’, *перевод* (1230 г.), ст.-рус. *переводина* (1696 г.) ‘перавод’, рус. паўн. *перево́д, перево́дина, перево́день, перево́док* ‘бэлька — апора падлогі ці столі; перавод’. Да *пера-* і *ве́сці* (гл.), хаця матывацыя наймення застаецца няяснай. Параўн. тлумачэнне лексемы *переводина* — бэлька ў крытым двары, “якую можна пераводзіць, перакідваць” — ? (СРНГ, 26, 53).

**Перавóд₂** ‘знішчэнне, смерць’, *перавóдная* ‘знішчальная сіла’ (Нас.). Да *пераве́сці* (гл.). Параўн. рус. бранск., арл. *перевести́* ‘пахаваць каго-небудзь са звонам’, яраслаў. ‘пашкодзіць’.

**Перавóды₁** ‘плёткі, што жанчыны пераносяць з хаты ў хату’ (Нас.), параўн. рус. смал. *перавóдки*, пск. *перевóдни,* арханг., цвяр. *перевóды* ‘тс’. З *пера-* і *вод-< вадзі́ць, ве́сці* (гл.). Параўн. яшчэ бел. *зводы* ‘плёткі’ і рус. *переводить вести* ‘нагаворваць’.

**Перавóды₂** (*перэвóды), перэвóдзіны* ‘адно з вясельных застолляў (пасля вяселля)’ (ТС). Польск. *przewodziny* ‘перыяд вяселля, калі малады забірае сваю жонку дамоў’, рус. *отвóды* ‘тс’.

Да *пера-* і *весці* (гл.) — яшчэ ў недалёкім мінулым маладая перабіралася ў дом маладога пешшу, — як правіла, маладыя былі з аднае ці з блізкае вёскі.

**Перавóдых** ‘перадышка’ (брагін., Мат. Гом.) — у выніку кантамінацыі лексем *перадых* (там жа) і рус. *óтдых*.

**Паравóй** (*пэрэвуой*), *перевóіна* ‘тс’ (драг., ЛА, 4) ‘лазовыя прывязкі саломы да пераплёту страхі’ (малар., Нікан.), *перавоіна* ‘вітка’ (рэч., ЛА, 4), *пэрэвыныи* ‘тс’ (Шушк.), *пэрэвэ́йнікі* ‘галінкі хмызняку, якімі перавіваюць калкі плота’ (лун., Шатал.). Укр. *перевíк* ‘распараныя галіны дрэў, якімі звязваюцца бярвенні’, валын. *перевíй* ‘дышаль у плузе’, *перевíйнык* ‘апоўзіны на стозе’, рус. дыял. *перевóй* ‘пераплёт, буча з галін’, *перевóйка* ‘пярэвітка’, польск. *przewój* ‘перавітка, абвіванне’, серб.-харв. *прéвој* ‘павязка, перавязка, бінт’, славен. *prevòj* ‘пасма валасоў; маток пражы’. Магчыма, прасл. **pervojь*. Да *пера-* і *віць* (аснова **voi-*), параўн. з іншым вакалізмам *перавіў* ‘пярэвітка’ (мсцісл., ЛА, 4) (гл.). Сюды ж *перавіўкі* ‘вітка’ (ЛА, 4), *перявíўкі*, *перавíўкі*, *пірявíўкі* ‘пярэвітка’ (там жа).

**Паравóрка** (*перэóрка*) ‘разора, якая дзеліць поле на два ўчасткі’ (гом., Выг.). Да прасл. **per-vor-ъka*, параўн. ц.-слав. *прѣвора* ‘агароджа, вароты’, польск. *przeoryna* ‘загароджа, перагародка ў хляве для аднаго каня’, чэш. *závora* ‘завала, засаўка; жардзіна, перагародка (у хляве)’, славен. *prévor* ‘сцежка на снезе; канава ўздоўж дарогі на пад’ём’, харв. *prijèvor* ‘сцежка паміж двума ўзгоркамі’, *privorac* ‘даліна паміж узгоркамі’. Другая ступень чаргавання прасл. **ver-/ *vьr-/ *vor-*, параўн. бел. *развора*, *вор*$_2$ ‘хлеў’ (гл.). Найбліжэйшы і.-е. адпаведнік — літ. *pérvara*, *per̃vara* ‘перагон скаціны’.

**Паравóратнік** (*пэрэвóротнік*) ‘бурачок камяністы, Alyssum saxatile L. Desv.’ (лельч., Бейл.). Расліна выкарыстоўваецца як лякарства “ад жывата”, магчыма, ад завароту кішак, параўн. *праварот кішок* (Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *варочаць* — *вярцéць* (гл.).

**Перавýзіна** ‘месца, дзе звужаецца возера’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *піравýзьзя* ‘тс’ (ушац., Нар. сл.), рус. дыял. *перéуз* ‘вузкае месца на рацэ’, *перéузина*, *переузúна*, *перéузье* ‘перахват, вузкае месца ракі, ручая, праліва; вузкая паласа лугу, балота’, польск. *przewięź* ‘вузкая палоска зямлі, абмываемая вадою з абодвух бакоў; перашыек; праліў’. Паўночнаславянская ізалекса **per-ǫz-ina*. Да *пера-* і *вýзкі* (гл.).

**Перавýлак** (*перэвýлак)* ‘завулак’ (Растарг.). З рус. *переýлок* ‘тс’. Да *пера-* і *вýліца* (гл.).

**Перавухры́ць** ‘peравучыць; перахітрыць’ (Нас.). Да *пера-* і *вухрыць, вýхарэц* (гл.).

**Перавы́шываць** (*пірявы́шываць*) ‘пераўзыходзіць, быць вышэй за іншага’ (Юрч. СНЛ), укр. *перевищувати*, рус. арх., с.-урал. *перевы́шивать*, н.-луж. *pśewušowaś*, в.-луж. *přewyšować*, чэш. *převyšovati*, славац. *prevyšovat'*, макед. *превишува*, балг. *превишáвам*. Магчыма, яшчэ прасл. **per-vyšovati*. У серб.-харв. мове гэты дзеяслоў утвораны ад *вȉсок* ‘высокі’, таму што *вȉше* азначае ‘больш’.

**Перавэ́рсаць** ‘перагартаць’ (брасл., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *ver̃sti* ‘перагортваць’ (Грынавяцкене, там жа).

**Перавяжыха** ‘дуброўка прамастаячая, Potentilla erecta (L.) Rausch.’ (віц., Кіс.). Відаць, да *перавязáць*: сцябло расліны выглядае нібы перавязанае ў каленцах, адкуль вырастаюць лісты. Да *пера-* і *вязáць* (гл.). Мена *з* > *ж* характэрная для паўн.-зах. Беларусі.

**Перавя́з** ‘нізкі (грыбоў), перавязаныя ў адзін пук’ (Нар. Гом.), *пéравязь* ‘палоска матэрыі, перакінутая цераз плячо, для падтрымання пашкоджанай рукі’ (ТСБМ), *перéвезь* ‘перавясла’ (ЛА, 2), сюды ж *перавя́зіч* ‘рушнік, якім перавязваюць дружкоў маладога’ (добр., Мат. Гом.), *перавя́зіна* ‘вянец зруба над вокнамі і дзвярыма’, *перавя́зьмы* ‘апошнія вянкі зруба’ (Мат. Гом.; ЛА, 4), *перавя́зісты* ‘худы, высокі’ (Сцяшк. Сл.), *перэўя́зісты* ‘тонкі, перацягнуты пасярэдзіне’ (ТС), ‘які з шыяпадобнай перацяжкай (пра жука)’ (шальч., Сл. ПЗБ), — да апошняга параўн. польск. *przewiąz/ przewięz = owad przewięzisty* (як пчала, аса, мурашка). Усе да *перавя́заць* ‘перавязаць’ < прасл. **per-vęzati*, параўн. укр. *перев'язати*, рус. *перевязáть*, польск. *przewiązać*, чэш. *převázati*, славен. *prevézati*, серб.-харв. *превéзати, превезѝвати*.

**Перавярнáць** ‘араць па цаліне’ (калінк., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *вярнáць*, у якім (у суфіксе *-н-*) можна бачыць усх.-балт. рэлікт, параўн. літ. *pérversti, apver̃sti* ‘перавярнуць’ — *apvertinė̃ti, apvartinė̃ti* ‘пераварочваць’; у такім выпадку *перавярнаць* — ‘пераварочваць скібы дзёрну’.

**Паравярце́нь** (*перэверце́нь)* 'заварацень (вяроўка, дрот) у санях для мацавання аглабель' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *паравязаць* і *за́верцень* (гл.).

**Паравясёлка** 'вясёлка' (ДАБМ, к. 312; Ян.), *паравесялу́ха* (кліч., ДАБМ, камент., 902). У выніку кантамінацыі лексем *вясёлка, весялу́ха* 'тс' і *паравя́сла* 'паравясла' > 'пояс', 'каромысла', 'ручка ў вядры'. Параўн. гом. *каро́місел на нёбе* 'вясёлка', а таксама літ. *júosta* 'пояс' і 'вясёлка'.

**Парав́ясла**, *паравéсло, паравёсла, паравясло́, пырывысло́* (і інш. фанетычныя варыянты) 'скрутак саломы, якім пераввязваюць сноп' (Нас., ТСБМ, Сцяшк. Сл., Выг., Шат., Касп., Мат. Гом., Ян., ТС, Сл. Брэс.; ЛА, 2), 'звязка лыка' (слуц., КЭС), 'ручка ў вядры' (Др.-Падб., Гарэц., Касп., Сл. ПЗБ), *пырывысло́, паравя́сло* 'пярэвітка, на якую кладуць жэрдкі ў плоце' (брэсц., слуц., ЛА, 4). Укр. *перéвéсло*, рус. дыял. *перевя́сло* 'перевясла ў снапе; дужка вядра, кошыка; саламяная вяроўка для замацавання саломы на стрэхах'. Паводле Фасмера (3, 236), да *пере-* і *вя́сло* (гл. *пера-* і *вясло́*[1]), якое з прасл. **vęzslo*. Махэк$_2$ (477) выводзіць укр. *перевéсло* з *поверéсло́*, суадносячы яго з прасл. **poverslo < *po-verz-slo*. Гэтаксама Бязлай (3, 98). Аднак дадзеныя Грынчэнкі, узятыя ў Вярхрацкага, на якія спасылаюцца гэтыя аўтары, запісаны на крайнім захадзе ўкр. моўнай тэрыторыі, дзе магчымы ўплыў зах.-слав. моў. З другога боку, на карысць дапушчэння Махэка прамаўляе *-е-* ў складзе *-ве-* лексемы *перéвéсло*, а не *-в'я-* (як у *перев'язати* 'паравязаць'). Для ц.-слав. *повръсло* Трубачоў (Этимология—1972, 40) выводзіць прасл. форму **poverz-slo*. Гэтыя дзве формы з **po-* (зах.- і паўд.-слав.) і **per* (у асноўным, усх.-слав.) суіснуюць у кантамінаваных варыянтах на польскай моўнай тэрыторыі: *powrósło* (замест правільнай, фанетычна законнай формы *powrzosło*) і паўд. *porwósło*, вял.-польск. *prowionsło*, мазав. *prowiąsło*, катавіцка-кракаўскае *przewiosło*, пазн. *powrząsło*, аўгуст. *przewiąsło* (замест *przewiązło*), што дае падставу дапусціць архаічнасць форм **pervę(z)slo, povę(z)slo* і **poverzlo* (Банькоўскі, 2, 730, 739, 918).

**Паравя́ць**, смал. *перевя́ть* 'парваць, перацерці (пра вяроўку, ліну)' (Этимология—1981, 72). Да *пера-* (гл.) і *вять* 'рваць, церці', якое да прасл. **vęti* < і.-е. *u̯en-* 'біць, раніць', гоц. *wunds* 'раніць', англ. *wen* (< прагерм. **wanja*), кімр. *ym-wan* 'біцца, змагацца', карнуэлск. *gwane* 'праколванне', англ.-сакс. *Wenn* 'пухліна', 'гуз

ад удару' і інш. < і.-е. **u̯a-/ *u̯o-/ *u̯ə-*, параўн. лат. *vâts* 'рана', літ. *votìs* 'адкрытая скула, нарыў'. З гэтым дзеясловам са значэннем 'рваць, церці', рус. валаг. *вя́ха* 'куча, бярэмя, ноша', а таксама 'ўдар, аплявуха, грымак, кухталь' (семантыка 'біць') звязваецца бел. полац. *вяхотка*$_2$ (гл.) 'чарада, куча', якое ў ЭСБМ (2, 336) падаецца з паметай "няясна" (Гарачава, Этимология—1981, 72—74).

**Перагаво́рка** 'плётка' (Сцяшк. Сл.) — калька з польск. *przegadka* < *przegadać* 'разводзіць плёткі'. Да *пера-* і *гавары́ць* (гл.), параўн. *абгаворваць* 'пляткарыць'.

**Перагаво́ршчык** 'перакладчык' (Сл. ПЗБ., Мат. Гом., ТС, Скарбы). Ад *перагаво́рваць*, параўн. тураў. *перэговора́ць* 'пераказваць'. Аб суф. *-шчык* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 75.

**Перага́джваць** (*пірігáджываць)* 'псаваць значную колькасць рэчыва, прадметаў' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *гáдзіць*, якое да прасл. **gaditi, gadjǫ* 'рабіць паскудным, гнюсным, брыдкім, агідным' (Махэк$_2$, 154), параўн. укр. *гáдитися* 'гадзіцца, выклікаць агіду', рус. *гáдить*, 'ванітаваць; сварыцца, лаяць', *гáдиться* 'псавацца (аб прадуктах)'; ст.-польск. *żadać się* 'гадзіцца, адчуваць агіду', в.-луж. *žadławić so* 'выклікаць агіду', н.-луж. *žadaś se* 'адчуваць агіду', чэш. *haditi* 'няславіць, ганіць, адракацца', славен. *gaditi* 'прыводзіць да грэбавання', серб.-харв. *га̏дити* 'пэцкаць, апаганьваць', макед. *гади се* 'адчуваць агіду', балг. *гадя* 'пэцкаць, забруджваць, ганьбіць' < і.-е. **gōd-/ *gēd,* параўн. літ. *gė́da* 'сорам', ст.-прус. *gīdan* (В. скл.) 'тс', с.-ням. *quad* 'благі, мярзотны, агідны', с.-в.-ням. *kōt* 'бруд, смецце', ням. *Kot* 'тс' 'кал, памёт' (< **kvōd*), цірольск. *kōt* 'звер, які выклікае агіду'.

**Перага́ды** 'абгаворы, плёткі' (Гарэц.). Да *пера-* (гл.) і *гад-ы*, якое ўзыходзіць да польск. *gadać* 'гаварыць, абгаворваць'. Гл. таксама *гáдка*.

**Перагайдама́чыць** 'перавесці ў чужыя рукі; перамарнатравіць, прамантачыць дабро (грошы)' (Нас.). Да *пера-* і *гайдамáк* (гл.).

**Перагало́ссе** (*пірігалосься*) 'адгалосак, водгалас' (Юрч. СНЛ), рус. дыял. *перегoло́сье* 'абгаворы, плёткі', славен. *preglâsje* 'перагаласоўка галосных гукаў'. Да *пера-* і *голас* (гл.).

**Перагамі́цца** (*перэгомі́цца)* 'супакоіцца, перастаць' (ТС). Да *пера-* і *гамавáць* (гл.).

**Пераганкі**: *у пераганке́* 'навыперадкі (гульня)', *перагóнкі, уперагóнкі* 'тс', 'спаборніцтва ў бегу' (Др.-Падб.; Гарэц.). Да *нагерагонкі* (гл.).

**Пераганя́нка** 'адгон, знятае малако' (Сцяшк. Сл.; шчуч., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *ганя́ць* < *гнаць* (гл.). Суфікс, як у *масля́нка*.

**Пераганя́ць** (*піраганя́ць, пэрэгоня́ць*) 'выціскаць мёд з сотаў' (слуц., лаг., лун., ЛА, 1). У выніку семантычнага пераносу лексемы *пераганяць* 'перамяшчаць з аднаго месца ў другое'. Да *пера-* і *гнаць* (гл.).

**Перагара́ць** (*перэгора́ць)* 'знікаць (пра малако каровы)' (усх.-палес., Жыв. сл.). Узнікла ў выніку семантычнага пераносу паводле падабенства 'згараць' > 'знікаць'. Параўн. *выгара́ць* 'высыхаць (пра ваду)' (ТС) і літ. *garė̃ti* 'выпарвацца', што дае падставы для "гібрыднага" ўтварэння (Цыхун, Междунар. конф. балтистов, 238). Да *пера-* і *гарэць* (гл.).

**Перагародак** (*перагародок*) 'франтон' (свісл., ДАБМ, камент., 778). Да *пера-* і *гарадзіць* (гл.), матывацыя наймення няясная.

**Перагаро́дка**, *парагаро́дка, пырыгоро́дка* 'тонкая сценка ў памяшканні' (ТСБМ), 'канявая сцяна' (ЛА, 4), 'дыяфрагма' (ЛА, 1). Да прасл. **per-gord-ъka*, якое з **per-gord-iti* 'перагарадзіць, агарадзіць, аддзяліць, паставіць плот'; словаўтваральна і марфемна тоеснае с.-перс. *par-gārdan* 'праводзіць вакол баразну', 'агароджваць' (Трубачоў, Проспект, 69). Больш падрабязна гл. *пера-* і *гарадзíць*.

**Перагарцава́ць** 'перамяшаць (напр., пясок з цэментам)' (Ян.). Да *пера-* і *горсць* 'жменя' (< прасл. **gъrstь*); пры гэтым *-с'ц'* > *ц*. Не выключаны ўплыў лексемы накшталт *гартава́ць* 'выгортваць' (віл., Сл. ПЗБ).

**Перага́саць** (*пірігáсыць*) 'патаптаць' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *-гасаць*, роднаснага з *гойсаць* (гл.). Параўн. чэш. *hasati* 'гойсаць', 'несціся стрымгалоў', *hasot* 'шумны танец, карагод', 'гаўканне', славац. *hasat'* 'скакаць, вытанцоўваць', польск. *hasać* 'тс', 'бегаць, гарэзаваць', укр. *гаса́ти*. Паводле Махэка$_2$ (162), звязана з *hosati* 'бегчы скокам', якое з **hop-s-a-ti*. Генетычна роднасныя з бел. *гойсаць* (гл.).

**Перагí** 'паездка гасцей маладой да маладога, пярэзвы' (ганц., Сл. ПЗБ), беласт. *пірóгі* 'частаванне праз тыдзень пасля вяселля' (там жа). Да *пірóг* (гл.). Параўн. польск. *pierogi* 'варэнікі'.

**Перагі́б** (*пэрэгі́б)* 'суставу' (брагін., петрык., Шатал.). Дакладным адпаведнікам з'яўляецца серб.-харв. *прѐгибак* 'тс'. Прасл. **per-gybъ* (рус. *перегиб*, польск. *przegib*, чэш. *přehyb*, славен. *pregíb*, серб.-харв. *пре́гиб* 'згіб, згінанне, перагіб, перагінанне', 'месца, дзе нешта перагнутае', славац. *prehyb* 'прагін') < прасл. **per-gъ(b)-nǫti*, шматраз. **gybati* > *гнуць* (гл.).

**Перагла́бацъ** 'перанасіць, забраць' (Касп.). Да *пера-* і *гла́бацъ* (гл.).

**Пераглуздзя́чыванне** (*піріглузьдзя́чывыньня*) 'пустыя размовы' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *+глуздзячыць*, якое з *глуздзі́ць* 'глупствам набіваць галаву, турбаваць пустымі размовамі', *глуздзе́нь* 'пустамалот' (Нас.) < *глузд* (гл.).

**Перагля́ды**, *перагля́дзіны* 'агледзіны' (смарг., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.) — з *перагле́дзець* 'разгледзець, абмеркаваць яшчэ раз'. Семантычна найбольш блізка стаіць рус. разан. *гля́дать* 'аглядаць каго-, што-небудзь дзеля азнаямлення, пераканання ў наяўнасці'. У выніку пераносу значэння ўзніклі *перагля́ды, пірагля́дзіны* 'паездка нявесты да жаніха' (смарг., астрав., Сл. ПЗБ), як *пярэзвы, перазоў.* Падобныя да бел. *перагляд* зах.- і паўд.-слав. (польск. *przegląd*, чэш. *přehled*, н.-луж. *pśeglěd* 'перагляд, агляд', серб.-харв. *пре́глед* 'агляд(анне)', макед. *преглед* 'тс', славен. *preglèd* 'агляд, праверка') — новыя ўтварэнні, калькі з ням. *Übersicht* 'агляд,назіранне'.

**Перагó н** 'участак чыгункі, шашы паміж дзвюма станцыямі', 'малако, абястлушчанае на сепаратары' (ТСБМ), *парагóн* 'тс' (Сл. ПЗБ) — новыя словы, успрынятыя з рус. ці польск. моў, утвораныя паводле ўзору прасл. **per-gonъ* < **per-* і *gъnati* > *гнаць* (гл.), параўн. *перагóн* 'перавод пчол у іншы вулей' (Нікан.), *перагóнка* 'тс' (Яруш.), укр. *перегі́н* 'доўгі шлях перапраўкі рэкрутаў з Украіны ў Расію', рус. *перегóн* 'дарога, па якой гоняць скаціну', польск. *przegon*, славац. *priehon* 'тс', в.-луж. *přehon* 'прагон праз што-небудзь', славен. *pregòn* 'праследаванне', а таксама бел. *перагон* 'участак апрацаванай зямлі, пэўная адлегласць раллі' (Касп.), *перагонам* 'перагонны дождж (з перапынкамі)' (ЛА, 2).

**Перагóрацъ** 'перагараваць' (лях., Сл. ПЗБ), 'агораць, справіцца з чым-небудзь' (Нар. Гом.) трэба разглядаць разам з *агóрацъ* 'што-небудзь зрабіць, набыць з цяжкасцю', *горны* 'гаротны,

сумны' (БРС), якія да прасл. *gorati: серб.-харв. *прéгор* 'перажыванне, гора, смутак, журба', 'забыццё журбы'; чэш. *horati* 'гарэць', ст.-польск. *gorać* 'палаць, палымнець', польск. *gora* 'агонь на пашы, які распальваюць пастухі', рус. *горáть* 'знішчацца агнём'. Форма **gorati* — даволі старая ступень вакалізму кораня побач з **gorěti* і **-garati*, параўн. літ. *garúoti* 'выпарвацца; моцна жадаць' побач з літ. *gorúoti* 'моцна жадаць; працаваць да поту' (Трубачоў, Эт. сл., 7, 31).

**Пераграшы́цца** (*пырыгрышы́тысь)* 'перакусіць, з'есці трошкі' (Клім.). Да *пера-* і *грашы́ць* > *грэх* (гл.) пры ад'ідэацыі рус., ц.-слав. *прогрешение*. Матывацыя: забарона прыняцця ежы і пітва да споведзі, у адваротным выпадку — грэх.

**Перагрóмка** (*перэгрóмка)* 'ручай, рэчышча, прамыіна, цяжкапраходны ўчастак на балоце, мелкае месца на рацэ' (лельч., ЛА, 5), 'старое рэчышча' (ЛА, 2). Магчыма, звязана з *hrýmki* з песні, запісанай Федароўскім на Ваўкавышчыне: *zaszumieli łuhi, zaszumieli hrymki*, якое Турска тлумачыць як 'крыніцы, ручайкі' або 'від травы, зараслі такой травы', параўноўваючы з рус. *гремяч* (народная назва крыніцы, ручая) і *гремячая трава, гремячка*, польск. *gromotrask* (Турска ў Федар. 7), што дазваляе звязаць разглядаемую лексему з прасл. **grměti* 'грымець, шумець' або з **grъmъ* 'куст; куча; дуб', а таксама 'ўзгорак у лесе'; паводле Макоўскага (Удивит. мир, 84), значэнне 'дрэва, кусты, лес' тыпалагічна звязана са значэннем 'утвараць гукі', параўн. серб.-харв. *шума* 'лес', ням. дыял. *Geräusch* 'тс', а таксама літ. *grìmti* 'біць; гнаць; мяць, таўчы'. Мартынаў (СіБФ—1989, 62) мяркуе пра змяшэнне прасл. **gromъ* 'гром, лёскат' з **grъmъ* 'дуб'.

**Перагрэ́біны** 'пласты сена' (свісл., Шатал.), *перагроб* 'пласт сена' (Сцяшк. Сл.). Да *пера-* і *грэбсці, грэбаць* (гл.). Аб суфіксе *-ін-ы* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 43—44.

**Перагугáць** 'прамантачыць, прагуляць' (Нас.). Да *пера-* і *гугáць* (гл.).

**Перагу́д** 'працяжнае гудзенне, якое то заціхае, то ўзмацняецца' (ТСБМ, Жылка). Паэтычнае ўтварэнне, як *перазвон*. Да *пера-* і *гудзець* (гл.).

**Перагузáць** 'зноў перавязваць снапы' (Нас.). Да *пера-* і *гузáць* (гл.), апошняе звязваецца з прасл. **ǫz-/ *ęz* (ЭСБМ, 3, 112). Аднак, улічваючы першаснасць пачатковага *г-*, трэба зыходзіць

з прасл. **guzъ*, варыянта назалізаванага **gǫzъ*, якія адлюстроўваюць больш старажытныя і.-е. адносіны **gong'-/ *goug'-*, параўн. ст.-грэч. γογγύλος 'круглы', літ. *gũžis* 'галоўка капусты' (Трубачоў, Эт. сл., 7, 91—92), курд. *guz-* 'азадак, ягадзіцы'. Семантыка лексемы *перагузáць*, такім чынам, суадносіцца не з **vęzati* 'вязаць', а з **guzъ* 'камель дрэва, ніжняя частка снапа', параўн. *здро* з **guz-d-ro*, як укр. *гуз-но* 'зад (чалавека)', рус. *гузлó, гýз-но, гуз-нó* 'ніжняя, задняя частка чаго-небудзь' і інш. шматлікія лексемы з коранем *гуз-* з гэтым жа значэннем, палес. *гуздыр* (Выг.) 'ніжняя частка снапа' < прасл. **gǫzyrь* 'задняя частка чаго-небудзь'. Параўн., аднак, славен. *prézati* 'звязваць', якое Супрун (ЭСБМ, 1, 123) звязвае з **перазаць* (гл. *аперазаць*); магчыма, з **per-ǫz-ati* з пратэзай, гл. *гуж₁*, тады сувязь з *гуз* — другасная.

**Перагэ́цнуць** 'пераскочыць' (свісл., Сцяшк. Сл.). Да *пера-* (гл.) і *гэцнуць* < *гэцаць*, якое з польск. *heca* 'пацеха, забава', 'забаўляльнае прадстаўленне, першасны цырк', у XVII—XVIII стст. *heco!* — вокрык у час палявання на зайцоў, што ўзыходзяць да ням. (баварска-аўстрыйск.) *Hetz* 'жарт, шумная весялосць', звязанага з *Hetze* 'цкаванне; натоўп, зграя (сабак); жвавасць; жарт'. Менавіта ў час цкавання як паляўнічай забавы загадвалася сабаку "перагэцнуць", напрыклад, праз палку (Слаўскі, 1, 413; ЕСУМ, 1, 502—503).

**Пе́рад** 'пярэдняя частка чаго-небудзь', *перадá, перадок, пірадок, пэрэдóк, пырыдóк, пярадок* 'тс' (ТСБМ, Др.-Падб., Бір. Дзярж., Сцяшк. Сл., Бес., Нас., Шат., Сл. ПЗБ, ТС; Варл.; Карскі, 2—3, 438); *перадок, пірадóк* 'кароценькая лавачка перад сталом' (віц., Шн. 3; Касп.), *пірядок* 'невялікі ўслон' (Сл. ПЗБ), *перады́* 'перад бота, кашулі' (вільн., Сл. ПЗБ); *пéрад* 'адборнае, перадавое зерне' (раг., паст., Сл. ПЗБ; мін., маг., гом., ЛА, 2); *пéрад(а)* 'спераду' (ТСБМ, Сл. ПЗБ; Варл.), 'напярэдадні' (віл., лід., Сл. ПЗБ), 'уперад, раней, у мінулым' (маладз., Жыв. сл.), *пéрат* 'у параўнанні з...' (зэльв., Жыв. сл.), *пéрадам* 'даўней, калісьці' (Сцяшк. Сл.), *перад* 'пад' (ТС), *пéрад пéрадам* 'перад сабой' (Ян.). Укр., рус. *пéред*, стараж.-рус. *передъ*, польск. *przed(e)*, в.-луж. *před*, н.-луж. *pśed*, чэш. *před*, славац. *pred*, славен. *prêd, pred-*, серб.-харв. *пред(а)*, макед., балг. *пред*, ст.-слав. прѣдъ. Прасл. **per-dъ*, першая частка якога генетычна ўзыходзіць да і.-е. **per-* (авест. *parō* 'спераду,

перад’, ст.-грэч. πάρος ‘наперад, раней’, ст.-інд. *purā* ‘тс’, гоц. *faúro*, ням. *vor* ‘перад’), а *-dъ* узята з **podъ* (Махэк$_2$, 491), альбо з і.-е. **dhē* (Бернекер, KZ, 57, 240); Вондрак (Vergl. gr., 2, 298), а яшчэ раней Зубаты (IF-Anzeiger, 22, 57) у якасці такой узмацняльнай часціцы прыводзяць ст.-інд. *bahirdhā* ‘без’/*bahir*; Станг (ScSl, 3, 236) супастаўляе *-dъ* у прасл. *nadъ, podъ, perdъ, zadъ* з прус. *-dau: pirsdau* ‘перад’, *sirsdau* ‘сярод’, *pansdau* ‘потым’ (ESSJ, 1, 127—128). Для *перадок* — прасл. **perdъkъ*. Сюды ж *перадавы́* ‘плытагон, які кіруе плытом’ (віл., віц., Нар. лекс.); *перадаво́е, перэдовое, перэдко́вое, перэдко́вэ* ‘лепшае зерне’ (петрык., глус., лельч., ЛА, 2); *перадаві́к* ‘той, хто дасягнуў найбольшых вынікаў у сваёй дзейнасці (ТСБМ) < рус. *передовик* ‘тс’.

**Перадава́ць**, ‘ісці, ехаць наперадзе’ (Нас.), *піръдува́ць* ‘мітусіцца, перашкаджаючы ісці іншым’ (ушац., Нар. лекс.). Да *пе́рад* (гл.).

***Перадае́жджа** (*пэрэдоі́шчэ*) (малар., СіБФ — 1986, 145) ‘другі прыезд сватоў у дом нявесты’ (драг., Клім., Сл. Брэс.). Утворана пры дапамозе суф. *-ьje* ад $^{+}$*передоежджы* ‘той, хто едзе спераду’ (Селюжыцкая, Полісся: мова, культ., іст., Київ, 1996, 152—154), > $^{+}$*передоездье,* параўн. рус. дыял. *передое́зжий* ‘той, хто едзе наперадзе вяселля; вясельнікі, што едуць на першым возе’, ст.-рус. *передоѣзжий, передъѣзжий, передиѣзжий* ‘той, хто дзейнічае ў авангардзе (пра вайскоўцаў)’. Да *пе́рад* і *е́хаць* (гл.). Пераход *-жджж-* у *-шч-* характэрны драгічынскім гаворкам: *прыйішч’е́тэ* ‘прыяжджаць’. *Пырыдуі́жжда* ‘другі прыезд сватоў у хату нявесты’ (кобр., Нар. лекс.) з ад’ідэацыяй (народная этымалогія) *уе́хаць*.

**Перадаста́цца** (*перэдоста́цца)* ‘перабрацца, пераправіцца’ (ТС). З польск. *przedostać się* ‘тс’.

**Переда́тны** ‘якога больш, як трэба’ (Варл.). Ад *перада́ць* ‘даць больш, чым належыла’.

**Перада́тчык** ‘апарат для перадачы паведамленняў, сігналаў на адлегласць’ (ТСБМ). З рус. *переда́тчик* ‘тс’.

**Перада́ча** ‘тое, што перадаецца (у бальніцу, турму, па радыё ці тэлебачанні; механізм для перадачы руху ў машыне’ (ТСБМ). Да *пера-* і *даць* (гл.). Суфікс *-ч-а* ўзыходзіць да прасл. **-tja* (Слаўскі, SP, 2, 42—43).

**Перадзыга́ць** ‘пераскокваць’ (Сцяшк. Сл.), *перадзы́гнуць* ‘пераскочыць’ (Скарбы). Да *пера-* (гл.) і *дзыгаць*, якое, магчыма,

з польск. беласт. *dżygać* 'скакаць; хутка бегчы', параўн. *джґаць* (гл.); сувязь з літ. *dýgti* 'бегчы, калоць; расці' (Лаўчутэ, Балтизмы, 141) з-за фармальных адрозненняў неабавязковая.

**Перадні́к** 'хвартух' (мядз., Нар. словатв.), драг. *пырыднéк* 'тс' (Сл. Брэс.). Да *пéрад* (гл.). Аб суфіксах гл. Сцяцко, Афікс. наз., 117—119 (уплыў рус. мовы (?)).

**Перадні́чы** 'перадавы' (Нас.; Варл.). Калька з польск. *przodowniczy* 'тс' < *przód* 'перад'.

**Перадня́**₁ 'вяроўка для ўвязвання воза з сенам, саломай ці снапамі, перадоўка' (шальч., віл., Сл. ПЗБ; рэч. Мат. Гом.; Варл.), рус. дыял. *перéдник* 'тс'. Да *пярэдні* < *перад* (гл.). Аб суфіксе *-ня* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 118, параўн. яшчэ *паперадня́*.

**Перадня́**₂, *перадня́*, *пярэ́дня* 'прарэх у кашулі' (віл., леп., ЛА, 4). Рус. дыял. *перéдня* 'каўнер жаночай кашулі'. Да *пéрад* (гл.). Аб суфіксе *-н-я* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 165.

**Перадо́й** (пірядо́й) 'удой' (Юрч. СНЛ). Да *даіць* (гл.), але прэфіксацыя няясная < *перадаіць* 'выдаіць цалкам'?

**Перадо́йка** 'ялавіца, якая доіцца другі год запар' (ТСБМ; Янк. 1; Варл.; Касп., Сл. ПЗБ; карэліц., Янк. Мат.), *перэ́дайка, перэ́дойка* (мазыр., Нар. сл.), *перэдо́йка* 'тс' (Растарг.); рус. пск., смал. *передойка* 'тс'. Да *пера-* і *даі́ць* (гл.).

**Перадо́льшы** 'старэйшы паводле ўзросту' (Нас.), рус. смал. *передольший* 'тс'. Да *перад-* і суф. *-ольшы*, параўн. таксама трок. *селядо́ршы* 'сярэдні' < *серадо́льшы* 'тс', магчыма, пад уплывам *большы*; несумненна элемент *-ш-* — суфікс параўнальнай ступені (Карскі, 2—3, 41—42).

**Перадо́ўка** 'прывязаная да перадка моцная вяроўка, за якую чапляецца рубель пры ўцісканні воза з сенам, саломай, снапамі' (Нас., Бяльк., Касп., Юрч., Мат. Маг.; бялын., Янк. Мат.; добр., ветк., Мат. Гом.), 'вяз, які звязвае галоўкі палазоў у санях (Янк. 1; мазыр., Шатал.; Сцяшк. Сл.). Рус. паўн. *передовка* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса; утворана пры дапамозе суф. *-к-а* ад *перадавы́* < паўн.-слав. **perd-ovъ* (бел. *перадавы́*, укр. *передовий*, рус. *передовій, перёдовый*, польск. *przodowy* 'перадавы').

**Перадра́га**, (*пырыдря́га)* 'непагадзь (дождж, слата, снег)' (кам., ЖНС), рус. *передря́га* 'тс'. Русізм (?). Да *пера-* і ⁺*драга/дря́гá*, якое да прасл. **dręga, *dręgy* < **dręgati*, звязанага этыма-

лагічна з *$d\underset{o}{\acute{r}}gati$ (рус. *дёргать*), *$dr$ъ$gati$* (параўн. *дрыгаць*) і з *drъžati* (усх.-маг. *дрыжаць*) (SP, 4, 221—222).

**Перадра́за** 'крыўлянне, карыкатура' (Бяльк.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. *-а* (< і.-е. *-ā*), які надае назоўніку значэнне абстрактнасці (Слаўскі, SP, 1, 59—60). Да *пера-* і *дражніць* (гл.).

**Перадра́ты** 'разарваны напалову' (Растарг.), смал. *передра́тый* 'тс'. Дзеепрыметнік, аформлены пад уплывам польск. *przedarty* 'парваны'. Да *драць* (гл.).

***Перадры́нне**, *пэрэдры́ньне, пэрэды́ньне* 'загарадзь перад хлявом', *пэрэды́нне* 'хлеў для жывёлы' (Нар. сл., Сл. Брэс.). Да *пе́рад* і *адры́на* (гл.).

**Перадубе́ць** (*пірідубе́ць)* 'моцна перакалець' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *дубе́ць*, якое да *дуб* (гл.). Звычайна *адубець*, прыстаўка *пера-* перадае значэнне 'цалкам, поўнасцю'.

**Перадуковываць** (*пірідуко́вывыць)* 'перавучваць' (Юрч. СНЛ). З *пера-* і *адукоўваць* < *адука́цыя* (гл.).

**Перадумова** 'папярэдняя ўмова; зыходны пункт якога-небудзь разважання' (ТСБМ). Калька з польск. *przedugoda* 'папярэдняя дамова, пагадненне'. Да *пе́рад* і *ўмова* (гл.).

**Перады́лле** (*пэрэды́лье)* 'загарадзь перад хлявом' (лун., Нар. сл.). Зыходнае, відаць, *перадынне*, *перадрынне* (гл.); слова змянілася пад уплывам лексемы *дыль* 'бервяно, тоўстая дошка', якое было матэрыялам для *прасла* 'шчыльнай агароджы'.

**Перады́нне** (*пэрэды́нье)* 'стойла, дзе стаяць каровы днём' (лун., Шатал.). З ⁺*перад-адрынне*, якое да *перад* і *адры́на* (гл.). Параўн. *перадры́нне* (гл.).

**Пера́едзі** (*перэ́едзі)* 'аб'едкі (сена, саломы і інш.)' (мазыр., З нар. сл.), *пэрэ́ід* 'тс' (Сл. Брэс.), укр. *пере́їди* 'рэшткі сена ці саломы з-пад ясляў, рус. *перее́дки* 'аб'едкі'. Да *пера-* і *едзь* (< прасл. *ědʼь*) ці *ед* (< прасл. *ědъ*) < *е́сці* (гл.).

**Пера́езлівы** 'шкодны' (Ян.). Да *пера-* (гл.) і - *езлівы*, якое з ⁺*едлівы* (< прасл. *ědьlivъ(jь)*), параўн. рус. арх. *едли́вый* 'пражора', славін. *jadlȃvï* 'запальчывы, гняўлівы', славац. *jedlivý* 'тс', чэш. *jedlivý* 'пражора', славен. *jedljȉv* 'прыдатны да яды', серб.-харв. *jèdl̦iv* 'запальчывы, зласлівы', макед. *јадлив* 'едкі', 'злы, злосны' (Трубачоў, Эт. сл., 6, 49). Мена *-д-* > *-з-* пад уплывам формаў *е́сці*. Параўн. *пераяда* (гл.).

**Пераéсца** 'спалохацца' (шчуч., Сцяшк. Сл.) у сказе: *нехта за мной гнаўся, то нáчыста пераéлася.* З польск. *przejąć się* 'ўзяць да сэрца, узрушыцца, занепакоіцца'.

**Пераём** 'пачастунак (за знойдзеную рэч)' (Федар.). З польск. *przejem* 'узнагарода за злоўленага' < *przejąć* 'пераняць', 'праняць, ахапіць'.

**Пераёчыцца** (*піряёчыцца* ) 'напакутавацца' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *ёчыць* < *ёкаць*/ *екатáць* (гл.) 'галосіць, вішчаць працяглы час' > 'пакутаваць'.

**Перажабéць** 'перастаяць (аб малаку, тварагу) у печы' (Ян.). З **перажыбéць*, якое да *пера-* (гл.), а другая частка — да літ. *žìbinti* 'паліць, запальваць'.

**Перажáбіцца** (*пірыжáбіцца*) 'перагнуцца' (Бяльк.). Да *пера-* і *жаба*$_5$ 'карабатае месца на лязе касы' (гл.).

**Перажáхнуць** 'сціхнуць (пра боль)' (слуц., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *жáхнуць* 'стукнуць, ударыць' (гукапераймальнага паходжання, параўн. і *жах* (гл.), што чаргуецца з *гасіць*).

**Перажыватáць** 'перажыць, перанесці што-небудзь цяжкае ў жыцці (Нас.). Да *пера-* (гл.) і *жыватáць* 'жыць здаровым, мець асалоду ад наяўнасці добрага здароўя' < *жывот*$_1$ (гл.). Параўн. яшчэ *жывоцце* 'жыццё' (Нас.), а таксама *перажы́(вá)ць*.

**Перажы́гаць** 'імгненна абгледзіць у розных месцах' (Нас.). Да *пера-* і *жыг* (гл.). Сюды ж *перажы́гнуць* 'хутка, імгненна пераскочыць вялікую адлегласць' (Нас.), утворанае, аднак, пры ад'ідэацыі бел. *перажыргнуць, перажáргаць* < *перажаргáць* (гл.).

**Перажырднýць** 'перайсці ўброд' (докш., Сл. ПЗБ). Да *перажэргаць* (гл.). Аб мене *г* > *д* гл. Карскі, 1, 370.

**Перажы́так** 'тое, што захавалася ад мінулага і не адпавядае сучасным нормам' (ТСБМ), *перажы́тасць* 'перажытак' (Яруш.), *перажы́так* і *перажы́ткі* 'перажыванне, тое, што ў жыцці давялося перажыць' (валож., Жыв. сл.), *перажы́ткі* 'хваляванне, турботы' (паст., Сл. ПЗБ), *перажы́ты, перажывýшчы* 'той, хто вельмі хвалюецца' (маст., ашм., паст., Сл. ПЗБ), *перэжы́тка* 'перажыванне', *перэжы́точно* 'цяжка, хвалюючы' (ТС). Укр. *перéжи́ток*, рус. *пережи́ток* 'переживания', польск. *przeżytek* 'перажытак', чэш. *přežitek*, славац. *prežitok* 'тс', *prežitosť* 'устарэласць'. Прасл. **per-žit-ъkъ* 'перажыванні, якія прыйшлося перажыць у жыцці', пазней — 'перажытак'. Да *пера-* і *жыць* (гл.).

**Перажэ́рґаць** 'пераступаць, пераскокваць' (Сл. ПЗБ), *перажэ́ргнуць* (Сцяшк. Сл.), *пэрэжаргну́ть* 'тс' (пін., Шатал.), *перажыргну́ць* 'перастуніць' (докш., Янк. Мат.), *перажыга́ць* 'пераступаць' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *жэргаць* (*жа́рgаць, жы́рgаць*) 'пераступаць, пералазіць, скакаць, ступаць, крочыць, мераць крокам' (гл.).

**Пе́раз** 'праз, цераз' (Нас.; Янк. 3; Касп.; Доўн.-Зап., Песні; Сб. 1866 г.; докш., бярэз., нясвіж., в.-дзв., Сл. ПЗБ; докш., навагр., ЛА, 2), 'міма, насуперак' (Нас.), 'насуперак', *спраз* — прычына (праз каго) (Рам., 6; Нас.; Карскі, 2—3, 441); ст.-бел. *перезъ*, *презъ*, *прозъ* 'праз, на працягу'; укр. лемк. *перез*, *брез* 'цераз; праз (каго)', а *брез* 'без'; рус. дыял. *пе́рез* 'праз; з-за; на працягу'; польск. *przez*, часам *brzez* (пад уплывам *bez*), каш. *přez/ přėz* і *přoz* 'праз; больш за (празмернасць)', 'па', 'за', н.- і в.-луж. *pśez, pśeze, přez, přeze, bźez/ bźe* 'праз; без; на працягу; з-за', 'больш чым', палаб. *prise* 'без'; чэш. *přes(e),* ст.-чэш. *přes* і *přě* 'цераз; за; больш за', славац. дыял. *pres/ prez* 'цераз'; ст.-серб.-харв. *прѣзь*, серб.-харв. *през, priz*, чарнаг. *проз* 'цераз; супраць', 'на працягу', макед. *прис, през* 'на працягу'; балг. *през*, *проз* 'цераз; за; на другім баку'. Узыходзіць да прасл. **per-*, пашыранага пры дапамозе *-zъ* (падобна, як **bezъ, vъzъ, orzъ* і інш.). Мяркуецца, што чэш. *přes* з *-s-* — гэта памылковае напісанне замест *přez*. Аднак П. Ланг (ČMF, 6, 183—188 і ČMF, 7, 24—28, 81—84) мяркуе, што ў першапачатковай форме **per-sъ* другая частка *-sъ* паходзіць з дзеяслова *-es* 'быць' пад уплывам *bezъ,orzъ,vъzъ* — пазней >**perzъ* (параўн. чэш. *přesný, přisný*). Зубаты (KZ, 31, 60), Вальдэ (KZ, 34, 519), Міклашыч (4, 198) супастаўляюць **perzъ* з літ. *prieš* 'насупраць, насуперак', 'перад', 'да', 'за'. Непераканаўча (Праабражэнскі, 2, 41) вывядзенне *-zъ* з літ. *-gi* (у *iñ-gi, nu-gi, nuõ-gi*). (ESSJ, 1, 175—178; Фасмер, 3, 237—238; Махэк$_2$, 491).

**Перазáць** 'сцёбаць, хвастаць' (Нас.), *піразаць* 'біць' (Рамз.), *пірязну́ць* 'выцяць. лупянуць' (Юрч. СНЛ), смал. *переза́ть* 'хвастаць, сцябаць', драг. *спараза́тэ* 'выцяць дубцом, завязкай фартуха', укр. *переза́ти* 'падперазаць' і, магчыма, серб.-харв. *запре́зати* 'запрэгчы'. З прасл. **perzati*, утворанага з наз. **perzъ* ці прыназоўніка *perz*. Бел.-укр.-серб.-харв. ізалекса, утвораная, магчыма, пры ад'ідэацыі прасл. **(ob)pojasati* (параўн. укр. *опа-*

*суватu(ся)* ад запазычанай з польск. мовы асновы *-пас-* (Трубачоў, Праспект, 71—72). Гл. таксама *аперазáць.*

**Пераэвó** (*пырызвó*) 'другі дзень вяселля, калі радня маладой прыяжджае ў дом да маладога' (драг., М. Камісарчук, вусн. паведамл.). Прасл. рэгіяналізм **per-zъv-o*. Да *перазоў* (гл.).

**Перазоў** 'трэці або адзін з наступных дзён вяселля, калі бацькі маладой едуць да яе і прывозяць пасаг і благаслаўлёную ікону' (Нас.); івац. *пэрэзов*, рас. *перазыўкі,* лаг. *пярэзаўкі,* мін. *пярэзвіны*, кам. *пырызвэ́*, лун. *пэрэзовы*, пін. *пырызоў,* віл. *пярэ́заўкі* 'заключны этап вяселля — прыезд бацькоў маладой у госці да сватоў праз тыдзень пасля вяселля' (Сл. ПЗБ, Жыв. НС, Сл. Брэс., 3 нар. сл., лун., Шатал.); мін. *пярэзвіны,* віц. *перазоўкі* 'госці ў бацькоў маладых праз тыдзень пасля вяселля (Касп., Хрэст. дыял.), мазыр. *перазоў* 'узаемнае наведванне пасля вяселля' (Нар. Гом., Шн. 3); лаг. *перазовыя* 'калі бацькі маладой запрашаюць у госці дачку, зяця і бацькоў маладога' (Варл.), стол. *пэрэзов* 'пачастунак у бацькоў маладой' (Сл. Брэс.), *пярэзвы* 'тс' (Шат.), паст. *перазыў, перазыўнікі* 'паездка гасцей нявесты да жаніха', красл. *перазыўкі* 'паездка гасцей да нявесты праз тыдзень' (Сл. ПЗБ); *пярэзвы* 'запрашэнне', *перазвя́нка* 'запрошаная зяцем маці маладой' (Зянк.); *пярэзвы* 'ўзаемныя запрашэнні ў госці на запускі ўсёй вёскі да кожнага гаспадара' (Стан.); *перэзя́нка* 'дружка маладой на вяселлі' (ТС); укр. *перезвá* 'ў панядзелак пасля першай шлюбнай ночы родныя маладой ідуць на пачастунак да бацькоў жаніха' (П. Чубінскі, Труды ЭЭ, 4, 56; чарніг., Грынч.), *перéзивки* 'пачастункі ў чацвер і пятніцу ў хаце маладога, потым у дружка, затым у брата, дзядзькі, сястры' (Чубінскі, Труды ЭЭ, 4, 580); рус. кур. *перезвá* 'другі дзень вяселля', *перéзвы* 'апошняе гулянне на вяселлі', вілен. *перезов* 'пераезд нявесты (у суботу) у дом жаніха'. Прасл. паўн. рэгіяналізм **per-zovъ*. Да *пера-* і *зваць* (гл.). Сюды ж мсцісл. *пірізваць* 'запрасіць да сябе ў адказ' (Юрч. СНЛ).

**Перазолкі** 'шчолак' (хойн., Мат. Гом.). Паводле ілюстрацыі: *Выкінь за хлеў перазолкі, Іван* — значэнне лексемы вызначана недакладна, трэба: 'попел ад шчолаку'. Да *пера-* і *заліць*$_2$ (гл.). Лексема ўтворана пры ад'ідэацыі *пазолкі* 'шчолак'.

**Перайма́ць**, *пераімáць* 'сустракаць (гасцей); пераймаць жывёлу; пераймаць, схопліваць, запазычваць; ісці насустрач, напя-

рэймы' (Нас., ТСБМ; Касп., Сл. ПЗБ, ТС), *пiраймаць* 'спаткаць, спыніць, завярнуць' (Варл.); укр. *переймáти, переня́ти, переяти*, рус. *переимáть, перенимáть* 'тс', польск. *przejąć, przejmać, przejmować*, н.-луж. *pśejmaś*, в.-луж. *přejeć* 'тс', чэш. *přejímati* 'прымаць, браць', 'запазычваць, пераймаць', славен. *prejé(ma)ti* 'атрымоўваць', серб.-харв. *прíмати* 'перенимать', макед. *вос-приема* 'ўспрымаць', балг. *въз-приéмам* 'пераймаць'. Прасл. (паўн.) **per-jęti (<*ęti)/ *per-jьmati.* Да *пера-* і *імáць* (гл.).

**Пераймó** 'ўзнагарода, плата за знойдзенае (рэч), або за перанятую скаціну' (Нас., Гарэц., Чач., Шат., Касп.; Нік., Полупосл.), *піраймá* 'тс' (Варл.), *перэймó* 'своеасаблівы выкуп на вясковым вяселлі' (Растарг.); укр. харк. *перéйма* 'ўзнагарода за злоўленае на рацэ', рус. *перéйма* 'плата за аддадзеную знаходку'. У гэтым значэнні — усх.-слав. лексема. Аднак, прыняўшы пад увагу іншыя значэнні ўкр., рус. *перéйма*, польск. *przejm, przejma* 'перарванне, перагародка; папярочка паміж бэлькамі ці кроквамі', н.-луж. *pśejma* 'перагародка; шчыліна; перашыек, праліў', славен. *prejèm* 'прыём, атрыманне', *prejémek, prejémki* 'заробак, плата', можна меркаваць пра прасл. **per-jьmъ/ *per-jьma/ *per-jьmo*. Да *пераймáць* (гл.). Сюды ж *пірійма* 'наперарэз' (Юрч. СНЛ).

**Пéрак**, *пéракам* 'поперак, упоперак' (Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк., ушац., Нар. лекс.; Варл.), 'кароткая папярочная баразна' (докш., Сл. ПЗБ), 'папярочны загон' (ЛА, 2), смал. *пéрек* 'упоперак'; укр. *перéка* 'супрацьдзеянне, супярэчанне', рус. *по-перёк* 'упоперак', польск. *w przek, w przeki, na przek(i)* 'упоперак, наадварот, наперакор', ст.-польск. *przek(o)* 'поперак', н.-луж. *prjeki* 'поперак, наўскос', в.-луж. *prěki* 'поперак', *prěčić* 'перасякаць; супярэчыць, супраціўляцца', палаб. *prit'ai, prit'ě* 'праз, звыш; па той бок', ст.-чэш. *na-přiek(y)*, чэш. *na-přík* 'насупраць, у параўнані з, насуперак', *na-přič* 'праз, па той бок; поперак', славац. *na-prieky, na-priek* 'нягледзячы на', славен. *prẹ̀k* 'рэзкі, грубы, жорсткі; які супраціўляецца; касы, які стаіць упоперак', *prȩ̂ko, prȩ̂k, priek, prȩ̂čki* 'тс', *vprệk* 'нягледзячы; праз; супраць', *prȩ̂k* 'горды чалавек', серб.-харв. *прêк*, харв. *prȉjek* 'папярочны; просты, самы кароткі, запальчывы, круты, неадкладны, неабходны', *прêко* 'насупраць, па той бок; упоперак, раптоўна, рэзка; празмерна', чак. *priko* 'тс', макед. *прек* 'папярочны; неадкладны, круты', балг. *пряк*,

мн. л. *пре́ки* 'прамы, непасрэдны', ст.-слав. вѫпрѣкы глаголати 'супярэчыць', ц.-слав. прѣкъ 'папярочны; які ляжыць упоперак', *прѣко, прѣкы* 'насуперак; супраць; праз'. Прасл. **perkъ* 'папярочны, які знаходзіцца на супраць' (перайшло ў прыслоўе, прыназоўнік **perko/ *perkъ/ *perky* і ў адназоўнікавы дзеяслоў **perčiti* 'пярэчыць') — утварэнне з суф. *-*kǒ* (> *-*kъ*) ад прыслоўя **per-* 'праз' (Mee, Études, 329; Фасмер, 3, 238; Копечны, 1, 129 і 173; Махэк$_2$, 492; Бязлай, 3, 110—111).

**Перакаба́чваць$_1$** 'перайначваць, вяршыць, рабіць' (Нас.). У выніку семантычнага пераносу з першаснага *перакаба́чваць* 'перарабляць што-небудзь на каба́т' (гл. *каба́т*), параўн. аналагічнае польск. *przekabacić, przekabacać* 'перарабіць, перацягнуць на свой бок'.

**Перакаба́чваць$_2$**, зак. тр. *перакаба́ціць* 'прамантачыць, растраціць' (Нас.). Да *пера-* і *каба́к* (гл.) — 'прапусціць грошы праз кабак'.

**Перакабе́лы**, *пэрэкоб͡іэлы* 'чорны бык ці карова з белай паласой упоперак тулава' (Бес.), ст.-польск. *przekobiały* 'ў белыя палосы', *przekoczarny* 'ў чорныя палосы'. Да *пе́рак* і *бе́лы* (гл.), параўн. славен. *prę̊koš* 'назва свойскай жывёлы, у прыватнасці, свінні', *prę̊kast* 'паласаты'.

**Перакабе́нчыцца** 'перамучыцца, доўга пакутуючы', 'адпакутваць ад хваробы' (Нас.). Да *пера-* і *каве́нчыцца, каве́ндзіцца, кавэ́нчыцца* (гл.) з менай *в* > *б*.

**Перакабоўчыцца** 'перагнуцца' (Сцяшк. Сл.). Да *пера-* (гл.) і ⁺*кабоўчыцца*, якое далучаюць (Варбот, Этимология—1979, 34—37) да групы слоў прасл. **(s)kob-*: *закуба́нь* 'невялікая затока на рацэ' (Бяльк.), *закабо́ўка* 'выгін ракі, лука', *заканабо́ўка* 'тс', *закабаліна* 'затока на рацэ', *закабе́нь* 'месца, вымытая ракою' (Яшк.), *закаба́іна* 'невялікі заліў' (гл.), драг. *закабе́і* 'складаныя хады ўнутры чаго-н.' рус. маск. *кобе́нить* 'апрацоўваць зямлю' < *кобень* 'крук, ключы' > 'саха', ст.-чэш. *kobiti se* 'натурыцца, упарціцца', як і рус. *кобениться* 'тс', славац. дыял. *kajbavej* 'крывы, няроўны' — да незасведчанага **kabati* з зыходнай семантыкай 'гнуць, згінаць', які з **kobiti* < **kobь* 'зло; упартасць; распуста' і інш. (Трубачоў, Эт. сл. 9, 106; 10, 91—92 і 102).

**Перакавы́** (*піракавы́*) 'папярочны (пра бэльку, баразну, загон)' (Сл. ПЗБ; Мат. Маг.), 'канявая сцяна' (ЛА, 4), 'пярэдні (пра зубы)'

(Нар. Гом.). Да *пéрак* (гл.). Сюды ж *перакавень* 'папярочка (пра баразну)' (бых., ЛА, 2), *перакавéц* 'тс' (чэрв., Нар. лекс., ЛА, 2), *перакавік, пярáк* 'градка ўпоперак' (Шат.), *пірікавіца* 'папярочная перакладзіна' (Юрч. СНЛ), бялын. *піракавéц* 'палена', *піракавы́я* барозны — папярочныя барозны, засаджаныя бульбай (Нар. сл.).

**Перака́за** 'перашкода, замінка, цяжкасць' (Гарб., Нас.), *перака́зіць* 'сапсаваць; перашкодзіць' (Нас.). Да *ка́зіць* 'псаваць, шкодзіць' (гл.), магчыма, пад уплывам польск. *przekaza* 'перашкода', *przekazić* 'перашкодзіць; перапыніць (пры размове)'.

**Пераказа́ць** 'перадаць у спадчыну' (ТС). З польск. *przekazać* 'перапісаць, пакінуць у спадчыну'.

**Пераказíцца** (*перэказíцца)* 'вельмі змяніцца тварам пад уплывам чагосьці дужа непрыемнага' (Растарг.), смал. *перекази́ть* 'сапсаваць'. Да *пера-* і *ка́зіць* (гл.).

**Перака́зы** 'плёткі' (Нас.). Ад *пераказáць*, *перака́зваць* 'перадаваць пачутае', рус. *перека́зывать* 'наказаць, перадаваць вестку, просьбу', укр. *перека́зувати* 'апавядаць; перадаваць на словах', польск. *przekaz* 'паведамленне', *przekazać* 'перадаць'. Усх.-слав.-польск. ізалекса. Да *пера-* і *казáць* (гл.).

**Перакаламсоліваць** (*пірікыламсолівыць*) 'перамешваць' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і $^{+}$*каламсоліваць*, якое — ў выніку кантамінацыі з *каламуціць* і *масоліць* 'цухмоліць', параўн. з *пірімасолівыньня* 'перажоўванне'.

**Перакалаціць** (*пэрэколоты́ты)* 'шмат разоў узараць (пра поле)' (Выг.). Фармальна ўзыходзіць да *пера-* і *калаціць* (гл.), аднак у апошнім значэнне 'араць' адсутнічае. Магчыма, збліжанае з *мяшаць* 'пераворваць' (гл.).

**Перакалгíкаць** (*пірікалгíкыць*) 'перайсці кульгаючы; пражыць так-сяк, як-небудзь' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *кільгаць* 'кульгаць на адну нагу' (гл.), збліжанае з *кільгіка* 'чалавек без нагі' (гл.).

**Перакаля́каць** (*пірыкыля́кыць)* 'пражыць, перамадзець'. Нагадвае польск. *przekołatać* 'перамучыцца', якое магло быць фанетычна відазменена пад уплывам семантычна блізкай лексемы *каля́каць* 'размаўляць; доўга і прыніжана прасіць, канькаць', пашыранай у суседніх рус. гаворках, аднак геаграфія, магчыма, пярэчыць такому пазычанню. Параўн., аднак, *калатáць* 'біць, грукаць', гл. *калаты́рыць*, а таксама *перабíцца* 'пражыць як-не-

будзь' (прасл. **koltiti* і **kъltati*, гл. Бернекер, 550; Брукнер, 247; Слаўскі, 2, 364—365).

**Перакамара́цца** (*пэрэкомара́тіся)* 'жартаваць, пацвельваць, падражніваць' (Бес.). З польск. *przekomarzać się* 'чапляцца, жартаваць', якое выводзяць з *przeko-* і *marzać* < *marzyć* < *mara* (Варш. сл., 5), гл. *мара́.*

**Перакана́кацъ** 'шмат, залішне накласці' (Шпіл.). Няясна.

**Перакана́ць** *(піраканаць)* 'прымусіць паверыць, упэўніць' (ТСБМ; Варл.), *пераканáць* 'перамагчы ў спрэчках' (Растарг.), *перакана́цца* 'ўпэўніцца' (воран., Сл. ПЗБ), *пэрэкона́цца*, рус. смал., бранск. *перекона́ть*, укр. *перекона́ти*, польск. *przekonać (się)* 'тс', чэш. *překonati (se)* 'пераадолець, пераўзыйсці, перамагчы сябе', славац. *prekonat'* 'пераждыць, перанесці, пераадолець, пераўзысці'; з такімі ж значэннямі зафіксавана і ст.-польск. *przekonać, przekonany* 'пераможаны'. У такім выпадку семантыка сучаснай польск. лексемы — інавацыя, якая пашырылася таксама на бел. і ўкр. моўныя тэрыторыі. Да *пера-* і *кон* (гл.) (спецыяльна гл. Коген, УЗ БГУ, 1940, 1, 191—194).

**Перакандры́чыць** (*пірікандры́чыць*) 'пазнішчаць' (Юрч. СНЛ). Гл. *кандры́чка*, параўн. смал. *кандричить* 'мучыць, здзекавацца'.

**Перакантава́цца** 'перажыць нястачу, перабіцца як-небудзь' (гродз., ЖНС). Да *пера-* і *кантава́цца* (гл.); відаць, запазычана з гутарковага рус. *перекантоваться* 'тс', параўн. кур. *кантова́ть* 'карміць, утрымліваць каго-небудзь', жарг. *кантоваться* 'знаходзіцца дзе-небудзь; не працаваць' (Шчарбакова, Бруева, 89). Усе гэтыя значэнні другасныя, зыходная семантыка ў польск. *przekantować* 'перавярнуць, перакуліць праз кант'. Гл. таксама *кант.*

**Перакара́цца** 'ўпікаць, дакараць; перакідвацца жартамі' (Др.-Падб.), *перакара́ць* 'гаварыць наперакор; назаляць' (Нас.), *перакор* 'перакорлівасць' (Др.-Падб., Яруш.), *перако́ра* 'наперакор' (Нас.), укр. *переко́рюватися* 'спрачацца, узаемна дакараць', *перекір(очка)* 'пярэчанне', *перекі́рливий* 'які пярэчыць', рус. *перекóр* 'усё, што робіцца на злосць; дакор, ганьбаванне', *перекора* 'спрэчкі, сваркі', *перекораться* 'сварыцца', польск. *przekora, przekór* 'упартасць, свавольнасць; жарты', н.-луж. *pśekora* 'ўпартасць; спрэчкі, сварка', в.-луж. *překora* 'спрэчка, сутыкненне', *překorić so* 'пасварыцца', чэш. *příkoří,* валаш. *na překor* 'рабіць наперакор', славац. *priekor, robit' priekory* 'тс', славен. *prekȍr*

'сварка', серб.-харв. *prijèkor* 'дакор, папрок, упікі', макед. *прекор* 'тс' < прасл. **per-koriti* > *per-korъ*. Да *пера-* і *карыць₂* (гл.) (Фасмер, 2, 320; Шустар-Шэўц, 1172; Бязлай, 3, 111).

**Пера́карстававаць** (*пірікáрстывывыць*) 'адмучыцца, адпакутаваць' (Юрч. СНЛ). Зыходны дзеяслоў, відаць, да прасл. **korstiti* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 97). параўн. рус. пск. *корóститься* 'жаліцца, плакаць'.

**Перака́сціць** 'папсаваць; перамазаць, перапэцкаць' (Нас.). Да *пера-* і *касціць* (гл.).

**Перакатле́ць** (*пірікатлéць)* 'моцна перамёрзнуць' (Юрч. СНЛ). Відаць, да *пера-* і ⁺*катлéць* 'пасінець', параўн., рус. вяц. *котлéть* 'станавіцца чорным (як кацёл)'. Да *кацёл* (?).

**Перакаўляць** 'упрошваць, угаворваць, дакучліва прасіць' (Федар.). Зыходны дзеяслоў паходзіць, магчыма, ад літ. *kaũlyti* 'надакучліва прасіць'.

**Перакаці́-поле** 'стэпавыя травы, якія пасля выспявання адрываюцца ветрам ад кораня і перакочваюцца з аднаго месца ў другое' (ТСБМ), лун. *пэрэкоті́-пóле* 'скочкі дáхавыя, Sempervivum tectorum L.' (Бейл.). З рус. *перекати́-поле* (гл. РЯШ, 1973, 1, 83).

**Перакашары́ць** (*пырыкашыры́ты)* 'прыбраць, навесці парадак' (Клім.). Да *пера-* і *кашары́ць* (гл.), якое са ст.-яўр. *kāšēr* 'прыдатны'.

**Перакі́** *ставіць* 'пярэчыць' (люб., Жыв. НС). Да *пéрак* (гл.).

**Перакіда́цца**, *скідáцца* 'пературварацца ў іншую істоту' (Растарг.), *перакі́нуцца* 'пераўтварыцца' (карм., Мат. Гом.), *перакі́нуць* 'часова пераапрануцца ў іншае (сухое) адзенне' (Юрч.), мсцісл. *пірікідáньня* 'змена адзення' (Юрч. СНЛ), *перэкідáцца* 'перакульвацца, пераўвасабляцца' (ТС), *перэкі́нуцца* 'перакуліцца, змяніцца', найбліжэй да якіх стаяць польск. *przekinąć się, przekidać się* 'перакінуцца, перамяніцца; перакуліцца', ст.-польск. *przekinąć się* 'перайсці на чый-небудзь бок', параўн. "тэхналогію" пераўвасаблення ў ваўкалака: *перэкінецца церэз ножа і робіцца наподобіе воўка* (ТС). Да *пера-* і *кідаць, кідацца* < прасл. **kydati (sę)*, гл. *кідаць*, параўн. таксама ўкр. чарніг. *перекидáтися* 'пераапрануць, змяніць адзежыну' і 'пераўтварацца, абярнуцца'. Іншую версію прапануе Санько (Kryuja, 1996, 1, 92): *перакінуцца, скінуцца* 'перавярнуцца на кагосьці, ператварыцца' звязана не з

слав. **kinǫti, *kidati*, а з літ. *kìsti* (*kiñtà, kìto*) 'мяняцца, змяняцца', *kė̃isti (-čia, -tė)* 'мяняць, змяняць, перамяняць, абменьваць', *keĩtìklis* 'ператваральнік, унформер', *keitìmas* 'абмен, размен, змена, замена, ператварэнне', што ў святле прыведзеных вышэй фактаў не пераконвае, аднак балтыйскі ўплыў на семантыку 'змена (адзення і пад.)' адмаўляць няма падстаў.

**Перакі́нчык** 'здраднік, перабежчык', 'вераадступнік' (Гарэц., Др.-Падб.), *перакі́днік* 'хто ў час размовы рэзка мяняе свае погляды' (чэрв., Сл. ПЗБ). Да *перакідацца*, *перакінуцца* (гл.), параўн. польск. *przekińczyk*, ст.-польск. *pierekidczyk* 'вераадступнік', якія аўтары Варшаўскага слоўніка выводзяць з укр *перекúнець* = *перекúнчик* = *перекúдько* 'тс'.

**Перакла́д**, *парэ́клад, перэ́клад, пэрэкла́д*, *перакла́дзь* 'кладзь, верхняя апора страхі "на сохах"; 'салома на вільчыку пад кароткімі жэрдкамі-козламі' (палес., Нар. сл.), *перэ́клад*, *пырыкла́д*, *пэрэ́клад* 'падоўжная бэлька' (зах.-палес., ЛА, 4), *пірыкла́дзіна* 'падоўжная бэлька на сохах' (мсцісл., тамсама), *перэклад* 'тс', 'два палены пад кладкай дроў у печы' (ТС), *перакла́ды* 'жэрдкі, якія кладуцца па перыметру саней пры перавозцы сена, саломы' (ганц., Сл. ПЗБ), *перакла́дзіна* 'намарзень' (лаг., Шатал.), 'жэрдка, якой замацоўвалі лён у сушні' (пух., Сл. ПЗБ), 'лёстка ў драбінах' (жлоб., ЛА, 4), 'шапка ў вакне' (бераст., там жа), *перакла́д* 'верхні вушак у дзвярах', (лун., лельч., Нар. сл.), *перакладзіна* 'паўпрыца ў адтуліне верхняга каменя жорнаў' (гом., ЛА, 4). Укр. *перекла́д* 'перакладзіна; некалькі пален, падкладзеных у печы пад дровамі', польск. *przekładzina* 'перакладзіна ў коміне, на якой віселі і вэндзіліся шынкі і каўбасы', славац. *preklad* 'перамычка; верхні вушак у дзвярах, вокнах'. Паўночнаславянскае аддзеяслоўнае ўтварэнне **per-kladъ* < **per-klasti*. Да *пера-* і *кла́сці* (гл.).

**Перакле́так**, *перакле́ць* 'каморка ля ганку клеці' (Нас., Касп.; паст., Сл. ПЗБ), *перэкле́ць* 'шырокі ганак з навесам перад дзвярамі ў клець' (ТС). З *⁺перад-клетак*, *⁺перадклець*. Да *перад* і *клець* (гл.); *перэкле́тка* 'перагародка паміж клеткамі' (ТС) да *пера-* і *кле́тка* (гл.).

**Перако́п** 'роў з валам упоперак чаго-небудзь' (Растарг.), *піряко́п* 'роў, канава' (Бяльк.); рус. *перекоп* 'глыбокая канава з валам', польск. *przekop, przekopa, przykop(a)* 'роў, канал; абарончы роў', н.-луж. *pśekop* 'траншэя; роў', в.-луж. *překop* 'тс',

чэш. *příkop* 'роў, канава, кювет'; славац. *prekop* 'тс', славен. *prekòp* 'канал; роў', серб.-харв. *пре̏коп* 'папярочны роў, канава' — больш позняе аддзеяслоўнае ўтварэнне з прасл. **per-kopati* 'перакапаць', якое набыло розныя канкрэтныя значэнні ў паасобных мовах. Параўн. *перэкопа́ць* 'перакапаць, перарэзаць канавай' (ТС). У балг. (*изкоп*) і макед. (*ископ*) — з іншай прэфіксацыяй.

**Перако́ўка** 'папярочная града' (чэрв., Сл. ПЗБ). Да *пе́рак* (гл.).

**Перакл́убіцца** 'схіліцца набок, апусціцца адным бокам' (ТС). Да *пера-* і *клуб₃* (гл.).

**Перакра́са** (*перэкра́са*) 'непрыгожая, брыдкая дзяўчына' (Растарг.). Да *пера-* і *краса́₁* (гл.). Прыстаўка *пера-* абазначае празмернасць дзеяння — аж да адмоўнага выніку, як у дзеясловаў *перахвалі́ць, пераесці, перасіліць* і інш.

**Перакрой:** *перакрой малады* 'месяц у другой квадры', *перакру́й маладзіка* 'тс' (капыл., лоеў., ЛА, 2), укр. *перекрій* 'тс', рус. *перекрой*, 'змена фазы месяца; пачатак сходных дзён пасля поўні; поўня', стараж.-рус. *перекрой* 'пачатак сходных дзён пасля поўні' (1282 г.). Усходнеславянскае ўтварэнне, што ўзыходзіць да прасл. **per-krojiti* 'перакроіць', гл. *кро́іць* (гл.).

**Перакру́сенне** (*пырыкру́сэнне*) 'ніткі, якія ідуць ад задняга навоя да пярэдняга' (Сл. Брэс.). З ⁺*перакро́сенне*, якое з польск. мазав., падляш. *przezkrośnie* 'даўжыня асновы паміж навоем і ніткамі', параўн. таксама падляш. *przekrośnie*, *przekrosenie* 'прастора паміж навоем і ніткамі'. З *przez-* 'праз, цераз' і *krosenie* < прасл. ⁺*krosьnьje* < **krosno* > *кро́сны* (гл.). Параўн. яшчэ Трубачоў, Ремесл. терм., 16, 126—127.

**Перакрэ́сніца** 'скрыжаванне дарог' (брагін., Нар. словатв.). Утворана пры дапамозе суф. *-н-іц-а* ад *перакрэст*, параўн. *перакрэст* 'скрыжаванне' (навагр., Сл. рэг. лекс.). Да *пера-* (гл.) і *-крэст*, літар. *хрэст* < прасл. **krьstъ* 'крыж' < 'распяцце' < 'Хрыстос', якое са ст.-в.-ням. *krist, christ*. Сюды ж *перакрэ́стак*, *перэкрэ́сток, перакростак*, *перакрэ́сце*, *перакростак/ перахростак* 'скрыжаванне дарог' (Шатал., ТС, Ян., Сл. ПЗБ; ЛА, 2), гродз. *перакросткі* 'прыстасаванне для сотаў у верхняй частцы вулея' (Сцяшк. Сл.).

**Перакры́ш** 'хвароба — ламота ў касцях і асабліва ў крыжы' (Нас.), параўн. *перакрышы́ла* 'зламала нябачная сіла' (Нас.). Да *пера-* і *крышы́ць* (гл.).

**Пераксьціцца** (*піряксьціцца)* ‘перахрысціцца’, *піряксьціць* ‘перахрысціць’ (Нас., Мядзв., Бяльк.), *пярэкста* ‘яўрэй, які прыняў хрышчэнне’ (Нас.). Да *пера-* і *ксціць* (гл.), параўн. польск. *przechrzcić*, старое *przekrzcić, przechrzta* ‘тс’.

**Перакýлам** (*пірякýлым)* ‘пярэкулам, дагары нагамі’ (Бяльк.). Ад назоўніка $^+$*перакул*, які ад *перакуліцца*. Да *пера-* і *куляць*$_1$ (гл.).

**Перакулдыкнуцца** ‘перакуліцца’ (Бяльк.), смал. *перекулдыкнýться* ‘з цяжкасцю павярнуцца’. Рус. (Літва, Эстонія) *перекулдыхнýться* ‘перакуліцца’. Да *пера-* (гл.) і $^+$*-кулдыкацца*, якое можна супаставіць з літ. *kuldùkas* ‘драўляны абутак’, невыгоднасць карыстання якім прыводзіла да спатыкання і падання, асабліва ў снежную пару.

**Перакульбáчыцца** (*пырыкульбáчытыся)* ‘перакуліцца’ (кобр., Жыв. сл.). Да *пера-* і *кульбáка*$_1$ (гл.). Першапачаткова абазначала ‘выпасці з сядла’.

**Перакýльваць** ‘каціць, куляць’ (брагін., ЛА, 2), *пірікулíцца* ‘перакуліцца’ (Бяльк.). Да *пера-* і *кулáць*$_1$ ‘пераварочваць’ (гл.).

**Перакýльшчык** ‘адступнік, здраднік, рэнегат’ (Др.-Падб.). Да *перакýльваць* (гл.). Утворана паводле *перакíнчык* (гл.).

**Перакýс** ‘трава, якая мае галоўкі ў выглядзе шчаціны’ (Нас.). Відаць, гэта ‘зязюлін лён, Polytrichum’ (адносіцца да мохападобных). Параўн. польск. *mech włoskowy, biały mech, szczotka*, рус. кастр. *перекусник* ‘перекус, кукушкин лён’. Да *перакусáць* < *пера-* і *кусáць* (гл.). Магчыма, сюды ж *перакýс// крывáўніца* ‘зязюлін лён’ (Гарэц.). Мажа, *крываўнік* (?), як і ў польск. мове: *krwawnik, krwawnica* — ‘Achillea L.’

**Перакýчча** (*пырыкýччэ)* ‘праход між загародкамі ў хляве’ (кам., Нар. сл.). Да *пера-* (ці *перад-*) і *куча*$_2$ (гл.), якое з прасл. *kǫtja* ‘хата’ (параўн. серб.-харв. *кућа* ‘дом’, славен. *kóča* ‘хаціна’, макед. *куќа* ‘дом’, балг. *къща* і інш. (Лекс. Палесся, 161, 171), параўн. *кýчка* ‘загарадка (для курэй, качак і інш.)’.

**Пералáджуваць** *хату* ‘перабудоўваць’ (Ян.), рус. пск., смал. *перелáживать* ‘тс’. Да *пера-* і *лáдзіць* (гл.).

**Пералажыць** ‘заперці (дзверы)’ (лід., Сл. ПЗБ). Фармальна да *пера-* і *лажыць* (гл.), аднак семантычна падобна да літ. *užkélti* ‘замкнуць, зачыніць (вароты)’, у якім *kélti* мае (побач з іншымі) значэнне ‘перамяшчаць; пераводзіць, пераносіць’.

**Пералáз,** *пэрэлáзы* ‘ход цераз паркан, плот’ (Нас., ТСБМ, Гарэц., Янк. 3, Бес., Федар., Касп., Растарг.), ‘лавачка ў плоце ў тым месцы, дзе пералазяць праз яго’ (зах.-палес., Нар. сл.; ТС), ‘плот з жэрдак’ (ц.-палес., Нар. сл.; драг., Сл. Брэс.; Ян.; пін., іван., ЛА, 4); ‘месца ў плоце, дзе пералазяць’ (усх.-палес., Нар. сл.); ‘нізкая агароджа вакол пчальніка’ (Нас.); *пералáзы* ‘варотцы ў двор’ (Сцяшк. Сл.). Укр. *перелáз* ‘месца, дзе пералазяць праз пляцень’; рус. *перелáз* ‘лавачка ў плоце, дзе пералазяць’; польск. *przełaz* ‘месца, дзе пералазяць; лавачка, сходцы для пералазання на другі бок’, н.-луж. *pśelězk*, чэш. *přelez, přílazek*, славац. *prielaz* ‘тс’, славен. *prelàz* ‘горны праход, перавал’, серб.-харв. *прéлаз* ‘пераход, пераезд; брод’, макед. *прелез* ‘лаз, пралаз’, балг. *прéлез* ‘пералаз, пераезд, пераход’. Прасл. **per-lazъ/ per-lězъ*. Да *пера-* і *лéзці, лáзіць, лáзаць* (гл.).

**Пералáзіны** ‘пераезд у новы дом’ (Нас.) — у выніку кантамінацыі лексем *пераход* і *ўлазіны* ‘тс’.

**Пераламáць** (*пырыломáты)* ‘пераараць іржышча’ (стол., Нар. лекс.), *пірілумáць (пáхыту)* ‘апрацаваць бараной адзін раз’ (Юрч. СНЛ), *пераламíцца* ‘пераламацца’ (Бяльк.). Да *пера-* і *ламáць* (гл.), параўн. *перамяшáць* ‘пераараць папар вясною’, *перабівáць* ‘баранаваць перад сяўбой’ і пад.

**Пералапаціць** (жыта) ‘перамешваць лапатай для прасушвання’ (полац., Нар. лекс.). З рус. *перелопатить* ‘тс’ (= перемешать лопатой).

**Пералáсы:** *пералáсая карова* ‘пярэстая, у палосы’ (бабр., ЛА, 1). У выніку кантамінацыі лексем *пярэ́сты* і *пялясы* ‘з белымі палосамі на чорным фоне ці з чорнымі на светлым’ (Нас.). Параўн. яшчэ *перапялёсы* (гл.).

**Пералéзлы** ‘стары’ (астрав., Сцяшк. Сл.). Да *пера-* і *лéзці* (гл.); звычайна *аблезлы*, *разлезлы* ‘тс’; магчыма, тут мае месца канкурэнцыя прыставак **per-* і **ab-*, характэрная для балта-славянскага пагранічча, параўн. *перамагаць/ абмагаць* ‘браць верх, адолець’ (Непакупны, Связи, 85).

**Пералéска** ‘пралеска’ (Бяльк.). Да *пера-* і *лéска*$_{I}$. Першапачаткова азначала расліну, якая расце каля арэхаў (прасл. **lěska* ‘арэшнік’). Аналагічна ст.-чэш. *podléščka, podleštka*, чэш. мар. *podléska, podlíska*, ст.-польск. *podlaska*, польск. *przylaszczka* (< **pri lěscě*), укр. *перелíска*, *пролíска*, рус. *перелеска* ‘Hepatica Mill. nobilis Garsault.’ (Махэк, Jména, 48).

**Пералéтаваць** (*піралéтаваць*) ‘прабыць пераджыць лета’ (Варл.), бяроз. *пырылітуваты* ‘тс’ (ЖНС), *пералéтак, пералéтка*, ‘пералетавалы бычок ці жарабя; свойская жывёла, якая пераджыла адно лета’ (ТСБМ, Бяльк., Касп.; докш., Янк. Мат.; докш., паст., Сл. ПЗБ; усх.-бел., зах.-палес., ЛА, 1); укр. *перелітувати* ‘правесці лета’, *перелітка* ‘карова, якая целіцца праз год’, рус. *перелéтовáть* ‘пражыць, правесці, праляжаць лета’, *перелéток* ‘гадавалы воўк’, ‘гадавалая цялушка, жарабя’, польск. *przelatek* ‘воўк, які нарадзіўся ў мінулым годзе’, славен. *prelętováti* ‘правесці лета’, серб.-харв. *прѐлетити* ‘тс’. Прасл. **per-lětovati*. Да *пера* і *лéта, лéтаваць* (гл.).

**Пералéчасты** (*пырылíчастый*) ‘мінулагодні’ (Клім.). Да *перад-* і *лéта* ‘год’ (гл.).

**Пералёк** ‘пярэпалах’: *захварэці од паралёку* ‘пярэпалах’ (брэсц., ЛА, 3), *пералёкі* ‘перапуд’ (Нас.), смал. *перелёк* ‘перапалох’. Гл. *пераляк* (< прасл. **per-lękъ*); мена *я* (< *ę*) > *ё* вядомая і ў іншых гаворках: ст.-дар. *ад ізлёку*, талач. *ату лёку*, добр. *ад улёку* — пра гэта гл. Карскі, 1, 99.

**Пералёскаць** (*піралёскыць*) ‘перамагчы ў лясканні кнутом’, ‘перабіць (напр., куранят) (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *лёскаць*, якое з рус. зах. і паўд. *лёскать* ‘біць, ляскаць пугай’. Параўн. яшчэ *ляскаць* (гл.).

**Пералёт**[1] (*піралёт)* ‘белая канюшына’ (міёр., Жыв. НС), ‘расліна Anthyllis vulneraria L.’ (маг., Кіс.; Дэмб. 1; барыс., КЭС; Шат.); *пералёт, пералот* ‘чарнакорань прысадзісты, Scorzonera humilis L.’ (маг., Кіс.; Дэмб. 1); *пералётнік жоўты* ‘пералёт, Anthyllis L.’, *пералётнік чырвоны*, гродз. *пржалетнік* (канюшына, Trifolium alpestre L.’, *пражалот* (< $^{+}$*пржалёт* < польск. *przelot*) ‘канюшына горная, Trifolium montanum L.’ (брэсц., гродз., Кіс.), *пералётнік*, паст. *пералёт* ‘пералёт’ (навагр., паст., Сл. ПЗБ). Укр. *перелíт, перелет* ‘тс’, рус. дыял. (Літва) *перелéт* ‘лекавая расліна (?)’: *перелетом детей курют, когда спужаются* (СРНТ, 26), польск. *przelot* ‘тс’. Назва расліны звязана з хваробай *пералёк* (гл. папярэдняе слова). Так у рус. гаворках *перелёт* — ‘расліна’ і ‘перапалох’ (СРНГ, 26, 141—142). На беларускай тэрыторыі *пералёт* таксама выкарыстоўваецца як лекавы сродак ад спалоху і ад сурокаў, як і на чэшскай, дзе ён называецца *úročník* (яшчэ ст.-чэшск.), валаш. *úročka, uročnica*. У даўніну яму надавалася

вялікае магічнае значэнне: яго рвалі ў купальскую ноч (Махэк, Jména, 121—122). Параўн. рус. *перелёт-трава* — яе шукаюць на шчасце і ўдачу ў ноч перад Іванам-Купалай; трава гэтая — казкавая, кветка яе вясёлкавая, вогненная,队пералятае матыльком і паказвае дарогу да скарбаў у зямлі, апошняе і дапамагло лексеме аформіцца як вытворнай ад *пералётваць, пералятаць* (Фасмер, 3, 238).

**Пералёт₂** 'прамежак паміж гадавымі кольцамі на рогах каровы' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *пера-* са значэннем 'ахоп дзеяннем пэўнай прасторы' і *лéта* 'год', *лéтаваць* 'жыць на працягу лета' (гл.).

**Пералётнік₁** 'пухоўка, рагоз, Typha latifolia L.' (гродз., ЛА, 1). Да *пера-лятаць*: насенне (у выглядзе пуху) з верхняй часткі кіяха ў канцы лета адлятае з яго, параўн. і *пералётнік* 'дзьмухавец' (Сцяшк. Сл.).

**Пералётнік₂** 'гарычка, Gentiana L.' (жытк., Мат. Гом.), сюды ж, відаць, і *саколлі пералёт* 'гарычка крыжападобная, Gentana cruciata L.' (мін., Кіс.). Няясна. Да *пера-лятáць* (?). Магчыма, ад накрыж проціпастаўленых лістоў, якія (у пары) выглядаюць, як распушчаныя крылы птушкі.

**Пералíк** 'памылка пры падліку ў бок павелічэння сумы' (Нас.), 'перападлік' (ТСБМ, Бяльк.), *пірялíчка* 'праверка ліку' (Бяльк.). Укр. *перéлік* 'спіс; справаздача'; рус. (паўд., зах.) *перелúка* 'перападлік, праверка наяўнасці' (Даль). Да *пера-* і *лічы́ць* (гл.), у значэнні 'падлік, пералік, праверка наяўнасці', хутчэй за ўсё, калька з рус. *пересчёт* 'тс'.

**Пералíнка** 'вышыўка' (акц., Мат. Гом.), параўн. рус. сіб. *перелúна* 'шырокі каўнер да плеч на сукенцы; верхняя частка кашулі, сукенкі; вышытая верхняя частка фартуха'. З рус. *пелерúна* 'палярына', пачатак слова збліжаны да *пере-*, бел. *пера-* (гл.).

**Пералíўкі** 'дробная страта; пусты занятак: пераліванне з пустога ў парожняе', 'невялікі навáр, даход' (Нас., Шат.), 'драбніца, жарт' (Шат.), звычайна ў спалучэнні з *не* (*не-*): *не перэліўкі* 'не паласа, нічога добрага не чакай' (ТС), гл. *непераліўкі*: да *пера-* і *ліць* (гл.). Укр. *перéливки* 'не жарты, не дробязі', рус. *перéливки*, пск. 'памыі', 'жарты, смех, кпіны', смал. 'пустыя размовы', *на переливки* 'на спрэчку', польск. *przelewki* 'п'яныя жарты', звычайна ў фразеалагізме *to nie przelewki* 'гэта не жартачкі!',

*przelewka* 'зліў, спуск шлаку'. Усх.-слав.-польск. ізалекса, з першапачатковага 'пералітае праз край', хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе спаборніцтва ў перапіванні, параўн. польск. *przelewać* 'ужываць без меры', якое Банькоўскі (2, 858) трактуе як переклад франц. *transfuser* 'тс'. У іншых слав. мовах — без суф. *-к-*: в.-луж. *přeliw*, н.-луж. *pśelew*, серб.-харв. *пре̏лив*, славен. *prelívanje, prelív*, балг. *прели́ване*. Параўн. *непераліўкі* (гл.).

**Пералог** 'луг сярод поля ці сярод лесу' (Шат.), 'аблога' (Нар. Гом.), 'ялавіна' (*не сеіць год ці два*) (стаўб., Сл. ПЗБ). Укр. *переліг* 'некалькі гадоў неапрацоўваемая зямля', рус. *перело́г* 'парослая травой ці лесам зямля', 'незаараная палоска раллі', польск. *przełóg*, чэш. *příloh*, славац. *prieloh*, славен. *prélog, prẹlog*, серб.-харв. *prijȅlog*, макед. *прелог*, балг. *пре́лог*. Прасл. **per-logъ*; да *пера-* і *ляжа́ць* (гл.), бо зямля "пералежвае" (Лекс. Палесся, 42); Банькоўскі (2, 861) мяркуе, што зыходнае значэнне ў польск. *przełożyć* 'пераўтварыць пашу ў раллю'; параўн. *адло́г* 'пакінутая ("адлажаная") зямля'.

**ПераЛо́гі** 'эпілепсія' (жыт., Арх. ГУ), *перэло́га, перэло́гі* 'ліхаманка' (часцей у праклёнах), *пераложны* 'хворы на ліхаманку' (ТС), *перэло́гі* 'хвароба на жывот у коней і буйной рагатай жывёлы' (мазыр., З нар. сл.), 'рожа ў свіней' (стол., ЛА, 1), *пэрэло́гі* 'хвароба свойскай жывёлы' (Сл. Брэс.), 'курч, сутарга' (Нар. лекс.), *пералога* 'нягоднік', *пераложны* 'нядобры; прыпадачны' (жыт., Арх. ГУ; Мат. Гом.); *пералягáць: пералягáе* 'шкодзіць', параўн. у фразе: *лішняе, можа, з'еў, дак яму і пералягло́*. Укр. *перело́ги* 'курчы, сутаргі ў скаціны'; рус. *перело́ги* 'запор у дзяцей; болі ў жываце (у жывёлаў)', 'хвароба жывёл, калі перастаюць хадзіць заднія ногі', ст.-слав. прѣлогъ 'дызентэрыя'. Прасл. **per-logъ*. Да *пера-* і *ляжа́ць* (гл.), параўн. *далягáць* 'балець, турбаваць, шкодзіць' (гл.). Сюды, відаць, каш.-славін. *parłąga* 'назойлівасць, дакучлівасць', вытв. *parłąžëc są* 'надаядаць, прыставаць', што да **legti* (Варбат, Слав. языкозн. IX, 66—67).

**Пераложак** 'вузкі праход па засеяным полі' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Паводле ілюстрацыі, маецца на ўвазе мяжа, якая ў параўнанні з засеяным полем з'яўляецца фактычна вузенькім пералогам. Да *пералог* (гл.).

**Пераломіца** 'няшчасце (у праклёнах)' (пух., Сл. ПЗБ), *перало́ма* 'пустата', *на першым гумне салома, на другім — пералома* (гом., Мат. Гом.), 'гвалтоўная перамена парадкаў' (тамсама),

ст.-рус. *переломъ* ‘назвы розных хваравітых станаў (XVI ст.). Да *пера-* і *ламáць* (гл.), параўн. *пералóма* ‘рэзкая змена, пералом’ (Юрч. СНЛ).

**Пералýпы** (*пырылýпый)* ‘пярэсты’ (брэсц., ЖНС). Да *пера-* і *лупíць* (гл.) — ад апошняга ўтварэнне *луп-(ы)* набыло значэнне ‘вынік пасля біцця ці аблуплівання, здзірання скуры, шалупіння — пасы, пісагі’. Параўн. укр. закарп. *перелýпий* ‘раздзелены напалам’, ‘двухколерны’, *перелупи́ти* ‘пераламаць’ і польск. *przełup* ‘адламаны кавалак, злом’.

**Пералю́бка** (*піралю́бка)* ‘асоба, якая парушае шлюбную вернасць’ (слаўг., Нар. словатв.). Укр. *перелю́б(ки) чини́ти* ‘пралюбадзейства рабіць з кім-небудзь’, серб.-харв. *прéљуб(а)*, макед. *прељуба*, ‘тс’. Відаць, са ст.-слав. прѣлюбы дѣяти, творити ‘тс’. Суфікс *-ка*, як у *лю́бка$_1$* (гл.).

**Пералю́бнае** ‘самае смачнае; тое, што хочацца есці’ (калінк., З нар. сл.), *пералю́бны* ‘найлепшы, прыгожы’, ‘любы, усялякі’ (Ян.). Відаць, яшчэ прасл. **per-ljubьnъ* ‘надзвычай мілы, любімы’. Да *пера-* (са значэннем празмернасці) і **ljubьnъ*, (параўн. рус. пск., цвяр. *лю́бный* ‘які больш падабаецца’, ст.-польск. *lubny* ‘мілы, прыгожы’, чэш. мар. *libný, l’ubný* ‘тс’, ст.-слав. любьнъ ‘любімы, мілы’, дзеепрыметнік ад **ljubiti*, гл. *любíць*.

**Пералякˊ** ‘перапалох’ (слонім., Станк.; Нар. Гом.; Бяльк., Растарг.), у выразах: *з пераляку* (Нар. Гом.), *од пырыля́ку, пярэ́ляку* (брэсц., ЛА, 3). Укр. *переля́к*, рус. пск., смал., бранск., пенз. *переля́к* ‘перепалох, страх’, польск. *przelęk* ‘перапалох, страх’, славац. *prel’akaný* ‘напалоханы’, *prel’aknutie* ‘перапалох’. Да прасл. **per-lękъ > пера-* і *ляк$_1$* (гл.).

**Перамагáнне** (*пірімыгáньня)* ‘перамога’ (Бяльк.), польск. *przemaganie*, чэш. *přemáhání*, славен. *premáganje*. Да *перамагáць* < *пера-* і *магчы́* (гл.). Магчыма, яшчэ праслав. **per-magati* (як **po-magati*), параўн. укр. *перемагáти(ся),* рус. *перемогáть(ся),* польск. *przemagać (się),* чэш. *přemáhati (se),* славац. *premáhat’ (sa),* славен. *premágati*, серб.-харв. *премáгати* ‘перамагаць’.

**Перамагчы́ся** (*пырымогты́сь*) ‘ператаміцца’ (кам., ЖНС), кобр. *пэрэмугты́* ‘пашкодзіць, натрудзіць руку работай’ (Нар. лекс.). Польск. *przemóc się* ‘вы́сіліцца, сарваць сабе сілу’. Польск.-зах.-палес. ізасема. Да *пера-* і *магчы́* (гл.).

**Перама́начка** фальк. 'той, хто умее спакусіць, прывабіць да сябе' (Нар. Гом.). Да *пера-* і *маніць* (гл.). Суфікс з ласкальным значэннем — спецыфіка фальклору (песні).

**Перама́рчыць** 'выдаткаваць без разліку', 'замучыць, давесці да згубы; сапсаваць' (Ян.), *pieramarczyć (hroszy)* 'схаваць, перахаваць (каб не маглі знайсці)' (Арх. Федар.). З польск. дыял. *przemarcyć* 'выменяць на што-небудзь', якое з ням. *markten* 'таргавацца', 'гандляваць' (Варш. сл., 5), або да *маро́чыць* 'дурыць, абманваць', гл. *маро́ка.*

**Пераме́жка** 'невялікая змена (напр., надвор'я)', 'прамежак' (Нас.), рус. цвяр., пск., кастр. *переме́жка, перемёжка* 'часовае спыненне, невялікі перапынак у працы'. Да *праме́жак* (гл.), які паводле будовы адпавядае літ. *prótarpis* 'прамежак'. Мена *пра- > пера-* — рэгіянальная "крывіцкая" асаблівасць, параўн. яшчэ рус. маск. *перемежу́ток = промежу́ток* 'тс', *переме́жье* 'прамежак часу'. Утворана з *пера-* і *мяжа* (гл.) — першапачаткова 'прастора паміж межамі чаго-небудзь', 'заканчэнне аднаго перыяду і пачатак іншага'.

**Пераме́л** 'неглыбокае месца на ўсю шырыню ракі, на возеры, мель' (ТСБМ; Янк. БП; слуц., КЭС; брагін., Мат. Гом.; ТС). Укр. *переміль* 'тс', рус. *пе́ремель, переме́ль* 'мелкае месца, якое раптоўна з'яўляецца на рацэ', польск. *przemiał* 'перакат'. Да *пера-* і *мель* (гл.). Утворана паводле *пераброд* (гл.) — блізкасць семантыкі.

**Пераме́тнік₁** 'здраднік' (Нас.), рус. маск., валаг. *перемётник* 'пераменлівы чалавек', *переме́тчик* 'здраднік'. Відаць, калька з рус. мовы. Параўн. *перакінчык* (гл.).

**Пераме́тнік₂** 'церассядзёлак' (малар., Нар. словатв.). Рус. ярасл., сіб. *переме́тник* 'тс'. Відавочна, запазычана з рус. мовы ў перыяд бежанства ў Расію ў Першую Сусветную вайну.

**Пераме́шка** 'перашкоды' (Касп.; зэльв., Сл. рэг. лекс.). У выніку кантамінацыі бел. *перашкода* і рус. *мешать* 'перашкаджаць'.

**Пераме́шківаць** 'часова жыць' (Нас.). З польск. *przemieszkiwać* 'кватараваць'.

**Пераме́я** 'брод' (нараўл., Мат. Гом.). З⁺ *перамеля* (гл. *пераме́л*), у якім [-*л'*] > [*й*].

**Перамёт₁** 'рыбалоўная сетка з кручкамі, нацягнутая на калкі' (ТСБМ; Крыв.), *перэмёт* 'доўгі шнур з некалькімі дзесяткамі

кручкоў з нажыўкай, працягнуты на дне сажалкі' (Дэмб. 2; Бяльк.; Крыв.); вядомы ва ўсёй Беларусі, апрача Зах. Брэстчыны — гл. Браім, Рыбалоўства, 80—81; (ТСБМ; Крыв.), рус. *перемёт, перемёт* 'тс', 'вялікая рыбалоўная сетка, невад', *перемёта* 'вялікая сетка, якая ставіцца ўпоперак ракі на калках', *перамёт* 'моцная вяроўка, якой прывязваюць прут у ярме да рагача сахі' (Смул.). Да *пера-* і *мятáць$_1$* (гл.) 'кідаць, закідваць, перакідваць праз раку', параўн. укр. *перемíтка* 'кладка'. Крукоўскі (40) мяркуе, што гэта запазычанне з рус. мовы ў сувязі з адсутнасцю ў народнай мове адпаведнага дзеяслова — цалкам мажліва.

**Перамёт$_2$** 'памылка пры снаванні красён' (Ян.). Да *перамóт* (гл.).

**Перамітузíць** 'суняцца (пра боль)' (паст., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *мітусíцца* (гл.), значэнне, магчыма, адлюстроўвае сувязь з лат. *mits*, *mitus* 'мена' (Лаўчутэ, Балтизмы, 55—56), на магчымае балтыйскае паходжанне *мітусíць* 'перашкаджаць, трывожыць' звярнуў увагу яшчэ Карскі (Труды, 393).

**Перамóва**, *перамовы* 'перагаворы' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Нар. Гом.), смал. *перемóвы* 'тс'. У выніку кантамінацыі польск. *przemowa* 'гаварэнне, прамова, выступленне' і рус. *переговоры* 'перагаворы'.

**Перамóга** (*пірямóга*) 'поспех у змаганні, на вайне; поўны поспех, трыумф', 'пераадоленне' (Нас., Гарэц., ТСБМ, Бяльк.), *перамагáць* 'пераадольваць' (Шат., Касп.), 'браць верх' (брасл., Сл. ПЗБ), 'пераганяць каго-небудзь, апярэджваць' (Ян.), *перамагчы́, перамогчы́, пірямóч* 'перамагчы' (ТС, Сл. ПЗБ, Бяльк.), рус. смал. *взяць перемóгу* 'ўзяць верх'. Укр. *перемóга*, палт. *перемáга* 'перамога', польск. малаўжывальнае і семантычна адрознае *przemoga* 'сіла, моц', якія з'яўляюцца ўтварэннямі з прыстаўкі *пера-* і дзеяслова *магчы* (гл.) < прасл. **per-* і **mogti* > **per-magati* (параўн. яшчэ ст.-усх.-слав. *перемогати* 'намагацца перамагчы' (1216 г.), *перемогати се* (1140 г.), *перемочи* 'перамагчы' (1216 г.), а таксама польск. *przemóc, przemagać*, чэш. *přemoci, přemáhati*, славац. *premôcť, premáhať*, славен. *premôči*, серб.-харв. *премáгати* 'перамагаць, перамагчы') пры дапамозе суфікса *-а* з абстрактным значэннем (як *слав-а, кар-а, а-барон-а, трав-а*). Аналагічная будова слоў з той жа семантыкай заўважана ў балт. мовах (Непакупны, Связи, 84—84): з прыстаўкай *ap-/ab-* і дзеяслова са зна-

чэннем ‘магчы’ — гэта пруска-літоўска-беларускі арэал (прус. *ep-war(r)īsnan* (В. скл.) — літ. жамойцк. *ap-galė* < паўд.-літ. *ap-galėti* ‘перамагчы’ — бел. гродз. *абмагáць* (гл.) і з прыстаўкай *per-* літоўска-беларуска-ўкраінскі арэал (літ. *per-galė* — бел. *пера-мога* — укр. *перемóга*).

**Перамóт** ‘памылка пры снаванні кроснаў: нітку кладуць не на адпаведную губіцу (калок)’ (Сл. ПЗБ, Варл., Мат. Гом., Шатал., ТС, Скарбы, Сл. Брэс., Бяльк.; гродз., брагін., Нар. сл.; мсцісл., Жыв. сл.), *перамёт* ‘тс’ (Ян.); укр. *перемíт*, рус. смал., разан., кастр. *перемóт*, польск. *przemot, przemota*, чэш. *přímota*. Паўночнаславянская ізалекса. Да *пера-* і *матáць* (гл.). Пра чаргаванне *о/е* гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 107 (прасл. **męto: motъ*). Сюды ж бялын. *перамоты* ‘вітка для перавівання калкоў плоту’, *перэмоты* ‘перапляценне перадка ў санях’ (ТС), толькі з іншым значэннем прыстаўкі *пера-*.

**Перамóўка** ‘сварка’ (Нас.), *пэрэмóўка, пырэ́моўка* ‘тс’ (бяроз., драг., ЛА, 3), смал. *перемóлвка* ‘непаразуменне’, рус. кастр. ‘калатнеча’, польск. *przemówka* ‘папрок’. Паўн.-слав. Да *пера-* і *мовіць* (гл.).

**Перамóўчка** ‘момант, калі сабака не падае голасу ў пагоні за зверам’ (б.-каш., Мат. Гом.). З рус. *перемóлчка* ‘перапынак у брэху ганчака, які, згубіўшы след праследуемага звера, ненадоўга сціхае, пакуль зноў не возьме след’, якое да *пера-* і *маўчаць* (гл.).

**Перамýснік** (*пэрэмýснік*) ‘частка аброці — наморднік’ (петрык., Маслен.). Да *пера-* і *мыса* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 247.

**Перамуцíцца** ‘хвароба парасят на панос пасля адкідання іх ад маткі’ (ТС). Да *пера-* і *мыт₃* (гл.).

**Перамы́ты:** *як пірамы́тый* ‘гладкі, укормлены’ (полац., Нар. лекс.). Да *перамы́ць* ‘памыць яшчэ раз’, гл. *мыць*.

**Перамы́чачкі** (*перэмýчэчкі)* ‘недапрадзеная частка мычкі, якая мыканнем рыхтуецца на другаснае прадзіва’ (лельч., Уладз.). Да *пера-* (са значэннем ‘перапрацоўваць, нанава рыхтаваць’) і *мычка₁* (гл.). Аналагічна ўтвораны: *перамы́чка* ‘перакладзіна над вушакамі’ (бялын., ЛА, 4), параўн. ст.-рус. *перемычка* ‘дугападобнае скляпенне, арка’, і бел. *перамы́чка* ‘вузкая палоска паміж воднымі масівамі, плаціна, гаць’ (ТСБМ), аднак у апошнім *пера-* мае значэнне ‘раздзяляць’.

**Перамя́каць** (*пірімя́кыць)* 'перабарукаць' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *мя́каць* 'біць тупым па мяккім', 'падаць', 'валіць', якое да прасл. **mękati* 'таўчы, мяць, біць, жаваць' — ітэратыва да архаічнага дзеяслова *mękti* (Трубачоў, Эт. сл., 18, 240—241), існаванне якога дапускаў Махэк$_2$ (358). Да прасл. **mękъ-jь* > *мяккі* (гл.).

**Перамяша́ць** 'апрацаваць зямлю плугам пасля баранавання' (чэрв., Сл. ПЗБ), палес. *пэрэмэша́т', перэміша́ты* 'ўзараць папар вясною другі раз' (Выг.). Да *пера-* і *мяша́ць* (гл.).

**Перамяжы́ць** (*пірамяжы́ць)* 'заспакоіць, абязболіць' (Варл.). Няясна. Магчыма, балтызм, параўн. літ. *pérmegzti* 'перавязаць (напр., палец)'.

**Пе́ран** 'пярун' (светлаг., рэч., Мат. Гом.), *пе́рань* 'пярун', 'гром' (Ян.). Да *пяру́н* (гл.). Націск на першым складзе, магчыма, пад уплывам польск. *piorun* 'маланка, гром', аднак змены ў вакалізме застаюцца нявытлумачанымі.

**Перанараві́ць** 'перачакаць' (Нас.). Да *пера-* і *нораў* (гл.).

**Перанітава́ць** 'пераніцаваць' (ТСБМ, Яруш., Шпіл., Федар., Бяльк.). З *пераніцава́ць,* збліжана з *нітка;* да *пера-* і *ніцава́ць* (гл.).

**Перані́шпарыць** 'перапароць, перашукаць' (Касп.). Да *пера-* (гл.) і *нішпарыць* (гл. *нышпарыць*), якое ў выніку перастаноўкі зычных першага складу з *шніпарыць* 'шнырыць; шукаць якую-небудзь ежу, прынюхваючыся' (гл.), магчыма, у выніку збліжэння з *мышкава́ць* 'вынюхваць, падкрадвацца', *нішкам* 'цішком, употай', *нішкаваць* 'вынюхваць, падкрадвацца' (гл.).

**Перано́сіца** 'пераноссе' (навагр., ЖНС), *пірано́сіца* 'верхняя частка носа між вачэй' (Варл.). Лексема з суф. *-іц-а* (як у балг. і серб.-харв. мовах) — пад уплывам рус. ці ц.-слав. мовы, параўн. яшчэ ст.-рус. *переносица* 'тс' (з 1682 г.).

**Пераня́ць** 'перахапіць, падхапіць у час руху; засвоіць, запомніць; запазычыць', трак. 'захварэць на панос', віл. 'прыняць дзіцё пры родах' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *перейня́ти, переня́ти, переяти* 'пераймаць, перахопліваць, пераняць', рус. *переня́ть* 'пераняць, перахапіць', пск. 'сустракаць ля брамы свайго дома', польск. *przejąć, przejmać* 'узрушыць; прысвоіць, успадкаваць; перахапіць'. Паўночнаславянскае. Да прасл. **per-jęti*. Гл. таксама *пераймаць, узяць* і *-няць*.

**Перапа́длівы** 'нясталы ў сіле і здароўі' (Касп.); сюды ж *пэрэпадэ́стый* 'няўстойлівы, зменлівы — пра надвор'е' (кобр.,

Нар. лекс.), польск. *przepadzisty* 'дажджлівы, які падае з перапынкамі'. Блізкая семантыка ў дзеясловаў *перапа́сці*, *перапа́сць* 'схуднець' (Др.-Падб., Гарэц.), *перапа́сціся* 'тс' (ТСБМ, Янк. 3, Мат. Гом., Скарбы), *перапада́цца* 'прыніжацца, вельмі дагаджаць' (слонім., Нар. словатв.), *перэпа́двацца* 'згінацца ў пояс' (ТС) і ў польск. *przepadać się* 'сохнуць, мізарнець, марнець', 'ліць з перапынкамі (пра дождж)', а таксама ў рус. *перепада́ть* 'худзець, слабець, знясільвацца', *перепада́ться* 'ўпасці', 'пераставаць ісці (пра дождж)'. Параўн. таксама чэш. *přepadlý* 'пахудзелы, змарнелы', славен. *prepádati* 'прыходзіць да заняпаду'. Да прасл. **per-padti*. Гл. *пера-* і *па́сці* (гл.).

**Перапалёчнік** 'маруна (павіліца) сапраўдная, Galium verum L.' (вілен., Кіс.). Кантамінаваная назва з *перад полем* + *урочнік* (іншая назва гэтай расліны) — расліна любіць расці на сухіх ускрайках лесу, дзе шмат святла.

**Перапало́нка** (*піріпалонка*) 'перакладзіна над варотамі' (Юрч. СНЛ). Магчыма, угрфінізм. Параўн. вепск. *pel'* 'верхні вушак у дзвярах ці вокнах', *päl'iń̕e* 'верх, верхні бок', удм. *pel* 'вуха' (і бел. *вушак*).

**Перапало́сы** 'пярэсты (аб карове)' (бых., рагач., ЛА, 1), *перэполо́сы* 'рабы' (ТС). З *перапялёсы* 'тс' (гл.), другая частка лексемы зменена пад уплывам *паласа́* (гл.) у выніку яе пераасэнсавання.

**Перапало́х** 'спалох, збянтэжанасць': *захварэць з перапалоху, з пярэпалаху* і інш. (зах.-бел., маг., гом., ЛА, 3). Укр. *переполо́х* 'пераляк; хвароба з перапалоху', рус. *переполох* 'тс', 'трывога', польск. *przepłoch* 'паніка', 'страхі', 'хвароба ад перапалоху', славен. *preplàh* 'перапалох', 'паніка, трывога', параўн. серб.-харв. *прѐплашити* 'перапалохаць', макед. *преплаши* 'тс'. Прасл. **per-polchъ*. Да *пера-* і *полах* (гл.), якое роднаснае ст.-грэч. πάλλω 'размахваю, трасу', 'моцна біцца (аб сэрцы)', 'дрыжэць ад страху', гоц. *(us)filma* 'пераляканы' (КЭСРЯ, 334; Шанскі—Баброва, 230).

**Перапалязі́ца** 'пажарніца наземная, Calamagrostis epigeios (L.) Roth.' (маг., Кіс.). Да *пераполы* 'пусты, дзікі, незасеяны', параўн. ст.-рус. *переполье* 'дзікае поле', *переполянье* 'палянка, вакол якой лес' (XVII ст.) < *пера-* і *полы* (гл.); тады *перапалязі́ца* — 'пажарніца, якая расце на неапрацоўваемым полі'.

**Перапарэ́ць** ‘скончыцца’ (карэліц., ЖНС). Да *пера-* і *пара́* (гл.). Утворана так, як *пера-мучыць* < *му́ка* (Усціновіч, вусн. паведамл.).

**Перапа́скі** (*перэпа́скі)* ‘чарга пасвіць жывёлу’ (івац., ЛА, 1). Рэгіяналізм. Да *пера-* і *пасці*[1]. Утворана, як і *пераведкі* ‘адведкі’.

**Перапа́ташыць** (*перэпа́тошыць)* ‘знішчыць, павыталаваць’ (ТС). Да *пера-* (гл.) і *па́тошыць* ‘знішчаць, руйнаваць’ (тамсама), якое можна параўнаць з мар. *patoš* ‘моцны дух у выглядзе дракона’. Няясна. Магчыма, генетычна звязана са ст.-грэч. πάνος ‘пакуты, гора, паражэнне’.

**Перапаява́ць** *(перэпоёва́ць)* ‘знішчыць, выкараніць’ (ТС). Вытворнае ад *паява́ць* ‘нішчыць’, гл. *пай* ‘выбітае, вытаптанае месца’.

**Перапая́саны** ‘перавязаны вышытым ручніком’ (кам., Жыв. НС). Да *пера-* (гл.) і ⁺*пая́саць* ‘абвязваць поясам’, параўн. рус. *поясать*, ст.-слав. поясати ‘тс’, макед. *препаше* ‘падперазаць’.

**Перапая́сы** ‘пярэсты (вол, карова)’ (мазыр., ЛА, 1), ‘масць вала, кабана’ (Янк. 2). З *перапаля́сы* ‘з доўгімі палосамі’ (Нас.) (гл.) з менай *-ля-* на *-я-* пад уплывам лексемы *пояс* ‘пас, паласа’. Параўн. таксама *перапалосы* (гл.).

**Перапе́рці** ‘перацягнуць, перанесці ў іншае месца’, ‘узяць верх у спрэчках, перамагчы, пераканаць’ (ТСБМ, Нас.), *перапе́рць* ‘перайсці, перавезці’, ‘пераканаць у іншым’ (мсцісл., З нар. сл.), *пырыпэ́ртэ* ‘перамагчы’, ‘пераканаць’ (Сл. Брэс.), *перапіраць* ‘з цяжкасцю пераносіць што-небудзь’, ‘пярэчыць, спрачацца’ (Нас.), ст.-бел. *перепереть* ‘пераадолець супраціўленне ў спрэчцы, даказаць’. Да прасл. **per-pьrěti* ‘пераканаць’ і **per-perti*, **per-pirati* ‘перацягваць, перасунуць’, укр. *перепе́рти* ‘перацягнуць, перавезці’, ‘перамагчы ў спрэчцы’, рус. арх. *перепира́ть* ‘угаворваць, пераспрачаць’, польск. *przeprzeć* ‘тс’, славен. *prepírati se* ‘сварыцца, спрачацца’, балг. *препѝрам се* ‘спрачацца’, ст.-слав. прѣпьрѣти ‘ўгаварыць, пераканаць’. Да *пера-* і *пе́рці* (гл.).

**Перапе́ча** ‘другі каравай — вялікая булка’ (Кольб.), ‘праснак’ (Нас., Яруш., Гарэц., Касп., Шат., Бяльк.), *перапе́чка* ‘хлеб круглай формы пераважна з пшанічнай мукі’ (ТСБМ; бялын., Янк. Мат.; бых., Мат. Маг.; ТС; мазыр., Сержп.), ‘невялікая буханка прэснага хлеба з ячменнай мукі’ (слуц., Нар. словатв.), ‘пірог сярэдняй велічыні’ (ТС); ‘печыва з хлебнага цеста, бульбы, тоўчанага канаплянага семя’ (Сл. ПЗБ), ‘скавароднік’ (ЛА, 4).

Укр. палес. *перепічайка, перéпічка* 'тс', бойк. *перéпічка* 'булка, якую выносяць на могілкі ў аўторак пасля Пасхі', рус. *перепéча* 'каравай', 'праснак, якім паміналі памерлых', 'ватрушка', *перепéчка* 'булачка', 'праснак'. Усходнеславянскі рэгіяналізм **per-pekja* > *пере-печа*, утвораны ад дзеяслова **pekti* 'пячы' пры дапамозе прыстаўкі **per->* *пера-* са значэннем 'праходжанне праз увесь прадмет', дзякуючы якому прыстаўка *пера-* набліжаецца да прыстаўкі *пра-* (< прасл. **pro-*), якая і выцесніла першасную *пера-* (параўн. славен. *prepêči* 'прапячы'), апошняя ж стала абазначаць 'празмернасць, перавышэнне мяжы нармальнага стану', параўн. *перапячы*, рус. *перепéчь*, серб.-харв. *препèћи*, а таксама славен. *prepêči* 'перасмажыць', адсюль славен. *prepečȇnec* 'сухар' (ESSJ, 1, 162—169; адносна семантыкі і пашырэння лексемы гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 107—114.

**Перапечак** 'пекар' (Яруш.), *перапячáйка, перэпечáйка* 'булачніца і гандлярка вырабамі з цеста' (Нас., Растарг.), 'пляткарка' (Касп.). Да *перапеча* > *перапéчка* (гл.). Словы маюць экспрэсію гумару, непахвальнасці ад таго, што хлеб мог быць недапечаны, ці яго перапякалі.

**Перапечкі** 'мальва пагрэбаваная, Malva neglecta Wallr.' (маг., Кіс.; Гарэц., Інстр. 2, Дэмб. 2), 'мальва паўночная, Malva Borealis' (Гарэц., Дэмб.1). Да *перапéчка* (гл.). Назва звязана з дзеясловам *пячы*, таму што расліна ў старажытныя часы ўжывалася ў ежу, параўн. чэш. *chlebík, chlebíček, pečenek, koláčiky, cigánské tvarůžky* (Махэк, Jména, 146—147).

**Перапёк** 'харчовыя кірмашовыя прадукты' (Касп.), 'час, калі стары хлеб з'елі, а новы яшчэ не спечаны' (Касп.). Гл. *перапéчка.*

**Перапёлка** 'палявая птушка сямейства фазанавых, Coturnux coturnux' (ТСБМ; в.-дзв., лудз., паст., Сл. ПЗБ), *перапяліца, пэрэпэліца, пэрэпэлиця* 'тс' (Дразд., Бес.), *перэпеліца, перэп'ёлка* 'тс' (ТС). Укр. *пéрепел, перепéла, перепелúця,* рус. *пéрепел, перепёлка, перепелýшка, перепéлица,* польск. *przepiórka, przepiora, przepiorzyca, przepielucha*, чэш. *křepelka*, славац. *prepelica, prepilka,* славен. *prepelíca, krepelíca,* серб.-харв. *prȅpelica, прѐпелица, prepelka,* істр. *prpelica*, балг. дыял. *преперица, препелица*. У якасці зыходнага прымаецца **pelepelъ*, паводле Бузука (Асн. пыт., 49),

у выніку распадабнення зычных > **perepelъ*; паводле Трубачова (Этимология—1968, 62) — **pelpelъka*, **pelpelica*, анаматапеічнае ўтварэнне паводле спеву птушкі альбо шуму пры ўзлёце (Шанскі—Баброва, 230): **per-pelъ* (Махэк$_2$, 299—300), **per-per-a* (Лось, РФВ, 23, 59; Міклашыч, 243; Банькоўскі, 2, 888), *pel-pelъ* (Бранд., РФВ, 23, 296; Фасмер, 3, 238—239). Некаторыя слав. словы збліжаюцца са ст.-прус. *penpalo* 'перапёлка', літ. *píepala, pùtpelė,* лат. *paîpala* 'тс', ці з лац. *pāpilio* 'матылёк', ст.-прус. *pippalins* 'птушкі', ст.-в.-ням. *wahtala* > суч. ням. *Wachtel, quattula* > ням. дыял. *Quattel* 'перапёлка'. Сюды ж абрадавае *перапёлка* 'хлеб, які пакідалі пад звязаным пуком жыта ў канцы дажынак' (в.-дзв., беласт., Сл. ПЗБ; кам., ЖНС), а таксама зах.-палес. *пырыпілка* 'матылёк' (ЛА, 1; Сл. Брэс.). Аналагічна польск. *przepiórka* 'пук жыта, сплецены ў тры касы і пакінуты на полі пасля жніва для перапёлкі'; 'заканчэнне жніва'. Гл. таксама *перапяліца.*

**Перапёнка** 'планка з адтулінай для млёна' (іўеў., ЛА, 4), усх.-беласт. *перэпёнка* 'жалезны круг, які злучае рукаяткі плуга' (Смул.). Відаць, утворана ад *перапя́ць*, *перапну́ць* (гл.), параўн. польск. *przepiąc* 'счапляючы, ахопліваць'.

**Перапіва́ць** (*пырыпыва́ты, пырыпыва́тэ)* 'дарыць маладым (на вяселлі)' (кам., драг., ЖНС), сюды ж мазыр. *перапойнік* 'той, хто ўручае маладым падарунак' (Шн. 3). Укр. *перепива́ти* 'на вяселлі: выпіваючы келішак (гарэлкі), дарыць што-небудзь маладым', 'выпіваць, жадаючы шчасця'. З польск. *przepić* 'тс'. Як і серб.-харв. *прѐпити* 'абпаіць', 'перапіць (гарэлкі), выпіць яе вельмі многа', макед. *препие*, балг. *препия* 'тс', славен. *prepíti* 'прамарнатравіць, прапіваючы', бел. перапíць 'справіць заручыны (Нар. Гом.), рус. *перепива́ть* — вясельны абрад: 'перапіваць ялаўку' маюць іншую семантыку (гл. СРНГ, 26, 186). Да *пера-* і *піць* (гл.).

**Перапілі́каць** (экспр.) 'перапілаваць' (Скарбы). Да *пера-* і *пілаваць* з экспрэсіўным суфіксам працяглага дзеяння *-і-ка-*.

**Перапіна́ць** 'перагароджваць, перагарадзіць' (ТСБМ, Маслен., ТС). Да *пера-* і *пяць, пнуць* 'ціснуць, нацягваць', параўн. *напіна́ць* 'нацягваць'.

**Перапіры́ндаваць** 'іграць на нервах' (паст., Сл. ПЗБ), астрав. *пірапіры́ндаваць* 'бавіць час пустымі размовамі' (Сл. рэг. лекс.). Да *пера-* і *піры́ндаваць, піры́ндзіць* (гл.).

**Пераплаў** ‘параход’ (Ян.). Пад уплывам народнай этымалогіі з *параплаў* ‘параход’, якое ўтварылася на базе *параход* шляхам замены *хадзіць* на *плаваць, плысці* (гл.), параўн., магчыма, штучна створанае *вадаплáў* ‘параход’ (Ласт.), а таксама в.-луж. *přeplaw* ‘пераправа праз раку’.

**Пераплáўніца**, *перэплáўленье, пераплáўны* ў выразе *пераплáўная серада, пераплáныя серада, перэполовéнна серэдá, перэполовéнска серэдá* ‘свята *Перапалавенне*, якое з’яўляецца палавінай Пяцідзесятніцы, пачынаецца яно з чацвёртай серады пасля Пасхі і працягваецца 8 дзён; паводле Евангелля, Хрыстос у гэты дзень увайшоў у царкву і пачаў вучэнне аб таямнічай вадзе’ (Гарэц., Бяльк., ТС, Касп.; добр., Мат. Гом.; Талстая, СіБФ—1986). Да ц.-слав. *прѣполовление* ‘сярэдзіна’, якое з’яўляецца калькай з с.-грэч. μεσοπεντηκοστή ‘палавіна пяцідзесяці’ і звязваецца з лексемай *палавіна* (гл.). У палескіх гаворках выраз *пераплаўная серэда* атаясамліваецца з *пераплывáць*, параўн. паведамленне інфарматара: *кажуць, кóлісь Божа маці перэплувала чэрэз рéку і Сýса Хрыста сохраняла* (Талстая, СіБФ — 1986, 216).

**Пераплéцце** ‘перапляценне ў бёрдзе’ (чэрв., Сл. ПЗБ). З прасл. **per-pletьje*. Да *пера-* і *плéсці* (гл.).

**Пераплёт,** *параплёт, пераплют* ‘рашотка, рама, агароджа з перакрыжаваных перакладзін’ (ТСБМ, Янк. 2, усх.-палес., Шушк., Мат. Гом.), ‘перапляценне, на якое кладуцца жэрдкі ў агароджы’ (віл., глыб., Сл. ПЗБ), ‘плот-частакол’ (усх.-палес., Нар. сл.); *пераплёт, пераплёціна* ‘пярэвітка’ (паўн.- і ўсх.-бел., ЛА, 4), *пераплёт* ‘край бёрда (прадаўгаваты)’ (ветк., Мат. Гом.), *перэплёты* ‘абмоткі трысцін у бёрдзе’ (ТС), ‘плецены передок у санях’, ‘аснова лапця’ (рагач., светлаг., Мат. Гом.), *пераплёт* ‘латы ў страсе’ (слуц., ЛА, 4), ‘жэрдка для прыціскання саломы на страсе’ (усх.-палес., Нар. сл.), ‘аснова страхі з гарызантальных жэрдак, прывязаных да крукоў бярозавым віццем ці лазой’ (Растарг.), *піряплёціна* ‘лата, пераплеціна’, ‘непрыемнасць’ (Бяльк.). Рус. *переплёт, переплёты* ‘пляцень з тонкіх калочкаў’, ‘колцы з прутоў у бучы’, ‘тонкая перагародка ў засеку’; польск. *przeplot* ‘перапляценне, перапле-ценая рэч, месца перапляцення’, *przeplota* ‘лаза, якой прывязваюцца калкі ў плоце’; серб.-харв. *прéплет* ‘перапляценне, спляценне’. Прасл. **per-pletъ*, утворанае ад дзеяслова **per-pletti* (аснова **plet-*) > **per-plesti* > *пераплéсці*. Да *пера-* і *плéсці* (гл.).

**Перапліца**, *перяпліца, парапліца, парліца, партвіца, цярпліца, пярхліца* ‘металічная планка ў адтуліне верхняга каменя жорнаў’ (ЛА, 4) — усе да *парпліца* (гл.), пачатак слова пераафармлены пад уплывам слоў з прыстаўкай *пера-*.

**Пераплот**, *пераплóты, пярэплат, пярэплаты* ‘азярод’ (віл., Жыв. сл.; плешч., ДАБМ, камент., 790; віл., Сл. ПЗБ; Варл.; Касп., Гарэц., Яруш.); рус. *переплóт* ‘запруда, гаць’, польск. *przepłot* ‘азярод’. Да *пера-* і *плéсці* (гл.) з асновай **plot-*.

**Пераплýтаць** ‘пераблытаць, памыліцца’ (Др.-Падб.), рус. прыбалт. *переплутáть* ‘бязладна сплесці, пераблытаць; змяшаць адно з адным’, укр. *переплýтати, переплутувати(ся)* ‘пераблытваць; змешваць’. Вытворнае ад *плýтаць* (гл.), магчыма, пад уплывам польск. *przeplątać* ‘тс’. Стараж.-рус., ц.-слав. *Переплут* ‘міфалагічны персанаж, бог-ахоўнік мараходаў’ суадносіцца з **pluti* ‘плысці’ (Фасмер, 3, 239) і, відаць, не звязаны з разгледжанымі дзеясловамі.

**Пераплы́ніць** ‘змяніць кірунак цячэння’ (карэліц., Сцяшк. Сл.). Да *пера-* і *плынь* (гл.).

**Перапой**₁, *пырыпíй, пэрэпíй, перэпой* ‘даравізна, адорванне маладых на вяселлі’ (Сл. Брэс.; брагін., Эрэм.; ТС; ЛА, 3), ‘узаемныя падарункі ў пачатку вяселля’ (Шат.), ‘салодкая гарэлка — прыезд маладога на другі дзень пасля вянчання да цесця і цешчы’ (Др.-Падб., Гарэц.). Назоўнік ад *перапівáць* (гл.).

**Перапой**₂ (*піряпой)* ‘хваравіты стан здароўя пасля вялікай колькасці выпітага спіртнога’ (Бяльк.). Да *пера-* і *піць* (гл.).

**Перапóйсаваць** ‘перамалочваць ячмень другі раз, каб лепш абцёрлася асцё, вымалацілася калоссе’ (полац., Нар. лекс.; паст., шальч., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *пойсаваць* (гл.).

**Перапóліца** ‘перапёлка’ (Дразд.), *пераполячка, пераполка* ‘тс’ (дзятл., лудз., Сл. ПЗБ). Да *перапёлка* (гл.), канец слова зменены пад уплывам *поле, палóць* (параўн. перадачу голасу птушкі: *піць-палоць!*).

**Перапóлы** ў выразе: *пераполае поле* ‘поле, якое ніколі не апрацоўвалася’ (Ян.). Відаць, са стараж.-рус. *прѣполый* ‘зусім пусты’, параўн. ст.-рус. *переполье* ‘дзікае поле’ (1665 г.), *переполейцо* (1640 г.) ‘тс’. Да *пера-* і *полы* (гл.). Параўн. таксама *перапалявіца* (гл.).

**Перапона** 'тое, што стрымлівае доступ куды-небудзь' (ТСБМ), 'папярочная планка ў аконнай раме' (свісл., Шатал.), *перапона, пэрэпо́н* 'дыяфрагма' (ваўк., івац., ЛА, 1; ТСБМ), *перапона* 'тс' (шчуч., ваўк., Сл. ПЗБ); *перапоны* 'планкі на капылах саней' (Сцяшк. Сл.), *перапо́нка* 'перапона ў вуллі — умацаванне вашчыны ў стаяку' (лельч., Мат. Гом.); укр. *пэ̂рэ̂по́на* 'тс' (Анох.); рус. *перепо́на* 'плеўка ў целе жывёлы, абалонка ў расліны', 'пераплёт у раме', польск. *przepona* 'перашкода', 'дыяфрагма', 'перагародка', чэш. *přepona*, славац. *prepona* 'гіпатэнуза', славен. *prepóna* 'перагародка', серб.-харв. *пре̏пона* 'перашкода', 'паха', *прѐпонка* 'дыяфрагма', макед. *препон* 'перашкода', 'перагародка'. Да прасл. **per-> пера-* і *pęti > пяць* (гл.) з асновай **pon-* (іншыя ступені: **pьn-* і **pin-*). Сюды ж *перапонка*, якое з рус. *перепонка* < *перепона* 'скура, абалонка' (Шанскі—Баброва, 230).

**Перапоўзіны** 'ўваходзіны ў новую хату' (глыб., ЛА. 3). Утворана ад *пера-паўзці* (гл.) з суф. *-ін-ы*, як і іншыя падобныя назвы: *уваходзіны, улазіны.*

**Пераправажа́цца** 'перапраўляцца (цераз раку)' (Нас.). Утворана пад уплывам польск. *przeprowadzać się* 'змяніць месца побыту, пражывання'.

**Перапрасі́ць** 'папрасіць прабачэння' (ТСБМ; Гарэц.), *пірапрасі́ць* 'тс' (Варл.), *перэпросі́ць* 'тс' (ТС), *пэрэпросі́ті* 'тс' (Бес.), *перапрос* 'просьба аб прабачэнні' (Гарэц., Касп.), *піряпросы, перапросіны* 'тс' (Юрч. СНЛ; Др.-Падб.). Укр. *перепроси́ти, перепро́шувати, перепро́сини* 'тс'; рус. смал. *перепра́шивать, перепросить* 'угаварыць', польск. *przeprosiny, przeprośba*, ст.-польск. *przepros, przeprosić* 'перапрасіць'; н.-луж. *pśepšosowaś, pśepšosyś, pśepšosba* 'запрашаць, -сіць, запрашэнне', в.-луж. *přeprosyć, přeprošeć, přeprošenje* 'тс'; славен. *preprósiti, preprosíti* 'ўпрасіць, параканаць', *preprošénje* 'ўгаворы праз просьбу'. Да прасл. **per-prositi > пера-* і *прасі́ць* (гл.). Польска-беларуска-ўкраінская семантычная інавацыя, першапачаткова — 'прасіць прабачэння, плацячы за шкоду ці зробленую крыўду, да прымянення санкцый' (з XIV ст.), гл. Банькоўскі, 2, 892—893.

**Перапры́жкі** (*піряпрыжкі)* 'пераскочкі, чахарда' (Бяльк.). З рус. мовы. Параўн. рус. уладз. *играть в перепрыжку* 'пераскокваць праз рукі і ногі гульцоў'.

**Перапру́дка** ‘ператрэсванне ношанай бялізны ў лазні над гарачым вуголлем’, *перапру́жываць* ‘ператрасаць бялізну над вуголлем’ (Нас.), рус. смал. *перепру́живать* ‘тс’. Да *пера-* (гл.) і *пру́дзіць* ‘вытрэсваць над гарачым вуголлем у лазні блохі і вошы з адзення’.

**Перапрэчыць** ‘пераканаць’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *przeprzeczyć* ‘тс’, першапачаткова — ‘заступіць, стаўшы ўпоперак’.

**Перапсю́рыць** (*пірапсю́рыць*) ‘выцяць знячэўку’ (Бяльк.), ‘ударыць каго-небудзь’ (смарг., Сл. рэг. лекс.). Да *пера-* і *псюрыць* (гл.), якое ў гаворках зафіксавана са значэннем ‘гнаць’.

**Перапуко́ўваць** ‘другі раз абмалочваць ячмень, вызваляючы яго ад асцюкоў (Касп.). Да *пера-* (гл.) і *пу́каць₂* ‘абіваць збожжавыя (цапамі)’ (гл.).

**Перапуд** ‘вельмі моцны спалох’ (ТСБМ), *пірапу́д* ‘сполах, страх’ (Варл.). Утворана паводле мадэлі: *пера-ляк, пярэ-палах,* ст.-польск. *przepłoch* ‘тс’. Да *пера-* і *пуд* (гл.).

**Перапу́да** ‘перашкода’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, другая частка слова генетычна тоесная ст.-польск. *pąd* ‘сцежка, след (звера)’ (Брукнер, 403); *pęd* ‘рух, імкненне’; роднасныя з імі літ. *spandýti* ‘нацягваць’, *spąstas* ‘пастка’, *spęsti, spéndžiu* ‘расстаўляць пасткі’, лат. *spuôsts* ‘пастка, сілок’. Параўн. таксама тыпалагічна падобныя ўкр. *переп’ясти, перепина́ти* ‘працягваць што-небудзь (вяроўку, прасціну), каб перагарадзіць дарогу; перагароджваць’, *переп’я́т уста́ти* ‘стаць каму-небудзь на дарозе’. Да *пуд₂* (< прасл. **pąd-/ *pęd-)*, гл.; параўн. *перапу́да* ‘моцны перапалох і ўцёкі з-за яго’ (Станк.).

**Перапу́сныя** ‘ачэпы, два верхнія падоўжныя вянкі над бэлькамі, якія надпускаліся роўна з застрэшкам’ (Варл.), *перапускны́я, пірапу́скная палéна* ‘тс’ (валож., віл., ЛА, 4), *пірапу́сная бервяно* ‘суцэльнае бервяно, якое кладзецца над сточаным’ (маладз., ЛА, 4). Да *перапуска́ць*, параўн. ст.-бел. *перепустити* замест *пропустити* (Карскі, 1, 248), *пусці́ць, пускаць* у спецыфічным “будаўнічым” значэнні ‘класці зверху, перакрываць’.

**Перапу́цкаць** ‘перабоўтаць ежу, выбраўшы смачнае’ (Скарбы). Да *пера-* (гл.) і *пу́цкаць* ‘размазваць, вэдзгаць’, гл. *пу́ца*.

**Перапу́цце** ‘гора, бяда’ (Ян.). Фармальна ідэнтычнае рус. *перепу́тье* ‘ростань, раздарожжа’, семантыка магла замацавацца пад уплывам казак (‘няпэўнасць, нявызначанасць’ — ‘бяда’). Да *пуць₂* ‘лад, парадак, толк’ (гл.).

**Перапу́ць** ‘частка шляху, пераход’ (паўн.-усх., КЭС), рус. паўн. *перепу́ть* ‘дарога, шлях’, смал. ‘частка шляху’. Утворана, як *пераход* ці *перапу́да* (гл.) Да *пера-* і *пуць* (гл.).

**Перапу́шчаны** ‘ператоплены’ (Скарбы), *перапусціць* ‘填пера-тапіць (пра тлушч)’ (карэл., Шатал.). Да *пушча́ць* ‘дазваляць вольна цячы’: *пушчаць кроў* (Нас.), магчыма, польск. *przepuścić* ‘ператапіць’, першапачаткова — ‘пускаць праз што-небудзь (цераз вароты, праз вузкую адтуліну, рэшата і пад.)’.

**Перапы́ткі** (*пырыпы́ткы)* ‘распытванне, адзін з момантаў сватання’ (Клім.). Відаць, утворана на базе польск. *przepytać (się)* ‘выпытваць, даведвацца, распытваць’. Беларускае літар. *перапы́тваць* абазначае ‘адно і тое ж пытацца некалькі разоў’ (ТСБМ).

**Перапыхну́ць** (*пірiпыхны́ць*) ‘перадыхнуць’ (Юрч. СНЛ). З [+]*перапы́хкнуць*. Да *пера-* і *пы́хкаць*, гл. *пыхаць* ‘моцна дыхаць’.

**Перапялёсы** ‘паласаты, у папярочныя палосы рознага колеру ці масці’ (Др.-Падб., Мядзв., Гарэц.; барыс., Шн. 2; маладз., Янк. Мат.), ‘пярэсты’ (шальч., паст., Сл. ПЗБ), *перапяля́сы* ‘тс’ (Нас.), *піріпялёсый* ‘рабы’ (Бяльк.), *піряпялёсыя, перепелёсыя, перапялясая* ‘пярэстая (карова)’ (касцюк., калінк., добр., клім., ЛА, 1); *перапялёсты* ‘кабан ці свіння з папярочнымі палосамі’ (Шат.), ‘чорны вол ці карова, у якіх чэрава і бокі белыя’ (ашм., Стан.), *піраплялóсты* ‘чырвоная ці чорная жывёла, у якой упоперак праз спіну ідзе белая паласа’ (Варл.). Да *пера-* і *пялёсы, пяля́сы* (гл.); параўн. *перапалосы*, *перапаясы*.

**Перапялíца** (*перапелíца*) ‘агульная назва птушак’ (Інстр. 2), *перапялíца* ‘перапёлка’ (рэч., Нар. Гом.), *пэрэпэліца* ‘тс’ (Дразд.; Бес.; Мат. Гом.). Да *перапёлка* (гл.). Формы з суф. *-іца* ўяўляюцца больш архаічнымі.

**Перапяля́чнік**, *перапéлічнік* ‘скабіёза жоўтая, Scabiosa ochroleuca L.’ (віц., гродз., Кіс.). Да *перапёлка* (гл.). Названа паводле жаўтавата-бурага колеру птушкі.

**Перапя́ць**, *перэп’я́ць* ‘перагарадзіць, раздзяліць’ (ТСБМ, Маслен., ТС). Да *пера-* і *пяць* (гл.). Гл. таксама *перапона.*

**Перапярэ́ка** ‘перашкода’ (круп., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *пéрак, пярэ́чыць* (гл.).

**Перапярэ́сціць** ‘набіць’ (ст.-дар., ЖНС). Да *пера-* і *пярэсціць* ‘лупцаваць, рабіць пярэстым ад моцнага біцця’ (гл.).

**Перапяча́йка** ‘жвавая, балбатлівая, ветраная жанчына’ (Др.-Падб.). Відаць, іранічнае ўтварэнне ад *перапяча́йка* ‘пера-

печка' (Скарбы) або ад назваў асоб тыпу ўкр. *перепічайка* 'жанчына, якая пячэ хлеб', рус. бранск. *перепеча́йка* 'жанчына, якая пячэ вырабы з цеста і прадае іх', дзе зыходнае *перапечаны* мае пераноснае значэнне 'прайдошлівы; знаходлівы', параўн. балг. *препе́чен* 'моцны, загартаваны', макед. *препеченица* 'моцная гарэлка' (перагнаная некалькі разоў). Да *пера-* і *пячы* (гл.).

**Перарадава́ць** 'пералічыць (усіх, многіх)' (ст.-дар., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *радава́ць* 'абходзіць усіх па чарзе; наведваць па парадку' (Нас.), якое з польск. *rzędować* 'ставіць у рад'.

**Перарасляны**, *пырыро́слянэ (сало)* 'з праслойкамі мяса (сала)' (кам., ЛА, 4), *пэрэро́шчэ, перэро́сло, перэро́станое, перарослэ* (лельч., ельск., тамсама), *пераро́шшая (сланіна)* 'тс' (ваўк., тамсама), польск. *słonina przerastała* (płatkami mięsa) 'тс'. З *прарослы* < *прарасці* < *расці* (гл.). Параўн. нясвіж. *прарост*, асіп. *про́раслі*, ашм., смарг. *про́расць* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Пераро́б₁** 'капітальная, канявая сцяна, якая падзяляе хату на 2 часткі' (докш., Янк. Мат.; брасл., Сл. ПЗБ), *пэрэру́б, параруб, перару́б* 'тс' (пін., ветк., быx., ЛА, 4), *перарубная сцяна* 'тс' (рагач., ельск., Мат. Гом.). Укр. паўд.-зах. *переру́б* 'засек', бойк. *переру́ба* 'перагародка ў скрыні, у хаце, у каморы, куды ссыпаюць збожжа'; рус. *переру́б, переру́ба* 'драўляная перагародка ў сялянскім доме ці ў нежылых пабудовах', ст.-рус. *перерубъ* 'тс' (з 1576 г.). Усходнеславянскае. Да *пера-* і *рубіць, рубаць* (гл.), якое да прасл. **ro̧biti, ro̧bati*. Польскаму *przerąb* адпавядае *пруб* 'прарубленая дзірка, палонка', рус. *прорубь* 'тс'.

**Перарубּ₂** (*пірару́б*) 'бэлька ў гумне, на якую ставіцца дзед — паўсошка, апора для падоўжнай бэлькі, — на апошнюю абапіраецца верх страхі' (паўн.-віц., ЛА, 4), *перару́п* 'тс' (паст., глыб., Сл. ПЗБ) — у выніку пераносу значэння па сумежнасці: 'сцяна' > 'верхняе бервяно сцяны, бэлька'.

**Перары́вам**, *з перарывам, перарывісты (дождж)* 'дождж з перапынкамі' (спарадычна на ўсёй тэрыторыі, ЛА, 2), *перарыўны* 'кароткачасовы (дождж)' (віл., чэрв., Сл. ПЗБ). Да *пера-* (гл.) і *-рыў* < *-рываць* — дзеяслова шматразовага дзеяння ад *рваць* < прасл. **rъvati — ryvati*.

**Перарыва́цца** (*перэрыва́цца*) 'нервавацца', *перэрва́цца* 'разнервавацца', *перэрва* 'клопат, нерваванне, турботы' (ТС). Відаць,

роднаснае польск. *przerywać się* ‘надрывацца’. Параўн. драг. *порва́тыся можна од не́рву* ‘памерці ад перажыванняў’.

**Перарыме́ць** (*пірарыме́ць*) ‘спыніць хваляванне, заспакоіцца’ (Варл.). Да *пера-* (гл.) і ⁺*рымець*, якое з’яўляецца балтызмам. Параўн. літ. *rìmti* ‘сціхаць, пераставаць, заспакойвацца’.

**Перарэз** ‘вялікая бочка’ (Гарэц.), ‘частка двудоннай бочкі, перарэзанай на дзве палавіны, чан’ (Нас., Касп.; чавус., Мат. Маг.), *перэрэз* ‘бочка сярэдніх памераў, звужаная ўверсе, для квасу, засолкі гуркоў’ (усх.-палес., З нар. сл.), *пірарэ́з* ‘засек, месца для ссыпкі зерня’, *пірярэ́жчык* ‘засек у свірне’ (Бяльк.). Укр. *пере́різ* ‘палавіна перарэзанай упоперак бочкі’, палес. *пере́рез* ‘тс’; рус. дыял. *перере́з* ‘кадушка з перарэзанай напалам бочкі, цэбар; вялікі чан’. Усходнеславянскае. Да *пера-* і *рэзаць* (гл.).

**Перарэза** ‘назольнае дзіцё’ (Шат.). Утворана ад *перарэзаць* ‘знішчыць, загубіць’ < *пера-* і *рэзаць* (гл.) пры дапамозе суф. *-а* (як *плакса*, *назола* і інш.). Параўн. яшчэ рус. арх., алан., наўг. *перере́з* ‘моцная стомленасць, змора’, ‘натуга, надрыў’.

**Перасаба́чыць** (*пірасаба́чыць*) ‘без літасці выцяць кіем ці пугай’ (Варл.). Да *пера-* (гл.) і *саба́чыць* ‘бязлітасна біць, як сабаку’ < *саба́ка* (гл.).

**Перасад:** *на перасад садіты* ‘наперакор, напоперак рабіць’ (Булг.). Няясна; відаць, да *садзіць*, параўн. рус. *доса́да* ‘дакука, назалянне’. У аснове, відаць, ‘перавышэнне пэўнай меры’, параўн. польск. *przesada* ‘тс’.

**Пераса́дны** ‘абжорлівы’ (хойн., Мат. Гом.). Да польск. *przesadny*, *przesada* ‘перабольшанне; празмернасць’.

**Пераса́днік** ‘палісаднік’ (слаўг., Мат. Маг.), рус. калуж., маск., арл., бранск. *переса́дник* ‘гадавальнік’, *переса́день* ‘гародчык каля хаты’, славен. *presâdnik* ‘тс’. Да *перасадзі́ць* < *пера-* і *садзі́ць* (гл.). Аб суф. *-нік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 55.

**Перасаке́рыць** ‘перахітрыць’ (Ян.), *перэсоке́рыць* ‘перагаварыць’: *её не перэсоке́рыш!* (ТС). Да *пера-* (гл.) і *сакерыць*, якое, магчыма, узыходзіць да літ. *sakýti* ‘гаварыць, казаць’; суф. *-erėti* дзеясловам дадае значэнне імгненнасці.

**Перасаранчы́ць** ‘прамарнатравіць’ (Нас.). Да *пера-* (гл.) і *саранчы́ць* ‘раскідаць, растрачваць, знішчаць, нібы саранча’ < *саранча́*, якое з цюрк. *sarynča* ‘саранча’, што ўзыходзіць да *sary(γ)* ‘жоўты’, *saryža* ‘жаўтаваты’ (Фасмер, 3, 560).

**Перасве́р**, *перасвір, перасве́рт* 'вага-рычаг у студні з жураўлём' (круп., барыс., ДАБМ, камент., 809; круп., Сл. ПЗБ), *пірас'ве́р* 'тс', *перасвіран* (круп., Шатал.), сюды ж *перасвеpава́цца* 'перавесіцца' (паст., ігн., Сл. ПЗБ). Да *пера-* і *асве́р* (гл.), якое прыйшло з лат. мовы, параўн. лат. *svira, svíra* 'вага-журавель (у калодзежы)', *svērt* 'нахіляць, вешаць, паднімаць з дапамогай рычага' (Лаўчутэ, Балтизмы, 52 і інш. літ-ра), літ. *pérsisverti* 'перавесіцца' (Сл. ПЗБ, 3, 500).

**Перасек** 'засек' (брасл., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі бел. *пера-руб* і польск. *sąsiek*, мазав. *zasiek*; параўн. польск. *przesiec = zagrodzić* 'перагарадзіць'.

**Перасе́каць** 'баранаваць другі раз' (палес., Выг. дыс.), укр. палес. *пересе́кать, пересі́кати* 'рыхліць глебу, у якую пасаджана бульба'. Паводле Выгоннай (Бел.-укр. ізал., 19), семантычная інавацыя пад уплывам ст.-літ. *įsėkti* 'рабіць рыхлым', што малаверагодна, параўн. *пэрэбива́ты* 'баранаваць перад пасевам' (Лексика Пол., 114), *піріскароджыванньне* 'тс' (Юрч. СНЛ).

**Перасе́кі**: *у пэрэсікэ, у пырысы́ку* 'від саржавага перапляцення (па чатыры пары)' (драг., Уладз.). Да *пера-* і *сек-* < *сячы́* (гл.). Параўн. *перасе́к* 'перасячэнне' і *перасе́ча* (< прасл. **(per)-sěkja*) 'тс' (Дуж-Душ., ТСБМ).

**Перасе́чка** 'разрыў ніткі пры тканні' (лід., даўг., Сл. ПЗБ). Да *перасе́кчы* 'рассячы на часткі'. Параўн. польск. зах. і паўн. *przesieczka, przesieka* 'блюзна пры тканні ад абрыву ніткі'.

**Перaскі́каць** 'пераскокваць' (шальч., Сл. ПЗБ), *пераскікну́ць* 'пераскочыць' (смарг., тамсама). Да *пера-* (гл.) і *скік* 'скок' (смарг.), *скікаць, скікану́ць* 'скакаць, скокнуць' (гл.).

**Пераске́п** 'расколіна, трэшчына' (Нас.). Да *пера-* і *скеп-* < *скепа́ць* 'расколваць' (гл), а таксама *скяпа́ць, шчэпка.*

**Пераскочка** (*піраско́чка)* 'расліна, падобная да маленькай сасновай раскрытай шышкі, расце на пяску (Бяльк.). Да *пера-* і *скочка* (гл.), відаць, 'скочкі, гарлянка'. Матывацыя: пры размнажэнні маладыя шышачкі нібы адскокваюць ад мацярынскай расліны, вырастаючы вакол яе на адлегласці.

**Перасме́шка** 'невялічкая лясная птушка атрада вераб'іных, здольная імітаваць, перадражніваць галасы розных жывёл' (ТСБМ), 'птушка перасмешнік' (лельч., Мат. Гом.), *перасме́шка зялёная* 'птушка Hippolais icterina з сям. валасянак', песня якой у

асноўным — перайманне галасоў іншых птушак, параўн. рус. маск., тул. *пересмéшка* 'валасянка, Sylvia hortensis L.'. Відаць, з *перасмéшнік* (гл. наступнае слова); суф. *-ка*, як у *птушка*.

**Перасмéшнік**, ігн. яшчэ і *перасмíшнік* 'насмешнік' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), укр. *пересмíшник*, рус. *пересмéшник* 'той, хто смяецца з іншых, перакрыўляючы іх мовай, тварам, ці пераймаючы, наследуючы іх'. Усходнеславянскае. У гэтых жа мовах у выніку пераносу значэння паводле падабенства ўзнікла лексема *перасмешнік* са значэннем 'птушка Furdus merula'. Параўн. балг. *присмехýлник* 'тс' і польск. *kos kpiarz* 'тс' < *kpić* 'здзекавацца, насміхацца'. Відаць, лексема *пересмешник* узнікла першапачаткова на рус. моўнай тэрыторыі (наяўнасць назоўніка *смешнік* 'жартаўнік, балака, весялун', дзеяслова *пересмéшничать* 'перадражніваць', прыметніка *пересмéшливый*).

**Перасмóл** 'асмол' (лельч., Жыв. сл.), *пэрэсмíл* 'смольны кавалак хваёвага карча са скручанымі валокнамі' (кобр., драг., ЛА; 5, ЛА, 1). Аддзеяслоўны рэгіяналізм. Да *перасмалíць* < *пера-* і *смалíць* (гл.). Параўн. яшчэ *асмол* (гл.).

**Перасмуры́жыць** (*пірясмуры́жыць)* 'перацерці, перарэзаць (напр., бутэльку) пры дапамозе вяровачкі' (Бяльк.). Да *пера-* і *смуры́жыць* (гл.).

**Перасмы́кач,** *пэрэ́смыч* 'пáлкі, на якіх падвешваюцца ніты' (Уладз.). З *перасмыкáцца*, якое з *пера-* і *смы́каць* (гл.). Параўн. польск. *przesmyk* 'зеў (у кроснах)', чэш. *přesmýkat* 'цягнуўшы, перамясціць у іншае месца'.

**Перасноў** (*перэсноў)* 'лішнія ніткі ў аснове (што не ўваходзяць у бёрда' (ТС). Да *пера-* і *снавáць* (гл.).

**Перасóлка** 'планка, якой змацоўваюцца ножкі стала' (Касп.; в.-дзв., рас., Шатал.), *пырысóля, пырысю́л* 'жэрдка пад столлю каля печы для прасушкі адзення' (драг., Нар. сл.). З *перасоў* (гл. далей): канцовае *-ў* успрымалася як паходнае з **-lъ* (напр., **bylъ* > *буў* 'быў').

**Перасоў**, *перэсоў* 'жэрдка, падвешаная на бэльцы і працягнутая ад печы да пярэдняй сцяны, выкарыстоўваемая ў якасці вешалкі' (слонім., Шн. 3; жытк., Мат. Гом.; ТС; Нар. сл.). Укр. зах.-валын. *пирисóва* 'бэлька ў гаспадарчым будынку', рус. *пересов* 'жэрдка з фіранкай, што аддзяляе пярэднюю частку хаты ад прасторы каля печы', ст.-рус. *пересовъ* 'брус, нясучая бэлька,

маціца' (XVI ст.). Усходнеславянскае. Першапачаткова, відаць, з **pro-sov-ъ*: жэрдка ўсоўвалася ў адтуліны ў ба́бках, на якіх яна вісела, параўн. польск. *przesuwać (się)* 'перамяшчаць, перасоўвацца, усоўвацца, пралазіць' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.; Бел.-рус. ізал., 63). Аб уключэнні прыстаўкі **pro-* ў **per-* (> *пера-)* гл. ESSJ, I, 164. Гл. таксама *со́ваць*.

**Перасошча** 'бэлька паміж слупамі ў восеці' (Касп.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ьje* з *пера-* і *сошка* < *саха́* 'слуп, раздвоены ўверсе, на якім ляжыць кладзь'.

**Пераспонка** 'жэрдка, прыбітая паміж дзвюма кроквамі вышэй палавіны іх вышыні' (Тарн.). Да *пера-* і *спона*, *спонка* (гл.).

**Пераста́віцца** 'памерці' (Нас.). Адаптаванае запазычанне з рус. *преставиться* 'тс', што са ст.-слав. прѣставити сѧ 'тс', якое калькуе грэч. μετατίνεσναι 'быць перамешчаным' (у іншы свет), параўн. *ста́віць* (Фасмер, 3, 361).

**Переста́нак** 'перапынак' (барыс., Нар. сл.), *перастаньня* 'перарыў, сцішэнне' (Бяльк.), смал. *переста́н* 'спыненне, канец чаму-небудзь', укр. *пере́стан, пере́стань* 'перапынак, спыненне', *пере́ста́нок* 'тс', польск. *przestanek, przestanie*, н.-луж. *pśestank* 'тс', славац. *prestanie* ў выразе *bez prestania* 'бесперапынна', славен. *prestánek*, серб.-харв. *прѐстанак* 'заканчэнне, спыненне', макед. *без престан* 'няспынна', ст.-слав. безпрѣстани тс', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **perstanь*, **per-stan-ъkъ (< *perstati)*. Да *пера-* і *стаць* (гл.).

**Пераста́рак** 'састарэлы', 'старая дзеўка', 'хлопец, які доўга ходзіць у халасцяках', *пераста́рка* 'старая дзеўка', *перэста́рыцца* 'не выйсці замуж у пару' (Шат., Нар. Гом., ТС, ТСБМ), укр. *пере́ста́рок, пере́ста́рка*, рус. *переста́рок, переста́рка* 'стары халасцяк, старая дзеўка', 'жывёла, якая з-за старасці не можа даваць прыплод'. Усходнеславянскае. Утворана ад дзеяслова *пераста́рыцца*, што ўзыходзіць да прасл. **per-stariti (sę),* параўн. яшчэ ст.-слав. прѣстарѣти 'састарыцца', серб.-харв. *прѐстарети*, в.-луж. *přestarić,* н.-луж. *pśestarkaś,* польск. *przestarzeć (się),* славац. *prestarnút'* 'тс'. У зах. і паўд.-слав. мовах лексеме *перастарак* адпавядаюць спалучэнні з прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі (*przestarzały, pśestarjety, přestárlý, prestarnutý, prestár, прѐстар*). Гл. *старэць*.

**Перастарэляц** 'жабрак' (шальч., Сл. ПЗБ). Утворана ў выніку кантамінацыі слоў *перастарэлы* і *старац*.

**Перастаўле́нне** (*пірістаўленія*, *пірістаўленьня*) 'канец свету', 'заканчэнне' (Юрч. СНЛ). Утворана на базе ц.-слав. *свѣтопреставленіе* 'тс' шляхам адсячэння першай часткі і замены прыстаўкі *пре-* на *пера-*, параўн. *пераставіцца* 'сканаць'.

**Переста́ць** 'перастаць' (ТСБМ), укр. *переста́ти* 'тс', 'спынацца на дарозе', рус. *перестать*, старж.-рус. *перестати* 'спыніцца, адстаць, спыніць', польск. *przestać*, н.-луж. *pśestaś*, в.-луж. *přestać* 'перастаць, прыпыніцца', чэш. *přestati* 'тс', славац. *prestat'* 'перастаць, пакінуць, скончыцца', славен. *prestáti*, серб.-харв. *прѐстати*, макед. *престане*, балг. *преста́на* 'тс', ст.-слав. прѣстати 'перастаць, наступіць', 'спыніць'. Прасл. **perstati*. Параўн. аналагічна ўтворанае лац. *per-stāre* 'цвёрда стаяць, заставацца на месцы, працягвацца'. Да *пера-* і *стаць* (гл.) (Трубачоў, Проспект, 69—70).

**Переста́ча**, *перэста́ча* 'перахват' (саліг., Нар. словатв.), рус. пск., цвяр. *переста́читься* 'супраціўляцца, упірацца'. Да *пера-* і *стачыць* (гл.) ці *пера* і *стаць* (< $^{+}$*-statja*).

**Перастрога** 'перасцярога' (Нас.). З польск. *przestroga* 'тс'.

**Перастрэл** 'рудзянец (барадаўнік) звычайны, Lapsana communis L.' (маг., Кіс.; Дэмб. 1); *перастрэл, стрэльнік* 'сумнік залацісты, Solidago virgaaurea L.' (гродз., Кіс.). Відаць, да *пера-* і *страла́*: голае, прамастаячае сцябло з суквеццем уверсе нагадвае стралу.

**Перастрэнуць** (*пырыстрінуты*) 'дагнаць і перагарадзіць дарогу' (кам., Жыв. НС). Да *пера-* і *стрэць* (гл).

**Перасту́п**$_1$ 'парог у хаце' (віц., Нік. Очерки; Касп.). Ад *переступіць*, да *пера-* і *ступа́ць* (гл.). Лексема супрацьпастаўлена слову *парог* (<**porgъ*), гл.; апошняе ўжывалася для наймення падрубаў: у дзвярной сцяне падруба рабілася з тоўстага (да 50 см таўшчынёй) камля дрэва (параўн. лац. *līmen* 'парог' — літ. *liemuõ* 'ствол дрэва'), каб засцерагчы хату ад пранікнення ў яе свойскіх птушак, земнаводных і інш. гнюсу, снегу, вільгаці, а з хаты — малых дзяцей (Махэк$_2$, 478). У гэтым выпадку *пераступ* — мяжа, што аддзяляе сваё ад чужога, добрае ад злога, параўн. польск. *przestąpić próg* 'выйсці на двор' > 'выехаць з айчыны', рус. *преступнік* 'злачынца'. Сюды ж *перaступіць* 'схадзіць' (добр., Мат. Гом.).

**Перасту́п$_2$**, *перасту́пнік* ‘пярэступ, Bryonia alba L.’ (віц., гродз., Кіс.), *перэ́ступ* ‘расліна, падобная да хмелю, абвівае платы; у яе корань, як у бульбіны ці бручкі; яго даюць карове “як спорціцца” (каб давала больш малака)’ (ТС), укр. *персту́пень*, рус. *переступень*, польск. *przestęp*, чэш. мар. *přistup* ‘тс’. Расліна з’яўляецца чарадзейнай, небяспечнай для розуму і душы. У яе корані знаходзіцца нячыстая сіла — так меркавалі, зыходзячы з формы яе кораня. На сёмы год з кораня выходзіць, выступае д’яблянё, пераходзіць на каго-небудзь (Махэк, Jména, 227). Да *пера-* і *ступа́ць* (гл.), параўн. *перасту́пны* (гл.).

**Перастуі́цца** ‘пераабуцца’ (ваўк., Сцяшк. Сл.). Да *ступі́ць*, *ступа́ць* (гл.), параўн. *уступі́цца* ‘ўсунуць ногі ў часовы абутак; абуцца’ (гл.).

**Перасту́пны** (*год*) ‘высакосны’ (Станк., Варл.), параўн. у Бярынды: *преступный* (рок) ‘тс’. Такое ж азначэнне паняцця ‘высакосны’ вядома ў польск. *przestępny* (rok), чэш. *přestupný* (rok), серб.-харв. *пре́ступна* (година), *пре́ступ*; укр. *престу́пный* ‘тс’ лічыцца адаптаваным словам з польск. *przestępny* ‘тс’ (Німчук, Давньорус., 79), у аснове — ідэя пераходу дня пэўнага святога з аднаго дня тыдня на іншы ў высакосны год, параўн. англ. *leap-year* ‘тс’ (пры *leap* ‘скакаць’). Тая ж ідэя і ў *пераступны* (год), бо як сведчыць Варлыга, “святкі піраступаюць чаргу праз адзін дзень, прыкл.: з нядзелі на аўторак” (Варл., 97). Да *ступаць* (гл.).

**Перасу́дак** (*пірясу́дык)* ‘паўторны суд’ (Юрч. СНС). Ст.-бел. *пересудъ* ‘судовая пошліна; плата суддзі і падсудку за разгляд справы’, у значэнні ‘паўторны судовы разбор’ вядома з 1229 г. Да *пера-* і *суд* (гл.). Параўн. польск. *przesądzić* ‘асудзіць паўторна’.

**Перасце́нак** ‘перагародка’ (брасл., Сл. ПЗБ). Відаць, з рус. (стараабрадскае?) *просте́нок* ‘тс’, бо бел. *прасценак* — ‘частка сцяны паміж вокнамі’.

**Перасцёл(ы)** (*пэрэсцёлы)* ‘праслойкі мяса ў сале’ (лун., Шатал.), сюды ж *перэсцёл* ‘тс’ (ТС), *пэрэстіластэ, пэрэсцілістэ, пырысціловатэ (сало)* (зах.-палес., ЛА, 4), *пэрэсцілкуватэ* (івац., ЖНС). Да *пера-* і *-сцілаць* (гл.).

**Перасцёбаць** ‘перашыць’ (свісл., Сцяшк. Сл.). З рус. *перестега́ть* ‘тс’, відаць, на аснове атаясамлення семантыкі рус. *стегать* і *сцёбаць* ‘лупцаваць, біць’.

**Перасці́гнуць**, *пярасьцігáць* 'пераняць, перапыніць' (лід., Сцяшк. Сл.; стаўб., Нар. сл.). З польск. *prześcigać, prześcignąć* 'пераймаць, выпярэджваць'.

**Перасцярога** 'тое, што засцерагае ад небяспекі' (ТСБМ, Гарэц., Шат.), *перэсцерóга* 'тс', *пірасцярога* 'тс' (ТС), 'папярэджанне' (Варл.), *перасцерагчы́* 'папярэдзіць' (Касп.; ашм., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *перестерегати* 'захоўваць, пільнаваць; выконваць, падтрымліваць'; укр. зах.-валын. *пиристиригáте* 'прытрымлівацца пэўных нормаў', ст.-рус. *перестерегати* 'пільна ахоўваць'. Узнікла ў выніку кантамінацыі польск. *przestroga* і ўсх.-слав. *перестерегать*. Гл. таксама *перастрога*.

**Перасы́п** (*пірясы́п*) 'звышпрацяглы сон' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* і *спаць* (гл.), у ітэратыўнай форме *-сыпáць* < прасл. **sypnǫti* < **sъpati*.

**Перасы́паць**, *пірасы́паць* 'перабудавáць старую драўляную будыніну, у якой гнілое бярвенне замяняецца новым' (Некр.; Варл.; бялын., Янк., Мат.; Мат. Гом.), 'рамантаваць агароджу' (навагр., Жыв. сл.), драг. *пырысэ́патэ (хату, хлывá)* 'паднавіць будынак' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *перасыпáнка* 'рамантаваная хата з падноўленымі вянкамі' (навагр., Сцяшк. Сл.). Укр. бойк. *пересúпати* (*піч, хату*) 'перабудаваць, пераставіць', зах.-валын. *пирисéпате* 'збіраць нанова рассыпаныя клёпкі ці ўстаўляць новае дно'; рус. кастр., арл., наўг. *пересыпáть* 'разбіраць і зноў складваць, перабудоўваць (аб будынках)', польск. *przesypać* 'тс', славац. *presýpat' perie* 'памяняць пер'е ў падушках'. Да *пера-* і *сы́паць* (гл.). Утварылася ў выніку семантычнага пераносу: першапачаткова слова ўжывалася толькі ў адносінах да сыпучых цел, пазней — у адносінах да драўлянага посуду і начыння: перабіраліся клёпкі, старыя замяняліся новымі, зноў набіваліся абручы, і, нарэшце, назва дзеяння, звязанага з гэтым рамонтам, перайшла на рамонт будынкаў, агароджы і інш.

**Перасэ́ндзіць** (*пірясэньдзіць*) 'абгаварыць' (Юрч. СНС). З польск. *przesądzić* 'асудзіць', але з семантыкай рус. *осудить* 'абгаварыць'.

**Перасявáла** 'сіта' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Утворана ад дзеяслова шматразовага дзеяння *перасявáць* < *перасéяць* 'прасеяць (муку) < *пера-* і *сéяць* (гл.) пры дапамозе суф. *-л-а* са значэннем 'прадмет дзеяння'. Аналагічна славен. *preseválo* 'сіта для прасейвання

мукі ў млыне'. Чэш. *prosévadlo* 'рэшата' — з іншай прэфіксацыяй.

**Перасяда́ць** 'захрасаць, засядаць пры глытанні' (Некр.), *перэседа́ць* 'тс' (ТС), *пірасе́сці* 'затрымлівацца ў страваводзе пры глытанні (пра страву)' (Варл.). Рус. арх. *пересе́сть* 'перасядаць у горле', *пересежа́ть* 'засядаць ад перасыхання', балг. *пресе́дна, зася́дам* 'засядаць у горле', *пreся́да ми* 'мне не шанцуе', серб.-харв. *за̀сести* 'захрасаць'. Да *пера-* і *се́сці* (гл.).

**Перася́дка** 'перасадка' (гродз., Скарбы; Растарг.). З рус. *переса́дка* 'тс', збліжанае з *сядаць*, параўн. польск. разм. *przesiadka* 'тс'.

**Ператаніць** 'спрасці вельмі тонкую нітку' (Др.-Падб.), рус. кастр., дан. *перетони́ть, перетоня́ть* 'рабіць вельмі тонкім'. Да *пера-* і *тані́ць, танчы́ць* < *тонкі* (гл.).

**Ператка́ць**, мсцісл. *піряткáць, паткáць* 'паткаць (чым)' у сказах: *Аснувала суконныя, а пыткала хлыпянкыю... Чым піряткеш, тым і ладна..., пірітыка́ньне, пытыка́ньня* 'тканне, працэс ткацтва' (Жыв. сл.). Фармальна да *пера-* і *ткаць*. Больш падрабязна гл. *пeратыка́ць*.

**Ператока**$_1$ (*перэто́ка)* 'пратока' (ТС), *пірятоk(а)* 'тс' (Юрч. СНЛ), укр. *перетік* 'тс', рус. *перето́к* 'праточная лужа, ручаёк', польск. *przetok* 'вузкі пас вады паміж двума берагамі', славац. *prietok* 'плынь, працяканне', славен. *pretòk* 'пратока, рукаў ракі, рэчышча', *pretộka* 'канава, па якой вада цячэ на млын'. Узыходзяць да прасл. **per-tekti*, — рус. *перете́чь, перетека́ть* 'цячы праз што-небудзь', польск. *przeciekać* 'працякаць, прасочвацца', серб.-харв. *претѐћи* 'перацячы, пераліцца', славен. *pretêči* 'прабегчы, праходзіць (пра час)'. Да *пера-* і *цячы́* (гл.).

**Ператока**$_2$ 'старэйшы ў зграі звяроў' (Мядзв.), 'гуска ва ўзросце да 1 года' (паўн.-усх., КЭС), *перато́чка, пірато́чка* 'аднагадовая авечка' (Бяльк.). Рус. дыял. *перето́ка* 'авечка, што на год ці болей засталася без ягняці', 'гусь, якая не нясецца', дан. *переток* 'тс', (паляўнічае) *перето́к, перетока* 'воўк, ваўчыха, што перазімавалі адну зіму', 'перагадавалая ліса', *перетоки* 'раі пчол, якія болей года таму аддзяліліся'. Да *пера-* (гл.) і *-тока*, якое генетычна можна звязаць з казах., кірг. *toktu* 'аднагадовы баран', тур. *toklu* 'аднагадовае ягнё', *tok* насычаны', 'густы', 'тоўсты' < аг.-цюрк. *toq* 'сыты'.

**Ператоп**, *пэрэто́п* ‘тук, чысты свіны тлушч’ (жытк., Вешт., ЛА, 4), параўн. рус. *перето́пки* ‘рэшткі ад ператопленага сала, масла, воску’, польск. *przetop*, серб.-харв. *пре́топ* ‘ператопленае сала, тлушч’. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *пературапіць* (< прасл. **per-topiti*). Да *пера-* і *тапіць₁* (гл.).

**Перато́пка** ‘паводка’ (віл., Сл. ПЗБ). Да *пературапіць* ‘патапіць’ < *пера-* і *тапіць₂* (гл.), суфікс *-ка*, як у *паводка*.

**Ператоч,** *ператоча, ператочча* ‘перагародка’ (гродз., Сл. ПЗБ), *перэто́чка* ‘міжвузелле ў саломіне, у сцябліне расліны’ (ТС). Да прасл. **per-tъkjь, *per-tъkja, *per-tъkьje* < **per-tъkati* > *пера-тка́ць* — *пера-тыка́ць* < *пера-* і *ткаць, ты́каць* (гл.). Сюды ж, відаць, і польск. *przetok* ‘перахват, перарэз, перагародка’ (Варш. сл., 5), паколькі ў ім магчыма варыянтнасць вакалізма, параўн. *ściek/ stok* і пад.

**Ператоч’е** (*ператучйа)* ‘частка току’ (палес., Мат. I дыял. канф.). З ⁺*перадточча*, якое ад *перад* і *-точча* < прасл. **tok-ьje* < *tokъ* > *ток* (гл.).

**Ператраваць (?)**, параўн. іншую рэканструкцыю і іншае тлумачэнне: *пірэтраваць*, магчыма, ‘вандраваць, валачыцца, падарожнічаць’ у песні: *А мой міленькі пірэтруе. Ой, нігды ў дому не начуе. Ой, ранюсенько од’ежджае. Да перад сьветам прыяжджае* (Федар. 7, Дад., 237). Да *травіць, труць* ‘паіць атрутай’, перан. ‘псаваць нервы, здзекавацца’, менш верагодна з польск. *penetrować* ‘шнарыць, шукаць, абследаваць’ з наступнай менай семантыкі (?).

**Ператрая́ніць** ‘узрыхліць’ (бярэз., Сл. ПЗБ). Да *пера-* (гл.) і *траяніць*, параўн. бялын. *трайніць*, бярэз. *траяніць*, віц. *трае́нь падымаў,* бабр. *травіць, паттравіць палоску* — у апошнім гіятавае *-в-* замест *-й-* (ЛА, 2); шчуч. *трайліць* ‘мяшаць пад жыта’; усе да *траіць* ‘араць трэці раз’ (гл.); параўн. асіп. *ператраіць* ‘перабаранаваць’ (там жа; карм., Мат. Гом.).

**Ператронціць** ‘перашкодзіць зрабіць што-небудзь’ (даўг., Сл. ПЗБ). З польск. *przetrącić* ‘перабіць, пераламаць; перакусіць’.

**Ператрубіць** (*пырытрубыты)* ‘пагубляць’ (кам., ЖНС). З польск. *przetrąbić* ‘прапіць, прамарнатравіць’.

**Ператрун** ‘эстрагон, Artemisia dracunculus L.’ (Дэмб. 1). З назвы іншай расліны Pyrethrum (< ст.-грэч. πυρεϑρον), якая

цяпер па-лацінску называецца Tanacetum L. ‘піжма’ і таксама ўжываецца як прыправа.

**Ператру́с** ‘вобыск’ (ашм.. Стан.), *ператру́ска* ‘пературасанне’ (Нас.), ‘пераборка старой хаты’ (ветк., Мат. Гом.), *ператраса́ць* ‘перабудоўваць’ (Касп.). Да *пера-* (гл.) і *тру́сіць*, якое з прасл. **trǫsiti* ‘трусіць’, ‘трэсці’. Значэнне ‘перабудоўваць’ — другаснае, параўн. *перасыпа́ць* (гл.).

**Перату́лак** *(пірятулык)* ‘вузкая прастора паміж будынкамі, сутачкі’ (клім., ЛА, 5). Да *пера-* (гл.) са значэннем, як у *пераход*, і *-ту́лак* (магчыма, спачатку — *сту́лак*) ад *сту́львацъ* ‘месца, дзе стульваюцца два будынкі’ < *туліць* (гл.), для адпаведнага прасл. **tuliti* выводзіцца першапачатковае значэнне ‘прыціскацца да нечага, туліцца’ (Борысь, Czak. stud., 87).

**Ператыка́ць** (*перэтыка́ць)* ‘ткаць ніткамі рознага колеру, *перэтыка́ньe* ‘вытканыя па краях каляровыя дарожкі (на канцах ручніка, па краю сарочкі і г.д.)’ (ТС), *перэтыка́ный* ‘з вытканым узорам (напр., ніз хвартуха, з чырвоных нітак)’, *натка́ны, натыка́ны, зату́каны* ‘з вытканым узорам’, *натыка́ты* ‘ткаць каляровым узорам’ (Уладз.), *пе́ратыка́нка* ‘спадніца з пературыканага палатна, пературыканая коўдра’, *ператыка́ны* ‘саматканы (пра паўсуконны матэрыял)’ (стаўб., Нар. сл.), *пірітыка́нкі* ‘пасцілка з узорамі’ (мсцісл., Жыв. сл.), *пірітыка́нычка* ‘саматканая посцілка’ (Юрч. СНЛ). Рус. *перетыка́ть* ‘ткаць, перапля-таць ніткі асновы ўтком; ткаць на палатне палоскі, узор утком іншага колеру ці іншай фактуры’, *перетыка́нный* ‘з тканым узорам (палатно, ручнік)’; польск. *przetkać,* в.-луж. *přetkać, přetkawać,* н.-луж. *pśetkaś;* славац. *pretkávat’* ‘ткаць ніткамі іншага колеру’, *pretkat’* ‘праткаць, ператкаць’, славен. *pretkáti* ‘ператкаць, выткаць, выткаць нанава’, серб.-харв. *pretkȁti* ‘зноў выткаць; абшыць аблямоўкай’. Да *пера-* (гл.) і *-тыка́ць*, якое з’яўляецца прасл. ітэратывам (**tykati*) да першаснага прасл. **tъkt’i* ‘ткаць’, звязанага генетычна з **tъknǫti; *tъkt’i* ўзыходзіць да і.-е. **t̥k-* ‘плесці, віць’ > ‘ткаць’. А семантыка прасл. інавацыі **tъkati* адлюстроўвае нейкія больш актуальныя прыкметы, напрыклад, значна большую імклівасць увядзення і прасоўвання ў зеве ўточнай ніткі дзякуючы выкарыстанню чаўнака’ (Трубачоў, Ремесл. терм., 117—118). Да *ткаць* (гл.).

**Ператы́нак** 'пляцень' (гом., Рам.). Да *тын* (гл.), харв. *prètin, prètinac* 'перагародка' пры *pretiniti* 'перагарадзіць, адгарадзіць; аббіць дошкамі' і славен. *tìn* 'перагародка (з дошак)', якія Борысь (Czak. stud., 86) узводзіць да **tynъ* 'агароджа, плот, перагародка, сцяна' < **tyti* 'тлусцець, буйна расці' (Мартынаў, Язык, 31—34). Па фанетычных і лінгвагеаграфічных прычынах не можа быць узведзена да **tęti* (гл. *цяць*), **per-tęti* 'перарэзаць', параўн. польск. *przecinek* 'коска' і пад., параўн. укр. *перетíнок* 'папярочны пляцень'.

**Пераўга́ць** 'сказіць; яўна схлусіць' (Нас.). З *пераілгаць,* да *пера-* і *(і)лгаць* (гл.) з неабмежаваным пераходам *л* > *ў*, відаць, у выніку страты пратэзы.

**Пераха́джвацца** (*піріха́джывыцца)* 'не несціся пэўны час (пра курыцу)' (Юрч.). Да *пера-* і *хадзіць* (гл.), г. зн. не сядаць у гняздо, каб несціся.

**Пераха́жка** 'праходжанне, прагулка' (Нас.). Да *пераходзіць* > *пераха́жываць* 'пераходзіць з аднаго месца (кватэры) на іншае; часта праходзіць', *пераха́жывацца* 'мяняцца да лепшага; прагульвацца', магчыма, пад уплывам польск. *przechadzka* 'прагулка, прагулянка, шпацыр'. Гл. *пера-* і *хадзіць*.

**Перахалопіць** 'перасаліць' (Мік.), міёр. *піръхало́піць* 'перастарацца, перабольшаць' (Нар. сл.), мсцісл. *піріхало́плівыць, піріхало́пывыць* 'перабіраць меру' (Юрч. СНЛ). Наўрад ці ўзыходзіць да грэч. ἅλς 'соль'. Хутчэй, звязана з *салапяка* 'разявака', якое, магчыма, з'яўляецца роднасным франц. *salope* 'неахайны', *saloper* 'партачыць, халтурыць'.

**Пераха́ўкнуць** 'перабраць; выпіць, наліць болей, чым патрэбна, перабольшыць', *пераха́ўкнута* (безасаб.) 'пакладзена болей нормы' (Шпіл., Нас.; лях., Сл. Брэс.), смал. *перахаўкнуць, перахоўкнуць* 'выпіць гарэлкі праз меру'. Да *пера-* (гл.) і *ха́ўкаць* 'хутка хапаць ротам' — ад гукаперамання *хаўк!* — пра хуткі рух з адпаведным гукам, *хаўкну́ць* 'хутка, прагна праглынуць', параўн. *аха́лкам* (гл.).

**Перахва́тамі** (*піріхва́тымі)* 'рыўкамі' (Юрч. СНЛ). Прыслоўе ў форме назоўніка *перахват* у Тв. скл. мн. л. Магчыма, пад уплывам рус. *перехват, перехватить* 'перакусіць, перахапіць час ад часу'. Да *пера-* і *хвата́ць* (гл.).

**Перахíбіць** 'памыліцца, даць маху, схібіць' (Шат.). Да *пера-* (гл.) і *хíбіць* 'дапускаць пралікі, недакладнасці, рабіць памылкі', семантычна найбольш набліжанага да зах.-слав. арэалу, параўн. польск. *chybić* 'памыляцца', чэш. *chybiti* 'рабіць памылку', славац. *chybit'* 'тс', памыляцца' (Мартынаў, Слав. акком., 143—144).

**Перахлéўе** (*пэрэхлéўе)* 'прыгуменне' (стол., ЛА, 4). З *перадхлеўе* < *перад* і *хлеў* (гл.).

**Перахлябісты** 'худы, з вельмі ўпалым жыватом' (ТСБМ, Янк. 1; бялын., Янк. Мат.; Шат., Мат. Маг., Мат. Гом.; лун., Шатал; ЛА, 1), 'з крывой спіной' (Шат.), 'тонкі ў поясе', 'з выгнутай спіной' (Нар. Гом.), 'пакатая (страха)' (ЛА, 4), мсцісл. *пíрíхля́бістысць* 'патанчэнне, звычайна ў таліі' (Юрч. СНЛ), *перахля́біна* 'неглыбокая ўпадзіна, паглыбленне паміж двума ўзвышшамі' (ТСБМ; лід., дзятл., лях., Сл. ПЗБ); 'нізінка на раллі, дзе стаіць грунтовая вада; упалае месца на целе жывёлы; тонкае, слабое месца на скуры-юхце' (Варл.), *перахля́біцца* 'рэзка патанчэць ад голаду, знясілення, выгаладацца, схуднець, змарнець' (бялын., Янк. Мат.; ТС; Скарбы; Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ; слонім., Жыв. сл.); *перахля́баны*, *перахля́блы*, *перахля́б'яны* 'галодны (пра карову)' (ЛА, 1). Звязана з *хляба* 'худая, схуднелая істота (чалавек, жывёліна)', *хля́бы* 'апалыя бакі ў жывёлы' (гл.).

**Перахóд**₁ 'эпідэмія якой-небудзь няцяжкай хваробы' (стаўб., З нар. сл.), *піряхóд* 'пераход часу пасля прынятага' (Юрч. СНЛ), сюды ж *перэхóдзіць* 'перахадзіць за тэрмін (аб карове)', 'пераходзіць з аднаго месца на другое, у другі стан' (ТС), *пераходка* 'брод' (добр., Мат. Гом.). Да *пера-* і *хадзíць, ісці* (гл.).

**Пераход**₂ 'параход' (Некр., ТС). Пад уплывам народнай этымалогіі з *параход* (гл.) — пры ад'ідэацыі лексемы *пераход* — як 'сродак, пры дапамозе якога можна пераправіцца з аднаго месца ў іншае'.

**Перахóдзіны**, *перэхóдзіны* 'ўходзіны — свята, пачастунак з прычыны перасялення са старой хаты ў новую' (віл., ЛА, 3; ТС). Да *пераход*₁ (гл.). Суфікс *-ін-ы* характэрны для назваў традыцыйных абрадаў (Сцяцко, Афікс. наз., 43).

**Перахожы** (*піряхóжый)* 'мінак, прахожы' (Мік., Нас.), *пераxажáць* 'пераходзіць з месца на месца; праходзіць', *пераxажáлы, пераходны* 'які праходзіць побач' (Нас.), рус. смал. *перехóжий*. Калька з рус. *прохожий* 'тс', параўн. ст.-бел. *перехо-*

*дзень* (XVII ст.) і *проходзень* 'тс', а таксама адпаведнік рус. *перехожий* ("калики перехожце") — *хаджа́лы* (гл.).

**Перахо́ў** (*піряхо́ў)* 'перахоўванне, хаванне ад каго-небудзь' (Юрч. СНЛ), укр. *перехо́в* 'хаванне, укрывальніцтва'. Суадносіцца з польск. *przechów, przechówek* 'тс', якія з зах.-прасл. **xovati* > бел. *хава́ць* (гл.). Сюды ж *перахоўка* 'пераклад рэчы з аднаго тайнага месца ў другое', 'тайнае трыманне пад вартай' (Нас.).

**Перахрасні́** 'скрыжаванне дарог' (ЛА, 2). Да *пера-* (гл.) і *храсня́* 'тс', утворанага ад *хрэст* (гл.) пры дапамозе суф. месца *-ня,* параўн. бярэз. *хрясні́,* гарад. *хрэ́сні*, касцюк. *хрэ́сці* 'тс' (там жа), а таксама *піряхрёсный* 'перакрыжаваны' (Юрч. СНЛ), *перэхросныя* (дарогі) 'крыжавыя дарогі' (лельч., Нар. лекс.).

**Перахро́ны** 'грамаадвод; супрацьпажарныя меры' (Сцяшк. Сл.). З польск. *piorunochron* 'грамаадвод' пры ад'ідэацыі бел. *пера-сцярога* (гл.).

**Перахрысці́ць** 'балюча ўдарыць' (люб., Нар. словатв.). Да *пера-* (гл.) і *хрысці́ць*, гукапераймальнага паводле паходжання; магчыма, суадносіцца з прасл. **xvorstati*, параўн. экспрэсіўныя ўтварэнні *хра́снуць* 'моцна выцяць', *хра́снуцца* 'ўпасці, паваліцца, моцна стукнуўшыся', дыял. (драг.) *хроснуты* 'ўдарыць' і *хво́снутысь* 'ударыцца', рус. *хворостить*, *чи-хво́стить* 'моцна сцёбаць', польск. *chróstać,* н.-луж. *kšostaś,* в.-луж. *chróšćić,* чэш. *chrastiti* і *chřastati* 'грукаць дзвярыма', 'біць некага палкай' (гл. Махэк$_2$, 206 і 207); другасна (іранічна) атаясамлена з *хрысці́ць* (гл.), *перахрысці́ць* 'пераэжагнаць, палажыць крыж (рукою)'.

**Перахрэсце** 'скрыжаванне (вуліц)' (Нар. Гом.). Да *пера-* і *хрэст* (гл.), суф. **-ьje* (< ц.-слав. *крьстъ* 'крыж' < 'распяцце' < 'Хрыстос' < ст.-в.-ням. *kristъ, christъ* 'Хрыстос'), параўн. літаратурнае *перакрыжаванне*, рус. *перекресток* і пад.

**Перац**$_1$ 'расліна Capsicum annuum L.' (ТСБМ, Кіс., Яруш., ТС, Шат.; мін., Шн.), *перац лугавы* 'дзікі перац' (чэрв., Сл. ПЗБ). З старaж.-рус. *пьпьрь* 'тс' (1193 г.) < **рьрьгь* (дакладней з яе формы *пьпьрьць* у выніку гаплалогіі *пьпь* > *пь*), якое з лац. *piper* < ст.-грэч. *πέπερι* < ст.-інд. *pippalī* 'тс' (Фасмер, 3, 241).

**Перац**$_2$ 'майнік двухлісты, Majanthemum bifolium (L.) Fr.' (гродз., Кіс.). Да *перац$_1$* (гл.). Названы паводле падабенства лістоў.

**Перацалпоніванне** (*піріцалпónівыньня)* 'абгаворванне, плёткі' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* і *цалпоніць* 'гаварыць пустое' (гл.).

**Перацáпаць** 'пераматыжыць, акучыць матыкай' (Ян.). З *перасáпаць*, якое да *пера-* і *сáпаць* 'акучваць' (гл.), параўн. лун. *сáпка*, бярэз., кіраў. *цáпка* (ЛА, 2) і да т.п.

**Перацвітáць** 'адцвітаць' (брасл., дзятл., Сл. ПЗБ), *пяраць-вітáць* 'тс' (зэльв., Жыв. сл.), *пырыцвітатэ* 'тс' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *пера-* і *цвісці* (гл.). Прыстаўка *пера-* (ва ўкр., польск., балг., макед., серб.-харв. мовах) з'яўляецца дыялектным сінонімам да *ад-* (< прасл. *ot-*) — у рус., чэш., славац. і славен. мовах.

**Перацéрціся** 'не пабегаць (пра карову)' (карэліц., Нар. словатв.). Да *пера-* і *церціся* (гл.). Значэнне апошняга 'бегаць (аб карове)', магчыма, узыходзіць да прасл. **tьrti* 'класці ікру, нераставаць' (параўн. рус. *тереться*, чэш. *třiti se*) (Махэк$_2$, 653).

**Пераціны** 'памінкі' (ветк., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, звязана з укр. *перетúн* 'перапынак' ці зменена з мэтай табуізацыі *дзевяціны* 'памінкі на дзевяты дзень пасля смерці' (< прасл. *devętina*).

**Перацíх**: *з перацíхам* '(дождж) з перапынкамі' (рас., ЛА, 2). Утворана ў выніку кантамінацыі лексем *перапын(ак)* і *суіхáць* (гл.).

**Перацувáць** 'перацвітаць' (швянч., Сл. ПЗБ). З *пера-* і *цувáць*, што да *цуць* 'цвісці' (гл.), параўн. макед. *прецутува* 'адцвітаць', варыянт *прецветува* 'тс'.

**Перацуркавáць** 'пераесці': *перацуркавала ўсе яблыкі за зіму* (люб., Нар. словатв.). Да *пера-* і *цуркаць, цурчэць* (гл.). Гукапераймальнае.

**Перацыгнýць** 'пераскочыць' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Да *пера-* (гл.) і $^+$*цыгáць* — глухі варыянт да *дзы́гаць*, гл. *перадзыгáць, перадзы́гнуць* 'тс'.

**Перацьмéць** (*піряцьмець)* 'перагарэць без агню; пражыць ціха' (Юрч. СНЛ). Пад уплывам народнай этымалогіі з *ператлéць* < *пера-* і *тлець* (гл.) ці з *цямяна гарэць*.

**Пераця́жка** (*пэрэтя́жка)* 'перад у боце' (лун., Шатал.), *перацяжкі* 'бярвенні, пры дапамозе якіх умацоўваецца плыт' (бярэз., З нар. сл.), 'гульня ў перацягванні' (Нік. Очерки; Гарэц.). Да *пера-цягнуць* (гл.). У першай лексемы, відаць, недакладнае тлумачэнне, параўн. рус. *перетяжка сапог* 'мена падэшваў альбо падшыванне новых падэшваў' (Даль).

**Пераця́жэліцца** 'перапрацавацца' (Ян.). Да *пера-* (гл.) і ⁺*цяжэ́ліцца*, якое да *цяжэль* 'цяжар, цяжкасць' (гл.).

**Перацяміць** 'перавучыцца' (Шпіл.). Да *пера-* і *цяміць* 'кеміць' (гл.), хаця семантыка аформілася пры ад'ідэацыі лексемы *цёмны* 'невучоны, няграматны', г. зн. 'перамяніцца з няграматнага ў навучанага, кемлівага'.

**Перацяплі́цца** (*перэцеплі́цца)* 'перагарэць, стаць попелам' (Растарг.). Да *пера-* і *цяпліцца* 'паліцца (у печы), ацяпляцца' < *цяпло́* (гл.), *цяпе́льца* 'агонь'.

**Перацярпе́цца** 'доўга быць галодным' (Варл.). Да *пера-* і *цярпе́ць* (гл.).

**Перачаўра́ць** 'выздаравець, пераадолець хваробу' (Сцяшк. Сл.), ваўк. *перача́ўраць* 'перахварэць'. Да *пера-* і *чаўрэць* 'чахнуць, чэзнуць, марнець, занепадаць' (гл.).

**Перачо́с** (*pieraczos*) 'падскураны сверб на далонях або ступнях' (Арх. Федар.). Да *пера-* 'па ўсёй плошчы' і *часа́ць* (гл.).

**Перачума́чыванне** (*пірічума́чывыньня)* 'атлумліванне' (Юрч. СНЛ). Параўн. укр. *перечумакува́ти* 'займацца чумакаваннем'; магчыма, да *чума́к* (гл.), параўн. *выцыганіць* 'вымантачыць' (да *цыган*, гл.). Семантычна можа быць звязана з *ачумець* 'ачмурэць' (гл.).

**Перачун** 'сабака, які пры паляванні зграяй выбягае наперад, каб перахапіць звера' (Інстр. 2). З рус. *пере́чун, пере́ка* 'тс'. Да *пе́рак* (гл.). Сюды ж *пе́рачанне* 'недахоп сабакі, які выбягае наперад, каб перахапіць звера'.

**Перачу́хліць** 'зрабіць неахайна, абы-як' (Жыв. сл.). Да *пера-* (гл.) і *чухліць*, якое ўзыходзіць да выклічнікаў *чух!* ці ⁺*чухе́ль! чухі́ль!*, што выражаюць хуткія рухі.

**Перачу́ць**, *перэчуць* 'дачуцца' (ТС). Укр. *перечу́ти* 'тс', *перечу́тися* 'дайсці весткам, быць пачутым', польск. *przeczuć* 'прадчуваць, прадказваць', рус. *перечу́ть, перечу́ять, перечува́ть* 'перанюхаць', 'пачуць (усё); даведацца праз каго-небудзь'. Відаць, з **pro-čuti*. Параўн. аналагічна рус. *про-слышать*. У такім выпадку — да *пра-* і *чуць* (гл.).

**Перачы́нак**, *пэрэчы́нок, пярэ́чынак, парэ́чынок, пырычы́нок*, сюды ж *пэрэчыны́ты* 'напластаваць граблямі сена' (палес., Шатал.; ЛА, 2). Да *пера-* і *чыні́ць* (гл.). Параўн. гродз., зах.-палес. *шчынак* (*< прасл. было б **sъ-čin-ъkъ*), *шчэнок, шчы́нка, шчэна,*

*шчын, шчынок, шчыня́к* (ЛА, 2), а да семантыкі — польск. *przeczynić* 'перарабіць, змяніць форму', рус. *перечи́н* 'пераробка зробленага' (Даль).

**Перачэ́ркнуць** 'пераскочыць' (Сцяшк. Сл.). Мабыць, больш імаверна можна дапусціць генетычную сувязь з гукапераймальным імітатывам *чэрк!* — пра хуткі рух, параўн. гродз. *чэ́рхаць* 'чыркаць, запальваць запалкі'.

**Перашала́цца** (*пірішала́цца*) 'прабадзяцца' (Юрч. СНС). Да *пера-* і *шала́цца* 'бадзяцца' (гл.).

**Перашáпарыць** (*пырышя́порыты*) 'перарыць', 'расходаваць, растраціць' (Клім.). Звязана з *шапо́ртаць* (пры ад'ідэацыі *ша́рыць* 'шукаць, перабіраючы прадметы'), якое ўзыходзіць да гукапераймання шоргату, шастання *шапор-шапор!* (Насовіч, 706).

**Перашарсьці́цца** 'перайначыцца, стаць іншым' (віл., Нар. сл.). Да *пера-* і $^{+}$*шарсці́цца* 'мяняць шэрсць, поўсць' < *шэрсць* (гл.).

**Перашарсці́ць** 'знішчыць, прамарнатравіць' (Нас., Юрч.), *перашаршча́ць* 'знішчаць, растрачваць, перавесці' (Юрч. СНЛ). Да *пера* (гл.) і $^{+}$*шарсці́ць*, семантыка якога відочная з тлумачэння ў Насовіча — 'перанасіць па адной шарсцінцы'.

**Перашатры́ць** 'парэзаць на труху, патачыць (сена)' (ТС). Уваходзіць у групу экспрэсіўных дзеясловаў з коранем *-шат-*, ускладненым суфіксамі: *-шат-ар-ыць, шат-р-аваць, шат-к-аваць (гл.);* параўн. укр. *шат-ир-ити* 'мыючы, церці вехцем', 'шукаць, шарыць', чэш. *šát-r-ati* 'шукаць'.

**Перашкода** 'тое, што перагароджвае шлях, затрымлівае рух, перапыняе якое-небудзь дзеянне' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Шат., Касп.), *перашкодзіць* (Шпіл., ТСБМ), *перашкадза́ць* (відаць, пад уплывам польск. *przeszkadzać* 'тс'), *перашкажа́ць* (Яруш., Нас.), *пірашкаджа́ць* 'рабіць турботы' (Варл.), *перэшко́дзіць* 'прынесці вялікую шкоду' (Растарг.), *пірашкодзіць* 'пашкодзіць выканаць нейкую работу' (Варл.). Да *пера-* і *шкода* (гл.).

**Перашлы́ндаць** (*піряшлы́ндыць*) 'прабадзяцца' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* і *шлындаць, шлы́нда* (гл.).

**Перашніпорыць**, *перэшны́порыць* 'перашукаць' (ТС), *піряшныпыріць* 'перашнарыць' (Юрч. СНЛ), навагр. *перашны́прыць* 'перавярнуць' (Сцяшк. Сл.). Да *пера-* і *шны́парыць* (гл.).

**Перашны́харыць** (*піряшны́хыріць*) 'абшукаць хутка і старанна' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і *шны́харыць*, якое, відаць,

у выніку кантамінацыі лексем *нюхаць* і *шніпарыць/ шныпарыць* (гл.).

**Пераштарцава́ць** экспр. ‘абняславіць’ (ашм., Сл. ПЗБ). Да *пера* (гл.) і ⁺*штарцава́ць*, якое з польск. *sztorcować* ‘сварыць, ганіць; калоць, дапякаць; кпіць’ < *sztorc*; апошняе да *s-terczeć* ‘тырчаць, вытаркацца’ (параўн. рус. *торчать*, славен. *strčáti* ‘тарчаць уверх’), — усе да прасл. **tyčiti* ‘вытаркацца, выпінацца, тырчаць уверх’ (Махэк$_2$, 650), роднаснага літ. *stū̃gti* ‘тырчаць уверх (напр., пра вушы ў зайца)’, *stūksóti* ‘вытаркаць, выдавацца’; пазней асновы **tyk-/*tyč-* узмацнілася устаўным *-r-*.

**Пераштупува́ць**, в.-дзв. *піраштупува́ць* ‘перастрачыць шво’ (Сл. ПЗБ) — з ням. *stopfen* ‘цыраваць’ (тамсама, 3, 521).

**Перашу́мы** ‘шум дажджу, ветру’ (Сцяшк. Сл.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне, параўн. польск. *przeszumieć* ‘шумець пэўны час’. Гл. *шум*, *шумець*.

**Перашурмава́ць** ‘перашукаць, усё пераглядзець, ўсюды абшукаць’ (гродз., Скарбы). Да *пера-* і *шурмава́ць* (гл.).

**Перашушэліць** ‘ператачыць (жыта...)’ (Некр.). Да *пера-* і *шушэліць* гукапераймальнага паходжання, параўн. *шушкаць* ‘шарахцець, шушукаць’, або ў выніку кантамінацыі з *ша́шаль* і *шу́шамець* ‘недабраякаснае зерне’ ці *шушмі́ца* ‘смецце, адыходы пры веянні’.

**Перашчалы́га** (*пірашчалы́га)* ‘той, хто передражнівае, перакручвае гутарку іншых асобаў’ (Варл.). Аддзеяслоўны назоўнік, у якасці зыходнага можна прывесці *шчалыкаць* ‘шчыпаць’ ці *шчалугаць* ‘лушчыць’. Нельга выключыць уплыў рус. *прощелы́га* ‘круцель, махляр, прайдзісвет; насмешнік’, якое ўзводзіцца да рус. *щель* ‘шчыліна’ і стаіць у адным шэрагу семантычна блізкіх слоў: *пройдоха, проныра, пролаза* (Фасмер, 3, 387), што ў святле прыведзеных фактаў не зусім пераконвае.

**Перашчу́к** ‘дождж з перапынкамі’ (нараўл., ЛА, 2), *перашчука́ць, перэшчука́ць* ‘сціхаць, пераставаць’ (Нас., Растарг., Нар. Гом. — Сачанка), *перашчу́кнуць, пірашчу́кнуць* ‘перастаць’ (брагін., З нар. сл.; чач., Жыв. НС), рус. бранск. *перещу́кать, перещу́кнуть* ‘перастаць (аб дажджы)’. Да *пера-* (гл.) і *шчука́ць, шчу́кнуць* ‘перастаць, пераставаць’ (гл.), якое ўзыходзіць да літ. *ščiū̃ti* ‘сціхаць, пераставаць’.

**Перашчыўля́ць** (*пірішчыўля́ць)* 'перашчыкнуць' (Юрч. СНЛ). Да *пера-* (гл.) і $^{+}$*шчыўляць*, якое, магчыма, генетычна суадносіцца з *шчыпа́ць* (гл.), аднак застаецца няясным спалучэнне *-ўл-:* можна дапусціць, што яно з *-пл-*, параўн. укр. *перещеплювати* 'зрабіць новую прышчэпку', 'перамяжоўвацца, урэзвацца перавузінай, перашэйкам'.

**Перашы́ўка** (*піряшы́ўка)* 'перагародка ў хаце' (Мат. Маг.). Да *пера-* і *шыць* (гл.), адно са значэнняў якога 'прыбіваць', параўн. *абшыць* 'аббіць дошкамі', *перабі́ўка* 'тонкая перагародка' (гл.).

**Перашэ́ек** 'поле, лес і інш. прастора, якія што-небудзь раздзяляюць' (рэч., ЛА, 5). Пад уплывам рус. *перешéек* 'тс', параўн. адаптаванае літаратурнае *перашыек* 'вузкая паласа, што злучае часткі сушы або аддзяляе адзін водны масіў ад другога' (ТСБМ).

**Пера́яда** 'прыкры, надаедлівы чалавек' (Сцяшк. Сл.), *перэéда* 'нерваванне; той, хто нервуе, раздражняе', *перэеда́цца* 'нервавацца, раздражняць адзін аднаго' (ТС). Да *пера-* (гл.) і $^{+}$*ядзіць* < прасл. **ěditi (sę)*, параўн. рус. пск., цвяр. *переéдки* 'злосная сварка', польск. *jadzić się, jedzić się* 'злавацца', чэш. *jedit* 'тс', ст.-чэш. *jěditi* 'раздражняць', славен. *jezíti, jáditi* 'злаваць', серб.-харв. *jéдити* 'тс', *ја̏дити* 'скардзіцца; прыносіць пакуты' (Трубачоў, Эт. сл., 6, 40). Тураўскае *перэéда* 'абжора' (ТС) да *пера-* і *е́сці* (гл.).

**Пера́яра** (*перыяра)* 'старая авечка' (Рам. 5), *пера́ярак, пера́ярка* 'жывёла мінулагодняга прыплоду (авечак, ваўкоў)' (ТСБМ). Параўн. рус. *перея́р* 'аднагадовы воўк', *перея́рка* 'аднагадовая авечка, што аб'ягнілася першы раз', *переярова́ть* 'перайсці, пражыць пару цечкі'. Да *пера-* і *яр-* (< прасл. *jarъ* 'год', ц.-слав. *яра* 'вясна'), *яравы́* (гл.).

**Пе́рва** 'перш, раней; спачатку' (калінк., З нар. сл.; Растарг., Бяльк.), ст.-бел. *перво, пръвое*, рус. паўн. і паўд. *пéрвá*, польск. дыял. *pirwa* 'тс' — прыслоўе ў форме Р. скл. прыметніка **рьrvъ* 'першы' (Карскі, 2—3, 73) > *пе́рвы* (гл.).

**Пе́рве** 'раней, спачатку' (Бяльк.; Сл. ПЗБ). З *пе́рвей* (< ст.-бел. *первее, первѣи*) — формы параўнальнай ступені н. р. прыметніка **рьrvъ* — **рьrvěje* (Карскі, 2—3, 71), або прыслоўе на *-ě-* ад таго ж прыметніка, якія ўзніклі, паводле Карскага (2—3, 76), пад польскім або ўкраінскім уплывам. Да **пе́рвы* (гл.). Параўн. таксама польск. *pierwiej* 'раней'.

**Перважа́ць** 'спяваць прыму, іграць першую скрыпку' (Нас.). Рэгіяналізм. Да *пе́рвы* (гл.).

**Першашы́б** 'фіранкі, ручнікі нявесты, якія вешаюць у хаце маладога' (ветк., Мат. Гом.). Няясна. Да *пе́рвы* і +*шыб*, якое да *шыба́ць* < рус. *шиба́ть* 'кідаць' (?).

**Первіна́** 'сена першага ўкосу' (шчуч., Сцяшк. Сл.), серб.-харв. *пр̀вина* 'першыя плады, першы ўраджай', славен. *prvína* 'элемент, асноўнае рэчыва', макед. *првина* 'першы раз'. Да **пе́рвы* (гл.). Сюды ж *первяна́, первена́* 'першы выпадак' (Нас.).

**Пе́рвісінка** 'першацёлка' (рас., Шатал.). Рус. *пе́рвесинка, пе́рве́стинка* 'тс'. Параўн. таксама польск. *pierwiasnek, pierwiosnek* 'чалавек-навічок', 'пачатак', 'кветка ключыкі, Primula L.', чэш. *prvosenka* 'тс', славен. *prvêsnica* 'жанчына, якая нарадзіла ўпершыню', ц.-слав. пръвѣснъ 'першародны', укр. *пе́рвісний* 'першасны' Прасл. **pьrvěst(ь)nъjь* — прыметнік, утвораны ад адцягненнага назоўніка ж. р. **pьrvěstь* (параўн. **svěstь*), як аналагічнае праслав. утварэнне **pьrvotьnъjь* < **pьrvota* > *pierwotny*, рус. *пе́рвостный* (Трубачоў, Праспект, 75—76).

**Пе́рвіца** 'сена першага ўкосу' (пух., зэльв., Сл. ПЗБ; гродз., Скарбы), рус. арх. *пе́рви́ца* 'што-небудзь першае, новае'. Да **пе́рвы* (гл.).

**Пе́рвы**, *пе́рву* 'першы' (ТС), *пе́рвый* (Бяльк.), укр. *пе́рвий*, старaж.-рус. *пьрвъ*, ст.-польск. *pierwy*, н.-луж. *ṕerwy*, в.-луж. *pjerwy*, чэш. і славац. *prvý*, славен. *pȓvi*, серб.-харв. *пр̑ви*, макед. *прв*, балг. *пъ́рви*, ст.-слав. прьвъ, прьвыи. Прасл. **pьrvъ*, якое адпавядае ст.-інд. *pū́rva-* 'пярэдні, папярэдні, першы', авест. *paurva-, paoiruya-, paoirya* 'першы', алб. *parë* 'самы першы', ст.-англ. *forwost, forwest* 'першы, правадыр', тахар. А *pärvat* 'старэйшы', тахар. В *pärweṣṣe* 'першы', літ. *pìrmas* 'тс' < і.-е. **pr̥H-u̯o* (Міклашыч, 244; Фасмер, 3, 235; Фрэнкель, 597; Копечны, 2, 684; Махэк$_2$, 488—489; Бязлай, 3, 132—133; Фурлан (там жа, 105) абгрунтоўвае этымалагічную сувязь **pьrvъ* з **pravъ*, гл. *правы*). Сюды *пе́рвысць* 'самы пачатак, упершыню' (Юрч. СНЛ); параўн. таксама польск. *pierwość* 'першапачатковы, першасны стан'. Архаізм на частцы беларускай моўнай тэрыторыі або запазычанне з рус. *первый*, параўн. *першы* (гл.).

**Пе́рвя** 'пер'е ў птушак' (швянч., Сл. ПЗБ). Да *пе́р'е* 'тс' (гл.). Аб мене *j* > *v'* гл. Карскі, 1, 303.

**Первячóк** ‘пярвак, першае дзіця, цяля’ (Нас.). З *пярвáк/пярвя́к* < **пéрвы* (гл.).

**Пéрга**, *пéрьга* ‘шалушэнне (скуры)’, (лельч., стол., петрык., ЛА, 3), *пéрга* ‘перхаць у жывёлы’ (петрык., ЛА, 1), *пéргоць, пергá* ‘перхаць’ (ТС). Да *пяргá, пéрхаць*.

**Пергáмент** ‘апрацаваная скура жывёлы, на якой пісалі да вынаходніцтва паперы’, ст.-бел. *паркгаминъ, паргаминъ, парк(г)аменъ, перкгаминъ, поркгаминъ* (1395 г.). Са ст.-польск. *pargamin, pergamin* (Булыка, Лекс. запазыч., 59), якія праз ст.-в.-ням. *pergamin* ці лац. *pergamēntum* са ст.-грэч. περγαμνός — прыметнік ад назвы горада Πέργαμον у Малой Азіі, дзе ўпершыню спецыяльна апрацаваная скура была выкарыстана ў якасці пісчага матэрыялу (Брукнер, 396; Фасмер, 3, 235).

**Пéр’е**, *пéр’ё, пéр’я, пéрря* ‘лісты цыбулі’ (лаг., карэліц., Сл. ПЗБ; полац., Нар. лекс.; ТС), *пéркі, пéрушкі* (мін., гом., ЛА, 2), *пéрка* ‘тс’ (Ян.), *пер’е* ‘лісце жыта’ (свісл., Шатал.), *пéр’ечко* ‘ліст кропу’ (пін., Шатал.), *пéро* ‘лісце часнаку’ (навагр., З нар. сл.), *пéр’я* ‘лісты саламяных раслін, цыбулі і часнаку’ (Варл.); *перó* ‘плаўнікі ў рыб’ (нараўл., З нар. сл.); *пер’е* ‘пярына’ (ТС), *пер’я* ‘акрыццё скуры ў птушак’ (Варл.). У выніку семантычнага пераносу паводле падабенства з *пярó* (гл.), зборн. наз. *пéр’е*. Сюды ж *грыбы́ з пір’ем* ‘агульная назва пласцінчатых грыбоў’ (кам., Жыв. сл.).

**Пéрка** ‘лекавая лясная расліна’ (ТС). Да *пярó* (гл.). Магчыма, аформілася пад уплывам польск. *piórko* ў назвах: *strusie piórko* ‘расліна мнаганожка, папараць, Polypodium L.’, а таксама ‘Struthiopteria Hall.’ і ‘Iresine L.’, *orle piórko, piórko wodne*.

**Перл**, *пéрлы, пэрлы* ‘жэмчуг’ (ТСБМ, Гарэц.. Др.-Падб., Нас.), ст.-бел. *перло, перла, пэрла* ‘тс’ (1398 г.) са ст.-польск. *perła*, якое са ст.-в.-ням. *përle* (Булыка, Лекс. запазыч., 141), дакладней з *bërla, përala* ‘тс’, якія з вульгарнай латыні *pirula* < *pernula* ‘маленькая груша’ < лац. *perna* ‘груша’, ‘у форме грушы’, італ. венецыянск. *peroli*, веранезск. *piroli* ‘завушніца ў форме грушы’ (Фасмер, 3, 242; Васэрцыер, 170; Бязлай 3, 26).

**Перла** (*пэрла*) ‘панцак’ (глыб., ЛА, 4). З *пéрл(а)* ‘жэмчуг’ у выніку пераносу значэння паводле падабенства колерам ячных круп з жэмчугам. Параўн. рус. *перловая крупа* > *перловка* ‘тс’, *перловый цвет* ‘жамчужны, белы, з шызым адценнем’ (Даль, 3, 101).

**Перламу́тр** ‘каштоўнае цвёрдае рэчыва ўнутры некаторых ракавін’ (ТСБМ), *пірламу́трік* ‘перламутравы выраб’ (Юрч. СНЛ). Праз рус. *перломутр* запазычана з ням. *Perlemutter, Perlenmutter* < с.-в.ням. *bërlinmuoter* — калька з с.-лац. *mater perlatum* ‘маці жэмчуга’, як і франц. *mère-perle*, ісп. *madreperla*, англ. *mother of pearl* ‘тс’ (Фасмер, 3, 242; Васэрцыер, 170).

**Пе́рнік₁** ‘перапечка з пшанічнай мукі на мёдзе’ (Нас., Сцяшк. Сл., Шпіл., Нікан., Вешт., Шат., Касп., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ; Нік. Очерки; смал., Даль). З польск. *piernik* < *pierznik* ‘печыва з мёдам і духмяным перцам’, якое да першаснага **ръръrnikъ* з прасл. **ръръrъ* > *пе́рац* (гл.) (Кюнэ, Poln., 86; Брукнер, 409).

**Пе́рнік₂** ‘насыпка’ (дзятл., шкл., ЛА, 4) — з *на-пернік* < *на пер’е*. Да *пяро́* (гл.).

**Пе́рнік₃** ‘перапляценне на перакрыжаваннях абручоў у кошыку (гняздо для рэбраў)’, ‘ткацкі ўзор “у перніку” — ператкане’. (ТС). Да *пернік₁* (перанос семантыкі паводле падабенства).

**Пе́рнаць** ‘пасцель, пярына’ (лід., Ант.), *пі́рнач* ‘пярына, пуховы матрац, пухавік’, *пе́рнач* ‘тс’ (Сл. Брэс., Нар. лекс., Нар. сл.). З польск. *piernat* ‘матрац, набіты пер’ем’, у якім суф. *-at* быў заменены на *-аць* і *-ач*. Гл. *пярна́т*.

**Пе́рніца** ‘перачніца’ (Нас., Яруш.). З больш старога *пьпьрница* < *пьпьрь* > *пе́рац* (гл.). Аналагічнае выпадзенне ў польск. *pierno* < *pierzno, pierny* < *pierzny*.

**Перныш** ‘пярына’ (Булг.) — варыянт формы *пе́рнач* з даволі рэдкім суф. *-ыш* (гл. *пе́рнаць*). Да *пяро* (гл.).

**Пе́ро**, ц.-палес. *пе́ра* ‘пэндзлік з пер’я для роспісу посуду’ (Вярэн.). У выніку пераносу значэння ‘пяро птушкі’ > ‘пэндзлік, зроблены з пер’я’. Да *пяро* (гл.).

**Перо́н** ‘пасажырская платформа’ (ТСБМ). Праз рус. ці польск. мовы з франц. *perron* ‘пад’езд, ганак’.

**Перс**, беласт. *пêрс, пêрса, бêрс* ‘адрэзак зямлі шырэй загона’ (Смул.), які ўключае як ‘разору’, так і ‘насып’. Абрэмбска-Яблонска (Зб. Аванесаву, 200—204) выводзіць беласт. словы з літ. *pra-peršis* ‘праталіна’, *pra-peršà, prãparšis, pra-paršà* ‘незамёрзлае месца ў рацэ ці моры’. Параўн. *персць₁* (гл.).

**Пе́рса** ‘перхаць’ (петрык., Шатал.). З *пе́рха* (гл. *па́рхі*), аформленае пад уплывам *перса́* ‘плаванне’ (ПСл), гл. *пярса*. Гл. таксама *персць₁*. Параўн. рус. *перша́* ‘перхаць’, а таксама лат.

*pārslas* 'шматкі, камякі попелу, снегу', *pèrslât* 'ісці дробнымі сняжынкамі' < і.-е. *parṣa* 'пыл' (Траўтман, 207).

**Пе́рсень** 'пярсцёнак' (Растарг.). З *пе́рсцень* (гл.). Аб пераходзе *-с'ц'-* у *-с'-* гл. ДАБМ, к. 163, камент., 654—656. Аналагічна *персні́к* 'тс' (Растарг.) і гульня *"ў пе́рсня"* (Маш., 232).

**Пе́рсі** 'грудзі ў каня' (кам., бых., КЭС; Нар. Гом.; беласт., шчуч., Сл. ПЗБ), (паэтычн.) 'грудзі ў чалавека' (ТСБМ), укр. *пе́рси, перс(а),* рус. *пе́рси* 'грудзі, пярэдняя частка цела — ад шыі да жывата', 'унутраныя органы, размешчаныя ў грудзях; лёгкія', стараж.-рус. *пьрсь*; польск. *pierś, piersi* 'грудзі', 'жаночыя грудзі', чэш. *prsy* < *prs, prso, prsa* < ст.-чэш. *prsi* — мн. (парны) л. ж. р.; славац. *prsia* (н. р. мн. л.), славен. *pŕsi* (ж. р.), *pŕsa* (н. р.), серб.-харв. *пр̏си, пр̏са* 'грудзі', ст.-слав. прьси. Прасл. **pьrsi,* роднаснае літ. жамойцк. *pìršys* (ж. р.) 'грудзі у каня', ст.-інд. *párçuṣ* 'рабро', авест. *parəsu-*, *pərəsu-* 'рабро, бок'; асец. *fars* 'тс', 'краіна, старонка' — да і.-е. **perk'* са значэннем 'рабро' (Міклашыч, 342; Траўтман, 220; Покарны, 820; Фасмер, 3, 245; Махэк$_2$, 486; Бязлай, 3, 129). Відаць, прасл. **pьrsi* азначала, аднак, 'жаночыя грудзі', побач з **gr̨odь* 'грудзі чалавека' і *vъn-ědro* 'ўнутраныя органы'. Значэнне 'грудзі ў каня' развілося ў некаторых гаворках пазней шляхам семантычнага пераносу ў сувязі са з'яўленнем конскай вупражы, параўн. *персці* (гл.).

**Пе́рсік** 'паўднёвае пладовае дрэва і яго плод, Persica vulgaris' (ТСБМ). З рус. *персик* (Крукоўскі, Уплыў, 73), якое праз с.-н.-ням. *persik*, с.-в.-ням. *pfërsich* 'тс' з лац. *malum persicum* 'персідскі яблык' (Фасмер, 3, 243).

**Пе́рсні** 'грудзі ў каня' (Бір. Дзярж.; саліг., Нар. словатв.). Паводле Крывіцкага (Нар. словатв., 112), слова ўзнікла з *пе́рсці* (гл.) паводле ўзору *пе́рсцень* 'пярсцёнак' > *пе́рсні* 'тс' (мн. л.). Можна дапусціць, што *пе́рсні* ўзыходзіць да прасл. **pьrsi* 'жаночыя грудзі' > 'грудзі' > 'грудзі ў каня' — асабліва пасля з'яўлення вупражы на каня, параўн. хамут мог разумецца як "пярсцёнак" на шыю. Параўн. славац. *prsiny*, серб.-харв. *пр́сина* 'нагруднік (збруя)'. Сюды ж *персьцьні* 'грудзі ў каня' (пух., З нар. сл.) — у выніку кантамінацыі лексем *пе́рсні* і *пе́рсці* (гл.).

**Персона** 'асоба, чалавек' (ТСБМ), ст.-бел. *персона, парсона, персуна, порсуна* 'асоба' (1388 г.) запазычана са ст.-польск. *persona,*

*parsona, parsuna* (XIV ст.), якія з лац. *persōna* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 23; Кюнэ, Poln., 86), вытворнае *персанальны*, ст.-бел. *персональный* 'асабісты, персанальны' (1615 г.) запазычана са ст.-польск. *personalny* 'тс' (XVI ст.) < лац. *persōnālis* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 32).

**Пе́рсці**, *персць* 'грудзі ў каня' (в.-дзв., Шатал.; ТС; ганц., беласт., Сл. ПЗБ; слон., арш., КЭС; Бяльк.; Янк. 2; Некр.; мазыр., З нар. сл.). Генетычна ўзыходзіць да *персі*. Мяркуецца (Махэк$_2$, 486), што слова магло абазначаць 'рэбры', параўн. ст.-інд. *parśu-*, ст.-інд. *pr̥ṣṭí-* (ж. р.) 'рабро', але ў прасл. мове **pьrstь* стала абазначаць 'грудзі ў каня'. Рэшткі *-t-* можна бачыць у чэш. *prsotiny, prsosiny* 'нагруднік' (< **prstiny*) і ў ням. *Brust* 'грудзі'. Раней Махэк (Recherches, 60) звязваў і.-е. **perk'-* з **perst-* > слав. *pьrstъ* 'палец', прыводзячы ў пацвярджэнне той факт, што ў некаторых народаў (напр., у казахаў) нованароджанаму спачатку давалі смактаць палец, а не грудзі.

**Пе́рсцень**, *пе́рсьцінь, персцёнок* 'пярсцёнак з каштоўным каменем', 'жалезнае колца ў касе' (Нас., Касп., Бяльк., ТСБМ, ТС, Выг.). Укр. *пе́рстінь*, рус. *пе́рстень*, польск. *pierścień,* н.-, в.-луж. *pjeršćeń,* чэш. *prsten*, славац. *prsteň,* славен. *pŕstan*, серб.-харв. *пр̏стен*, макед. *прстен*, балг. *пръ́стен*, ст.-слав. прьстень. Прасл. **pьrsteńь*, утворанае ад **pьrstъ* 'палец' (Махэк$_2$, 486—487). Сной (гл. Бязлай, 3, 130) услед за Шпехтам (KZ, 59, 245) выводзіць прасл. **pьrsty/ę,* Р. скл. *pь̋rstene* з прыметніка **pьrstenъ*, дапускаючы існаванне лексемы **pь̋rstъ* 'пярсцёнак, г. зн. "які належыць пальцу", і параўноўвае такое ўтварэнне з балтыйскім: прус. *pirsten* 'палец' — балта-слав. *pirstá-* 'тс'. Кюнэ (Poln., 86) мяркуе, што бел. лексема запазычана з польск. *pierścień* 'пярсцёнак' (гэтаксама і Банькоўскі, 2, 559), што ў святле згаданых вышэй фактаў малаверагодна, параўн., аднак, *пярсцёнак* (гл.).

**Персць**$_1$, *пе́рсцячку* 'шчопаць, невялікая колькасць, што можна ўзяць трыма пальцамі' (пух., ЛА, 5), ст.-бел. *пер'сть, персть* 'пыл, прах' (Альтбаўэр, 338); укр. *персть*, рус. *персть* 'зямля, пыл', польск. *pierść, pirść, pars, parst* 'тс', 'перагной', 'шчопаць', в.-луж. *pjeršć* 'ворны слой зямлі', чэш. *prst'* 'агародная зямля, гумус', славац. *prst'* 'тс', 'родная зямля', славен. *pŕst*, Р. скл. *prstȋ* 'гумус', 'зямля', *prstenína* 'караняплоды', макед. *прст* 'раскапаная зямля', 'пыл', *прст и плева* 'вельмі шмат', балг. *пръст(та́)*

‘зямля’, ст.-слав. пьрсть ‘пыл’, ‘попел’, ‘луг’. Прасл. **pьrstь* ‘пыл, зямля’, роднаснае літ. *piȓkšnys* ‘жар, попел’, лат. *pìrkstis* ‘тлеючы попел’, утворанае пры дапамозе суф. *-*tь* ад **pers-* > *порах, пéрхаць* (гл.), чэш. *pršeti* ‘ісці (пра дождж)’ — прасл. корань **pьrx-/ *pъrx-/ *porx-* (Варбат, Этимология—1966, 103—104), в.-луж. *pjercha* ‘дробны дождж’; параўн. таксама ст.-інд. *pŕ̥ṣant, pŕ̥ṣati* ‘стракаты, пярэсты, рабы’ (Міклашыч, 243; Мюленбах—Эндзелін, 3, 223; Фасмер, 3, 244—245; Сной$_2$, 589). Бязлай (3, 130) выводзіць прасл. **pьrstь* з і.-е. асновы **pers-* і суфікса *-*ti-/-tei̯-*.

**Персць$_2$** ‘шалушэнне скуры на галаве, перхаць’ (мядз., ЛА, 3). Да *персць$_1$* (гл.). Параўн. таксама *перса, пéрхаць* (гл.).

**Пертурбацыя** ‘ўскладненне, неразбярыха’, ст.-бел. *пертурбацыя* ‘разлад’ (пач. XVIII ст.) запазычана са ст.-польск. *perturbacja* (XVI ст.), якое з лац. *perturbātio* ‘расстройства, узрушэнне, хваляванне’ (Булыка, Лекс. запазыч., 191).

**Пéрун** ‘пярун’ (чэрв., Нар. лекс.). Да *пярýн* (гл.), націск, магчыма, пад уплывам *пéрыць* ‘біць’ (гл.).

**Перунóўка** ‘футровая мужчынская высокая шапка з аўчынай усярэдзіну, а зверху пакрытая сукном’ (мядз., ЛА, 4). Няясна.

**Пéруч**, *пэ́руч* ‘спярша, спачатку; раней, уперад’ (скідз., Хрэст. дыял.; маст., Сл. ПЗБ; пруж., Сл. Брэс.; лід., Сцяшк. Сл.). Вышэйшая ступень параўнання ад прасл. **perkъ*, гл. *пéрак* ‘поперак’, да семантыкі параўн. балг. *пряк* ‘прамы, бліжэйшы’ (гл. таксама Копечны, ESSJ, 1, 174), або ўзыходзіць да спалучэння **perь čь* (< **perь* ‘перад’ і **čь* ‘што’, літаральна ‘перад (перш) чым’). Гл. *пера-*; параўн. польск. *przecz* ‘чаму’. Сюды ж бых., рэч. *спрежда* (Мат., 9, 17) і драг. *упырíдж*, якое, аднак, можна вывесці з прасл. **vъ perdjь* ‘спераду’.

**Пéрушка** ‘закваска ў дзяжы’ (капыл., ЛА, 4). Няясна.

**Пéрхацень**, ганц. *пэ́рхоцень* ‘шалушэнне скуры’ (ЛА, 3). Утворана пры дапамозе суф. *-ень* ад *пярхáты* < *пéрхаць$_1$* (гл.).

**Пéрхаўка** ‘шалушэнне (скуры)’ (глыб., ЛА, 3; Сл. ПЗБ). З $^+$*перх, перхавы* (параўн. польск. *pjerch* ‘перхаць на галаве’, каш. *pě́řx* ‘лішай’, рус. разан. *перх* ‘тс’). Да *перхаць$_1$* (гл.).

**Пéрхаць$_1$**, *пя́рхаць, пóрхаць* ‘дробныя лусачкі рагавых клетак скуры галавы’ (ТСБМ; Сл. ПЗБ; ЛА, 3), ‘шалушэнне (скуры)’ (мін., віц., маг., гом., ЛА, 3); *перхаць, пéрхыць, перьхаць,*

*пэрхоць, порхаць* ‘перхаць у жывёл’ (ЛА, 1), *перхута́, пархота́* (навагр., пін., там жа). Рус. *перхоть*, *перх, перша*, польск. *pjerch, parch(y),* каш. *pjěřx*, н.-луж. *s̑perchliny*, в.-луж. *pjerchizny*, славен. *perhọ̑t, prhût, pŕha, prhâj, prhljâj, prhâlj*, серб.-харв. *пр̏хут*, макед. *пршај*, балг. *пъ́рхот*. Прасл. **pьrxotь* і **pьrxutь*, роднаснае лат. *pãrsla* ‘сняжынка’, ‘касмыль воўны’, ст.-ісл. *fors* ‘вадапад’, ст.-інд. *pŕ̥ṣant-* ‘стракаты, апырсканы’ (Шмід, Voc. 2, 28—29, 501; Траўтман, 206; Мюленбах—Эндзелін, 3, 176; Младэнаў, 539; Фасмер, 3, 248). Параўноўваюць яшчэ лат. *porrīgo* ‘парша, струп’ (Эрліх, Zur indogerm. Spr., 77; Вальдэ — Гофман, 2, 342), што Сной (гл. Бязлай, 3, 120) дапускае магчымым. Мяркулава (Этимология—1970, 152—153) на падставе дыялектных рус. пск. *пе́рхнуть, пе́рхать, першить* ‘лушчыцца’, *першастый* ‘няроўны, шурпаты’ рэканструюе на прасл. узроўні **pьrxnǫti, *pьršiti, *pьrxъ, *pьrša, *pьrxotь, *pьrxǫtь.*

**Пе́рхаць**$_2$ ‘сутаргава, залішне часта пакашліваць ад раздражнення ў горле’ (ТСБМ, Яруш., Шат., Растарг., Сцяшк. Сл., маладз., Янк. Мат.; навагр., Жыв. сл.), ‘кашляць лёгкім сухім кашлем’ (Варл.), *перхэ́каць* ‘тс’ (Растарг.), *прэ́хатэ* ‘тс’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), сюды ж *перхата́* ‘кашаль’ (Інстр. 2), *пе́рхъла, пірхе́къла* ‘хто часта кашляе’ (міёр., З нар. сл.). Укр. *пі́рхати* ‘пырхаць, пыхкаць’, рус. паўд. *перха́ть* ‘пакашліваць’, *перхану́ть* ‘кашлянуць, папярхнуцца’, польск. *prychać* ‘фыркаць, пырхаць’, славен. *pr̂hati*, балг. *пръ́хам*, *пръхтя* ‘тс’. Гукапераймальнае.

**Пе́рці**$_1$, *перць* ‘ісці, лезці куды-небудзь, не зважаючы на перашкоды (ТСБМ), ‘гнаць, выганяць’ (ТСБМ; Нас.; сміл., Станк.), ‘хутка ехаць, бегчы’ (Шат.), ‘прагна есці’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘падаць (пра снег)’, (петрык., Мат. Гом.), ‘напіраць, груба сунуць з сілай; перамяшчаць з энергіяй, рухацца з імпэтам’ (мсцісл., З нар. сл.), ‘ісці (пра дым, пыл)’ (дзятл., Сл. ПЗБ), *пе́рцца, пе́рца* ‘ціснуцца, пхнуцца’ (Бяльк.), ‘выходзіць масай, напорам (пра дым, пару)’ (Юрч. СНЛ), *пе́рціся* ‘выбівацца на паверхню (пра расліны)’ (ТСБМ). Укр. *пе́рти* ‘перці, напіраць; гнаць; рухацца, ісці’, ‘выпіраць (паветра, дух)’, *пе́ртися* ‘лезці, напіраць’; рус. *пере́ть* ‘ісці, прасоўвацца праз перашкоды; бегчы’, ‘хутка ехаць’, ‘напіраць, ціснуць’, ‘есці’, польск. *przeć* ‘напіраць, наці-

скаць', 'імкнуцца да чаго-н., настойліва дамагацца', 'пяцца, тужыцца', славен. *pẹriti* 'ўстаўляць зубы ў граблі, спіцы ў кола, шчаціну ў дратву', серб.-харв. *(на)пѐрити* 'накіраваць, навесці', 'утаропіцца', 'намерыцца', макед. (*на)пери* 'накіраваць, рушыць', (*на)перкува* 'напіхваць', балг. *(на)пе́ря,* (*на)пе́рвам* 'узвышацца', ц.-слав. (*на)перити* 'пракалоць, прабіць, прадраць'. Прасл. **perti, *periti*, роднаснае ст.-грэч. πείρω (< **perio*), περάω 'прарываюся, пранікаю, праходжу', περόνη 'востры канец, джала, вастрыё', πόρος 'праход', ст.-інд. *píparti* 'перавозіць, суправаджае', гоц. *farjan* 'ехаць', лац. *portus* 'прыстань' і інш. (Траўтман, 215; Покарны, 816; Фасмер, 3, 240; Бязлай, 3, 26 і 130—131; Куркіна, Этимология—1968, 95). Сной (гл. Бязлай, 3, 26) мяркуе, што прасл. **periti*, хутчэй за ўсё, з'яўляецца дэнамінатывам.

**Перці₂** 'несці з цяжкасцю, везці што-н. цяжкае' (Нас., Серб., ТСБМ, ТС, Юрч. Сін.; міёр., Нар. лекс.; сміл., Станк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'хутка несці цяжкую ношу на вялікую адлегласць' (Растарг.), драг. *прэ́тытэ* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.); параўн. славен. *pŕtati* 'ўзяць/браць ношу на спіну; напружвацца, рабіць намаганні', 'няўклюдна лезці', серб.-харв. *пр̏тити* 'несці на спіне'. Апошнія суадносяць (Сной, гл. Бязлай, 3, 131) з прасл. **pъrtъ/*pьrtъ* 'кавалак палатна', а таксама 'вяроўка, рэмень', параўн. славен. *pŕča* 'вяроўка, якой прывязваюць скаціну на пашы', чак. *opȑta* 'вяроўка з ліпавага лыка'. Скок (3, 58) серб.-харв. *пр̏тити* звязвае з *пр̏тен* 'ільняны, палатняны' і *pratež* 'тавар, багаж', для якіх аднаўляе корань і.-е. **per-* з пашыральным суф. *-t-*. Куркіна (Этимология—1975, 19—23) для групы слоў вакол серб.-харв. *пр̏тити* прапануе ў якасці зыходнай аснову **pъrtъ* 'вяроўка, шнур, рэмень', збліжаючы яе з літ. *spartas* 'стужка, завязка, абруч', ст.-грэч. σπάρτον 'ліна, канат, вяроўка'. Тады развіццё семантыкі праходзіла наступным шляхам: 'вяроўка, шнур, рэмень' > 'груз, ноша' > 'цягнуць'.

**Пе́рці₃** 'праць бялізну' (глыб., Сл. ПЗБ), *пе́рацъ* 'тс' (карэліц., бярэз., чэрв., там жа), *перць* 'тс' (ветк., Мат. Гом.). Да *праць* (гл.).

**Перчакоўка** 'пярцоўка' (Растарг.), укр. *перчаківка* 'гарэлка, настоеная на перцы'. Ад *перчакава́ць* (*перчыкова́ць*) 'перчыць, класці перац у страву' (ТС). Да *перац* (гл.).

**Пéрчык** ‘край (стала)’ (хойн., Мат. Гом.). Да *пéрак* (гл.)?

**Перш** ‘раней, некалі, уперад’, ‘спачатку’ (ТСБМ, Нас., Мядзв., Гарэц., Вяр., Шат., ТС, Растарг., Бяльк.; астрав., смарг., глыб., швянч., Сл. ПЗБ; докш., Янк. Мат.; Хрэст. дыял.), ‘перш-наперш’ (сміл., Станк.; паст., ваўк., воран., Сл. ПЗБ), *пэрш* ‘тс’ (кобр., кам., Сл. ПЗБ) — прыслоўе ў форме вышэйшай ступені (ад *пéршы₁* — гл.) утворана па ўзору суплетыўных форм *менш, лепш, больш, горш.* Сюды ж *перш-нáперш* ‘перш за ўсё’ (ашм., Стан.), *перш-напершу, перш-нáпярш* ‘тс’ (віл., пух., Сл. ПЗБ).

**Пéрша** ‘перш-наперш’ (паст., Сл. ПЗБ), ‘раней’ (беласт., Сл. ПЗБ; дзярж., Нар. сл.; Карскі, Труды; калінк., З нар. сл; Бяльк.), прыслоўе, утворанае ад прыметніка **pьrvъ* і суф. *-ě* ў польскім варыянце *pierwsz-ě,* з якога і было запазычана.

**Пéршы₁** — парадкавы лічэбнік да *адзін*, ‘першапачатковы’, ‘самы важны, галоўны, вядучы’ (Нас., Мік., Мядзв., Шат., ТСБМ). З польск. *pierwszy* (Мядзв., Іліч-Світыч, Этимология— 1963, 81), якое з першаснага польск. *pierwy* < прасл. *pьrvь(jь)*; суфікс *-sz-* у польскім слове пад уплывам польск. *mniejszy* ‘меншы’, *większy* ‘большы’, *dzisiejszy* ‘сённяшні’ (Брукнер, 410); паводле Банькоўскага (2, 561), са скарочанага *najpierwszy.* Сюды ж: *пéршыя пéўні* ‘час прыблізна каля 24 гадзін ночы’ (Мядзв.) і вытворныя *першыня́, першынá* (Яруш.; ТСБМ; міёр., Нар. словатв.), *перша-твóр, першапі́с* ‘арыгінал рукапісу’ (Др.-Падб.), *пéршанства* ‘верх, першынство’ (Нас.), *першáк* ‘першы гатунак’ (Бяльк.), *першацёлка* ‘карова першым целем’ (навагр., Нар. словатв.; шчуч., З нар. сл.), *першынá* ‘трава першага ўкосу’ (слонім., Сл. рэг. лекс.).

**Пéршы₂** ‘як раней’ (Нас.) — прыслоўе ў форме Тв. скл. наз. з суф. *-ы,* (як у стараж.-рус. *пакы* ‘зноўку’ (XII ст.) ці *малы* ‘мала’ (Лаўрэнцьеўскі летапіс 1327 г.) ад прыметніка *пéршы₁* (гл.). Сюды ж і *першы-нá-першы* ‘спачатку’ (Касп.).

**Пéршэ** ‘перш, першы раз’ (ТС), *пэ́ршэ* ‘перш-наперш’ (драг., Сл. ПЗБ). Да *перш* (гл.). Параўн. таксама польск. *pierwsze, pierso* ‘першы раз’.

**Першажэ́дны** ‘выдатны, адмысловы’ (гродз., Жыв. НС). З польск. *pierwszorzędny* ‘адзін з першых, галоўны’.

**Першапáшніца** ‘цяля, якому адзін год і якое да гэтага не хадзіла на пашу’ (івац., ЖНС). З *перша-* і *⁺пастны* < *пасці* ‘пасвіць’ (гл.) і суф. *-іца.*

**Пе́рына**, *пе́рынка* ‘кастрыца’ (пін., ЛА, 4). Да *пе́рыць, праць* ‘біць’, ‘аббіваць кастрыцу са льну’ (гл.). Суф. *-ын-а* са значэннем ‘прадмет — вынік дзеяння’ (Сцяцко, Афікс. наз., 42).

**Перына́** (*пірънá)* ‘птушынае пяро’ (міёр., Нар. словатв.). Зборны назоўнік ад *пяро* (гл.).

**Пе́рыць** ‘з сілай, моцна біць па чым-небудзь’, ‘выбіваць, праць бялізну пранікам’ (ТСБМ, Мал., Бір., Некр., Янк. 1, Шат., Сцяшк. Сл., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС; ЛА, 3), *пэріть* ‘сячы, біць’ (Нікан.), *пэрыты* ‘біць, збіваць’ (Клім.), *пе́рыць* ‘лупцаваць’ (стаўб., Жыв. сл.), ‘ісці (пра вялікі дождж)’, ‘лупцаваць дзіцё’, ‘прагна есці’ (саліг., Нар. словатв.). Укр. *пра́ти* ‘мыць’, ‘біць, дубасіць’, рус. *пра́ть* ‘ціснуць, перці’, ‘гнесці, душыць’, польск. *prać,* чэш. *práti*, славац. *prat',* славен. *práti* ‘таўчы, гнесці’, ‘мыць’, серб.-харв. *пра̏ти*, макед. *пере*, балг. *перá,* ц.-слав. *пьрати* ‘таптаць нагамі’, ‘умываць’. Прасл. **pьrati, *periti* ‘біць, удараць’, роднаснае літ. *per̃ti* ‘лупіць, драць, сячы’, ‘парыць каго-небудзь у лазні’, лат. *pȩ̄rt* ‘тс’ (Міклашыч, 239; Фасмер, 3, 240; Фрэнкель, 578; Бязлай, 3, 104; БЕР, 5, 167), гл. *праць*.

**Перыя,** ст.-бел. *перыя, перея* ‘бок вуліцы’ (1597 г.). Са ст.-польск. *pierzeja, pierzaja* ‘паласа, шэраг дамоў уздоўж вуліцы’, параўн. таксама чэш. *peřej* ‘хуткая плынь’, ‘парогі ў рацэ’, апошняе ўзводзяць да **per-* ‘ляцець’ (метафара!) — аб вадзе, якая “прэцца” паміж скаламі (Махэк$_2$, 445). Польскае *pierzeja* Банькоўскі (2, 562) выводзіць ад **pȩro*, гл. *пяро*, паколькі першапачатковае значэнне — ‘адзін з бакоў (“сцяжкоў”) пяра’, перанесенае пасля на палавінкі дзвярэй, варот, бакоў забудаванай вуліцы і г. д.; не мае нічога супольнага, на яго думку, з літ. *péreja* ‘праход’ (там жа) і, відаць, з названым чэшскім словам.

**Перыяд** ‘адрэзак часу’ (ТСБМ), ст.-бел. *периодъ* (з 1598 г.), якое са ст.-польск. *peryjod, period* (XVI ст) < лац. *periodus* < ст.-грэч. *περίοδος* ‘абарачэнне, абарот’ (Булыка, Лекс. запазыч., 165); магчыма, паўторнае запазычанне праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 78), у якой слова было запазычана з франц. у эпоху Пятра I.

**Перэбрына** ‘рэберная частка свіной тушы’ (Растарг.) — у выніку памылковага ўспрымання *парэ-*, як *перэ-*. Да *парэбрына* (гл.).

**Пес** ‘сабака’ (астрав., Сл. ПЗБ), *пэс* ‘тс’ (Бес.). Паводле Мацкевіч (Сл. ПЗБ, 3, 509), з польск. *pies*, якое да прасл. **pьsъ* < і.-е. **pik-s-o-s*. Гл. таксама *пёс*; аднак пытанне пра характэрную для

беларускай мовы захаваную форму (*пес* ці *пёс*) застаецца адкрытым.

**П'éса** 'драматычны твор', 'невялікі музычны твор' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 84), у якой з франц. *pièce* 'тс', 'кавалак, штука' — непасрэдна, альбо праз ням. *Piece* 'п'еса' (Фасмер, 3, 422).

**Пéсак**$_1$, *пясáк* 'трус' (Нас.). Памянш. да *пес* (гл.), якое выкарыстоўвалася для называння розных звяркоў з густой поўсцю. Параўн. ст.-рус. *песикъ* 'пясец' (XVI ст.) і *песьцъ* 'шчанё'; як родавая назва рус. *песъ* ужывалася ў адносінах да воўка, лісы, сабакі (Даль, 3, 105); сюды ж таксама рус. (тул.) *песéц* 'даўгашэрсны трус'. Паводле Німчука (Давньорус., 205), да XVII ст. ва Украіне вадзіўся звярок *песок*, якога здабывалі на футра: *рысѣ, пески* и *коты*; суф. *-ець* актыўна выцясняўся суф. *-ок* (<*ъкъ*).

**Пéсак**$_2$ 'простая шашка ў гульні ў шашкі' (Нас.). Няясна. Магчыма, пераасэнсаванае *пéшка* (**пéшак*?), гл.

**Пéсак**$_3$ 'пясок' (докш., Сл. ПЗБ). З польск. *piasek* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 509). Націск на першым складзе спрыяў аднаўленню этымалагічнага *-é-* (усх.-слав. *пѣсъкъ* 'пясок'). Вытворнае *пéскавы* 'пяшчаны' (мядз., Жыв. сл.), параўн. *пескавы́* 'тс' (Станк., Сл. ПЗБ), *пескавý* 'тс' (ТС) — ад *пясóк*.

**Пéсельнік** 'спеўнік' (Ян., Варл.), *пéсіньнік* 'тс' (Бяльк.), *пéсільнік* 'ахвотнік пасяваць' (Юрч. СНЛ), *пéсельнік* 'выканаўца песень' (Нар. Гом., Янк. Мат.), *пéсельніца, пéсяльніца* 'спявачка' (калінк., Сл. ПЗБ; светлаг., Мат. Гом.; валож., Жыв. сл.), *пéсільніца* 'жанчына, якая мае добры голас і ахвоту спяваць' (Варл.). З *пéсеннік, пéсенніца* < усх.-слав. *пѣсенный* 'які адносіцца да песні, музыкі' < *пéсня* (гл.); распадабненне *-н'н'-* пад уплывам распаўсюджанага суф. *-льн-*, параўн. *вясельны*, *пякельны* і пад.

**Пéсік** 'каташок' (карэліц., Жыв. сл.). Да *пёс* (гл.). Названа паводле падабенства каташка з пушыстым маленькім сабачкам, параўн. *коцік* 'тс'.

**Пéсікі** 'драўляныя клінкі, якімі плытагоны замацоўвалі бярвенні' (гродз., Нар. сл.; Скарбы). З польск. *piesek* першапачаткова 'сабачка'; пераноснае для называння розных дэталяў і прыстасаванняў: 'дзед (кавалак бервяна), які падпірае крокву', 'жалезная акоўка драўлянай буксы', 'жалезны прэнт, які трымае

своеасаблівы хамут у пярэдніх коней', 'заверліч у пярэднім навоі' і пад., параўн. *сýчкі* (гл.).

**Пескава́тка** 'пясчанае поле' (паст., ЛА, 2), 'зямля з пясчаным грунтам' (ваўк., Сл. рэг. лекс.). Укр. (зах.) *піскова́тиця,* рус. *пескова́тка* 'пясчаная зямля, дарога'. Ад прасл. паўн. **pěskovatъ* (параўн. бел. *пескава́ты*, укр. *піскуватий, піскуватий*, паўд.-рус. *песковатый*, польск. *piaskowaty*, н.-луж. *pěskowaty* 'пясчаны'), якое з **pěskovъ-jь* < **pěsъkъ* > *пясок* (гл.).

**Песказу́б** 'пячкур' (Інстр. 2), *пескозо́б* 'рыба бычок' (ТС), укр. *піскозо́б*, *піскозо́ба*, рус. *пескозо́б, пискозо́б* 'тс'. Да *пясо́к* і *забаць* 'кляваць, дзёўбаць' (гл.), што адлюстроўвае спосаб харчавання, параўн. рус. *пескорой* 'мінога'. Аналагічна нова-в.-ням. *Schlammbesser* (Фасмер, 3, 249). Не звязана з лац. *píscis* 'рыба' (насуперак Мікале (РФВ, 48, 279)), гоц. *fisks*, ст.-в.-ням. *fisc* 'тс' (Папоў, Из истории, 17). Варыянт назвы з *-зуб* у выніку дээтымалагізацыі зыходнага дзеяслова (Каламіец, Рыбы, 39).

**Пе́скіж** (*пе́ськіж)* 'пячкур, Gobio gobio L.' (мсцісл., Янк. 1). Кантамінаваная назва рыбы з рус. пск. *песка́рь* 'тс' і ўсх.-бел. *піскіж* 'пячкур' (гл.).

**Пе́сня** (*пе́сьня, пісьня)* 'невялікі паэтычны твор для спеваў' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.). Укр. *пісня,* рус. *пе́сня,* ст.-рус. *пѣснь*, польск. *pieśń,* дыял. *pieśma*, н.-луж. *pěsń,* в.-луж. *pěseń,* палаб. *pesên*, чэш. *píseň,* славац. *pieseň,* славен. *pȩ̑sem, pȩ̑sma, pȩ̑sniti* 'ствараць песню'; серб.-харв. *пȅсма*, *pjȅsna*; макед. *пȅсна*, дыял. *песма*; балг. *пе́сен*, дыял. *пе́сня,* ст.-слав. пѣснь. Прасл. **pěsnь* < **pě-ti* 'спяваць', як **ba-snь* < і.-е. **ba(ja)-ti* 'распавядаць' (Міклашыч, 245; Фасмер, 3, 249; Шустар-Шэўц, 1058; Бязлай, 3, 28).

**Пе́ста**₁ 'дзіцё, якое песціцца' (ТСБМ, Мядзв., Касп., Мат. Гом.; пух., лаг., Сл. ПЗБ; зэльв., Жыв. сл.), 'свавольніца' (Сцяшк. МГ), 'выпеставаны хлапчук, дзяўчынка' (навагр., Нар. словатв.), *пе́сты* 'пяшчотныя, ласкавыя адносіны' (ТСБМ), *пе́стун* 'пястун' (Бяльк.), 'збалаванае дзіцё' (Мядзв.), *пе́стак* 'малады воўк' (глыб., Сл. ПЗБ); *пе́стаць* 'пеставаць' (брасл., Сл. ПЗБ), чач. *пе́стацца* 'песціцца' (Жыв. сл.), *пе́ставаць, пе́стываць* 'песціць' (ТСБМ, Касп., Бяльк.), *пе́стовацца* 'няньчыцца' (ТС), *пе́сціць, пэсьтіті* 'любоўна даглядаць, гадаваць; праяўляць ласку; пялегаваць' (ТСБМ, Яруш., Бес., Бяльк.; парыц., Янк. Мат.), *песціцца*

‘тс’ (Касп.), ‘патакаць у прыхацях дзіцяці’ (Бір. Дзярж.). Укр. *пестúти, пéстувати* і *пістовати* (Фасмер, 3, 251), рус. *пéстать, пéстаться,* польск. *pieścić, piastować,* в.-луж. *pěsćić,* чэш. *pěstovati, pěstiti*, славац. *pestovat’,* славен. *pẹ́stovati*, старое харв. дуброўн. *pjȅstovati*, балг. *пестя̀* ‘ашчаджваць’, ц.-слав. пѣстовати. Прасл. **pěstati* і **pěstiti, *pěstovati*. Шэраг этымолагаў (Міклашыч, 245; Мацэнаўэр, LF, 12, 344; Мее, MSL, 14, 353; Фасмер, 3, 251; БЕР, 5, 190) генетычна адносяць слова да **pitati* ‘карміць, выжываць’ (Бязлай, 3, 29) — гл. *пітавáцца*; Махэк$_2$ (446) разам з Міхалкам (LF, 84, 29) адмаўляе такую роднаснасць, мяркуючы, што трэба выходзіць з асновы **kep-,* якая ў выніку перастаноўкі дала **pek-* (параўн. ст.-чэш. *péči se čim* ‘клапаціцца аб кім’), і пасля далучыўся пашыральнік асновы суфікс *-st-* інтэнсіўнага характару.

**Пéста₂** ‘ступа’ (гродз., Нар. сл.; Скарбы), рус. *пест* ‘палка з патаўшчэннем на канцы; калатоўка для замешвання цеста’, ст.-рус. *пест* ‘стрыжань з патоўшчаным круглым канцом’ (XIII ст.), польск. *piasta, piazda, piauzda* ‘калодка кола, якая ахоплівае вось’, н.- і в.-луж. *pěsta* ‘тс’, ‘песцік’, ‘трамбоўка’, чэш. *píst, písta* ‘поршань’, славац. *piest* ‘пранік’, ‘поршань’, славен. *pẹ́sta, pẹ́sto, pẹ́st* ‘калодка кола’, харв. кайк. *pešča, pešče*. Прасл. **pěstъ* ‘прыстасаванне, якім таўкліся розныя рэчы, зерне, крупы, выбіваўся бруд з бялізны’, роднаснае літ. *piestà* ‘ступа’, *piestas* ‘пест’, лат. *pìesta* ‘ступа’ (< і.-е. **poi̯s-t-o-s)*, а таксама з літ. *paisýti* ‘ачышчаць зерне ад мякіны’ > бел. *пойсаваць* (гл.). Дэрыватамі з’яўляюцца словы са значэннем ‘абнімаць вакол’ — **pěstovati, *pěstiti* > *пéсціць* (гл.).

**Пéстаць** ‘біць палкай з тоўстым канцом’ (Нас.), *пéстун* ‘таўкач’ (Касп.). Да *пéста₂* (гл.) пры ад’ідэацыі *пéтаваць, петаць* (гл.).

**Пéстун**, *пестýн* ‘вершнік, перакладзіна над вушакамі’ (Мік.; ветк., карм., Мат. Гом.; карм., чач., ЛА, 4), *пéстынь* ‘верхняя частка асады дзвярэй’ (слаўг., Мат. Маг.). Да *пéста₂* (гл.), прымітыўныя дзверы на бегуне (драўляныя стрыжні з суком) паварочваліся ў гнёздах, выдзяўбаных у калодках (“ступках”).

**Пéсціць** ‘лашчыць, галубіць, мілаваць’ (Шат.; шальч., Сл. ПЗБ; ТСБМ). Ад *пéста₁* (гл.).

4а Зак. 3810

**Песчугá,** *пешчугá, пішчугá, пышчугá* 'пясчаная, камяністая глеба' (маст., Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ; слонім. Жыв. сл.), *пэшчугá* 'пясчанае поле, на якім нічога не расце' (пін., Нар. лекс.). Да *пясок* (гл.). Аб суф. *-уга* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 128—129.

**Песчурá,** *пешчурá, пішчурá, пішчурынá, пяшчурá* 'пясчанае поле' (полац., беш., талач., навагр., карэл., ЛА, 2; маст., Сцяшк. Сл.). Польск. *piaszczura, pieszczura*. Да *пясок* (гл.). Аб суф. *-ур-а* гл. Слаўскі, SP, 2, 27.

**Пéтаваць,** (у Нас. — *пѣтаць*) 'моцна біць', 'цяжка працаваць' (Гарэц., Нас., Растарг., Стан.; гом., Шн. 2; Бяльк.), 'прыкладаць вялікія намаганні' (ТС), *пéтаць* 'біць' (чач., Мат. Гом.), *пéтавацца* 'біцца, выконваць непасільную цяжкую работу, многа і цяжка працаваць', 'мучыцца, бедаваць' (Юрч.; жлоб., Жыв. сл.; полац., Жыв. НС; б.-каш., рагач., Мат. Гом.), 'жыць у бядзе, нястачах' (Янк. 2; Ян.), *пéтвацца* 'мардавацца, выбівацца з сіл' (Нар. Гом.), *пéтацца* 'змагацца, біцца з чым-небудзь да знямогі, важдацца, валтузіцца' (Нас.). Рус. *пéтать* 'біць'; 'мучыць, мардаваць'; 'выконваць цяжкую працу'; 'гаварыць праз сілу, ледзь-ледзь'; 'знаць, разумець'; *пéтаться* 'старанна і цяжка працаваць', 'моцна стамляцца', 'дамагацца чаго-небудзь'; славен. *vzpę̣́titi se* 'згадаць, успомніць', серб.-харв. *пéтити* 'захаваць у памяці', харв. далмацінск. *napétati se, nàpātām se* 'намучыцца, намардавацца'. Прасл. **petati/*pětati(?)*. Сабалеўскі (ЖМНП, 1886, верасень, 145) звязвае рус. *пéтать* праз чаргаванне галосных з *питáть, пестýн,* аднак не разглядаецца семантыка 'біць'. Праабражэнскі (2, 51) выводзіць яго з *пéхтать*, што фанетычна не пераконвае (Фасмер, 3, 251). Насовіч (542) выводзіць бел. *пѣтаваць* з грэч. παίω, παίσω, παιφάσσω 'б'ю, штурхаю, стукаю'. Махэк (Slavia, 28, 271) таксама супастаўляе рус. *пéтать* з грэч. παίω 'тс' і разглядае рус. слова як інтэнсіў з суф. *-t-* (**pě-ta-ti*), хаця грэч. παίω ўзыходзіць да (кіпрск.) παFιω. Куркіна (Этимология—1972, 60—64) рус. *петать* узводзіць да і.-е. кораня **poi̯-* з пашыральнікам *-t-,* які ляжыць у аснове грэч. πο(ι)α 'трава, корм', літ. *piẽtus* 'абед', ст.-інд. *pitúṣ* 'харч', авест. *pitu-* 'ежа'; балг. дыялектны матэрыял з каранямі *pět-* і *pit-* прымыкае да тэрміналогіі, звязанай з абазначэннем спосабаў прыгатавання ежы з хлеба, з зярнят: *пѝтем* 'мну, даўлю' — *петлѐ, петлàк*

'спечаныя зярняты кукурузы'. У такім выпадку можна дапусціць роднаснасць *pět-* і *pit-* са значэннем 'біць'. Сюды ж *пе́тун* (гл.).

**Пе́тка** 'частка плуга' (Выг.). Да *пятка* < *пята́* (гл.).

**Пе́тлахі** 'валасы' (в.-дзв., Шатал.; мазыр., З нар. сл.), 'недагледжаныя валасы' (брагін., Нар. словатв.), *пе́тлухі* ў выразе: *і пе́тлухаў ні застанецца* 'нічога' (жлоб., Жыв. сл.), *па́тлахэ* 'непрычасаныя валасы' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *патла́ты* (гл.), *па́тлы* 'ўскудлачаныя валасы, кудлы', магчыма, фармальна зблiжанае з *пе́йсы, пе́йсахі* (гл.).

**Пе́тна** мн. л. 'плямы на твары' (лід., лях., Сл. ПЗБ), *пе́тна* 'ружовыя месцы на шчацэ' (бераст., ЛА, 3), *пе́тня* 'чырвоная плямка на скуры' (Варл.), *пе́тначка* 'абсевак' (гродз., ЛА, 2). Гл. *пятно*.

**Пе́тра-паўла** 'божая кароўка, Coccinella septempunctata' (брасл., ЛА, 1), *Пётра-Паўла* (міёр., брасл., З жыцця, 169). Другасна зближаная з імёнамі апосталаў Пятра і Паўла назва, якую нельга адрываць ад *бедрык* 'тс' (гл.) (Трубачоў, Этимология—1975, 12). Сюды ж *пе́транка* 'божая кароўка, Coccinella' (Сцяшк. Сл.). Суфікс *-ка*, як у іншых ласкальных назвах насякомага: *кароўка, андрэйка, бедарка, матрунка, кандратка* і інш. (гл. Шаталава, З жыцця, 166—178). Параўн. *пе́трык* (гл.).

**Пе́транне** (*пе́тріньня)* 'разуменне' (Юрч. СНЛ). Да *пе́трыць* (гл.).

**Пе́траўка** 'страва з кураціны' (хойн., Мат. Гом.). Відаць, дэфармаванае *патра́ўка* 'страва, верашчака, мачанка' (гл.).

**Пе́трах** 'вантробы' (Янк. 1), 'страва са свіных трыбухоў' (рэч., Мат. Гом.). Да *патрахі* (гл.). Адз. л. у лексемы пад уплывам рус. *по́трох* 'унутранасці жывата'. Гук *-е́-* мае, відаць, экспрэсіўны характар (параўн. *пе́тлах*).

**Пе́трацъ** 'худзець, марнець' (Сцяшк. Сл.), 'засыхаць на пні (аб траве)' (зэльв., ЛА, 1). Да *пятрэ́ць* (гл.).

**Петрус** (арго) 'камень' (Рам. 9). З лацінізаванага грэч. πέτρος 'камень'.

**Пе́тры** 'валёнкі, збітыя з воўны' (навагр., Сцяшк. Сл.). З $^{+}$*фетры*, якое з франц. *feutre* 'лямец' < франк. *filtir* 'тс'.

**Пе́трык**, *пэ́трік* 'божая кароўка сямікрапінкавая, Coccinella' (З жыцця; Нікан.; асіп., Сл. ПЗБ; ельск., Мат. Гом.; ТС; палес., ЛА, 1). Сюды ж *петрачок* 'тс' (докш., ЛА, 1; Шатал., З жыцця, 170).

Другасна асэнсаванае ў сувязі з імем апостала *Пятра* зыходнае *бéдрык* 'тс' (гл.); адпаведнае літ. *petrēlė* 'тс' калькуе мадэль 'маленькі Пётр' > 'божая кароўка' (Трубачоў, Этимология—1975, 12).

**Пéтрыць₁** 'цяміць, разумець' (Янк. 3; Нар. Гом.; ТС; лід., Сцяшк. Сл.; глус., Сл. ПЗБ; рэч., Мат. Гом.), 'кеміць' (капыл., Жыв. сл.), *пéтріць* 'разумець (пра дзіця)' (гарад., ЛА, 3). Параўн. рус. *пéтрить* 'разумець, кеміць', *пéтраць* 'помніць'; польск. *piętrzyć* 'паднімаць узровень вады (каля плаціны)', *piętrzyć się* 'ўздымацца', 'зазнавацца', славен. *vz-pę́titi se* 'ўспомніць, прыгадаць', *spǫ́titi* 'тс', *o-pę́titi* 'заўважыць', серб.-харв. *pétiti* 'не забыць, запомніць', далмацінск. *na-pétati se* 'намучыцца'. Не зусім яснае слова. Звычайна збліжаюць *пéтрыць* з *пяць, пяцца* < прасл. **pęti se* (Брандт, РФВ, 23, 292; Праабражэнскі, 2, 166; Фасмер, 3, 425—426; Бязлай, 3, 31). Суфікс *-р-*, як у *хітрыць, мудрыць*.

**Пéтрыць₂** 'біць' (ТС) — у выніку кантамінацыі лексем *пéтаваць* і *пéрыць* (гл.).

**Пéтун** 'абжора' (Бяльк.). Паводле Куркінай (Этимология—1972), роднаснае асновам **pět-/ *pit-*, што адлюстраваліся ў прасл. **pětati* (гл. *петаваць*) і **pitati* 'карміць, даваць сілы', першапачаткова 'біць, калаціць'.

**Петушкі₁** 'капытнік балотны, Calla palustris L.' (докш., Сл. ПЗБ; гом., Кіс.), *пеўнікі*; *пятушкі* 'сачавічнік вясенні, Orobus vernus L.' (гродз., Кіс.; усх.-гом., усх.-маг., мядз., лях., лун., ЛА, 1), 'медуніца' (навагр., Сл. ПЗБ), *пітушкі* 'белакапытнік, Petasites Mill.'. Да *пятýх* 'певень' (гл.). Матывацыя: кветкі раслін падобныя да пеўневага грэбня. Параўн. рус. алан. *петушок* 'капытнік балотны'.

**Петушкі₂** (*пітушкі*) 'смольныя корчыкі, сучкі' (Бяльк.). Да *пятýх* 'певень' (гл.). Названы паводле падабенства да чырвонага пеўня колерам, калі сучкі, лучына гараць.

**Петушóк**, *пятушóк* 'касач жоўты, Iris pseudacorus L.' (ветк., лоеў., б.-каш., брагін., Мат. Гом.), *пітушкі* 'тс' (Юрч. СНЛ), параўн. *пéўнык* 'тс' (нараўл., жытк., Мат. Гом.). Укр. *піўник, когýтик* 'тс', рус. *петухú, петушкú* называюць розныя расліны з голым сцяблом і гронкамі кветак (Мяркулава, Очерки, 136). Да *пятýх* 'певень' (гл.).

**Пеў** (*пев*) 'спяванне маткі ў пчолаў' (Анох.). Рэгіянальны архаізм, звычайна адваротны дэрыват *спеў*. Да *пець* 'спяваць' (гл.)

< прасл. *pěti* 'тс'. Заканчэнне *-vъ*, як у *zovъ* 'кліч, гуканне', *zěvъ* 'зеў', параўн. *зваць, зяваць*.

**П'ёўка** *п'ёўка* 'п'яўка' (калінк., бярэз., Сл. ПЗБ), *п'еўга́* 'тс' (ТС). З $^{+}$*піяўка* (як рус. *пиявка* 'тс'), якое з $^{+}$*піява* < прасл. **pijava* < **pijati* ад **piti* > *піць* (гл.). З аднаўленнем "несапраўднага" *е* (на месцы *я*), якое ў палескіх гаворках можа пераходзіць у *ё* пад націскам перад *ў*, параўн. *хлёў* 'хлеў'. Параўн. ст.-рус. *пиаица, пиавица, пиявица* (XV ст.) 'тс'. Гл. *п'яўка*.

**Пе́ўне**, *пе́ўня* 'напэўна, мабыць' (Ян.; ТС; люб., Жыв. сл., ЖНС). Гл. таксама *пэ́ўна, пэ́ўны*.

**Пеўнік** 'касач' (мазыр., Жыв. сл.), *пе́ўнікі* 'званец звычайны, Rhinantus L.' (Шат.), 'сачавічнік вясенні, Orobus vernus L.' (Кіс.), *пі́ўнычкы* 'братаўка дуброўная, Melampyrum nemorosum L.' (бяроз., Нар. лекс.), *пе́ўнікі* 'капытнік, Calla palustris L.' (бых., хойн., ЛА, 1) у выніку семантычнага пераносу паводле падабенства да грэбня пеўня альбо афарбоўкі (некалькі колераў) з *пе́вень* (гл.).

**Пе́ўны** 'з зародкам (пра яйка)' (міёр., Жыв. сл.), *пе́ўнае* (яйка), *пе́ўнъя*, *пе́ўныя* 'тс' (лаг., кругл., беш., ЛА, 1), *пе́ўный* 'пэўны, сталы' (Бяльк.). Гл. *пэ́ўны*.

**Пех** 'чалавек, якога трэба падштурхоўваць да працы, справы' (Нас.). Насовіч (413) выводзіць гэтае слова з *піхаць* — народная этымалогія. Параўн., аднак, славен. *pę̑h* 'стома, стомленасць', *pę̑hati* 'слабець', *pȩ̂hati se* 'старацца, працаваць, клапаціцца', *pehóta, pehǫ́ča* 'стомленасць', сюды ж ц.-слав. *опѣшати* 'слабець, марнець; бяднець', рус. *опе́шать* 'збяднець', 'моцна стаміцца і захварэць', 'перастаць быць дзейным, актыўным; страціць сілы, энергію', ст.-чэш. *pěšěti* 'слабець, чэзнуць; сумаваць', н.-луж. *pěšak* 'стары грыб' і інш., якія можна ўзвесці да прасл. **pěšati*, роднаснага літ. *pėžti, pežti* 'мець хворы выгляд' (Бязлай, 3, 21). Махэк$_2$ (446) дапускае страту звонкасці ў слав. **pězjati* > *pěs-jati* > **pěšati*.

**Пехадра́ла** 'пехатой' (груб.) (калінк., З нар. сл.), *пішыдра́ла* 'тс' (Юрч. СНС), рус. *пеходралом*, *пешедралом* 'тс'. Да *пех-* (гл. *пе́шы*) і *дра́ла* (гл.). Параўн. яшчэ *драць, дра́паць* 'уцякаць', рус. *удира́ть* 'тс'.

**Пехата́**$_1$ 'фасоля, якая не ўецца' (навагр., З нар. сл.), укр. *піхо́та* 'тс'. З польск. *piechota*, якое з *fasola piesza* 'фасоля

карлікавая, Phaseolus nanus'. Параўн. таксама польск. дыял. *groch piechotny* альбо *piechociarz*. Гэтаксама рус. кур. *пешая фасоль* 'фасоля, якая расцілаецца, — гэтае значэнне "нібыта збліжае слова *пеший* з *почвою*" (Даль, 3 (1996), 551).

**Пехата́₂** 'пяхота' (Стан.) — да *пяхота* (гл.).

**Пехато́й**, *пехато́ю, пехото́ю, пехато́м, пехо́том, пехото́м* 'пешшу, сваімі нагамі' (ТСБМ, Др.-Падб., Касп., ТС, Сл. ПЗБ; жытк., Мат. Гом.; ЛА, 5). Укр. *піхотою*, рус. *пехо́тою*, польск. *piechotą, piechotką* 'тс'. Прыслоўе — былы назоўнік у Тв. скл. Да *пяхота* (гл.). Формы на *-том* — вынік кантамінацыі лексем *пехата́* і *пяшком*.

**Пехаўё** 'цапільна' (светлаг., ДАБМ, камент., 828), *пяхаўё, пехаўе́* 'дзяржанне ў лапаце' (іўеў., светлаг., акц., стол., ЛА, 2; Сл. ПЗБ), *пехоўе́* 'дзяржанне ў памяле' (стол., ЛА, 4), 'драўляная ручка ў пешні' (ТС), *пехаўе́* 'корпус долата для выдоўбвання борці' (Маш.), укр. палес. *пахов'е́* 'дзяржальна ў вілах', польск. дыял. *piechowisko* 'дзяржанне рыбацкай восці'. Утворана пры дапамозе суфікса *-аўё/ -оўе* (Сцяцко, Афікс. наз., 168) на базе прасл. **pěxati*, аснова якога прадстаўлена ў *пе́шня* (гл.); неверагодна наконт укр. *паховйе́* 'чаранок вілаў' Ніканчук (Этимология—1984, 169: ідэя раскрытасці, "распахнутости" > *па́ха, пахвіна*, гл.).

**Пе́хта**, *пе́хто* 'пеша' (брэсц., Нар. лекс.). З польск. *piechto* 'тс', якое, як і *piechty, piechtą*, што з'яўляюцца скарочанымі формамі лексемы *piechota, piechotą*. Сюды ж *пе́хтам* 'пешшу' (маст., Сл. рэг. лекс.).

**Пехцяро́к** 'вяровачная сетка для сена ў дарозе' (Нас.), 'кашэль, торба' (Нар. Гом.), *пехце́рь* 'тс' (Растарг.), *пехцяро́м* 'быць неахайна апранутым' (Нас.), *пе́хцер* 'гультай' (мазыр., Мат. Гом.), (перан.) *пехцярок* 'таўстун (пра дзіця)' (Нас.), рус. кур., калуж. *пе́хтерь, пехтерь* 'кошык, у які натоптваюць сена', цвяр. 'тоўстае пражэрлівае дзіцё', смал. *пяхцерь* 'пяхцер', яраcл., цвяр., пск. *пехте́рить* 'несці нешта цяжкае', 'шмат набіраць, напіхваць', 'шмат і прагна есці'. Відаць, угрaфінізм. Параўн. вепск. *pehu* 'мятая салома, сечка', *peksta* 'мяць, таптаць', 'мясіць, збіваць, перамешваючы', а таксама эрзя-мардоўск. *p'etk'el* 'таўкач'. Гл. таксама *пяхце́р*. Куркіна (Этимология—1970, 96—97) рус. *пехтерь, пестер(ь)* і да т. п. адносіць да

прасл. **ръхati, pixati*, уключаючы сюды рус. *пест* 'таўкач, кій', славен. *pést* 'салома ў кулях, прызначаная для пакрыцця будынку' і інш., і вызначае магчымасць семантычнага пераходу: 'хуткі рух са штуршком' > 'піхаць, таўчы' > 'плесці, віць, ткаць' > 'нешта сплеценае', што не зусім адпавядае семантыцы бел. лексем.

**Пéцік** 'дзіцячы пеніс' (Нас.). Відаць, памянш. да *пятýх* 'тс' (гл.).

**Пець** 'спяваць' (ТСБМ; Нас.; Некр.; Шат.; Сл. ПЗБ; Бяльк.), 'ствараць розныя гукі ў час раення — звінець, "кохаць" і інш. (пра матку)' (слаўг., Нар. сл.), 'кукарэкаць' (мазыр.). Рус. *петь* 'спяваць', 'адпяваць нябожчыка', 'гусці (пра мух)', 'звінець (пра паштовыя шамкі)', старaж.-рус. *пѣти,* польск. *piać* 'спяваць (пра пеўня)', чэш. *pěti* 'спяваць', 'усхваляць', славен. *pę́ti*, макед. *пее*, балг. *пéя.* У іншых слав. мовах — з пачатковым *s-(z-).* Прасл. **pěti*, **pojǫ* < і.-е. **poi̯-*. Трубачоў (ВСЯ, 4, 1959, 135) тлумачыць прасл. **pěti* як каўзатыў ад дзеяслова **piti* 'піць', што пацвярджаецца тоеснасцю форм 1 ас., параўн. *пою* 'даю піць' і *пою* 'спяваю'. Тут перанос значэння 'паіць' > 'спяваць, усхваляць' узыходзіць да паганскага абраду ахвярнай, пахавальнай выпіўкі. Паводле Аткупшчыкова (Этимология—1984, 196), разыходжанне адбылося на ўзроўні старажытных асноў (**poi̯-ti* > *пѣть* пры *poi̯-ti* > *поить*).

**Пéцьміна** 'пляма' (Ян.). Выходная форма, відаць, ⁺*пятьмо*, параўн. укр. чарніг. *петьмó* 'тс', утворана, як *бяльмó* (гл.). Параўн. *пятнó, пéтна* (гл.).

**Пецярня́** (*піцірня́)* 'рука, пяць пальцаў' (Бяльк., Варл.). Ад *пяцёра* (зборны лічэбнік) < *пяць* (гл.) і суф. *-ня* (Сцяцко, Афікс. наз., 215—216). Параўн. рус. *пятерни́ца* 'тс', *пятерня́* 'пяць (коней), лапа, рука'. Аналагічна *пецерня́* '50 снапоў' (ТС) = 'пяць дзесяткаў (снапоў)'.

**Пецяру́к** 'рука' (ТС). З *пецяры́к* (гл.), у якім адбылася мена *ы > у* пад уплывам слова *рука.*

**Пецяры́к** '5 пудоў' (Ян.). З рус. *пятерик* 'пяць, пяцёра'.

**Пецярэ́ня** 'мянушка каровы, якая нарадзілася ў пятніцу' (лаг., Сл. ПЗБ; Варл.). Семантычна звязана з *пяць, пяты дзень* 'пятніца', паводле мадэлі *аўтарэня* (гл.); суфіксацыя, магчыма, пад балтыйскім уплывам (Лекс. балтызмы, 20).

**Печ**$_1$ 'пячы', 'паліць', 'смажыць' (Нас., Бяльк.), *пéчца* 'апекавацца, клапаціцца' (Нас.). Рус. *печь* 'тс', польск. *piec*, в.-луж.

*pjec*, н.-луж. *pjac*, славац. *piect'* — паўночнаславянская ізаглоса. Да *пячы́* (гл.).

**Печ₂**, *пiч, пі͡эч* 'цаглянае, каменнае або металічнае збудаванне, дзе разводзяць агонь, каб нагрэць памяшканне, згатаваць ежу' (ТСБМ, Яруш., Бес., ТС, Сл. ПЗБ, Бяльк.; драг., КЭС). Укр. *піч*, рус. *печь*, польск. *piec*, н.-луж. *pjac*, в.-луж. *pěc*, чэш., славац. *pec*, славен. *pȩ̂č*, серб.-харв. *пе̑ħ* 'печ', макед. *пешт* 'пячора', балг. *пещ, пещта́*, ст.-слав. пєщь. Прасл. **pet'ь* (< **pek-tь)* з **pek-ti* 'пячы', роднаснага ст.-інд. *paktṣ* 'звараная страва', *pačati* 'пячэ', ст.-грэч. πέψις 'гатаванне (ежы), смажанне', πέσσω, атычн. πέττω 'пяку', лац. *coctio* 'пячэнне', *coquō* 'пяку'; у балт. мовах з перастаноўкай зычных: літ. *kèpti*, лат. *cept* 'пячы, смажыць' < і.-е. **pekᵘ̯-ti-s* (Міклашыч, 235; Покарны, 798; Траўтман, 212; Фасмер, 3, 256; Бязлай, 3, 18).

**Пéча₁** 'апека; клопат, нагляд' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.), рус. *пéча* 'ўдзел, клопаты', польск. *piecza* 'клопат, увага, апека, нагляд; стараннасць', н.-луж. *pjeca*, в.-луж. *pječa* 'клопат', чэш. *péče* 'клопат, апека, дагляд, ахова', славен. *pȩ́ča, pȅč, pečál* 'смутак, гора; клопат, стараннасць, трывога', сюды ж таксама макед. *печал* 'тс', *печалба* 'прыробак', балг. *пéчал, печáлба* 'тс', ст.-слав. печаль 'пакута, мучэнне, смутак; клопат, апека'. Звычайна звязваецца з **pekti*, гл. *пячы* (Міклашыч, 234; Брукнер, 406; Праабражэнскі, 2, 53; БЕР, 5, 212). Інакш Махэк₂ (441): < і.-е. **kep-* (> *geb-*) 'мецъ клопат, мучэнне'; апошняе ў прасл. мове (пад уплывам **pekti* 'пячы') змянілася ў **pekᵘ̯-*, параўн. ст.-чэш. *péči sě* 'клапаціцца', ст.-рус. *пекуся* 'клапачуся'. З-за такой блізкасці ў балт. мовах у **pek-* 'пячы' адбылася перастаноўка *k—p*: літ. *kepù*, лат. *cepu* 'пяку'. Гл. таксама *апéка*.

**Пéча₂** 'рана ад апёку' (ТС). Відаць, фармальна тоеснае балг. *печа* 'блізна на твары', серб.-харв. *пȅча* 'трупная пляма', што ўзыходзіць да **pekti* 'пячы'. Інакш адносна паўднёваславянскіх слоў Скок, 2, 650; БЕР, 5, 211 (з *петече*?).

**Пéчак** 'фундамент печы' (Ян.). З *апéчак* 'цагляны ці металічны падмурак печы'. Параўн. ст.-рус. *опечекъ* 'аснова для печы' (1561 г.). Да *печ* (гл.).

**Печалава́нне** 'апека', *печалава́цца* 'клапаціцца', *печалавіты* 'клапатлівы' (Нас.), рус. *печаловатый* 'трохі сумны', *печаловать* 'клапаціцца, апекавацца', *печаловаться* 'тужыць; сумаваць', 'скардзіцца', польск. старое *pieczołować* 'апекавацца', *pieczołowanie (się)* 'клопат, апека', ст.-польск. *pieczołować, pieczałować (się)* 'дбаць, старацца, клапаціцца; непакоіцца, перажываць', ст.-слав. печаловати сє 'хвалявацца, засмучацца'. Да прасл. *pečalovati (sę)* < *pečaliti (sę)* 'хвалявацца; клапаціцца' < *pečalь*, параўн. ст.-слав. печаль 'мучэнне, пакуты; смутак; клопат', 'неспакой, турбота, трывога' < ранняе прасл. **pekēlь* (Міклашыч, 234).

**Печаліска** 'месца, дзе стаяла печ' (іўеў., Сл. ПЗБ). Відаць, ад незафіксаванага ⁺*пе́ча* 'печ' (параўн. пск., наўг. *пе́ча, печа́* 'печ') і суф. *-іска* з менай *-й- > л'*: *печаіска > печаліска.*

**Печане́ўя** 'жоўцевы пузыр' (Варл.). Відаць, вытворнае ад *печані* 'вантробы разам з ныркамі' (Нік. Очерки), *пе́чані* 'пячонка' (ашм., Стан.). Да *пе́чань* (гл.). Суф. *-еўе* выражае сукупнасць прадметаў.

**Пе́чанік** 'муляр, пячнік' (лід., ЛА, 3). Да незафіксаванага ⁺*пе́ча* 'печ' (параўн. рус. пск., наўг. *пе́ча, печа́* 'тс') і суф. *-нік*, альбо ў выніку намінацыі словазлучэння *печаны* (*майстар, муляр*), параўн. польск. *piecownik* 'пячнік'.

**Печаніна** (*пачаніна)* 'апёк' (Сл. Брэс.). Аддзеяпрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-ін-а*. Да *пячы́* (гл.). *Па-* замест *пе-* — характэрнае зацвярдзенне губных у пераходнай (ад зах.-палес. да паўд.-зах. гаворак), параўн. *пацьь* 'пяць', *па́тніца* 'пятніца', *ма́та* 'мята', *ма́са* 'мяса' (ганц., ДАБМ, камент., 459 і 463).

**Печаніца** 'сіняквет звычайны, Echium vulgare L.' (віц., маг., Кіс.). Відаць, утворана пры дапамозе суф. *-іц-а* ад *пе́чань* (гл.), як і іншыя назвы раслін на аснове іх падабенства да адпаведных прадметаў: *жыціца, мятліца, ігліца*, у прыватнасці, на аснове падабенства колеру сіне-бардова-чырвоных кветак расліны і пячонкі.

**Печанцы́** 'печань, вантробы наогул' (Бяльк.): *у печанцох сядзіць* (Стан.). Відаць, архаізм; параўн. рус. *пе́ченец* 'жоўцевы пузыр', ст.-рус. *печенца* — памянш. ад *печень* (XVI ст.). Да *печань, пячонка* (гл.).

**Пе́чань**, *печэня*, часта ў мн. л.: *печане́, пе́чані, пе́чэні* 'печань' (ТСБМ, КЭС, Касп., ТС, Бяльк., Сл. ПЗБ), *пе́чэнне* 'пя-

чонкі' (Растарг.). Укр. *пече́ня* 'смажаніна', ст.-польск. *pieczenia*, а з XVIII — *pieczeń* 'тс', славац. *pečeń* 'пячонка', *pečeňa* 'смажаніна'. Прасл. **pečenь* 'печанае, смажанае мяса' (Слаўскі, SP, 1, 128), з якога пазней развілося 'смажаная печань' > 'печань' (Махэк$_2$, 441; Брукнер, 406; Фасмер, 3, 255—256). Да *пячы* (гл.). Сюды ж: *пячэ́ня, пэче́ня* 'смажаніна' (мін., Дзмітр.; Шпіл.; Бес.; Нас.), *пічанёўка* 'кілбаса, начыненая фаршам з унутранасцей' (полац., Нар. сл.).

**Печары́ца** 'шампіньён, Agaricus campestris L.' (Нар. Гом.), *пычуры́ца, пэчэры́ца, пэчуры́ца* 'тс' (стол., пін., Жыв. сл.), *печурыца* 'тс' (Нас.; Растарг.; добр., брагін., Мат. Гом.; стол., Сл. Брэс.), *печуры́ца* і *пячу́рка* 'тс' (уздз., Нар. словатв.), *печэры́ца* 'тс' (ТС). Укр. *печери́ця, печа́риця*, рус. *печери́ца, печери́ка, печурица, печерка* 'тс', польск. *pieczarka* 'грыб, які вырас у пячоры' (Брукнер, 407), *pieczarka, pieczarek, pieczorynki* 'шампіньён', чэш. *pečárka, pečurka, pekarka, pečírka, pečírek*, славац. *pečiarka, pečärka, pičurka* 'розныя віды шампіньёна', славен. *pečȗrka, pečurica* 'грыб', серб.-харв. *пѐчурка, пѐчурица* 'тс', 'шампіньён', макед. *печурка* 'грыб', балг. *печу́рка* 'шампіньён'. Прасл. **pečerъka/ *pečerica/ *pečura* (Мяркулава, Этимология—1964, 95—96). Этымалогія лексемы не зусім ясная. Звычайна мяркуюць пра паходжанне лексемы ад дзеяслова **pekti* (Міклашыч, 235; Фасмер, 3, 256; Машынскі, O sposobach, 120—121, які ў пацвярджэнне гэтага зазначае, што "яшчэ і зараз славянскія пастухі, знайшоўшы на пашы шампіньёны, пякуць іх, нанізаўшы на дубец, над агнём"). Супярэчыць гэтаму і наяўнасць у гэтым слове ва ўсіх славянскіх мовах гука *č*, што прадугледжвае першаснае *k*, а не *-kt-*. Махэк$_2$ (441) мяркуе, што слова ўзнікла ў выніку намінацыі выразу накшталт *pečeňa turova* — такая назва бытуе ва ўкраінскіх Карпатах: *турова печеня*, праўда, для іншага грыба (ЛБ, 1956, 6, 13). Для пацвярджэння паходжання лексемы з **pekti* М. Майтанава (Slsl, 5, 1970 (1), 71) прыводзіць славац. *biela huba na pečenie*. На карысць такой этымалогіі прамаўляюць некаторыя сінанімічныя назвы: укр. *печериця висока* 'грыб-парасон, Lepiota procera (Scop.) Quel', яшчэ называецца *пряжівка* (у Карпатах) < *пряжити* 'смажыць', ці палес. *пажа́рак, пажа́рки*, а таксама варыянт з метатэзай да *печериця* — *чепериця* 'шампіньён', 'грыб увогуле', шырока прадстаўлены ва Украіне,

у Венгрыі, Румыніі і на балгарскай і сербскахарвацкай тэрыторыях (гл. Непакупны, Связи, 36—41).

**Печатарнік** ‘сакратар, які прыкладвае пячаткі’ (Нас.). У выніку кантамінацыі польск. *pieczętarz* і ўсх.-слав. *печатник*, параўн. старaж.-рус. *печатникъ* ‘службовая асоба, якая захоўвае пячаць і прыкладвае яе’ (1284 г.).

**Печая**, *печэя́, пе́чая, пічая́* ‘пякотка (у страўніку)’ (ТСБМ; Нас.; Янк. 3; Маш.; мазыр., Шн.; Сл. ПЗБ; Мат. Маг.; Мат. Гом.; хойн., Шатал.; брагін., Нар. словатв.; ст.-дар., Нар. сл.; Растарг.; Бяльк.; мін., гом., ЛА, 3). Укр. *печія́* ‘тс’. Бел.-укр. ізалекса. Утворана пры дапамозе суф. **-ěja* ад *пячы́* (гл.).

**Пе́чка** ‘прадуха ў прызбе’ (віл., Нар. сл.). У выніку семантычнага пераносу паводле падабенства з *пе́чка* ‘пячурка з боку печы, кучка’ (бяроз., мазыр., ельск., ЛА, 4). Да *печ* (гл.). Мядз. *пе́чка* ‘грубка’ (Жыв. сл.) — новае, з рус. *печка* ‘тс’. Сюды ж *пе́чачка* (Юрч. СНЛ).

**Пе́чкацца** ‘пэцкаць’ (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *пэцкацца* і *пячка́р* ‘пячнік’.

**Печуры́ца** ‘шампіньён’ (добр., брагін., Мат. Гом.). Гл. *печары́ца*, *пячу́рка* (гл.).

**Печуры́чка** ‘ластаўка берагавая’ (Ян.). Ад *пячу́ра, пячу́рка* ‘адтуліна, ніша ў сцяне печы, нара ў беразе ракі, у якой жывуць ластаўкі’. Да *пячора* (гл.).

**Пе́чы** (*вялікія*) ‘пагорак’ (мазыр., ЛА, 2). Няясна.

**Пе́чыва** ‘печаныя вырабы з мукі’ (ТСБМ), *пе́чыво* ‘тс’, ‘адна выпечка хлеба’ (слонім., саліг., Нар. словатв.; рагач., кіраў., Нар. сл.; Шат.), укр. *пе́чиво* ‘тс’ ‘смажанае мяса’, рус. *пе́чиво* ‘печанае; смажанае’, польск. *pieczywo* ‘пячэнне’, в.-луж. *pječwo* ‘хлебабулачныя вырабы’, н.-луж. *pjacywo* ‘пячэнне, булачкі’, чэш., славац. *pečivo* ‘тс’, ‘хлебабулачныя вырабы’, славен. *pecívo* ‘праца хлебапёка’, серб.-харв. *пȅциво* ‘булачныя вырабы’, ‘штонебудзь спечанае’, ‘смажаніна’, макед. *печиво* ‘смажанае мяса’, балг. *печи́во* ‘смажанае ў духоўцы альбо на пліце’. Прасл. **pečivo* ‘якое пячэцца’ (Бязлай, 3, 18). Да *пячы́* (гл.).

**Пе́чыска** ‘месца, дзе стаяла печ’ (гродз., Сл. рэг. лекс.). Пад уплывам польск. мовы (зах.-слав. суф. *-isk-o* ) з *печышча* (гл.). Да *печ* (гл.).

**Пе́чышча**, *пе́чышчо* 'хацішча' (чавус., зэльв., слонім., ЛА, 4). Да *печ* (гл.). Аб суф. *-ішч-а* са значэннем 'месца, дзе знаходзіўся прадмет' гл. Сцяцко, Афікс. наз., 159. Семантычны перанос 'печышча' > 'хацішча': пасля пажару заставалася толькі печ.

**Пе́ша**, *пе́шо, пі́шо* 'пяшком' (ТСБМ; Сцяшк. Сл.; лях., гродз., маст., драг., Сл. ПЗБ) — адпрыметнікавыя ўтварэнні з суф. **-о*. Да *пе́шы* (гл.).

**Пешака́**, *пешэка́, пішака́* 'пяшком' (калінк., З нар. сл.; Нар. Гом.; кобр., Сл. ПЗБ) — адназоўнікавыя прыслоўі (як *драпака́* ў выразе: *даць драпака́* 'даць лататы') у форме Р. скл. адз. л., утвораныя пры дапамозе суф. *-ак* (⁺*пяша́к*), як бел. *ядáк*, драг. *йізда́к* 'яздок'. Параўн. таксама польск. *pieszaka* 'пяшком', чэш. *pěšák* 'пехацінец', серб.-харв. *пѐшак* 'тс', 'пешаход', 'пешка', макед. *пешак* 'тс', славен. *pešák* 'пешаход, хадок', 'пехацінец', балг. *пешак* 'тс'.

**Пешаком** 'пяшком' (лях., навагр., Сл. ПЗБ) — прыслоўе, утворанае ад формы Тв. скл. адз. л. назоўніка ⁺*пяшак* (гл. *пешака́*).

**Пе́шкам** 'пехатой' (пух., Сл. ПЗБ; Ян.) утворана ў выніку кантамінацыі лексем *пе́шшу* ці *пе́ша* і *пяшко́м*, апошняе, відаць, больш пашырана на рус. моўнай тэрыторыі і паходзіць са ст.-рус. *пешькъ* 'пешаход' (КЭСРЯ, 337).

**Пешахо́д** 'тратуар' (Растарг.). З рус. *пешеход* 'тс', пашыранага ў 90-х гадах XIX ст., параўн. яшчэ *пешеходня* 'бакавы шлях (на мосце) для пешых'.

**Пешахо́ддзю** 'пешкі, пешаходам' (Бяльк.). Утворана з рус. *пешеход* 'хто ходзіць пешшу'.

**Пе́шка₁** 'самая нізкая па свайму значэнню фігура ў шахматах' (ТСБМ). З рус. *пе́шка* 'тс' — першапачаткова 'пехацінец, радавы' (Фасмер, 3, 257). Да *пе́шы* (гл.).

**Пе́шка₂** 'фасоля, што не ўецца' (навагр., З нар. сл.). Са словазлучэння *пешая фасоля* пры дапамозе суф. *-к-а* ў выніку намінацыі, як *чыгунная дарога* > *чыгунка*. Гл. таксама *пехата́₁*.

**Пе́шкі** 'пяшком' (Растарг.; ТС; Бяльк.). Адпрыметнікавае прыслоўе, утворанае ад прасл. **pěšь* пры дапамозе суф. **-ьsk-* (**pěšьskъ* ) і канчатка Тв. скл. мн. л. адносных прыметнікаў. Параўн. укр. *пі́шки*, ст.-польск. *pieszki*, чэш. *pěšky*, макед. *пешки*, славен. *pę̑ški* 'пяшком'. Больш падрабязна пра суф. *-к-і* гл. Карскі, 2—3, 69. Станкевіч лічыць лексему ўкраінізмам (Зб. тв., 2, 67).

**Пе́шня**, *пешня́, пі͡эшня, пішня́, пе́чня, пышня́, пяшня́* ‘прылада (лом з драўляным дзяржаннем) для прасякання лёду’ (паўн. і ц.-бел.), інструмент (далато шырынёй 4,5 см, насаджанае на доўгае дзяржанне да 2 м) для вырабу ночваў, лодак, вулляў-борцей, для прадзёўбвання пазоў, дзірак’ (паўд.-бел., паўд.-усх.-бел.) (ЛА, 2, а таксама ТСБМ; Гарб.; полац., З нар. сл.; глыб., Сл. ПЗБ; Бяльк.; ТС; Маш.; Сержп. Борт.; Сл. Брэс.; лун., Шатал.; слаўг., Нар. сл.; рагач., ганц., іўеў., З нар. сл.), *пішня* ‘кій, якім падпіраюцца, ідучы па лёдзе’ (Сл. Брэс.). Рус. *пе́шня*, польск. *piesznia, piersznia, pieśnia* ‘тс’. Сюды ж адносяць і славен. *pȅs* ‘пень, ствол бука’, рус. *пёс* ‘доўбня таўчы гліну’. Звязваецца з **pěst-* (гл. *пе́ста$_2$*) альбо з **pьx-* (гл. *піха́ць*) < і.-е. **pis-, *pei̯s-* (Мерынгер, WuS, 1, 3; Гольтхаўзен, KZ, 72, 204; Фрэнкель, 586, Сабалеўскі, Лекции, 137; Праабражэнскі, 2, 56; Мацэнаўэр, LF, 12, 336; 15, 168; Фасмер, 3, 258; Бязлай, 3, 27). Сэндзік (Slawistyczne studia językoznawcze, 1987, 339—342) рэканструюе паўн.-слав. **pěšьńa.*

**Пе́шшу**, *пе́шу* ‘пяшком’ (свісл., чэрв., в.-дзв., лудз., Сл. ПЗБ), рус. *пешью* ‘тс’. Прыслоўе ў форме Тв. скл. ж. р. ад *pěša* (?).

**Пе́шы**, *пе́шый* ‘які ідзе пехатой; пяхотны, не конны’ (ТСБМ, Бяльк.). Укр. *пі́ший*, рус. *пе́ший*, сімб. *пѣхій* (Даль, 3, 551), разан. *пѣсью* ‘пешшу’, польск. *pieszy*, н.-луж. *pěšy*, в.-луж. *pěši*, чэш. *pěší, pěchý,* славац. *peší* ‘тс’, славен. *ki gre pę̑š,* старое *pę̑š* ‘пешы’, серб.-харв. *пје̏шице*, старое *пје̏ше* ‘пяшком’, макед. *пеш, пешки, пеша*, балг. *пеш, пе́ши,* ст.-слав. пѣшь ‘пешы’. Прасл. *pěšь* < *pěs-jь*, якое (праз форму *pěsъ*) узыходзіць да і.-е. **pēd-su* ‘на нагах (ісці)’ у процівагу ‘ехаць на кані, на лодцы’ < і.-е. *pēds* ‘нага’ (‘ступня’) (Мее, MSL, 14, 314; Махэк$_2$, 446; Бязлай, 3, 29). Фасмер (3, 257) сумняваецца ў гэтым, даводзячы, што ў такім выпадку слав. форма была б *pěsъ*. Выходнай формай для прасл. *pěšь* ён падае **pēdsios*, вытворнага ад *pēd-* ‘ступня’, лац. *pēs, pedis* ‘нага’, літ. *pėdà* ‘след нагі’, лат. *pę̂ds* ‘тс’, *pę̂da* ‘падэшва’, ст.-грэч. πούς, Р. скл. ποδός, дарычн. πώς ‘ступня’, ст.-інд. *padám* ‘след нагі, ступня’, гоц. *fōtus,* літ. *pėsčias* ‘пешы’ (і.-е. скланенне было атэматычным, з аблаўтам: Н. скл. *pēd-s*, Р.скл. *pod-ós*). Першапачатковая і.-е. лексема *pēd-s* пазней у слав. прамове замянілася на *noga*, у балт. (літ.) — на *kojà* ‘нага’. Аб прасл. **pěšь(jь)* ‘сла-

бы, стомлены', звязаным генетычна з **ръхati*, гл. Варбот, Этимология—1971, 18—19.

**Пёк** 'выпечка, (адно) печыва' (Нас.). Аддзеясло̆унае ўтварэнне, да *пячы́* (гл.). Сюды ж *пёкам* 'настойліва, надакучліва' (Нас.) — прысло̆уе, утваранае з формы Тв. скл. адз. л. лексемы *пёк*.

**Пёкаць₁** 'малаціць цэпам' (Варл.). Да *пéкаць₁* 'біць чым-небудзь', 'біць увогуле'.

**Пёкаць₂** 'гараваць, пакутаваць' (Варл.). Да *пéкаць₂* (гл.).

**Пёкма:** у выразе *пёкма пячы́* 'вельмі, моцна' (Нас.), 'пячы, не перастаючы' (Касп.). Да *пячы́* (гл.). Суф. *-ма* (паводле паходжання — канчатак назо̆унікаў Тв. скл. парнага л.), утвараючы прысло̆уі, далучаўся да займеннікаў, імёнаў і асабліва прадуктыўна да дзеясловаў альбо імёнаў, утвораных ад дзеясло̆уных асно̆у: *крычма крычэць, лежма, лёжма, сідзьма* і да т. п.

**Пёнтак** 'пятніца' (паст., трак., смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *piątek* 'тс'.

**Пёнтар** 'цэнтр, сярэдзіна' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Паводле прыкладу-ілюстрацыі да гэтай лексемы значэнне трэба было б запісаць як 'узгорак'. Тады — да польск. *piętro* < прасл. **pętro*.

**Пёнтра** 'паверх' (смарг., Сл. ПЗБ), *пёнтр* 'тс' (воран., Сцяшк. Сл.). З польск. *piętro* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 514). Сюды ж *пёнтры* 'некалькі адзежын, якія відаць адна з-пад другой' (іўеў., Сцяшк. Сл.).

**Пёрка₁** 'наганяй' (светлаг., Мат. Гом.). Да *праць* (гл.) < прасл. **ьrati, perą* пры ад'ідэацыі рус. *пóрка* 'лупцоўка', якое ад *пороть* 'распорваць'.

**Пёрка₂** 'травяністая расліна з вузкімі лістамі' (Мат. ТС), 'доўгі ліст якой-небудзь расліны' (ТСБМ). Памяншальнае да *пяро́* (гл.).

**Пёрлышка** 'плаўнік у рыб' (астрав., Жыв. сл.) — у выніку кантамінацыі лексем *крылца, крылка* і *пёрышка* (гл. *пёры, пяро*).

**Пёрх** 'пазыў на кашаль', 'перхата' (Нас.). Аддзеясло̆уны назо̆унік, аснова якога — гукаперайманне, да *пéрхаць₂* (гл.).

**Пёры** 'пер'е', 'лісце цыбулі, часнаку', 'плаўнікі ў рыбы' (Сл. ПЗБ; рэч., Мат. Гом.; смарг., Шатал.), 'вастрыё ў свярдзёлку' (свісл., Шатал.), *пёрышкі* 'плаўнікі ў рыбы' (кліч., Жыв. сл.). Да *пяро, пéр'е* (гл.).

**Пёрысты** 'злосны' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *пéр'е, пяро* (гл.). Суфікс *-ы-ст-ы*, як у *яршы́сты* 'натапыраны'. Перанос семан-

тыкі паводле падабенства: натапыранасць птушак ці жывёлаў — прыкмета іх раззлаванасці.

**Пёс** ‘сабака’ (Бес., Нас.), астрав. *пес* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *пёссі* ‘сабачы’ (чач., Нар. Гом.; Чарадз. казкі), укр. *пес*, рус. *пёс*, польск. *pies*, н.-луж. *pjas*, в.-луж. *pos*, чэш., славац. *pes*, славен. *pȅs* ‘сабака’, серб.-харв. *пȁс*, макед. *пес*, балг. *пес, пéсът*, старое *ръs*, ст.-слав. пьсъ. Прасл. *рьsъ*, якое фанетычна стаіць найбліжэй да ст.-інд. *piçáŋgas* ‘рыжаваты, карычневы’, параўн. *Рыжык* ‘імя сабакі’ і прасл. **рьstrъ* ‘стракаты’ (першапачаткова ‘плямісты’ — параўн. авест. *paēsa* ‘пракажоны’, ст.-грэч. ποικίλος ‘стракаты’ і інш.) (Фасмер, 3, 248). Найімаверней выходзіць з і.-е. **pĭk’*- ‘злы’, хаця ў балт. мовах — **pik-/*pei̯k-/*poi̯k* (літ. *pìktas* ‘тс’, *peĩkti* ‘ганіць’, ‘абгаворваць, знясла́ўліваць’, *paĩkas* ‘прыдуркаваты’) (Сной—Бязлай, 3, 27). Іншыя версіі: збліжэнне з лац. *pecus* ‘скаціна’, ст.-грэч. πεκος ‘шкура’, ст.-інд. *paçús*, авест. *pasu-* ‘тс’, гоц. *faihu* ‘грошы’ з набліжэннем семантыкі да ‘касматы, калматы’ (Ільінскі, РФВ, 69, 13; 73, 286; AfslPh, 34, 11) ці да ‘вартаўнік скаціны’ (Остгаф, Parerga 1, 214, 256—265 і наст.; Брукнер, 411, Барталоме, 881), што, як і збліжэнне з лац. *specio* ‘гляджу’ (Мее, Études, 238) і інш., з’яўляюцца менш імавернымі.

**Пёска** (памянш.) ‘палоска’ (гродз., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, у выніку кантамінацыі бел. *палóска* і польск. *pasek, pas* ‘тс’. Відаць, можа быць збліжана з рус. *песи́ка* ‘цёмная паласа ў шэрсці пушных звяроў’, *песики* ‘восць у футры’ або са славен. *pȅsa* ‘доўгае букавае сцябло, з якога рэжуць дошкі’, якое Бязлай (Etyma, 10) збліжае з рус. дыял. *пёс* ‘палка для размешвання гліны’ і выводзіць з *peštati* ‘націскаць, ступаць, таўчы’ (< і.-е. **pei̯s-* ‘растаўчы’), роднаснае *піхáць, пест* (гл.).

**Пёстры** ‘стракаты’ (круп., чэрв., бялын., шкл., маг., чавус., мсціcл., рэч., Жыв. св.), *пёстрая* (карова) ‘пярэстая’ (паўн. і ўсх.-маг., ЛА, 1), укр. *пістря́вий, пістри́й*, зах. *пістря́к* ‘вяснушка’ (на твары), ‘плямы (на вымені)’, рус. *пёстр, пёстрый*, польск. *pstry*, ст.-чэш. *pestr, pstrý*, чэш., славац. *pestrý*, славен. *pȅster*, балг. *пъ́стръ* ‘стракаты, рознакаляровы’, ц.-слав. *пьстръ* ‘розны’. Прасл. **рьstrъ*. Суф. *-rъ*, як у іншых назвах колераў: *rъdrъ* ‘руды’, *modrъ* ‘сіні’, *sěrъ* ‘шэры’, *-t-* устаўное (Махэк$_2$,

446). Да асновы-кораня **pьs-*, звязанага чаргаваннем з *пісáць* (гл.). Роднаснае літ. *paĩšas* 'пляма ад сажы', ст.-грэч. ποικίλος 'стракаты', ст.-інд. *pēçás* 'колер', авест. *paēsa-* 'тс', ст.-в.-ням. *fêh* 'стракаты' (Фасмер, 3, 251), ст.-інд. *śilpá-* < *piślā-* < **piśra-* (Тадэска, Language, 23, 383; Бязлай, 3, 28). Сюды ж *пярэсты*, *стронга* (гл.).

**Пётро** 'частка ракі, якая не замярзае' (малар., ЛА, 2). З польск. *piętro* 'вышкі' > 'узвышэнне' > 'высокае месца' (параўн. *пёнтар*) > 'высокае месца на рацэ, якое не замярзае' — *пярóсуха* (гл. ЛА, 2).

**П'ёўка** 'Sanguisuga' (пух., ЛА, 1). Да *п'яўка* (гл.).

**Пі** — пра падачу машынай гуку (мсцісл., Нар. лекс.), *пібіп!* — аўтамабіль дае сігнал (полац., Нар. лекс.). Новыя гукапераймальныя словы. На паўднёваславянскай тэрыторыі выклічнік *pi, pi-* звязаны з падзываннем свойскай птушкі, гукаперайманнем птушыных галасоў і ўваходзіць у назвы некаторых птушак (гл. Скок, 2, 659; Бязлай, 3, 38).

**Піва**, *піво* 'напітак з ячменнага соладу' (ТСБМ, Яруш., Бес., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Стан.), *піво* 'пойла для свіней: вада з дадаткам мукі' (драг., Нар. лекс.). Укр. *пúво* 'піва', рус. *пиво* 'піва', 'пітво, напой', 'пойла', польск. *piwo*, н.- і в.-луж. *piwo*, чэш., славац. *pivo*, славен. *pívo*, серб.-харв. *пи̑во*, макед., балг. *пиво*, ц.-слав. *пиво*. Прасл. **pivo*. Да **piti* > *піць* (гл.) і суф. *-v-o*, які ўтварае назвы прадметаў як вынік дзеяння. Параўн. фрак. πῖνο, πῖνον (Фасмер, 3, 258).

**Піва́к** 'п'яніца' (Ян.), 'піток' (ТС). Да *піва́ць* — дзеяслоў шматразовага дзеяння ад *піць* (гл.). Суфікс *-ак* з экспрэсіяй зніжанасці прыўносіць значэнне назвы асобы па схільнасці да адпаведнага дзеяння.

**Піва́лка** 'п'яўка (гарад., віц., ЛА, 1). Відаць, з +*піјаўка* ў выніку метатэзы *й...ў* > *в...л*. Да *піць* (гл.). Пад уплывам народнай этымалогіі прыставілася *а-* ці *ў-*: *апівалка, упівалка*, параўн. *піва́ўка* 'тс' (ЛА, 1).

**Піва́нна** 'дзіванна скіпетрападобная, Verbascum thapsiforme Schrad.' (лельч., Бейл.). Узнікла, відаць, у выніку кантамінацыі лексем *панна* (ці *півоня*) і *дзіва́нна* 'тс'. Параўн. гродз. *панна-дзіванна* 'тс' (Верас), другая частка якога *дзіванна* значна пашы-

рана на слав. тэрыторыі: укр. *дивина, дівенна*, рус. *дивана, дивина, дивизна*, польск. *dziewana*, ст.-чэш. і чэш. *divizna*, вал. *divizňa*, паўд.-славац. *devana*, славен. *devin*, серб.-харв. *дивизма, дивизна, дивина*, балг. *дивизма*; першасную форму назвы ўстанавіць цяжка, таму этымолагі выводзяць яе з формаў накшталт: ад **divъ* ‘дзікі’ (бо расце на пустых “дзікіх” месцах), ці ад назваў багіні *Дзевы* (*Дзівы*) ці *Дзіванны*, якія не вельмі пераканаўчыя (Махэк, Jména, 209; Брукнер, 111).

**Півíка** ‘кнігаўка, Vanellus vanellus’ (воран., Сл. ПЗБ; Жыв. св.). З літ. *pyvìkė* ‘тс’ (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 514).

**Півóня**, *півóнія, півóна, півóніна, піона, піванéя, піёнія, пінёна* ‘расліна Paeonia lactiflora’ і ‘Paeonia officinalis’ (ТСБМ, Стан., Сл. ПЗБ, ТС, Жыв. сл., Жыв. св.), *півóня, пінавея* ‘піжма кануфер, Tanacetum balsamita L.’ (Кіс.), укр. *пивонія*, рус. *пеон, пион*, польск. *piwonia* ‘півоня’, *wtorycz piwonia* ‘піжма кануфер’, чэш. *pivoňka*, славац. *pivónia*. З лац. *Paeonia*, якое са ст.-грэч. Παιονία ‘Пеонія’ — краіна ў паўн. Македоніі, адкуль расліна пашырылася. Сюды ж *півóнявы* ‘фіялетавы’ (Сцяшк. Сл.).

**Півýтка** ‘кнігаўка’ (воран., Сл. рэг. лекс.). Да *півíка* (гл.), якое, як і літ. *pyvìkė*, з’яўляецца гукаперайманнем — паводле голасу *piv-piv* (параўн. і паўд.-слав.: славен. *pȋvljak* ‘каня, Milvus regalis’, *pȋvlik* ‘тс’, *pivelj* ‘качка, Anas fusca’, *pȋvka* ‘дзяцел, Picus canus’, *pívra* ‘кнігаўка, Vanellus cristatus’ і інш. (Бязлай, 3, 34), рус. разан. *пи́вик* ‘кнігаўка’ (Фасмер, 3, 258).

**Пíгаліца** ‘маленькі, шчуплы чалавек, жанчына’ (ТСБМ), укр. *пигíчка* ‘кнігаўка’, рус. *пи́галица, пи́галка, пигóлка* ‘тс’, ‘хударлявы чалавек’. Відаць, прыйшло з рус. мовы, дзе ўзыходзіць да *pi-gí, ki-gí* — перадачы крыку чайкі ці кнігаўкі (Патабня, РФВ, 4, 213; Праабражэнскі, 2, 56; Фасмер, 3, 258; Бязлай, 3, 21).

**Піганóк** (*пігонóк*) ‘труцень’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Пігáрак**, *пігáрачка* ‘прыгар (на бульбе)’ (хойн., брагін., Мат. Гом.), *пігáркі* ‘падгарэлая (зверху ў чыгуне) вараная бульба’ (рэч., Нар. сл.; лях., Сл. ПЗБ), *пыгáрка* ‘плёўка на вараным малацэ’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *пéгі* (гл.) > $^{+}$*пегара* пры ад’ідэацыі *гарэць*.

**Пігáрка** ‘дзіцячая гульня са збіваннем калодачкі’ (карэліц., ЖНС). Да *пéкар*$_2$, *пікар* (гл.).

**Пігаўка**, *пікаўка* 'кнігаўка' (навагр., Нар. сл.; шальч., лід., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.; воран., навагр., стаўб., ЛА, 1). Гукапераймальнае. Ад *пі-гі!* — крыку птушкі. Адсюль непасрэдна *пігіца*, *пігіца*, *пііца* 'кнігаўка' (воран., іўеў., Сцяшк. Сл.; ашм., шальч., ігн., Сл. ПЗБ; ЛА, 1). Сюды ж *пігалка* (валож., ЛА, 1).

**Пігель** (*пігэль)* 'дзіцячая гульня' (пін., Жыв. НС). Відаць, да *пікер* (гл.).

**Пігі**, *пікі* 'ледзяшы' (карэліц., ЛА, 2). З *пікі* < *піка*$_1$ ў выніку азванчэння *к* > *г*.

**Пігмей** 'карлік', 'прадстаўнік карлікавых плямёнаў Афрыкі, Азіі і Акіяніі' (ТСБМ), ст.-бел. *пигмей* 'карлік' (XVII ст.) са ст.-польск. *Pigmej*, якое з лац. *pygmaeus* < ст.-грэч. πυγμαῖος 'велічынёй з кулак' (Булыка, Лекс. запазыч., 126; Фасмер, 3, 259).

**Піго́лік** 'чыгун' (лельч., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, з італ. *piccolo* 'малы', тут: 'маленькі гаршчок' > 'чыгунчык' > 'чыгун', параўн. польск. *pikul* 'маленькае касое акенца ў каморы', *pikula* 'дробязь, рэч без вартасці', ці з чэш. *pikula* 'дробная манета' < італ. *piccola* 'малая'.

**Пігу́лка**, *піґу́лка, піґу́лчына* 'пілюля, таблетка' (Яруш., Нас., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ; лун., Шатал.; віл., Жыв. сл.; Скарбы; міёр., Нар. словатв.). З польск. *pigulka,* якое ў форме *piguła* ўзнікла ў выніку распадабнення з *piłuła*, — апошняе з лац. *pilula* 'шарык' < *pila*; параўн. ням. *Pille* 'пілюля' (Брукнер, 413).

**Пігу́ля** 'спадніца' (Бес.). З польск. *pigulka* 'тс'.

**Пігу́тка** 'кнігаўка' (шальч., Сл. ПЗБ; лаг., ЛА, 1). Гукапераймальнае. Утворана, як *піву́тка* (гл.), з балт. суфіксам *-ut-*.

**Піджа́к** 'пінжак' (Бяльк.) — пад уплывам рус. мовы. Да *пінжа́к* (гл.).

**Піднава́ць** 'пільнаваць здабычу (пра ката і інш.)' (зэльв., бых., пух., бабр., Жыв. св.; пух., Сл. ПЗБ; слонім., Нар. словатв.), *піднава́ць, прыпіднава́ць* (скаціну, каб не лезла ў шкоду) (карэліц., Нар. сл.). З *пілнаваць* 'тс' у выніку незвычайнага распадабнення *л* > *д*.

***Піжа**, ст.-бел. *пижа* 'правіянт, прадукты харчавання' (XVII ст.) са ст.-польск. *spiża* 'ежа, харчы' (1530 г.), якое з ням. *Speise* < с.-в.-ням. *spīse*, ст.-в.-ням. *spisa* < с.-лац. *spensa, spēsa* 'харчы, якія выдаваліся ў войску' < лац. *expensa (pecūnia)* 'выдаткі' < *expendere* 'ўзважваць, выплачваць' (Васэрцыер, 217).

**Піжава́нне** (*піжува́ньня)* ‘меранне’, *піжува́ньнік, -ніца, піжавалка* ‘той, хто размярае’ (Юрч. СНЛ). Няясна.

**Піжа́сты** ‘пярэсты’ (Сцяшк. Сл.), ‘пра сукенку ў вялікія каляровыя палосы ці плямы’ (Варл.). З польск. *pierzasty* ‘падобны да пер’я’.

**Піжма** (*пізьма, пыжма, пожма, пу́жма, ціжма, чыжма, спіжма, сівапізьма, піжмак, по́жня*) ‘расліна Tanaceum balsamita L.’ (віц., маг., Кіс.; слуц., лельч., КЭС; Сл. ПЗБ; гродз., Сцяшк. Сл.; міёр., Жыв. сл.; ТСБМ; Бяльк.; ЛА, 1); *піжма, пізмо́* ‘старасцень якава, Senecio jacobaea L.’ (Кіс.). Укр. *пі́жмо*, рус. *пи́жма* ‘Tanaceum vulgare’, рус. яшчэ ‘крываўнік дабрародны, Achillea nobilis L.’, польск. *piżmo*, в.-луж. *pižmo* ‘мускус’, *piżmowe ziele, piżmowiec* ‘адокса мускусная’, мар. *pižmo* ‘астра, Aster chinensis’, *pížma* ‘васілёк, Centaurea cyanus’, чэш., славац. *pižmo* ‘мускус’, харв. *pižma* ‘піжма’, усе запазычаны з с.-в.-ням. *bisem*, ст.-в.-ням. *bisam(o)* ‘мускус’ (Міклашыч, 248; Фасмер, 3, 259) < с.-лац. *bisamum* < ст.-яўр. *bāšām* ‘бальзам’ < асір. *bes(a)mō* ‘прыемны пах’, з якога праз ст.-грэч. βάλσαμον ‘тс’ прыйшло суч. *ба́льзам* (Бязлай, 3, 45; Махэк$_2$, 453). Ст.-бел. *пижмо* ‘мускус’ (XVI ст.) было запазычана са ст.-польск. *piżmo*, якое са ст.-чэш. *pižmo* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 151), перанос назвы на Tanaceum vulgare звязана з тым, што лісты гэтай расліны замянялі карыцу і мускатны арэх (Мяркулава, Очерки, 105).

**Пізанне** (*пізыньне)* ‘апоўзіны (на стажку)’ (Нар. лекс.). Да *поўзіны, апоўзіна* (гл.).

**Пізі**, *пізікі, пісікі* ‘слёзы’, *пісі (пускаць)* ‘нюні (распускаць)’, *пізі пуска́тэ* ‘плакаць’, *пізя, пізяло, пызя* ‘плаксун’ (драг., Нар. лекс.; Сл. Брэс.; ТС). Магчыма, звязана з укр. гуц. *пізьма* ‘гнеў’. Відаць, гукапераймальнае, гл. *пызі*.

**Пізьма** ‘род агрэсту’ (гродз., Шн. 3). Да *піжма* (гл.) у выніку пераносу значэнняў.

**Пік$_1$** ‘хутка што-небудзь выкінуць, выставіць на від’; у выразе: *пік яму ў нос яго ж дабром*’ (Нас.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне. Да *пікаць$_1$* (гл.).

**Пік$_2$** ‘смала, вар’, *піка* ‘бітум, вараная смала’ (Ян., ТС). З н.-ням. *Pick* ‘смала’, якое, як і англ.-сакс. *pic*, англ. *pitch*, з лац. *pix* ‘смала’, калькі са ст.-грэч. πίσσα , атычн. πίττα ‘тс’ < **pikia*.

**Пік$_3$** ‘касцявы мозг’ (ТС). Усечаная форма лексемы *шпік* ‘тс’ (гл.).

**Пік$_4$**: *гадзіны пік* ‘час вышэйшага напружання ў рабоце транспарту, электрастанцыі і пад.’ (ТСБМ). З рус. *часы пик*, якое з’яўляецца паўкалькай англа-амерыканск. *peak hours* ‘тс’ (Кіпарскі, ВЯ, 1956, 5, 136).

**Пік$_5$** ‘спічастая вяршыня гары’ (ТСБМ). Праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 86) з франц. *pic* ‘тс’ (Мацэнаўэр, LF, 12, 340; Фасмер, 3, 260).

**Піка$_1$** ‘зброя ў выглядзе дрэўка з вострым металічным наканечнікам, дзіда’ (ТСБМ, Бес., Нас., Шат., Бяльк.; віл., Сл. ПЗБ), *пікою* ‘стралой ляцець (падаць)’ (ТС). З польск. *pika* (якое з франц. *pique* ці з ням. *Pike* ‘піка’) альбо з рус. (ст.-рус.) *пика* ‘тс’, якое з ням. ці франц. моў ад швейцарцаў: менавіта яны ўвялі ў XV ст. піку як абавязковую зброю пехацінцаў; з канца XVI ст. у Маскоўскай дзяржаве пачынаюць служыць наёмныя войскі (Адзінцоў, Этимология—1975, 86—90), — абедзьве лексемы з італ. *picca* ‘тс’ (Праабражэнскі, 2, 57; Фасмер, 3, 260). Сюды ж свісл. *піка́сты* ‘з вострымі канцамі’ (Сцяшк. Сл.).

**Піка$_2$** ‘твар’ (Нас.). Гл. *пыка* ‘тс’.

**Піка$_3$** ‘пачак, стос’ (ТС). Відаць, у выніку перастаноўкі складоў з *кіпа*.

**Піка$_4$** ‘масць у картах’, *пічка* ‘карта піковай масці’ (Нас.). Гл. *пікі$_1$*.

**Пікава́ць** ‘рассаджваць расаду на грады’ (бераст., Сцяшк. Сл.). З польск. *pikować* ‘перасаджваць сеянцы’, якое з франц. *piquer* ‘калоць’ (SWO, 1980, 570).

**Пікала** (*пікало*) ‘расліна званец, Rhinantus L.’ (ТС). Да *пікаць$_2$* (гл.), параўн. ілюстрацыю: *пікало шамочыць*. Малаверагодная сувязь з рус. *пикулька* ‘пустазелле’ (Тапароў выводзіць з літ. *pikulė* ‘чуляўнік’, гл. Балтийские яз., 45).

**Пікар**, *пігар, пікер, пігель* ‘дзіцячая гульня, у якой гульцы, знаходзячыся за праведзенай рыскай (ці за кругам), выбіваюць кіёк (калодачку), аддалены ад іх на пэўную адлегласць’ (Янк. 1; Мат. Маг.; Янк. Мат.; Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.; гродз., Нар. словатв.; карэліц., ЖНС). Праз польск. *pikier* ‘дзіцячая гульня, пры якой адзін кіёк выбіваецца іншым’ з ням. *Picker* (Варш. сл., 4, 187); Малажай (Albaruthenica — 19, 71) мяркуе аб запазычанні з франц. *piquet* ‘кол, калок’. Аб больш складаным паходжанні тэрміна можа сведчыць балг. *пик* ‘ямка пры гульні ў свінку’,

*піко* 'хлапечая гульня', няяснага паходжання (БЕР, 5, 231—233), што, магчыма, можа паходзіць ад прасл. **pikati* 'калоць' (гл. *пікаць₁*) пры **pikrъ* 'вастрыё, укол', параўн. Бязлай, 3, 36; Сной, 442. Параўн. таксама *пекар₂* (гл.).

**Пікаўкі** 'аер, Acorus calamus' (івац., Нар. сл.; івац., ЛА, 1), 'плюшчай, Sparganium L.' (івац., ЛА, 1). Хутчэй за ўсё, да *пікаць₂* 'пішчаць', бо з асноў лісцяў аеру рабіліся пішчалкі. Не выключана сувязь з *піка₁* (гл.), шэраг раслін названы паводле дзідападобных лістоў і кіяхоў; у іншых слав. мовах падкрэсліваецца калючасць суквецця плюшчаю: славен. *ježak*, польск. *jeżogłówka*, славац. *ježohlav*, рус. *ежеголовка*, ням. *Igelkolben*.

**Пікаць₁**, *пікнуць* 'торкаць, соваць у твар, у нос; гаварыць насуперак, выстаўляць заганы' (Нас.). Магчыма, *в піку* 'на злосць каму-небудзь'; польск. *pikać, piknąć* 'укалоць; парнуць, баданўць', в.-луж. *pikać* 'дзяўбсці дзюбай', 'мармытаць незадаволена', н.-луж. *pikotaś* 'паволі, патроху есці', чэш. *píkati* 'калоць', *pifka, pivka* 'злосць, лютасць, гнеў', славац. *pik, pyk* 'прыкрасць, раздражэнне', славен. *píkati* 'калоць; джаліць; уядаць', 'дзяўбсці', 'патроху есці', *píkec* 'дурнап'ян, Datura stramonium', серб.-харв. *имати пи̏к (на некога),* макед. *има пик (на него)* 'ненавідзець', *пикна* 'цесна ўкладваць, напіхваць, усоўваць', *пикне* 'перапаўняць', балг. *пикнам* 'засунуць, запіхнуць', харв. кайк. *pȉkati* 'калоць, мацаць'. Прасл. **pikati* 'соваць, калоць, джаліць' (Гарачава, Этимология—1978, 107—108), найбольш блізкае да літ. *pỹkti* 'зліцца, гневацца', *pykà* 'злосць', лат. *pîkts* 'злы, нядобры, раздражнёны' (Махэк₂, 448; Мюленбах—Эндзелін, 3, 213; Фрэнкель, 589; Бязлай, 3, 35) < і.-е. **pei̯k'*- 'быць варожа настроеным' (Каруліс, 2, 47) ці да і.-е. *pī̆k(k)* 'нешта вострае', параўн. н.-грэч. πίκα, арам. *pícă* 'гнеў', *píčean* 'мярзотнік', алб. *pikkëllój* 'засмуціць', англ. *to pick at* 'гнявіць', франц. *piqué* 'сварка', 'з'едлівасць'.

**Пікаць₂** 'пішчаць адрывіста, коратка' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), 'падаваць па радыё сігналы дакладнага часу' (шчуч., Сл. ПЗБ), *пік!* — пра падачу гуку наогул (мсцісл., Нар. лекс.), *пікыць* 'падаваць голас' (Юрч. СНЛ). Укр. *пікати* 'пішчаць', рус. *пикать, пикнуть* 'пішчаць, падаваць голас', польск. *piknąć*, старое *pikać* '(за)пішчаць', 'адклікнуцца', *pik!* 'грук, стук!', чэш. *pikat* 'ціўкаць', славац. *pik!* — гук пры стралянні, параўн. лат. *pīka* 'плаксівае

дзіцё', 'рачны ўюн, пячкур (які выдае піск)'. Гукапераймальнае *pi(s)k!* (Ільінскі, KZ, 43, 179; Варш. сл., 4, 188; Траўтман, Altpreuβ., 338; 398; Фасмер, 3, 260).

**Пікі**$_1$ 'масць у картах у выглядзе чорнага лістка' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк.). З рус. *пики* 'тс', якое з франц. *pique* 'тс', а гэтае — з *pic* 'кірка' пры пасрэдніцтве ням. *Pik* 'масць у картах'. Французская назва ўтварылася ў выніку пераносу значэння паводле падабенства 'кірка' > 'чорнае адлюстраванне кіркі ці вастрыя дзіды на картах'.

**Пікі**$_2$ 'ўзор ткання ў касую клетку' (Касп.) з польск. *pika* 'моцная, грубая баваўняная тканіна', якое з франц. *piqué* 'падшываная тканіна'.

**Піклава́ць** 'гараваць' (віл., Сл. ПЗБ; Варл.). Да *пеклава́цца* (гл.).

**Пікот** 'пісканне' (пра ўюноў у лавушцы) (ТС). Ад гукапераймальнай асновы **pī-* і суф. **-otъ*. Параўн. яшчэ *піск*, *пішчаць* (гл.).

**Пікра** 'прыкра' (воран., Сл. ПЗБ) мае адпаведнік у славен. мове: *píker* 'востры, едкі, з'едлівы, пераборлівы, даўкі, горкі', *píkrn* 'тс', *píkrost* 'гарката, рэзкасць, строгасць, пераборлівасць, з'едлівасць'. У іншых формах прысутнічае ўстаўное *-r-*: *пры́кры* 'непрыемны, рэзкі, варты жалю', укр. *при́крий* 'непрыемны; стромы; моцны; рэзкі (пра колер)', рус. зах., сіб. *при́крый* 'даўкі', 'цяжкі, недаступны', польск. *przykry* 'стромы', 'непрыемны, агідны', чэш. *příkrý* 'рэзкі, агідны, грубы', славац. *príkry* 'стромы', 'суровы, строгі', 'востры, рэзкі', 'агідны', 'прыкры'. Паводле Фасмера (3, 364), існуючыя збліжэнні і суаднясенні недакладныя. Аднак Махэк$_2$ (493) выводзіць для іх прасл. **prikrъ* > *прыкры* (гл.), якое супастаўляе са ст.-грэч. πικρός 'востры, з'едлівы, даўкі, балючы' і з літ. *pìktas* 'злы' (Голуб—Копечны, 301; Бязлай, 3, 36). Голуб—Ліер (402) мяркуюць, што прасл. **prikrъ* з'явілася ў выніку перастаноўкі з **pikr-*. Сной (442) рэканструюе прасл. **pikrъ* з першасным значэннем 'вастрыё, укол' (< **pikati* 'калоць').

**Пікýн** 'кулік, Limicola' (ТС), 'стрыж чорны, Apus apus' (Ікан.). Утворана ад гукапераймальнай асновы *пі-к-* і суф. *-ун* (як *спявýн* 'певень', *цвіркýн* і інш.). Параўн. аналагічныя ўтварэнні ад анаматапеічнай асновы **pī-/ *pīp-:* польск. *pikut* 'бакас,

Capella media Fr.', славен. *pikáč* 'дзяцел, Picus', н.-луж. *pikac* 'верабей', лац. *pīpīre* 'шчабятаць, пішчаць'.

**Пікус** 'фікус, Ficus elastica' (Сл. Брэс.). Праз польск. ці рус. мовы з лац. *fīcus* 'фігавае дрэва'.

**Пікша** 'лясны клоп расліннаедны' (рэч., ЛА, 1). Магчыма, балтызм, утвораны ад літ. прыметніка *pìktas* 'злы, злосны' і суф. *-ša(s)*. З-за яго смярдзючага паху называецца яшчэ *смярдзюха́, біздзюха́, воню́ха, бзьдзю́ля*, а таксама *бікзды́кша* — кантамінаванае ўтварэнне з асновы *бзд-* і *пікша*.

**Піла́,** *пілка* 'стальная пласціна або дыск з зубамі для разразання' (ТСБМ, Яруш., Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк., ТС); 'сварлівы чалавек, сварлівая жонка' (ТСБМ, Нас.), 'настойлівы', *пілкі* 'які мае ўласцівасць да пілавання' (Нас.). Укр. *пила́,* рус. *пила́* 'піла', *пи́лка, пи́лочка* 'напільнік', польск. *piła* 'тс', старое *pieła* 'тартак', чэш. *pila* 'піла', 'тартак', ст.-чэш. *pila* 'піла', 'напільнік', славац. *píla* 'піла', 'тартак', славен. *píla* 'напільнік', рэз'ян. 'хрыбетнік', нотранск. 'піла', серб.-харв. *пи́ла* 'піла', 'напільнік', макед. *пила* 'піла', *пилана* 'напільнік', балг. *пила* 'піла', ст.-слав. пила 'тс'. Прасл. **pila* 'піла, напільнік', роднаснае герм. **fīla* (ст.-в.-ням. *fîhala, fîla*, ст.-в.-ням. *vîle*, ст.-англ. *fīl*, англ. *file*), літ. *peĩlis*, лат. *peilis* 'нож' (Махэк$_2$, 449), а таксама ст.-прус. *peile* 'тс' (Траўтман, 210; Мюленбах—Эндзелін, 3, 192). Міклашыч (246), Кіпарскі (Gemeinslav., 257), Брукнер (414), Фасмер (3, 261), Бязлай (3, 36) гавораць пра запазычанне прасл. **pila* з прагерм. *fīla*, роднаснага ст-грэч. πείκω 'чашу, стрыгу, драпаю', πικρός 'востры', ст.-інд. *pim̊çati* 'вырубвае'. Наяўнасць у прасл. **pila* двух значэнняў тлумачыцца тым, што старажытныя пілы былі таўсцейшымі ў аснове, з больш вузкім палатном, карацейшымі, — нечым сярэднім паміж пілой і напільнікам. Сюды ж *пілава́ць* 'рэзаць пілою' (ТСБМ, Яруш., Шат., Касп., Сл. ПЗБ), 'папракаць, мучыць' (Шат.), *піласта́ў* 'настройшчык піл' (Шат.).

**Пілава́ннік** 'пільшчык' (зэльв., ЛА, 3). У выніку асіміляцыі з *пілава́льнік* < *пілава́ць*. Да *піла* (гл.).

**Пілаві́ны** (*пілові́ны), пілаві́нне (пілаві́ньня, пілаві́ня, пілаве́нне, пыловэ́ньне, пыловы́нне)*, *пілаўня́* 'апілкі, адходы пры пілаванні' (ТСБМ; Гарэц.; Шат.; Сл. ПЗБ; Варл.; Сл. Брэс.; Сцяшк. Сл.; Бяльк.; рагач., Мат. Гом.; карэліц., Нар. словатв.; Скарбы; ЛА, 1),

зах.-укр. *пиловиння*, лемк. *пиловини*, польск. *piłowiny* 'тс'. Бел.-польск.-зах.-укр. ізалекса. Да *пілаваць* < *піла* (гл.). Суф. *-ін-ы* са значэннем 'адходы, што ўзнікаюць пры выкананні адпаведнага дзеяння' (Сцяцко, Афікс. наз.). Параўн. чэш., славац. *piliny* 'тс'.

**Пілаўшчык** 'пільшчык' (дзятл., ЛА, 3). Да *пілаваць* < *піла* (гл.).

**Пілацік**, ст.-бел. *пилатикъ* 'кій' (1539 г.) запазычана са ст.-польск. *piłatyk* 'кій, дручок', якое выводзіцца са ст.-грэч. πιλατικός 'валюшны, сукнавальны' (Булыка, Лекс. запазыч., 105), што малаверагодна. Банькоўскі (2, 582) на аснове першаснага значэння 'біта для гульні ў мяч' выводзіць з *piła* 'мяч' і *tykać, tknąć*, гл. *тыкаць*.

**Пілечнік** 'пільшчык' (ваўк., Сл. ПЗБ; ЛА, 3). З польск. *pilecznik* 'тс'.

**Пілёсіць** 'пілаваць тупою пілою', 'сварыцца, назаляць' (Шат.). Да *пілі́ць* (гл.), пашыранага экспрэсіўным суф. *-ёс-* са значэннем працяглясці дзеяння.

**Пілёсы** 'палосы'. Карскі (1, 253) звязвае з *пелесануць*, *пелесаваць* 'сцябаць пугай, караць плёткай' (гл.) пад уплывам *пеляснець*, што ўзыходзяць да ўсх.-слав. асновы **pols-*; корань той самы, што ў *паласаваць*. Гл. *пялясы, пялёсы*.

**Пілётка** 'жаночая шапачка' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З польск. *pilotka* — першапачаткова 'шлем у лётчыкаў'; якое адпавядае бел. *пілотка* (< рус. *пилотка* ад *пилот* 'летчык').

**Пілікаць** (*пілікаті*) 'няўмела іграць на скрыпцы' (Нас., ТСБМ, Варл.), 'рэзаць чым-н. тупым' (Нас.; ТС; беласт., Сл. ПЗБ; жытк., б.-каш., Мат. Гом.; баран., Сл. Брэс.), 'пілаваць' (Шат.). Утворана пры дапамозе імітацыйнага суф. *-ка-* ад *піліць* (гл.).

**Пілільшчык** 'насякомае пільшчык' (карм., Мат. Гом.). З рус. *пилильщик* 'тс'.

**Пілімо́, пільмо́** 'вялікі страўнік' (паст., лаг., Сл. ПЗБ), 'жывот' ці 'морда' (полац., Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. літ. *pýlimas* 'месца, куды што-небудзь наліваюць' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 517).

**Піліпа** (*пылыпа*) 'шырокая канава' (Сл. Брэс.). Няясна. Магчыма, ад уласнага імя *Пылып* 'Філіп' (?).

**Піліпаўка** 'пост перад Калядамі' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк.; іван., Жыв. НС). Укр. *пилипівка*, рус. *филиповка* < *Филиппов пост* 'тс'. Ад імя св. Філіпа, якое ўзыходзіць да

ст.-грэч. φίλ-ιππος 'аматар коней і язды конна'. Пост у праваслаўных пачынаецца пасля дня св. Піліпа — 27 лістапада.

**Піліпе́ц** 'кнігаўка' (брасл., ЛА, 1). Гукапераймальнае (параўн. *пікаць₁*), аднак аформленае пад уплывам уласнага імя *Пілін*. Аналагічна рус. усх.-сіб. *фили́пка* 'кулік, Charadrius hiaticula'.

**Піліпоны** 'нашчадкі раскольнікаў на Мазыршчыне' (Шпіл.). Ад імені *Пілін* < *Філіп*.

**Пілесава́ць** (*пілісува́ць*) 'біць', 'ачышчаць лыка, рабіць яго белым' (паўн.-усх., КЭС), славен. *pelísniti* 'ўдарыць', 'даць аплявуху', *pelískniti*, *pelíščiti, pelískati* 'біць па мордзе'. Міклашыч (236) супастаўляе славен. *pelisnoti* з бел. *пялёскацца* 'ўдарацца, грукаць, біць' і з літ. *plaskúoti* 'ляскаць', *plekšnóti* 'тс', 'пляскаць', *plèkštelėti* 'пляснуць, ляснуць'. Гэтаксама Бязлай (3, 23). Гл. *пялясы*, *пялёсы*.

**Пілі́ць₁** 'пілаваць' (чырв., З нар. сл.). Адназоўнікавае ўтварэнне. Да *пілá₁* (гл.). Магчыма, пад уплывам рус. *пили́ть* 'тс'. Сюды ж *пільшчык* 'рабочы, заняты пілаваннем' (Сл. ПЗБ), *пільнік* 'тс' (Касп.).

**Пілі́ць₂**, *прыпіліваць* 'падахвочваць, прымушаць, настойліва і часта нагадваць, прасіць' (Нас.), польск. *pilić, przypilić* 'тс', чэш. *píliti, píleti* 'спяшацца', 'падганяць каго-н.', славен. *píliti* 'вучыцца', 'старацца', 'шчыраваць, рупіцца, дбаць', магчыма, харв. *péliti* 'рэкамендаваць'. Прасл. **piliti (sę)*. Далейшыя сувязі з і.-е. мовамі адсутнічаюць. Няясна (Фасмер, 3, 262). Сюды ж бел. *пільма пілíць* 'налягаючы, прымушаць', рус. уладз. *пиль* (ж. р.) 'пільніца, жніво, гарачая пара' і чэш. *píle* 'стараннасць, дбайнасць' (< **pil-ja*), польск. *pila* 'тс', якое Банькоўскі (2, 579) збліжае з *piła* (гл. *піла, пілíць*). Ад *пілíць* утвораны прыметнік *пільны* (гл.).

**Пілка** 'мяч' (Шпіл.; Нас.; Сцяшк. Сл.), 'футбол' (маст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *пила, пилка* 'мяч'. Запазычана са ст.-польск. *piła, piłka* 'тс', якое ўзыходзіць да лац. *pila* 'мяч', 'клубок' (Насовіч, 414; Булыка, Лекс. запазыч., 118; Банькоўскі, 2, 582). Сюды ж *пілэ́чка* 'кавалак апрацаванай гліны на адну пасудзіну' (беласт., ЖНС).

**Пілны** 'хуткі ў рабоце' (ушац., ЛА, 3). Варыянт з дэпалаталізаваным *л*, гл. *пільна, пільны*. Паводле Станкевіча (Запіскі, 2, 244): "спарадычна ёсьць ацьвярдзеньне *l* перад цьвёрдым зубным *n* (*н*): ... *пілны*".

**Піло́** 'пойла' (Сл. Брэс.), *піло* 'пойла для свіней' (драг., Нар. Лекс.). З *пійло* 'пойла', да *піць* (гл.). Параўн., аднак, серб.-харв. *пȉло* 'напой, пітво', што можа сведчыць пра непасрэднае аддзеяслоўнае ўтварэнне.

**Піль!** — загад сабаку кінуцца на дзічыну (ТСБМ). Праз рус. мову з франц. *pille!* 'бяры! наперад!'.

**Пільгава́ць** 'старанна і доўга мыць' (гродз., ЖНС). З ⁺*пельгаваць* < *пялёгаваць* < *пялёжыць* 'біць, праводзячы палосы' (гл.). Параўн. таксама *пілягну́ць* (гл.).

**Пільгокаць** 'няўмела пілаваць' (ваўк., Сцяшк. Сл.). Утворана ад *пі́ліць* 'пілаваць' пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-го-ка-*.

**Пільма** 'налягаючы, прымушаючы, настойваючы' (Нас.). З *пільна*, якое з *пілі́ць*$_2$ 'прымушаць, настойваць', 'часта прыгадваць, гаварыць, "дзяўбсці" (гл.), або са спалучэння **пільма пі́ліць*, што перадае інтэнаўнасць дзеяння таго ж дзеяслова.

**Пі́льна**, *пільня, пільно, пілна, пілне, пілно* 'вельмі, настойліва', 'неаслабна', 'уважліва', 'тэрмінова', 'не адрываючыся, не паднімаючыся з гнязда', 'старанна', 'абавязкова' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Мядзв., Юрч., Яруш., Мал., Варл., Касп., Бяльк, Сл. ПЗБ, ТС; бялын., Янк. Мат.; Карскі, Труды; Мат. Маг.; Бяльк.), *пільненечка* 'ўважліва' (Ян.); *пільнава́ць, пілнава́ць, пільнява́ць, пільнува́ць, пільнова́ті, пільнува́тэ, пілмава́ць* 'наглядаць, вартаваць, сцерагчы, сачыць, падпільноўваць, падсцерагаць', 'старацца', 'пасціць', 'няньчыць', 'марудзіць'; 'старанна працаваць', 'трымацца гаспадаркі' (ТСБМ, Шн. 1, Мядзв., Гарэц., Мал., Яруш., Нас.; барыс., Шн. 2; Бір. Дзярж.; Сцяшк. Сл., Шат., Касп., Варл., ТС, Сл. ПЗБ); *пільнава́цца* 'асцерагацца' (Варл.), 'прытрымлівацца чаго-н.' (Шат.), *пільнява́цца* 'тс' (шальч., Сл. ПЗБ); *пільнува́ння* 'падсцераганне', *пільнасць* 'асцярожнасць' (Варл.), 'уважлівасць' (шальч., Сл. ПЗБ), 'нагляд' (Скарбы); *пільноўка* 'вартаванне, нагляданне за чым-н.' (Нас.); *пільны* 'неадкладны, тэрміновы' (навагр., Нар. словатв.), 'акуратны', 'патрэбны, неабходны', 'старанны' (Нас., Шат.) — утворана ад дзеяслова **piliti* (Насовіч, 414) > *пілі́ць*$_2$ (гл.): прасл. **pil-ьnъ(jь)* > укр. *пі́льний*, рус. *пи́льный*, *пи́лен*, польск., н., в.-луж. *pilny*, чэш., славац. *pilný*, ц.-слав. *пильнъ*; **pil-ьnъ* > **pilьno; *pil-ьnъ* > **pil-ьn-ova-ti*: укр. *пильнува́ти*, рус. паўд. *пильнова́ть*, польск. *pilnować, pilować*, н.-луж. *pilnowaś se*, чэш. ляш. *pil'ovat'*, славац. *pilnovat';* не выключана магчымасць

запазычання з польск. *pilnować* (Цвяткоў, Запіскі, 60; Мядзведскі; Булыка, Лекс. запазыч., 185). Тэдэска (Language, 27, 18) мяркуе, што прасл. *pil-ьпъ* узнікла шляхам рэдукцыі з **pri-lьg-ьпъ*, параўн. рус. *прилéжный* 'які старанна прыкладаецца да чаго-н., аддана прысвячаецца чаму-, каму-н.'. Міклашыч (246) супастаўляе *pilьпъ* з літ. *pĩlnas* 'старанны, уважлівы', якое, аднак, з польск. *pilny* (Фрэнкель, 1, 591). Ондруш (SlW, 1975, 119) узводзіць прасл. **pilьпъ(jь)* ад незахаванага дзеяслова **piti* 'рэзаць' з наступным развіццём семантыкі 'баявы, змагар' > 'настойлівы, старанны'; Шустар-Шэўц (14, 1064) звязвае лексему з літ. *pìlti* 'ліць, сыпаць' > 'хутка цячы' > 'хуткі, імклівы'; Станкевіч (Зб. Бірнбаўму, 1985, 412) выводзіць прасл. **pilьпъ* ад **piliti*, а апошняе — ад **pil-*/ **pyl-* 'певень' (пры першаснай сувязі дзеяслова з семантыкай сексуальнага ўзбуджэння). Прымаючы пад увагу канкрэтныя значэнні ў некаторых слав. прыметнікаў: польск. *pili* 'свой, родны', *niepili* 'чужы, незнаёмы, няродны', чэш. *pile* 'клопат', якое Шаўр (Etym. Brunensia, 109 і наст.) уводзіў у і.-е. гняздо **pei̯t-* 'клапаціцца', в.-луж. *pilny* 'тоўсты, тлусты', Варбот (БСИ — 1998—1999. М., 2000, 24—26) уключае ў кола вытворных гняздо і.-е. **pe̯i(ə)-*/ **pī̆-* 'тлусцець', 'знаходзіцца ў вялікай колькасці' і прасл. **pilъ(jь)*, пазней — *pilь(jь)* са значэннем 'тлусты, тоўсты' = 'адкормлены', адсюль — 'свой, родны'. Ад **pilъ(jь)* паходзіць дзеяслоў **piliti* 'клапаціцца, старацца'.

**Пільнік**$_1$ 'пільшчык' (віл., бераст., калінк., ЛА, 3; віл., Сл. ПЗБ) — адпрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-нік* (< прасл. *-*ьп-ikъ*), як *br̥tьnikъ, orzbojьnikъ, dl̥žьnikъ* і інш.

***Пільнік** (*пылнэк*) 'напільнік' (Сл. Брэс.). З польск. *pilnik* 'тс'.

**Пільніца** 'гарачая пара ўлетку, калі шмат работы і мітрэнгі', 'спешка ў рабоце, пільная патрэба' (Сл. ПЗБ; полац., Нар. лекс.; смарг., Сцяшк. Сл.; в.-дзв., ушац., беш., докш., ЛА, 2). Ад прыметніка *пільны* (гл. *пільна*) і суф. *-іца* (< прасл. *-*ica*), магчыма, у выніку семантычнай кандэнсацыі словазлучэння, напрыклад, *пільная пара* 'жніво' (іўеў., тамсама).

**Пільня** 'тартак' (Варл.), 'лесапільня' (пух., Сл. ПЗБ), укр. харк. *пильня* 'тс', рус. *пильня* 'месца, дзе пілуюць лес пры дапамозе вады, парай, коньмі'. Да *піліць*$_1$ (гл.). Суф. *-ня* ўзыходзіць

да прасл. *-ьn'a,* параўн. *kolьn'a* 'дрывотня', *stajьn'a* 'стайня', які пашыраны пераважна на паўн.-слав. тэрыторыі.

**Пільсць**$_1$, *пілсць* 'поўсць, падшэрстак, валасяное покрыва жывёл' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, Шатал.), *пільсьць* 'шчацінне (у кабана)' (лаг., Шатал.), 'воўна горшай якасці' (Варл.; Бір. Дзярж.), 'поўсць, якая вылезла пры ліньцы' (Мядзв.), 'ачоскі ад воўны з пылам' (Шат.), 'вельмі тонкі лямец, які вырабляўся з рознай шэрсці' (Нас.). Запазычана з польск. *pilść* 'тканіна з шэрсці ці з воўны, атрыманая шляхам збівання (валяння) яе, лямец' (Цвяткоў, 59; Кюнэ, Poln., 87). Узыходзіць да прасл. **pьlstь* > бел. *поўсць* (гл.).

**Пільсць**$_2$ 'пілавінне' (капыл., Сл. ПЗБ; слаўг., капыл., ЛА, 1), *пільшч* 'тс' (круп., б.-каш., тамсама). Да *пілі́ць*$_1$ (гл.). Суф. *-сць* са зборна-рэчыўным значэннем.

**Пільча́к**$_1$ 'кароткая верхняя вопратка з грубага даматканага сукна' (ТСБМ; стаўб., Нар. сл.). З *пінджа́к* < *пінжа́к* (гл.) пры ад'ідэацыі *пальто́.*

**Пільча́к**$_2$ 'пільшчык' (рас., бялын., ЛА, 3). Да *пілі́ць*$_1$ (гл.). Суф. *-ак* называе асобу паводле яе занятку.

**Пі́льчык** (*пыльчык)* 'пільшчык' (пін., ЛА, 3). Да *пілі́ць*$_1$ (гл.).

**Пі́льчыць** 'разумець' (дзятл., Сл. ПЗБ). Няясна. Роднаснае літ. *pìlkti* 'спець, налівацца' (?).

**Пі́льшчык**$_1$ 'чалавек, што пілуе дрэва' (Бяльк.; паўсюдна, ЛА, 3), 'работнік, які пілуе дошкі' (Варл.). Да *пілі́ць*$_1$ (гл.).

**Пі́льшчык**$_2$ 'рагавы стрыжань пяра птушкі' (паст., Сл. ПЗБ). Да *пі́шчык* (гл.).

**Пілю́каць** 'пілікаць', 'рэзаць тупым; пілаваць павольна', 'часта напамінаць' (Нас.). Гукапераймальнае. Параўн. таксама *пілі́каць* (гл.).

**Пілю́ля** 'лякарства, спрасаванае ў форме галачкі' (ТСБМ). З рус. *пилю́ля*, якое з франц. *pilule* (Фасмер, 3, 262) < лац. *pilula* 'шарык', 'мячык' < *pila* 'мячык', 'клубок'.

**Пілюха́**, *пілю́ха* 'тонкая мякіна, якая атрымоўваецца ад прасейвання збожжа праз рэшата або шляхам пала́ння' (Нік. Очерки; Касп.). З *+пелюха*, якое ўзыходзіць да літ. *pelaĩ* 'мякіна'.

**Пілю́шка** 'расліна пылюшнік, Thalictrum L.' (навагр., Сцяшк. Сл.). Паводле ілюстрацыі: ... *цвіце белым цветам*... можна меркаваць, што мова ідзе пра нейкую іншую расліну, бо пылюшнікі на Беларусі (2 віды) цвітуць жоўтымі (Th. flavum) і ружова-

бэзавымі (Th. lucidum) кветкамі. *Пілюшка* — відазмененая (кантамінаваная?) назва *пылюшнік* (гл.).

**Піля́вы** 'рухавы чалавек' (КТС — Ц. Гартны), *пілява́ць* 'гізаваць' (лаг., Сл. ПЗБ). Да *пілíць₂* (гл.).

**Пілягну́ць** 'пекануць; пляснуць (па мордзе)' (Мат. Маг.). Да *пялёгаваць* < *пялёжыць* (гл.).

**Піля́ка** 'пільны да працы' (Варл.). Да *пілíць₂*, *пільна* (гл.).

**Піляніца** 'белы хлеб' (Бяльк.). Да *паляніца* (гл.).

**Піля́р** (*пыля́р*) 'пільшчык' (бяроз., ЛА, 3). Да *пілíць₁*. Суф. -*'ар*, як у *махляр*, *званар*.

**Пілясіна** (*пелясíна*) 'паласа (сала)' (паўн.-усх., КЭС). Да *пялёсы* (гл.).

**Піля́ць₁** 'моцна кусаць, джгаць' (ТС). Няясна. Хутчэй за ўсё, гукапераймальнае, параўн. *плікаць* 'пстрыкаць' (гл.).

**Піляць₂** 'пілаваць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; добр., Мат. Гом.), 'няўмела іграць' (Сл. ПЗБ). Да *пíла́* (гл.), параўн. *пілюкаць* (гл.).

**Пімпа**, *пíмпя* 'кнігаўка' (брасл., Сл. ПЗБ; астрав., Сцяшк. Сл., ЛА, 1). Балтызм. Параўн. літ. *pе́mpė* 'тс' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 519).

**Пімплі** 'адросткі пер'яў у птушак пасля ліںькі' (швянч., ігн., Сл. ПЗБ). З *піплі* (гл.). Другасная назальнасць -*м*-.

**Пімы** 'бітыя валёнкі' (ЛА, 4). З рус. *пимы́* 'боты з высокімі халявамі са скуры аленя', якое — з моў Крайняй Поўначы, параўн. комі *pim, pimi̯* 'тс', ненецк. *pīwa* 'бот', *pimie, pime* 'штаны', нганасанск. *faéти* 'зімовы бот' (Фасмер, 3, 262—263).

**Піна́ць** 'ставіць лавушку на птушак або звера' (ТС). Відаць, да *пяць, пну* > *на-пінаць* (гл.) < прасл. **pęti*, **pьnq* 'нацягваць'.

**Пінавей** 'мята даўгалістая, Mentha longifolia (L.) Huds.' (гродз., Кіс., Сцяшк. Сл.); *пінаве́я* 'піжма-кануфер, Tanacetum balsamita L.' (брэсц., Кіс.), 'півонія' (воран., Сл. ПЗБ), *піналейка* 'зёлка?' (пруж., Шн.). З польск. *pinawia* 'піжма, Tanacetum L.', 'півоня' (Варш. сл., 4, 194).

**Пінда₁** 'ганарліўка, якая любіць пышна апранацца' (Нас.), 'жаночы палавы орган' (Федар. 6), 'плакса' (дзятл., Сцяшк. Сл.; карэліц., З нар. сл.), польск. *pinda* 'какетка', славен. *pînka, fînka* 'vulva', палаб. *pinkă* 'тс', каш. *p'inek* 'membrum virile'. Можна рэканструяваць прасл. **pіньka* (ж. р.)/**pinъkъ* (м. р.) <**pi-nь*,

якое да гукапераймальнай асновы **pi-*, да яе ўзыходзяць і іншыя падобныя славянскія назвы: славен. *pi-pi-ca*, паўд.-слав., чэш., славац. *pi-ča* і аг.-слав. *pi-zda* (Бязлай, 3, 37).

**Пі́нда₂** 'гальштук' (бераст., Сл. рэг. лекс.). Няясна. Магчыма, звязана з літ. *pynẽ* 'плеценая стужка'. Параўн. *прыпінда* 'тс' (гл.).

**Піндýль**, *піндýля* 'прымак' (Сцяшк. Сл.; лід., дзятл., смарг., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 3, 520), узыходзіць да літ. *pindùkas* 'д'ябал', што малаверагодна па фармальных і семантычных прыкметах.

**Пінды́рыць**, *напінды́рыцца* 'пышна апранацца; ганарліва выстаўляць сябе на паказ' (Нас.). Да *пінда₁* (гл.).

**Пінжáк**, *пінджáк* 'частка мужчынскага касцюма — куртка з рукавамі' (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк., ТС; паўн.-бел., брэсц., баран., ЛА, 4; мсцісл. *пінжачонык, пінжачонка* 'тс' (Юрч. СНЛ). З рус. *пиджáк* 'тс' з устаўным *-н-*, ці з польск. *pindżak* 'тс', якія з англ. *pea-jacket* 'куртка, кароткае паліто' < с.-нідэр. *pîe* 'байкавая курта' (Фасмер, 3, 259).

**Пінкі** 'кпіны' (гродз., Жыв. НС). З *кпінкі* < *кпіны* < *кпіць* (гл.).

**Пінтус** 'нервовы чалавек, псіх' (бых., ЖНС). Няясна. Магчыма, з нейкай незасведчанай мянушкі. Тур. *pinti* 'жмінда', 'нікудышні, абадранец, варты жалю' — трохі аддаленае семантычна.

**Пінушкí** 'пачаткі росту пер'я ў птушак' (Бяльк.), капыл. *пінухí*, *пінюхí*, *пнюхí*, *пінушкí*, *пнушкí* 'адросткі пер'яў пасля ліньки' (маг., ЛА, 1). Утвораны пры дапамозе суф. *-ух-і*, *-ушк-і* ад *пень* (гл.) < прасл. **рьnь* 'тс'. Гук *-і-* на месцы **-ь-* — вынік дысімілятыўнага якання, альбо паяўленне новага *-ь-* > *-і-* ў групах зычных (Карскі, 1, 201—202).

**Пінцю́х** 'бесхарактарны, непаваротлівы чалавек, цяльпук' (Скарбы). Да *пенцюхáйла* (гл.).

**Пінчýк** 'высокі чыгун, пабелены знутры, з адной ручкай, стаўбун' (ельск., З нар. сл.). Відаць, да ўласнай назвы *Пінск*, у рэгіёне якога рабілі такія чыгуны.

**Пінчукí** 'адросткі пер'яў пасля ліньки птушак' (нясвіж., Сл. ПЗБ; карэліц., Сцяшк. Сл.). Гл. *пянчук*.

**Пі́нчыць** 'прымушаць; прасіць' (шальч., Сл. ПЗБ). Да *піня́ць* (гл.), збліжанае да *клен-ч-ыць* 'настойліва прасіць, канькаваць' < прасл. **klęčati* 'стаяць на каленях' > 'клянчыць' (гл.).

**Пінькаць**, *пінькнуць* — перадае гук сініцы (КТС), рус. *пинька́ть* ‘выдаваць слабыя гукі’, польск. *pińkać* ‘шчабятаць, спяваць’, чэш. *pinkati*, мар. *pnikat* ‘пішчаць’. Гукапераймальнае ўтварэнне з суф. *-ка-* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 80; Махэк$_2$, 450).

**Пінькучы́** ‘лапці, падплеценыя вяроўкамі’ (Бяльк.). Да *пянька́* ‘канаплянае валакно’ (гл.). Параўн. краснап. *пянькучышча* ‘месца, дзе мочаць каноплю’ (Бяльк.) (гл.).

**Пінэска** ‘канцылярская кнопка’ (Сцяшк. Сл.), ‘прышчэпка для бялізны’ (Сл. рэг. лекс.). З польск. *pinezka* ‘кнопка’, якое з франц. *punaise* ‘клоп’.

**Піня́га** (з шавецкага рамяства) (Сержп. Грам.), польск. *pinka, penka* ‘шавецкі цвік, шавецкая шпілька, якой прыбіваюць падэшву да бота’. З ням. *Pinne* ‘тс’ (Варш. сл., 4, 195) < (н.-ням. *pfinne*, в.-ням. *pfin*, англ.-сакс. *pin*) < с.-ірл. *benn* ‘рог’ (Васэрцыер, 173). Гл. таксама *пяняга* ‘кавалак скуры’.

**Піня́ць**, фалькл. *піня́ці* ‘наракаць, дакараць’ (віц., Рам. 3), ‘злаваць, папікаць’, *піня́цца* ‘скардзіцца, злавацца’ (Бяльк.). КЭСРЯ, 332 выводзяць ад *пе́ня*, якое са ст.-слав. *пена* ‘штраф’ < лац. *poena* < ст.-грэч. ποινή ‘пакаранне’. Гл. таксама *пяня́цца* ‘тс’.

**Піп**, *піпіп* — пра падачу гуку машынай (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае *пі-* з рэдуплікацыяй (поўнай альбо ўсечанай).

**Піпа**$_1$ ў выразе *дзелаць піпу* — гульня, пры якой па далоні дзіцяці водзяць указальным пальцам і прыгаворваюць: *піпа, піпа кашку варыла...* (Нік. Очерки). Прыпамінае балг. *пи́пам* ‘дакранацца’, серб.-харв. *пи̏пати* ‘тс’, славен. *pípati* ‘тс’, чэш. *pipati* ‘тс’, што ў выніку рэдуплікацыі асновы **pi-*, якая з’яўляецца гукаперайманнем голасу птушак. Параўн. *піпачка* ‘птушка, якая жыве ў зарасніках’ (Мат. Гом.), балг. *пипа* ‘курачка’, *пипе* ‘куранятка’, ‘птушачка’ (у дзіцячай мове)’, чэш. *pipati* ‘пішчаць, папіскваць’, славац. *pípat’*, н.-луж. *pipaś*, літ. *pýpčioti, pỹpti* ‘тс’, лац. *pipilāre* ‘чырыкаць, пішчаць’, параўн. БЕР, 5, 245, 246.

**Піпа**$_2$ ‘вада’ (ТС) — з дзіцячае мовы, драг. *пэпа* ‘тс’ (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Ад імітатыўнай асновы *пі-* (< прасл. **pi-*), магчыма, пад уплывам дзеяслова *піць* (гл.); параўн. таксама *пу́па* ‘вада’ (гл.).

**Піпа**$_3$, *піпка, піпачка* ‘люлька’ (ТСБМ, Шпіл., Гарэц., Мік.; Нік. Очерки; Мядзв., Нас., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ; чач., Мат. Гом.). З польск. *pipa* ‘тс’, якое (магчыма, праз чэшскую мову) з

с.-в.-ням. *pfife*, ст.-в.-ням. *pfifa* 'тс', а апошняе — з с.-лац. *pīpa* 'труба' (Васэрцыер, 171; Фасмер, 3, 264). Не связана з *пінкыла* 'курэц, што не выпускае з зубоў люлькі' (Бяльк.) гукаперайма́льнага паходжання, параўн. *пыпкаць, пыпскаць* (гл.).

**Піпа**$_4$ (дзіцячае) 'мужчынскі палавы орган' (Шат.), сюды ж, магчыма, *піпішча* 'вялізны нос' (Нас.), рус. казанск. *пипка* 'penis', н.- і в.-луж. *pipa*, славен. (дзіц.) *pípica* 'тс', *pípek, pîpiček*, з экспрэсіўнай назалізацыяй *pîmpek, pîmpel*. Прасл. **pipa* 'цэўка, нешта прадаўгаватае' (Бязлай, 3, 38), роднасныя літ. *pim̃pis, pim̃pelis, pimpulis* 'penis', *pam̃pti*, лат. *pàmpt* 'напухнуць' (Фрэнкель, 593; Шустар-Шэўц, 1066).

**Піпа**$_5$, ст.-бел. *пипа* 'мера вадкасці, бочка' (1615 г.) запазычана са ст.-польск. *pipa* 'тс', якое з італ. *pipa* ці франц. *pipe* 'вялікая вінная бочка' (Булыка, Лекс. запазыч., 155).

**Піпаць** 'носік, дзюба ў пасудзіне' (зэльв., Жыв. сл.; Сл. рэг. лекс.), 'выступ, каб узяцца рукою' (Сл. рэг. лекс.), *піць* (зневаж.) 'нос' (Сл. Брэс.), укр. *пíптик, пíпоть* 'ціпун на языку курэй', *пíпка* 'сасок на грудзях; соска', 'носік у чайніку', *пипáк* 'мазоль', славац. *pipeť* 'ціпун', славен. *pípa* 'тс', серб.-харв. *пи̏па* 'кран; кукурузны пачатак', *пи̏пак* 'шчупальца'. Гл. *пылець*.

**Піпíканне** (*піпíкыньня)* 'падача сігналаў клаксонам' (Юрч. СНЛ). Ад *піпíкаць*, утворанага ад гукаперайманне *пі-пі* (гл.).

**Піпікáшка** (з дзіцячае мовы) 'зацірка' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). У выніку злучэння ў адно слоў *піпа*$_1$ (гл.) і *кáшка* < *кáша* (гл.). Сувязь з літ. *pỹpas* 'малако' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ) сумнеўная.

**Піпіца** 'нос', *піпкаю* 'задзірысты (пра нос)' (Юрч. СНЛ). Да *піпаць* (гл.).

**Піплі** 'адросткі пер'яў пасля ліньки птушак' (ігн., Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *pyplỹs* 'тс' (Грынавяцкене, тамсама).

**Піплíс**: *як піплíс* 'вельмі бедны': *бачыў яго голага, як пíпліса* (Bałto-słow. zw. jęz., 81, 1990, 68). Балтыйскі кампанент у бел. фразеалогіі, параўн. літ. *kaip pyplỹs* 'тс' (Букявічуце, тамсама; Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 520).

**Піпліцца** 'марудна працаваць' (ваўк., брасл., шальч., Сл. ПЗБ), *піпніцца* 'тс' (шальч., тамсама). Параўноўваюць з літ. *pìplioti* 'тс' (Грынавяцкене, тамсама), гл., аднак, *пыпліць* 'тс' і адпаведнікі ў іншых славянскіх мовах, што ставіць пад сумненне балтыйскае паходжанне слова.

**Піплух**, *піпух* ‘бутон кветкі’ (Растарг.). Відаць, роднаснае лексеме *піпу́шка* < *пупы́шка* пры ад’ідэацыі *пу́хнуць* (гл.).

**Піпу́шка** ‘пупышка на дрэве’ (Сцяшк. Сл.). У выніку распадабнення і перастаноўкі з *пупы́шка* (гл.).

**Пір**: *пір гарою* ‘вялікая гулянка’, ‘вялікі беспарадак’ (Юрч., Фраз. 2). Магчыма, праз рус. *пир* < прасл. **pirъ*: стараж.-рус. *пиръ*, ст.-слав. пиръ, балг. *пир*, серб.-харв. *пир*, славен. *pir*. Першапачаткова таксама і ў значэнні ‘вяселле’, выціснутае царкоўнаславянскім бракъ, гл. Машынскі, Etym. Brun.,1, 87 < **piti*, гл. *піць* (Фасмер, 3, 264).

**Піражок**, *піражкі́* ‘спарыння’ (паст., бярэз., круп., Сл. ПЗБ; Мат. Маг.; карм., рагач., чач., Мат. Гом.; Бяльк.), *пірагі*, *піражок* ‘тс’ (усх.-бел., ЛА, 2). У выніку семантычнага пераносу паводле падабенства, як і іншыя пераносы лексемы *піражкі*: брагін. ‘каташкі’, ‘суквецці на бярозе’ (Шатал.), пры ад’ідэацыі ‘ражкі, рожкі’, параўн. *ражок*, *рага́к* ‘спарыння’ (ЛА, 2, Сл. ПЗБ), якая адыграла вялікае значэнне пры ўтварэнні назвы спарынні.

**Піраі́** ‘кукла лёну’ (ЛА, 4). Да *піро간* (гл.).

**Піра́т** ‘марскі разбойнік’, ст.-бел. *пиратъ* (з XVII ст.). Запазычана са ст.-польск. *pirat* ‘тс’, якое з ням. (с.-в.-ням. *perate*) ці з франц. *pirate*, — апошнія з лац. *pirāta* ‘тс’, якое з грэч. περατής < πειράξω (τηυ θαλατταυ) ‘выпрабоўваю (мора)’. Крукоўскі (Уплыў, 78) мяркуе, што бел. слова прыйшло праз рус. мову, дзе стала ўжывацца пасля Феафана Пракаповіча. Гл. таксама Голуб—Ліер, 373; Фасмер, 3, 265.

**Пірга́** ‘пчаліны мёд’ (слаўг., Нар. сл.), *пырга́, пэрга́* ‘сабраны пчоламі пылок’ (Сл. Брэс.). Гл. *пярга́*.

**Пірга́ць** ‘штурхаць’, *піргну́ць, пірганут́ь* ‘штурхануць, піхнуць’ (Янк. 1; Шат.; мядз., Нар. словатв.; смарг., віл., лаг., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), *пірга́цца* ‘штурхацца’ (Сл. ПЗБ), *піргну́ць* ‘раптам піхнуць рукамі’, *піргель!* у фразе: *а ён піргель хлопца ў гразь, а сам пабег* ‘раптоўна піхнуць’ (Варл.), *адпіргну́ць* ‘адштурхнуць’ (Шат.). Значэнне ‘хуткі рух’ прысутнічае ў генетычна роднасных гэтай лексеме словах і ў іншых мовах: польск. *pierzgnąć* ‘драпнуць, хутка ўцячы’, ‘скочыць (каб уцячы), будучы напалоханым’, якое, у асноўным, ужываецца ў глухім варыянце *pierzchnąć* ‘тс’ (як літ. *gudrùs* ‘хітры, лоўкі’ — прасл. *xytrъ* ‘разумны’ > ‘хітры’), польск. *pirgiel* ‘верабей’, укр. лемк. *піриця*

'матылёк', *пиргáч* 'кажан (у якога ў палёце назіраюцца хуткія, раптоўныя рухі'), балг. *пъргав* 'жвавы, хуткі', серб.-харв. *пр̏гав* 'гарачы, гняўлівы, запальчывы'; 'нястрыманы, грубы', якія можна ўзвесці да прасл. **pьrgati*, што мае варыянт **pъrgati*: рус. *паргать* 'кідаць', каш.-славін. *purgac* 'хутка ехаць', *napurgac* 'спяшацца, бегчы', *purgnoc sa* 'пайсці некуды і зараз жа вярнуцца'. Можна параўнаць з літ. *spìrgti* 'смажыць, падсмажваць', *spirgëti* 'пячыся, смажыцца', 'пражыцца' (Лаўчутэ, Балтизмы, 73: пад *успіргнуць* 'напірацъ, нажарваць'; Саўка, Запісы, 23, 55), значэнне якога адрозніваецца ад бел. *піргаць*, аднак можна меркаваць, што для паняцця 'смажыцца' ў літоўскай мове гэты дзеяслоў не асноўны, — першасным быў *kèpti*, а *spirgëti* выражаў рух, хуткасць дзеяння, яго раптоўнасць, яго вялікую колькасць, меру, параўн.: *sáulė spìrgina* 'сонца смаліць', *šaltis spìrgina* 'мароз трашчыць' і літ. *spirgėlė̃* 'запальчывы чалавек', 'гарачка'. Гарачава (Этимология—1985, 69—70) адносіць сюды таксама і прасл. **pьrga* 'кветкавы пылок'.

**Піркойта** ст.-бел. 'хаціна' (Яблонскіс, 168) у тэксце: "...*будованя всякого, то есть... пиркоиты, драницами крытых, вырекъ...*" З літ. *pirkoita* < *pirkià* 'хата'.

**Пірма**: *даць пірма* 'даць выспятка' (лаг., віл., Сл. ПЗБ). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *spyrìmas* 'брыканне', *spìrti* 'брыкнуць', 'пхнуць, піхнуць, штурхнуць нагой'. Букявічуце (Bałto-słow. zw. jęz., 81, 68—69), выходзячы з тлумачэння фразы *даць пірма* як 'аддаць перавагу', звязвае слова *пірма* з літ. *pirmà* 'раней, спачатку', 'спераду', 'па-першае'.

**Пірог**₁, *піруох, пыріг* 'булка з начынкай' (ТСБМ, Нас., Сцяшк. Сл., Гарэц., Бес., Чуд., Яруш., Федар. 6, ТС; мазыр., Шн. 3; полац., Нар. сл.), 'паска' (Маш.), 'тоўсты блін, праснак' (полац., Нар. сл.; пруж., Сл. Брэс.; віц., ЛА, 4), 'пшанічны белы хлеб, бохан хлеба, булка, куліч' (Шат.; Варл.; полац., Нар. сл.; гродз., глыб., докш., вільн., шальч., драг., Сл. ПЗБ; віц., ЛА, 4), *пірагом* 'згарнуць зерне ў кучу' (рагач., Сл. ПЗБ). Сюды ж, відаць, *пірагí* 'вялікія запоіны — другі этап вяселля, у час якога дамаўляюцца пра пасаг, тэрмін вяселля, колькасць сватоў' (віл., З нар. сл.), *піро́гі* 'частаванне праз тыдзень пасля вяселля' (беласт., Сл. ПЗБ, Скарбы). Укр. *пиріг*, рус. *пирог*, польск. *pirog*, *pierog*, чэш., славац. *piroh*. Найбольш імаверным можна да-

пусціць паходжанне слова з прасл. **pirъ* 'бяседа, банкет' і суф. *-ogъ* (як у *тварог*, **batogъ*, **brьlogъ*) (Вондрак, Vergl. Gr., 1, 629; гл. яшчэ Фасмер, 3, 265). Сюды ж *піроэкнік* 'маршалак у вясельнай дружыне' (Варл.).

**Пірог₂** 'скручаная ці сплеценая пасма апрацаванага ільноваакна' (вільн., гродз., Сл. ПЗБ). Названа паводле падабенства формы. Да *пірог₁* (гл.).

**Піроўнік** 'сабутэльнік' (Нас. Доп.). Ад рус. *пировать* 'гуляць, уладкоўваць банкет' < рус. *пир* > *пір* (гл.).

**Пірса**, *пырса́* 'апілкі' (Мат. Гом.; брагін., Шатал.). З *тырса́* 'тс', параўн. таксама *ты́рса, ты́рша* 'тс' (Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *tirščiai* 'гушча (у страве, каве)'. Незвычайнае фанетычнае афармленне крыніцы выклікала ў бел. гаворках фанетычныя варыянты: *ты́рса́/ кірса́/ пірса́* (ЛА, 1).

**Пірус** 'бузіна, Sambucus nigra L.' (докш., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, у выніку пераносу назвы з лац. *pirus* 'грушавае дрэва, груша'.

**Пірхе́кала** *(пірхе́къла)* 'той, хто часта кашляе, праступджваецца' (міёр., З нар. сл.). Да *пе́рхаць₂* (гл.).

**Пірціка**, ст.-бел. *пиртика* 'кладоўка' з літ. *pirtikia* 'маленькая лазня' (Яблонскіс, 168; Булыка, Лекс. запазыч., 209).

**Піршча́тка** 'пальчатка' (чач., Мат. Гом.). З ⁺*персчатка* (параўн. рус. *персча́тки, перча́тки* 'пяціпальцавыя рукаўчыкі, адзенне на рукі', *перещя́тка* 'пальчатка'). Да *перст*, *пе́рсцень₁* (гл.).

**Піршчэ́ць** 'пячы' (астрав., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *perštė́ti*, *peršė́ti* 'свярбець; шчымець, пячы'.

**Піры́ндзіць** 'гаварыць абы-што' (карэліц., Сцяшк. Сл.; Скарбы), 'нагаворваць на каго-небудзь', 'вельмі тонка прасці' (навагр., ЖНС). Відаць, звязана з прасл. **pьrěti* 'сварыцца', узмоцненага экспрэсіўным інфіксам *-ind-*, параўн. *трындзіць* 'гаварыць пустое' (гл.).

**Піры́ць** 'перыць, біць цэпам' (Скарбы), 'праць бялізну пранікам' (шчуч., дзятл., ЛА, 3), гродз. *піраць* (*хусця*) 'тс' (тамсама). З іншай ступенню чаргавання галоснага асновы прасл. **perti,* гл. *пе́рыць*, параўн. лат. *pirêtiês* 'тс', літ. *pe͂rti* 'біць, сцябаць венікам у лазні'.

**Пісава́ць** 'рабіць рогамі пісагі (аб карове)' (Янк. 3). Звязана з наступным словам (гл.).

**Пісаг** і *піса́га*, *пісяг* і *пісяга*, *пісёгі*, *пісогі*, *пісягé*, *піцóгі*, *пісога*, *піса́к* ‘шрам’, ‘значная драпіна’ (ТСБМ, Янк. 1; рагач., Арх. ГУ; Сл. ПЗБ; маладз., Янк. Мат.), *піса́к* ‘шрам ад рога ці пугі на скуры жывёлы’ (гродз., З нар. сл.), *піса́га* ‘шрам’ (капыл., Нар. словатв.); *піса́г*, *піса́га*, *пісяг*, *пісяга*, *пісу́га*, *піса́к* ‘шрам на скуры жывёлы’ (ЛА, 1); *пісагí* ‘пацёкі на вокнах’ (люб., ЛА, 4), *піса́гі* ‘рагі’, ‘сляды на дрэнна вымытай кашулі’ (пух., шальч., Сл. ПЗБ). Утвораны пры дапамозе суфіксаў *-agъ*, *-'agъ*, *-aga*, *-'aga*, *-ogъ* і інш. ад дзеяслова **pisati* > *піса́ць* (гл.). Сюды ж *пісегáвы* ‘паскаваты па масці’ (мазыр., З нар. сл.), *пісягáты* — назва масці (з вузкімі палоскамі іншага колеру) (Янк. 3), *пісяжыць* ‘пугай наносіць шрамы’ (Шат., Янк. 3).

**Піса́ка** ‘пісака’ (Бяльк.). Да *піса́ць* (гл.); суф. *-ак-а* са значэннем ‘назва асобы паводле схільнасці да дзеяння з экспрэсіяй зніжанасці’ (Сцяцко, Афікс. наз., 25).

**Піса́ла** ‘пяро’ (Нас.), рус. *писало* ‘начынне для пісання’, стараж.-рус. *писало* ‘грыфель’ (XI ст.), польск. старое *pisadło*, чэш. *písadlo* ‘скрынка з чарнільніцай і пясочніцай’, славен. *pisálo* ‘грыфель’, серб.-харв. *пѝсаљка* ‘аловак’, макед. *писалка* ‘тс’, ‘ручка’, балг. *писа́лка* ‘ручка з пяром’. Да прасл. **pьsati* ‘маляваць’ > *пісаць* (гл.).

**Пі́санка**, *піса́нка* ‘расфарбаванае велікоднае яйка’ (Мік., Др.-Падб., Нас., Мат. Гом., Бяльк.), *пі́санка* ‘кіёк з узорамі, арнаментам’ (ТС). Укр., рус. *пі́санка* ‘велікоднае яйка’, польск. *pisanka*, славен. *písanica*, *písanka*, серб.-харв. *писàница* ‘тс’. Да прасл. **pьsati* ‘маляваць’ > *пісаць* (гл.).

**Пі́сар₁** ‘ніжэйшая службовая асоба, якая займалася перапіскай’, канцылярскі служачы’, ‘сакратар’ (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Гарэц., Сл. ПЗБ); ст.-бел. *писаръ* ‘пісар’; стараж.-рус. *писарь* ‘мастак, жывапісец’ (1045 г.), укр. *писарь* ‘пісар’, польск. *pisarz*, н.-луж. *pisaŕ* ‘пісьменнік’, в.-луж. *pisar* ‘перапісчык’, чэш. *písař* ‘пісец’, ‘пісар-перапісчык’, славац. *pisár* ‘тс’, славен. *pisár* ‘той, хто піша’, ‘пісец’, ‘пісар’, ‘пісьмавод’, серб.-харв. *пи̏сар* ‘пісар’, ‘перапісчык’, макед. *писар* ‘пісар’, балг. *пѝсар* ‘тс’, ‘пісец’. Новае слова, утворанае ў Сярэднявеччы ад *пісаць* са значэннем ‘пісаць’. Суфікс *-ар* узыходзіць да познепрасл. **-ar'ь*, які ўтвараў назвы выканаўцаў і быў запазычаны з германскіх ці (у меншай ступені) раманскіх моў, з носьбітамі якіх суседнічалі сла-

вяне. Апошняй крыніцай з'яўляецца лац. *-ārius* (Слаўскі, SP, 2, 21—23).

**Пісар$_2$** 'госць на вяселлі, які дзеліць каравай' (Сцяшк. Сл.). Відаць, з польск. *pisarz weselny* 'вясельнік, які камічна важна танцуе з маладой, частуе пры расплятанні касы'. Генетычна ўзыходзіць да *пісар$_1$* (гл.).

**Пісар$_3$** 'шрам на скуры жывёлы' (чач., ЛА, 1). Таго ж паходжання, што і *пісаг* (гл.), суф. *-ар*, як у *шнар* 'шрам'.

**Пісар$_4$**, *пісарка* 'рыба быстранка, Alburnus bipunctatus L.' (Інстр. 2). Відаць, запазычана з рус. *писарь, писарка* 'тс' або ўкр. *писар*, *писарка* 'тс', што звязаны з **pьsati* 'маляваць' (з-за стракатай афарбоўкі), гл. *пісаць* (Каламіец, Рыбы, 29).

**Пісарчу́к** 'памочнік пісара' паводле Кюнэ (Poln., 87) паходзіць з польск. *pisarczyk* 'тс'.

**Піса́ць** 'перадаваць (на паперы) графічныя знакі', 'складаць пісьмовы тэкст', 'складаць літаратурны або музычны твор' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Стан.), даўг. 'маляваць' (Сл. ПЗБ), *піса́ты* 'распісваць посуд' (Вярэн.), *пі́снуць* 'чыркнуць, зрабіць рыску' (ТС); *піса́цца* 'рэгістравацца шлюб' (Касп.; воран., Сл. ПЗБ; ашм., Сцяшк. Сл.), мсцісл. 'перапісвацца' (Юрч. СНЛ). Укр. *писа́ти*, рус. *писа́ть*; польск. *pisać*, н.-луж. *pisaś*, в.-луж. *pisać*, чэш. *psáti*, славац. *písat'*, славен. *písati*, серб.-харв. *пи́сати*, макед. *пише*, балг. *пиша*, ст.-слав. пьсати. Прасл. **pьsati* і **pisati*, роднаснае ст.-прус. *peisāi* 'яны пішуць', літ. *piẽšti* 'маляваць фарбамі', 'рысаваць вуглём', ст.-інд. *piṃśati* 'аздабляе, фармуе', ст.-перс. *ni-pišta* 'запісаны', тахар. B *pinkam* 'піша', ст.-грэч. ποικίλος 'стракаты', лац. *pingō, -ere* < першаснае **pinkō* (Эрну—Мее, 2, 508) 'маляваць', 'вязаць іголкай', ст.-в.-ням. *fêh* 'стракаты' < і.-е. **pei̯k'-*. Словы з асновай **pьs-* утварылася паводле **bьrati* 'браць'. Першаснае значэнне ў **pьsati* было 'маляваць' (Міклашыч, 270; Траўтман, 210; Фасмер, 3, 266; Махэк$_2$, 495; Бязлай, 3, 40).

**Піск** 'тонкі, высокі гук' (ТСБМ. Яруш.), *піскатня́* 'працяглы многагалосы піск', *піскнуць, пікнуць* — аднакратнае ад *пішча́ць* (ТСБМ), *пі́скыць* 'пішчаць раз-пораз' (Юрч. СНЛ), *піскаце́ць* 'пішчаць' (гродз., З нар. сл.), 'вішчаць (пра свіней)' (гродз., ЛА, 1), 'шчабятаць (пра ластаўку)' (Скарбы), *піска́ты* 'піскрявы' (бераст., Сл. ПЗБ). Укр. *пі́скати, писк*, рус. *писк* 'тс', ц.-слав. *пискати*; польск. *piskać* 'пішчаць', 'шыпець', в.-луж. *piskać* 'пішчаць,

вішчаць', 'скрыпець', 'свісцець', 'іграць на музычным інструменце (дудцы)', чэш. *pískati* 'свісцець', 'дудзець (на дудзе)', славац. *pískať* 'тс', *pisk, piskot* 'піск', славен. *písk* 'свіст', *pískati* 'свісцець', серб.-харв. *пи̏ска* 'піск, віскат', *пи̏скав* 'пісклявы, рэзкі', 'свісцячы гук', макед. *пискот* 'піск, віскат', *писка* 'пішчаць', 'свісцець', 'шыпець', балг. *пискам* 'пішчаць', 'плакаць', 'цырыкаць, цвыркаць', ст.-слав. пискати 'іграць на жалейцы'. Прасл. **piskъ, *piskati*, утвораныя ад гукапераймальнай асновы **pi-*, параўн. літ. *pyškė́ti* 'ляскаць (пугай), 'трашчаць (аб лёдзе), лат. *pĩkstêt* 'пішчаць', лац. *pipāre, pipiāre, pīpilāre* 'пішчаць', ст.-грэч. πίπος 'птушанё', πιππίξω 'пішчу', ст.-інд. *picchōrā, picchōlā* 'дудка, флейта', ісл. *píska* 'шаптаць, шалясцець' (Праабражэнскі, 2, 62; Фасмер, 3, 271; Бязлай, 3, 41; Брукнер, 415). Махэк$_2$ (451) дапускае далучэнне *-sk*-інтэнсіва да асновы **pi-* (>**pi-sk-ati*), першасным значэннем якой было 'свісцець', як і ў ням. *pfeifen*. Суф. *-sk-*, як у *трэск, плеск, пырск, ляск(ат)* і інш. Сюды ж *піску́лька* 'вадаплаўная птушка атрада гусепадобных' (ТСБМ), *пікот* 'пісканне (пра ўюноў у лавушцы)' (ТС).

**Піскані** 'мужчынскія асобіны канапель' (віц., ДАБМ), *пыскіні* 'тс' (хоцім., тамсама). Да *плоскуні* 'маніцы' (гл.), варыянт *паскані* 'тс' (гл.) з няяснай зменай у вакалізме.

**Піскаўка** (*піскыўка)* 'пішчык, дудачка з саломы' (Бяльк.). Ад словазлучэння з прыметнікам *⁺піскавы* (параўн. серб. *пи̏скав* 'пісклявы') у выніку намінацыі.

**Піска́ш**, *піскіж* 'пячкур, Gobio' (Нік. Очерки; Дэмб. 2; Жук.; Нас.), *піску́ж* 'тс' (Гарэц.), *пíськіж, піскуж, піскуйіж* 'тс', 'нярослае, пісклявае дзіця' (слаўг., Яшк., З жыцця); *піскíш, піску́ж, піскíж* 'уюн, Misgurnus' (талач., круп., ЛА, 1; Мат. Гом.), *піскіж* 'галец, Nemachilus barbatus' (Нік. Очерки; мсцісл., чавус., хоцім., ЛА, 1). Параўн. укр. *пискір*, рус. *пискарь, пискал*, арханг. *пе́скиш, пески́ш(а)* 'пячкур', польск. *piskorz*, н.-луж. *piskoŕ*, в.-луж. *piskor*, чэш. *piskoř* 'уюн', славац. *piskor* 'буразубка, Sorex araneus', славен. *piskór, piškór, piškúr* 'мінога', *piškúr* 'пячкур', серб.-харв. *пи̏скор* 'мурэна, Muraena helena', балг. *писка́л*. Прасл. **piskorʼь*, утвораны ад **piskati* 'пішчаць' — рыба, калі схапіць яе рукою, выдае спецыфічны гук' < *piskъ* > *піск* (гл.). У пацвярджэнне гэтага прыводзяць аналагічна ўтвораныя: польск. *sykawiec* 'уюн' < *sykać* 'шыпець', літ. *pyplỹs* 'уюн' < *pỹpti* 'пішчаць', лат. *pīkste* 'ўюн' < *pīkstēt*

‘пішчаць’, а таксама бел. віл. *пішчаль* ‘уюн’ < *пішчаць*. Тым не менш, цяжкім для тлумачэння застаюцца фіналі ўсходнебеларускіх лексем *-ш, -ж*, і асабліва рус. арханг. *пескúш*.

**Пісклё**, *пісклёнак, пісклёнык, піскля, пісклЯ́, пісклЮ́к, пісклянё, піскляня́* ‘кураня’, ‘птушаня’ (ТСБМ, Мік., Мядзв., Касп., Нас., Мат. Маг., Мат. Гом.; талач., Шатал.; паўн.-усх., ДАБМ, к. 296; докш., глыб., Сл. ПЗБ; круп., Нар. сл., астрав., Сцяшк. Сл.; Бяльк.), *піскля* ‘куранё, дзіця’, (Юрч. СНЛ); ‘дзіця’ (Нік. Очерки), *піскле́тка* ‘птушаня’ (Бяльк.), *піскля* ‘плаксівая жанчына’ (сміл., Жыв. сл.; Шат.), *піскля́* ‘піскун, піскляк’ (капыл., Нар. словатв.; зэльв., Жыв. сл.), *піскля́, піскля* ‘чалавек з піскліным голасам’ (ТСБМ; драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *піскліві, пісклявы* ‘чалавек, у якога голас напамінае нейкі піск’ (Шат., Нас., Варл.). Укр. *писклЯ́* ‘птушанё’, ‘малое дзіця’, рус. *писклёнок, писклята* ‘птушаняты, якіх яшчэ корміць маці’, арл. ‘куранё’, уладз. *пискля́*, пск. *пискля́к* ‘тс’, ‘пісклявае дзіця’, ‘заморак’; польск. *pisklę, pisklątko* ‘птушанё’, ‘куранё’, *piskla, pisklak* ‘пісклявае дзіця’, ‘неаперанае птушанё’, чэш. *piskle* ‘птушанё’, ‘блазнюк’, славац. *piskľa* ‘пісклявае птушанё’. Услед за Махэкам$_2$ (451) можна меркаваць, што першаснай формай гэтых лексем было **pi-sk-jь* ‘пісклявы’, якое на поўначы слав. тэрыторыі змянілася ў *pi-sk-lь*, апошняе, абазначаючы маладых істот, набыло канчатак **-ę* (< **-ent-*), а на поўдні адбылася палаталізацыя *-sk-* > славен. *-šč-*, серб.-харв. *-шħ-*, балг.*-щ* (славен. *piščȅ*, *piščánec* ‘куранё’, серб. *пи̏шħе*, харв. кайк. *pišče* ‘куранё’, чак. ‘птушка’, балг. *пищéне* ‘піск’).

**Піскора** ‘від дзікай качкі’ (ТС). Да *піск* (гл.). Суф. *-ор-а* першапачаткова меў экспрэсіўную функцыю, параўн. прасл. **sykora* ‘сініца, Parus’, **dětvora* ‘дзятва’ (Слаўскі, SP, 2, 25).

**Піску́ж** ‘пячкур’ (Гарэц.). Гл. *піска́ш*.

**Піскульга́** ‘чалавек, які мае пісклявы голас’ (Бяльк.). Утворана ад *піск* (гл.) і суфіксаў з негатыўным адценнем *-ул*’ і *-га*.

**Піску́н$_1$** ‘рабіннік, Turdus pilaris’. Да *пішчаць*, *піск* (гл.). Параўн. польск. *kwiczoł, kwiczał* ‘тс’ < *kwiczeć* ‘віскатаць, вішчэць’.

**Піску́н$_2$** ‘рачная мінога’ (Др.-Падб.; смал., Дабр.), ‘уюн’ (гарад., Нар. лекс.; полац., З нар. сл.; беш., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ; гом., Мат. Гом.); параўн. рус. дыял. *писку́н* ‘уюн, Misgurnus fossilis L.’. Да *пішчаць*, *піск* (гл.), гл. Каламіец (Рыбы, 37), сюды ж

*піску́н* 'той, хто часта пішчыць' (ТСБМ), 'хто прыстае з пісклівай просьбай' (Нас.).

**Піску́ння** 'піскуха' (Юрч. Вытв.). Да *піск* (гл.). Суф. *-ункя* пад уплывам рус. мовы (*-унья*).

**Піскунец** 'плюшчай галінасты, Sparganium ramosum Huds.' (паўн.-усх., Кіс.). Да *піск* (гл.); матывацыя наймення застаецца няяснай, аднак іншая назва — *плюшчай*, звязаная з *плюха́* 'аер, касач' (ТС), сведчыць пра падабенства ў выкарыстанні ніжняй часткі лістоў у якасці пішчалак.

**Піску́р** 'уюн, Misgurnus fossilis' (гродз., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.; шчуч., гродз., ЛА, 1), *пыску́р* 'пячкур' (Сл. Брэс.), укр. *писку́р*, чэш. дыял. *piskura*, славен. *piškúr* 'пячкур', серб. *пи̏шкур* 'тс'. Да *пішчаць*, *піск* (гл.). Суф. *-ур*, як у *пячку́р* (гл.).

**Піску́ха** '(скаромны) абрад, вячэра перад Вадохрышчам' (лельч., гом., Мат. Гом.). Да *піскаць, піск* (гл.). Матывацыя наймення няясная. Магчыма, калька літ. *raudìnė* 'малітва за памерлых з плачам і галашэннем', *raudà, raudãvimas* 'плач, плач з галашэннем', якое Лаўчутэ (Балто-слав. этнояз. отношения, 30) лічыць крыніцай бел. *радуніца* (*радаўніца*) 'дзень памінання памерлых, дзяды'; калькаваная назва ўтворана, каб пазбегнуць асацыяцый з *ра́ды, ра́давацца* 'весяліцца'.

**Піскуце́ць** (*пыскутыты)* 'пішчаць' (кам., ЖНС). З **pisk-otъ*, гл. *піск*.

**Після́к** 'сухая трава' (іўеў., Сцяшк. Сл.), *піссяк* 'сівец, Nardus stricta L.' (Расл. св.). Гл. *пясю́к* 'тс'.

**Пісталет**, *пістоле́т, пістоль, пістоля* 'агнястрэльная зброя з кароткім ствалом' (ТСБМ, Яруш., Бес., Касп.), 'дурны, сляпы' (Нас.), ст.-бел. *пистолетъ, пиштолетъ* 'тс' (з 1616 г.) запазычана са ст.-польск. *pistolet*, якое з франц. *pistolet* 'тс'. Аднак *пістоль, пістоля* ўзыходзіць да ст.-чэш. *pišt'ala* (са слэнгу гусітаў у XVI ст.) < *piščala*, *piščela, piščěl* 'музычны інструмент' і 'агнястрэльная зброя'; гэтае слова ў XV ст. запазычылі немцы (*pitschal, pitschole, petstole*) і слова (ужо **pitstol*) перайшло ў франц. мову як *pistolet* — памяншальная форма ў сувязі з тым, што ў франц. мове *pistole* абазначае 'залатая манета'. У XVI ст. *pišt'ala* пранікла ў Польшчу (*piszczel*), у канцы XVII ст. — і ў Расію, а таксама ў іншыя краіны. Раманісты (Штрэкель, AfslPh, 26, 408; Меер—Любке, 542) выводзілі франц. *pistolet* з італ.

*pistola*, а апошняе — з назвы горада *Pistoia* ў Таскане. Гэтаксама і Варш. сл., 4, 210. Васэрцыер (173) у якасці крыніцы запазычання прыводзіць італ. *pistolese* 'паляўнічы нож з Пістоі'.

**Пістаноўка** 'пістоннае ружжо' (ТСБМ, Мядзв., Касп.). Ад *пістонавы* < *пістон* (гл.). Аналагічна польск. *pistonówka* 'тс'. Сюды ж асіп. *пістановажка* 'стрэльба, якую зараджалі пістонамі' (Сл. ПЗБ), хаця няяснай застаецца другая частка слова.

**Пістон**₁, *пістуон* 'невялікі металічны каўпачок з выбуховым рэчывам у ружэйных патронах альбо снарадах' (ТСБМ, Бес.). Відаць, праз рус. мову з франц. *piston*, якое з італ. *pistone* 'поршань', 'таўкач, мяла' < лац. *pistāre* 'таўчы' (Фасмер, 3, 268). Сюды ж *пістон* 'шомпальная стрэльба' (Касп.).

**Пістон**₂ 'белая конусавідная вастраверхая шапка з лямца' (Бяльк.), паўн.-усх. *пістоны* 'мэндлікі' (КЭС), — у выніку семантычнага пераносу 'каўпачок у выглядзе шапачкі, шапкі', параўн. польск. *piston* альбо *kapiszon* 'капюшон' > 'шапка (конусавідная) > 'шапка мэндліка'.

**Пістульга́н** 'шулёнак' (Яруш., Нас.), *пісцюльга́* 'крыкуха' (Юрч. СНЛ). Да *пу́стальга* (гл.); фанетычныя змены, магчыма, у выніку дыстантнай асіміляцыі да *-ль-*.

**Пісу́г,** *пісю́г*, *пісо́гі* (слуц., асіп., ЛА, 1). Гл. *піса́г, пісяг.*

**Пісу́лька**₁ 'запіска, маленькі ліст' (ТСБМ, Яруш., Нас., Шат., Касп., Бяльк). З рус. *пису́ля, пису́лька* 'тс'. Да *пісаць* (гл.).

**Пісу́лька**₂ 'аўтаручка' (астрав., Сцяшк. Сл.). Параўн. серб.-харв. *пѝсаљка* 'аловак', балг. *писа́лка* 'ручка'. Аказіянальнае сучаснае ўтварэнне. Суф. *-ульк-а,* магчыма, з польск. *-ul-a, ul-k-a.*

**Пісога** 'вузкая прадаўгаватая чорная пляма' (Варл.), *пісо́гі* 'шрамы на скуры жывёлы' (маладз., ЛА, 1). Гл. *піса́г, пісяг.*

**Пісума́ны** 'шрамы на скуры жывёліны' (талач., ЛА, 1). Ад *пісугі* і суф. *-ман* < прасл. **-тапъ* (Слаўскі, SP, 1, 131). Гл. *пісаг, пісяг.*

**Пісу́н** 'пісака' (Бяльк.). Да *піса́ць* (гл.). Аб суф. *-ун* са значэннем асоб паводле ўласцівага ім дзеяння гл., Сцяцко (Афікс. наз., 68).

**Пісцяком** (прысл.) 'песцяком (спосаб вязання вузла)' (Бяльк.). Няясна.

**Пісь** — пра *піск* (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Пісьма**: *пішчыць, а лезе* (Варл.). З ⁺*пішчма пішча́ць* < *пішча́ць* (гл.), як *крычма крычэць*, драг. *пра́сьма просэ́тэ* 'вельмі прасіць'.

**Піськіж** 'рыба піскуж' (Бяльк.). Варыянт да *піскаж* (гл.).

**Пісьме́ннасць** 'уменне чытаць і пісаць', 'адсутнасць памылак', *пісьменнасць* 'сістэма графічных знакаў для пісання', 'сукупнасць пісьмовых помнікаў якой-небудзь эпохі пэўнага народа', рус. *пи́сьменность* 'пісьменнасць', польск. *piśmienność* 'граматнасць', 'літаратура', серб.-харв. *пи̏сменост* 'тс', макед. *писменост* 'пісьменнасць', 'граматнасць', балг. *писменост* 'пісьменнасць'. Бел. *пісьме́ннасць* < *пісьме́нны*; а *пісьменнасць*, відаць, прыйшло з рус. мовы пісьмовым шляхам (пра рус. *письменность* гл. Вінаградаў, ДС ИЯ, 1959, 31—49).

**Пісьменнік** 'той, хто піша літаратурныя творы' (ТСБМ, Гарэц.), 'граматны' (Касп.) < *пісьменны* 'які ўмее чытаць і пісаць, граматны' (ТСБМ, Мядзв., Гарэц., Варл.) і суф. *-нік* са значэннем носьбітаў адпаведнай прыметы. Параўн. ст.-рус. *письменникъ* 'граматны чалавек' (1686).

**Пісьме́нства** 'пісьменнасць, сістэма графічных знакаў для пісання', 'сукупнасць пісьмовых помнікаў пэўнага перыяду', укр. *письменство* 'грамата, граматнасць', 'пісьменнасць', 'вучонасць, веды', славен. *pisménstvo* 'літаратура' < *пісьмёны* < *пісьмо* (гл.).

**Пісьмо́** 'ўменне пісаць і само пісанне', 'сістэма графічных знакаў', 'ліст' (ТСБМ, Яруш., Нас., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'вучонасць, пісьменнасць' (Варл.), укр. *письмо́,* рус. *письмо*; польск. *pismo* 'ліст, карэспандэнцыя', 'пісьмовы дакумент', 'газета', н.-луж. *pismo* 'ліст', 'дакумент', в.-луж. *pismo* 'шрыфт', 'почырк', 'рукапіс', 'афіцыйны дакумент', чэш. *písmo* 'шрыфт, літары', славац. *písmo* 'тс', 'сістэма знакаў', 'почырк', 'папера, дакумент', славен. *písmo* 'ліст', 'узор', *písme* 'літара', серб.-харв. *писмо* 'ліст', 'дакумент, пасведчанне', харв. *pȉsmo* 'почырк', макед. *пи́смо* 'ліст', 'дакумент', балг. *писмо* 'ліст'. Прасл. **pisьmo*, роднаснае літ. *piešìmas* 'маляванне, мазня' < *piẽšti* 'рысаваць, пісаць вугалем' (Зубаты, SF, 2, 86; Буга, РФВ, 73, 335; Траўтман, 211; Фасмер, 3, 268; Бязлай, 3, 41—42). Да *піса́ць* (гл.).

**Пісьмя́, -мені** 'граматнасць' (Нас.), *пісьмёны* 'старажытныя пісьмовыя знакі, літары' (ТСБМ), стараж.-рус. *письмя* 'пісьмовы знак, літара' (1057 г.), 'пісьмовы тэкст, тое, што напісана' (XII ст.), *святая, священная писмена* 'Святое письмо' (1073 г.); ст.-польск. *piśmię* = польск. *pismo*, чэш., славац. *písmeno* 'літара'. ст.-слав.

писмѧ ‘літара’, ‘пісьмёны’. Прасл. дыял. **pisьmę* паходзіць з **pisьmo* (Бязлай, 3, 41). Да *пісьмо* (гл.).

**Пісю́ліць** (іран.) ‘плакаць’ (свісл., Сцяшк. Сл.). Ад назоўніка ⁺*піс-уль*, у якім *-уль* — суфікс балтыйскага паходжання, параўн., літ. *-ulys* утварае nomina actionis, што абазначаюць такую дзейнасць арганізма, якая адбываецца незалежна ад яго волі, а **pis-* — і.-е. аснова, якая перадае гукаперайманне, калі што-небудзь льецца, цячэ (параўн. *пісяць, пісаць* ‘мачыцца’). Параўн. таксама *пізі, пісі* ‘слёзы’ (гл.).

**Пісяг**, *пісяга, пасяг, пісюга* ‘шрам ад удару пугай’, ‘крывавы след ад удару’ (Шат.; Мат. Гом.; ТС; рас., Шатал.), *пісягаты* ‘стракаты’ (маст., Сцяшк. Сл.), бяроз. *пісягасты* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *пісяжыць* ‘біць бізуном ці чым-н. іншым, пакідаючы шрамы’; бярэз. *піцях*, кам. *пуцугі*; петрык., лельч., рэч. *пісягі, піцягі* ‘рагі ад поту, слёз на твары’ (ЛА, 3). Параўн. *пісаг* ‘тс’ (гл.); усе формы ўзыходзяць да **pisati*, гл. *пісаць*, першапачатковае значэнне — ‘праводзіць лінію, рысу’, параўн. польск. дыял. *piska* ‘рыска’, *twarz łzami pisze* (пра сляды слёз) (Варш. сл.), балг. радоп. *пѝсинка* ‘рыска, палоска’ і пад.

**Піта́** ‘пітво’ (ТС). Да *піць* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-а* паводле ўзору *яда́*.

**Пітава́цца** ‘харчавацца’ (Ян.), стараж.-рус., ст.-рус. *пито-вати* ‘карміць’ (XIII—XIV стст. < XI ст.), *питоватися* ‘ўжываць ежу’ (XI ст.). ‘мець асалоду’ < *питати* < прасл. **pitati* ‘карміць’, параўн. рус. *питать* ‘тс’, укр. *пити́мий* ‘родны, блізкі’, *пи́томець* ‘выхаванец’, славен. *pítati* ‘карміць’, серб.-харв. *пи̏тати*, макед. *питом* ‘прыручаны, свойскі’, ‘лагодны, ціхі, рахманы’, *питомец* ‘выхаванец’, ст.-чэш. *pitomý* ‘ціхі, лагодны’, чэш. ‘дурны’ (у выніку мены значэння паводле назірання за жывёламі, якіх гадуюць у няволі: яны страчваюць свае прыродныя рысы і становяцца нібы “атупелымі” — Махэк$_2$, 452), ст.-слав. питѣти, пазней питати ‘насычаць, карміць’, якое параўноўваюць з літ. *pi̇̃etūs* ‘абед’, *pietáuti* ‘абедаць, перакусваць’, ст.-інд. *pitú-(m)* ‘ежа’, авест. *pitu-* ‘тс’, *piϑwā* ‘тс’, ‘частка ежы’, і.-е. **poi̯-*, **pi-* (гл. *пé-ставаць; піp, піць*). (Покарны, 833; Фасмер, 3, 268; Бязлай, 3, 44).

**Піталі́шкі** ‘бялян-капуснік’ (паст., Сл. ПЗБ; паст., астрав., ЛА, 1). Балтызм. Параўн. літ. *peteliškė* ‘матылёк’ (Грынавяцкене,

Сл. ПЗБ, 3, 524), а таксама Зданцэвіч (LP, 1960, 345) пра польск. *petuliška, patyliška* 'матылёк'.

**Пітама́лны** 'свой, уласны' (Варл.). Да *пітаманы* (гл.).

**Пітаманы** 'дамарослы, сваёй гадоўлі' (Яруш.), *пітыманный* 'уласны, прыдбаны сваімі рукамі, працай' (Мік.; Нас.; Нік. Очерки), *пітаманна* 'самому, менавіта сабе' (паўн.-усх., КЭС), смал. *пітамна* 'менавіта'. З *пітаваны* з менай *в* > *м*. Да *пітавацца* (гл.).

***Піта́цельны**, у спалучэннях: *піта́цельнэ, піта́цельно горла, піта́цельное, піта́цельная горла* 'стрававод' (ваўк., нясвіж., рагач., лун., ЛА, 1). З рус. *питательный* '(горла) якое насычае' < *питатель* 'той, хто дае ежу, насычае'. Да *пітава́цца* (гл.).

**Піта́чка** 'чарка' (Бяльк.). Відаць, утварэнне ад піць, параўн. *пітóк* 'п'яніца', *пітны́* 'прыгодны для піцця' (гл.).

**Пітвó** '(хмельны) напітак; тое, што п'юць' (Касп.; Бяльк.; шуміл., Сл. ПЗБ). Утворана ад дзеепрыметніка *піт-ы* < *піць* (гл.), як *шыт-во* ад *шыт-ы*; у *піцьво* 'напітак', *мыцьво* 'бялізна' адваротнае чаргаванне *ц'/т* (Сцяцко, Афікс. наз., 34) другаснае. Суфікс *-в-о*, як у ст.-рус. *питво* 'піва, брага і іншыя хмельныя напіткі', ці прасл. **pi-v-o* 'тое, што п'юць'.

**Пітка** 'пітво' (свісл., Сл. рэг. лекс.). Да *піць* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-к-а* з ускладненнем асновы на *-т-* (як і ў утварэннях ад *біць* — *біток, бітка,* але *мыйка, дуйка*). Відаць, з польск. *pitka*, параўн. фразеалагічную адзінку *do pitki i do bitki* 'хлапец хоць куды', аналагічна польск. *pijatyka* і *bijatyka*, а таксама ўкр. *пи́тки* 'выпіўка, гулянка'.

**Пітлюраваць** 'вырываць пні' ў сказе: *ідзі пітлюруй поцерап!* (Касп.) — у выніку кантамінацыі лексем *поцераб* і *тралява́ць* (гл.).

**Пітні́к**, *пітні́ца* 'той, хто п'е' (Юрч. СНЛ), рэгіянальнае ўтварэнне ад *піць* (гл.), як *рэзнік, жатнік* 'жнец', *лётнік* 'лётчык'.

**Пітны́** 'прыгодны для піцця' (ТСБМ), укр. *питни́й*, польск. *pitny*, чэш., славац. *pitný,* славен. *píten*, прасл. **pitьnъjь*, утворанае ад **piti* 'піць' пры дапамозе суф. *-ьnъ-* (< і.-е. *-ĭnŏ*), першапачаткова з герундыўным значэннем 'тое, што належыць, трэба піць', параўн. аналагічнае літ. *im̃tinas* 'тое, што трэба ўзяць'; магчыма, сюды ж ад'ектыўны ст.-грэч. суфікс -σιμος <*-timos* і балт. *-tinos* (Трубачоў, Праспект, 72—73).

**Піто́к** 'пітушчы чалавек, што любіць і можа добра выпіць' (ТСБМ, Бяльк.). Да *піць* (гл.).

**Пітомы**$_1$ 'тоўсты, празмерны, насычаны' (Булг.). Дзеепрыметнік залежнага стану цяп. часу ад *піта́ць* (гл.), ст.-бел. *питомъ* < **pitati* 'карміць, гадаваць, выхоўваць'. Да *пітава́цца* (гл.).

**Пітомы**$_2$, у словазлучэнні *пітóма горла* 'стрававод' (Сл. ПЗБ) — 'горла, праз якое падаецца страва, корм'. Гл. папярэдняе слова.

**Пі́тра** 'малькі' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Піту́ля**, *піту́лька* 'лямпа-каганец' (мазыр., Мат. Гом.; ТС). Магчыма, з польск. *pitula*, 'pudendum muliebre' ці з *пятля́* (гл.).

**Піту́н**$_1$ 'піток; п'яніца' (зэльв., Жыв. сл.; Сл. рэг. лекс.), 'той, хто п'е алкагольнае пітво' (Варл.). Да *піць* (гл.). Суф. *-ун* з экспрэсіўным значэннем 'схільнасць да адпаведнага дзеяння' (Сцяцко, Афікс. наз., 68).

**Піту́н**$_2$ 'тытунь' (смарг., Сл. ПЗБ). У выніку распадабення *т—т* > *п—т*. Да *тыту́нь* (гл.).

**Пітуне́ц** 'конаўка піць ваду' (гродз., Сцяшк. Сл.). З *піту́н* і суф. *-ец*, як у *карэц* 'жалезная кружка, коўш, выдзяўбаны з дрэва, з ручкай' (Нас.).

**Піту́ха**, *піту́шка* 'маленькі гаршчочак для варэння малака' (Сцяшк. Сл.; пруж., Сл. Брэс., гродз., Нар. сл.; Скарбы), 'посуд для піцця' (Турская ў Федар. 7), укр. *питу́чка*. Фармальна — да *піць* (гл.), тады 'посуд для піцця' — першаснае значэнне, памянш. *піту́шачка* 'маленькі гаршчочак ёмістасцю да аднаго літра' (Сл. ПЗБ).

**Пітэ́лнік** 'аладка з грэцкай мукі' (Вешт.). З **патэ́льнік* (гл.).

**Піўзынэ** 'тоўстыя галіны ці маладыя ствалы дрэў, звязаныя разам і пакладзеныя на верх стога' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.); *піўзэ, піўзынцэ, пізынне* 'дручкі, прывязаныя да саламянай страхі, каб вецер не разносіў салому' (Шушк.; пін., кобр., Сл. Брэс.). Гл. *поўзіна*.

**Піўні́ца** 'склеп' (гродз., Сл. ПЗБ), брэсц. *піўныця* 'тс' (Сл. Брэс.), *піўніца* 'вінны склеп' (Шпіл.), 'піўны склеп', 'піваварня' (Нас.), *піўніца, піўня* 'піўная' (Юрч.), ст.-бел. *пивница* 'вінны склеп' (1516 г.). Запазычанне, са ст.-польск. *piwnica* (Булыка, Лекс. запазыч., 83), польск. 'шынок, піваварня, вінны склеп', 'склеп пад будынкам для захоўвання прадуктаў для іх ахалодж-

ванне’. Сюды ж лун. *півніца*, в.-дзв. *піўніца* ‘бочачка з двума донцамі на квас’ (Шатал.).

**Піўнічы,** у прымаўцы: *быў піўнічым, а цяпер — нічым* ‘гаспадар віннага склепа’ (Янк. БП). Параўн.: пасада ў ВКЛ — *піўнічы*, паводле старажытнай мадэлі *лоўчы* (ад *ловы* ‘паляванне’). З польск. *piwniczy* ‘тс’, або самастойнае ўтварэнне ад *піўніца* (гл.).

**Піўшвы** ‘апоўзіны на стозе сена’ (пін., Нар. сл.). Гл. *пошва, пошвіна* ‘тс’ з рэгіянальнай заменай *о* > *і* і *ў* пад уплывам *поўзіна* (*піўзіна*) (гл.).

**Піх** ‘штуршок’, ‘штурханне’ (Нас.; мсцісл., Нар. лекс.) — аддзеяслоўнае ўтварэнне. Да *піха́ць* (гл.). Сюды ж *піхам* ‘гвалтам, сілай, бітком’ (Нас.).

**Піха́ты** ‘п’яны’ (бераст., Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Піхаўё** ‘дзяржанне (у вілах)’ (ветк., Мат. Гом.), ‘чаранок у лапаце’ (хойн., Шатал.). Да *пехаўё, піха́ць* (гл.).

**Піха́ць**, *піхану́ць, піха́цца* ‘пхаць, штурхаць’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Мік., Шат., Касп.; докш., баран., беласт., Сл. ПЗБ; аг.-бел., ЛА, 2), ‘запіхваць’, ‘малаціць пшаніцу’ (Нас.), *піха́ць* ‘даваць’ (Юрч. Вытв.), *піхену́ць* ‘піхнуць’ (ТС), *піха́ць* ‘есці прагна, груба і многа’ (Нар. лекс.), *піханіна* ‘штурханіна’ (міёр., Нар. словатв.), *піхну́ць* ‘раптам папхнуць’. Укр. *пиха́ти, пхати*, рус. *пиха́ть, пхать*, ст.-рус. *пихати, пьхати*, польск. *pichać, pchąć*, чэш. *pcháti, pchnouti*, славац. *pchat’, pichat’* ‘тс’, славен. *peháti* ‘тс’, *pháti* ‘таўчы, абдзіраць зерне’, харв. чак. *ophati* ‘таўчы ячмень’, балг. *пъхам* ‘соваю, тыцкаю’, ст.-слав. пьхати ‘таўчы’. Праз чаргаванне ў аснове звязана з чэш. *pěchovati* ‘трамбаваць’, а таксама з *пест, пшано, пшаніца*. Прасл. **pixati*, **pьxati*. Да і.-е. **pis-*, **pei̯s-* ‘таўчы, таптаць’: літ. *pìsti* ‘futuere’, *paisýti* ‘абдзіраць ячмень, малоцячы яго цапамі’, *piestà* ‘таўкач’, лат. *pàisît* ‘церці лён’, ст.-грэч. πτίσσω ‘б’ючы, таўкучы, мелючы, ачышчаць, абдзіраць зерне ад абалонкі, шалупіння’, πτίσις ‘шалупінне’, πτισάνη ‘ячныя крупы’, πτίσμα ‘шатраванае зерне’, ст.-інд. *pináṣṭi* ‘таўчы, драбіць’, *piṣṭa* ‘змолаты’, ‘мука’, перс. *pist* ‘тс’, лац. *pīnsō, -ere* ‘стаптаць, стаўчы’, с.-н.-ням. *fesa* ‘вотруб’е’, *vîsel* ‘ступа’ (Міклашыч, 270; Праабражэнскі, 2, 50; Траўтман, 220; Фасмер, 3, 269—270; Мюленбах—Эндзелін, 3, 34; Вальдэ—Гофман, 2, 307; Аткупшчыкоў, Из истории, 230;

Бязлай, 3, 33; Борысь, Czak. stud., 100—102). Гл. таксама *пхаць*. Сюды ж *піхма піхаць* ‘узмоцнена піхаць’ (Нас.).

**Піх**! *піхісь! піхéль! піхéнь! піхýнь!* ‘пра хуткі штуршок, штурханне’ (Нас.; мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперáймальныя — да *піхáць* (гл.).

**Піхáч** (экспр.) ‘непераборлівы ў ядзе’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Да *піхáць* ‘прагна і многа есці’. Суф. *-ач* характарызуе асобу па яе схільнасці да адпаведнага дзеяння, з экспрэсіяй асуджэння (Сцяцко, Афікс. наз., 31).

**Піхéнь** ‘чалавек, якога трэба падштурхоўваць да справы, працы’ (Нас.). Да *піхáць* ‘штурхаць’ (гл.). Параўн. таксама *пех* (гл.).

**Піхта** ‘піхта, Abies Dietr.’ (ТСБМ), *піхт* (лаг., Расл. св.). З рус. *пихта* ‘тс’, якое з ням. *Fichte* ‘хваіна’ (Праабражэнскі, 2, 65; Фасмер, 3, 270; Мяркулава ЭИРЯ, 1, 1960, 46—51). Аднак больш пераканаўчым будзе тлумачэнне паходжання слова як запазычання з зах.-фінскіх моў, параўн. фін., карэл. *pihka* ‘смала’, вепск. *pihk* ‘густы лес’, вод. *pihku* ‘сасна’, а таксама ст.-рус. *пихта* ‘піхта’ (1557 г.) (КЭСРЯ, 340).

**Піхтэ́ліць** ‘аддаваць усё’ (паст., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *піхаць* (гл.), спалучэнне *-тэ-* < *-те-* пад націскам, параўн. *тахтоліць* ‘тс’ або пад уплывам *піхцéль* (гл.), параўн. ілюстрацыю да слова: *усё піхтэляць дзецям: ежнае і адзежнае, і грошы* = (пераносна: ‘насіць піхцелямі’); у Насовіча *пехцéрать* ‘набіваць, напіхваць, карміць многа’ (Нас.).

**Піхýтка** ‘перапёлка’ (смарг., Сцяшк. Сл.). Самастойнае ўтварэнне, або пад уплывам польск. дыял. *pichytka* ‘кнігаўка, Vanellus’; параўн. яшчэ беласт. *knichutka*, *knichuta* ‘тс’, што ўтварыліся з гукаперайманняː *pichyt-pichyt, chyt-chyt* (Струтынскі, Nazwy, 101).

**Піхцéль**, *піхцéр* ‘сетка, плецены мяшок з вяровак для сена, саломы’, ‘бяроставы кошык для харчоў у дарогу’ (Нік. Очерки; віц., Маш.; віл., Сл. ПЗБ). Гл. *пяхцéль, пяхцéр* ‘тс’, вакалізм пад уплывам *піхаць, напіхваць*.

**Піцавáць**$_1$ ‘многа працаваць, да стомы’ (докш., Янк. Мат; шчуч., Сцяшк. Сл.; Нар. лекс.), ст.-бел. *пицовати* ‘нарыхтоўваць харчы і фураж для войска’ (1511 г.) са ст.-польск. *picować* ‘тс’, ‘пасці’, відаць, пры ад’ідэацыі *працаваць*. Сюды ж *піцýга* ‘працавіты чалавек’ (Касп.; ушац., Филол. сб., 1966).

**Піцава́ць₂** ‘пакаваць, накладаць’ (навагр., Сцяшк. Сл.), ‘многа накладаць, набіваць бітком’ (карэліц., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, у сувязі з *піцава́ць₁*; параўн. яшчэ польск. *picować* ‘напаўняць харчамі, прадуктамі’.

**Піцава́ць₃** ‘рэзаць тупым нажом або пілаваць тупой пілой’ (маладз., Янк. Мат.). Гукапераймальнае (?).

**Піцéнне,** *піцéннё, піцéнье, піцяньнё* ‘піццё, пітво’ (Нас., Гарэц., Шат., Касп., ТС). Архаізм, гл. ст.-слав. питѣние ‘страва, пітво’, параўн. таксама ў замовах: *Светы Спас, отжені воробейка од нас, леціце на лозу, там вам піценье і едзенье*.

**Піценькі**, *піцінькі, піцькі, піцічкі, піцечкі* (Нас., Шн. 2, Гарэц.; Юрч. СНЛ), а таксама *піткі, пітачкі* (Шат.). Дзіцячае слова, утворанае на аснове загаднай формы дзеяслова *піць* (гл.) пры дапамозе ласкальных суфіксаў (Карскі, 2—3, 63—64).

**Піцéц** ‘піток’ (ТС), укр. *питéць* ‘тс’. Вытворнае ад *піць* (гл.), параўн. *піток*. Згодна з ESJSt (11, 647), дэрыват ад **pitati* ‘карміць, жывіць, насычаць’, дакладней, ад больш архаічнай формы, засведчанай у ст.-слав. питѣти ‘тс’, што ўтворана ад назоўніка **pitъ*, параўн. ст.-інд. авест. *pitu-* ‘страва, пітво’, асец. *fud* ‘мяса’ і пад.; дыферэнцыяцыя значэння другасная, тлумачыцца супрацьпастаўленнем аналагічнаму тэрміну *ядзенне* (гл.), што, магчыма, утвараў рыфмаваны фразеалагізм, параўн. рус. *питера* и *едера*.

**Піцны**, у выразе *піцны воз* ‘фуражныя драбіны’ (Гарб.). Са ст.-польск. *picny* < *pica* ‘корм, фураж’ < прасл. **pitja* > бел. *пішч* (гл.).

**Піцу́га** ‘працаўнік’ (Касп.). Да *піцава́ць₁* (гл.).

**Піць₁**, *пэ́тэ, пыты* ‘глытаць вадкасць’, ‘выпіваць спіртныя напіткі’ (ТСБМ, Яруш., Шат., Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж *пітво́, піццё, піцьe* ‘напітак’ (Касп., ТС), *пі́цё* ‘выпіўка’, *піццё* ‘пойла’ (Сл. ПЗБ), *піток, піцéц* ‘аматар выпіць’, *піткí* ‘які прыемна піць’ (ТСБМ, Янк. 3, Мік., Гарэц.); *піць* ‘склёўваць зерне ў каласах (пра птушак)’ (ТС), ‘кляваць проса з мяцёлкі’ (Юрч. СНЛ). Укр. *пи́ти*, рус. *пить*, польск. *pić*, н.-луж. *piś*, в.-луж. *pić*, чэш. *píti*, славац. *pit'*, славен. *píti*, серб.-харв. *пи̏ти* ‘піць’, макед. *пие* ‘тс’, ‘курыць тытунь’, балг. *пия* ‘тс’. Прасл. *piti* < і.-е. **pïH-tē̯i* > *pī* ці **pé̯iH-tēi* > *pō̯i* > **pojiti* > *паіць*: ст.-грэч. πῖνω ‘п’ю’, лесбійск. πώνω, заг. лад. πῖϑι, лац. *bibo* < **pibō* ‘п’ю’, алб. *pi* ‘тс’, ірл. *ibim*,

ст.-інд. *píbati* '(ён) п'е', *pītás* 'выпіты', *pítiṣ* 'піццё', ст.-прус. *poĩeiti* 'піце!', літ. *puota* 'выпіўка', лат. *pōtus* 'выпіты; п'яны' (Міклашыч, 246; Траўтман, 228; Фрэнкель, Balt. Spr., 37; Бязлай, 3, 44). Значэнне 'выціскаць сок з зярнят, вішань і пад. (пра птушак)' — другасная беларуска-польская ізасема, гл. Цыхун, Бел.-польск. ізал., 147—148.

**Піць₂** 'нос' (пін., Сл. Брэс.). Скарочаная форма ад *піпаць* (гл.).

**Піць-палоць₁** — імітацыя песні перапёлкі (карэліц., ЖНС). Гукапераймальнае пры ад'ідэацыі слоў *піць* і *палоць* (гл.).

**Піцю́каць** 'шчабятаць, балбатаць (пра маленькіх дзяцей)' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае ўтварэнне з суф. *-ка-* (як *бала́-ка-ць, гого-ка-ць, куга-ка-ць, хіхі-ка-ць*).

**Піцю́ль** (іран.) 'скупы' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Піцюхны** — спагадлівая форма заг. ладу ад дзеяслова *піць* (Нас.). Утворана ад *піць* (гл.) пры дапамозе суф. *-ухн-ы*. Параўн. *пітачкі, піценькі*, а таксама назоўнік *мат-ухн-а* 'мамачка'.

**Піця** (іран.) 'самаўпэўнены чалавек' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, "спешчаны" варыянт да *пыца* 'морда', аформлены пры дапамозе суф. *-'а* (як *соня*).

**Піцяжка** (*пітяшка)* 'стужка (у касе)' (драг., Нар. лекс.). З першапачатковага *підтяжка* = *падця́жка*, да *цягну́ць* (гл.).

**Піч** 'рагавы стрыжань пяра', 'цвёрдая частка пяра (з крылаў і хваста)' (стаўб., ЛА, 1). Да *пішч₂* (гл.).

**Пічка** 'п'яніца-жанчына' (навагр., Дзмітр.). Слова са значэннем асобы ж. р. ад *піцёц* (гл.), утворанае пры дапамозе суф. *-к-а*.

**Пічы́й**, *пічые́* 'адростак новага пяра пасля ліньки' (стаўб., ЛА, 1). Утвораны пры дапамозе суф. *-ый* < прасл. **-ějь* ад прасл. **pičь*, параўн. карэліц. *пыч* 'верхняя частка парастка' (З нар. сл.), балг. *пич* 'атожылак у дрэваў і вінаграднай лазы', балг. еленск. *пич* 'бакавая галінка сцябла памідораў', *пич* 'атожылкі ў вінаградзе, тытуні', славен. *pȋč* 'вугал печы', якія з **pičiti / pičati < pikati* 'калоць', 'тырчаць, вытыркацца' (Гарачава, Этимология—1978, 107—108).

**Пішкаць** 'грымець, бразгатаць' (віл., Сл. ПЗБ). Параўноўваюць з літ. *pyškėti* 'тс' (Грынавяцкене, там жа); аднак параўн. таксама *пышкаць* 'пыхкаць, шумець; пухкаць', што мае іншаславянскія паралелі.

**Пішч**₁ ж. р. 'ежа' (пін., гродз., Сл. ПЗБ; Бяльк.; Юрч. СНЛ), *пішча* 'тс' (шальч., Сл. ПЗБ). Разам з рус. *пища*, балг. *пища* 'тс', з ц.-слав., якое са ст.-слав. пиψа < прасл. **pit'ja* са значэннем 'корм, ежа для скаціны' (гл. Мартынаў, Этимология—1968, 16—18): польск. *pica* 'правіянт', н.-луж., в.-луж. *pica* 'ежа, корм', чэш. *píce*, славац. *pica*, славен. *píča*, серб.-харв. *пи̏ћа* 'тс'. Да прасл. **pitati*, роднаснага літ. *pietū̃s* 'абед', 'поўдзень', ст.-інд. *pitú-* 'ежа', авест. *pitu-* 'блюда', *pivwā* 'частка ежы' < і.-е. **poi̯-*, **pi-* (Міклашыч, 247; Фасмер, 3, 270; Бязлай, 3, 44, ESJSt, 11, 647). Сюды ж рагач. *пішчавік* 'стрававод', шчуч. *пішчавóя горла* 'тс' (Сл. ПЗБ; ЛА, 1). Адсячэнне канчатка ў *пішч*, магчыма, пад уплывам назоўніка *корм*.

**Пішч**₂ 'рагавы стрыжань пяра' (лях., івац., пін. ЛА, 1), 'адростак новага пяра' (клец., лях., івац., там жа). Чэш. *pisk* 'тс', славац. *piski* 'пер'е', серб.-харв. *пи̏ска* 'кароткі кол, якім штурхаюць цяжкія прадметы', *pȉska* 'абрубак дрэва, пень', 'трэска', балг. *пыска* 'клін, які ўстаўляецца ў дышаль', *пысек* 'сошка, што ўстаўляецца адным канцом у дышаль, другім — у перадок насада'. Прасл. **piskъ* (для бел. формы — **piskjь*)/**piska*, якія, паводле Варбат (Этимология—1976, 35—38), узыходзяць да **pьx-* 'калючы, востры (абрубак)' > 'адростак новага пяра' і 'кол'; сюды ж, магчыма, і *пішчом лезці* 'клінам'?), хаця народная этымалогія звязвае *пішч* з *піскам*: 'з піскам, з крыкам' (ТСБМ, Янк. БП, Шат., Стан.), параўн. народны выраз: *пішчыць, а лезе* = настойліва, нахабна прабіраецца, прэцца. Зрэшты, апошняе можна параўнаць з рус. дыял. *пишшой* 'гвалтоўна, сілком', якое Мяркулава (Этимология—1976, 100) адносіць да **pisti* 'напіхваць', што выводзіцца на падставе рус. наўг. *пищá* 'густы лес', з **pistъ* 'густы', роднаснае **pьxati*, гл. *піхаць*, *пішчýга*.

**Пішчавод** 'горла-стрававод' (бых., мсцісл., нясвіж., чавус., касцюк., добруш., ЛА, 1). Культурны тэрмін, запазычаны з рус. мовы.

**Пішчáлка**₁ 'зялёнка, Trichiloma flavovirens' (віл., докш., Сл. ПЗБ; барыс., Нар. словатв.), *пішчолка* 'тс' (лепел., Расл. св.), *пясчолка* 'тс' (ушац., Яшк.—Сярж.). Да *пішч*₂, *пішчýга* (гл.). Названы паводле месца распаўсюджвання — сасновыя лясы. Пад уплывам народнай этымалогіі лексема стала звязвацца з 'пясок' — *пясчолка*, *пясчалка*, *пясчаніца* (Расл. св.).

**Пішчалка₂** 'берасцянка, Fringilla coelebs' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *пішчáць* (гл.). Аналагічна, паводле выдаваемых гукаў, называюцца і іншыя птушкі: польск. *kaczka piszczałka, kaczka gwiżdżąca, świstuła, świstun* 'качка свіязь, Anas penelope L.'.

**Пішчáль** 'уюн, Misgurnus' (докш., віл., ЛА, 1), *пішчэ́ль* 'тс' (віл., Сл. ПЗБ). Да *пішчáць* (гл.), чаргаванне галосных, як у *ручай/ ручэй*.

**Пішчáць**, *пішчáці, пішчэць* 'рабіць піск' (ТСБМ, Стан., Яруш.), 'вішчаць' (гродз., чэрв., брасл., шчуч., глыб., беласт., Сл. ПЗБ), 'рохкаць (пра свіней)' (акрамя Заходняга Палесся, ЛА, 1). Укр. *пищáти*, рус. *пищать*, польск. *piszczeć*, н.-луж. *pišćaś*, в.-луж. *pišćeć*, чэш. *pištěti*, славац. *pišt'at'*, славен. *pískati*, харв. *pištati*, макед. *пишти*, балг. *пищя*. Прасл. **piščati* 'пішчаць', 'свісцець', 'іграць на дудзе', што ўзыходзіць да гукапераймальнага *pi-* (Скок, 2, 664).

**Пішчолка** 'пішчык' (Нік. Очерки) — першапачаткова **piščolъ* (як *vŕxolъ, sokolъ*) — варыянт м.р. да *пішчаль* (гл.). Да *пішчáць* (гл.). Пазней далучыўся суф. *-ъka* (пад уплывам *пішчэ́лка* (гл.).

**Пішчýга** 'гушчар маладога лесу' (Касп.; Станк.). Утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-уга* ад ⁺*пішч* (гл. *пішч₂*) < прасл. **pьx-/*pix-* 'штурхаць, вытыркацца, вылазіць, праколваючы, напіхваць' (Мяркулава, Этимология—1976, 99—100). Параўн. таксама рус. наўг. *пищá* 'густы лес', *пищóра* 'гушчар, зараснік'.

**Пішчэлка** 'дудачка, наогул прымітыўны самаробны музычны інструмент' (Юрч. Вытв.), параўн. старaж.-рус. *пишталь, пищаль* 'музыкальны інструмент высокага гучання ў Старажытнай Русі, укр. *пищáль, пúщавка*, польск. *piszczel, piszczałka*, ст.-чэш. *píščěl, píščala, píščela*, чэш. *pišt'ala*, славац. *pištel', pišt'ala*, славен. *piščȃl, pȋskal*, харв. *piščal, pištala*, макед. *пишталка*, балг. *пищя́л*. Прасл. **piskělь, *piščalь* < **piskati, *piščati* (< і.-е. **pī-sk'-ā-, *pī-sk'-ē*) роднасныя ст.-інд. *picchorā, piccholā* 'дудка, флейта' (Зубаты, ВВ, 17, 325; Покарны, 796; Фасмер, 3, 271; Бязлай, 3, 41; Борысь, Зб. Слаўскаму, 87).

**Пішчýха** 'птушка паўзунок, Certhia' (БелСЭ). Да *пішчáць* (гл.). Параўн. польск. ... *przy wodach piska... piszczyh...* (Струтынскі, Nazwy, 101).

**Пішчы́**, *пішчыкі* 'аер, Acorus calamus L.' (ганц., пруж., ЛА, 1; свісл., Шатал.). Відаць, да *пішч₂* (гл.): расліна вылазіць з зямлі

ў выглядзе завостранай трубкі < прасл. **pixati*. Параўн. таксама *пішчык₁* (гл.). Не выключана сувязь з *пішча́ць* (гл.), бо з ніжніх канцоў лістоў аеру дзеці робяць пішчыкі.

**Пішчык₁**, мн. л. *пішчыкі* 'адросткі пер'яў пасля лінькі птушак' (лун., в.-дзв., барыс., Шатал.; лях., івац., клец., ЛА, 1; драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.); 'рагавы стрыжань пяра' (віц., мядз., маг., чавус., мсцісл., драг., ЛА, 1; мядз., Нар. сл.). Да *пішч₂* (гл.). Параўн. таксама чэш. *pisk* 'зародак пяра, стрыжань пяра' (Махэк₂, 451), лат. *pīkste* 'стрыжань пяра' (Мюленбах—Эндзелін, 24, 230), а таксама Варбат (Этимология—1976, 35—38) і Бязлай (3, 40).

**Пішчык₂** 'дудачка, якой прывабліваюць птушак', 'дудачка з зялёнага сцябла жыта ці чароту', 'трысняговая пласцінка, якая гучыць у муштуку духавых музычных інструментаў', 'свістулька', 'свісток' (ТСБМ, Нас., Дэмб. 1; Нік. Очерки; Гарэц., Касп., Шат., Варл.), 'клавіш у гармоніку' (Гарэц.; Бяльк.; Юрч. СНС). Да *пішчаць, піск, пішчаль* (гл.).

**Пішчык₃**, мн. л. *пішчыкі* 'кончыкі пальцаў рук ці ног' (шчуч., Нар. лекс.; слуц., Нар. словатв.; ('на руках') астрав., Сл. рэг. лекс.; Бір. Дзярж.; Мат. Маг.; чырв., З нар. сл.). Да *пішч₂*: кончыкі пальцаў асацыююцца з адросткамі (дрэў, раслін).

**Пішчык₄** 'слабы чалавек, худы, недарослы, някрэпкі' (Нас.), у выніку пераносу значэння 'перадсмяротнае хрыпенне' ў лексемы *пішчыкі* (гл.) > 'слабы, хворы, кволы'.

**Пішчыкі** 'хрыпенне ў дыхальным горле, перадсмяротнае хрыпенне' (Нас.). Да *піск* (гл.).

**Пі́йвы** 'працавіты' (чэрв., Сл. ПЗБ). Параўноўваюць літ. *pýti* 'размакаць (пра зямлю), станавіцца мяккім (пра характар)'; *papìję̄s* 'добры, мяккі, які ўвесь аддаецца працы, дабрыні і г. д.' (Грынавяцкене, тамсама, 3, 527), што не пераконвае; хутчэй, з пілявы 'рухавы' (гл.), да *піліць₂*, параўн. польск. *pilać* 'дбаць', варыянт *pilić* 'старацца, дбаць', што звязана з *pilny* 'старанны' (Банькоўскі, 2, 579), гл. *пільны*.

**Пія́к** 'п'яніца' (ашм., Сл. ПЗБ). Паводле Мацкевіч — запазычанне з польск. *pijak* 'тс' (тамсама, 3); сюды ж адаптаванае *піяка* (Нас., Сцяшк. Сл.; Скарбы; Нас.), канчатак *-а*, як у *п'яніца*.

**Піяне́р** 'чалавек, які ўпершыню пранік у недаследаваную краіну і пасяліўся там', 'зачынальнік' (ТСБМ). З польск. *pionier*

ці з рус. *пионер* 'тс', якія (у рус. — праз ням. *Pionier*) з франц. *pionnier* < *pion* першапачаткова 'пехацінец' < нар.-лац. *pedonem* < *pes*, *ped-is* 'нага' (Фасмер, 3, 264; SWO, 1980, 572; Голуб—Ліер, 373; Банькоўскі, 2, 583).

**Піяніна** 'від фартэпіяна' (ТСБМ). Праз польск. ці рус. мовы з італ. *pianino*, замест *piano verticale* 'кароткі (вертыкальны) тып музычнага інструмента', супрацьпастаўлены *piano a code*, *pianoforte* 'фартэпіяна' (Банькоўскі, 2, 540).

**Пія́тніца** 'жніво' (паст., ЛА, 2). Відаць, генетычна звязана з *піявы* 'працавіты': жніво — вельмі пільны ў сэнсе працы перыяд, пара́; *-н-* — пазнейшае, пад уплывам слова *пятніца*, параўн. *пільніца* 'прыпар'.

**Пія́тыка** 'п'янства', 'банкетаванне, баляванне' (Нас.; навагр., Сл. ПЗБ). З польск. *pijatyka* 'тс'.

**Піяўка** 'п'яўка' (рас., карэліц., клім., ЛА, 1). Да *п'яўка* (гл.). Форма з *-і-* — пад уплывам дзеяслова *піць* (Фасмер, 3, 271). Магчыма, сюды ж і *піяўка* 'скабка з дроту, цвіка для змацавання чаго-небудзь' (Тураўшч., 1, 66), *п'яўка* 'тс' (гл.).

**Пія́ць** 'спяваць' (Мядзв.; паст., в.-дзв., даўг., лудз., смарг., маст., Сл. ПЗБ). Да *пяя́ць* (гл.). Слова афармілася пад уплывам польск. *piać, pieję* 'спяваць, спяваю'. Паводле Карскага (1, 215), пераход *ѣ* у *і* ў пазіцыі перад націскным *а* характэрны для паўн.-усх. гаворак і некаторых гаворак на паўднёвым захадзе Беларусі.

**Плава́** 'балота (возера), якое моцна зарасло мохам, а пад нізам — вада' (шчуч., Сл. ПЗБ), рус. вялікалук. *пла́ва́* 'дрыгва'. Параўноўваюць літ. *plovà* 'тс' (Грынавяцкене, тамсама). Звычайна *плаў* (гл.), згодна з Талстым (Талстой, Геогр., 172—175), ад **plaviti*, **plavati* 'заліваць, плаваць'. Сюды ж брасл. *плавіна* 'зыбкі дзірван па берагах возера' (Сл. ПЗБ).

**Плава́к** 'плывец' (лун., Сл. Брэс., Шатал.; стол., Нар. лекс.). Відаць, утворана пад уплывам польск. *pływak* 'тс', але з бел. суфіксам і націскам (параўн. *спява́к, язда́к, раза́к, хада́к*) ад *пла́ваць* (гл.). Сюды ж *плыва́к* 'плытагон' (іван., Нар. лекс.).

***Пла́вам**, *пла́вом* 'уплаў' (драг., З нар. сл.). Прыслоўе ў форме Тв. скл. назоўніка *плаў* (гл.), як *пешшу, пехатой, (сваім) ходам*.

**Пла́ваць** 'перамяшчацца ў вадзе' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ), *пла́вываць* 'тс' (Бяльк.), 'знаходзіцца на паверхні вады' (Сл. ПЗБ), (перан.) 'хадзіць па глыбокім снезе' (Юрч. СНЛ). Укр. *пла́вати*,

рус. *плáвать*, чэш. *plavati*, славац. *plávat'*, старое харв. *plȁvati*, балг. *плáвам*, ст.-слав. плавати 'тс'. Прасл. **plavati, plavajǫ* — пераўтварэнне фактытыва **plaviti* пад уплывам ітэратыўных форм на **-vati* — усе ўзыходзяць да **pluti, plovešь* > *плыць* (гл.) (Міклашыч, 252; Траўтман, 223; Фасмер, 3, 271; Махэк$_2$, 462—463; Бязлай, 3, 51).

**Плавéльнік** 'плывец' (іўеў., Сл. ПЗБ). Да *плáваць* (гл.). Суф. *-ельнік* утварае асабовыя наз. са значэннем асоб па іх занятку (*вазéльнік, малацéльнік*), гл. Сцяцко, Афікс. наз., 52.

**Плавíсты**, *плавэ́сты* 'грузкі, зыбкі (пра балота)' (пін., ЛА, 5), 'дрыгвяністы' (ТС). Ад назоўніка *плаў* ці прыметніка *плаўкі* (гл.).

**Плáвіца** 'маленькая лодка, выдзеўбаная з цэлага ствала дуба' (пін., Маслен.). З польск. *pławica* 'пласкадонка, зробленая з аднаго кавалка дрэва'.

**Плáвіць$_1$** 'сплаўляць (лес)' (в.-дзв., лід., Сл. ПЗБ; ТС; Варл.), укр. *плáвити*, рус. *плáвить* 'сплаўляць па вадзе, гнаць з плынню', ст.-рус. *плавити* 'тс' (1504 г.), 'перапраўляць уплаў коней', польск. *pławić* 'сплаўляць тавар', 'купаць (скаціну)', 'акунаць у ваду, рабіць так, каб нешта плыло', н.-луж. *pławiś* 'сплаўляць (лес)', 'купацца', в.-луж. *pławić* 'сплаўляць', чэш. *plaviti*, славац. *plavit'*, славен. *pláviti* 'тс', серб.-харв. *плȁвити* 'разлівацца (пра ваду) у разводдзе'. Прасл. **plaviti* — каўзатыў да прасл. **pluti* > *плысці*, *плыць* (гл.).

**Плáвіць$_2$** 'пераўтвараць цвёрдае цела ў мяккае шляхам награвання' (ТСБМ), укр. *плáвити*, рус. *плáвить*, стараж.-рус. *плавити* (1229 г.), польск. старое *pławić* (з 1466 г.), чэш. *plaviti*, славац. *plavit'*, славен. *plavíti*. Прасл. **plaviti* 'тс' — каўзатыў да прасл. **pluti* 'плысці' < і.-е. **pleu̯-* 'цячы' (Бязлай, 3, 51; Баньковскі, 2, 621).

**Плавóк$_1$** 'плывец' (докш., Янк. Мат.; добр., Мат. Гом.). Да *плáваць* (гл.); суф. *-ок*, як у *хадок*, *яздок*, *ядок* і інш.

**Плавóк$_2$** 'паплавок' (ТСБМ, ТС), рус. *плавóк* 'тс', арханг. 'буй', 'драўляная рассошка на шыі каня з меткай гаспадара'. Да *плáваць* (гл.). Бел.-рус. ізалекса. Параўн. таксама *паплавок* (гл.). Сюды ж *плавок* 'пухір у рыбы' (кобр., ЛА, 1) — у выніку пераносу значэння паводле падабенства: існуе меркаванне, што рыбы плаваюць (а не тонуць) дзякуючы пухіру.

**Плавок₃** ‘частка плуга, якою плуг сунецца па зямлі’ (Тарн.). Да *пла́ваць* (гл.) у пераносным значэнні: пры ворыве плуг то вынырае, то патанае ў зямлі, як лодка (ці карабель).

**Плаву́жнік**, *плаву́шнік* ‘плытагон’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Аддзеяслоўна, узыходзіць да ⁺*плавуга* (як *вандру́га*, *валацу́га*), да якога пазней далучыўся *-нік* (< прасл. **ьnikъ*) для абазначэння асобы паводле ўласцівага ёй дзеяння.

**Плаву́к**, *плау́к*, *плыву́к* ‘плывец’ (Скарбы; Сцяц.; іўеў., Сл. ПЗБ; карэліц., Сцяшк. Сл.; ашм., Стан.). Да *пла́ваць* (гл.). Суфікс *-ук* узнік пад уплывам балт. дыялектаў (параўн. літ. *-uk-as*, а таксама Бірыла, Бел. антр. назвы, 40—41). Сюды ж у выніку семантычнага пераносу ‘асоба’ > ‘прадмет’, лід., віл., шальч., ваўк. ‘паплавок’, ваўк. ‘плаўнік’ (Сл. ПЗБ), воран., драг. ‘пухір у рыбы’ (ЛА, 1).

**Плаву́н₁**, *плыву́н* ‘аер, Acorus calamus L.’ (Бейл.), ‘мнаганожка, папараць звычайная, Polypodium vulgare’ (смал., Кіс.), рус. *плаву́н*, *плау́н*, чэш. *plavuň* ‘дзераза, Lycopodium clavatum’, серб.-харв. *plavun* ‘тс’. Да *пла́ваць*, *плысці* (гл.). Матывацыя: гарызантальны корань раслін ці сцябло падобны да ‘таго, што плыве’ — гл. *плаву́н₄*. Суфікс *-ун* утварае і інш. назвы раслін: *паўзу́н*, *блішчу́н* (Сцяцко, Афікс. наз., 69).

**Плаву́н₂** ‘кошык для лоўлі рыбы’ (свісл., Сл. рэг. лекс.), ‘падвалока — снарад для лоўлі рыбы ў адкрытай вадзе; пры гэтым патрэбна сама мала дзве асобы’ (Касп.; Нік. Очерки), рус. валаг. *плау́н* ‘невялікі невад’, славац. *plavačka* ‘трохсценная падвалока’. Да *пла́ваць* (гл.). Лексемы звязаны са значэннем ‘лавіць рыбу, плывучы (плаваючы)’. Параўн. рус. астрах. *плавна́я* (*сеть*) у процілегласць *ставна́я* (*сеть*) ‘пастаўленая нерухома’.

**Плаву́н₃** ‘смецце, раслінныя рэшткі, нанесеныя вадой на карэнне дрэў, на кусты, у заліў у час разводдзя’ (Нік. Очерки; Скарбы), ‘цякучы пясок’ (ветк., Яшк.). Рус. *плавун* ‘наносны, павыкіданы лес’, сіб. ‘лес, што плавае ў рацэ’. Да *пла́ваць* (гл.). Суфікс *-ун* утварае словы са значэннем ‘прадмет — вынік дзеяння’.

**Плаву́н₄** ‘човен’ (Яўс.), рус. наўг. *плаву́н* ‘вялікая рыбацкая лодка, за якой ззаду ідуць (‘плывуць’) рыбалоўныя сеткі’. Да прасл. **plavъ* < **plaviti*, гл. *плавіць* (Талстой, Геогр., 175), параўн. серб.-харв. дыял. *плав* ‘судна, лодка’.

**Плаву́н₅** ‘дрыгва, зыбаўка на балоце, каля возера’ (полац., ЛА, 2), ‘топкае балота’ (пін., ЛА, 2). Да *плаў₁* (гл.).

**Плавуне́ц** ‘раска, Lemna minor L.’ (саліг., ЛА, 1). З *плаву́н₁* (гл.). Суфікс *-ец* адлюстроўвае дробныя памеры расліны. Параўн. укр. *плаву́шник* ‘вадаперыца балотная, Hottonia palustris L.’.

**Плавуно́к**, *плывуно́к* ‘плавальны пузыр’ (в.-дзв., шчуч., Сл. ПЗБ; в.-дзв., ЛА, 1). У выніку кантамінацыі лексем *плаву́н* і *плаво́к* (гл.).

**Плаву́ха** ‘ яжджаль, ранняя асака, Carex L.’ (слуц., ЛА, 1), *плаву́шка* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *паплаву́ха, паплаву́шка, паплаўня́* ‘тс’ (Нар. лекс., ТС, Расл. св.). Да *плаў₁* (гл.). Семантыка развівалася ад ‘нізкі луг, балота’ (параўн. польск. *pławy* ‘тс’) > ‘трава, якая вырастае на такім балоце, лузе, ці пакрывае яго’, параўн. рус. пск. *плаву́ха* ‘зелень на паверхні сажалкі, става’, *плавучи́на* ‘балотная трава, мох, што шчыльна пакрываюць возера’.

**Плаву́шка₁** ‘казялец вадзяны, Ranunculus aquatilis L.’ (дзятл., Сцяшк. МГ; Кіс.), ‘раска, Lemna minor L.’ (кобр., саліг., ЛА, 1), *плаву́чка, паплаву́шка, паплаву́ха, пуплаве́нь* ‘тс’ (Расл. св.). Да *плаву́ха*, якое з *пла́ваць* (гл.): гэтыя расліны рассцілаюцца (“плаваюць”) на вадзе ці ў вадзе (карані), як у рус. калуж. *плаву́шник* ‘вадаперыца, Hottonia palustris L.’.

**Плаву́шка₂** ‘насеннік дзеразы’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *плыць, плысці* (гл.). Матывацыя: пылок дзеразы “выплывае” (= ‘высыпаецца, выпаўзае’) з насенніка. Параўн. драг. *просо плывэ́, вэ́плыло* ‘высыпаецца, высыпалася з мяцёлкі’.

**Плавы́** ‘дзірвановы зараснік у возеры, які складаецца з розных раслін, нават з лазняку, — пад ім ёсць вада’ (Нік. Очерки). Да *плаў₁* (гл.).

**Плавы́ня** ‘плывучы востраў’ (паўн.-усх., КЭС), смал. *плави́на* ‘тс’. Да *пла́ў₁* (гл.) < прасл. **plavъ* — пра нейкі плаваючы прадмет. Суф. *-ы́ня* ўзыходзіць да прасл. **-yn'i*, параўн. **pustyn'i*, **jaskyn'i* ‘пячора’. Рус. *пла́вень* ‘нізкі рачны востраў, які ў разводдзе заліваецца вадой’, утвораны ад **plav-a-ti* пры дапамозе суф. *-ьn'ь*.

**Плавэ́чнік** ‘белы гарлачык, Nymphaea alba L.’ (глыб., Сл. ПЗБ). Да прыметніка, відаць, польск. *pławeczny* (як *stoleczny*) > *pławacz* ‘плывак’ < прасл. **plavati* > *пла́ваць* (гл.).

**Пладлі́вы** (*пладлівый*) ‘пладавіты’ (Юрч. Вытв.), рус. *плодли́вый* ‘які хутка размнажаецца’, ‘пладаносны’. Рус.-усх.-бел.

лексема. Да *пладзіць* < *плод* (гл.). Суфіксальны гук *-л-* у спалучэнні *-дл-* захаваўся дзякуючы далучэнню да *-л-* (< і.-е. **-lo-* > прасл. **-lъ*) пазнейшага суф. **-iv-ъ* і наступнай марфалагічнай адсорбцыі: **plod-lъ-ivъ* > **plo-dlivъ,* у той час, як **klad-ti* 'класці': *klad-lъ* > (ва ўсх.-слав. мовах) > *клалъ* > бел. *клаў.*

**Пладзіцца** 'размнажацца' (ТСБМ, Стан.). Да *плод* (гл.).

**Пла́жам** 'плазам' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Яруш.). З *пла́зам,* у якім *-з-* > *-ж-* — пад уплывам *лежма, лёжма* < *ляжа́ць* (гл.).

**Плажма́** 'плазам' (Нас., Др.-Падб.), *пла́жма* 'тс' (Гарэц.), мсцісл. *пла́жмя* 'тс' (Юрч. Вытв.). З *пла́зма* (гл.). Не выключаецца ўплыў рус. *плашмя*. Суф. *-ма* (= канчатак Тв. скл. парнага л.) утварае прыслоўі ад займеннікаў (*кудэма, сюдэма*), прыметнікаў (*гольма-голую ўзяў*), назоўнікаў (*дарма́)* і дзеясловаў, звычайна ў пары з дзеясловам (*крычма крычаць, сідзьма сядзець*), гл. Карскі, 2—3, 67.

**Плаз** 'плоскасць якой-небудзь доўгай рэчы', 'паласа ад удару чым-небудзь доўгім' (Нас., Яруш.), *плаз* 'плоскі бок якога-небудзь прадмета' (беласт., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *плазъ* 'плоскі бок шаблі' (1539 г.) са ст.-польск. *płaz* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 70), якое Банькоўскі (622) узводзіць да *płaza* 'плоскі камень, каменная пліта', а апошняе — да і.-е. **plōg'ā,* прыметнік **plōg'-o-s* (швед. *flack*, гал. *vlak*, ням. *flack* 'плоскі', англ. *flagstone* 'каменная пліта для брукавання'). Брукнер (420) мяркуе, што польск. *płaza* — выключна польск. лексема, аднак параўн. стараж.-рус. *плазивый* 'гладкі' (XII—XIII стст.). Бязлай (3, 51) славен. *plȃz, pláza* 'паласа, лінія, рыска, стужка' параўноўвае з літ. *plúoš(t)as* 'лыка', 'паласа' і адносіць іх да і.-е. *(s)p(h)el-g'-.* Аднак, відаць, гэтыя славенскія лексемы генетычна не тоесныя з беларускімі. Сюды ж: *плазава́ць* 'біць, лупцаваць, сячы' (Растарг.) < польск. *płazować* 'біць тупым канцом шаблі' (з 1621 г.), а таксама *плаза́ваты* 'які мае гладкую паверхню, гладкі, роўны' (ТСБМ, Яруш.).

**Плазава́ць** 'склюдаваць, апрацоўваць бервяно для зруба' (шчуч., Сцяшк. Сл.), абчасаць калоду *на плаз* 'на плашку' (ТС), рус. зах.-бранск. *плазава́ть* < польск. *płazować* 'зрабіць (ачасаўшы) бервяно плоскім', гуральск. *płazy* 'паўкруглякі — тоўстыя бярвенні, разрэзаныя напалову, з якіх складаюць сцяну будынка'.

**Пла́зам** ‘плоскім, шырокім бокам уніз’, *ляжаць плазам* ‘ляжаць пластом’ (ТСБМ), карэліц. ‘пластом’ (Сцяшк. МГ). З польск. *płazem* ‘плоскім бокам’, якое з *płaz* > *плаз* (гл.).

**Пла́зма**, *плазьма* ‘плазам’ (Скарбы; Клім.; Сцяц.; ТС; драг., Сл. Брэс.), ‘плоска’ (Нас.). Перааформленае на бел. глебе *пла́зам* паводле *пла́жма́* (гл.). Сюды ж *пла́зма, плазьма* ‘ніц’ (Сцяшк. Сл.; ЛА, 5), кантамінаванае *пла́змам* ‘плазам’ (Ян.) з *плазам* і *пла́зма*. Адносна значэння ‘ніц’ параўн. польск. (у В. Патоцкага і А. Міцкевіча) *do nóg mu upadł płazem = plackiem* ‘распластацца блінам’.

**Пла́зкі** ‘адхоністы, гладкі’ (ТС), ‘пакаты, спадзісты (бераг ракі, возера)’, *пла́скі, пла́скый* ‘тс’ (сен., слонім., ЛА, 2), стол., сен. *пла́ская*, кам., брэсц., кобр. *пла́ска* ‘пакатая страха’ (ЛА, 4), *пла́зам* ‘плоска’ (Нас.), *плазова́ты* ‘адхонны (пра страху)’: *стрэха зусім плазма лежыць* (ТС). З польск. *płaski* ‘плоскі, роўны’, якія развіліся ў выніку пераносу значэння ‘роўны, плоскі’ > ‘лагодны, паступовы’, асабліва ў проціпастаўленні ‘пакаты’ — ‘стромы’. Параўн. ст.-польск. *iść płazą* ‘паводзіць сябе лагодна, абачліва, бесканфліктна’. Параўн., відаць, запазычанае ст.-рус. *плазъ* ‘плоскасць, роўнае месца’ (XVII ст., Лексикон словенолатинский). Сюды ж маладз. *плазе́й* ‘больш плоска’ (Жыв. сл.).

**Плазьмо́** ‘частка сахі’ (ельск., Выг.) — у выніку далучэння суф. *-(ь)мо* да польск. *płaz (< płazać się* ‘поўзаць’), якое з’яўляецца багемізмам (з XVI ст.), параўн. чэш. *plaz*, мар. *zplaz*, *spl’az* ‘частка плуга’, а таксама славац. *plaz* ‘паўзун плуга’, славен. *(o)plȃz* ‘ніжняя падкладка ў плузе, сасе’, ‘левая ручка ў плузе’, серб.-харв. *пла̑з* ‘частка плуга’, балг. *пла́зица* ‘тс’, ім адпавядае ўсх.-слав. *полаз*, параўн. рус. *полоз* (сахі, плуга) — падэшва, нарогі, на якія набіваецца лямеш і сашнікі < прасл. **polzъ* > *полаз* (гл.). Утварэнне з суф. *-мо*, як у *вязьмо*, *пражмо* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 54).

**Плаймо́,** *пляймо* ‘пляма’ (беш., Нар. сл.) — у выніку кантамінацыі лексем *пляма* і *лайно* (гл. *лайно*[1]) пры ад’ідэацыі балтыйскіх слоў: літ. *plė̃nys* ‘попел’, прус. *plejnis* ‘белы попел на жары (вуголлі)’. У польск. *plama*, з якога паходзіць бел. *пляма*, зліліся ст.-польск. *plana* ‘загана’, ‘дыятэз’ і (медыцынск.) *plana* ‘чырвоная (агністая) пляма на скуры (ад хваробы)’, якое з ням. *Flamme* < лац. *flamma* < *flagma* < *flagrāre* ‘гарэць’ (Банькоўскі, 2, 597; Брукнер, 417).

**Плаймóта** 'мноства' (ветк., Мат. Гом.). Да *плойма* (гл.). Суф. *-ота* надае адцягненае значэнне.

**Плайніца** 'абмежаваная прастора, частка плошчы, поля, пасеву': *і ячменю велічэнна плайніца* (светлаг., SOr, 39, 352). Няясна, магчыма, фанетычны варыянт *планіца, пляніца* 'ўчастак, звяно' (гл.), аднак параўн. польск. *płaj* 'паша на схіле гары над верхняй граніцай лесу (доўгая і вузкая)', укр. гуц. *плай* 'тс', якія адносяцца да валашскай пастухоўскай тэрміналогіі, з рум. *plai* 'тс' (Банькоўскі, 2, 616).

**Плак** 'плач' (Нас.; Бяльк.; Юрч. Вытв.), *плáкам, плáкма плакаць, плáкаць плакóм* 'бедаваць, слёзна наракаць, плачучы, скардзіцца' (Нас., ТС), мсцісл. *плаканýць* 'горка паплакаць', *плáкыньнік, плакýн* 'плаксун' (Юрч. Вытв.), рус. пск., калін., наўг. *плак* 'плач, слёзы', славен. *plȃk* 'плач, плаканне', серб. славонск. *plak* 'голас вароны'. Да *плáкаць* (гл.). Утворана па ўзору *крык, крок* пры дапамозе суф. -ъ, што далучаўся да асновы **plak-*.

**Плакáт** 'каляровы насценны малюнак з агітацыйным тэкстам' (ТСБМ). З рус. *плакáт* 'тс' (якое з пач. XVIII ст.) ці з польск. *plakat* (з 1861 г.), якія праз нова-в.-ням. *plakat*, с.-нідэр. *plackaert*, гал. *plakaat* 'афіша, прыбітая да сцяны' прыйшлі з франц. *placard* < ст.-франц. *plaquir* 'прыклейваць' > новафранц. *plaquer* 'пакрываць ахоўным слоем, аббіваць дошкамі' < ст.-нідэр. *placken* 'тс' (Фасмер, 3, 272; Банькоўскі, 2, 596; Варш. сл., 4, 219).

**Плáкаць**, *плáкаці, плáкатэ, плáкыць, плáкацца* 'праліваць слёзы ад болю, гора і пад.', 'завываць, скуголіць, жаліцца' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, ТС; ашм., Стан.; міёр., Нар. лекс.), 'аплакваць' (ашм., Стан.), 'галасіць па нябожчыку' (Сцяшк. Сл.), 'пацець (пра шкло)' (ветк., Мат. Гом.). Укр. *плáкати*, рус. *плáкать*, польск. *płakać, płakać (kogoś)* 'аплаківаць', палаб. *plokăt*, н.-луж. *płakaś*, в.-луж. *płakać*, чэш. *plakati*, славац. *plakat'*, славен. *plákati*, серб.-харв. *пла̏кати*, макед. *плаче*, балг. *плáча*, ст.-слав. плакати сѧ 'аплакваць, плакаць'. Прасл. **plakati sę* 'біць сябе ў грудзі ў знак раскайвання або смутку ці жалю' < і.-е. **plāk-/*plōk-*: літ. *plàkti* 'біць, сячы, лупцаваць, хвастаць', *plõkis* 'удар палкай, розгай', лат. *placinât* 'тачыць', 'плюшчыць', 'адбіваць', ст.-грэч. πλήσσω 'таўчы', 'біць', дарычн. πλαγά 'ўдар', лац. *plango* 'біць сябе ў грудзі, моцна наракаючы', гоц. *flokan*, перфект

*faiflōkun* 'аплаквалі', ст.-в.-ням. *fluohhôn* 'праклінаць, ганіць' (Фасмер, 3, 272; Махэк₂, 453; Бязлай, 3, 46; Банькоўскі, 2, 616). Сюды ж: *плакам плачучы, плачо́м плакаць* 'слёзна, плачучы, наракаючы са скаргай', *плаклі́вы* 'плаксівы'. 'жаласны' (Нас.; Жд. 3).

**Плакса₁** 'плаксівае дзіцё' (б.-каш., Мат. Гом.), 'той, хто часта плача без уважлівай прычыны', 'які любіць скардзіцца, наракаць' (ТСБМ), *пла́ксы* 'крыксы, крык з плачам дзіцяці' (Нас.). Адсутнічае ў Слоўніку І. Насовіча (ёсць *плаксун(ок), плаксу́ння*), а таксама ў Б. Грынчэнкі (ёсць у сучаснай укр. мове: *плаксій, плаксія, плаксу́н, плаксійка, плаксу́ха* і *пла́кса*). У польск. мове — з XV ст. *płaksa* 'плакальніца на пахаванні', якое Банькоўскі (2, 616) адносіць да запазычанняў з усх.-слав. моў. Неабавязкова, бо ў польск. мове ёсць *beksa* (< *bekać, beczeć* 'раўсці, плакаць' — літ. *beksėti* 'рычаць') з тым жа суфіксам *-с-а*. Найбольш лексема прадстаўлена ў рус. мове, параўн. *пла́кса, плаксиха* 'плаксівы чалавек'; *пла́кса* 'вазак, які вязе ў царкву ўхутаную нявесту'; *пла́кса/ пла́ксы* 'абрад: увесь час плачу, жалобных песень, што аплакваюць нявесту — ад змовін да зборнай суботы', *пла́ксы/ крыксы* 'начны, хваравіты крык дзіцяці'. Суф. *-с-а* — уплыў балт. моў: у літ. мове яму адпавядае *-sa, -sas*, які ўтварае назоўнікі ад дзеясловаў: *baĩsa* 'страх', *švaisa/ sviesà* 'святло', *tamsà* 'цемра', *papsà* 'хто чмокае губамі', а таксама *kùksas* 'бязрогі, галамоўзы'. Сюды ж *плаксі́вы* 'які часта плача; любіць наракаць, скардзіцца'; 'які падобны да плачу (пра голас)' (ТСБМ).

**Пла́кса₂** 'плакун-трава, чальчак, Lythrum salicaria L.' (б.-каш., жытк., Мат. Гом.), 'ажына валасістая, Luzula pilosa (L.) Willd.' (гродз., Кіс.). Да *пла́каць* (гл.). Параўн. таксама *плакун-трава, слёзнік* 'чальчак' (Кіс.).

**Плаксні́нкі** 'вейкі' (швянч., Сл. ПЗБ). Грынавяцкене (там жа, 3, 529) генетычна суадносіць з літ. *blakstíenos* 'тс'.

**Плаксу́ха**, *плаксу́н* 'плакса', *плаксуно́к* 'плаксівае дзіця' (Стан., Варл.). Да *плакса₁* (гл.).

**Плаксэ́та** 'плакса' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *пла́кса₁* (гл.). Суфікс *-эт-а* са структурным элементам *-т-* узыходзіць да шэрагу балт. суфіксаў з *-t-/-d-* (*-etas, -eta, -ėtas,-das, -dė* і інш.) з экспрэсіўным значэннем.

**Плаку́н-трава́** 'від чальчаку (відаць, вербалісты), Lythrum salicaria L.' (ТС; Ласт.). Да *пла́каць* і *трава́* (гл.), параўн. іншую

назву — *слёзнік.* Паводле Кісялеўскага (Аб некат. асабл., 30), назва звязана з павер'ямі: ад яго плачуць ведзьмы і чэрці (Ласт., 799); ён плача, калі ў чалавека журба (ТС) і інш. Тэрмін узнік пад уплывам украінскай і рускай моў, дзе ён больш распаўсюджаны, параўн. укр. *плаку́н* 'тс', рус. *плаку́н-трава́* — гэтак названа шмат раслін: белы гарлачык, святаяннік, скабіёза, драсён звычайны, баркун белы, касач сібірскі, скрыпень вузкалісты і чатырохгранны, аер, ядрушка, валяр'ян, большасць з іх — вільгацелюбівыя, што датычыць святаянніка (Hypericum L.), то паводле павер'я, яго крывава-чырвоны сок прымушае плакаць нячыстую сілу (Фасмер, 3, 272—273); сюды ж і балг. *плаку́н* 'чальчак' (запазычана з рус.?, гл. БЕР, 5, 299).

**Пла́ме** 'полымя, агонь' (Нас.), *пла́мё* 'тс' (карэліц., Шатал.), *пла́мя* 'тс' (ЛА, 4); рус. дыял. *пла́ме* 'тс'. З ц.-слав. *пламя* 'тс', бел. народная форма — *полымя* (гл.). Аб мене *'а* > *'е* гл. Карскі, 1, 104 — 111. Сюды ж *пла́мем* 'агнём', 'ярка', 'гнеўна, люта, раз'юшана' (Нас.).

**Пламе́та₁** 'вельмі многа' (Жд. 2). Відаць, з *плане́та* (гл.) 'нябеснае цела', як у польск. *planeta* (а ў XV—XVII стст. і *płaneta*) — 'сонца і месяц', з далейшым абагульненнем, — 'зорка, зоркі', шматлікасць якіх на небе і вызначыла значэнне лексемы. Параўн. таксама рус. *плани́да* 'вялікая шматдзетная сям'я'.

**Пламе́та₂** 'лёс, прадвызначэнне' (ТС). Да *плане́та* (гл.). Значэнне 'лёс' развілося з меркавання, што планеты ўплываюць на жыццё і дзеянні людзей.

**Пламе́та₃** 'хмара, хмарнасць' (?): *нейка така пламета набягае, што по ўсім дзерэўням дождж* (ТС), укр. зах.-валын. *планіта* 'вялікая навальнічная хмара'. Да *плане́та* (гл.). Параўн. польск. *płametnik* 'чорная хмара, якая пасоўваецца па небе', дыял. *płaneta* 'пералётная хмара', *płanetnica* 'белая хмара, якая праплывае па небе'. Паводле Гарачавай (Этимология—1994—1996, 28), не выключана развіццё значэнняў 'лёс' — 'воблака', паколькі ў старажытнасці маглі гадаць па форме воблакаў, прадказваць лёс.

**Пламе́тны** 'псіхічна хворы' (стол., ЛА, 3; ТС), укр. бойк. *пламіта* 'дур, дурыкі', усх.-палес. *пламе́та* 'псіхічная неўраўнаважанасць', *пламе́тна погода* 'благое надвор'е, нягода'. Утворана ад *пламе́та₃*, параўн. польск. *płanetnik, płametnik* 'дух, які жыве ў дажджавых хмарах', а таксама 'лунацік', і *płanetnica*

'неўраўнаважаная жанчына, самаду́рная'. Сюды ж мазыр. *пламе́та* 'неслух, непаседа (пра дзіця)' (Мат. Гом.), кобр. *пламэ́тытысь* 'хандрыць' (Нар. лекс.; Сл. Брэс.), *пламі́дны* 'зайздросны' (Сл. ПЗБ).

**Пламі́дны** і (у выніку асіміляцыі *дн > нн*) *пламі́нны* 'зайздросны чалавек' (чэрв., Сл. ПЗБ), 'сквапны' > 'які вельмі многа есць' (Жд. 3). Да *плані́да* (гл.), якое з *плане́та* (гл.). Параўн. таксама *пламе́тны* (гл.).

**План₁** 'чарцёж — памяншальны выгляд мясцовасці, прадмета на плоскасці' (ТСБМ, Яруш., Шат.), 'прысядзібны ўчастак калгасніка, надзел, сядзіба, зямля пры хаце' (гом., ЛА, 3; Мат. Гом.; Ян.; свісл., Сл. рэг. лекс.; ветк., рэчыц., нясвіж., слаўг., Яшк.), 'незабудаваны ўчастак зямлі ў межах вёскі, які належыць аднаму гаспадару, пляц' (Нар. сл.), *пла́нік* 'тс' (жлоб., ЛА, 3), *плян* 'тс' (Яруш.), *план* 'агарод' (ветк., ЛА, 2), *план* 'зямля былога сталыпінскага хутара' (Яшк.). З рус. ці польск. моў, у якіх — з франц. *plan* 'плоскасць' ці з ням. *Plan* 'паверхня', апошнія ўзыходзяць да с.-лац. *plānum* 'роўнае месца, раўніна, плоскасць' (Фасмер, 3, 273; Махэк₂, 454; Банькоўскі, 2, 597, гл. Васэрцыер, 174). Сюды ж швянч. *плано́к* 'узор для ткання' (Сл. ПЗБ).

**План₂** 'праграма заданняў і прац', 'парадак, паслядоўнасць, сістэма' (ТСБМ), 'жыццёвы парадак, спо́саб грамадскага жыцця' (ТС). Праз польск. *plan* 'план, расклад, праграма' (ужо ў А. Міцкевіча), а таксама старыя *plant*, *planta*, ці рус. *план* 'тс' з ням. *Plan* 'задума, мэта', якое ў XVIII ст. было запазычана ў франц. мову (*plan* 'задума, праект, план' для *plant* 'саджанец, флянс' > 'гадавальнік' як 'нешта задуманае, выдуманае', гл. Васэрцыер, 174). Сюды ж жыт. *планава́ць* з пераносным значэннем 'абмяркоўваць (пра старога, які ідзе і размаўляе сам з сабою)' (Мат. Гом.) < польск. *planować* 'меркаваць, будаваць планы' (Кюнэ, Poln., 87).

**Пла́начка** 'паўпрыца' (быx., ЛА, 4). Да *пла́нка* (гл.).

**Плане́та** 'нябеснае цела' (ТСБМ), *плянэ́та* 'тс' (Яруш.), *планэ́та* 'тс' (Шат.), 'поўня' (ігн., Сл. ПЗБ), *плане́та* 'лёс' (ТСБМ; Юрч. СНЛ), ст.-бел. *планета, плянета* 'планета', 'лёс' (1518 г.) запазычана са ст.-польск. *planeta* (м.р.), *płaneta* 'тс', якія з лац. *planēta*, ст.-грэч. πλανήτης 'які блукае' < πλανάεσθαι 'блукаць', πλανάειν 'збівацца з дарогі' (Фасмер, Этюды, 151;

Праабражэнскі, 2, 67; Банькоўскі, 2, 597). Сюды ж *планетнік* 'кніга прадказанняў' (Юрч. СНЛ), параўн. ст.-чэш. *planetník* 'прадказальнік лёсу паводле планет' (Махэк$_2$, 454), польск. *planetnik* 'астролаг, які ўмее прадказваць лёс па зорках', ст.-рус. *планитникъ* 'астролаг' (XVII ст.).

**Плане́ціць** 'абганяць (бульбу)' (бераст., Сцяшк. Сл.). З польск. *planetować* 'апрацоўваць міжрадкоўе планетам', альбо рэгіянальнае ўтварэнне ад *плане́т* (гл.).

**Плане́т**, *плане́тка* 'ручная прылада для праполкі і культывацыі глебы міжраддзяў' (ТСБМ). Ад амерыканскай назвы фірмы "*Planet*", што азначае 'планета' (SWO, 1980, 576).

**Планіда** 'лёс, вышэйшае прадвызначэнне' (чач., Мат. Гом.; Бяльк.; Растарг.), ст.-бел. *планита* (XVI ст.). З *планета* (гл.) у выніку мены *е* > *и* ў запазычаных словах пад уплывам народнай этымалогіі (Карскі, 1, 188). Паводле Німчука (Давньорус., 20), *и (і)* адлюстроўвае грэка-візантыйскае вымаўленне πλανήτης 'планета'; азванчэнне *т* у міжвакальным становішчы. Тое ж рус. *плани́да* 'лёс', 'планета', 'камета', 'моцны вецер, дождж, гром', якія ўзніклі ў выніку пераафармлення лексемы *планита* пад уплывам слоў накшталт *Фемида*. Новае значэнне 'лёс' узнікла ў сувязі з астралагічнымі гараскопамі (КЭСРЯ, 340).

**Планіца** 'звязаныя бярвенні, з якіх складваюцца плыты, што сплаўляюцца па Дняпры' (Дэмб. 2), *плэны́ца* 'адна з дзвюх частак' (палес., Бел.-укр. ізал.), укр. *планиця* /*плениця* 'прасла ў плоце (ад слупа да слупа)', *плыны́ця* 'невялічкі плыт на рэчцы'. Памылкова ўстанаўліваецца сувязь з *планка*, *плыць* (Вярэніч, Бел.-укр. ізал., 13). Гл. *пляніца*.

**Пла́нка** 'клопат, куды ўстаўляецца млён' (паўн.-усх., ЛА, 4), 'лёстка ў драбіне' (дубр., ЛА, 4), 'вязы ў санях' (дубр., ЛА, 2), 'дзверцы ў стаячым вулеі' (чавус., клім., ЛА, 1); *пла́нкі* 'ручкі ў падушцы воза, да якіх прымацоўваюцца драбіны' (віц., маг., брагін., рэч., ЛА, 2), 'доўгія бярвенні, што кладуцца ўздоўж моста ля яго краёў для ўмацавання насцілу' (Сцяшк. Сл.). З рус. *пла́нка* 'ліштва, дошчачка', 'дошка, брус', якое з нова-в.-ням. *Planke* 'дошка', 'маснічына' < с.-лац. *planca* 'тоўстая дошка' < лац. *phalanga* 'насілы для пераноскі цяжкага грузу' < ст.-грэч. φάλαγξ 'прадаўгаваты кавалак бервяна', φάλαγγαι 'бэлькі, бярвёны' (Фасмер, 3, 273; Васэрцыер, 174). Сюды ж бел. *пла́нка*

'палоска з дрэва, металу, тканіны' (ТСБМ), 'вышытая паласа ў кашулі спераду ад каўняра ўніз' (Касп.; ветк., гом., Мат. Гом.).

**Плант** 'надзел, сядзіба, участак' (ветк., Мат. Гом.), 'план сядзібы' (Бяльк.), рус. *плант* 'чарцёж, план чаго-небудзь', 'агарод', 'участак селяніна'. Відаць, з польск. *plant(a)* 'план, праект', якое ў XVIII ст. (у выніку кантамінацыі) з франц. *plan* і італ. *pianta* 'план' (Варш. сл., 4, 222) < лац. *planta* 'ступня, падэшва'. Фасмер (3, 273) мяркуе, што рус. *плант*, *плантовать* 'абмяркоўваць, планаваць' — гэта народная формы лексемы *план*.

***Планы**, ст.-бел. *планый* 'дзікі' (Скарына). Са ст.-чэш. *planý*, якое першапачаткова абазначае 'неўрадлівы', 'пусты' (Булыка, Лекс. запазыч., 206) < прасл. **pol-nъ* < **pol'je* 'роўная, неапрацаваная зямля, зарослая дзікімі раслінамі, бязлесная, у адрозненне ад апрацаванай' (**niva*) і ўзаранай (**rol'ja*) (Махэк$_2$, 454).

**Пла́ска**, *пласка́* 'брыца, Echinochloa L.' (воран., Сл. ПЗБ). З польск. *płaski* 'плоскі', якое Банькоўскі (2, 617) выводзіць з **plaz-ьskъ* < **plaza*, параўн. *плазам* (гл.). Названа з-за прыплюшчанага (пласкаватага) сцябла расліны, асабліва ў ніжняй частцы. Параўн. іншыя назвы *плоска трава*, *пласку́ха* (каранiстая), *пласкуха́*, *пласку́ша, плашчуга́, плашчыца* (ЛА, 1). Магчыма, аднак, што некаторыя гэтыя лексемы звязаныя з *плоскі* (гл.).

**Пласкадо́нак** 'лодка з дошак' (барыс., Стан.), рус. *плоскадон* 'баркас'. Да *плоскі* і *дно* (гл.).

**Пласкані́**, *пласкане́, плаcко́нне, пласко́нні* 'маніцы, каноплі без семя, якія вырываюцца раней, Cannabis sativa L.' (докш., Янк. Мат.; Сцяшк. Сл.; полац., Янк. 2; Сл. ПЗБ; Мат. Гом.; ДАБМ, к. 283; мін.-маладз., Шчарб.; Янк. 1; Зн., дыс.; в.-дзв., Шатал), *пласконі*, *пласкуні*, слон. *пласкунэ́* 'выбіркі', *плоскані* 'тс' (Шат.; ашм., Стан.), *пласкуне́* 'тс' (Скарбы), *пласкуны́* (слуц., Нар. словатв.), *пласконне* 'валакно з мужчынскіх канапель' (Сл. ПЗБ), *пласконны* 'канапляны, зрэбны' (Шат.), *плоскані* 'маніцы', *пло́сканны* 'зрэбны' (Нас.). Укр. *пло́скінь*, польск. *płoskun, płoskuń, płoskoń, płaskun, płaskan*, *płoskonka, płoskuna, płaskuna, płoskwianka*, славац. *ploskovné,* славен. *ploskovníca*, балг. дыял. *пласконица* 'каноплі, якія рана паспяваюць'. Усе (пад уплывам **ploskъjь*) з прасл. **poskonь* > бел. *паскані* (гл.), якое з інда-іранск. **pus-kána* (< інд. *pú-mān* 'мужчына, самец' і *kána* 'каноплі'). Існуюць іншыя версіі: Коржынек (Зб. Янку, Praha, 1938, 136) мяркуе, што прасл.

**poskonь* прыйшло з угра-фінскіх моў, параўн. марыйск. *pot'aš-kəńe* 'мужчынскі + каноплі'. Таксама Махэк$_2$, 473; Праабражэнскі, 2, 112. Мюленбах—Эндзелін (3, 100) супастаўляюць прасл. **poskonь* з лат. *paskaņi, paskaņas, pastę̄nāji* 'тс', ст.-в.-ням. *faso* 'махры', нова-в.-ням. *Faser* 'валакно'; збліжаюць таксама са ст.-в.-ням. **flahso* 'каноплі', ням. *Flachs* 'тс' (БЕР, 5, 310). Грынавяцкене (Сл. ПЗБ) — з літ. *pleiskãnės* 'тс'. Гл. таксама Фасмер, 3, 339.

**Пласкакі́жы** 'вялікія бляхарскія пласкагубцы' (гродз., Нар. сл.; Скарбы). З рус. *пассати́жи* 'ручны камбінаваны слясарна-мантажны інструмент', якое з франц. *passe* 'праход' і *tige* 'стрыжань' (СИС, 1979, 374).

**Пла́скі**, *пласкі́* 'пакаты, плоскі' (беласт., іўеў., паст., Сл. ПЗБ). З польск. *płaski* 'плоскі, пляскаты, плыткі, плазаваты' < **plaz-ьskъ* < **plaza* — *плаз* (гл.), (Банькоўскі, 2, 622—623; Бязлай, 3, 51).

**Пласкі́** 'абложная зямля' (ганц., ДАБМ, камент., 858). З польск. *płoska* < *płosa* 'кавалак раллі сярод лесу', 'пас зямлі ў 12 загонаў' < прасл. *pol-sa* > бел. *паласа́* 'паласа' (гл.).

**Пласкі́р**, *пласкі́рка* 'гусцяра, Blicca Bjœrkna L.' (басейн Прыпяці, Жук.). Пашырана і без пачатковага *п-* (гл. *ласкір*). Большасць слав. назваў рыб з *п-* (укр. *плескачка*, *пляска́ня*, зах.-укр. *płaskurka*, серб.-харв. *plaskun*, *plaskurka*, макед. *пласкун* 'падлешчык, Rhodeus sericeus amarus (Bloch.)'; укр. *плескавка*, зах.-укр.-польск. *płaskačka*, *płaskurka*, серб.-харв. *pljȍska*, *pljoskavec*, славац. *ploska*, рус. *плёска* 'верхаводка', славен. *plóščič*, славац. *pleskač* 'лешч, Abramis brama' і інш.) асацыюецца з прасл. **pleskati*/ **ploskati*/ **pljuskati*, але бел. назвы дзякуючы народнай этымалогіі ўзыходзяць да *плоскі*, гл. (Бязлай, 3, 61; Махэк$_2$, 120). Каламіец (Рыбы, 13) піша пра "падвойную семантычную матывацыю" названай групы лексем.

**Пласко́нка** 'хустка', 'цёплая хустка' (смарг., івян., ДАБМ, камент., 944—945; Сцяшк. Сл.). Да *пласкані́* 'каноплі' (гл.) > 'хустка з канаплянага палатна'. Параўн. *канаплянка* 'тс' (ДАБМ, там жа).

**Пласкуга́**, *плашчуга́, пло́ска* 'пырнік з мяцёлкай' (іўеў., дзятл., Сцяшк. Сл.), 'пустазелле (макрыца, крапіва) — корм свінням' (Скарбы), *плашчу́га* 'брыца, Echinochloa crus galli Roem.' (гродз., мін., кобр., ЛА, 1), *плашчыца* 'тс' (рас., тамсама).

Польск. *płoskur, płaskur, płoskurnica'* 'сорт пшаніцы, Triticum squarrosum', 'ячмень-пласкун', *płascucha* 'пэўнае агароднае пустазелле'. Да *плоскі* (гл.). Названы паводле плоскай формы сцябла расліны (альбо коласа збожжавых).

**Пласку́рка** 'падлешчык' (паст., Сл. ПЗБ); зах.-укр. *пляску́рка*, польск. *płaskurka* 'гарчак, Rhodeus sericeus amarus (Bloch.)', серб.-харв. *pljoskun*, *pljoska*, *pločajka*, макед. *пласкун*, *ploskun*, балг. *плоска́че*, *плоска́л*, *площа̀к* 'тс' (Усачова, Этимология—1974, 112—113); чэш. *plaskač,* славац. *pl'askač,* славен. *plóščič,* серб.-харв. *plosk*, *plȍska*, балг. *пло́стник* 'лешч, Abramis brama L.'. Бел. лексема, магчыма, узыходзіць да польск. *płaski* 'плоскі' (гл.). Матывацыя: у гэтых відаў рыб цела сціснутае з бакоў. Зах.- і паўд.-слав. лексемы таксама звязаны з прыметнікам *плоскі* (гл.): макед. *плоскав*, серб.-харв. *пљоснат*, балг. *пло́сък, спле́скан* 'плоскі, сплюшчаны'.

**Пласку́тка** 'легкавая машына' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Пласку́ха**[1] 'рыба, падобная да ляшча' (Янк. 1; рагач., Арх. ГУ), 'плотка' (Шат.; петрык., хойн., рагач., Мат. Гом.; сміл., Стан.). Да *пласкір* (гл.).

**Пласку́ха**[2] 'плоскуні' (навагр., ДАБМ, камент., 870). Да *пласкані* (гл.). Параўн. таксама *плашчу́га* (гл.).

**Пласку́ха**[3] 'брыца, Echinochloa crusgalli Roem.' (шальч., маст., в.-дзв., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), *пласку́ша* 'тс' (маг., гом., маст., ЛА, 1), *пласку́шка* 'разнавіднасць пырніку' (Нар. Гом.). Да *пласка*, *пласкугá* (гл.).

**Пласку́ша** 'адрына, сяннік' (паўн.-усх., КЭС). Да *пла́скі* 'пакаты, спусцісты' (гл.) > 'хлеўчык з пакатай страхой'.

**Пласмо́** 'плашчыня, роўнядзь, плоскасць' (Дуж.-Душ.). Утворана па ўзору *плазьмо* ад *пласкі* 'пакаты, плоскі' (гл.).

**Пла́ст** 'спрасаванае граблямі бярэмя сена', 'шчыльны слой чаго-небудзь', 'гарызантальны слой пароды' (ТСБМ, Др.-Падб., Сцяшк. Сл., Яруш., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.; сміл., арш., Стан.; ЛА, 2), віл. *пласто́к* 'бярэмя, ахапак' (Жыв. сл.), 'плоскі слой гліны' (Вярэн; Жыв. НС), 'лён, што застаецца на шчотцы пры часанні кужалю' (міёр., Шатал.), 'пачаскі' (воран., Сл. ПЗБ), *пла́сцік* 'кавалачак парэзанай бульбы' (Вешт.), *пласце́нь* 'пласт мёду, сена' (Нас.), *пласт* 'укладванне палатна ў час бялення — гармонікам' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'сувой палатна' (барыс., ЛА, 4),

*плáстам* 'выцягнуўшыся' (Нас.). Укр. *пласт, пластів'я* 'слой', 'галіна хвойнага дрэва', 'складзеная капа сена', *пласц'éнка* 'абярэмак сена', *пластé* 'жардзіны, прызначаныя для будаўніцтва', рус. *пласт* 'валок скошанай травы', 'бярэмя сена, якое бярэцца віламі', польск., в.-луж. *płast* 'соты', чэш. *plást* і *plástev*, славац. *plást* 'тс', 'сотавы мёд', славен. *plâst, plâstje, plâstovje* 'слой', 'малы стог', серб.-харв. *плâст* 'капіца, стажок, тарпа', 'слой', макед. *пласт*, балг. *пласт* 'пласт'. Прасл. **plastъ* з мяркуемым першасным значэннем 'шырокі і тонкі слой, пласт' (Махэк$_2$, 455) ці 'мата, від пляцёнкі, падобнай да тканіны', якое з і.-е. **plōt-t-u-s*: ст.-інд. *práthati* 'пашырае', 'раскладаецца (пра труп)', літ. *išplė̃sti, išplė̃sti* 'пашырацца, распаўсюджвацца', лат. *plats* 'шырокі, прасторны', ст.-інд. *pṛthú-* 'шырокі', с.-в.-ням. *fletze* 'слой пароды', італ. *fiadone* 'пласт мёду'. Буга (РФВ, 73, 336) звязвае прасл. **plastъ* з літ. *plãštaka, plaštakà* 'далоня', Траўтман (223) і Мацэнаўэр (LF, 12, 349) — са ст.-в.-ням. *flah* 'плоскі', гл. *плоскі*.

**Пластавáць** 'паўзці па-пластунску' (ТСБМ; воран., маст., Сл. ПЗБ; Нар. Гом., Стан.). Першапачаткова азначала 'ляжаць пластом (пра чарнаморскіх казакоў)', параўн. укр. *плáстати* 'паўзці', 'ісці грузнуўшы, вязнуць', 'падкрадвацца', бел., рус. *пластýн* 'разведчык, які рухаецца пластом': пластуны ляжаць пластом у чаратах і плаўнях, падпільноўваючы ворага і патаемна падпаўзаючы да яго (Даль, 3, 121).

**Плáстаць** 'плёхаць, шлёпаць' (ТС). У выніку кантамінацыі *пля́скаць* і *пласт* (гл.) у значэнні 'што-небудзь доўгае і плоскае', параўн. бел. *плáстам* 'выцягнуўшыся', *пластáць, пластанýць* 'ударыць чым-н. доўгім' (Нас.) і рус. дыял. *плáстать* 'біцца з плёскатам (пра хвалі)', *пластанýться* 'ўпасці плазам'.

**Пластáць** 'патрашыць рыбу' (добр., Мат. Гом.), *плыстáньня* 'разразанне на кавалкі (звычайна пра сала)' (Юрч. СНЛ), рус. *пластáть* 'разразаць рыбу ўздоўж па хрыбетніку напалам для засолкі і сушкі'. Да *пласт* (гл.).

**Пласцíць** 'пластаваць сена' (паўн.-усх., паўн.-мін., усх.-гом., ЛА, 2), круп. *плáсціць* 'тс' (Нар. сл.; Жд. 2), *плáсціць* 'збіваць сена ў пласты' (докш., Янк. Мат.; навагр., Сцяшк. Сл.; добр., Мат. Гом.; в.-дзв., Шатал.; Сл. ПЗБ), *пластавáць* (сена) 'тс' (полац., Нар. лекс.; Сцяшк. Сл.; ц.-бел., гродз., жабін., маг., ЛА, 2), 'на-

кладваць пластамі адно на адно', 'разнімаць, дзяліць на пласты' (ТСБМ). Укр. *пластува́ти*, *пластать*, рус. маск. *пла́стить* 'складывать (сено) пластами', славен. *plástiti, plástati, plastenẹti, plastováti*, серб.-харв. *пла́стити* 'тс', макед. *пласти* 'напластаваць', балг. *пла́стя* 'пластаваць сена на лузе'. Відаць, прасл. **plastiti, plastovati* 'тс'. Да **plastъ*, гл. *пласт*. Сюды ж *пла́стма* 'пластом' (Бяльк.).

**Пласто́м** 'неадчэпна' (ТС). Відаць, да *пласт* (гл.). Семантычны перанос, аднак, няясны.

**Пла́стацца** 'хадзіць без мэты, марна трацячы час' (докш., Янк. Мат.), рус. *пла́статься* 'качацца, перакочвацца з боку на бок'. Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *plastė́ti* 'трапятаць; матляцца; трымцець', *plàstelėti* 'ўзмахваць (крыламі)', *plasténti* 'злёгку трымцець', 'развівацца'.

**Пласто́ўе** 'вялізныя сняжынкі' (ТС), параўн. укр. *пластове́нь* 'камякі снегу', *пластове́ць, пластові́к* 'снег, які падае камякамі', гуц. *пластів'я* 'слой зрубленых галін'. З прасл. **plastovьje* — зборны назоўнік ад **plast* > *пласт* (гл.).

**Пласту́н** 'карп, Cyprinus carpio' (астрав., Сл. рэг. лекс.), укр. *пластуне́ць* 'род чарнаморскага селядца', рус. раст. *пласту́н* 'дробны селядзец'. Відаць, да *пласт* (гл.), матывацыя, аднак, няясная.

**Пластуха́** 'брыца, Echinochloa L.' (шчуч., Сл. ПЗБ) — да *пласт* (гл.) з-за буйнога пакрыцця значнай плошчы гэтым пустазеллем (уплыў народнай этымалогіі). Аднак узыходзіць назва да *пласку́ха* (гл.), якая — паводле плоскага (знізу расліны) сцябла (ад *плоскі*).

**Пла́стыр** 'наклееная на тканіну ліпкая лекавая маса, якая прыкладаецца да ран, нарываў і да т. п.' (ТСБМ). З рус. *пластырь* 'тс' (новае запазычанне). Аднак трэба прымаць пад увагу тое, што гэтая лексема прыйшла на ўсх.-слав. тэрыторыю з прыняццем хрысціянства і ў стараж.-рус. мове вядомая з XI ст. Побач з ёй існавалі ст.-бел. *плястеръ*, *плястръ*, *флястръ* 'тс' (1518 г.), якія са ст.-польск. *plaster, plastr* (Булыка, Лекс. запазыч., 130), а яны — са ст.-в.-ням. *pflastar* 'павязка на рану', 'брук'; апрача гэтага ў бел. дыялектах пашырана лексема *пляйстар* (гл.).

**Пласце́нь** 'пласт (мёду, сена)' (Нас.). Да *пласт* (гл.). Утворана, відаць, пры дапамозе прасл. суфікса **-ьnь*.

**Пласціна** 'тонкая палоска цвёрдага матэрыялу (ТСБМ), 'плаха, палова распілаванага ўздоўж бервяна' (шальч., беласт., Сл. ПЗБ; воран., Сцяшк. Сл.; Мат. Гом.), рус. дыял. *пластина* 'палова распілаванага ў даўжыню бервяна, ад якога адрэзаны гарбылі; самая тоўстая дошка'. Беларуска-руская ізалекса. Да *пласт* (гл.). Сюды ж *пласцінка* 'тонкая палоска гліны, адрэзаная ганчаром' (баран., ЖНС).

**Плат**₁ 'намітка, галаўны ўбор у беларускіх жанчын накшталт рушніка' (Малч.), 'хустка' (пруж., Хрэст. дыял.; Касп.; пруж., Сл. ПЗБ; жлоб., Мат. Гом.; дзятл., Сцяшк. Сл.), 'тоўстая хустка, якою накрываюцца паверх верхняй вопраткі' (кобр., ДАБМ, камент., 945), *платóк* 'хустачка' (Некр.), 'хустка' (в.-дзв., даўг., Сл. ПЗБ), *плáцік* 'палатно, якое ўжываецца шапаваламі: намочаны плацік рассцілаюць на стале і на ім раскладваюць слой воўны' (Дэмб. 2), *платýшка* 'хустка, у якую ўвязвалі ежу ў поле' (паст., Сл. ПЗБ), *платóчак* 'пялёнка' (брагін., Мат. Гом.). Укр. палес. *плат* '3—4 м тонкага белага палатна, якім абвіваюць галаву маладой на вяселлі', зах.-валын. 'пакрывала для нябожчыка', 'кавалак грубага палатна, у які загортвалі насенне лёну ў час выцiскання з яго алею', бойк. *плат*, *плáтка* 'хустка', *платáти* 'латаць'; рус. *плат* 'вялікая хустка', 'рушнік', 'абрус', 'тканіна, павешаная на крыж', *платáть* 'латаць', *заплáтка* 'лапік'; польск. *płat* 'кавалак палатна, сукна, анучы; ануча, хустка, палотнішча, лата, лахман'; з XV ст. таксама 'кавалак скуры', *płatak* 'стракаты конь'; в.-луж., н.-луж. *płat* 'палатно, тканіна', *płataś* 'латаць', балг. *плат* 'тканіна, матэрыял', ст.-слав. платъ 'тс'. Прасл. **platъ* 'кавалак палатна як грашовая адзінка, тканіна', якое адносяць да гнязда дзеяслова *plesti*, *pletǫ* (Варбат, Этимология—1970, 62—63), і.-е. **plōt-o-s* 'прымітыўная тканіна, пляцёнка-мата' (Банькоўскі, 2, 619) < **plet-*, роднаснымі ім можна лічыць літ. *platùs* 'шырокі', лат. *plats*, ст.-грэч. πλατύς 'тс'. Пазней у прасл. **platъ* з'явілася значэнне 'кавалак скуры' (гл. *плáта*₂). Буга (Rinkt., 2, 516) для прасл. **platъ* выводзіць і.-е. **plā-to*, даючы, такім чынам, магчымасць растлумачыць бел. дыял. *платва* < польск. *płatwa* 'бэлька', *płatewka* 'аскепак, адколатае дрэва', *płatać* 'расшчапляць', укр. бойк. *платáти* 'адколваць'. З **platъ* 'палатно як грашовая адзінка' ўтварыўся дзеяслоў **platiti* > *плаціць* (гл.), а са значэннем 'латка' — дзеяслоў **platati* 'латаць' (Гаўлава, Etym. Brun., 39).

**Плат₂** ‘плацёж’ (Нас.), рус. маск. *плат* ‘плата’. Да *плат₁* (гл.).

**Пла́та₁** ‘выплата, узнагарода за працу, службу ці за атрыманую рэч’, ‘грашовая кампенсацыя’ (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Варл., Сцяшк. Сл.), укр. *пла́та*, рус. *пла́та*, польск. *płaca* (< **plat-ja*) ‘від аплаты ў судзе’ (XV ст.), пазней ‘плата за працу’, старое *płata* ‘аплата’, в.-луж. *płata* ‘плата, плацеж’, чэш. *pláce, plat*, славац. *pláca, plat*, славен. *plȃt* ‘узнагарода’, *pláča* ‘жалаванне’, серб.-харв. *пла́та, пла́ћа* ‘плата, заробак’, макед., балг. *плата* ‘тс’. Прасл. **plata*, **platja*, утворанае ад **platiti* (Банькоўскі, 2, 615), якое ад **platъ* > *плат₁* (гл.), было запазычана ў прагерм. мову (Мартынаў, Язык, 23—24). Паводле Фасмера (3, 274), ад **plata* ўтворана **platiti*.

**Пла́та₂** ‘гатунак са скуры каніны’ (Касп.), рус. дыял. *плат* ‘моцная скура для ботаў, якая не прапускае ваду’, польск. *płat* ‘кавалак скуры’. Развіліся з *плат₁* (гл.) ‘кавалак палатна’. Канец слова — пад уплывам *ску́ра*.

**Пла́тавы** (*пла́тывый)* ‘вышэйшай якасці’ (Юрч. СНЛ). Да *пла́та₂* (гл.).

**Плата́ць₁** ‘развяваць (на ветры)’ (шальч., Сл. ПЗБ), рус. смал. *плата́ться* ‘хістацца (на ветры)’. Відаць, роднасныя літ. *plasténti* ‘злёгку трапятацца, матляцца; развявацца’, лат. *plest* ‘распасціраць, распраўляць’, *plēst* ‘разрываць, ірваць’, спалучэнне *-st-* на славянскай глебе спрасцілася ў *-т-*, параўн. лат. *plosts* — *плот*. Сюды ж *плата́цца* ‘сноўдацца’ і польск. *płatać śe* ‘ісці, цягнуцца па гразі, снегу, з цяжкасцю выцягваючы ногі’. Гл. таксама *пласта́цца*.

**Плата́ць₂** ‘разразаць рыбу ўздоўж цела па хрыбетніку для прасолкі і правяльвання’ (полац., З нар. сл.), ‘разварочваць тушкі рыбін ўздоўж хрыбетніка для прасушкі’ (Крыв., ТС), *плата́нка* ‘салёная (разабраная) рыба’ (петрык., ЖНС), *рыба плата́ная* ‘тс’ (Маш.). Укр. *плата́ти* ‘распластваць, пластаваць’, рус. смал., пск., цвяр. *плата́ть* ‘разбіраць рыбу, разразаючы яе ўздоўж напалам’, польск. *płatać, roz-płatać* ‘разбіраць рыбу, жывёлу на часткі, на 2 доўгія палавінкі’, якое Банькоўскі (2, 619) выводзіць з *roz-ciąć na płaty*. З *пласта́ць* (гл.), у якім пад уплывам набліжанага семантычна *плат* *-ст-* спрасцілася ў *-т-*.

**Пла́тва** ‘бервяно, якое ляжыць на бэльках столі пад кроквамі’ (Тарн.). З польск. *płatwa* ‘тс’, *płatwica, płatewka*, якое Бань-

коўскі (2, 620) выводзіць з *płatać* 'вырубаць у бэльцы зарубкі для бэлек', а гэтае — беспадстаўна з ням. *Platte* (гл. яшчэ Варш. сл., 4).

**Платва́** 'плотка, Rutilus rutilus' (лудз., вільн., Сл. ПЗБ), *плату́шка* 'тс' (паст., Сл. ПЗБ), укр. *плітка, плотва, пліт, плить, плотиця, плотовиця* 'тс', рус. *плотва́, плотвица* 'карп, Cyprinus idus', 'гусцяра', 'краснапёрка', 'дробны лешчык'; польск. *płocica, płoć, płotka*, ст.-польск. *płota, płotka*, палаб. *plütvaicə* 'тс', н.-луж. *płośica*, в.-луж. *płoćica*, чэш. *plotice*, славац. *plotica* 'плотка', славен. *platíca* 'ялец, Leuciscus leuciscus', 'лешч, Abramis brama', серб.-харв. *plòtica, plȍčica* 'ялец', балг. *платика* 'лешч, Abramis brama', макед. *платица* 'від рыбы'. Магчыма, з прасл. **ploty*, **plotъve* (Фасмер, 3, 285). Назва рыб выводзіцца з лац. *platessa* 'камбала' (Праабражэнскі, 2, 77) або супастаўляецца з літ. *platùs* 'шырокі', ст.-грэч. *πλατύς* 'плоскі, шырокі' (Банькоўскі, 2, 624). Прасл. **plotvica* (Махэк$_2$, 462) паходзіць з прыметніка на *-ū*-аснову, які страціўся, і пасля гэтага *-v-* стаў непразрыстым і выпаў у некаторых мовах (слав. дыялектах). З **plotvica* паходзіць усх.-ням. *Plötze* = ням. *Flunder* 'тс'. Каламіец (Рыбы, 74) лічыць сувязь з *плоскі* другаснай, першапачатковая матывацыя ад *плыць*, што тлумачыць ужыванне слова для называння розных рыб; прасл. **plъtь/ plъtъ* ідэнтычнае **plъtъ*, гл. *плыт*.

**Пла́тка** 'прайграная ад недабору біткі гульня, рэміз' (Нас.). З польск. *płatka* 'стаўка ў гульні' > 'рызыка, небяспека', якое з *płacić* 'плаціць' (Банькоўскі, 2, 619).

**Платкі́** 'ручнік на іконах' (Касп.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *платок* 'ручнік' (светлаг., Мат. Гом.), *платкі́* 'галаўны ўбор' (ст.-дар., гом., ЛА, 4). Да *плат$_1$* (гл.).

**Пла́тна**, *пла́тно* 'з плацяжу', 'шчодра, багата' (Нас.), 'выгадна' (ТС; гродз., Сл. ПЗБ), *пла́тны* 'верны ў плацяжы, плацежны, шчодры' (Нас.). З польск. *płatno* (з XV ст.) 'варта, выгадна, аплочваецца' < *płatny* 'цэнны, дарагі, карысны, вартасны', ст.-чэш. *platný,* якія з прасл. **plat-ьnъ* < **platiti* 'плаціць' (Банькоўскі, 2, 620). Варш. сл. (4) выводзіць значэнне польск. *płatno* з ням. *giltig* 'варта, каштуе, мае цану'.

**Платнер**, ст.-бел. *платнеръ* 'збройнік' (1498 г.). Запазычана са ст.-польск. *płatnierz* (XIV ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 62), якое з с.-в.-ням. *plat(e)ner* < *plate* > польск. *płat* 'кавалак тоўстай

бляхі як частка рыцарскага адзення', *płaty* 'зброя' (Банькоўскі, 2, 618—619).

**Платніна** 'якая-небудзь адна адзежына', *плацціна* 'тс' (ельск., клім., ЛА, 4), рус. дыял. *платни́на* 'адзенне'. Першапачаткова 'палатняная адзежына' — з **platь-n-in-a* < **plat-ьn-o* > *палатно* (гл.).

**Платніна́** 'моц, сіла, дзябёласць' (Ян.). З рус. *плотный* 'дзябёлы, тоўсты, сыты' і суф. *-ін-а* са значэннем 'характарыстыка асобы па названай прымеце', параўн. ілюстрацыю: *сын прыйшоў з арміі — дак вышына́ да платніна́!*

**Платня́к** 'мажны мужчына' (Янк. 3; Жд. 3). Ад рус. *плотный* 'тоўсты', якое, відаць, з *плътьнъ* < прасл. **plъtь* > *плоць* (гл.).

**Плато́к** 'хустка' (Бяльк.), 'хустка свайго вырабу' (Сцяшк. Сл.). Да *плат*$_1$ (гл.).

**Плату́шнік** 'лодка, выдзеўбаная з дрэва' (Жд. 3) — у слоўніку, відаць, памылкова *пату́шнік*. Да *платаць*$_2$, параўн. польск. *płatać* 'рабіць жолаб, выдзёўбваць' (Банькоўскі, 2, 620), з якога і *płatwa* > *пла́тва* (гл.). Для таго, каб зрабіць выдзеўбаную частку лодкі разложыстай, туды лілі гарачую ваду і ставілі распоркі.

**Платы́** 'перагародка на рацэ, яз' (лях., Сл. ПЗБ). Мн. л. ад *плот* (гл.). Аналагічна рус. дыял. *плоть* 'плаціна, гаць' ад *плот* і суф. *-ь* з адцягненым значэннем.

**Плаў**$_1$ 'бераг, падмыты вадой' (чырв., З нар. сл.), 'зыбучы травяны дзірван на зарослым возеры' (Сл. ПЗБ; ТС; в.-дзв., Нар. сл.; хойн., рэч., добр., Мат. Гом.), 'нізіна, якая ў разліў залівaецца вадой' (Касп.), *плав* 'прорва, топкае балота, дзе калышацца верхняе покрыва', *плаў* 'акно на балоце' (Сл. Брэс.; Нар. лекс.; ЛА, 5), *плавы́* 'азёры, багатыя рыбай, пакрытыя зыбкім і непраходным дзірваном' (Нік. Очерки), *плаў*, *плавы* 'нізкая мясцовасць, дзе рака праходзіць праз балота' (Касп.), *плавок* 'дрыгвяністае балота' (жытк., стол., Яшк.), 'забалочаны вадаём; зыбкае бязлеснае балота; гразкае месца, заліўны луг ля ракі ці возера' (палес., Талст.; слаўг., жытк., стол., Яшк.), 'плывучае покрыва з рэштак раслін, плаў на балоце, ля возера' (палес., ЛА, 2); 'плывучае па вадзе смецце' (ветк., добр., Мат. Гом.). Укр. *плав* 'плывучы востраў з чароту і невялікіх раслін', 'зыбучы дзірван', 'смецце і ўсялякія прадметы, што плывуць па рацэ', рус. наўг.

*пла́вы* 'тарфяная багна', пск. *плавье, плавьё* 'балота з купінамі', 'заліўная сенажаць', 'нанесены глей', польск. *pław* — пра розныя прадметы, што плаваюць на вадзе і ў вадзе, 'цякучая рака, кроў', сёння — 'водны транспарт', 'плаванне', 'плыт'; славен. *splàv* 'плыт', 'тое, што прынесена вадой', серб.-харв. *plȃv* 'лодка, човен', *splȃv* 'плыт, паром; баркас', макед. *сплав* 'плыт'. Прасл. **plavъ/ plavь* < і.-е. **plō̆w-o-s* (Банькоўскі, 2, 620). Да *плыць, плы́сці* (гл.). Сюды ж: *на пла́ве* 'ў стане плавання, на вадзе' (ТСБМ).

**Плаў₂** 'нераст рыбы' (паўн.-усх., КЭС), рус. смал. *плав* 'нераст', польск. *pław* 'выцяканне насення, палюцыя; месячныя ў жанчын'. Відавочна, з польск. мовы.

**Плаўба́** 'плаванне' (Стан.). Новаўтварэнне паводле чэш. *plavba* 'тс'. Ад яго пры дапамозе бел. суф. *-(б)іт* утворана таксама *плаўбіт* 'матрос' (тамсама), як *барацьбіт*.

**Пла́ўваць₁** 'здрыгацца, дрыжаць (аб сале ў свінні)' (ганц., Сл. ПЗБ). Відаць, балтызм, параўн. літ. *plevénti* 'дрыжаць, міргацець'.

**Пла́ўваць₂** 'плаваць' (Сцяшк. Сл.). Да *пла́ваць*, якое з *плыць, плы́сці* (гл.). Суфікс *-ва-*, далучаны да асновы **plav-* (**pla-vati* < **plovati* + **plaviti*), надае дзеяслову працілеглае, неабмежаванае значэнне. Прычынай такой мены асновы была "незвычайнасць" дзеяслова *плыць* < прасл. **pluti, plovǫ* < і.-е. **pleu̯-tei̯, pleu̯-ō* (параўн. таксама рус. перм. *пла́иться* 'плыць'; ст.-чэш. *plvěti, plv́u* 'тс', бел. *аплавітна* 'ў дастатку, багата') альбо ўплыў літ. *pláuti* 'мыць'.

**Пла́ўдыр** 'вечны бадзяга' (Касп.). Балтызм. Параўн. літ. *plavū̃nas* 'бадзяга' < *plavinė̃ti* 'бадзяцца, цягацца, красці'. Суфікс *-дыр*, як у *бабзды́р, пупзды́р* (гл.).

**Пла́ўе** 'зыбкае балота' (бяроз., ЛА, 5). Рус. пск. *плавье, плавьё* 'тс', 'заліўны луг, забалочанае месца з купінамі'. Гл. *плаў₁*.

**Пла́ўкі₁** (*пла́вкый)* 'пакаты, спадзісты' (драг., Клім.; в.-дзв., даўг., Сл. ПЗБ), 'пакаты (аб страсе)' (ЛА, 4), укр. *плавки́й*, рус. арханг., кур. *пла́вкий* 'плаўны'. Адназоўнікавае ўтварэнне з суф. *-к-і* са значэннем 'мае ў сабе тое, што названа ўтваральным словам' ад **plavъ*, параўн. польск. *pław* — пра цякучую ваду. Спачатку прыметнік меў суф. *-ьn-ъ* — **plavьnъ*: *пла́ўны* 'пакаты (аб

страсе)' (полац., чаш., круп., чавус., ЛА, 4), *плы́ўны* 'тс' (барыс., тамсама), *плáўны* 'павольны, без ветру (пра дождж)' (Сл. ПЗБ), пазней у некаторых дыялектах адбылася мена суф. *-ьп-ъ* на больш характэрны *-ъk-ъ*, як у *гнуткі*, *грузкі*, *даўкі*, *коўзкі*, *мулкі*.

**Плáўкі**$_2$ мн. л. 'паплаўкі (з бярозавай кары)' (рас., навагр., Сл. ПЗБ), рус. прыбалт. *плавкú* 'змацаваныя паміж сабой дзве вязкі саломы ці чароту, на якіх дзеці вучацца плаваць'. Семантычнае ўтварэнне ад *плаваць*, гл. *плыць*, або з польск. *pław*, *pławik* 'паплавок', 'кавалкі кары, коркі, дрэва, прымацаваныя да аднаго края рыбацкай сеткі', параўн. аднак яшчэ ст.-рус. *плавокъ* 'паплавок' (1608 г.).

**Плáўкі**$_3$ 'кароткія, шчыльныя мужчынскія трусы для плавання' (ТСБМ). З рус. *плáвки* 'тс'.

**Плáўкі**$_4$ 'тлустае сала, якое выдзяляе шмат тлушчу' (пін., стол., ЛА, 4), *плóвкэ (сало)* 'тс' (стол., тамсама), *плáўкі* 'багаты тлушчам' (ТС), 'слізкі', 'слабкі (нітка, вяроўка)' (Сл. ПЗБ); *плаўкí* 'слізкі, гладкі' (саліг., Нар. словатв.), *плáвко* 'гладка, лёгка' (ТС). Укр. *плавкúй* 'роўны, гладкі, слізкі', рус. валаг. *плáвкий* 'які лёгка плыве'. Да *плáвіць*, якое з *плыць*, *плы́сці* (гл.). Семантыка развівалася ў напрамку: 'здольны плавіцца' > 'багаты тлушчам' > 'слізкі, гладкі'.

**Плáўкі**$_5$ 'жоўты плывунец, Utricularia L. (?)' (Сцяшк. Сл.). Да *плáваць* < *плыць, плы́сці* (гл.). Расліны не маюць каранёў і нібыта "плаваюць" у стаячых водах зарослых вадаёмаў і балот.

**Плаўкí** 'раска, Lemna minor L.' (лельч., ЛА, 1). Да *плáваць* < *плыць, плысці* (гл.). Матывацыя: плоскія лісткі "плаваюць" — знаходзяцца на паверхні стаячых ці павольна плывучых вод. Параўн. іншыя роднасныя назвы раскі: в.-дзв. *плаў*, бабр. *плáўня*, саліг. *плавунец*, слон. *плаву́чка, плаву́шка*, круп. *пуплавéнь* (тамсама). Знаходжанне раскі на паверхні вады атаясамлівае яе з паплаўком — гл. *плáўкі*$_2$. Значэнне 'майнік' (ТС), відаць, вызначана недакладна.

**Плáўлі** 'забалочаны вадаём; зыбкае бязлеснае балота, дрыгва; гразкае месца' (усх.-палес., Талст.), укр. *плáвля* 'тс'. Да *плáўе* (гл.), у якім *-j-* > *-л'-*.

**Плáўні** 'забалочаныя берагі рэк і астраўкі, парослыя водалюбівай расліннасцю, якія затапляюцца вясной у час паводкі' (ТСБМ). Укр. *плáвня* 'поплаў, чаротавыя зараснікі, якія заліва-

юцца вадой', рус. пск. *пла́вня* 'зыбучае балоцістае месца, дрыгва', арханг. *пла́вни* 'нізкія, заліўныя лугі', польск. дыял. *pławnia* 'тс'. Да *плаў* (гл.) і суф. *-н-я* 'месца, дзе быў плаў', але, магчыма, да *плаўі*, у якім *-j- > н'* (пад уплывам рус. *пла́вни* 'плаўні'). Параўн. таксама Бэрталь, ScSl, 15, 294.

**Плаўні́к**$_1$ 'орган руху ў рыб і водных жывёл' (ТСБМ). З рус. *плавни́к* 'тс', якое ўзнікла нядаўна як навуковы тэрмін, яшчэ ў "Поўным руска-польскім слоўніку" (Варшава, 1894 г.) польск. *pletwy* (сучаснае *płetwa*) адпавядае рус. *пла́вательные перья*, як і ў Даля (3, 118).

**Плаўні́к**$_2$ 'вуда' (Жд. 3). Няясна. Малаімаверна, каб слова ўтварылася з польск. *pławnik* 'паплавок у вуды' — наватвор з 1908 г. (Банькоўскі, 2, 621), у выніку пераносу значэння з часткі на цэлае.

**Плаўні́к**$_3$ 'рыбацкі човен' (Бяльк.). Утворана пры дапамозе суф. *-(н)ік* ад польск. *pławny* 'прыдатны да плавання'.

**Пла́ўшы** мн. л. 'перхаць' (воран., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *plaušà* 'тс' (Грынавяцкене, тамсама).

**Пла́ха**$_1$, *пла́шка, плашча́к, плахты́на, плу́ха, плушка* 'палавіна расколатага ўздоўж дрэва' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Янк. 3, Шушк., Яруш., Маш., Некр., Гарэц., Янк. 1, Шат., Касп., Сл. ПЗБ, ТС, Варл.) 'вялікая трэска' (шчуч., шальч., чэрв., Сл. ПЗБ), 'маснічыны' (Сцяшк. МГ), *пла́шычка* 'плаха' (Юрч. СНЛ). Укр. харк. *пла́ха* 'шырокая дошка; палена, плаха', рус. *пла́хта* 'дошка', 'аполак', 'масніца', 'палка', 'пень', 'зрубанае і ачышчанае ад сукоў дрэва'. Усх.-слав.-польск. ізалекса, роднасная прыметніку *плоскі* (Праабражэнскі, 2, 70; Фасмер, 3, 275) < прасл. **ploskъ* 'плоскі', у якім карэннае *-о-* атрымала экспрэсіўнае падаўжэнне (Махэк$_2$, 462), параўн. таксама польск. *płocha* 'бёрда', чэш. *plochý* 'плоскі', славац. *plošina* 'раўніна', 'пляцоўка, платформа'. Яму адпавядаюць лат. *plaskains, plāskains*, літ. *plókščias* (< *plāšk-tjas*) 'плоскі' — у такім выпадку можна дапусціць існаванне ў прасл. мове формы **plaskъ*, параўн. польск. *płaski, płaskaty* 'роўны, гладкі', ляш. *pl'askaty*, чэш. *splaskovati* 'сплюшчваць', 'спадаць (пра пухліну)', бел. *пласка* 'брыца, Echinochloa L.', *пласкі* 'пакаты'. Дапускаецца роднаснасць са ст.-в.-ням. *flah* 'плоскі' (Ільінскі, ИОРЯС, 20, 3, 112), са ст.-грэч. πλάξ 'паверхня, плошча', 'дошка' (Голуб—Ліер, 378). Сюды ж *плаха, пла́хта* 'вілкападобная частка

сахі, на якую набіты жалезныя сашнікі' (Выг., Бес., Янк. 3, Тарн., Сл. ПЗБ, Дэмб. 2, Смул.; Сержп. Земл.), 'рама, аснова драўлянай бараны' (Сл. ПЗБ; Дэмб 2; чэрв., Хрэст. дыял.), а таксама *пла́шка* 'палова капусты' (Вешт.; калінк., Сл. ПЗБ), *пла́харэм* 'плазам' (ТС). У слав. мовах назіраецца чаргаванне зычных асновы *sk, k,* і *x* (Брукнер, 419), а таксама падкрэсліваецца генетычная тоеснасць форм **plaskъ* з **plax-ъta* (Фасмер, 3, 276).

**Пла́ха₂**, *пла́шка, пла́хта, пла́шачка, плашчы́на, прыпла́шнык* 'доўжань, века вялікай бакавой адтуліны ў вуллі-калодзе' (лун., Шатал.; паст., Сл. ПЗБ; Нікан.; віц., гродз., брэсц., гом., ЛА, 1), 'драўляны каркас лежака' (паст., Сл. ПЗБ). Да *пла́ха₁*.

**Пла́ха₃**, *пла́шышча* 'шырокі кавалак поля', 'пласт сала' (ТС; светлаг., SOr, 39, 352; Юрч. СНЛ), *плахві́на* 'пляц' (ТС); *пла́ха* 'элемент узору на тканіне ў форме прамавугольніка' (брагін., З нар. сл.), *пла́шкі* 'ўзор у 4 ніты' (Уладз.); *пла́хі* 'плахта, несшываная спадніца' (Ян.). Да прасл. **plaxa* (Банькоўскі, 2, 614) > *плаха₁* (гл.).

**Плахе́й** 'злы' (чэрык., ЛА, 5). З рус. *плохой* 'тс' (Карскі, 2, 230).

**Плахі́₁** (*плахі́й*) 'дрэнны, нядобры' (Бяльк.; чэрв., пух., даўг., Сл. ПЗБ; Ян.), 'непрыстойны' (віл., Сл. ПЗБ). З рус. *плохой* 'кепскі, дрэнны', 'няўжыўчывы', 'непрыгожы, несамавіты', 'дурны, някемлівы, бесклапотны' і інш., якое з'яўляецца глухім варыянтам балтызма *благі́* — літ. *plõgas* 'благі, дрэнны, паганы', 'худы', 'слабы', параўн. прасл. **krasь* — літ. *grõžis* 'краса', прасл. *xytrъ* — літ. *gudrùs* 'хітры', альбо пад уплывам рус. *плохой* бел. *благі́* змяніла звонкія зычныя на глухія.

**Плахі́₂** 'спакойны, добры' (шчуч., пруж., Сл. ПЗБ), 'слабы' (Ян.), 'ціхі, сціплы' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Укр. *плохи́й* 'спакойны, ціхмяны, лагодны, рахманы, пакорлівы', польск. *płochy* 'палахлівы, дзікі', 'ветрагон', 'марны, нікчэмны', каш. *płoxi* 'тс', 'хуткі', чэш. *plachý* 'палахлівы, асцярожны', 'сарамлівы', ц.-слав. *плахъ* 'баязлівец', стараж.-рус. *плахъ* 'трывога', *плахый* 'які памыляецца', славен. *pláh* 'сарамлівы', серб.-харв. *пла̑х* 'парывісты, запальчывы', 'круты', макед. *плах*, балг. *плах* 'баязлівы'. Прасл. **polxъ,* параўн. поўнагалосныя формы: бел. *полах*, рус. і ўкр. *по́лох*, роднасныя ст.-грэч. πάλλω 'ўзбуджаю, узварушваю', πελεμίζω 'трэсці (трасу)', ст.-нарв. *felms-fullr*, гоц. *us-filma* 'напалоханы', ст.-нарв. *fǿla* 'напалохаць' < і.-е. **pólo-*/ **péle* (Бяз-

лай—Сной, 3, 45; Фасмер, 3, 317). Бел. і ўкр. формы з *пло-*, відаць, пад уплывам польскай мовы.

**Плахо́тка** 'андарак не шыты, а з цэлага кавалка падвязаны' (гом., Шн.). З *пла́хота* < *пла́хта₁* (гл.) і суф. *-ъka*.

**Пла́хта₁** 'жаночае адзенне тыпу спадніцы з дзвюх сшытых да палавіны полак' (ТСБМ), 'вялікая хустка', 'посцілка' (Сл. ПЗБ), 'бялізна' (Бес.), 'пялёнкі' (Федар. 6), 'дзяруга' (Бес.). Укр. *пла́хта* 'спадніца, сшытая да палавіны', 'хустка', 'прасціна', 'палатно'; рус. *пла́хта* 'від спадніцы', 'хустка, вышываная золатам'; 'мяшок з грубай тканіны', 'валасяніца'; польск. *płachta, płacheta* 'кавалак грубага палатна', 'від прасціны', 'посцілка', 'хустка', 'тоўстая хустка, плед', палаб. *ploxtǎ* 'абрус, прасціна'; н.- і в.-луж. *płachta* 'прасціна', 'ветразь', 'экран', 'посцілка'; чэш. *plachta* 'брызент, тэнт на фуры', 'ветразь', славац. *plachta* 'тс', 'прасціна', 'занавеска', славен. *pláhta* 'навес, тэнт', 'гунька', 'дзяруга', серб.-харв. *пла̏хта* 'абрус', 'прасціна', 'чахол на мэблю'. Прасл. **plaxъta*, першаснае значэнне якога цяжка вызначыць (Банькоўскі, 2, 614) — 'кавалак грубага палатна' (?), — звязана генетычна з *пла́ха, пласкі* і з *плашч* (Міклашыч, 248; Ільінскі, ИОРЯС, 20, 3, 112; Брукнер, 419; Фасмер, 3, 276; Бязлай, 3, 46). Булыка (Лекс. запазыч., 110) ст.-бел. *плаха* 'палатно' адносіць да запазычанняў са ст.-польскай мовы — няма падстаў. Сюды ж: *пла́хта* 'ўстаўная частка крыла ў млыне — шчыт з тонкай дранкі' (слуц., Нар. словатв.).

**Пла́хта₂** ў выразе: *пла́хтой* 'спосаб укладкі дошак для прасушкі ў выглядзе трохвугольніка — адна на адну' (бяроз., Шатал.; Сл. ПЗБ). Да *пла́ха₁* (гл.).

**Плац₁** 'прысядзібны ўчастак' (стаўб., Прышч.), ст.-бел. *плацъ* 'зямельны ўчастак у горадзе' (з XVII ст.). Відаць, непасрэднае запазычанне з ням. *Platz* 'плошча', гл. *пляц*.

**Плац₂** 'шоўк' (Тураўшч. 1, 66). З польск. *płócienko* 'тс', утворанае, як *плат*.

**Плацда́рм** 'мясцовасць, на якой разгортваецца ваенная аперацыя' (ТСБМ). З рус. *плацдарм* (у пач. XVIII ст. яшчэ *пласдарм*), якое з франц. *place d'armes* пад уплывам *плац* (Фасмер, 3, 276).

**Плацэ́нка** 'палатно з фарбаваных нітак, вытканае ў рады' (Нас.; гродз., Мат. АС), 'шарачак, саматканы матэрыял у палоску ці ў клетку' (Яруш., Варл.), *плацэ́нко, плацэ́нак, плуценко*

‘тс’ (Сцяц.; Сл. ПЗБ), ‘ільняная тканіна для сукенак і спадніц’ (мядзв., Нар. сл.; маст., Сцяшк. Сл.), ‘палатно ў 4 ніты; снавалася і ткалася фарбаванымі ніткамі, узорамі — клетачкай, прызначалася на хвальбоны’ (Жд. 3), *плоцёнок* ‘льняная, даматканая спадніца’ (кам., Шатал.), *плацёнак* ‘тс’ (плешч., ДАБМ, камент., 934). З польск. *płócienko* ‘тонкае, дарагое палатно, звычайна шаўковае’ (з XVI ст.), якое з *płótno* < *палатно́* (гл.). З бел. мовы слова запазычана рус. гаворкамі: наўг., пск.: *платёнко* ‘сукенка’, ‘адзенне’, ‘верхняя вопратка’, валаг. ‘прадметы ніжняй бялізны’. Сюды ж *плацянковы*, *плацёнкавы* ‘баваўняны’ (Сцяшк. Сл.), ‘парцяны, з тонкага даматканага палатна’ (Жд. 1, Нас., Сл. ПЗБ; навагр., карэліц., Жыв. сл.).

**Пла́ціна** ‘высакародны метал шаравата-белага колеру’ (ТСБМ). З рус. *пла́тина* ‘тс’, якое праз ням. *platina* ці непасрэдна з ісп. *platina* ‘кепскае срэбра’, вытворнага ад ісп. *plata* ‘срэбра’ (Фасмер, 3, 275), — апошняе адпавядае прасл. **plata*: у той час сярэбраны посуд уваходзіў у манетарную сістэму (Мартынаў, вусн. паведамл.).

**Плаці́на₁** ‘гідратэхнічнае збудаванне на рэках і вадаёмах для падняцця ўзроўню вады’ (ТСБМ; Сл. ПЗБ). Да *плот* (гл.) і суф. *-ін-а*. Найбольш імаверна, што слова прыйшло з рус. моўнай тэрыторыі. Параўн. рус. паўн. *плоти́на́* ‘пярэспа’, разан., вароніж. ‘гаць’, омск. ‘ніжнія бярвёны плыта’, арх. ‘фундамент дома з бярвенняў і інш. пабудоў’.

**Плаці́на₂** ‘невялікі кавалак палатна, анучы’ (Шат.), *плаці́нка* ‘абрэзак матэрыі’ (ТС). Да *плат*, *палатно* (гл.).

**Плаціна́** ‘агароджа з жэрдак’ (слуц., ДАБМ, камент., 811), ‘доўгая і тонкая жардзіна для плота’ (Варл.), *плаці́на* ‘жэрдка ў плоце’ (астрав., Сл. ПЗБ), *плацян́ка* ‘накрытая паветка, сцены якой з паркану’ (Варл.). Да *плот* (гл.). Сюды ж *пла́ціна* ‘жэрдка (з плоту)’ (гом., Мат. Гом.).

**Плаці́шка** ‘ручнік’ (паўн.-усх., Шн. 2). Да *плат*, *палатно* (гл.). Суфікс *-ішк-* больш характэрны для рус. моўнай тэрыторыі.

**Плаці́ць** ‘аддаваць грошы або што-небудзь каштоўнае за што-небудзь’ (ТСБМ, Яруш., Нас.; Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Да прасл. **platiti*, якое ад **platъ* ‘кавалак палатна ці іншай тканіны’ > *плат* (гл.).

**Пла́цце**, *пла́цьця, пла́це, пла́ця, пла́цё, плацье, пла́тьте, пла́тье* ‘сукенка’ (ТСБМ, Юрч., Янк.1, Касп., Сл. ПЗБ, Сцяшк.

Сл., Бяльк.; ганц., Сл. Брэс.); 'бялізна' (ТСБМ, Юрч.; ст.-дар., Жыв. НС; слонім., рагач., Арх. ГУ; Сцяшк. Сл., Некр., Янк. 1; быx., Янк. Мат; Маш., Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.; пін., Сл. Брэс.; петрык., Шатал.; навагр., калінк., З нар. сл.; навагр., Жыв. сл.; слонім., лельч., ваўк., шчуч., Нар. лекс.); 'адзенне' (Маш., Нас., Сл. ПЗБ); 'брудная бялізна' (паўсюдна, акрамя гродз., ЛА, 3). Укр. *пла́ття* 'адзежа', 'бялізна', рус. *платье* 'дарагое адзенне', 'сарафан', 'спадніца'; 'бялізна'; польск. *płacie* 'анучы, акраўкі, хусты, кавалкі палатна, брудная бялізна'. Прасл. **platьje* < **platъ* > *плат* (гл.); Фідроўская (Зб. памяці Багародзіцкага, 143) лічыць слова запазычаным са ст.-слав., што не мае падстаў, калі выводзіць яго з прасл. **platъ*, параўн. ESJSt, 11, 652.

**Плацянка** 'збудаванне з лазы для захоўвання сена' (віл., Сл. ПЗБ). Са словазлучэння *плацяна́я* (*будыніна*) < *плот* (гл.).

**Плач** 'праліванне слёз ад болю, гора, жаху і гукі, якія суправаджаюць гэта' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.), *са плачо́м* 'плачучы' (бялын., Янк. 3), *пла́чма плакаць* 'плакаць, памнажаючы слёзы ўвесь час' (Нас.), *плачлі́вы* 'слёзны', 'слязлівы'; укр. *плач*, рус. *плач* 'плач', польск. *płacz*, в.-луж. *płač*, н.-луж. *płac*, чэш. *pláč*, славац. *plač* 'тс', славен. *plàč* 'плач', серб.-харв. *пла̏ч*, макед., балг. *плач*, ст.-слав. плачь 'плач'. Прасл. **plačь* < **plak-jь* ад **plakati* > *пла́каць* (гл.).

**Плашані́ска** (*плашані́ско*) 'непаслухмяны' (пруж., Сл. ПЗБ). Да *плахі́* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ěn-* (як і *слухм-ян-ы*) + *isk-o*. Параўн. *плашэй* 'горш' (карм., Мат. Гом.).

**Пла́шка** 'палавіна качана квашанай капусты' (Сцяшк. Сл.), 'палова качана капусты' (зах.- і паўн.-зах., калінк., ЛА, 4); 'нешырокая паласа поля' (стол., Нар. лекс.), 'доўгая палоска на посцілцы, вытканая ўзорам у віленку: шыракаватыя рады, вытканыя пражай рознага колеру' (брагін., Нар. лекс.); 'палавіна цурбана, расколатага напалам' (Касп., Бяльк.), 'бервяно, расколатае па даўжыні на 2—3 палены' (ашм., Стан.), 'вязы ў санях' (гродз., ЛА, 2), *пла́шкі* 'ставы, сам ткацкі станок' (брагін., ЛА, 4), гродз. *пла́шка* 'бервяно ў зрубе калодзежа' (Цых.), 'шырокі кавалак (сала, поля і інш.)', 'расколатае палена' (ТС). Да *пла́ха*$_1$, *пла́ха*$_3$ (гл.).

**Плашч** 'лёгкае паліто пераважна з непрамакальнай тканіны' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.). Укр., рус. *плащ*, польск. *płaszcz*, н.- і в.-луж. *płašć*, чэш., славац. *plášť*, славен. *plášč*, серб.-харв.

*плâшт*, харв. чак. *plašć*, макед. *плашт*, балг. *плашт(ът)*, ст.-слав. плащь 'плашч'. Прасл. **plašćь* не зусім яснага паходжання. Праабражэнскі (2, 70), Брукнер (420) звязваюць гэтую лексему з *плат*; больш імаверна суадносіць з *плоскі*, *пláскі* (гл.) (Ільінскі, ИОРЯС, 20, 3, 113; Міклашыч, 248; Фасмер, 3, 277; Бязлай, 3, 49). Банькоўскі (2, 618) звязвае з прасл. **plast-ъ* > *пласт* (гл.), да якога далучаўся суф. *-*jь* > **plastjь* 'пастухоўская апанча, густа сплеценая з пасмаў воўны'.

**Плашчавíна** 'плошча' (Ян.). Да *пláскі* (гл.) > *плашчáвы*. Параўн. рус. забайк. *плащáвый* 'разгалісты'.

**Плашчáк₁**, *плошчáк* 'абцясаная бэлька ў сцяне' (Тарн.; астрав., лях., Сл. ПЗБ), 'брус' (івац., Нар. сл.), 'бервяно з плоскімі бакамі' (Жд. 1), 'палова распілаванага ўздоўж бервяна' (кобр., Нар. лекс.; Сцяшк. Сл.), 'ашлап — суцэльнае бервяно над сточанымі' (іўеў., ЛА, 4), 'грунтвага' (трак., Сл. ПЗБ), 'бервяно ў зруба калодзежа' (П.С.). Лексема запазычана з польск. *płaszczak* 'абчасанае з 4 альбо з 2 бакоў бервяно' < *płaski* < (паводле Банькоўскага (2, 617)) **plaz-ьskъ* < **plaza* — *плаз* (гл.). Некаторыя са значэнняў бел. лексемы ўзніклі пры ад'ідэацыі *плáшка, плáха* (гл.).

**Плашчáк₂** (*плошьчя́к*) 'паром з бартамі і шпангоўтамі (як лодка)' (Маслен.). Відаць, да *плоскі* (гл.).

**Плашчак₃** 'сорт ячменю' (Сцяшк. Сл.), 'сорт бобу' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *плóскі, плáскі* (гл.). Названа з-за плоскага коласа ячменю, плоскага зярняці бобу.

**Плашчаніца** 'прадмет культу: кавалак тканіны з выявай Хрыста ў труне' (ТСБМ, Бяльк.). Яшчэ Праабражэнскі (2, 70) суадносіць з *плат, плашч* (гл.). Усходнеславянскае.

**Плашчýгá₁**, *плашчухá, пласкугá* 'брыца, Echinochloa crus galli L.' (гродз., кобр., мін., ЛА, 1; лях., баран., Сл. ПЗБ; стаўб., Жыв. сл.); *пласкýга* 'пустазелле' (Скарбы), 'асака, Carex L.'. Да *плоскі* (гл.) і суф. *-уга, -уха* з непахвальным значэннем. Названа паводле плоскага сцябла.

**Плашчýга₂**, *пласкугá, пласкýха, пластухá* 'мужчынскія каноплі' (баран., навагр., гродз., ДАБМ, камент., 870). Гл. *пласкані* 'тс', утварыліся пры ўсячэнні асновы да *пласк-*.

**Плашчы́** 'бярвёны ў глухой сцяне, у прасле' (івац., ЛА, 4). Утворана ў выніку рэдэрывацыі з *плашчак₁* (гл.), як, напрыклад, *фляга* < *фляжка*.

**Плашчэ́й** 'больш пахіла' (мсцісл., Юрч. СНЛ). Прыслоўе, утворанае ад *пла́скі* (гл.).

**Плашчы́на** 'дзверцы ў стаячым вулеі' (паст., ЛА, 1). Да *пла́ха*$_2$ (гл.). Параўн. рус. дыял. *плащи́на* 'плаха, плашка, палена дроў'.

**Плашчы́ца**, *плошчыця* (*płoščyća*) 'клоп' (Тарн.), параўн. польск. сілез. *płoščyca, płoščka* 'тс'; ст.-польск. *płoszczyca* (< **ploščica*, Банькоўскі, 2, 628). Да *плоскі, пласкі* 'сплюснуты', параўн. *блашчыца* 'клоп' (гл.), параўн. яшчэ ст.-рус. *площица* 'клоп', якое Німчук (Давньорус., 222) выводзіць з *плоск-ыи*.

**Пла́шыць** 'пляскаць (далонню аб далонь)' (мазыр., Нар. Гом.). Няясна; магчыма, балтызм. Параўн. літ. *plekšėti* 'пляскаць', 'плёскаць', *plekšnóti* 'апладзіраваць'.

**Плашы́ць**$_1$ 'ганьбіць' (карэліц., Сцяшк. Сл.), 'ганіць' (Жд. 1). Да *плахі* 'благі', гл. *плох*. Параўн. *плашэй* 'горш' (Юрч. СНЛ). Сюды ж *плашэць* 'слабець здароўем' (Юрч. Вытв.), *плаша́ць* і *плашэ́ць* 'пагаршацца' (Нас.). Паводле Цвяткова (Запіскі, 2, 56), апошняе слова выводзіцца з польск. ("э замест *а* пасля шыпячых гукаў з агульнаславянскага ѣ манафтонгавага"), што неабавязкова, параўн. *харашэць* і пад.

**Плашы́ць**$_2$ 'паспрабаваць' (Бяльк.). Няясна.

**Плебе́й** 'чалавек ніжэйшага саслоўя (у Рыме), чалавек не арыстакратычнага паходжання' (ТСБМ), ст.-бел. *плебей, плебеусъ, плебеушъ* (XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *plebejusz, plebejus*, якія з лац. *plēbēius* 'простанародны, просты, беспародны' (Булыка, Лекс. запазыч., 26).

**Пле́ва**$_1$, *пле́вы, пле́ўкі* 'высеўкі з грэчкі' (смарг., ЛА, 4), 'мякіна, адходы пры паланні' (ЛА, 2), *пле́ўкі* 'высеўкі' (Сл. ПЗБ). Рус. *пле́ва, пле́вы́* 'мякіна', польск. *plewa* 'мякіна', *plewy* 'пустазелле, смецце', палаб. *plåvoj*, н.-луж. *plowy, plowky*, в.-луж. *pluwy* 'мякіна, адходы', чэш. *pleva*, славац. *pleva*, славен. *plęva*, серб.-харв. *пле̏ва*, макед. *плева*, балг. *плява, плевица*, ст.-слав. плѣва 'тс'. Прасл. **pelva* роднаснае лат. *pęlus, pęl(a)vas*, ст.-прус. *pelwo*, літ. *pēlūs, pelaĩ* 'мякіна', лац. *palea* 'тс', 'высеўкі' (Траўтман, 213; Мюленбах—Эндзелін, 3, 198; Махэк$_2$, 459; Варш. сл., 4, 235; Бязлай, 3, 57). Апрача гэтай лексемы на ўсх.-слав. тэрыторыі пашырана *полова, палова* (гл.), якія адносяцца да прасл.

*polva*, у той час як у зах.- і паўд.-славянскіх пераважае **pelva* (Банькоўскі, 2, 608).

**Плéва₂** 'перхаць' (гарад., ЛА, 1; Касп.; гарад., віл., ЛА, 3), 'шалушэнне скуры' (гарад., віц., ЛА, 3), рус. пск., цвяр., наўг., калуж. *плéва, плевá* 'перхаць'. Паводле Мяркулавай (Этимология—1970, 175) — да прасл. **plěva*, роднаснага літ. *plė̃vė* 'скурка, тонкая абалонка' (Буга, Rinkt., 2, 302). Гл. папярэдняе слова.

**Плéвень** 'погань, нечысць, якая ўсё знішчае, з'ядае' (ТС). Можна дапусціць, што гэта — абстрагаванае ц.-слав. *плѣвелъ*, якое са ст.-слав. *плѣвєлъ* < прасл. **pelvelъ* < **pelva, *pelti* (Персан, Beitr., 805; Фасмер, 3, 277). Гл. *палоць*.

**Плевуціна**, *плівуціна, плівуцінaчка* 'лёгкае адзенне', 'плеўка' (Юрч. СНЛ; Юрч. Вытв.), рус. смал. *плевутíна* 'тонкая скурка, плёнка'. Да *плява₁* (гл.).

**Плед** 'пакрывала з шарсцяной тканіны' (ТСБМ). Праз польск. *pled* ці рус. *плед* (у якой праз ням. мову) запазычана з англ. *plaid* 'гунька, ваўняная коўдра шатландскіх горцаў, якую яны (скручаную) насілі на левым плячы і выкарыстоўвалі як плашч ці бурку ў кепскае надвор'е' < гэльск. *plaide* 'коўдра' (Фасмер, 3, 277; Банькоўскі, 2, 604) < *palaid* 'аўчына'.

**Плéйтух**, мн. л. *плéйтухі* 'доўгія касмылі на галаве' (ТС), *плейтýх* 'неахайны чалавек' (жлоб., Жыв. сл.; Бяльк.), 'тупіца, разява', *плéйтухі* 'валасы, кавалкі': *каб... ударыў аб мост, сь цябе б плейтухі пыляцелі* (Юрч. СНЛ), *плéйтух, плейтушына, плейтушка* 'лаянкавы выраз на яўрэяў' (Нас.), рус. смал. *плéйтух* 'мянушка яўрэя'. З польск. *flejtuch* 'неахайны, брудны, непрыстойны, нядбалы', якое са ст.-ням. *fleien* 'мыць' і *Tuch* 'палатно, хустка'. Гэтае значэнне развілася з першасных: 'шматок, жмут, касмыль пакулля'; 'скрутак марлі ці корпіі для затыкання ран'. Паводле Банькоўскага (1, 375) — з мовы цырульнікаў, узыходзіць да ням. *flet*, цяпер у значэнні 'канал' і *tuch* 'хустка'.

**Плéктар** 'медыятар да мандаліны' (Інстр. 3). Праз рускую (*плектр*) ці польскую (*plektr* — гл. Варш. сл., 3, 66, цяпер — *plektron*, SWO, 1980) мовы з с.-лац. *plēctrum* 'палачка, якой ударалі па струнах кіфары ці ліры' < ст.-грэч. πλῆκτρον 'тс'.

**Плéмен** 'племя, род' (Дабр.). Паводле Цвяткова (Запіскі, 2, 68), наватвор да *племя* (гл.), часткова суадносны з рус. *пламень* пры *пламя*. Параўн. *племень* 'род' (ТС).

**Плéмя**, *плéме, плéм'е, плеймё,* сюды ж *плéменства, племе́ўство, плямя́, племéньне, племянё* 'аб'яднанне некалькіх родаў у дакласавым грамадстве', 'сваякі, радня; дзеці, родзічы; пакаленне; патомства; парода' (ТСБМ; Яруш.; Нас.; Нік. Очерки; Мат. Гом.; ТС; Карскі, 2—3, 183; Кольб.; Сцяшк. Сл.; Жд. 2), *на плéмя* 'для атрымання патомства' (Нар. Гом.), *плéмень* 'род' (ТС), *плéменнік, плéменісты* 'здольны да размнажэння', *плéменніца* 'пладавітая жанчына' (Нас.). Укр. *плéм'я*, рус. *плéмя, племя́*, смал. *племьё* 'племя'; *плéмень* 'сям'я, род, радня', *племéнь* 'пляменні', *плéмéнье* 'сям'я, род, радня'; польск. *plemię,* чэш. *plemeno*, ст.-чэш. *plémě,* славац. *plemeno*, арх. *plemä;* славен. *pléme*, серб.-харв. *пле̏ме*, макед., балг. *плéме*. Прасл. зыходнае **pled-men* > **plemę* 'род, пакаленне, нашчадкі' (без і.-е. адпаведнікаў), роднаснае аснове **plod-* 'нашчадкі' (параўн. рус. *плод*, *плода* 'нашчадкі' — так яшчэ Шымкевіч), — да і.-е. **(s)pel-* 'калоць, расшчапляць' (Фасмер, 3, 278; Бязлай, 3, 53; Скок, 2, 681; Махэк$_2$, 454; Шустар-Шэўц, Этимология—1984, 225—226). Банькоўскі (2, 605), прыводзячы ў якасці адпаведніка ст.-грэч. πλῆθος 'мноства (людзей, прадметаў), лік', лац. *plebs* < *plēbēs* 'народ, натоўп', магчыма, і літ. *pledĕkšnė* — пра струк гароху, выводзіць праформу **pledh-men*. Сюды ж *пляме́ннік, плéменнік, плімянні́к* 'непакладаны кабан' (віц., ДАБМ, камент., 884), г. зн. пакінуты "на племя" 'на расплод'.

**Плен$_1$** 'нязжаты касмыль жыта, пакінуты ў полі для прыманкі зайцоў' (Сцяшк. Сл.). Да польск. *plenić* 'размнажацца, прыносіць плён' ст.-польск. *pleni* 'плодны, ураджайны', з якіх — *плен*, відаць, пры ад'ідэацыі *плен* 'палон, здабыча'. Магчыма, звязанае з прасл. **pl̨ęgti* , параўн. чэш. *pléhnut' sa* 'пладзіцца' (Махэк$_2$, 457; Варбат, Этимология—1978, 23), суадноснае з папярэднім словам.

**Плен$_2$** 'пасяджэнне' (Юрч. СНЛ) — скарочаная (без *-ум*) форма лексемы *пленум*. Параўн. таксама рус. маск. *плённый* 'пленарны', што ўзыходзяць да лац. *plēnus* 'поўны'.

**Плéна**, *плена́, плёнка, плёначка* 'тонкая шчарбінка або лускавінка на метале' (Нас.), 'трэшчынка ляза касы, сякеры' (ТС), параўн. рус. *плена́* 'трэшчынка, наслоены лісточак, бліскаўка ў метале ці камені (напр., лабрадарыт)', польск. *płoń* 'пелька', *płonia*, чэш. дыял. *plena* 'шчарбінка ў жалезе', *pleń* 'шчарбінка

на сякеры', славац. *plena* 'тс', славен. *plę̥na* 'шчарбінка ў жалезе', серб.-харв. шток. *plȅna* 'трухлявае месца ў дрэве', *plen(j)ȉv*, *plenav* 'дрэнна каваны, са шчарбінамі', 'рыхлы, дуплісты', балг. *плена́* 'трэшчына, шчыліна'. Паводле Махэка, першаснае значэнне лексемы — як у рус. *плень* 'зярнятка попелу (у адлітым метале)', роднасным яму з'яўляецца літ. *plēnys* 'попел', лат. *plēnes* 'белы попел на вуголлі', а таксама ст.-грэч. σπληδός, σποδός 'попел' (Махэк$_2$, 458). Фасмер (3, 278) і інш. (тамсама) супастаўляюць з лат. *plâva* 'неглыбокая трэшчына ў метале', якое звязваюць з лат. *plẽne* 'гáраль, акаліна'.

**Плендраваць**, ст.-бел. *плендровати*, *плюндровати* 'рабаваць' (XV ст.). Са ст.-польск. *plądrować, plundrować,* якія з ням. *plündern* 'тс', 'спусташаць', с.-в.-ням. *plundern* 'тс' (Ротэ, JBS, 4, 3—4, 120).

**Пле́нка**, *пле́начка* 'пенка на малацэ пры яго варцы' (брасл., ЛА, 4; брасл., Сл. ПЗБ; Нас.), 'плеўка на паверхні стаячай вады' (брасл., Сл. ПЗБ), 'мазгавая абалонка' (брасл., шуміл., Сл. ПЗБ). Прасл. *plěna*. Гл. *плёнка*.

**Пле́нтух** 'балбатун', *пле́ньціць* 'гаварыць абы-што' (слонім., Жыв. сл.). З польск. (да XVIII ст.) *plętać,* якое з прасл. ітэратыва *plętati* з інфіксам *-n-* ад **plěsti* 'плясці' (параўн. санарызаванае літ. *blęsti* 'змешваць'), параўн. *плясці* 'ілгаць, нагаворваць' (гл.). Сюды ж, відаць, *пле́йтух, плейто́ш* 'гаваркі, балбатлівы чалавек' (Сл. Брэс.), *пле́йтуха* 'пляткарка' (ТС), зблiжаныя з *плейту́х* 'неахайны чалавек' (гл.).

**Пле́нум** 'пленарнае пасяджэнне (пры ўдзеле ўсіх членаў выбарчага кіруючага органа)' (ТСБМ). Праз рус. *пленум* 'тс' з лац. *plenum* 'поўнае'.

**Плес** 'глыбокае месца на балоце, дзе заўсёды стаіць вада' (Бес.), 'шырокі фарватэр' (Крывіч, 1), 'прырэчная сенажаць, якая заліваецца ў час разводдзя' (глус., Янк., дыс.), 'забалочаныя берагі азёр' (палес., Талст.), *пле́со* 'балота, занесенае пяском' (Скарбы). Гл. *плёс*.

**Пле́сень**, *пле́сінь, пле́сні, пле́сене* 'цвіль на квашанай капусце' (ЛА, 4). Гл. *пле́сня*. Рэгіянальнае *плесь* 'тс' (гом., тамсама) паводле *цвіль, бросьць*, з былым суф. **-ь* са значэннем адцягненасці.

**Плесканíна** 'макрата' (свісл., Шатал.). Ад *плéскаць* 'плюхаць' па тыпу *плюханіна* 'плюхота', параўн. польск. *ploskony*, *ploskuny* 'дождж са снегам, плюхота, плюта, слата', каш. *plëskótńica* 'тс', польск. *plesk*, памор. *plëck, plëšč* 'тс'.

**Плéскаўка** 'лешч, Abramis brama, L.' (Крыв.), укр. *плéсканка, плескавúця* 'рыба Abramis argyrolenca', самбарск. *pleskawka* 'тс', чэш. *pleskač*, славац. *plieskač*, балг. *плясканица*. Да асновы *plesk-*, параўн. *плескатáць, пляскáць*, у тым ліку 'нераставаць': *рыба пляскóчыць* (ЛА, 1). Параўн. каментарый да славац. трэнчынск. *malý pleskač* — "v miestach nerestenia robia vel'ký čl'apot ('плёскат, лапатанне'), plieskanie" (Этимология—1978, 87). Гл. таксама Махэк$_2$, 120. Паводле Каламіец (Рыбы, 67), другаснае ўтварэнне на базе першасных **leščati, *ljaščati* гукапераймальнага паходжання, параўн. *лешч* (гл.).

**Плéскаць**, *плéскацiса* 'плюхацца, пялёскацца ў вадзе' (Сл. ПЗБ), сюды ж *плескатáць* 'цурчаць' (Нар. Гом.), *пліскытáць* 'плявузгаць, гаварыць абы-што, балбатаць' (стол., Сл. Брэс.; валож., Жыв. сл.; Юрч. СНЛ), *плескатáць*, *пляскатáць* 'клекатаць (пра бусла)' (хойн., слуц., ЛА, 1), *пліскытáньня, пліскатня* 'балбатня' (Юрч. СНЛ), укр. *плескати* 'пырскаць, хлюпаць вадою', 'балбатаць, выдумляць', 'шлёпаць па гразі'; рус. *плескать*, *плёскать* 'плюхацца', польск. *pleszczeć* 'абліваць', *plaskać* 'тс', 'хляпаць', *pleskot, pleskotać* 'плесці, несці лухту'; н.-луж. *plaskać, plaskotać* 'плёхацца, паласкацца', 'цурчаць', в.-луж. *pleskać* 'тс', *pleskotać* 'плюхацца; плёскацца; пырскаць', чэш. *pleskati*, *pleštiti* 'пляскаць, ляпаць', 'малоць языком', славац. *pliskat'* 'тс', 'кідаць', 'плюхаць, плёскацца'; славен. *pleskáti* 'пляскаць, ляпаць', 'пляскаць па вадзе', серб.-харв. чак. *plȅskat*, шток. *pljȅskati* 'ляскаць у далоні', серб. *пљȅскати* 'пляскаць, ляпаць', 'упасці, пляснуцца', макед. *плеска* 'пляскаць (у далоні), ляпаць', 'замешваць цеста', балг. *плéскам* 'плёхаць; плявузгнуць', ст.-слав. плєскати 'пляскаць у далоні'. Прасл. **pleskati*, інтэнсіў **plьskotati* 'пляскаць' — другая ступень чаргавання **ploskati* > *плёскаць, плёхаць* (гл.). Роднаснае літ. *pleškė́ti* 'шчоўкаць, ляпаць', лат. *plekšêt* 'ляпаць; балбатаць; бурліць', 'таўчы мяккую зямлю ці гліну', *plaksêt* 'ляпаць'. Мяркуецца, што гэта гукаперайманне (Траўтман, 225; Фасмер, 3, 279). Куркіна (Этимология—1978, 31) услед за

Міклашычам (254) дапускае магчымасць аднясення прасл. **pleskati* да кораня **pol-* у якасці другаснай вытворнай асновы.

**Пле́сна** 'пярэдняя (паміж пятой і пальцамі) частка ступні нагі, плюсна' (Нас.), *плёсьня* 'тс', 'паглыбленне на далоні' (Стан.). Укр. валын. *пле́сна*, зах. *плесно́*, рус дыял. *плесна́, плесни́ца*, польск. дыял. *płośna, plesnia* 'плюсна', чэш. *plesna*, славен. *plésmo* 'пад'ём нагі' < *plésno, plésna* 'ступня', харв. чак. *plesnȍ, plesna* 'падэшва', ст.-слав. плесна, плесно 'ступня'. Прасл. **plesno/ plesna* < і.-е. **plests-no-m/-nā* (Бязлай, 3, 55), роднасныя ст.-прус. *plasmena* 'падэшва нагі', літ. *plãsnas, plesnà* 'пад'ём нагі' < **plesnas* (Траўтман, 225), *plãksnas, plẽksnas* 'пад'ём', лат. *pleksne, plęksna, plęzna, plezde* 'падэшва', ст.-інд. *práthas* 'шырыня', авест. *fraϑah-*, ст.-грэч. πλάτος 'тс', лац. *planta* 'ступня, падэшва', хец. *palzaẖ(ẖ)a* 'падножжа, падэшва'. Скок (2, 681—682) выводзіць прасл. **plesna/-o* з і.-е. **plet-* 'шырокі, плоскі'. Куркіна (Этимология—1982, 18—19) на прыкладзе інавацыйных харв. *plèsmo* 'планка' і славен. *plésmo* 'плюсна' разглядае паўд.-слав. **plèsmo* як вытворнае з суф. *-smo* ад **plet-ti* > *плясці*. Параўн. *плюсна́* (гл.).

**Пле́сні** 'вяснушкі' (светлаг., рагач., б.-каш., Мат. Гом.), *пле́сня* 'тс' (слаўг., карм., ветк.), слаўг., карм. *пле́снівыя* 'з вяснушкамі' (ЛА, 3), рус. смал. *пле́сни* 'вяснушкі', *плесни́вый* 'з вяснушкамі', прыбалтыйск. 'сівы (пра масць каня)', польск. *pleśń* 'чорная плесня на грэбні пеўня'. Да *пле́сня* (гл.) < і.-е. *plēk-sn-i-s* 'пляма' (Банькоўскі, 2, 607). Сюды ж ст.-бел. *плесливый, плесневый* 'светла-шэрай масці' (1552 г.), якое Булыка (Лекс. запазыч., 124) выводзіць са ст.-польск. *pleśniwy*; параўн. таксама ст.-чэш. *plesnivý* 'пакрыты плесняй', 'сівы, белашэры (пра каня)'.

**Плеснік** 'трыпутнік сярэдні, Plantago media L.' (гродз., Кіс). Няясна, магчыма, звязана з *пляскаты, плоскі* (гл.). Параўн. таксама *плісняк, плёшнік, плішнік* і інш., якія называюць аер, 'Acorus calamus L.'.

**Пле́сня**, *пле́сінь, пле́сні, пле́сене* 'мікраскапічны грыбок на харчовых прадуктах, рэчах хатняга ўжытку, на жывёльных і раслінных рэштках, цвіль' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 4), *пліснá* 'тс' (Нас.), *пле́сіньня, пле́сьнівыньня* 'бросня, слізь, гніль' (Бяльк.); *пле́сня, плі́сня* 'раска, Lemna minor L.' (рагач., бяроз., ЛА, 1); *пле́сневіць, плесня́віць* 'пакрывацца плесняй'

(Нас.), *плéснецъ* 'тс' (ТС), *плéсневы, плесня́вы* 'плесняваты' (Нас.), *плясні́вы, плясня́вы* 'бела-руды (масць каня)' (Сл. ПЗБ). Укр. *плі́сень, плісня́* 'плесня', *плісо́нь* 'расліна Mucor mucedo'; рус. *плéсень, плесны, плéснедь, плéснядь* 'плесня', польск. *pleśń* 'бросня', н.-луж. *plěseń* 'плесня', *pleś* 'пена на піве', в.-луж. *plěsń,* чэш. *plíseň,* славац. *pleseň,* славен. *plẹsen*, харв. *plȉjesan*, серб. *пле̏сањ* 'тс'; балг. *плесен*, магчыма, сюды ж макед. *плесна* 'лішай; плямка, крапінка'. Прасл. **plěsnь*, роднасныя якому літ. *pelė́ti*, лат. *pelêt* 'плеснець', *pelẽsiai* 'плесня', *plė̃kti* 'тлець, плеснець', лац. *palleo* 'станавіцца бледным', аднаго кораня з рус. *пелёсый* (Міклашыч, 236, Траўтман, 212; Мацэнаўэр, LF, 13, 164; Фасмер, 3, 279). Склад **plě-* паводле закона метатэзы плаўных узыходзіць да і.-е. **pel-* (абазначае розныя бледныя колеры, Скок, 2, 683). Паводле Махэка$_2$ (460), прасл. **plěsnь* паходзіць з **plěk-snь*, у якім пазней *-k-* выпала (спрасцілася). Аналагічна Банькоўскі (2, 607) выводзіць прасл. **plěsnь* < і.-е. **plēk-sn-is*, якое з прыметніка **plēk-sn-os*, параўн. літ. *plėkas*, звычайна *plėkaĩ* 'ясныя яркія плямы' і з *plė́kti* 'пакрывацца яркімі плямамі'; самым блізкім фармальным літоўскім адпаведнікам прасл. **plěsnь* з'яўляецца літ. *plėkšnė̃* 'пляма'. Сной (453), Бязлай (3, 55) мяркуюць, што **plěsьnь* (а не **plěsnь*) утварылася пры дапамозе абстрактнага суфікса *-ь ад прыметніка **plěsьnъ* (параўн. чак. *plȉjesan* 'плесневы'), які ўзыходзіць да **plěsъ,* параўн. харв. *plijes*, славен. белакраньск. *plẹ̑s* 'плесня', каш. *ples* 'тс', ідэнтычныя літ. *pel̃šiai* (мн. л.) 'тс', што ўзыходзіць да і.-е. **pel-* 'шэры, сівы' (Борысь, Папоўска-Таборска, ZPSS, 10, 26). Сюды ж *плесь* 'плесня' (зах.-гом., ЛА, 4), відаць, як *цвіль, бросьць* (гл.). Вытворныя: добр. *пля́сніца* 'плесня, цвіль', рагач. *плясні́ўка* 'вочка на гародніне' (Мат. Гом.), *плясні́вы* 'які заплеснявеў і пасівеў' (Варл.). Паводле Німчука (Давньорус., 289), формы на *-ня* і на *-ен(ь)* — у выніку аналогіі да слоў тыпу *песня, восень* і пад., каб пазбегнуць цяжкага для вымаўлення спалучэння зычных, што ў святле сказанага вышэй малаверагодна.

**Плéсці**, *плясці́, плесць, плэсты́, плыстэ́* 'пераваючы (палосы, лазу, ніці, стужкі), злучаць (іх) у адно цэлае, вырабляць што-н.', 'вязаць', 'віць вяроўкі', 'гаварыць без сэнсу', 'гаварыць у сне',

'узводзіць паклёп, паклёпнічаць'; сюды ж у спалучэннях: *плётма плёсці* 'хлусіць', *плёсці кашалі без дужак, плесці плота без калкоў* 'гаварыць няпраўду, што папала'; *плёсціся, плясціся, плёсцца* 'паволі ехаць, ісці, заплятаючыся, чапляючы нагой за нагу', *плётма плесціся* 'ўвесь час цягнуцца, ісці' (ТСБМ, Яруш., Нас., Др.-Падб., Шат.; Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС; сміл., Стан.; дзятл., Сцяшк. Сл.; ЛА, 4). Укр. *плести́*, рус. *плести́, плесть*, польск. *pleść*, н.-луж. *plasć*, в.-луж. *plesć*, палаб. *plitě* 'пляце', чэш. *plésti*, славац. *pliest'*, славен. *plésti*, серб.-харв. *плѐсти*, харв. чак. *plȅst*, макед. *плете*, балг. *плета́*, ст.-слав. плести 'плесці'. Прасл. **plesti* < і.-е. **plek'-te/o*: ст.-в.-ням. *flehtan*, англ.-сакс. *fleohtan*, лац. *plectō* 'плесці'; без суф. *-te/o*: ст.-грэч. πλέκω, лац. *plicāre* 'складаць, загінаць, звіваць' < і.-е. **plek'*- (Міклашыч, 250; Махэк$_2$, 459; Фасмер, 3, 280; Брукнер, 418; Бязлай, 3, 56); Трубачоў (Ремесл. терм., 248) — **plek-* (**plek'-*). Мее (Études, 180) рэканструюе прасл. форму як **plet-*. Банькоўскі (2, 606) выводзіць тры прасл. формы : **plesti/*plęsti* >**plěsti* >**plet-/*plēt-/*plot* 'пашыраць, павялічваць, дадаючы новыя элементы'. Тое ж абазначае і літ. *plė̃sti, platùs* 'шырокі'. Адносна значэння 'ілгаць, абгаворваць, узводзіць паклёп': Брукнер (418), Махэк$_2$ (459), Фасмер (3, 280), Копечны (Zákl. zásoba, 269) бачаць у ім семантычны перанос прасл. **plesti*. Фурлан (JS, 29, 120) выводзіць лексему з гэтым значэннем з і.-е. **pléte/o* < **(s)pel-* 'узнёсла гаварыць', ад якога можа быць і літ. *plepė́ti* 'балбатаць, несці бязглуздзіцу' (Бязлай, 3, 56), што непераканаўча (Куркіна, Этимология—1994—1996, 199). Паводле Станкевіча (Зб. тв., 1), *плісціся* ў значэнні 'цягнуцца' — русізм, што неабавязкова, параўн. балг. жарг. *плете́* 'ідзе' (БЕР, 5, 342).

**Плесь** 'хвалі' (Гарэц., Др.-Падб.), 'хваля' (Стан.), смал. *плесь* 'тс', 'усплёск', 'хваляванне', *плёсы* 'хвалі'. Відаць, на базе *плёскаць* утворана гукапераймальнае *плес-* з прасл. суф. **-ь* з адцягненым значэннем, параўн. балг. *плес*, серб.-харв. *пљȅс* — пра гук падзення ў ваду, плёскат, параўн. паралельныя формы *плясь* (гл.), балг. *пляс*, серб.-харв. *пљȁс* 'тс'.

**Пле́тніца** 'жанчына, якая любіць хадзіць па сяле' (калінк., ЛА, 3). Літаральна — 'тая, што пляце абы-што', магчыма, пад

уплывам ‘пляткарка’, рус. *сплетница* ‘пляткарка’, гл. *плясці*, *плёткі*.

**Пле́тня** ‘пляцёнка асновы’ (бяроз., Шатал.). З польск. *pletnia* ‘пра плецены біч і іншыя пляцёнкі’ (XVIII—XIX стст.), якое да *pleść* (Банькоўскі, 2, 607), гл. *пле́сці*.

**Плетнячо́к** ‘гліняны гаршчок, аплецены бяростай, дротам’ (дзятл., Жыв. сл.). Да *апле́сці* < *пле́сці* (гл.), *аплятаць* > *аплятанік* ‘аплецены гаршчок’.

**Пле́ўка**, *плёўка, пле́вачка, плі́ўка, плы́вка, плёвачка* ‘скурка’; накіп на паверхні нерухомай вадкасці’, ‘бросня’, ‘дыяфрагма, перапонка, тонкі пласт чаго-небудзь’ (ТСБМ, Нас., Вешт., Сцяшк. Сл., Мік., Дразд., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Скарбы; рэч., Мат. Гом.; смiл., Стан.), ‘паверхня (замест скуры) унутраных орга́наў’ (Варл.), ‘плява ў мясе’ (Растарг.), ‘дыяфрагма’ (брэсц., гродз., віц., ЛА, 1), ‘вяршок малака пры яго варцы’ (ЛА, 4), *пле́вы* ‘перапонкі на лапах гусей, качак’ (шчуч., беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *плівка* ‘мяздра’, ‘плёнка’, ‘плеўка на малацэ’, славац. *plievka* ‘прыкветак’, *plievočka* ‘лускавінка’. Гл. *плява́*.

**Пле́ўра** ‘дыяфрагма’ (бераст., б.-каш., ЛА, 1). У выніку пераносу значэння па сумежнасці з *плеўра* ‘абалонка, што пакрывае лёгкія і сценкі груднай поласці’, якое з с.-лац. *pleura* < ст.-грэч. πλευρά ‘бок’, πλευραί ‘рэбры’.

**Плеўры́т** ‘запаленне плеўры’ (ТСБМ; віл., Сл. ПЗБ). З лац. *pleurītis* < ст.-грэч. πλευρῖτις ‘калаццё ў баках’.

**Плех**₁, *пляшы́на* ‘голае месца на галаве, лысіна’, ‘голае месца сярод поля, выгрызены лапік травы на лузе’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Яруш., Сл. ПЗБ, Жд. 1), паўн.-зах., гродз., зах.-віц. *плех* ‘абсевак’, брэсц. *пле́х(а)*, паст. *пляха́* ‘тс’ (ЛА, 2). Рус. *плеха́н* ‘лысы чалавек’, польск. *plech* ‘лысіна’, *plechy* ‘адзёр’, н.-луж. *plěch* ‘плеш’, ‘атожылак на клубняплодзе’, *plěchac, plěchaty* ‘лысы’, в.-луж. *plěch* ‘лысіна’, *plěchač, plechaty* ‘лысы’, чэш. *plech* ‘тс’, *plechatý* ‘лысы’, *plechy* ‘перхаць; струпы на галаве’, славац. *plechavý, plechatý, plecháň* ‘лысы (чалавек)’, *plechovo* ‘груба, непрыемна’, славен. *plȅh* ‘чырвоная высыпка на скуры’, *plẹ̄ha* ‘голае месца ў лесе’, *pléhi* ‘адзёр’, *plehe* (у XVIII ст.) ‘шкарлятына’. Прасл. **plexъ* (Сной—Бязлай, 3, 52) і **plěxъ* ‘лысы’, ‘які лысее’, ‘мясцовасць са слабой расліннасцю’ < і.-е. *ploi̯k-s-os* (Банькоўскі, 2,

606), а таксама *plъх (параўн. чэш. *plchý* ‘лысы’) (Фасмер, 3, 281), роднаснымі якім з’яўляюцца літ. *plìkas* ‘голы’, лат. *pliks* ‘тс’, літ. *pleĩ-šė, pleĩkė* ‘лысіна’, *plìkė, pleĩ-n-ė* ‘голая раўніна, пустое, бязлеснае месца’ < і.-е. *ploi̯-so > (Буга, Rinkt., 1, 599).

**Плех$_2$**, *плêх* ‘дах’, ‘вільчык даху’ (Яруш., Тарн., Бяльк.), *плеш, плéшак* ‘верх страхі, дзе сыходзяцца скаты, прыкрыты дошкамі, высланы кастрыцай’ (Сцяшк. Сл.; слонім., Сл. ПЗБ), ‘страха’: *стаяць два хлевушкі пад адным плехам* (бераст., Сл. рэг. лекс.). Відаць, трэба адрозніваць лексему *плеш* (*плéшак*), якая з *плеш* ‘лысіна’ (гл.), ад *плех*, якая з польск. *plech* < чэш. *plech* ‘тонкая бляшаная дошчачка, бляха, якою пакрываўся вільчык, каб вада не зацякала між дошкамі (плахамі) двух скатаў’ < ст.-в.-ням. *blech* або в.-в.-ням. *blëch/ plech* ‘бляха’ (Міклашыч, 14; Бернекер, 1, 59; Махэк$_2$, 457; Бязлай, 3, 53).

**Плéха** ‘завязь у яблыку’ (свісл., Шатал.). Фармальна можа быць выведзена з *плешка* (гл.) — паводле падабенства да галоўкі цвіка. Куркіна (Диал. структура, 107) зближае са славен. *plèh* ‘племя’, ‘род, від’, *ploha* ‘род, племя’ і далей з чэш. дыял. *plehnut sa* ‘пладзіцца, размнажацца’, славац. *upl’ahnuc se* ‘нараджацца (пра жывёл)’, польск. *plęgnąć się* ‘выхоўваць, даводзіць да ладу’, роднасных з *plodъ, *plemę (Скок, 2, 683; Варбат, Этимология—1978, 23—25).

**Плехуцíнка** (*пліхуцíнка), пліхуцíнычка* ‘старая адзежына’ (Юрч. СНЛ). Да *пляхотка* ‘парванаяануча’ (гл.).

**Плéцені** ‘вяровачныя лапці’ (лях., ЛА, 4). Рус. разан. *плетéнь* ‘падэшва лапця’. Ад *плець (плеть)* ‘вяроўка’ < *плéсці* (гл.).

**Плець$_1$** ‘лезіва, прылада зямца, сплеценая з 8 частак, лесвіца, каб лазіць на дрэвы да борцяў’ (кіраў., Працы, 6; рэч., Маш.; слаўг., Нар. сл.; калінк., рагач., З нар. сл.; маг., усх.-гом., ЛА, 1); ‘плётка, пляцёнка’ (Мат. Маг.), *плéццю* ‘густа, нібы сплёўшыся’ (Юрч. СНЛ). Рус. *плеть* ‘лезіва зямца’. Ад прасл. *pletь. Да *плéсці* (гл.).

**Плець$_2$** ‘палоць’ (ігн., вільн., Сл. ПЗБ). З польск. *pleć* ‘тс’ (тамсама).

**Плець$_3$** ‘падоўжаны край бёрда, у які ўстаўляюцца трысцінкі’ (воран., Шатал.). Да *плéсці* (гл.) ад асновы *plet- (*pletь ‘нешта сплеценае’).

**Плецьₐ** ж. р. ‘плот, сплецены з лазы ці з тонкіх жэрдак’ (Федар. 7). Да прасл. **plet-ь* < і.-е. **plek’-t-ĭ-s*.

**Плецюха́** ‘пляткар’ (Бес.). Параўн. польск. *plociuch*, *pleciuga* ‘тс’, ‘балбатун’ і малар. *плытю́х* з націскам на апошнім складзе, перанесеным на апошні склад у *плецюха́*. Да *пле́сці* (гл.).

***Плецяня́,** *плытыня́, плеце́ня* ‘пляцень’ (Сл. Брэс.), *плытыня́* ‘плот, сплецены з лазы’ (малар., Нар. лекс.), ‘плот з жэрдак’ (лун., ЛА, 4). Да *пле́сці* (гл.). Утворана, відаць, ад *пляце́нь* і суф. *-ня́* (са значэннем ‘прадмет — вынік дзеяння’). Параўн. рус. дыял. *плетня́* ‘пляцень’, балг. *плетня́* ‘тс’ (**plet-nja* < **plesti*, БЕР, 5, 347).

**Плечаве́нь** ‘дужы, з шырокімі плячамі мужчына’. Ад *плячо/плечы* (гл.) і суф. *-ав-ень* (Сцяцко, Афікс. наз., 143).

**Плеш**, *пле́шына, пляшок, пляш, пліш, плі́шка* ‘лысіна’ (ТСБМ, Нас.), ‘прапушчаны пры ворыве ці жніве ўчастак’ (Нас.; Выг.; віц., Шн. 3; Мат. Гом.; ТС; беласт., Сл. ПЗБ), ‘вымаклае месца ў жыце або на лузе’ (Нас. Сб., Нас., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., ТС), ‘абсеў, абсевак, агрэх’ (драг., Нар. словатв.; БРС; чэрв., Нар. лекс.; ЛА, 2), *плеш* ‘вільчык, верхні стык страхі’ (Сцяц.; ЛА, 4), ‘пляма’ (Бяльк.), ‘нераз’езджаная дарога’ (віц., ЛА, 5). Укр. *пліш*, валын. *пляш* ‘пропуск пры ворыве’, рус. *плешь*, польск. *plesz*, чэш. *pleš*, славац. *plešina*, славен. *plę̑š, plę̑ša*, харв. чак. *plíša* ‘цаліна’, *plȋš* ‘голая зямля без дрэў’, серб. *плѐшина* ‘тс’, балг. *плеши́в* ‘лысы’, ц.-слав. *плѣшь* ‘лысіна’, ‘голае месца без расліннасці’. Прасл. **plěšь*, якое з прыметніка **plěxъ* ‘лысы’ > *плех* (гл.). Лексема *плеш* ‘лацінскае сяшчэнства’ (Нас.), ці ‘выгаленае месца на цемені каталіцкага святара’, праз польск. *plesz* была запазычана са ст.-чэш. *pleš* ‘тс’ (Банькоўскі, 2, 606).

**Пле́шка₁**, *плі́шка* ‘верхняя, расшыраная частка чаго-небудзь, што мае форму ножкі стрыжня’, ‘верхні канец караняплода’, ‘кацёлка (галава) сланечніка’, ‘галоўка цвіка’, ‘шапка грыба’ (ТСБМ, Нас., Мядзв., Касп., Сл. ПЗБ, Ян., ТС, Мат. Маг., Бяльк., Юрч. СНЛ, Жыв. сл.). У выніку семантычнага пераносу ‘лысіна’ > ‘верхняя частка’ з *плеш* (гл.). Параўн. укр. *плі́шка* ‘драўляны клін’, рус. *плешка* ‘голая вяршыня гары’, ‘галоўка цвіка’, ‘шырокі канец далата, па якому б’юць малатком’, польск. *pleszka* ‘галоўка цвіка, шрубы’, ‘пляма’.

**Пле́шніца** ‘вялікая суконная хустка (з махрамі і ў клетку)’ (чавус., Мат. Маг.). Відаць, з ⁺*(на)плечніца* ‘хустка, якая накідвалася на плечы’. Да *плячо* (гл.)

**Пле́шчыць₁** ‘рабіць плоскім, тонкім, плюшчыць’ (Нас.). Да *плоскі* (гл.). Сюды ж *плешчанік* ‘ляпёшкі з прэснага цеста, пасыпаныя макам’ (тураў., Малч.), якія, відаць, былі плоскія. Параўн. таксама *пляскач₂*, *пляскуха* (гл.).

**Пле́шчыць₂** ‘пляскаць у далоні’ (лід., Сл. ПЗБ). Да *пляск*.

**Плешына́** ‘высокая надрэчная трава’ (слонім., ЖНС). Відавочна, да *плеш* (гл.), што, аднак, цяжка суаднесці па семантыцы. Магчыма, балтызм, параўн. літ. *plėšinỹs* ‘цаліна, дзірван’.

**Плён** ‘тое, што вырашчана, ураджай’ (ТСБМ, Яруш.; гродз., Рафаловіч). З польск. *plon*, якое з прасл. **pelnъ* (для зах. і паўд. слав. моў), **polnъ* (для ўсх.-слав.) ‘прыбытак з поля альбо з поля бітвы — з вайны’ < і.-е. **peln-o-s/ *poln-o-s*, параўн. літ. *peĩnas* ‘даход, прыбытак’, лат. *peļņa* ‘тс’, ст.-інд. *paṇaḥ* ‘заклад’, *pāṇatē* ‘дзейнічае, мяняе, купляе, хоча атрымаць прыбытак’. Гл. таксама *палон*.

**Плёнка** ‘плеўка’, ‘пузыр на метале ці шкле’ (ТСБМ, Мядзв.), ‘сіло’ (Янк. 1; Шат.; Бяльк., Растарг.; паўн.-усх., КЭС), ‘покрыва кукалкі пчалы’ (Нікан.), ‘абалонка асінага гнязда’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ); *пле́нка* ‘пенка на малацэ’ (брасл., ЛА, 4; Сл. ПЗБ, Нас.), ‘плеўка на паверхні стаячай вады’ (брасл., Сл. ПЗБ), ‘мазгавая абалонка’ (брасл., шуміл., Сл. ПЗБ). Рус. *плёнка* ‘плеўка’, ‘сіло і прыстасаванне з начэпленых на вяроўку, палку сілаў для лоўлі птушак’. Да прасл. **plěna*, якому генетычна адпавядае літ. *plėnẽ* ‘скурка, абалонка’, ‘плеўка на малацэ’ аналагічна прасл. **plěva* (гл. *плева₁*) і літ. *plėvẽ* ‘тс’.

**Плёнтаць** ‘блытаць’ (беласт., Сл. ПЗБ; Сцяц.; Сцяшк. Сл.; Скарбы), ‘хадзіць памаленьку, трохі рухацца’ (Скарбы), *плёнта* ‘валацуга’ (Скарбы), *плёнтацца* ‘блытацца’ (ваўк., Сцяшк. Сл.; Скарбы), ‘бадзяцца’, ‘гаварыць абы-што’, *пле́нтацца* ‘бадзяцца’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *plątać (się)* ‘блытацца’, ‘збівацца’, ‘круціцца’, ‘заплятацца’, ‘блытаць’, ‘ісці няпэўным крокам’, ‘ускладняць’, якое з прасл. **plętati* — дзеяслова шматразовага дзеяння ад прасл. **plęsti* > польск. *pląść (się)/ pleść* < прасл. **plesti* (Варбат, Этимология—1983, 36—37).

**Плёс₁**, *плёса*, *плёска*, *плёсы*, *плёсо*, *плес*, *пле́со* ‘шырокі, ціхі і глыбокі ўчастак ракі паміж перакатамі, заваротамі ці астравамі, затока’ (ТСБМ, БРС, Сцяшк. Сл., Гарэц., Сл. ПЗБ, Др.-Падб.; жытк., саліг., стол., Талст.; Стан.; карэліц., Сцяшк. Сл.), ‘яміны з

вадою на сенажаці', 'пойма ракі', 'самы глыбокі ўчастак возера, дзе ловяць рыбу', 'заліўны луг' (Сл. ПЗБ), 'ціхая завадзь' (Бяльк.; Гарэц., Байк. і Некр.), 'былое рэчышча' (смарг., Сцяшк. Сл.), 'яма на лузе, запоўненая вадой' (ст.-дар., Нар. сл.), 'чыстае, незарослае сярод возера месца' (паўн.-усх., КЭС), 'частка ракі, якая зімой не замярзае' (лях., ЛА, 2), 'шырокае месца на рацэ, а таксама на лузе, у полі' (ТС), 'сярэдзіна возера, ракі' (полац., Талст.), 'шырокі фарватар' (Крывіч, 1), бабр. 'возера, зарослае расліннасцю', 'балота', 'нізкі, заліўны луг', 'забалочаныя берагі азёраў' (палес., Талст.), 'прырэчная сенажаць, якая заліваецца ў час разводдзя' (глус., Янк., дыс), 'занесенае пяском колішняе балота' (Скарбы). Укр. *плéсо* 'возера па цячэнню ракі, моцна пашыранае месца ракі, не зарослае, з ціхай плынню', 'градка чатырохвугольнай формы'; рус. *плёс*, *плёса*, *плесá* 'адкрытая, шырокая частка ракі са спакойнай плынню', 'глыбокае месца ў рацэ, возеры', 'яма на балоце', 'заліўны луг', 'новы бераг ракі пасля мены яе рэчышча', 'нізкае месца, дзе стаіць вада', 'балота', 'пелька ў балоце'; польск. дыял. *plosek* 'невялікая яма, запоўненая вадой', вял.-польск. *pleski* (1498 г.), рыбацк. *ploso* 'глыбіня, глыбокае месца ў рацэ, возеры', 'поўнае возера', 'пойма ракі'; ст.-луж. *ples(o)* 'возера'; чэш. *pleso* 'возера, ставок, стаячая вада; глыбокае месца ў струмені; лужа для гусей'; 'западзіна ў рацэ', 'балота'; славац. *pleso* 'горнае бяссцёкавае возера', 'сажалка', 'стаячая вада, лужа'; на паўд.-слав. тэрыторыі захавалася толькі ў тапонімах. Прасл. **pleso*. Няяснае слова рэліктавага паходжання (Махэк$_2$, 458—459; Банькоўскі, 2, 610). Фасмер (3, 280) семантычна збліжае яго з *плéсна*, *плюсна*, выводзячы прасл. **pletso*, што, на думку Бязлая, з'яўляецца сумніўным; ён падтрымлівае думку Махэка, спасылаючыся на с.-в.-ням. *Flosche* 'яма, у якую прасочваецца вада', лат. *plesa*, *plēsa* 'нерухомае глыбокае месца ў рацэ і інш.' (Этимология—1973, 183—184). Сучасная семантыка, як здаецца, не пацвярджае меркаванне пра супрацьпастаўленне слав. **Pleso* — **Bolto*, як адкрытай і забалочанай воднай прасторы (Трубачоў, Этногенез, 128), параўн. *плёсо* 'зарослае балота, твань' (ганц., ЛА, 5).

**Плёс$_2$** 'хвост у вялікай рыбіны' (Нас., Гарэц., Дабрав.), рус. дыял. *плеск* і *плёск* 'задняя частка тулава рыбы, рыбін хвост'. Да *плёскаць* (гл.), параўн. *плёс!* — 'удар рыбы хвастом' (Нас.).

**Плёса**$_1$ ‘пустое, голае месца’ (Жд. 1), ‘абсевак’ (стаўб., ЛА, 2), *плёсо* ‘агрэх на засеяным полі’ (ганц., Сл. ПЗБ). Ад *плеш, плех* (гл.) пры ад’ідэацыі *плёс*$_1$ ‘адкрытае месца ў полі, у лузе’.

**Плёса**$_2$ (*плёсо*) ‘разнавіднасць асакі’ (баран., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё — літуанізм, параўн. літ. *plũšos* ‘рагоз’, *pliũšė* ‘трыснёг’.

**Плёск**, *плёскат* ‘пляск, шум вады’ (ТСБМ), *плёскыньня* ‘плёскат’ (Юрч. Вытв.). Ад *плёскаць* ‘пляскаць рукою або чым-небудзь плоскім па вадзе’ (Нас.), *плёскыць* ‘тс’ (Бяльк.), *плёскацца* ‘плюхацца’ (Нас., Стан., ТСБМ, Др.-Падб., Сл. ПЗБ), гл. *плёскаць* (гл.). Сюды ж тураў. *плёстацца* ‘плёскацца’ (ТС) з неарганічнай заменай *к* на *т*.

**Плёска** ‘сляза’ (лельч., Мат. Гом.). Да *пліска* ‘тс’, *пліскаць* (гл.) пры ад’ідэацыі *слёзка* ‘слязінка’.

**Плёскаўка**, *плёцкаўка* ‘вялікі драўляны молат для разбівання камякоў на полі’ (Касп.). Да *плёскаць* (гл.).

**Плёскі** ‘пляскаты’ (Шат.; смарг., пух., чэрв., Сл. ПЗБ; сміл., Стан.), *плёсклы* ‘плоскі’ (ТС), *плёсклая* (жывёла) ‘схуднелая’ (драг., ЛА, 1). Да *плоскі* (гл.), якое змянілася пад уплывам польск. *plaski*, *plaskaty*, што ад першаснага *plask* ‘плоская ніжняя паверхня далоні’ (Банькоўскі, 2, 599).

**Плёсна**, *плёсня* ‘частка ступні нагі каля пальцаў; корткі, кортачкі, кукішкі’, ‘паглыбленне на далоні’ (Дразд.; беласт., Стан.), *плёсьня*, *плёсткня* ‘галёнка’ (слонім., іван., ЛА, 3). Гл. *плёсна, плюсна*.

**Плёсь** — пра выліванне — ‘плюх!’, пра плясканне (у ладкі) (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Параўн. рус. *плесь!* — для абазначэння хуткага руху (ад *плеска́ть*), смал. *выдра плесь хвостом*, польск. *plusk!* ‘тс’.

**Плёт** ‘пляцёнка’ (Яруш.). Да *плёсці* (гл.), аснова **plet-*.

**Плётка**$_1$ ‘раменны, вяровачны ці іншы бізун’ (ТСБМ; Нас.; Бяльк.; ТС; даўг., Сл. ПЗБ); ‘сплецены з трох ці болей столак матуз’ (Варл.), ‘нізка грыбоў’ (міёр., ЛА, 1), ‘пляцёнка цыбулі’ (полац., шуміл., ЛА, 2), ‘пляцёнка цыбулі’, ‘матузок у фартуху’, ‘сплеценая каса льну’, ‘сплеценыя канцы асновы, краёў пасля датыкання’ (Сл. ПЗБ), ‘каснік’ (жытк., мазыр., Мат. Гом.). Прасл. **plet-ъka* ад **plesti* > бел. *плёсці* (гл.).

**Плётка**$_2$, *плёткі* ‘ілжывая чутка’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Бес., Шат., Касп., Варл., Сл. ПЗБ), *плёткі/ сплёткі* ‘тс’ (Растарг.),

бых. *плётка* 'жанчына, якая любіць хадзіць па сяле' (ЛА, 3). З польск. *plotka*, *plotki* 'ілжывыя чуткі', якое ўзыходзіць да *plotka* 'нешта сплеценае' < прасл. **plet-ъka*. Сюды ж *плётка*, *плётнік* 'пляткар' (Нас.). Семантычна суадносіцца з **plesti* 'плявузгаць, гаварыць лухту', гл. *плéсці* 'тс'.

**Плёткі** 'шарсцяныя рукавіцы з адным вялікім пальцам' (брасл., ДАБМ, камент., 948). Да *плéсці* (гл.). Параўн. рус. наўг. *плётки* 'лапці'.

**Плёў** 'плявок' (Нас.), рус. валаг. *плёв* 'тс', 'тое, што нічога не варта'. Да *пляваць* (гл.).

**Плёх₁** 'пляма невыразнай формы' (Сцяшк. Сл.). Да *плех* (гл.).

**Плёх₂** 'боўць! шабулдых!' (Растарг.), пра пялёсканне, выліванне (мсцісл., Нар. лекс.), *плёх!* — нехта з вышыні ў ваду (з пырскамі) (полац., Нар. лекс.); *плёх!* — па голым целе (тамсама), 'плюх' (Бяльк.). Гукапераймальнае. Можна дапусціць роднаснасць з літ. *plekšénti* 'ляпаць, бразгаць; пляскаць (аб вадзе)'.

**Плёх-плёх** 'падзыўныя для курэй' (шальч., Сл. ПЗБ). У выніку налажэння падзыўных з элементам *-ёх/ -ох* (параўн. *цялох-цялох* 'падзыўныя для кароў') на *пыль-пыль* ці *плі-плі* (ДАБМ; віл., Сл. ПЗБ).

**Плёха** 'распусніца', 'разбалаваная, нясталая дзяўчына' (Нас.), *плёхъла*, *плёхъўка* 'няўмелая, няспрытная і неахайная ў рабоце' (міёр., З нар. сл.), рус. дыял. *плёха* 'распусніца'. Сюды ж, відаць, польск. *plachander* 'валацуга, непаседа, бадзяга', чэш. *(u)pláchnouti* 'ўцячы', а таксама славен. *splehа́ti* 'знасіць, зрабіць больш тонкім', 'сапсавацца, выпетрыць на дажджы і сонцы', серб.-харв. *pljȅska* 'непатрэбны чалавек, жанчына'. Фасмер (3, 280) звязвае з *плёвый*, гл. *пляваць*, што малаверагодна. Паводле Сноя (Бязлай, 3, 53), трэба аднесці да прасл. **plek-sā-* 'таўчы', 'рабіць танчэйшым', якое супастаўляецца з **plek-skā-* (гл. *плéскаць*), параўн. макед. *плеска* 'пляскаць у далоні', укр. *плескáти* 'ляпаць, пляскаць у далоні', 'кляпаць', 'пляскаць па вадзе' і інш. Гл. наступнае слова.

**Плёхаць** 'плюхаць' (ТСБМ, Клім., Растарг.), 'плёскаць' (ТС), *плёхацца* 'плюхацца' (Шат.; Растарг.; маст., пух., Сл. ПЗБ; сміл., Стан.), 'плёскацца' (ТС), 'пялёскацца' (люб., Жыв. НС), *плёхнуць* 'плюхнуць, выліць' (Бяльк.), *пліхнýць* 'плюхнуць, пырснуць' (Касп.), *плёхыньня*, *плёхкыньня* 'плюханне' (Юрч. СНЛ), *плёхнуць* 'плёснуць, плюхнуць' (сміл., Стан.), *плёшчыты* 'шумець

(пра ваду)' (Сл. Брэс.), *плёшчы́ты* 'тс' (пін., Нар. лекс.), *плёхоті́ты* 'тс', 'бурчэць пры цячэнні' (іван., ЛА, 5). Рус. *плёхать*, *плеха́ть* 'пырскаць, плёскаць', *плёхнуться*, *плехаться* 'выплюхвацца', н.-луж. *plěšyś* 'цячы, ліцца', харв. *plejati* 'біць, ударацъ'. Да *плёскаць* (гл.) з экспрэсіўнай зменай *ск* > *х*. Сюды ж *плёха* 'той, хто вымачыўся, плёскаючыся ў вадзе' (ТС).

**Плі́гаць** 'хварэць паносам', *плі́гнуць* 'разам вызваліцца ад вадкіх экскрэментаў (пра дзіця)' (Нас.), *плэ́гатэ*, *плэгнутэ*, *плы́гаты* 'раптоўна выдзеліць на чалавека вадкія экскрэменты (пра птушку, якая ў гэты час ляціць альбо знаходзіцца на дрэве)' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Відаць, звязаны з прыметнікам *плюга́вы* (гл.), параўн. *плюга́віць*, рус. *плюга́вить* 'пэцкаць нечыстотамі, брудам, ванітамі'.

**Плік** 'гаплік' (чэрык., Бяльк.; стаўб., чэрык., ЛА, 4). З *гаплік* шляхам адпадзення пачатковага *г*-, потым *а*-, якія былі прыняты за прыстаўныя. Параўн. *аплік*, *гаплік* (гл.).

**Плі́кнуць** 'пстрыкнуць (выключальнікам)' (жлоб., Мат. Гом.). Гукапераймальнае, параўн. наступнае слова.

**Плікýн**, *плікýнчык* 'чырок-свістунок, Anas crecca' (БелСЭ; гом., Мат. Гом.). Гукапераймальнае. Параўн. яшчэ літ. *pliáukšt!* 'ляп! шчоўк!'.

**Плі́ндра** 'ружжо' (Мік.). З польск. *flinta* 'паляўнічае ружжо', 'крамянёўка', якое з ням. *Flinte*, з другасным *-р-* (< н.-ням. *flint* 'крэмень, крэсіва').

**Плі́нта₁** 'бізун, сплецены з рэменя' (брасл., Сл. ПЗБ). Няясна. Грынавяцкене (тамсама) выводзіць лексему з ням. *Flinte* 'стрэльба', што малаверагодна.

**Плі́нта₂** 'ануча', 'пляткарка' (Сцяшк. Сл.), параўн. там жа *плянта́ць* 'гаварыць блытана', *плянці́цца* 'плесціся, ледзь ісці'. Да польск. *plątać* 'блытаць, змешваць', *plątać się* 'блытацца, збівацца'.

**Плінтава́ць₁** 'выраўноўваць, згладжваць, ачышчаць паверхню (зямлі, балота)', (ТСБМ, Нік. Очерки), 'высякаць лес' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *плінтоўка* 'поле на месцы расчышчанага лесу' (ТСБМ, Інстр. 1), рус. пск. *плинто́вка* 'выраўняны, ачышчаны ад кустоў участак, прызначаны для раллі'. Да *плянтава́ць* (гл.).

**Плінтава́ць₂** 'расколваць вялікія камяні на кавалкі, патрэбныя для далейшай апрацоўкі' (ТСБМ). Відаць, аднаго пахо-

джання з *плінта*, *плінфа* 'плоская, шырокая цэгла'. Гл. наступнае слова.

**Плінтус** 'планка, якая закрывае шчыліну паміж падлогай і сцяной' (ТСБМ, Касп., Сцяшк. Сл.). Праз рус. *пли́нтус* (з XIX ст.) з лац. *plinthis*, *plinthus* 'ніжняя частка п'едэстала калоны', 'карніз будынка звонку', якія са ст.-грэч. πλίνθος 'цэгла', (пазней) 'плітка'. Значэнне 'карніз' спрыяла семантычнаму пераходу, параўн. *плінтус* 'перакладзіна над вушакамі' (хоцім., ЛА, 4).

**Пліс**$_1$ 'баваўняная варсістая тканіна, падобная да аксаміту' (ТСБМ; віц., Хрэст. дыял.), 'аксаміт' (Бяльк.); укр. *плис* 'баваўняны аксаміт', рус. наўг. *плис* 'тс'. З гал. *pluis*, ням. *Pluss* (XVII ст.), якія з лац. *pilus* 'волас' (Карскі, Труды, 422; Фасмер, 3, 282; Васэрцыер, 174) < араб. *belas* 'шарсцяная матэрыя'. Сюды ж: *плісавы* 'аксамітавы' (рас., Шатал.), *плісаўка* 'плюшавы жакет' (дзятл., З нар. сл.), 'плюшавая куртка' (калінк., Мат. Гом.).

**Пліс**$_2$, *пліса, пліска* 'шырокая стужка на падоле спадніцы' (Бір.; Жд. 1; чырв., З нар. сл.), 'плісэ' (капыл., Сл. ПЗБ), *плісы* 'фальбоны' (смарг., Сл. ПЗБ), 'стужкі на спадніцы, прышытыя папярок' (ТС). З польск. *plisa* 'тс', якое з франц. *plissé* 'плісіроўка', 'плісэ', што з'яўляецца дзеепрыметнікам да *plisser* = *plisować* 'запрасоўваць фалды на тканіне' (SWO, 1980, 581; Банькоўскі, 2, 610).

**Піса́к**, *плыса́к* 'плытагон, плытнік' (Маслен.; іван., кобр. Нар. лекс.; ТС). З польск. *flisak* 'тс' (< *flis* 'сплаў тавараў па рацэ': *iść na flis* 'ісці на ваду' < ням. *fliess-wasser* 'тс', Банькоўскі, 1, 376); паводле Слаўскага (1, 232), польскае *flis* з ням. *Flösse* 'сплаў леса'.

**Пліска**$_1$, *плісіца, плісічка, плісачка, плісаўка, плішка, пліскаўка, плістаўка, сліска́ха* 'птушка з доўгім хвастом, сітаўка, Motacilla alba L.' (ТСБМ, Гарэц., Мік., Маш., Касп., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, Мат. Маг., Нас., ТС, Шат., Юрч. Вытв., Сцяшк. МГ; ЛА, 1); укр. *пли́ска*, *бли́ска*, рус. *пли́ска, пли́сица, плисивка, пли́згавица*; польск. *pliszka*, *pliszczka*, *plistwa*, *pliskwa*, *pluszka*, *pluskwa*, н.-луж. *spliska*, в.-луж. *pliška*, чэш., славац. *pliska*, *blyska*, *bleska*, *blíska, bliskva*, славен. *plíska, plȋskavica*, серб.-харв. *пли̏ска*, *fliska*, *kliska*, *pliskuša*. Прасл., відаць, **plisъka*. Махэк$_2$ (460) мяркуе, што назва паходзіць з гукапераймання голасу птушкі *pis-pis*; Скок (2, 684) бачыць тут вытворнае ад дзеяслова *pliskati* 'плёхацца ў вадзе', гэтаксама Праабражэнскі, 2, 75, Младэнаў, 430, Струтынскі,

Nazwy, 91, Голуб-Копечны (278) звязваюць назву птушкі з сівым, шэрым колерам; Фасмер (3, 283) лічыць роднасным са ст.-слав. плишть 'шум', чэш. *plišt'*, н.-луж. *plišć* 'плач'. Бел. *плісаўка* — гэта кантамінаваная назва з *пліска* і *сітаўка* (літарат. назва пліскі). Гэтаксама *пліскаўка*, *плістаўка*.

**Пліска$_2$** 'пырска', 'сляза' (жытк., мазыр., Мат. Гом.), *пліскі* 'пырскі' (Сцяшк. Сл.; ТС). Да *пліскаць, плёскаць* (гл.).

**Пліска$_3$** 'раска' (бяроз.. Сл. Брэс.). У выніку кантамінацыі лексем *плёсня* і *пліска$_2$* (гл.).

**Пліска$_4$** 'драбіны ў возе' (лун., Сл. Брэс., Шатал.). Да *папліска* (гл.).

**Пліска$_5$** 'падшыўка (напр., у спадніцы)' (мазыр., Шатал.). Да *пліс$_2$* (гл.).

**Пліска$_6$**, *пліскі, пліскі́, пліскы́, плыска, плыскы, плыскы́* 'грыб лісічка, Cantharella cibarius' (беласт., кам., кобр., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ; Бес.; кам., жабін., Сл. Брэс.), параўн. польск. дыял. *pliska, pliszka* 'тс'. З *пліска* 'птушка сітаўка' > *плісаўка* (гл.) — лісічкі названы паводле падабенства іх колеру з колерам жоўтых ці жоўтаспінных сітавак, параўн. літ. назвы лісічак: *voveruškà* — першаснае 'вавёрка', *gaidẽlis* 'пеўнік', чэш. *kouřatko* 'куранятка'. Этымалогія польскай назвы ў Тарнацкага — "od pliszki żółtej (Motacilla flava)" (Тарн., 58); гл. таксама Лабко (Бел.-польск. ізал., 70) пра сувязь з укр. дыял. *пліска* "шапачка жолуда або арэха", суадноснае з літ. *pléiskanos* 'лусачка скуры'; паводле Німчука (Давньорус., 246), аснова ўкраінскага слова звязана з *(за)плішка* < *(за)плісчка* 'невялікі драўляны клін' ад *(за)пліскити* < *(за)плісчити*, гл. *плішч*, што малаверагодна. Махэк зыходзіць з першапачатковага **plucha* 'луска' (< і.-е. **plou-sā*, параўн. старажытнанардыйскае *frosa* 'скурка'), што ўрэшце дало б *pljuska*, параўн. палес. *плюсы* 'грыбы, падобныя на лісічкі'; яшчэ раней так Голуб—Копечны, якія ўзводзяць **plu-cha* да прасл. **pelva*, з аблаўтам **pel-u*, што, на думку Гаўлавай (Etym. Brun., 1978, 23), найбольш праўдападобна, бо грыбы пакрыты лускавінкамі. Магчыма, але тады зыходная назва адносілася, хутчэй за ўсё, да іншых грыбоў, а не да лісічак.

**Пліскаць** 'выплюхваць, праліваць вадкасць праз край', *пліснуць* 'праліць праз край', 'плёснуць, пляснуць, трохі праліць', *пліска́нне* 'праліванне праз край пасудзіны', *пліску́чы* 'невыгодны

з-за адхоністых краёў посуд для нашэння вадкасці' (Нас.), *пліскаць* 'разліць' (Яруш.), *пліскацца* 'плюхацца' (Мік.), рус. смал. *плискáть* 'пырскаць', серб.-харв. *пл̏иска* 'ўсплёск вады, калі ў яе кідаюць каменьчыкі', балг. *плúсвам*, *плúскам* 'плёскаць, пырскаць, плюхаць', макед. *плиска* 'тс'. Гукапераймальнае. Параўн. *пліськ!* — пра імгненнае праліццё вадкасці праз край (Нас.). Сюды ж *пліскацца* 'пырскацца' (жытк., Мат. Гом.; Жыв. сл.), *плыскатыся, плэскатысь* 'тс' (пін., З нар. сл.; драг., Нар. лекс.), *плісконіна* 'плёсканне, пырсканне' (ТС), *пліснуць* 'лінуць, плюхнуць' (Сцяшк. Сл.), *пліска$_1$* (гл.). Гл. Смаль-Стоцкі, Приміт., 169; Куркіна (Этимология—1981, 15) бачыць тут комплекс *pl-*, варыянт зыходнага кораня **pel-/ *pol-* з чаргаваннем **pliskati/ *plixati*, гл. *пліхаць*.

**Плісканне** 'бліск', *пліскыць* 'паблісхваць' (мсцісл., Юрч. СНЛ). Да *бліск*, *бліскаць* < прасл. **bliskati* < і.-е. **bhlei̯-sk-/ *bleig̑'-sk,* роднасныя літ. *blyškė́ti* 'ззяць, блішчэць', англ.-сакс. *blīcan* 'тс', ст.-в.-ням. *bleih* 'бледны', ням. *Blick* 'погляд' (Трубачоў, Эт. сл., 2, 117). Няясным застаецца пераход *б* > *п*.

**Плісклён** 'баклажан чорны, Solanum nigrum L.' (гом., Кіс.). З рус. *паслён* 'ліснік, Solanum L.', якое з **pa-* і **slьnъ* ці **slěnъ*, звязаных генетычна з лексемай **slina* > *сліна* (гл.) (Фасмер, 3, 212).

**Плiскóўка** 'вяроўка, якою прывязваюць ворчык да бараны' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, з $^{+}$*пласкоўка* — вяроўка з *пласканёў* (гл.).

**Пліскýнка** (*плыскýнка)* 'асака' (Сл. Брэс.). Відаць, звязана з наступным словам з-за знешняга падабенства раслін.

**Плiснíк** 'плюшчай галінасты, Sparganium ramosum Huds.' (Шат.; барыс., круп., Сл. ПЗБ), *плісняк* 'асака, Carex L.' (б.-каш., Мат. Гом.). Да *плю́шнік* (гл.). Параўн. іншыя дыял. назвы расліны *плéснік*, *пліснЯ́к, плюхá, плю́шнік, плюшчáй, плюшчэўнік* (ЛА, 1).

**Плíснуць** 'лінуць, плюхнуць, пырснуць' (Бяльк.), *пліснýць* 'выліць вадкасць' (Мік.). Да *пліскаць* (гл.). Параўн. таксама *пліхнуць* (гл.).

**Плíсня** 'верхняя частка ступні нагі ля пальцаў, корткі' (Дразд.), *плісня́* 'верх ступні нагі' (стол., Сл. Брэс.). Да *плéсна, плюсна* (гл.).

**Плiсня́к** 'зялёная сыраежка, Russula' (смарг., Сл. рэг. лекс.). Да *плéсня* (гл.) — грыб названы паводле колеру плесені — светла-шэра-зялёнага.

**Плі́стаўка** ‘пліска, Motacilla alba’ (шчуч., Сцяшк. Сл.; карэліц., Нар. лекс.), укр. *плі́стка*, рус. наўг., прыбалтыйск., пецярб. *плі́стовочка, плі́сточка*, смал. *плі́стовка*, пецярб., пск. *плі́стка*, польск. *plistwa* ‘тс’. Да *плі́ска* (гл.). З’яўленне *-т-* звязана з роднаснымі ст.-слав. плишть ‘шум’, чэш. *plíšt’*, н.-луж. *plišć* ‘плач’ (Фасмер, 3, 283).

**Плісця́нка**, *плісценка* ‘плецены пояс, якім падпярэзвалі сарочку’ (Нік. Очерки; Малч.). У выніку кантамінацыі слоў *пліса* ‘байка’ і *пляця́нка* < *плёсці* (гл.).

**Плітá**, *плытá, плі́тка* ‘вялікі плоскі камень або кавалак металу з роўнай паверхняй’, ‘кухонная печ з канфоркамі’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Яруш., Сл. ПЗБ; навагр., астрав., воран., Сцяшк. МГ), ‘засохлы камяк зямлі на засеяным полі’ (Яшк.), ‘ссохлая луста зямлі, крыга’ (ТС), ‘вялікі кавалак апрацаванай гліны’ (клец., ЖНС), *плі́та* ‘вялікая крыга’ (лёзн., Яшк.), *плітá* ‘тс’ (лёзн., ЛА, 2), ‘памост ці камень на беразе рэчкі, дзе мыюць бялізну’ (шчуч., Сцяшк. Сл.), ‘вялікі кавалак сала’ (лун., мазыр., Шатал., ЛА, 4), *плі́ты* ‘брыкет’ (Сцяшк. Сл.), *плітá* ‘раскладка снапоў для малацьбы’ (рагач., ДАБМ, камент., 872), ‘застаронак у гумне’ (кіраў., рагач., бабр., ЛА, 2), *плі́та* ‘тарпа сена, саломы, снапоў’ (кіраў., Нар. сл.), *плітá* ‘сцірта’, ‘зляжалы пласт сена’ (рагач., гродз., Сл. ПЗБ; рэч., ЛА, 2), *плі́та* ‘касцёр дроў’, *плітá* ‘тс’ (асіп., жлоб., рагач., бабр., ЛА, 1), ст.-бел. *плитка* ‘адзінка колькасці солі’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. *плúта*, рус. *плитá* ‘пліта’, стараж.-рус. *плита* ‘кавалак каменя з плоскай паверхняй’, ‘цэгла’, польск. *plita* (з бел.), *płyta* (з укр.), балг. *плúта* ‘цэгла’, магчыма, серб.-харв. *пли̏тица* ‘плыткая міска’. Звычайна збліжаюць са ст.-грэч. πλίντος ‘цэгла’ (Фасмер, 3, 283). Магчыма, некаторыя лексемы (напр., балгарская) узыходзяць да наваграэч. πλίϑα ‘цэгла з гліны і саломы’ (БЕР, 5, 354), аднак трэба прыняць пад увагу пашырэнне (усх.-слав. тэрыторыя) і суаднесці з літ. *plytė́ti* ‘распасціracца’, *plìsti* ‘тс’, у такім выпадку можна гаварыць аб лексеме *плітá* як аб балтызме (Банькоўскі, 2, 610). Сюды ж *плітня́к* ‘вапняковая ці пясчаная парода, якая лёгка раздзяляецца на пліты’, *плітавáць* ‘абчэсваць камень у выглядзе пліткі’ (Шат.), *плі́тка* ‘кара’ ў выразе: *плі́ткай узяцца* ‘пакрыцца струпамі’ (докш., Сл. ПЗБ), *плі́ты* ‘прыступкі ганка з каменю’ (воран., Сцяшк. МГ), *плі́тоўка* ‘расколатыя на кавалкі

камяні', *плітоўнік* 'малаток для расколвання камянёў на кавалкі' (Скарбы).

**Плітка** 'палавіна капуснай галоўкі' (Вешт.; петрык., Мат. Гом.; ЛА, 4). Відаць, з *пялю́тка* (гл.) у выніку сцяжэння ў першым складзе.

**Плі́тніца**[1] 'куча камення' (шчуч., Сл. рэг. лекс.). Да *плітá* 'камень' (гл.) і суф. *-ніц-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 164).

**Плі́тніца**[2] 'цагельня' (добр., Мат. Гом.). Да *плітá* 'цэгла', якое сустракаецца ўжо ў XII ст. (Кірыла Тураўскі) і, відаць, узыходзіць да ст.-грэч. πλίνθα 'плоская цэгла, плінфа' і суф. *-ніц-а* са значэннем месца. Параўн. рус. пск. *пли́тня* 'месца, кар'ер, дзе з горных парод здабываюць пліты'.

**Плі́хнуць** 'пырснуць' (віл., Сл. ПЗБ), 'выліць, лінуць' (Варл.), 'ударыць' (Юрч. СНЛ), *плі́хаць* 'страляць' (Юрч. Вытв.), *пліхацéць* 'плюхаць, плюхцець, хлюпаць' (Бяльк.), Гукапераймальнае *плix!* — пра стрэл (Нар. лекс.). Роднаснае з *плю́хаць, плéскаць, плёхаць* (гл.). Параўн. славен. *plȋhati* 'плёскаць, плюхаць', *plíhniti* 'пераліваццa праз край', харв. *plihati* 'плысці, плаваць, разлівацца', *plihnuti* 'знікнуць'. Сной (Бязлай, 3, 57) рэканструюе **plixati* з **pl'yxati* (інтэнсіў да **plyti* 'плыць, плаваць'), у якім *l'*, як у **pl'uskati*, роднасным інтэнсівам якога з'яўляецца **pliskati*. Ён дапускае і іншае развіццё **plixati* < **plīk-sā-ti* побач з **pliskati* < *plik-skā-ti*. Варбат (Этимология—1978, 29—31) далучае сюды і ўкр. *плиxáти* 'вісець, развявацца, пырхаць', польск. *plixać/ plechtać* 'распырскваць ваду пры мыцці', што дае падставы рэканструяваць **plixati*, варыянт **plъxъtati* < **pol-*, гл. *спол* 'чарпак для вады' (Міклашыч, 254). Гл. наступнае слова.

**Плі́ца** 'лопасць параходнага кола', 'чарпак, якім на судне выліваюць ваду' (ТСБМ), 'лопасць ад рухавіка' (Сцяшк. Сл.), укр. *плúця* 'лопасць, коўш, чарпак', рус. дыял. *плица* 'лейка; чарпак', *плúча* 'лопасць', *плис(а)* 'тс', 'шуфлік'. Не зусім ясна. Прасл. **pъlica* (ЕСУМ, 4, 447), Фасмер, 3, 283, Праабражэнскі, 2, 75 параўноўваюць з ц.-слав. *исполъ* 'чарпак'. Сной (Бязлай, 3, 58) супастаўляе лексему са славен. *plida* 'чарпак, палонік' і лічыць роднаснымі літ. *plyksěti* 'біць па шчацэ', 'біць, лупцаваць', лат. *plīkšêt, plikšķēt* 'стукаць', 'пляскаць рукой па вадзе', 'ляскаць пугай'. Паводле Куркінай (Этимология—1981, 13), рус. *плица, плича* маюць аснову з галосным у ступені рэдукцыі, хут-

чэй за ўсё, **pьl-*, што адносіцца да гнязда **pelti*, адно са значэнняў якога — ‘чэрпаць’.

**Плішáль** ‘абсевак’ (шарк., ЛА, 2) утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-аль* ад *плеш*, якое ад **plěx-* і суф. **-ь*. Да *плех*$_1$ (гл.).

**Плíшнік** ‘клінападобная планка, якой злучаюцца дошкі ў дзвярах’ (Касп., Інстр. 2). Няясна. Магчыма, з **плішчнік* < *плішч* (гл.), параўн. укр. дыял. *(за)плішка* < *(за)плісчка* ‘невялікі драўляны клін’, ад *заплісчити* (Німчук, Давньорус., 246)..

**Плішнíк**, *плы́шнык* ‘аер, Acorus calamus L.’ (Бес.; пух., кобр., Сл. ПЗБ). Да *плю́шнік* (гл.).

**Плíштвы** ‘шалёўкі’ (трак., Сл. ПЗБ). З *ліштвы* ‘тс’. Пачатковае *п-*, відаць, з літ. прыстаўкі *ap-* у адпаведных словах *ãpvadas, apkalà.*

**Плішч**: *плішчом лезці* ‘сілай лезці, з нахабствам’, *плíшчыцца* ‘сілай лезці, праціскацца, пралазіць з цяжкасцю’, *плíшчыць* ‘тс’ (навагр., З нар. сл.; капыл., Жыв. сл.; ТСБМ; Нікан.; Бяльк.). У выніку кантамінацыі *пішч*$_2$ (гл.) і *клін*. Менш верагодна сувязь з фармальна ідэнтычнымі чэш. *plišt’* ‘плач’, в.-луж. *plišč* ‘тс’, ст.-слав. плищь ‘шум’ < **plisk-jь*, гл. *пліскаць*.

**Плíшчык** ‘касмык травы на скошанай сенажаці’ (кобр., ЛА, 2). З $^+$*плешчык*, якое да *плеш* < *плех*$_1$ (гл.).

**Плíшчыцца** ‘хадзіць на двор рэдкім, мецца бягунку’ (Бяльк.). Да *пліскаць*, *плю́скаць* (гл.). Параўн. чэш. *pliskati* ‘аб спорным, хуткім дажджы’, серб.-харв. *пљу̏штати* ‘тс’.

**Плод** ‘частка расліны з насеннем’, ‘зародыш дзіцяці’, ‘вынік, прадукт дзейнасці’ (ТСБМ, Яруш.; маг., Шн.); ‘дзеці’, ‘племя’ (Нас.); ‘яйка’ (брагін., Мат. Гом.), ‘прыплод’ (шчуч., Сл. ПЗБ), сюды ж *плодна* ‘ўрадліва’ (Нас.), *плодная* ‘паросная (свіння)’, *плодны* ‘ўрадлівы, пладавіты’ (Жд. 3; Сл. ПЗБ), ‘хто шмат дае прыплоду’ (Варл.), *пладны́* ‘тс’ (паст., Сл. ПЗБ), *пладзіцца* ‘расплоджвацца’ (Сл. ПЗБ), *плод* ‘расплод’ (ТС), *плóцтво* ‘размнажэнне’ (свісл., Сл. ПЗБ). Укр. *плід*, рус. *плод*, польск. *płód,* н.-луж. *płod*, в.-луж. *płód*, чэш., славац. *plod*, славен. *plǫ̑d*, серб.-харв. *пло̑д*, макед. *плод*, балг. *плод, плодът*, ст.-слав. плодъ, плодьнъ, плодовитъ; неплоды ‘бясплодная жанчына’. Прасл. **plodъ*, роднасныя якому ст.-англ. *bloed* ‘плод дрэва’, ‘палявыя плады’, ‘збожжа’, с.-нідэр. *blāt* ‘пасаджаная палявая культура’, франк. **blād* > франц. *blé,* праванс., каталон. *blat* ‘збожжа’ (Махэк$_2$, 461—462); Бязлай (3, 60) у якасці най-

бліжэйшых адпаведнікаў падае кімр. *llwdn* ‘хлопчык, дзіцёнак’, ст.-ірл. *loth*, брэтонск. *loen*, с.-брэтонск. *lozn* ‘жарабё’. Міклашыч (251), Мее (RS, 6, 132), Фасмер (3, 283—4), Персан (Beitr., 668) гавораць пра старажытную аснову лексемы на *-й* **p(h)lodй,* звязаную чаргаваннем галосных з **pled-men* (гл. *пле́мя*). Ісачанка (Зб. Гаўранку, 1, 124) у аснове **pled-* бачыць і.-е. **pelə-* ‘напаўняць’, Варбат (Диал. исслед. по рус. яз., 1977, 262) вылучае корань і.-е. **pel-* са значэннем ‘напаўняць’, ‘нараджаць’. Сюды ж *пло́жаць* ‘пладзіцца’ (Ян.), якое можна, відаць, супаставіць са славен. *plȍha*, *plȅh*, харв. кайк. *plȅšina* ‘племя, род, парода’, адносна якіх Скок (2, 683) зыходзіць з **plodъ* і *plemę* і выводзіць іх з **pled-s-*. Бязлай (Этимология—1973, 187) прымае да ўвагі (у сувязі са славен. і харв. лексемамі) і зах.-слав.: славац. *upl’ahnuc se* ‘нарадзіцца (пра жывёл)’, чэш. валаш. *pléhnúť sa, pléhnit sa* ‘пладзіцца, расплоджвацца, разводзіцца’, в.-луж. *plahować,* н.-луж. *plagowaś, zblagnuś,* польск. *pląc się, plęgnąć się, plagować* ‘выхоўваць, прыводзіць да парадку’, якія нібыта сведчаць аб першапачатковым **plęg-*. Варбот (Этимология—1978, 23—25) дапускае, што *plęgti* — другаснае, што яму папярэднічала *plegti* (як слав. *sękti* ў адносінах да літ. *sèkti*) ‘цячы, напаўняць’. Семантыка гнязда **pel-* вельмі блізкая да кола значэнняў *plęgti* ‘пладзіцца, вырастаць’ і **plex-/* **plox-* ‘род, парода’.

**Плодзь** ‘дзіця’ (гом., Нар. Гом.). З **plod-ь*, якое з **plodъ* > *плод* (гл.). Параўн. рус. вяц. *плодь*, *плоди* ‘маладыя атожылкі ў раслін, што ўюцца’.

**Пло́іць** ‘завіваць валасы’ (брасл., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *плойка* ‘шчыпцы, якімі накручваюць валасы’, ‘прычоска, аздобленая такімі шчыпцамі’ (ТСБМ; брасл., Сл. ПЗБ). З рус. *плойть* ‘завіваць валасы, укладваць бялізну падчас прасавання’, *плой* ‘складкі, хвальбоны’, якія з франц. *ployer* ‘згінаць, складваць’ < лац. *plicāre* ‘тс’, магчыма, праз нідэр. *plooien* ‘укладваць складкамі’ (Фасмер, 3, 284).

**Пло́йма**, *плы́йма, плу́йма, плэйма* ‘мноства (аб жывых істотах)’, ‘безліч, вялікая колькасць, зборышча чаго-н., кампанія’ (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Касп., Шат., Клім., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Растарг., Жд. 1, Жд. 3; Варл.; бялын., Янк. Мат., Янк. 3; мсцісл., Янк. 2; мсцісл., Юрч. СНЛ; Сцяшк. МГ; барыс., драг., Сл. Брэс.; паўн.-усх., КЭС), ‘стада кароў, табун коней, статак авечак’ (карм., ЛА, 1), *плоймаю* ‘кучай’ (калінк., З нар. сл.), *плуймо*

‘многа’ (круп., ЛА, 5), ‘дзятва, дзеці’ (Бяльк.), ‘сваякі’ (Юрч. СНЛ), *плойма* ‘гультай’ (лях., Сл. ПЗБ), укр. палес. *плййма* ‘безліч, мноства’. Варбот (Этимология—1986—1987, 62—63) суадносіць бел. лексему з серб.-харв. *plȍjba* ‘шмат вады на столі, падлозе пры кепскім даху’, якое Скок (2, 687) выводзіць у якасці далма-тараманскага рэлікта, вульг.-лац. **plǫvia* < лац. *pluvia* ‘дождж, дажджавая вада’. Варбот (там жа) уключае лексему **plojьma* ў этымалагічнае гняздо і.-е. **pel-* ‘ліць, цячы, напаўняць’, ‘нараджаць’, якая разглядаецца як вытворная ад асновы з коранем у нулявой агаласоўцы і пашырэннем яе на *-í-*; да гэтага гнязда належыць прасл. **рьlnъ(jь), *plodъ, *plemę, *plęgti* ‘пладзіцца, вырастаць’. Параўн. таксама Люканен, 1, 172 (*плойма* < **plodma* ад **ploditi*). Магчыма, да *плыць* (гл.), як рус. *вой* ад *выть*, гл. *аплавітна* ‘багата’. Значэнне ‘вялікая колькасць вады’ — адлюстраванне першаснай семантыкі і.-е. **pel-* ‘ліць, цячы’.

**Плóзы** ў песні: *Ой, пайду я каля лозы, аж там арэ мілы плозы...* (навагр., Дзмітр.). Гэта варыянт песні “Ой, пайду я каля луга, там мой мілы арэ плугам”. Лексема *плозы* ўтварылася пры ад’ідэацыі *плуг-ам* і польск. *płosy* ‘паласы’ (гл. *паласá* ‘кавалак ворнай зямлі’) і пад уплывам рыфмы: *лозы — плозы*.

**Плóмба** ‘цвёрдае рэчыва, якім закладваецца дупло зуба’, ‘металічны забаронны знак’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Праз рус. мову з ням. *Plombe*, якое з *plombieren* ‘пламбаваць’ < франц. *plomber* ‘ушчыльняць, заліваючы растопленым волавам’ < *plomb* ‘волава’ < лац. *plumbum* ‘тс’ (Фасмер, 3, 284; Банькоўскі, 2, 610). Палес. драг. *плёмба*, *блёмба* — праз польск. *plomba* ‘пломба’.

**Плóме** ‘полымя; гарачыня’ (Нас.), *пломя* ‘полымя’ (Сл. ПЗБ; Шатал.; Сцяшк. Сл.), ‘тс’ (іўеў., воран., ЛА, 2). З польск. *płomień* ‘тс’, канчатак, як у прасл. **pol-mę* > *полымя* (гл.), магчыма, праз польск. ст.-мазав. *płomię*, якое ўжывалася ў мове т. зв. крэсавякаў (А. Рымша, Ю. Крашэўскі, Э. Ажэшка, В. Спасовіч і інш., гл. Банькоўскі, 2, 625).

**Плóмень**, *пломянь* ‘полымя’ (Нас.; смарг., ЛА, 4). Яшчэ ст.-бел. *пломень*, *пломянь*, якія са ст.-польск. *płomień* (Булыка, Лекс. запазыч.; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 4, 14), якое з прасл. **polmy*, Р.скл. *polmene* (< позняе і.-е. **pol-men*) > бел. *полымя* (гл.).

**Плóмік** ‘часопіс’ (Жд. 1). З польск. *płomyk* — назва польск. часопіса.

**Пло́міна** ‘палонка, незамёрзлая частка ракі або возера’ (Сцяшк. МГ). З польск. *płonina* ‘палонка, пелька’, якое з польск. *pło* ‘багна’ < *peł*, параўн. кацеўск. *peł, plisty* ‘багністы (пра зарастаючыя азёрцы)’ < прасл. **ръłъ* ‘балота, якое часова заліваецца вадою’, параўн. ст.-рус. *пол* ‘тс’, рус. *полая вода*, *половодье*; роднаснае літ. *pũliai* ‘гной’ < *і.е. *pul-o-s* (Банькоўскі, 2, 624).

**Пло́ска** ‘асака’ (гродз., Сл. ПЗБ). Гл. *пла́ска*.

**Пло́скані**, *плоскамкі* ‘маніцы, мужчынскія калівы канапель’ (Нас.; гом., Рам. 4), *плоскуні* ‘тс’ (Бір.; ваўк., Хрэст. дыял.; Янк. 1; Нас.; Сцяшк. МГ; Мат. Гом.; ДАБМ, камент., 869—870; Ян.; ТС; чырв., З нар. сл.; ст.-дар., Нар. сл.), ‘палатно з плоскуняў’ (Уладз.), параўн. польск. дыял. *płoskony* ‘маніцы’, відаць, запазычанае з усходу, (Бел.-польск. ізал., 53) і балг. *плоску́нь* ‘малады, з малымі зярнятамі (пра зялёны боб, гарох і пад.)’, паводле БЕР, 5, 361 — пад уплывам *плосъ́к*, гл. *плоскі*. Да *пласкані́* (гл.).

**Пло́скі** ‘які не мае ўпадзін, узвышшаў, роўны, без пад’ёмаў і спускаў’ (ТСБМ, Сцяшк. МГ), ‘слаба, някрута спрадзены’ (Уладз.; баран., Сл. ПЗБ; гродз., Сцяшк. Сл.; рас., талач., Шатал.), ‘палогі (пра бераг ракі, возера)’ (карм., ветк., чач., ЛА, 2; ТС), ‘худы (конь, карова)’ (іўеў., Сцяшк. Сл.), ‘шырокі (пра капыт)’ (карэліц., Нар. словатв.). Укр. *пло́ский*, рус. *пло́ский, пло́сок*, польск. ст.-мазав. *płoski*, чэш., славац. *ploský*, славен. *plòsk* ‘плоскі’, *plóska* ‘паверхня, раўніна’, серб.-харв. *пло̏сан*, макед. *плосок*, балг. *плосък*, ст.-слав. плоскъ. Прасл. **ploskъ*, звязанае чаргаваннем галосных кораня з **plask-, *plesk-, *plěsk-*, якія з і.-е. **plok-sko-* ці **plək-sko;* роднаснае лат. *plakans* ‘плоскі’, лац. *placidus* ‘роўны, гладкі’, ‘прыемны’, ст.-грэч. πλάξ ‘раўніна’ (Ільінскі, ИОРЯС, 20, 3, 113; Траўтман, 222; Фрэнкель, 602; Бязлай, 3, 61). Аднак Мее (Études, 332), Младэнаў (430), Фасмер (3, 285) дапускаюць магчымасць вывядзення лексемы *плоскі* з **plot-sko* і супастаўляюць апошнюю са ст.-інд. *práthas* ‘шырыня’, авест. *fraϑah-*, ст.-грэч. πλατύς ‘шырокі, плоскі’. Гэтаксама Махэк$_2$ (462), які дапускае прасл. форму **plotъ* (*й*-аснова), што ў чыстым выглядзе не захавалася, але ад яе ўтварылася *плотва*, *плотка* (гл.). Борысь, Папоўска-Таборска (ZPSS, 10, 27) на падставе славін. *plos* ‘клоп’ рэканструююць рэліктавую форму **plosъ* ‘плоскі’, якая мае адпаведнікі

на славянскім Поўдні. Абаеў (Этимология—1984, 21) мяркуе, што рус. *плоский* з'яўляецца роднасным рус. *плохой*.

**Пло́сценька** 'тоненькая вузенькая пласцінка гліны' (стол., ЖНС). Утварылася ад *плоскі* (гл.) пры ад'ідэацыі слоў *пласцінка* (ці *тоненька стружка*).

**Плот**$_1$, *плу͡от, плут, пліт, плыт, плет* 'агароджа вакол чаго-н.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'паркан' (Нас.; ТСБМ; Варл.), 'агароджа з жэрдак, пераплеценых галлём' (Яруш., Сцяшк. МГ, Гарэц., Шпіл., Бес., Шушк., Выг., П.С.; Зн., дыс.; ДАБМ, к. 246; Шат., Касп., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Сл. Брэс.; івац., Жыв. НС); 'пляцень, агароджа з тонкіх кійкоў, пераплеценых лазой' (Чуд.; Клім.; ЛА, 4), 'частакол' (ЛА, 4); 'плот з жэрдак' (усюды, апрача ўсх.-маг. і ўсх.-гом., ЛА, 4); *плот* 'застаўкі ад снежных заносаў на дарозе' (Сцяшк. МГ), 'дубцы, галлё з якіх плятуць агароджу, кашы' (Сцяшк. Сл., Сцяшк. МГ). Укр. *пліт*, рус. зах., паўд. *плот*, польск. *płot*, н.-луж. *płot*, в.-луж. *płót*, чэш., славац. *plot*, славен. *plọ̑t*, серб.-харв. *плôт*, макед. *плот*, балг. *плет*, ст.-слав. плотъ. Прасл. **plotъ* ці **ploktъ* (Трубачоў, Ремесл. терм., 163) — гэта іменнае вытворнае з *о*-вакалізмам ад дзеяслоўнай асновы **plesti* > *плёсці* (гл.) < і.е. **plektō* з пашыральным суф. *-t-* пры больш старажытным **plekō,* параўн. ст.-грэч. πλέκω 'пляту'. Мяркуецца, што **plesti* першапачаткова адносіўся да пляцення з гнуткіх, тонкіх атожылкаў і галінак дрэваў. Аналагічнае паходжанне ням. *Wand* 'сцяна' < *winden* 'плесці' (Мерынгер, IF, 1904—1905, 17, 139 і наст.) ці манг. *хэрэм* 'сцяна' < *хэрэх* 'звязваць, сплятаць' (Аткупшчыкоў, Из истории, 233). Сюды ж в.-дзв. *плутуваць* 'пераплятаць плот лазой' (Сл. ПЗБ).

**Плот**$_2$, *плыт*, *плытюх*, *плытюга́* 'хлус, балбатун, пляткар' (Клім.; пін., Сл. Брэс., Нар. лекс.; івац., Жыв. НС). Да *плёсці* (гл.). Паводле Банькоўскага (2, 607), пераход 'плесці' > 'выдумляць, хлусіць' — польская спецыфіка. Аднак параўн. рус. арх. *плоти́ть* 'хлусіць, вярзці лухту' і фразеалагізм *плести плетень* 'гаварыць бязглуздзіцу'.

**Плот**$_3$ 'плыт' (Сцяшк. Сл.; ваўк., Сцяшк. МГ; вільн., астрав., Сл. ПЗБ). Да *плыт$_1$* (гл.). Сюды ж *плот* 'спосаб укладкі лёну і канапель для вымочвання' (калінк., мазыр., Уладз.).

**Плот**$_4$ 'кнот, зроблены з напаўспаленых акрайкаў палатна' (Мік.). Відаць, да *плёсці* (гл.), г. зн. 'сплецены з акрайкаў палатна'.

**Пло́тва** 'плотка, Rutilus rutilus L.' (навагр., Сцяшк. МГ), 'краснапёрка, Scardinius erythropthalamus L.'. Да *платва́* (гл.), прасл. **ploty*, Р. скл. *plotъve*, сюды ж *плоціца*, *плаціца* і ўтвораная ад іх шляхам адваротнай дэрывацыі гродз. *плоць*, якія ў суседняй польскай мове з XVI ст. сталі замяняцца формай **plot-ъka* (Баньkоўскі, 2, 624—625); на бел. тэрыторыі ў сучасны момант гэтая форма пераважае: *плотка*, *плітка*, *плутка*, *плытка* 'плотка' (ТСБМ, Нас., Дразд., Жук., Гарэц., Яруш., Бес., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Стан., Растарг.; гродз., З нар. сл.).

**Плотка** 'прэснаводная рыба сямейства карпавых, Rutilus rutilus L.' (ТСБМ). Да *плотва*, *платва* (гл.).

**Пло́тнік** 'цясляр' (Яруш., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.; дзятл., Сл. МГ), 'дойлід' (Бяльк.), 'калеснік' (горац., чач., ЛА, 2; полац., леп., рэч., ЛА, 3), *плотніцтва* 'цяслярства' (дзятл., Сл. ПЗБ), *плотніства* 'праца плотніка' (Юрч. СНЛ), *пло́тнікаваць* 'займацца, цяслярствам' (ТС). Рус. *пло́тник* 'цясляр', стараж.-рус. *плотникъ* 'тс' (з 1016 г.). Бел.-рус. ізалекса. Да *плот* (гл.). Першапачаткова абазначала 'той, хто робіць (пляце, ставіць) агароджу', пазней — 'цясляр, які будуе сцены горада' > 'які будуе сцены дома, будынкаў' (Фасмер, 3, 285).

**Пло́тны** 'дзябёлы, тоўсты' (Ян.), 'добра складзены' (ТС), параўн. паўн.-рус. *плотный* (арханг. *плотно́й*) 'цвёрды (аб зямлі), нядрузлы, моцны, непранікальны', арханг. 'моцны (дождж)', славен. *poltén* 'плоцевы', 'юрлівы'. Прыметнік (стараж.-рус. *плътьнъ*) ад прасл. **plъtь* > бел. *плоць* (гл.).

**Плоў** 'сярэднеазіяцкая страва з рысу і бараніны з прыправамі' (ТСБМ). У такім выглядзе — з рус. мовы (*плов*), у якой існуюць таксама *пило́в, пила́в* 'тс', як і ў польск. *pilaw*, *pilaf*, — усе да тур. *pilav* 'крутая рысавая каша' (Праабражэнскі, 2, 58; Варш. сл., 4, 189; Фасмер, 3, 261).

**Пло́ўкі** 'пра сала, якое выдзяляе шмат тлушчу' (чач., ЛА, 4). Да *пла́віць*$_2$, *плаўкі*$_4$ (гл.). Мену *а* > *о* Карскі (1, 98) тлумачыць лабіялізацыяй *а* перад *ў*.

**Плоўт**, *пло́ўтэс* 'прадаўгаватая дошка, якой закрываюць бакавы ўваход у калодачны вулей' (воран., Сл. ПЗБ; ЛА, 1). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 4, 15), з літ. *plaũtas* 'тс'.

**Пло́ўшы**, *плоўшачкі* 'высеўкі, адходы пры шатраванні збожжа' (воран., Сл. ПЗБ; воран., ЛА, 4). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 4, 15), паходзяць з літ. *plaũšos* 'тс'.

**Плох** 'хворы' (в.-дзв., Сл. ПЗБ); *плохі* 'благі, кепскі', 'слабы, хворы, хваравіты', *плохшы* 'горшы' (Нас., Сл. ПЗБ, Ян., ТС), 'разбэшчаны' (Ян.), *плоха* 'дрэнна, млосна' (Сцяшк. МГ, Сл. ПЗБ, Ян.), 'кепска, дрэнна (рабіць што-н.)' (Бяльк.), *плохвіна* 'пустая, неўрадлівая зямля' (ТС). Да *плахі* (гл.). Сюды ж: *плашэць* 'прыходзіць у горшы стан' (Нас.).

**Плóхі**, *плохы*, *плохый* 'спакойны, сарамлівы' (Сл. ПЗБ), 'мірны, рахманы' (гродз., Нар. сл.), *плóхый* 'прыручаны', *плóха(я) (курыца)* (кобр., ц.-палес., гродз., ЛА, 1); укр. *плохúй* 'мірны, ціхі, лагодны, рахманы, пакорлівы', *плоховúтий* 'тс', рус. арханг. *плохлúвый* 'баязлівы', цвяр., пск. *плохой* 'някемлівы, бесклапотны'; польск. *płochy* 'нясталы, схільны да ўцёкаў, палахлівы', харв. чак. *plȍh* 'сарамлівы, нясмелы'. Звычайна суадносяць гэтую лексему з *полах* (Фасмер, 3, 286; Мартынаў, Слав. акком., 127—128) < прасл. **polxъ* з блізкай семантыкай 'трывожны, хвалюючы', тлумачачы яе як рэдукцыю поўнагалосся (Банькоўскі, 2, 624).

**Плоц** 'плоскі бок біткі' (Рам. 8). Відаць, з рус. мовы; параўн. рус. *плоц*, *плоцка* 'плоскі бок ігральнай біты', 'становішча кінутай біты бокам ці толькі на плоскім баку', *плоцкий* 'плоскі', якое з'яўляецца кантамінаваным утварэннем з *плоскі* і *клёц* < ням. *Klotz* 'калода; цурка' < с.-в.-ням. *kloz*, англ.-сакс. *clott* 'камяк, гала, клубок'.

**Плоце́нко** 'клятчастая або паласатая даматканая тканіна' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *płócienko, płócienek* 'баваўняна-ільняное палатно (на сукенцы, спадніцы)', 'кужаль' — памяншальная форма лексемы *płótno* 'палатно', якое спарадычна сустракаецца ў ст.-бел. тэкстах: *плотно* 'тс' (XVI ст.), *плотенко* (XVI—XVII стст.) (Булыка, Запазыч., 245; Лекс. запазыч., 203).

**Плóцтва** (*плóцтво*) 'размнажэнне' (свісл., Сл. ПЗБ). З $^{+}$*плодств-а*, да *плод*, *плодзь* (гл.).

**Плоць**₁ 'цела жывых істот', 'матэрыяльнае ўвасабленне' (ТСБМ, Нас.), 'пол' (Гарэц.), 'палавыя органы' (Ласт.), *плоцьны* 'палавы' (Ласт.), *плоцьнае* (жыццё) 'палавое' (Стан.); *плоць* 'перхаць, луска са скуры' (беш., Нар. сл.), *плоть* 'сперма' (драг., Лучыц—Федарэц, вусн. паведамл.). Укр. (старое) *плоть*, рус. *плоть* 'плоць', 'цела' — апошняе значэнне — царкоўнаславянізм (Мяркулава, Этимология—1970, 175), дыял. таксама 'цвёрды грунт пад глебай', 'перхаць, луска', 'скура на галаве', 'ікра',

'малако (у рыб)', 'мужчынскія палавыя клеткі', стараж.-рус. *плъть* 'скура, колер скуры', польск. *płeć* 'жывое чалавечае цела', 'скура, гладкая паверхня цела', 'колер скуры'; 'чалавек наогул', 'мужчынская ці жаночая будова цела', 'пол', н.-луж. *płeś* 'юр', 'колер скуры', чэш., славац. *plet'* 'скура твару', славен. *pȏlt* 'скура на жывым целе', 'колер скуры, колер твару', 'плоць', серб.-харв. *пу̏т*, дыял. *pelt* 'цела, плоць', 'скура', макед. *плот*, балг. *плът*, ст.-слав. плъть 'цела', 'юр'. Прасл. **plъtь*, найбольш блізкім да якога лічыцца лат. *pluta* 'цела, плоць; скура', *plutus* 'далікатная скура (з галавы)', літ. *plutà* 'скарынка', 'расліннае покрыва на паверхні вады', 'кара зямлі' (Фасмер, 3, 286; Махэк$_2$, 459; Бязлай, 3, 83); Банькоўскі (2, 623) следам за Бугам (Rinkt., 2, 518), Младэнавым (431) выводзіць польск. *płeć* з і.-е. **plutis* 'скураны мех, на якім плавалі', якое з і.-е. **pleu̯-/ *plou̯-/ *plu-* 'плаваць, прыплываць'. Непераканаўча.

**Плоць$_2$**, *плоцье* 'плоткі, платва' (Нас.; Мат. Маг.; гродз., лудз., Сл. ПЗБ, ТС), 'плотка' (свісл., Сцяшк. Сл.; чэрв., Нар. лекс.); рус. смал. *плоть* 'тс'. Да *платва, пло́тва* (гл.).

**Пло́ччынка** 'вудачка, прыстасаваная для таго, каб лавіць плотак і інш. дробную рыбу' (Янк. 2). У выніку семантычнай кандэнсацыі словазлучэння *плотчына вудачка*.

**Пло́шка$_1$** 'бакавая частка ткацкага станка' (брагін., Мат. Гом.), рус. арх. *пло́шка* 'кухонная дошка, кружок'. Са словазлучэння *плоская дошка* ў выніку семантычнай кандэнсацыі.

**Плошка$_2$** 'вялікая плоская лыжка, якой аграбалі рой пчол'. У выніку пераносу значэння (пад уплывам лексемы *плоскі*) з прасл. **plosky* 'плоскі, плыткі сасуд, міска', якое было запазычана на Балканах з раманскіх дыялектаў, куды трапіла з герм. **flaskō*, ці з ст.-в.-ням. *flaska* са значэннем 'бутэлька' (Трубачоў, Ремесл. терм., 293—294).

**Плошка$_3$** 'раздвоеная частка [у выглядзе дошкі], рыльца, на якое набіваліся сашнікі' (Смул.). Да *пла́ха$_1$* (гл.). Карэннае *-о-* пад уплывам лексемы *дошка*.

**Плошча** 'вялікая незабудаваная тэрыторыя ў горадзе ці вёсцы', 'месца, памяшканне, прызначаныя для якой-н. мэты' (ТСБМ; Гарэц.; Др.-Падб.; Бяльк.; пух., Сл. ПЗБ). Укр. *площа, площи́на* 'плоскасць, раўніна', 'плошча', 'паляна', рус. алан. *площа, площи́ца* 'плошча', 'пляцоўка каля дома, на двары'; славен. *plȍsk*, *plóska*

'паверхня', 'раўніна', 'поле', *plộšča* 'пліта, дошка', 'плітка'. Да прасл. **plosk-ja,* больш падрабязна гл. *плоскі*; у літаратурнай мове пашырылася за кошт лексемы *пляц* у значэнні 'роўнае незабудаванае месца ў горадзе' пад уплывам рус. *площадь* 'тс' (Германовіч, Аб некат. асабл., 13).

**Плошчадзь**, *плóшчадь* 'плоскае, роўнае месца' (стаўб., Прышч. дыс.; шальч., кобр., беласт., Сл. ПЗБ). З рус. *площадь*, якое з прасл. **plosk-ědь* (Фасмер, 3, 287); Пізані (Этимология—1956, 169) лічыць слова выключна ст.-слав., адкуль яно трапіла ў ст.-рус., утвораным ад *плоскъ* на аснове суадносін паміж ст.-грэч. πλατεῖα < πλατύς 'шырокі, плоскі', г. зн. адносна позняй слав. калькай, што, на яго думку, пацвярджаецца і адносна рэдкім і "непадыходзячым" суфіксам *-ędь*; насуперак яму Аткупшчыкоў (Из истории, 161—163) падкрэслівае славянскасць словаўтваральнай мадэлі на *-*ę*-dь*. Хутчэй за ўсё, праславянскі дыялектызм ад **ploskъ* (гл. *плоскі*), утвораны пры дапамозе прадуктыўнага суфікса *-ědь*, параўн. *роўнядзь* і пад.

**Плóшчай** 'касач, Iris L.' (гродз., Нар. лекс.). Да *плюшня́й, плю́шнік* (гл.).

**Плошчык** 'прамы вузел' (ТС). Відаць, ад словазлучэння *плоскі вузельчык*.

**Плошчыкі** 'кіёчкі для раздзялення асновы (нітак) у кроснах, каб яны не скручваліся' (гродз., Нар. сл., Сцяшк. Сл.; Скарбы). Да *плоскі* (гл.) — кіёчкі маюць плоскую форму.

***Плошчыць**, пруж. *плóшчыт* (вýшы) '[конь] стрыжэ вушамі (пра каня)' (ЛА, 1), рус. *площи́ть* 'плюшчыць, рабіць плоскім'. Да *плóскі* (гл.): стрыгучы вушамі, конь робіць іх плоскімі і прыціскае да галавы.

**Плуг** 'прылада з металічным нарогам для ворыва' (ТСБМ; Зн., дыс.; Бес., Тарн.; Сцяшк. МГ; Бяльк.; Сл. ПЗБ), 'вузенькі шнур зямлі, які можа заняць плуг пры ворыве' (слаўг., Яшк.); укр. *плуг*, рус. *плуг*, стараж.-рус. *плугъ*, польск. *pług*, палаб. *pläug*, н.-луж. *pług*, в.-луж. *płuh*, чэш. *pluh*, славац. *pluh*, славен. *plȗg*, серб.-харв. *плу̏г*, макед. *плуг*, балг. *плуг(ът),* серб.-ц.-слав. *плугъ*. Прасл. **plugъ*. Многія (Мерынгер, JF, 16, 184; 17, 100; 18, 244; Уленбек, AfslPh, 15, 490; Ван-Вейк, IF, 23, 366; Мее, Études, 179; Фасмер, 3, 287) выводзілі лексему з герм. **plōga-* 'плуг', якое, аднак, у германскіх мовах з'яўляецца ізаляваным і этыма-

лагічна няясным (запазычанне нібыта адбылося яшчэ да перамяшчэння зычных у ст.-в.-ням. мове, г.зн. да V—VI стст. н. э. ці са ст.-в.-ням. *pfluog* (Смулкова, Słown., 42). Цяжка давесці і кельтарэцкае паходжанне герм. **plōga* (у сувязі са згадкай у Плінія (Naturalis historia, 18, 172) пра новую прыладу працы (*plaumorati* < **ploum aratrum*) з альпійскай вобласці, якое параўноўваюць (Вальдэ-Гофман, 2, 320, 324) са ст.-італ. *ploxemum*, *ploxenum* 'палукашак на возе', ці з лац. *plaustrum*, *plostrum* 'хура' (Клюге, 17, 545). Пра запазычанне герм. **plōga* з прасл. *plugъ* гаварыў яшчэ Я. Грым (Geschichte der deut. Spr., 1850, 1, 40), але прасл. лексема, паводле яго, была ўтворана з **plyti* 'плыць'; гэтаксама з **plyti* і суф. *-*gŏ*- ўтваралі лексему **plugъ* Вондрак (Vergl. Gr., 1, 470), Міклашыч (252), Машынскі (JP, 36, 1956, 1) — з і.-е. **pleu̯-*/**plou̯-* 'ліцца', 'сунуцца, цягнуць', Фасмер (3, 287) рашуча адхіляе запазычанне герм. **plōga* са слав. У той жа час Мартынаў (Лекс. взаим., 175—178) пераканаўча даводзіць спрадвечнасць прасл. **plugъ* (< *plužiti* 'цягнуць па зямлі') і запазычанне слав. лексемы германцамі. Скок (2, 690) мяркуе, што герм. (гоц. **plōgs*) было запазычана з балтаслав. мовы. Гл. таксама Бязлай (3, 61—62). Трубачоў (Этногенез, 212) лічыць *plōg*- цэнтральнаеўрапейскай інавацыяй, што адлюстроўвае тэхнічнае ўдасканаленне больш ранняга *рала* (< **ordlo*) — 'рала на калёсах' ("плывучае рала"). Сюды ж *плугáр* 'араты' (в.-дзв., рагач., Сл. ПЗБ; Нар. Гом.; Ян), *плугáтар, плугáтнік* 'тс' (Сл. ПЗБ; ЛА, 3), *плужок* 'акучнік' (Дзмітр.; лід., Сл. ПЗБ); *плугавáць*, *плýжыць* 'абганяць бульбу', *плужкаваць* 'тс' (гродз., ЛА, 2; Сцяшк. МГ; Скарбы), *плужы́ць* 'тс' (Шат.; сміл., Стан.), *плужы́ца* 'акучнік' (беласт., Смул.).

**Плуг₂**, зборн. *плуганнё* 'галлё, бярвенні, якія плывуць па рэчцы так шчыльна, што па іх можна перайсці на другі бераг' (віл., Нар. словатв.). Няясна. Магчыма, генетычна звязана з літ. *plùkdas* 'лёд, што плыве па рацэ', *plū̃koti* 'трымацца на паверхні вады, плаваць'.

**Плýжыцца** 'накіроўвацца, імкнуцца' (іўеў., Сцяшк. Сл.) — да прасл. **plužiti (sę),* якое ўзыходзіць да і.-е. **plou̯H-g(h)-* 'рухацца наперад < і.-е. **pleu̯(H)-* 'рухацца па вадзе' > 'плаваць' (Бязлай, 3, 63).

**Плу́жыць** у фразе: *год на год не плужыць* 'не прыпадае' (рэч., Нар. сл.). Укр. *плу́жити* 'шанцаваць', польск. *plużyć* 'добра мецца', 'квітнець', 'весціся, удавацца', 'спрыяць', 'акупацца', 'быць карысным', 'апраўдваць спадзяванні', 'не падводзіць', славен. *plúžiti se* 'спароўвацца, выконваць злучку (аб жабах)', якое Фурлан (гл. Бязлай, 3, 63) аб'ядноўвае разам з рус. кур. *плу́житься* 'паволі ехаць, ісці, плесціся за кім-небудзь'. Відаць, рус. лексему не трэба ўлічваць; яна ўжываецца паралельна з *плуга́ниться* (гл. *плуга́ніцца*). У такім выпадку *плужыць* было ўтворана ад *плуг* > *плужыць* (< прасл. **plugъ* > **plužiti*) — першапачаткова 'араць плугам', у той час паяўленне плуга азначала ў параўнанні з сахой (**radlo*) вышэйшую ступень земляробства і, адпаведна, лепшы дабрабыт (Банькоўскі, 2, 631).

**Плуга́ніцца** 'плесціся' (ашм., Сл. рэг. лекс.), 'ісці, стаміўшыся' (брагін., З нар. сл.). укр. *плуга́нитися* 'плесціся, павольна ехаць', рус. бранск., паўд. *плюга́ниться* 'паволі ісці, ехаць, цягнуцца, плесціся за кім-н.'. Бел.-укр.-паўд.-рус. ізалекса, характэрная наяўнасцю суф. *-ан-* (магчыма, пры ад'ідэацыі прыметніка *пага́ны*) у адрозненне ад паўн.-слав. **pl'ugavъ* > *плюга́вец* (гл.) з суф. *-ав-*. Зыходнае слова захавалася ў чэш. мове — *plouhati* (< прасл. **plug-a-ti*) 'цягнуцца, ледзь сунуцца, цягнуць ногі па гразі, па мокрай зямлі, пэцкацца граззю', *ploužiti se* 'паўзці, ледзь перасоўвацца', *ploužívý* 'павольны', *plížiti se* 'падкрадвацца', 'паўзці, падпаўзаць' (Махэк$_2$, 462). Роднасным з'яўляецца лат. *bļugt* 'мякчэць і станавіцца слізкім'.

**Плу́кане** 'лякарства для паласкання горла' (гродз., Сл. ПЗБ), *плу́каць* 'паласкаць (бялізну)' (тамсама; Скарбы). З польск. *płókać* (з 1936 г. — *płukać*) 'тс', *płukanie* 'паласканне (горла, бялізны)'.

**Плу́ска** 'клоп' (кобр., брэсц., малар., ЛА, 1). З польск. *pluskwa* 'тс'.

**Плу́стаць** 'бадзяцца невядома дзе, марна хадзіць' (рагач., Рам. 3), рус. бранск. *плу́стать* 'бадзяцца без справы'. Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *плута́ць/плута́ть* і *плусі́ть* 'блудзіць, ехаць не той дарогай'.

**Плусціць** 'плысці' (барыс.,. Шн.). З *плысці* з дадаткам канчатка інфінітыва *-ць* і менай *-ы-* > *-у-*. Параўн. в.-дзв. *плутува́ць* 'пераплятаць плот лазой'.

***Плусяніца**, *плусяньіца* ‘салома з проса’ (стол., Нар. лекс.). З *просяньіца*, параўн. драг. *просяньіця* ‘тс’ з менай *о* > *у* і *р* > *л*, відаць, пад уплывам слова *солома*.

**Плу́танка** ‘дулька, пакулле — пыл і дробныя часткі валакна пры трапанні’ (ЛА, 4). Ад +*плу́таны* ‘блытаны’ < *плу́таць* ‘блытаць, камячыць’ (гл.).

**Плута́ць** ‘бадзяжнічаць’ (Нас.), *плутава́ць* ‘ашукваць’ (Скарбы), ‘маніць’ (дзятл., Сл. ПЗБ), ‘блытаць (ніткі)’ (Нас.; ТС; кіраў., Нар. сл.), *плу́тыць* ‘блытаць па лесе’ (Бяльк.; Юрч. Вытв.; кіраў., Нар. сл.), *плу́таццa* ‘блытацца, чапляцца’ (Уладз.; Мат. Гом.; ТС), ‘блытацца (аб нітках, аб мове, словах)’ (Нас.; Сл. ПЗБ; Растарг.), *плутаніна* ‘блытаніна’ (Мядзв., Растарг.), *плута́нне* ‘блытанне’, ‘страта арыентацыі’ (Юрч. Вытв.), *плутня́* ‘хлусня, плёткі’ (Нас.), ‘блытаніна’ (ТС), ‘хітры падман’ (мсцісл., Юрч. СНС). ‘бадзянне’ (Нас.), *плу́тні* ‘махлярства, ашуканства’ (Нар. Гом.), *плут* ‘ашуканец, махляр, прайдзісвет’ (Скарбы), ‘манюка’ (брэсц., ЛА, 3), *плу́то* ‘нікчэмны чалавек’ (Сл. Брэс.), *плуця́га* ‘бадзяга’ (Нас.), укр. *плу́тати* ‘блытаць, блытана расказваць’, *плу́татися* ‘блытацца (аб валасах)’, ‘няўмела хадзіць’, рус. *плута́ть* ‘хадзіць без мэты, бадзяцца; блукаць’, ст.-рус. *плутать* ‘блукаць, бадзяцца’, ‘памыляцца’, ‘рабіць несамавітыя ўчынкі’ (з XVII ст.); *плутъ* ‘махляр’, польск. *plątać (się)* ‘блытацца, заблытвацца’, ‘збівацца (з думкі)’, ‘блытацца пад нагамі’, ‘заплятацца’, чэш. ганацк: *plantati* ‘блытацца, заплятацца’, ляш. *pl’antat’* ‘блытаць, змешваць’, ‘збіваць з панталыку’, славац. *plantat’ sa, pl’antat’* ‘блытацца’, ‘блытацца пад нагамі’, ‘бадзяцца, швэндацца’. Прасл. паўн. *plǫtati* (усх.)/ **plętati* (зах.) — дзеяслоў шматразовага дзеяння да **plęsti* (першапачаткова **plěsti*), роднасны літ. *blę̃sti* ‘мяшаць, змешваць’ (Банькоўскі, 2, 601). Пачатковае *б-* у бел. *блытаць*, гродз. *блындаць* ‘хадзіць без справы, бадзяцца’ (Сцяшк. МГ), ваўк. *блёнтацца* ‘перашкаджаць, блытацца пад рукамі’ (Сцяшк. Сл.), шчуч. *заблёнтацца* ‘пераблытацца (пра ніткі на пачынку)’ (Сл. ПЗБ), відаць, з балцкага субстрату. Параўн. таксама размеркаванне *пл-*/ *бл-* у бел. гаворках (ЛА, 4): зах. і цэнтр.-бел. (*ніткі*) *блытаюцца*, паўн. і ўсх. (*ніткі*) *плу́таюцца*. Параўн. таксама *блытаць* (гл.). На семантыку разглядаемых лексем, магчыма, аказала ўплыў прасл. *blęsti, blǫditi* ‘блукаць’. З *плёсці* звязваюць лексему *плутаць* Махэк$_2$ (454)

і Фасмер (3, 287—288). Сюды ж: *плутáць* 'ілгаць', *плýтма плутáць* 'бесперапынна ілгаць' (Нас.; дзятл., Сл. ПЗБ), *плуток*, *плуцяга* 'хлус' (Нас., Анім.).

**Плутухáць** 'ілгаць', 'заблытваць', 'бадзяжнічаць', *плутухáцца* 'заблытвацца ў чым-н.', 'блытацца', 'выбірацца з цяжкай сітуацыі', 'круціцца каля каго-н.' (Нас.), *плутухáньне* 'блытаніна' (Юрч. Вытв.); рус. смал. *плутухáться* 'бадзяцца без мэты', 'ледзь перасоўвацца, заплятацца (пра ногі)'. Лексема ўтворана пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-ух-а-* ад *плутáць* (гл.). Параўн. рус.: *вертухáться, вертугáться* 'круціцца, вярцецца' і пад.

**Плýтца** 'пятля (для гузіка)' (карм., Мат. Гом.), параўн. рус. пск., цвяр. *плутцы́* 'сіло для лоўлі птушкі', 'раменьчык, які звязвае біяк цэпа з ручкай'. Да *плýтаць* (гл.) (Фасмер, 2, 288), відаць, збліжанае з *пýтца* 'прывязка ў цэпе', 'пяцелька' (гл.). Параўн. таксама рус. дыял. *плутя́нка* 'верхняя вяроўка невада', польск. дыял. *płuto* 'паплавок у рыбалоўнай сеткі', што, магчыма, узыходзіць да прасл. **pluti* (гл. *плыць*).

**Плýха** 'палена, блізкае паводле даўжыні да памераў дроў для печы, але больш тоўстае' (Жд. 2). Да *плáха*$_1$. Аб мене *а* > *у* гл. Карскі 1, 112—113.

**Плýца**, *плýці, плýцы, плюц, плю́цы* 'лёгкае' (Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл., Жд. 2). З польск. *płuco* 'тс', якое — з першаснага *płuce* (XV—XVIII стст.); звычайна *płuca* < прасл. **plutje* < і.-е. **pleu̯t-jo*: (літ. *plaũčiai* 'лёгкія', лат. *plàušas* 'тс', ст.-прус. *plauti* 'лёгкае', першапачаткова 'тое, што плавае', сюды ж грэч. πλεύμων 'лёгкае', лац. *pulmo* і пад. (Банькоўскі, 2, 631). У сучасных усх.-слав. мовах не захавалася, стараж.-рус. *плюче* 'лёгкае', ст.-укр. *плюча* 'лёгкія' < **pl'utja*, да *плыць, плаваць* (гл.) (Фасмер, 3, 290; Німчук, Давньорус., 311).

**Плуцéнка** 'спадніца, тканая ў рознакаляровыя палоскі' (Жд. 1). Гл. *плацéнка* (гл.); хутчэй за ўсё, фармальна адпавядае польск. *płócienko* 'баваўняна-ільняное палатно'.

**Плуці́ць**$_1$ 'трызніць у непрытомнасці', 'несці лухту' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *плутáць* (гл.).

**Плуці́ць**$_2$ 'звязваць бярвенні ў плыты' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; дняпр.-прыпяц., Нар. сл.). Да *плыт* (гл.). Параўн. рус. дыял.

*плоти́ть* (*плоты*) ‘ганяць па рацэ плыты’, *плота́ть* ‘вязаць плыты’, *плоти́ца* ‘адно бервяно’.

**Плу́шкі₁** ‘палавінкі гарбуза’ (пух., Сл. ПЗБ). Да *плуха*, *пла́ха₁* (гл.).

**Плу́шкі₂** ‘перамерзлая ў зямлі бульбіна’ (дубр., Нар. словатв.). Няясна, магчыма, роднаснае чэш. *plucha* ‘абалонка зерня’, далей да *плю́хлы* ‘вялы’ (гл.).

**Плыва́к,** *плова́к*, *плува́к*, ‘плавец’ (ТС). Паводле словаўтварэння ідэнтычны польск. *pływak* ‘тс’.

**Плыва́ць** ‘плаваць’ (Др.-Падб.; Яруш.; свісл., воран., іўеў., ваўк., Сл. ПЗБ), ‘служыць на флоце’ (воран., Сл. ПЗБ). Відаць, запазычана з польск. мовы, дзе *pływać* азначае ‘перасоўвацца па паверхні вады, плывучы па ёй’ < прасл. **ply-v-a-ti*, якое з’яўляецца дзеясловам шматразовага дзеяння ад **ply-nǫ-ti* (Банькоўскі, 2, 635), параўн. польск. *płynąć* ‘перамяшчацца сілай сваёй вагі з больш высокага месца на ніжэйшае’. У бел. мове дзеяслоў **plyvati* ўжываецца з прыстаўкамі: *пры-плыва́ць, за-плываць, пра-плыва́ць* і інш. Магчыма, адсюль і націск на *-а́-*. Сюды ж: *плыва́к* ‘плывец; той, хто плавае на якім-н. судне’ (Сцяшк. МГ; шальч., Сл. ПЗБ; добр., Мат. Гом.), ‘пучок звязанага трыснягу, на якім вучацца плаваць’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *плыву́н* ‘плывец’ (шчуч., Сл. ПЗБ), дзятл. *плываке́* ‘рагоз, Typha latifolia L.’ (ЛА, 1), *плывака* ‘асоба, здольная да плавання’ (Варл.), *плыва́н* ‘расліннае покрыва дрыгвяністага балота’ (светлаг., Талст.).

**Плыве́ц** ‘той, хто плавае’ (ТСБМ). Да прасл. **plyvati* ‘перасоўвацца па паверхні вады, плывучы па ёй’ — дзеяслова шматразовага дзеяння ад **ply-nǫ-ti* < **pluti* ‘плыць’ (гл.).

**Плыву́н**, *плаву́н* ‘насычаны вадою дробны пясок, супесь ці суглінак’ (ТСБМ; Бяльк.), ‘пласт цякучага, плывучага пяску ці зямлі пры капанні ямы, калодзежа’ (рэч., Яшк.; паст., в.-дзв., віл., ваўк., іўеў., ЛА, 2), ‘нанос, дробны пясок’ (воран., чэрв., асіп., саліг., тамсама), ‘іл’ (кобр., ЛА, 2). Рус. *плыву́н* ‘балота, дрыгва’, ‘тарфяны пласт, які плавае па вадзе’. Бел.-рус. ізалекса, утвораная ад *плы-сці* і суф. *-unъ* (з гіятавым *-в-*). Параўн. таксама *плаву́н₁, плаву́н₅* (гл.). Аналагічна ўтвораны: *плыву́н* ‘расліна, якая сцелецца па збожжы’ (Выг.), ‘зыбучы мох на вадзяністай дрыгве’ (Варл.), ‘трава, што расце на вадзе’ (віл., Сл. ПЗБ), а

таксама *плывýн* ‘частка ракі, якая не замярзае зімой’ (кам., ЛА, 2), *плывунок* ‘род травы’ (Стан.).

**Плывунéц** ‘ранні баравік’ (уздз., мсцісл., Нар. словатв.). Да *плыць*, *выплываць* (гл.). Матывацыя: баравікі з’яўляюцца тады, калі каласуе жыта = “выплывае” ў трубку” (тамсама).

**Плывýха** ‘асабліва плытка настроеная саха, што добра высцілае скібу’ (Варл.). Са словазлучэння *плывучая саха*. Да *плываць*, *плыць* (гл.).

**Плы́гаць** ‘скакаць’ (Ян.; ТС; нараўл., Мат. Гом.) ‘тс’, ‘крочыць’ (брагін., Шатал.), *плы́гнуць* ‘скокнуць’ (жытк., Мат. Гом.; гом., Нар. Гом.), *плы́гнути* ‘тс’, *плэ́гатэ* (пін., Нар. лекс.; Сл. Брэс.), сюды ж фразеалагізм *плы́гам ляцець* ‘хутка ісці’. Арэальнае ўтварэнне, параўн. укр. *плига́ти* ‘скакаць’; *пли́гом* ‘наўскапытá, скокам’, *плиго́ну́ти* ‘скочыць з сілай’, якое альбо з’яўляецца кантамінаваным утварэннем з *плыць* і *пры́гаць*, абазначаючы ‘хуткі рух уніз і наперад адначасова’, альбо ўзыходзіць да *пры́гаць* з менай *р* > *л* (іранскі субстрат?), параўн. першасны імітатыў *плыг* — паралельны да *прыг* (Смаль-Стоцкі, Приміт., 168; Копечны, Зб. Младэнаву, 375).

**Плын** ‘скокі’ (гом., Нар. Гом.) у песні: *Вуценятка плыгне, сетачкі парве, са мною ў плын пойдзе...* (тамсама). Відаць, да *плы́гаць* (гл.). Першапачаткова было б $^{+}$*плыгн*, як *стогн*. Аднак параўн. смал. *плына́* ‘плынь ракі’, ‘плаванне’, бел. *плынь* ‘цячэнне’, як і польск. *płyn* ‘вадкасць’, ‘газ’ — ад *плыць* (гл.), польск. *płynąć*, з формы цяп. часу якога паходзіць *-н* < прасл. **plynǫti* ‘перамяшчацца па паверхні вады’, сюды ж польск. *płynąć* ‘уцякаць, бегчы’, рус. дыял. *плы́нуть* ‘хутка пабегчы’, што сведчыць, магчыма, пра старую сувязь *плы́гаць* і *плыць* (гл.). Параўн. наступнае слова.

**Плы́нуць** ‘працякаць, цячы’, ‘плысці’, ‘праносіцца (аб слове)’ (Нас.; смарг., Сл. ПЗБ). Да прасл. **plynǫti* < **pluti* > *плыць*, *плысці* (гл.). Магчымы пазнейшы ўплыў польск. *płynąć* ‘праплываць, цячы’, ‘бегчы’, ‘лунаць’, ‘імчацца на хвалях’, ‘разносіцца’.

**Плынь** ‘рух вады ў рэчышчы’, ‘вада, якая цячэ’, ‘мноства, маса чаго-небудзь, што рухаецца ў адным напрамку’ (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Нас., Касп., Бяльк.), ‘плаванне’ (Нас.), рус. смал. *плынь* ‘моцная плынь ракі’. Арэальнае аддзеяслоўнае (ад *плыць* —

гл.) утварэнне з суф. *-нь* з працэсуальным значэннем, як *схованьˌ ка́зань, стынь, стоянь* і інш.

**Плы́сак** ‘плытнік’ (З нар. сл.). З польск. *flisak, fliśnik, flis* ‘плытагон’, якія з ням. *Flösse* ‘сплаў леса’ (Слаўскі, 1, 232).

**Плыскі** ‘плоскі, які мае плошчу’ (Мядзв.). У выніку кантамінацыі лексем *пло́скі* і *плы́ткі* (гл.).

**Плыстма́** ‘плазам’ (Бяльк.). У выніку кантамінацыі бел. *плазма́* і бел. *пластом*.

**Плы́сці**, *плысць, плусць, плусці, плаўсці, плыць* ‘перамяшчацца па паверхні вады’, ‘плыць на караблі, лодцы’, ‘цячы’, ‘плаўна рухацца, ісці’, ‘высыпацца (аб жыце)’ (ТСБМ; Нас.; Гарэц.; Яруш.; Шат.; Сл. ПЗБ; ТС; Растарг.; маг., арш., Шн.), *плысць* ‘ісці, тонучы (у снезе, гразі)’ (Юрч. СНЛ); у выразе *гаршчок плыве́ць* ‘ён кіпіць, і з яго выцякае тое, што варыцца’ (Нас.; Нік., Оч.). Укр. *плисти́*, рус. *плыть, плысть, плысти́* ‘плыць’, ст.-польск. *płuć*, польск. *płynąć* ‘цячы’, ‘плысці’, *pływać*, чэш. *plouti*, ст.-чэш. *plúti*, славац. *plut’*, славен. *plúti*, серб.-харв. *плу̏ти, пли̏ти*, ст.-слав. плоути і плыти. Прасл. **pluti*, роднаснае літ. *pláuti* ‘паласкаць, мыць’, лат. *plevinât* ‘узмахваць’, ст.-інд. *plávatē* ‘плыве’, *právate* ‘скача’, ‘спяшаецца’, авест. *fra-fravaˈte* ‘хістаецца, спатыкаецца’, ст.-грэч. πλέω ‘плыву на судне’, πλῦνω ‘мыю’, лац. *pluit* ‘ідзе дождж’ (Міклашыч, 252; Траўтман, 224; Фасмер, 3, 288—289; Бязлай, 3, 63; Банькоўскі, 2, 632—633). Формы *плаўсці* ‘плысці’ (глыб., Сл. ПЗБ) і *плыўсці* ‘выплываць (пра жыта)’ (паст., LKK, 30) адлюстроўваюць балтыйскую фанетыку і, магчыма, семантыку (Грынавяцкене, тамсама), а ўстойлівае словазлучэнне *жы́та плыве́ць* калькуе, паводле Грынавяцкене і інш. (SOr, 39, 317), літ. *(rugiaĩ) pláukia*.

**Плыт**₁, *плут* ‘бярвенне, звязанае ў адзін або некалькі радоў для сплаву па вадзе’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Маш., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Серб., Сцяшк. МГ, жытк., Мат. Гом.; ашм., Стан.), укр. *плит, пліт*, рус. *плот*, стараж.-рус. *плътъ*, ст.-чэш. *plet*, польск. *płet, płyt*. Паўн.-прасл. **plъtъ*, роднаснае лат. *pluts* ‘плыт, паром’, ст.-інд. *plutáṣ* ‘абмыты’, ‘які плыве’, ст.-грэч. πλυτός ‘мыты’; н.-ням. *floss* ‘плыт’ < і.-е. **plu-t-o-s* < **pleu̯-* ‘плыць’ (Фасмер, 3, 285; Банькоўскі, 2, 623). Бяднарчук (JP, 64,

1—2, 26) разглядае формы *плыт/plyt* у якасці польска-беларускай інавацыі дагістарычнай эпохі (чаргаванне *ŭ/ū*), аднак першаснай усё ж была форма **plъtъ*, а форма **plytъ* узнікла пад уплывам асновы цяп. ч. **plynǫti*, *плы́нуць*. Мартынаў (Лекс. взаим., 100—102) з адноснай надзейнасцю выводзіць прасл. *plъtъ* з прагерм. *flut-*. Сюды ж *плытаць, плы́цiць* 'вязаць у плыт' (Нас.; паст., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *плытагоніць* 'ганяць плыты' (рагач., Сл. ПЗБ), *плы́тнік* 'плытагон' (Нас.; Яруш., Гарэц.; Шат.; Сцяшк. МГ; іўеў., Сл. ПЗБ; б.-каш., маст., віл., бераз., рагач., Нар. лекс.; ашм., Стан.), *плыта́р* 'тс' (Сл. Брэс.), *плытагон* (барыс., рэч., Нар. лекс.), *плытагоншчык* (віл., тамсама); *плы́тніцкі* (хлеб) 'тоўсты кавалак (хлеба)' (Шатал.).

**Плыт₂**, *плытюга́* 'рэдка звязаны світэр' (драг., Жыв. НС). Да *плот₁* — у выніку пераносу значэння паводле падабенства.

**Плы́та** 'грамафонная пласцінка' (бераст., Сл. рэг. лекс.), *плыта́* 'тс' (астрав., Сцяшк. Сл.). З польск. *płyta* 'тс', адсюль у сучасным маладзёжным слэнгу *плі́та*, часцей *кружэ́лка*.

**Плыта́нка** 'высушаная спластаваная рыба', *плыта́нне* 'спластаванне', *плыта́ць* 'пластаваць', 'патрашыць рыбу', сюды ж *расплытаць* 'расцягнуць палатно на лузе', *расплыта́цца* 'расцягнуцца, упаўшы' (Нас.; Стан.). Да *плата́ць₂* (гл.); да фанетыкі і семантыкі параўн. літ. *plytěti* 'рассцілацца'.

**Плы́тка** 'пласт сала, вялікі кавалак' (ТС). Відаць, да *плі́тка* < *пліта́* (гл.).

**Плы́ткі**, *плы́ценькі* 'неглыбокі, мелкі', 'плоскі' (ТСБМ, Сцяц., Сцяшк. МГ, Сл. ПЗБ; Сл. Брэс., Варл.; зах.-віц., гродз., брэсц., ЛА, 4), 'палогі бераг ракі, возера' (гродз., віл., ЛА, 2), 'нізкі, пакаты, спадзісты (пра страху)' (Шушк.; Сл. ПЗБ; Сцяшк. МГ; ваўк., воран., ЛА, 4). Зах.-рус. *плы́ткий* 'плоскі', польск. *płytki* 'неглыбокі' (пашырылася ў паўд.-малапольск. дыялекты ад горцаў — Банькоўскі, 2, 634), чэш. *plytký* 'тс' (пра ваду, раку), *plétka střecha* 'плоская, нізкая страха', славац. *plytký*, славен. *plítek* 'плыткі, мелкаводны', серб.-харв. *plít(ak)* 'тс', 'павярхоўны', макед. *плиток*, балг. *плѝтък* 'мелкі'. Прасл. **plytъkъ* 'неглыбокі', 'такі, дзе можна плаваць', якое Скок (2, 685) выводзіць з дзеяслоўнай асновы *плыць/плываць* < і.-е. **plū-/ *plou̯-*, як і Махэк₂ (464). Банькоўскі (2, 634) для прасл. формы выводзіць значэнне 'месца, "распластанае" ў рэчышчы, дзе можна спускаць плыты, пе-

рапраўляць авечак на другі бераг'. Трубачоў (Праспект, 73) мяркуе, што прасл. *plytъkъjь* утварылася з формы супіна **plytъ* (< **plyti*, гл. *плыць*) і ад'ектывізуючага суфікса *-*kŏ*-; бессуфіксальная зыходная форма захавалася ў чак. *plit* 'неглыбокі', каш. *plit* 'плоскі, тонкі' (Борысь, Czak. stud., 121), што дае падставы для рэканструкцыі прыметніка **plytъ* 'неглыбокі' (Борысь, Папоўска-Таборска, ZPSS, 10, 28).

**Плы́тна** 'павольна (пра плынь ракі)' (маст., Сцяшк. МГ). Да *плыткі* (гл.). Суф. *-на*, як у *павольна*.

**Плытэ́** 'палоска, якую займае жняя' (навагр., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Плы́ўка** 'павольна, мякка' (Сцяшк. МГ). Беларускае. Да аддзеяслоўнага прыметніка ⁺*плыўкі* з суф. *-к-* са значэннем 'схільны да дзеяння, названага ўтваральным дзеясловам' (гл. *плыць*) — як *грузкі*, *даўкі*, *мылкі*, *плаўкі* і інш.

**Плы́ўкі** 'плывучы, які лёгка размываецца (аб грунце)' (ТСБМ). Да *плысці*, *плыць* (гл.).

**Плы́ўны** 'пакаты (страха)' (барыс., Сл. ПЗБ). Рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суф. *-*ьn*- ад *плы(ў)сці* (гл.). Параўн. *плы́ткі* (гл.).

**Плыўсці́** (перан.) 'каласіцца' (швянч., Сл. ПЗБ). Рэгіяналізм. Да *плысці́, плыць* (гл.). Устаўное *-ў-* — рэфлекс *-в-* у метафарычным *выплы-в-аць* 'паяўляцца (пра колас)'. Паводле Грынавяцкене (LKK, 30), калькуе літ. *pláukėja (rugiaĩ)* 'каласіцца (жыта)', параўн. *plaũkti* 'плыць'.

**Плыўцéць** 'плаваць у тлушчы' (Янк. 3). З *плыўсці́, плыць* (гл.) з суф. *-*ěti* са значэннем працяглай шматразовасці, які ўзнік яшчэ ў балта-славянскі перыяд (Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 369). Параўн. літ. *plytė̃ti* 'рассцілацца, разлягацца'. Паводле Варбат (Зб. Талстому, 1, 34), ідэя наплывання, нацякання характэрна для абазначэння тлустасці.

**Плы́ціна** 'вялікая дзярніна', *плы́цье* 'задзірванелыя скібы (зямлі)' (ТС). Арэальнае ўтварэнне, параўн. укр. *плúта* 'пліта', *плúття* 'пліты'. Да *пліта* (гл.).

**Плы́чыць** 'рэгуляваць глыбіню ворыва' (карэліц., Шатал.). Няясна. Магчыма, ад *плы́ткі* (гл.) > *плы́тчыць* 'рабіць больш плыткім'.

**Плы́шка** ‘плашка’ (саліг., Нар. словатв.). Да *пла́шка, пла́ха*$_1$, *пла́ха*$_3$ (гл.). Аб мене *а* > *ы* гл. Карскі, 1, 102.

**Плышчагі́** (*плышчагы́*) ‘агароджа з цесна складзеных жэрдак’ (Клім.). Відаць, першапачаткова гэта была агароджа з бярвенняў, т. зв. “прасла”, у якім плоскія бярвенні ўкладаліся ў шулы. У такім выпадку — да *плашчак* (гл.) < *плоскі*. Пачатковае *плы-* — пад уплывам лексемы *плыт* = *плот* ‘плот, агароджа’.

**Плэ́йтух** ‘неахайны чалавек’ (Юрч. СНЛ). З польск. *flejtuch* ‘брудны, неахайны, запэцканы чалавек’. Параўн. таксама *пле́йтух* (гл.).

**Плэ́тацца** ‘блытацца (пад нагамі)’ (ашм., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі лексем *плёнтацца* і *блы́таць* (гл.).

**Плэць** ‘пол’ (воран., Сл. ПЗБ). З польск. *płeć* ‘тс’ (Мацкевіч, тамсама).

**Плюва́ць** ‘пляваць’ (Нас.; Растарг.; шчуч., Сл. ПЗБ), *плюва́ка* ‘хто часта плюе’ (Нас.); укр. *плюва́ти*, рус. *плева́ть*, дыял. *плюва́ть* ‘тс’, польск. *pluć, plwać,* н.-луж. *pluwaś,* дыял. *pluś,* в.-луж. *pluwać,* чэш. *plíti*, кніжн. *plvati* < ст.-чэш. *pl’vati*, літарат. *plivati*, славац. *pl’ut’, pl’uvat’,* славен. *pljúvati*, рэз’ян. *pjuvat*, серб.-харв. *пљу̀вати*, макед. *плюва*, дыял. *плјува*, балг. *плю́я*, *плювам*, ц.-слав. *пльвати*, *плювати* ‘пляваць’. Прасл. **pl’uti*, **pl’ьvati* (Бязлай, 3, 59) ці **pjuti*, **pjъvati* (Фасмер, 3, 291; Банькоўскі, 2, 613), роднаснымі з’яўляюцца: літ. *spiáuti*, лат. *spļaut* ‘пляваць’, ст.-грэч. πτύω ‘плюю’, гоц. *speiwan* ‘пляваць’, ст.-інд. *ṣṭhīvati* ‘плюе’ < і.-е. **speu̯-* (Міклашыч, 251; Траўтман, 276; Фрэнкель, 866; Махэк$_2$, 461). Сюды ж ашм. *пліва́ць* ‘тс’ (Стан.).

**Плюга́вы** ‘мізэрны, худы, нікчэмны’, ‘мярзотны, агідны’ (ТСБМ, Нас., Шпіл., Сержп., Мік., Маш., Юрч. СНЛ; пух., Сл. ПЗБ), ‘сыры (пра дровы)’, ‘сапсаваны (пра кроў)’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘дрэнны, нязграбны’ (Касп.), ‘дрэнны’, ‘брудны’ (Сл. Брэс.), ‘брудны, гразкі’ (пін., Шатал.), *плюга́вец* ‘нягоднік’ (Бяльк.), *плюгаўка* ‘агідная жанчына, неакуратная’, пух. *плюгоўка* ‘шкодная жанчына’ (Сл. ПЗБ), *плюга́нка* ‘агідная’ (Мал.), *плюгаўка* ‘брыдкія, агідныя насякомыя і жывёлы: сварчок, мыш, павук’ (Нас.), *плюгаўства* ‘машкара’ (паст., Сл. ПЗБ; ТС), ‘нікчэмнасць’ (Юрч. СНЛ), *плюга́вінья, плюга́ўлінья* ‘зневажанне, прыніжэнне’, *плюгавіць* ‘апаганіць нечыстотамі, брудам’, *плюга́віцца* ‘псавац-

ца’, *плюга́вінне* ‘бруд з ванітаў і харкавіння’ (Нас.). Укр. *плюга́вий* ‘гадкі, нікчэмны’, рус. *плюга́вый* ‘мярзотны, паскудны’, польск. *plugawy* ‘брудны, агідны, гнюсны, мярзотны’, чэш. *plihlý, plihý* ‘абвіслы’, *plouhati* ‘цягнуць, валачы па гразі’, зах.-чэш. *plíhati* ‘цягнуцца, валачыцца, ледзь ісці’, славац. *pl’uhavý* ‘мярзотны, гнюсны, паскудны’, ‘брыдкі, агідны’, ‘кепскі (пра надвор’е)’; *pl’uhat’ sa* ‘пэцкацца’, славен. *plúhek* ‘нясмачны’, дыял. *plígek* ‘несалёны’, ‘пусты’. Прасл. *pl’ugъ* ‘мокры, рэдкі, брудны’ (Сной—Бязлай, 3, 62), роднаснае лат. *bl’ugt* ‘мякнуць’, ‘станавіцца слізкім’ (Махэк$_2$, 462) < і.-е. *pleu̯-* ‘цячы, ліць, плаваць’. Памылкова Фасмер (3, 289), Брукнер (419) выводзяць **pljugavъ* з *pl’ujǫ* > *плюю* > *плява́ць* (гл.). Атрэмбскі (JP, 61, 1961, 3, 182) выводзіць з *plucha*, якое з *pluskać*.

**Плюго́та** ‘размоклая зямля ў час працяглых халодных дажджоў, гразь’, *плю́хаць*, *пяхо́цце*, *плюхо́цце* ‘тс’ (Яшк.), *плюго́цька* ‘слата (дождж са снегам)’ (віл., Сл. ПЗБ; ЛА, 2). Да *плюга́вы* (гл.).

**Плю́ндра** ‘неахайная, нязграбная жанчына’ (зэльв., Сл. рэг. лекс.); *плю́ндріна* (Юрч. СНЛ; Юрч. Вытв.). Паралельная форма *флюндра* ‘тс’ (беласт., Жыв. НС) сведчыць, што гэта — запазычанне з польск. *flądra* ‘няхлюйная жанчына, прастытутка’ (з XVIII ст.), якое Слаўскі (1, 232) разглядае як запазычанне з ням. дыял. *Flunder*, *Flander* ‘анучы, рыззё’, ‘прастытутка’, што паходзяць, напэўна, з назвы краіны Фландрыі, адкуль разыходзіліся па Еўропе сукны. Банькоўскі (2, 600) мяркуе, што фармальна блізкае польск. *plądra* ‘вандроўная ашуканка-зладзейка’, паходзіць ад *plądrować*, *plondrować* і *plundrować* ‘грабці’, ‘шарыць, шукаць’, а гэтае — з н.-ням. *plündern* ‘грабіць, спусташаць’. Таго ж паходжання ўкр. *фльондра*, чэш. *plundra* ‘гуляшчая, блудніца, прастытутка’, *pladry* ‘адзенне’, ‘паношанае адзенне, латы, анучы’, н.-луж. *plundrawa* ‘абадранка’, славен. *plûndra* ‘снежная слота’, ‘балота, дрыгва’, *plǫ̂dra, plǫ̂jndra* ‘дождж са снегам’ (з факультатыўнай экспрэсіўнай назалізацыяй — Бязлай, 3, 62). Адносна літ. *pliùndra* ‘слата’, *pliùdra* ‘непраходная дарога з-за дажджу’, *pliù(n)dra* ‘бадзяга, блудніца, прастытутка’, ‘плёткарка’, ‘неахайная жанчына’ Фрэнкель (1, 625) мяркуе, што яны ўзыходзяць да і.-е. **pel-*, **pleu̯-d* ‘плыць, лётаць’, што дае падставы Лаўчутэ (Балтизмы, 71) следам за Блесэ (SB, 5, 17) лічыць

балтыйскія словы зыходнымі для бел. *плюндра* 'той, хто заўсёды пэцкаецца', што ў святле вышэй прыведзеных фактаў не мае падстаў, гл. спецыяльна Віткоўскі (LB, 4, 149—152). Гл. і *хлюндра*.

***Плюндраваць**, ст.-бел. *плюндровати* 'рабаваць' запазычана са ст.-польск. *plundrować* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 41).

**Плю́ндры** (іран.) 'штаны' (маз., Нар. Гом.), *плю́дры* 'тс', 'лахманы, рыззё' (Нас.), *плюндра* 'тс' (Шат.), ст.-бел. *плюдры*, *плюндры* 'штаны' (1598, Булыка, Лекс. запазыч., 109). З польск. *pludry* — від штаноў нямецка-французскага крою XVI—XVIII стст.: спачатку кароткія, з буфамі, затым *pluderki* 'зімовыя штонікі, падбітыя футрам', пазней гэтая абразлівая назва *pludry* пашырылася нават на турэцкія шаравары — скарачэнне з н.-ням. *pluderhosen* 'штаны з буфамі' < *pludern* 'раздувацца' (Кюнэ, Poln., 87; Банькоўскі, 2, 611).

**Плю́жыць** 'ліць як з вядра' (смарг., Сл. ПЗБ), *плю́жыла* 'слата, хлюпа' (барыс., Стан.). У выніку кантамінацыі бел. *плю́хаць*, *плюхацца* і *пля́жыць* < польск. *plażyć* 'хвастаць, сцёбаць, плёскаць', якое са ст.-польск. *plaga* 'кліматычная зона' (XVI—XVII стст.), а апошняе — з лац. *plaga* 'доўгая рыбацкая сетка' > 'паласа неба', *plagella* 'палоска тканіны' (Банькоўскі, 2, 596). Спрыяла кантамінацыі і наяўнасць польск. *plużyć* 'біць струменем', што магло быць і непасрэднай крыніцай запазычання.

**Плю́квічка** 'канцылярская кнопка' (слонім., Сл. рэг. лекс.). З польск. *pluskiewka* 'тс', што з'яўляецца перакладам франц. *punaise* 'клоп' > 'кнопка'.

**Плю́ксы** 'лёгкае' (лід., Сл. ПЗБ). Кантамінаваная лексема, у аснове якой ляжыць польск. *płuca* 'тс'.

**Плю́нка** 'пастка' (беласт., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, ад **пялюнка*, гл. *пяла*.

**Плюрды́кнуць** 'ударыць з размаху' (Касп.). Гукапераймальнае.

**Плюс₁** 'матэматычны знак +', 'дадатны бок' (ТСБМ), ст.-бел. *плюсъ* 'плюс' (1666 г.). Праз польск. мову з ням. ці франц. *plus*, якое ў XV ст. — з лац. *plus* 'больш'. Першапачаткова ўжывалася як сімвал слова *дадай!* Пазней стала абазначаць дадатную (станоўчую) лічбу, г. зн. большую ад нуля (Булыка, Лекс. запазыч., 154; КЭСРЯ, 344; Банькоўскі, 2, 612; Васэрцыер, 174).

**Плюс₂** 'кумач, матэрыял чырвонага колеру' (ТСБМ). З рус. дыял. *плюс, плюсь* 'плюш' 'тс', *плю́совый* 'ярка-чырвоны', *плюх*

'баваўняная тканіна чырвонага колеру'. Відавочна, ідэнтычнае *плюш* (гл.). Параўн. таксама польск. *plis*, *plisz*, *pliśnia* 'плюш', балг. *плис* 'баваўняная тканіна, падобная на аксаміт', славен. *pliš* 'плюш' і пад.

**Плюс₃**, *плюсы́* 'радоўкі, Tricholoma parlentosum' (ТС; круп., рагач., Сл. ПЗБ), *плюс*, *плю́ска* 'радоўка штрыхаватая' (узд., Нар. словатв.), *плю́са* 'грыб, падобны на сыраежку' (Ян.), бярэз. *плюсы́* 'грыбы' (Вайтовіч, Вакалізм, 90), *плюшоўка* 'радоўка фіялетавая, Lepista nuda', *плюхі* 'грыбы' (Інстр. 2), *плю́сы* 'род грыбоў, якія зрасліся разам' (Шпіл.). Рус. маск. *плю́ха* 'грыб шаруха, Lactaris flexuosus'. Няясна.

**Плю́сік** 'плюсавы кафтан' (навагр., Нар. сл.), *плю́саўка* 'жакетка з плюшу' (Жд. 3; лаг., Сл. ПЗБ). З *плюс*, якое ў выніку кантамінацыі ўтварылася з *пліс* і *плюш* (гл.).

**Плю́сікі** 'дранікі' (пух., Сл. ПЗБ). Няясна. Гл. наступнае слова.

**Плю́ска₁**, *плюска́* 'шалупіны, абгортка з лісцяў вакол асновы плода, або ўвесь плод' (ТСБМ, Нас.), 'мякіна', 'плеўка, шалупінне насення' (Нас.), *плю́сквы* 'шалупіны з аўса' (паст., Сл. ПЗБ), *плю́скі*, *плю́склы*, *плюшча́к* 'недабраякаснае насенне' (ельск., брагін., акц., Мат. Гом.), сюды ж: *плюскачы́* 'яшчэ не паспелыя семачкі гарбуза' (жытк., Нар. сл.); параўн. рус. наўг. *плюски* 'аўсянае шалупінне', *плюсёнки* 'тс', 'аўсяныя шматкі', алан. *плю́сень* 'бацвінне рэпы, бруквы, рэдзькі, бульбы'; стараж.-рус. *плюска* 'шапачка жолуда', серб.-харв. *пљу̏скавице* 'шалупіны', балг. *плюски* 'боб ці гарох з малымі зярнятамі, малады боб або гарох'. Паводле Трубачова (Этимология—1968, 264), узыходзіць да анаматапеічнай асновы **pl'usk-* (варыянт **bl'uzg-*), якая выкарыстоўваецца для абазначэння шалупіння, кажуры, струпоў, параўн. літ. *pliùskė* 'луска аўсянага зярняці, вотруб'е', *bluzgà* 'шалупінне, мякіна', *blùzgana* 'перхаць на галаве', лат. *blàuzgna* 'тс', *plauskas, pluzganas* 'шалупінне', параўн. *пляваць/ бляваць*. Сюды ж, відаць, нарв. дыял. *flos, flus(k)* 'шалупінне; перхаць у галаве'. Махэк (464) узводзіць рус. *плюска́* 'ніжняя частка кветкі, шапачка жолуда' да зыходнага *плюха* (гл.), насуперак Гаўлавай (Etym. Brun., 1, 23). Борысь, Папоўска-Таборска (ZPSS, 10, 26) каш. *plëščka, pluščka* 'плоскі недаспелы стручок' выводзяць з прыметніка **pljuskъ* 'плоскі', узнікшага пад уплывам гукаперай-

мальнага **pljuskati* (гл. *плюскаць*), бо ўдар робіць прадмет плоскім. Гл. *плю́шчыць* 'рабіць пляскатым'.

**Плю́ска₂**, *плю́сква*, *плю́скла* 'клоп, Acanthia lectularia' (Бес.; астрав., воран., свісл., Сцяшк. МГ; Сержп. Грам.; Сл. ПЗБ; карэліц., Шатал.; Жд. 2; Скарбы), ст.-бел. *плюска*, *плюсква* 'тс' (XVII ст.) — са ст.-польск. *pluskwa*, *pluska* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 143), якія, паводле Банькоўскага (2, 613), узыходзяць да *plusk*, *pluskanie* < прасл. **pl'uskati* > бел. *плю́скаць₃* (гл.).

**Плю́скат** 'шум ад удару чым-небудзь па вадкасці або наадварот' (ТСБМ). Да *плю́скаць₁* (гл.). Назоўнікі на **-ot-ъ* утвараюцца часцей за ўсё ад дзеясловаў, якія абазначаюць гукі. Сюды ж *плюскацець* 'хлюпаць (пра ваду ў ботах)' (Сцяц.), *плюската́ць* 'плёскаць (аб хвалях)' (Шат.), 'плёскацца' (астрав., Сцяшк. Сл.), 'распырскваццa, вылівацца' (ТСБМ). Параўн. польск. *pluskot* 'пляск', 'плёскат', 'лопат', *pluskotać* 'выдаваць пляск', 'ударыць з пляскам', 'плёскацца', укр. *плюскота* 'пляск', *плюскотати* 'плёскаць', н.-луж. *pluskot* 'пляск, плёскат, журчанне', *pluskotaś* 'плёскаць, журчаць', в.-луж. *pluskotać* 'тс', чэш. *pliskotati* 'пра моцны дождж', паўд.-чэш. *pluskotati* 'тс', макед. *плускот* 'манатонны шум дажджу', 'патрэскванне агню'.

**Плю́скаўка**, *плю́скавка*, *плю́скамка* 'кнопка' (Сл. Брэс.; смарг., Сцяшк. Сл., Жд. 2, Жд. 1). З польск. *pluskiewka*, *pluskwa* 'кнопка'.

**Плю́скаць₁** 'хлюпаць, плюхаць, плюхцець' (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб., Нас., Шат.; сміл., Стан.), 'хлюпаць (па шыбах — аб дажджы)' (Купала "Восень"), 'ударыць далоняй' (Нас.), *плю́скыць* 'пляскаць' (Бяльк.); укр. *плю́скати* 'плёскаць', польск. *pluskać* 'плёскаць, шумець', 'плёскаць', 'хлюпаць', н.-луж. *pluskaś*, в.-луж. *pluskać* 'плёскаць', 'журчаць', чэш. *plískati, pluskati* — пра моцны дождж, снег, мокрую гразь, 'плёскацца', славен. *pljȗskati* 'плёскаць, пырскаць, плёхацца', серб.-харв. *пљу̏скати* 'плёскаць', 'пырскаць', 'хвастаць (аб дажджы)', 'біць па твары', балг. *плю́скам* 'плёскаць, пляскаць', 'жэрці, прагна есці', ст.-слав. плюскъ 'шум'. Прасл. **pl'uskati* — пра праліўны дождж (Банькоўскі, 2, 612) — інтэнсіў на *-sk-* ад незахаванай першаснай формы, роднаснай літ. *pliaũpti* 'хвастаць', 'хлябтаць', 'ліцца цурком', *pliauškė́ti* 'пляскаць', 'плёскацца' (Махэк₂, 460—461; Бязлай, 3, 59). Фасмер (3, 289), Васілеўскі (Прадукт. тыпы, 85) адносяць

лексему да гукаперайманяя, паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 169), з першаснага выклічніка *плюсь* 'плюх', гл. таксама Копечны (Зб. Младэнаву, 385). Суадносяць яшчэ з лац. *pluere* 'ісці (пра дождж)', *pluvia* 'дождж', літ. *pláuti* 'паласкаць, мыць', ст.-грэч. πλύνειν 'тс', ст.-в.-ням. *flewen* < і.-е. **pleu̯-sk-* 'імжэць'. Сюды ж *плюсь!* — пра імгненны ўдар далонню, падзенне азадкам; 'імгненна пайсці (пра дождж), для перадачы гука пры пацалунку' (Нас., Шат., ТСБМ, Некр.); *плюсна́ць!* — пра пляск шчупака ў вадзе (Шат.).

**Плю́скаць₂** 'гаварыць пустое' (ельск., ЖНС). Балтызм. Параўн. літ. *pliáuška* 'пустамалот, балбатун', *pliaũkšti* 'несці лухту', 'вярзці бязглуздзіцу', 'брыдкасловіць' і рус. валаг. *плюсни́ть* 'гаварыць брыдкія словы'. Відаць, гукапераймальнае, параўн. *пляска́ць* 'біць, хвастаць' і 'гаварыць многа і абы-што'; гл. папярэдняе слова.

**Плю́скаць₃**, *плю́скыць* 'лыпаць, моргаць (вачамі)' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Юрч., Др.-Падб., Шат., Касп., Бяльк., Варл., Растарг., ТС, Нар. Гом.), *плю́скыньня* 'мірганне' (Юрч. Вытв.), *(зоры) плю́скаюць* 'ззяюць, мігцяць' (рас., ЛА, 2). Укр. *плю́щити, плю́щитися* 'заплюшчваць вочы', рус. смал. *плю́скать* 'часта міргаць, выражаючы разгубленасць', пск., смал., бранск. 'лыпаць, моргаць вачыма'. Арэальнае семантычнае ўтварэнне, гл. *плю́скаць* 'пляскаць', *плю́шчыць* 'заплюшчваць'. Сюды ж: другаснае аддзеяслоўнае *плюсь!* 'раптоўна маргнуць' (Нас.), *плюсь!/міргунь!* — пра аднаразовае мільганне (мсцісл., Нар. лекс.); а таксама *плю́склы* 'сплюшчаны, зморшчаны, плоскі' (ТС), укр. дыял. *плюскова́тий* 'тс', *плюски́й* 'плоскі', *плю́склий* 'сплюшчаны, плоскі', параўн. *пляскаты* (гл.).

**Плю́скі** 'плоскуні' (клец., ДАБМ, камент., 870). Балтызм. Параўн. літ. *pliũskė* 'тс'.

**Плюсна́₁** 'ступня нагі чалавека' (ТСБМ, Мядзв.; шчуч., Сл. ПЗБ; Варл.), 'ступня' (паст., Сл. ПЗБ; стол., ЛА, 3), 'пад'ём, верх нагі' (ТС, Ян.; брагін., ЛА, 3), *плісна́* 'тс' (ТС), *плюсьня́* 'ступня' (б.-каш., ЛА, 3). Параўн. рус. *плюсна́,* маск. *плюсно́* 'адлегласць паміж асновай пальцаў і пятой нагі'. Да этымалогіі гл. *плесна*; параўн. таксама укр. *плю́сно*, паводле Німчука (Давньорус., 321), у выніку збліжэння з дзеясловам *плюснути* 'сплюснуць', гл. *плю́шчыць* 'рабіць пляскатым'. Абмежаваны характар варыянта

прымушае бачыць у ім арэальнае ўтварэнне. Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 4, 20) супастаўляе лексему з літ. *pliũsnis* 'сплясканы', што дае падставы вывесці яе з прасл. **pl'usk-ъna*, якое можна суаднесці з літ. *pliùkšti* 'спадаць, ападаць'. Няпэўна.

**Плюсна́₂** 'страва з жытняй мукі буйнога памолу, аздобленая малаком' (шчуч., З нар. сл.). Магчыма, мясцовае ўтварэнне ад дзеяслова, адпаведнага літ. *pliuškénti* 'пляскаць', тады унутраная форма можа быць ідэнтычнай назве стравы *баўтуха* (ад *боўтаць*, гл.). Параўн. наступнае слова.

**Плюсна́₃**, *плю́сна* 'расплюшчаныя зярняты ў муцэ' (Варл.). Утворана ад літ. *pliũsnis* 'сплясканы'.

**Плюснік₁** 'лішай на дрэве, асабліва на дубе, Lichen palmenaria' (Нас.). Відаць, адаптаваны балтызм. Параўн. літ. *pliùsnė* 'лісцесцябловы мох, Neckera crispa'.

**Плю́снік₂** 'падбел, Tussilago farfara L.' (шчуч., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 4, 20), паходзіць з літ. *pliùsnė* 'тс'.

**Плю́снік₃** 'аер, плюшнік, Acorus calamus L.', *плюсня́, плюсня́г* 'касач, Iris L.' (баран., Сл. ПЗБ). Параўноўваюць з літ. *pliũšė* 'трыснёг' (Грынавяцкене, тамсама, 4, 21).

**Плю́та₁** 'слата', 'дождж са снегам', 'непагадзь', 'пляга' (Сцяц.; Янк. БП; шчуч., дзятл., кобр., драг., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.; Скарбы), 'ні то дождж, ні то снег' (слонім., Нар. лекс.); 'слота' (лях., зэльв., слонім., ЛА, 2). Ст.-бел. *плюта* 'непагадзь' (1619 г.) са ст.-польск. *pluta* 'тс', гэтаксама Мацкевіч (Сл. ПЗБ, 4, 21) узводзіць сучасныя словы да польск. *pluta*, якое Брукнер (419) выводзіць (у якасці скарочанага) з *pluskota*, а Банькоўскі (2, 613) і Ластоўскі (Крывіч, 4, 1923) — з прасл. **pl'uta* < *pluskać* < **pl'uskati* > бел. *плюскаць₁* (гл.) < і.-е. **pleu̯-t-a* < **pleu̯-* 'імжэць (пра дождж)'.

**Плю́та₂** 'шкодны, патайны, нядобразычлівы чалавек' (Скарбы), *плюто́* 'дрэнны чалавек' (маст., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *plúotas* 'бадзяга'.

**Плю́та₃**, *плю́тъла* 'нястрыманы на язык — нясе лухту, гаворыць не да месца' (міёр., З нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *plúota* 'пляткар, паклёпнік'.

**Плю́тацца** 'блытацца' (паст., воран., Сл. ПЗБ), *плютъць* 'гаварыць абы-што' (міёр., Нар. лекс.). Да *плут, плу́ціць₁* (гл.). Мяккасць *-л'-* — пад уплывам польск. *plątać (się)* 'блытацца', 'заплятацца (пра язык)'.

**Плю́ха**$_1$ ‘аплявуха’ (Нас., Др.-Падб., Яруш., Бяльк.). Скарочанае ад *аплявýха, плявýха* (гл.) < *плявáць*, варыянт *плювáць* (на рукі перад тым, як біць) пры ад’ідэацыі гукапераймання *плюх!* — гук пры пляванні (Шат.), параўн. *плю́хаць* ‘пляваць’ (Шат.; швянч., Сл. ПЗБ; Растарг.) і *плю́хнуць* ‘даць аплявуху’, выраз *плю́ху падняў* ‘упаў азадкам’ (Нас.); *плюх!* — ‘удар ад падзення мяккай часткай цела’ (Стан.). Рус. *плю́ха* ‘аплявуха’ (ад *плю́хнуть*) Фасмер (3, 290) параўноўвае з лат. *pļaũka* ‘тс’ (ад *pļaut* ‘касіць, біць’). Гл. *плю́хаць*$_1$.

**Плю́ха**$_2$ ‘аер, Acorus calamus L.’, ‘касач, Iris L.’ (ТС; ЛА, 1). Магчыма, адваротны дэрыват ад *плюшня, плюшнік, плюснік* (гл.).

**Плю́ха**$_3$ ‘лёгкі малакаларыйны торф з мноствам пустацелых травяністых каранёў’ (слуц., Нар. словатв.). Да *плю́ха*$_2$. Параўн. літ. *plaušà* ‘асака’ і ‘асаковы торф’ і *pliūšẽ* ‘трыснёг’.

**Плю́ха**$_4$ ‘грыб каўпак кольчасты, падбалацянка’ (пін., Жыв. сл.), *плю́хі* ‘салянкі, пласцінчатыя спажыўныя грыбы з светлашэрай шапкай, якія растуць вялікімі зросткамі’ (карэліц., Нар. словатв.), ‘від асенніх грыбоў’ (слонім., Жыв. НС), *плю́ха, плюхі* ‘шампіньёны’ (Жд. 3), параўн. рус. маск. *плю́ха* ‘шаруха, Lactarius flexuosus’. Апошняе слова Гаўлава (Etym. Brun., 1, 22) звязвае з *пліскі* ‘лісічкі’ (гл.), што ў сваю чаргу ідэнтыфікуецца з **pl’uska* ‘скурка, лупінка’, бо шапачкі грыбоў маюць лускавінкі.

**Плю́ха**$_5$ ‘неахайная жанчына’ (пін., ЖНС), параўн. польск. *plucha* ‘плюгавец’ — экспрэсіўнае сцягненне замест *plugawiec* ‘тс’ (Банькоўскі, 2, 611). Хутчэй за ўсё, самастойнае ўтварэнне ад *плю́хаць* ‘боўтацца ў гразі’ (гл.).

**Плюхані́на** ‘плюхота’ (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *плю́хаць* ‘хлюпаць’, магчыма, у выніку кантамінацыі *плюхота* і *хляпаніна*.

**Плю́хаць**$_1$ ‘падаць з шумам’ (ТСБМ), *плю́хнуць* ‘упасці ў ваду’ (Бяльк.), *плю́хацца* ‘падаць, шлёпацца ў ваду, гразь з пляскам’, ‘перамяшчацца, рухацца ў вадзе, балоце’ (ТСБМ), *плю́хаць* ‘ударaючы па вадзе, рабіць плёскат, пляск’ (Шат.), хоць апошняе можа ўзыходзіць і да *плёхаць* (гл.). Побач з гэтым у *плю́хаць, плю́хацца* развіваецца значэнне ‘плёскацца’, ‘боўтацца па гразі’ (Шат.), ‘пераліваецца праз край’, ‘ударацца аб што-н.’, ‘купацца, мыцца, распырскваючы ваду’ (ТСБМ); адпаведна *плюх!* — пра выліванне: *нясуць, а іш шайкі плюх, плюх на мост* (мсцісл., Нар. лекс.), альбо *плюх* (параўн.: *плюх вады яму ў вочы!*) замяняе

*плюсь* 'тс' (Бяльк.). Сюды ж: *плю́хнуць* 'упасці ў ваду' (Бяльк.), 'ударыць' (Жд. 1), 'лінуць' (смарг., ваўк., Сл. ПЗБ), параўн. укр. *плю́хати, плю́хнути* 'плёскаць; падаць з шумам', рус. *плю́хать, плю́хнуть*, польск. *pluchać* 'тс', балг. *плю́(х)вам, плю́хна* 'даваць аплявуху; упасці на зямлю'. Да прасл. **pl'ux-ati < *pl'usk-a-ti*, гл. *плю́скаць*.

**Плю́хаць₂** 'хлюпаць', 'ісці (аб працяглым дажджы)', *плюхце́ць* 'тс' (ТСБМ), *плюхчэць* 'падаць вялікімі кроплямі' (Нас.). Да прасл. **pl'ux-t-ě-ti*, якое з і.-е. **pleu̯-sk-* 'імжэць, імгліць'. Гл. папярэдняе слова; да словаўтварэння параўн. *ды́хаць/ дыхце́ць* (гл.).

**Плю́хі** 'баязлівы' (свісл., Сл. ПЗБ). Да *плохі* (гл.). Няясны пераход *-ло-* ў *-л'у-*, магчыма, пад уплывам *плюхлы* 'вялы'.

**Плю́хлы** 'вялы' (шуміл., Сл. ПЗБ). Відаць, да *-плюснуць < плю́шчыць* (гл.). Утворана, як *(па)морхлы* 'тс' ад *паморхнуць* 'змяць, пакрыцца маршчынкамі' < *моршчыць*.

**Плюхота**, *плю́хта* 'кепскае, дажджлівае надвор'е, слота; макрата, гразь' (ТСБМ, Сл. Брэс., ТС), *плюхата́* 'тс' (навагр., Нар. словатв.; гродз., Нар. лекс.), стол. *плюхо́та* 'слота' (ЛА, 2), 'дождж, слата, гразь' (Варл.); параўн. польск. *pluchota* 'тс'. Да *плю́скаць, плю́хаць* (гл.), якое, паводле Банькоўскага (2, 611), з *pluskota* < прасл. **pl'uskati*. Гл. *плю́скаць, плю́хаць*.

**Плюш** 'тканіна з ворсам, вышэйшым, як у аксаміце' (ТСБМ; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *плю́шаўка* 'плюшавы жакет' (Жд. 1; Сцяшк. Сл.), *плюшаві́к* 'тс' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.). Новае (з пач. XX ст.) запазычанне з рус. *плюш*, якое з ням. *Plüsch* (з XVII ст.) < франц. *pluche*, *peluche* (XVI ст.) < *(se) pelucher* 'калмаціць' < італ.-лац. *pilūccāre* < лац. *pilus* 'волас' (Фасмер, 3, 290; Банькоўскі, 2, 613). Параўн. таксама больш старое запазычанне *пліс* (гл.).

**Плю́шка** 'ўдар' (Юрч. СНЛ); параўн. рус. *плю́шка* < *плю́ха* 'ўдар далоняй па шчацэ, поўха'. Да *плюха₁* (гл.).

**Плю́шнік**, *плюшня́* 'аер трыснёгавы, Acorus calamus L.' (ТСБМ; ТС; Бейл.; брагін., Нар. словатв.; брагін., З нар. сл.), 'зараснік плюшчаю, Sparganium simplex Mert. et Koch' (брагін., Яшк.), 'зараснік аеру' (БРС). Палескае (Карскі, Труды, 479). Сюды ж: *плю́шнік* 'касач, Iris L.' (ганц., Сл. ПЗБ), *(буськова) плюшня́* 'тс' (ТС), *плю́шня* 'подсціл, балотная трава, падобная на аер; яе косяць, як замерзне балота' (гродз., Сцяшк. Сл.), *плюшня́й* 'чарот, Scirpus L.' (карэліц., нясвіж., Весці, 4, 169), 'рагоз, Typha L.' (ганц.,

Сл. ПЗБ). Адаптаваны балтызм. Параўн. літ. *plū̃šos, plušaĩ* 'рагоз' (Атрэмбскі), *pliūšė/pliūšė/pliūšis* 'трыснёг' (Арашонкава і інш., Весці, 4, 1969, 125), *plūšė* 'асака, Carex yracilis'. Сюды ж таксама *плюсняг* 'чарот' (тамсама) — у выніку кантамінацыі лексем *плюшняй* і *трыснёг* (гл.), *плюшняк* 'месца на балоцістых лугах, дзе растуць асака, плюшчай, цыкута ядавітая' (Яшк.). Гл. таксама *плюшча́й*.

**Плю́шня** 'падпорка ручак у калёсах' (Пятк. — Карскі, Труды). З *лю́шня* (гл.) з другасным *п-*.

**Плюшня́** 'ступня' (ганц., Сл. ПЗБ). З *плюсна́* (гл.). Канец слова аформлены паводле *ступня́*.

**Плюшч₁** 'паўзучая расліна, Hedera helix L.' (ТСБМ; гродз., Кіс.), укр. *плющ*, зах.-укр. *блющ*, рус. *плющ* 'тс', кур. *плющ* 'блюшчык, расходнік, Glechoma hederacea L.', бел. гродз. *плюшчык* 'тс', польск. *bluszcz* 'плюшч і інш. расліны', палаб. *pl'äust'*, н.-луж. *blušć, blyšć, blišć*, в.-луж. *błyšć*, ст.-чэш. *bl'ušč* (чэш. дыял. у выразах: *je jag blúšč* 'мізэрны', *bledý jak blúšč* 'бледны'), славен. *bljúšč*, серб. дыял. *пљȕшт*, ц.-слав. *блюшть*. Прасл. **bl'uščь* 'паўзучая расліна, Hedera helix L.', якое пазней у розных слав. мовах перайшло на назвы іншых, падобных да плюшча раслін. Надзейнай этымалогіі няма. Найбольш імаверна можна гаварыць аб сувязі з **bl'ьvati* 'бляваць': спажытыя ягады плюшча выклікаюць ваніты (Машынскі, Pierw., 64; SP, 1, 279; Фасмер, 3, 290—291).

**Плюшч₂** 'вадзяны пузыр на целе' (Нас.). Параўн. рус. бранск. *плющ* 'прышчы', балг. *плю́ска* 'пухір', серб.-харв. *pljȕske* 'сып, экзема'. Да прасл. **pl'usk-jь* < *pl'uskati* > *плюскаць₁* (гл.), лат. *pluzganas* 'перхаць', літ. *bluozgaĩ, blùzgana* 'тс'. Аналагічна літ. *gebinė* 'плюшч, Hedera helix' і *gẽbenė, gẽbine* 'высыпка, экзема', *giabine* 'від белай высыпкі на скуры' (Праабражэнскі, 2, 83).

**Плюшча́й**, *плюшчэй* 'расліна Sparganium L.' (маг., Кіс.; Гарэц., Шат., Касп.), 'пухоўка шыракалістая, Typha latifolia L.' (віл., Кіс.), 'касач, Iris L.' (чэрв., барыс., бярэз., гродз., рагач., Сл. ПЗБ), *плюшча́й* 'расліна, падобная на аер' (стаўб., карэліц., З нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *plū̃šos, plušai* 'рагоз', *pliūšė/pliūšė̃/pliūšis* 'трыснёг' (Арашонкава і інш., Весці, 1969, 4, 125).

**Плюшча́к** 'пустое насенне (у гарбузах), зярняткі ў коласе' (ТС; жытк., Нар. словатв.), рус. дыял. *плюшча́тка* 'няспелы

стручок гароху, бобу'. Магчыма, да *плю́ска₁* (гл.); паводле БЕР (5, 383), балг. *плюски* 'боб ці гарох з малымі гарошынамі, малады боб ці гарох' мелі ў якасці зыходнага значэнне 'пухір', бо яны мяккія і сакавітыя. Малаверагодна; хутчэй да *плю́шчыць*, *сплюшчаны* 'пляскаты', параўн. *плашча́к₃*.

**Плюшча́ць** 'бурна цячы' (Сцяшк. Сл.), *плюшчэ́ць* 'цячы (аб крыві), ліць ліўнем' (Нас.), 'патроху выцякаць' (Варл.), 'плюхаць', 'моцна цячы' (Юрч. Вытв.), 'моцна хлюпаць' (мсцісл., З нар. сл.), *плюшчы́ць* 'плюхаць, хлюпаць (у ботах)' (шчуч., Сцяшк. Сл.); *плюшчэ́нне* 'моцнае плюханне, цячэнне, вада' (Юрч. СНЛ). Укр. *плюща́ти* 'плёскаць', рус. дыял. *плюшча́ть* 'хвастаць, ісці (аб дажджы)', 'мокнуць, кепска зажываць'; польск. *pluszczeć, pluszczyć* 'цячы струменем, плысці з плёскам, хлюпаць'. Узыходзіць да прасл. **pl'usč-ě-ti/pl'uskati/pl'usknǫti* > *плю́скаць₁* (гл.). Форма з націскным э, відаць, запазычана з польск. мовы, гл. Цвяткоў (Запіскі, 56), а таксама Банькоўскі (2, 613), дзе *pluszczeć* 'плёскаць' (з XV ст.). Сюды ж, магчыма, **плюшчэ́ць (плюшчы́ць)* 'быць напоўненым, кішэць': *лес плюшчыць ваўкамі* (зэльв., Сцяшк. Сл.).

**Плю́шчыць₁** 'удараючы або сціскаючы, рабіць што-небудзь пляскатым, тонкім' (ТСБМ), *плю́шчыцца* 'карабаціцца, гнуцца' (Сцяшк. МГ), 'рабіцца плоскім', *плюшча́ты* 'пляскаты' (ТС), укр. *плю́щити*, рус. *плющить*, ст.-рус. *плющити* (*плещити*) 'расплюшчыць' (XV ст.). Усходнеславянскае. Утворана ад *плюск*, параўн. ст.-рус. *плюскъ* 'шум ад удару, пляск, лопат' (XV ст.). Гл. *плю́скаць₁*.

**Плю́шчыць₂**, *плю́шчыты* 'заплюшчваць, жмурыць вочы' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Шат., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ; Сцяшк. МГ), *плюшчыцца* 'жмурыцца, моргаць' (петрык., Мат. Гом.), *плюшчаком* 'прыжмурыўшыся' (ТС), *плю́шчыцца* 'лезці' (карэліц., Нар. сл.), укр. *плю́щити*. Да *плю́скаць₃* (гл.). Таксама можна дапусціць семантычнае развіццё з *плю́шчыць₁* (гл.).

**Плю́шчыць₃** 'значыць свойскіх гусей': *плюшчаць ім знак* (ТС). Відаць, да *плю́шчыць₂* 'сціскаць, сплюшчваць'. Першапачаткова пры клеймаванні жывёл і птушак прабівалі ім вуха ці перапонкі, устаўлялі туды кляймо і сплюшчвалі яго, каб не гублялася.

**Плюшчэўнік** ‘брыца, Echinochloa crusgalli L.’ (леп., ЛА, 1). Да *плюшчыць₁* (гл.). Названа паводле плоскага лісця расліны ці плада.

**Пляба́н** ‘рымска-каталіцкі пробашч’, *пляба́нія, пляба́ня* ‘парафія, пасада плябана’, ‘дом, які належыць парафіі і ў якім жыве ксёндз’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Янк. БП, Нас.; Сцяшк. МГ). Ст.-бел. *плебанъ* ‘каталіцкі прыхадскі святар’ (з 1489 г.), *плебания, плебанея* ‘прыход ксяндза’ (1528 г.) са ст. польск. *pleban, plebanija* ‘тс’, якія з с.-лац. *plēbānus, plēbānia* < *plēbs* ‘парафія, крыніца даходаў, сукупнасць парафіян, якія плацілі дзесяціну за імшу, хрост, шлюб і да т. п.’.

**Плява́₁**, *плеўка, плевачка, плівка* ‘вельмі тонкая скурка ў жывёльным або раслінным арганізме’ (ТСБМ, Нас., Шат.), ‘тонкая плеўка на вадкасці’ (Нас.; сміл., Стан.), ‘перапонка’ (Нас., Шат.), ‘дыяфрагма’ (гродз., Мат. АС; воран., дзятл., Сцяшк. МГ; добр., Мат. Гом.; в.-дзв., Шатал.; Сл. Брэс.; ЛА, 1), *плівусьці́нычка* ‘тоненькая плёнка’ (Бяльк.); *плявýцінка* ‘плеўка (пра лёд)’ (карэліц., Нар. лекс.); укр. *плівá*, рус. *плевá*, славін. *plìeva* ‘празрыстая абалонка вока’, палаб. *plevo* ‘павека’, славен. *plę̥va* ‘тс’. Прасл. **plěva*, роднаснае літ. *plė̃vė* ‘плёнка, скурка’, лат. *plêve* ‘тс’, лац. *palea* ‘чырвоная скура ў пеўня пад дзюбай’, ст.-грэч. ’επίπλοος ‘сальнік’ (Фасмер, 3, 277). Сюды ж *плявачкі* ‘пласткі, геркулес’ (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. таксама *плéва*.

**Плява́₂** ‘пшанічная і аўсяная мякіна’, *плéвы* ‘парожнія каласы ў стаячым на полі збожжы’ (Нас.). З польск. *plewa* ‘мякіна’ < прасл. (зах.) **pelva* = (усх.)/ **polva* > бел. *палóва* (гл.). Паводле Фідроўскай, (Зб. Багародзіцкаму, 145), запазычана са ст.-слав. плѣва ‘тс’.

**Плява́ць** ‘выдаляць з рота сліну, макроту і пад.’ (ТСБМ). Да *плюва́ць* (гл.), якое (з прасл. **pju-va-ti*) з’яўляецца ітэратыўным ад **pjъv-a-ti* > ст.-слав. пльвати, ст.-чэш. *pl’vati*, польск. *plwać*, рус. *плевать*. Мяккае *л’* у гэтых формах не эпентэтычнае, а з’явілася паводле аналогіі з **blьvati* > *бляваць* (гл.) (Махэк₂, 461; Фасмер, 3, 291; Банькоўскі, 2, 613) ці мае гукапераймальны характар (Брукнер, 419; Фасмер, 3, 291). Сюды ж: *плёвалка* ‘плявальніца’ (Шат.) і, магчыма, *плёваць* ‘біцца (пра сэрца)’ (брагін., Мат. Гом.).

**Пля́віца** ‘п’яўка’ (бераст., Сцяшк. Сл.; пін., бераст., ЛА, 1). Да *п’я́ўка* (гл.). Аб мене *л’* > *й* гл. Карскі, 1, 322.

**Плявýжыць** (*плевýжыць)* ‘моцна ліць (аб дажджы)’ (ТС), *плявýжыты* ‘ісці — аб праліўным дажджы і мокрым снезе’ (Клім.), У выніку кантамінацыі лексем **злéва*, *залева* ‘лівень’ і *пля́га*, *пля́жыць* (гл.). Магчыма, тут крыюцца больш старажытныя генетычныя сувязі, параўн. літ. *pliaũpti* ‘ісці (аб моцным дажджы)’.

**Плявýзгаць**, *плевýзкаць*, *плявýзкаць*, *блевýзкаць*, *плявýскаць*, *плявýрзгъць* ‘гаварыць лішняе, пустое, без толку; гаварыць аб адным і тым жа; малоць языком; разводзіць плёткі’ (ТСБМ, Мядзв., Янк. 2, Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС, міёр., Нар. лекс.; ельск., Жыв. НС; карэліц., Шатал.; бялын., Янк. Мат.), ‘гаварыць нейкую брыду’ (Варл.), *блявýзгаць* ‘блюзнерыць’ (Стан.), *плявýздаць*: *плявуздае німа ведае што!* (= “гаворыць ерунду”) (Воўк.-Лев., Татарк., 182), *плявýзгало* ‘хто шмат гаворыць’ (слонім., Сл. рэг. лекс.), *плявýрзгъла* ‘той, хто гаворыць не да месца’ (міёр., З нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *blevỹzgoti* ‘брыдкасловіць’; або *pliáuza* ‘балбатун’, *pliaũzaroti* ‘балбатаць’ (Саўка, Запісы 23, 55).

**Плявýрына** ‘цвёрдае, акасцянеўшае мяса’ (Варл.). Да *плява* (гл.), суф. *-ур-ын-а* мае экспрэсіўнае адценне.

**Плявýха** ‘поўха’ (Нас., Бяльк.), *плявýшыць* ‘біць у вуха’ (Юрч. Вытв.), *плявýшыньня* ‘біццё ў вуха’, *плявýшыньнік* ‘той, хто пагражае ўдарыць у вуха’ (Юрч. СНЛ). Да *аплявýха* (гл.). Параўн. таксама *плю́ха₁* (гл.).

**Пля́га₁**, *пля́ґа* ‘слота’ (ТСБМ; Сл. ПЗБ; гродз., пруж., ЛА, 2), *плягота* ‘тс’ (ЛА, 2), ‘мокры снег’ (гродз., З нар. сл.). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 4, 22), — з літ. *pliaugà* ‘слата’. Аднак не выключана таксама запазычанне з польск. *flaga* ‘слота, непагадзь’, ці з дыял. *plaga* ‘хлюпота, слата’, якое Банькоўскі (2, 596) выводзіць з рэгіянальнага паўн.-ням. *flage* ‘тс’. Сюды ж: кантамінаваныя сінонімы — *плехота*, *плюхота* ‘слата’ (ЛА, 2), а таксама *пля́жыць*, *пля́жыты*, *плёжытэ* ‘ліць як з вядра, ісці няспынна’ (воран., Сл. ПЗБ; кобр., стол., драг., Сл. Брэс.).

**Пляга₂** ‘ўдар розгай’ (Нас.), ‘кара, пакаранне’ (Нас.; Шат.; барыс., Шн. 2). Сярэднявечнае школьна-кляштарнае запазычан-

не ў польск. мову з лац. *plāga* 'ўдар, выцятае месца' < *plāgo, -āre* 'біць, хвастаць, лупцаваць' (ці з *plangere* 'ўдарыць з трэскам'), запазычаных са ст.-грэч. дар. πλᾱγά, іяніч. πληγή 'удар', 'рана ад удару', 'няшчасце, якое пасылаецца лёсам' (Банькоўскі, 2, 596), з польск. мовы пранікла на Беларусь. Сюды ж: *пляжыць, сплязкыць* 'вынішчыць', 'збіць, пабіць', 'затаптаць', 'секчы з размаху, моцна біць, глуміць' (ТСБМ, Шат., Нас.; смір., Стан.), 'разбіваць' (рагач., Сл. ПЗБ), 'палоць' (акц., Мат. Гом.), 'працаваць многа, напружана' (Нар. Гом.), а таксама *пляжма*: "Я *пляжма* ворага крышу..." (Хадыка).

**Пляга$_3$** 'няшчасце, бяда' (воран., ашм., іўеў., пін., Сл. ПЗБ; Бір.), 'зараза, навала' (пін., Нар. лекс.), *пляга яго ведае!* = ліха яго ведае (чырв., З нар. сл.). Ст.-бел. *плякга, плакга, пляга, флякга* 'няшчасце; навала' са ст.-польск. *plaga* 'тс', якое з лац. *plāga* 'пакуты, няшчасце', 'бедства'. Гл. таксама папярэдняе слова.

**Пля́га$_4$** 'рана ў мазалях' (Чуд.). Са ст.-польск. *plaga* 'рана', не выключана развіццё семантыкі з *пляга$_2$* (гл.); параўн. макед. дыял. *пля́га* 'рана', што выводзіцца з алб. *plágë* ці рум. *plágă* 'тс' (< лац. *plaga*), гл. БЕР, 5, 387.

**Пля́га$_5$**, *пля́га* 'слізь пры адхарквcovanні, макрота' (слонім., Нар. лекс.; зэльв., Сцяшк. Сл.; карэліц., іўеў., Сл. ПЗБ), *пля́га/сма́га* 'слізкае рэчыва ў роце хворага' (Варл.). Са ст.-грэч. φλῆγμα 'слізь, макрота', якое пад уплывам лексемы *пляга* 'макрэча', 'бяда, няшчасце' набыло адпаведную форму.

**Пля́га$_6$** 'бутля, балон' (Мік., Др.-Падб.), 'бляшанка для адстойвання малака (у калодзежы)' (лях., Сл. ПЗБ), сюды ж *пля́жка, пляшка* 'бутэлька' (ТС), 'салдацкая біклага' (барыс., круп., бярэз., любан., бабр., ЛА, 5). Ст.-бел. *пляша, фляша, хвляша* 'бутэлька, пляшка' (1538 г.) запазычаны са ст.-польск. *flasza*, якое з с.-в.-ням. *vlasche* (Булыка, Лекс. запазыч., 102) < *flechten* 'плясці' — першапачаткова бутэлькі спляталіся з лыка, пазней для шчыльнасці вымазваліся глінай і абпальваліся ў печы, параўн. славен. *pletênka* 'аплеценая бутэлька'. Форма *пляга*, відаць, — з *пля́жка* (шляхам рэдэрывацыі), а апошняе — з *фляшка* (Брукнер, 123; Праабражэнскі, 2, 78; Фасмер, 4, 200).

**Пляж** 'бераг мора, возера, ракі, на якім загараюць і адпачываюць у час купальнага сезону' (ТСБМ; ваўк., Сцяшк. МГ). Праз

рус. мову з франц. *plage* 'тс', 'узмор'е', якое, як і італ. *piaggia* 'ўзбярэжжа', узыходзяць да італ.-лац. *plagia* < лац. *plaga* 'вобласць, пояс, зона' (Фасмер, 3, 291; Банькоўскі, 2, 600).

**Пля́жыць**, гл. *пляга₂*.

**Пля́згаць** 'плявузгаць' (баран., Сл. Брэс.). У выніку кантамінацыі *пля́скаць* (параўн. *плескать языком* — ТСБМ) і *плявýзгаць* (гл.).

**Пля́йма** 'пляма' (Касп., Нас., Растарг.; ашм., Стан.; дубр., ЛА, 3; шуміл., Сл. ПЗБ), *пля́йміць* 'пляміць' (Стан.). Ідаць, да *пляма* (гл.) з устаўным *-й-*, як у *войстры* < *во́стры*. *Пляймо/плаймо* 'пляма' (беш., Нар. сл.), *плямо́, пляймо́* 'тс' (паст., чэрв., беш., ЛА, 3) аформлены пад уплывам рус. *пятно́* 'тс'.

**Пля́йстар**, *пляйстэр, пля́стар, пля́йсціp, пля́стра* 'слой, пласт', 'пластыр' (Нас., Др.-Падб., Гарэц., Касп., Бяльк., Жд. 1, Жд. 2, Дэмб. 2; ашм., Стан.), яшчэ *пля́йстра, пля́сты, пля́стры, пля́страчка* 'штучныя соты', 'кавалак мёду', 'васковая абалонка', 'рамкі з сотамі мёду' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. МГ, Мат. Гом.), 'слаі' (Сл. ПЗБ, Нас.); *плястэ́рык* 'скрылік' (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *plaster* 'тс', якое паходзіць з *plaster* 'медыцынская павязка, што прылепліваецца на рану' < с.-в.-ням. *pflaster*, ст.-в.-ням. *plastar* < лац. *emplastrum* 'замазваць рану воскам, завязваць абмазку на прышчэпе' < ст.-грэч. ἔμπλαστρον (Кюнэ, Poln., 87) < ἐμ-πλάσσω 'замазваю'; з гэтым словам злілося польск. *plast* (< прасл. **plastъ* 'слой, скіба, пласт'), з XVI ст. — *plastr* і *plastr* (мёду), блізкае па форме да *plaster*: нярэдка воск выкарыстоўвалі для залеплівання ран, як у старажытнасці (Банькоўскі, 2, 599). Устаўное *-й-*, як у папярэднім слове.

**Пля́йстра** 'тоненькая нітачка' (Варл.). Няясна, магчыма, да *пля́йстар* 'слой, пласт' > 'тонкі слой, пласт' > 'нітачка'.

**Пляйтýх** 'збітыя валасы, каўтун', 'пыж у патроне' (ашм., Сцяшк. Сл.; шчуч., З нар. сл.). Гл. *плéйтух*. Параўн. таксама *плéнтух* (гл.).

**Пля́ма**, *пля́міна, плёма, плямізма, плям, пля́мка* 'знак, месца на паверхні як брудны след чаго-небудзь', 'што-небудзь ганебнае' (ТСБМ, Сцяшк. МГ, Шпіл., Гарэц., Нас., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Растарг.; Юрч. СНЛ; ЛА, 3); *пля́мы* 'абвесак' (лаг., ЛА, 2); *пля́міць* 'рабіць плямы' (Бяльк.), *пля́місты* 'маркі, мазкі, мазісты' (Нас., Гарэц.), *плямíсты* 'з плямамі' (даўг., Сл. ПЗБ; Растарг.), *пля́мны*

‘заплямлены, у плямах’ (Нас.). З польск. *plama* ‘пляма’ (Кюнэ, Poln., 87), якое ўзнікла ў выніку кантамінацыі польск. *plana* ‘пляма, ганьба, загана’ (гл. *плéна₂*) і медыцынск. *plama* ‘чырвоная пляма на скуры ад хваробы’, што з ням. *flamme* ‘тс’ і ‘пляма на сукенцы’ (Брукнер, 417; Банькоўскі, 2, 597).

**Пляме́ннік**, *плямя́нік, плэмня́нньік, плямя́ннік* ‘сын брата альбо сястры’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Бяльк., Сцяшк. МГ). Да *пле́мя* (гл.), параўн. *пле́мень* ‘род’ (ТС). Сюды ж: *пляме́нніца* ‘дачка брата ці сястры’ (ТСБМ, Бяльк.).

**Пля́мкаць**, *пле́мкатэ, пля́мкнуты, пля́мкаты* ‘чмокаць, чмякаць (уголас), есці з прычмокваннем’, ‘чвякаць, цмокаць, чмякаць ротам’ (Клім., Янк. БП, Сцяц., ТС, Сл. Брэс.; Сцяшк. Сл.; Жыв. сл.; З нар. сл.; Нар. Гом.), укр. *пля́мкати*. Экспрэсіўны дзеяслоў з суф. *-ка-* ад гукапераймання *плям!* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 72); паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 169), гукапераймание структурна суадносіцца з *цям!* гл. *ця́мкаць*.

**Плямо́** ‘трэшчына (і дзірка) ў торфе’ (маст., Сл. ПЗБ). Да *пле́на₂*. Афармлена паводле *пляймо* (гл. *пля́йма*).

**Плямо́к** ‘сіняк’ (чэрв., Сл. ПЗБ). Да *пля́ма* (гл.). Суфікс *-ок*, як у *бялок*, *жаўток*.

**Пля́мпаць** ‘плявузгаць, балбатаць’ (гродз., Лекс. балтызмы). Гукапераймальнага паходжання, зыходнае *плям!* гл. *плямкаць*. Параўн. балг. *пля́мпам* ‘тс’ і літ. *plem̃pti* ‘тс’, апошняе можа суадносіцца з *plepė̃ti* ‘ілгаць, балбатаць’ (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 71), якое ўзыходзіць да анаматапеічнага і.-е. **ple-* (Фрэнкель, 616), што, аднак, не дае падстаў настойваць на запазычанні, параўн. польск. *plaplać* ‘гаварыць многа і абы-што’.

**Плямя́** ‘гадоўля для патомства’ (віл., навагр., Сл. ПЗБ). Да *пле́мя* (гл.), першапачаткова, відаць, з *на племя* (пакінуць) ‘на развод’.

**Пляндзі́вый** ‘надакучлівы’ (Мат. Маг.). Магчыма, са ст.-польск. *pletliwy* ‘баламут, гаваркі, балбатун’ < *pleść* ‘плясці’, або ад *plątać* ‘блытаць’, гл. *плянта́ць*.

**Пляндрава́ць** ‘нішчыць, вытоптваць’ (Др.-Падб., Нас., Гарэц.), ‘псаваць, рабіць шкоду’ (слонім., Сцяшк. Сл.). З польск. *plądrować* ‘рабаваць, знішчаць’, што з ням. *plündern* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 67). Гл. *плю́ндра*, *плюндрава́ць*.

**Пля́ніца** 'доля, участак, частка' (хойн., Мат. Гом.). Відаць, да польск. *plan* 'план, участак'.

**Пляніца** 'сіло на птушак' (в.-дзв., Шатал.), *плéніца* 'пастка', 'сіло' (Касп.), *пляні́ца* (*плени́ца*) 'мочка з коласа, прарост' (Нас.), ст.-бел. *пленица*: *упалъ у плeницу бесовскую* (1562 г.) (Карскі, 2—3, 499); рус. *плени́ца* 'пучок, каса', 'пляцёнка цыбулі, часныку', 'доўгае вешала абаранкаў', *плёнка* 'валасяная пятля, сіло на цецярукоў', стараж.-рус. *пленица* 'тое, што створана шляхам перапляцення, перавівання альбо злучэння прадметаў ці іх частак', 'снасці птушкалова — сілы, сеткі', укр. *плени́ця* 'прасла ў плоце', польск. *pletnica* 'пляцёнка з дубцоў', балг. *плени́ца* 'плот з дубцоў і калоў', 'заплеценая каса', ст.-слав. пленица 'пута, ланцуг, кайданы', 'каса'. Праслав. **pletnica* < **plesti* (Міклашыч, 249), гл. *плясці*, гл. таксама ESJSt, 11, 655; Варбат, Морфонология, 205; інакш — Фасмер (3, 278): **pletьnica* > балг. дыял. *плéтеница* 'барана (сплеценая з дубцоў)'. БЕР, 5, 346. Параўн. сінонімы *ўпленіцца/ уплесціса* 'прывязацца, прычапіцца' (ТС). Сюды ж: *пляніца* 'злучаныя парамі плыты' (быx., рагач., Рам. 8), 'невялікі плыт' (Масл.), 'прараcтак з коласа' (Нас.), *пленіца* 'звяно ў плыце, плоце' (ТС), 'прасла' (стол., Нар. сл.), укр. *плени́ця* 'напалам распілаваны ствол будаўнічага дрэва', рус. *пленица* 'аднарадны плыт'.

**Плянт** 'пляц' (старое) (зэльв., Сл. рэг. лекс.). Пад уплывам *плянтавáць* (гл.) з польск. *plan* 'сядзіба, участак'. Менш верагодная сувязь з літ. *pleñtas, plénta(s)* 'глеба, грунт' (адносна паходжання гл. Фрэнкель, 616), якія Бязлай (Razpr. SANU, 7, 166) параўноўвае са славен. *oplat (< *ǫ-plęt): v oplat vreči* 'кінуць у зямлю'.

**Пля́нта** 'мяжа на хлебным полі' (малар., Выг.), 'мяжа' (Айкан.). З польск. *planta* 'план, праект'. Да *плант* (гл.).

**Плянтавáць** 'разраўноўваць няроўнасці на сенажаці ці пашы', 'вытоптваць, збіваць пасевы' (дзярж., Нар. сл.), 'раўняць, расчышчаць' (Сцяшк. Сл.), 'выкарчоўваць' (даўг., Сл. ПЗБ), *плянтоўка* 'поле на месцы расчышчанага лесу' (гродз., Мат. АС; Сцяшк. Сл.; Сцяшк. МГ), 'балотны луг' (Касп.). З польск. *plantować* 'выраўноўваць паверхню грунту', паводле Банькоўскага (2, 598), "штучны чыгуначны тэрмін", магчыма, ад назвы *planty* ў Кракаве, пасаджанага на месцы зруйнаваных умацаванняў парку,

ад лац. *planta* 'расліна', параўн. польск. *plantować* 'разводзіць экзатычныя расліны', *plantówka* 'балотны луг, сена з якога можна збіраць толькі зімой'; Варш. сл. значэнне 'садзіць расліны' выводзіць з франц. *planter*, якое з лац. *plantāre* 'саджаць, высаджваць, засаджваць'.

**Плянта́ць** 'гаварыць блытана' (свісл., Сцяшк. Сл.). З польск. *plątać* 'блытаць', гл. *плёнтаць* 'тс'; націск пад уплывам дзеясловаў на *-та́ць: балбата́ць, плеската́ць* і пад.

**Пля́нтра** 'падваліна' (пін., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, у аснове ляжыць лац. *planta* 'падэшва'.

**Пля́нцы** 'месца, дзе вырошчваюць садовыя саджанцы, паркавыя дрэўцы' (нясвіж., Яшк.), *пля́нцы, плянсы* 'расада' (ігн., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене, з літ. *plénsai* 'маладыя расліны, парасткі' < ням. *pflanzen* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 24), што неабавязкова, параўн. бел. *флянцы*, *флянцікі* 'атожылкі, саджанцы' (гл.).

**Плянці́цца** 'плесціся' (маст., Сцяшк. Сл.). З польск. *plątać się* 'тс'. Націск, як у *плясці́ся.*

**Пляс** 'месца для складання бярвенняў' (добр., Мат. Гом.). З польск. *plac* 'рум'.

**Пля́са** 'кавалак' (гродз., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі польск. *płosa* 'палоска' і *плястар* 'кавалак мёду' (гл.).

**Пляса́ць** 'мігцець, ззяць, зіхацець (пра зоркі)': *пля́шуць, бле́шуть, бля́шуть* (зоры) (ЛА, 2), *небо зорко, зоры аж пляшуць* (ТС), сюды ж *плясава́ць* 'скакаць (у танцы)' (Жд. 2), 'танцаваць' (Касп.). Рус. *пляса́ть* 'радавацца, танцаваць', польск. *pląsać* 'танцаваць', палаб. *pl'ǫsăt*, чэш. *plesati*, славац. *plesat'*, славен. *plẹ̑sati* 'танцаваць, весяліцца', серб.-харв. *плѐсати* 'тс', 'трыумфаваць', балг. дыял. *пле́ша*. Прасл. **plęsati*, роднаснае літ. *plẽšti* 'танцаваць, весяліцца, трыумфаваць', *plęšti* 'шумець, бушаваць', ст.-літ. *plą̃šti* 'шумець, шалясцець' (Фасмер, 3, 291—292), аднак балтаславянскае паходжанне слова застаецца няясным (Бязлай, 3, 54). Скок (2, 681) выводзіць слав. лексему з прэтэрыта *plęsā* < і.-е. **plet-* 'таптаць, працаваць нагамі', гл. *пляскаць, плоскі.* Мяркуецца, што зыходнай магла быць аснова, прадстаўленая ў **pleskati*, гл. *пляскаць*, у назалізаванай форме (Брукнер, 417; ESJSt, 11, 659), што адлюстроўвае старажытныя абрадавыя дзеянні (Куркіна, Славяноведение, 1996, 1, 7—14). Беларускія формы

ў значэнні ‘мігцець’ дэманструюць блізкасць да *бліскаць* (гл.), а ў значэнні ‘танцаваць, скакаць’ — уплыў рус. *плясать* (Булахаў, Развіццё, 10). Сюды ж: *плясу́н* ‘танцор’, *плясу́ньня* ‘танцорка’ (Бяльк.), *плясуха* ‘тс’ (Нар. Гом.) і ‘сыракваша’ (рэч., Мат. Гом.), апошняе, магчыма, звязана з семантыкай балтыйскіх дзеясловаў.

**Пля́скаць**, *пляска́ць, пля́скыць* ‘ударáць’, ‘біць, хвастаць, сцёбаць’, ‘стукаць далонню аб далонь ці па чым-небудзь’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Бяльк., Яруш., Шат.; ашм., Стан.), ‘апладзіраваць’ (ельск., хойн., Мат. Гом.); ‘пляскаць па вадкасці’ (Шат., Сл. ПЗБ); ‘плямкаць, чмякаць пры ядзе’ (сміл., Стан.; Шат.), *пля́цкаць* ‘тс’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ); *пляска́ць* ‘біць молатам’ (Касп.), ‘таптаць, дратаваць’ (зэльв., Сл. рэг. лекс.); *пля́скаць* ‘барабаніць, звінець (аб лыжках і місцы)’ (воран., віл., Сл. ПЗБ), экспр. ‘касіць нізкую рэдкую траву’ (шальч., Сл. ПЗБ), ‘рабіць, майстраваць’ (карм., Мат. Гом.); *плеска́ць* ‘ляскаць, пляскаць’ (ТС); *пля́скаць* ‘біць па твары далонню’ (Нас.; Бяльк.; жлоб., Мат. Гом.). Укр. *пля́скати, пле́скати* ‘біць у далоні’, ‘плёхаць па гразі’, ‘гаварыць многа і абы-што’, ‘кляпаць’, а таксама бойк. *пля́цкати* ‘плямкаць, еўшы’, польск. *plaskać* ‘гучна ўдараць далонню’, ‘выдумляць, нагаворваць’, дыял. паморск. *płaskac*, *plaskac* ‘пляскаць далонню па вадзе’, чэш. мар. *pláskati*, ляш. *pl’askat’* ‘пляскаць, шлёпаць’, славац. *pl’asknút’* ‘пляснуць па шчацэ, спіне’, ‘бразнуць (дзвярыма)’, ‘лопнуць (пра пупышку)’, ‘пляснуцца (у гразь)’; славен. *plâskati* ‘пляскаць, апладзіраваць’, ‘падрубаць’, ‘крычаць’, *plaskati, ploskáti* ‘біць у далоні’, серб.-харв. чак. *пљаска̏ти* ‘пырскаць, пляскаць па вадзе’, макед. *пласка* ‘ўдараць далонню’, ‘вярзці лухту’, ст.-слав. плєскати ‘ляскаць, ляпаць’. Прасл. **plaskati*, варыянт **ploskati*, роднаснае літ. *ploskúoti* ‘пляскаць (рукамі), чмякаць’, ‘бразгаць’ < і.-е. *plok-sk-* ‘плоскі’, ‘біць, таўчы’ (Сной—Бязлай, 3, 49). Банькоўскі (2, 598) выводзіць польск. *plaskać* з прасл. *plěsk-a-ti*, якое з’яўляецца ітэратывам да **pleskati* > бел. *пле́скаць* (гл.). Сюды ж з пераносным значэннем *пля́ска́ць* ‘гаварыць многа і абы-што’ (Нар. Гом.; Шат.; Касп.), ‘плявузгаць, малоць языком’(Сл. ПЗБ), *пляска́ч* ‘пустаслоў, пляткар’, ‘які гаворыць абы-што’ (Скарбы), ‘балбатун’ (Сцяшк. МГ), *пля́скыньнік* ‘тс’ (Юрч. СНЛ), *пляскава́ць* ‘плявузгаць, несці лухту’ (ігн., Сл. ПЗБ), параўн. чэш. *pleskati*

‘тс’, славац. *pleskotat’* ‘тс’, паморск. *plesk"otac* ‘неразумна ілгаць’, якія Фурлан (JS, 39, 4, 123) узводзіць да **ple-sk-* < і.-е. **(s)pele-*, параўноўваючы з літ. *pleškéti*, лат. *plekšet* ‘ілгаць’, што неабавязкова.

**Пляска́ць** ‘рабіць пляскатым, плюшчыць’ (ТСБМ, Касп.), ‘абабіваць лапатай’ (Сцяшк. Сл.), *плыска́ты* ‘пляскаць (пра метал)’ (драг., Жыв. сл.), *пляску́шка* ‘невялікі, распляснаны кавалак металу’ (Юрч. Вытв.). Да *пля́скаць* (гл.).

**Пляска́ты** ‘без звычайнай пукатасці, прыплюснуты’, ‘які мае невялікую вышыню або таўшчыню пры прамой і роўнай паверхні’ (ТСБМ; слонім., КЭС; пух., Сл. ПЗБ; Шат.; беласт., Стан.), *плеска́ты* ‘пляскаты’ (ТС), *плыска́ти* ‘прыплюснуты, плоскі’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *плеска́тая* ‘нізкая, пакатая (страха)’ (стаўб., карэліц., ЛА, 4). Хаця не выключана ўтварэнне ад *пляска́ць* (гл.), аднак больш імаверна, што лексема запазычана з польск. *płaskaty* ‘плоскі’ (з XVI ст.). Параўн., аднак, *пляска́ны* ‘пляскаты (пра авёс)’, *пля́сканькі* ‘пляскаценькі’ (швянч., трак., Сл. ПЗБ).

**Пляска́ч₁** ‘пірог’ (Касп.), *плеску́ха* ‘скавароднік, пярэпечка’ (лун., ЛА, 4; ЖНС). Да *пляска́ць* (гл.). Параўн. укр. *плеска́ч* ‘круглы хлеб з плоскай паверхняй’.

**Пляска́ч₂** ‘гатунак ячменю — з двума радамі зярнят у коласе’ (Сцяц.). Да *плоскі* (гл.), г. зн. першапачаткова *⁺пласка́ч*, аднак пад уплывам *пляска́ць, пляска́ты -ла- > -ля-*.

**Пляска́ч₃**, звычайна ў мн. л. *плыскачы́* ‘памылка ў чынах, калі абедзве ніткі асновы кладуць разам, а не па адной уверх і ўніз’ (Уладз.). Відаць, з *⁺пласкачы* < *пло́скі* (гл.). Параўн. польск. паўн.-усх. *płaszczka, płaszczucha* ‘спляценне пры тканні, у якім дзве ніткі асновы ідуць побач’, падляшск. *płaskocha* ‘блюзна ў палатне з-за плескача’.

**Пляска́чка:** *у пляска́чку* ‘гульня хлопчыкаў з пляскатымі каменьчыкамі, якія падскокваюць на паверхні вады’ (гродз., Нар. словатв.). Ад *пляска́ты* (гл.), у выніку семантычнай кандэнсацыі словазлучэння *гульня пляскатымі каменьчыкамі*.

**Плябскіта́цца** ‘хадзіць па мокрай падлозе’ (дзятл., Сцяшк. Сл.). Да *пляско́та* (гл.) з распадабненнем *-о- > -і-*, магчыма, пад уплывам рус. *скитаться* ‘бадзяцца’.

**Пляскóваты** (*плескóваты*) ‘плоскі’ (Бес.). З польск. $^{+}$*plaskowaty* < *plaskaty* ‘тс’, якое ад *plaski,* апошняе (у Кнапскага, 1621 г.) замест *płaski* ‘плоскі’ (Банькоўскі, 2, 599).

**Пляскота** ‘слота’ (івац., ЛА, 2). У выніку кантамінацыі лексем *плесканіна* і *слота* (гл.).

**Пляскýн₁** ‘дзяружка з ільняных нітак’ (Сцяшк. Сл.). Да *пласканí* (гл.).

**Пляскýн₂** ‘гарэза’ (Нар. Гом.). У выніку кантамінацыі *плясýн* (ці *пляска*) і $^{+}$*скакýн.*

**Пляскýн₃** ‘пухір у рыбы’ (воран., ЛА, 1). Да *пляск*, *пляскáць* ‘лопацца, трэскацца’ (гл.).

**Пляскýшка** ‘пастка (на мышэй)’ (шальч., Сл. ПЗБ). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *pliáukšt* ‘лясь! ляп! бразь! бах! шчоўк!’ — перадае гук, калі раптоўна зачыняецца пастка.

**Пляснíвы** (*плясьнівый)* ‘сівабелаваты (пра каня)’ (Бяльк.), *пляснíвы* ‘вяснушкаваты’ (кліч., Жыв. сл.; рэч., светлаг., б.-каш., Мат. Гом.), ‘плямісты’ (рэч., Нар. сл.), ‘заплеснявелы’ (Сцяшк. Сл.), ‘колер поўсці ў каня ці каровы, дзе змешаны белая і рыжая поўсці’ (Варл.). Апошняе ст.-бел. *плесниві ый*, *плесневый* ‘светлашэрай масці’ (1552 г.) — са ст.-польск. *pleśniwy* ‘конь з белымі плямкамі на шэрсці’ (Булыка, Лекс. запазыч., 124). Параўн. таксама і ст.-чэш. *plesnivý* ‘сівы, бела-шэры (пра каня)’, ‘пакрыты плесняй’. Да *плéсні*, *плéсня* (гл.).

**Пляснíк** (*плеснíк)* ‘плюшнік’ [відаць, Sparganium]’ (лун., Шатал.). Да *плю́шнік, плю́ха₂*. Наяўнасць *-с-* сведчыць альбо пра ўплыў лексемы *плоскі* (у расліны плоскія доўгія лісты), альбо пра запазычанне з зах.-балт. дыялектаў, роднаснае літ. *pliū̃šė̃* ‘трыснёг, Phragmites communis L.’.

**Пля́сніца₁** ‘від рыбалоўнай сеткі’ (Касп.). Няясна. Магчыма, ад *плéсці* (гл.). Суфікс *-іц-а,* як у іншых назвах сетак: *лешчаніца*, *уклейніца*; *трыгубіца*; славац. *plotňica.*

**Пля́сніца₂** ‘ільдзіна, крыга’ (гом., Мат. Гом.), *пляснíца* ‘тонкі лёд на рацэ’ (віц., Яшк.; ЛА, 2). Няясна.

**Пля́снуцца** ‘з шумам упасці’, ‘ударыцца’ (ТСБМ; Жд. 1; Сцяшк. МГ), *пля́снуць* ‘ляснуць’ (Жд. 2), ‘ударыць з пляскам’, ‘стукнуць далонню аб далонь або па чым-небудзь’, ‘кінуць што-небудзь з шумам, пляскам’ (ТСБМ). Перфектная форма (*пляс(к)нуць, -цца*) ад *пля́скаць* (гл.).

**Пляснюх** 'рагоз, Typha latifolia L.' (нясвіж., ЛА, 1). Да *пляснік* (гл.).

**Плясня́** 'яжджаль, асака, Carex L.' (баран., ЛА, 1). Гл. *плюшнік, плюшня́,* у аснове якіх, верагодна, балтызм. Параўн. літ. *plū̃šė̃* 'асака, Carex gracilis'.

**Пляснякʹ** 'праснак' (карэліц., Шатал.). Да *пляска́ць* (гл.). Суфікс *-ак*, як у *праснак*; распадабненне *-ак* > *-як* пад уплывам *-ля-*.

**Пля́стаць** 'плёхаць' (ТС). Да *пля́скаць* (гл.) з заменай *к* > *т*.

**Плястэ́рак** 'чалавек са скрыўленым тварам' (зэльв., Сцяшк. Сл.). Няясна. Параўн. польск. *plasterek* (памянш. да *plaster*, Банькоўскі, 2, 599) 'тонка парэзаныя пласцінкі лімона'.

**Плясцёнка** 'пляцёнка цыбулі' (арш., дубр., горыц., ЛА, 2). Утварылася ў выніку кантамінацыі лексем *плёсці* і *пляцёнка* (гл.).

**Плясці́** 'ілгаць, нагаворваць' (Шат.; міёр., 3 нар. сл.), 'плесці што-небудзь', 'віць гняздо' (Сл. ПЗБ), *плесць* 'плесці (карункі)' (Бяльк.). Гл. *плёсці* 'тс'.

**Плясь!** 'гук ад удару чым-небудзь плоскім', адпавядае значэнню дзеясловаў *пля́снуць*, *пля́скаць*, *пляска́цца* (ТСБМ; глус., Янк. Мат.): *плясь! — па голым целе* (полац., Нар. лекс.), *пляс!* (шальч., Сл. ПЗБ). Ад *пляс(к)-нуць*, гл. *пля́скаць*, змякчэнне канцавога зычнага мае экспрэсіўны характар, або пад уплывам мяккасці папярэдняга зычнага, параўн. *лясь!* < *ляснуць* (гл.).

**Плясця́нка** 'пояс, зроблены рукамі пры дапамозе дзвюхтрох драўляных палачак' (Нік. Очерки). У выніку кантамінацыі лексем *плёсці* і *пляцёнка* (гл.). Параўн. таксама *плясцёнка* (гл.).

**Плята́нне** 'плот, пераплецены тонкімі пруцікамі' (Жд. 3). У выніку кантамінацыі лексем *сплята́нне* (< *сплёсці*) і *плот*.

**Плята́ць** 'ілгаць' (Нас.). Да прасл. **pl̨ęt-a-ti*, якое з'яўляецца дзеясловам шматразовага дзеяння ад прасл. **plęsti* (< *ple-n-t-* з інфіксам *-n-* у аснове цяп. часу) < першапачаткова **plěsti* > бел. *плёсці* (гл.). Фурлан (JS, 29, 120—123) параўноўвае *плята́ць* з славен. *oplétati* 'помсціць', *oplésti* 'ашукаць, абдурыць', якія ўзводзіць да прасл. **plet-* < і.-е. *(s)pele-t-/*(s)plet-* 'узнёсла гаварыць', дапускаючы аманімію асноў у праславянскай мове, пры якой сувязь з 'плесці' тлумачыцца народнай этымалогіяй, параўн., аднак, *круці́ць* 'падмануць' (ТС), што сведчыць аб прадуктыўнасці семантычнага пераходу 'плясці, віць, круціць' > 'ашукваць, ілгаць'. Сюды ж: *плятня́* 'хлусня, плёткі' (Нас.; ТС),

'пляткарка' (шчуч., Сл. ПЗБ; клец., Нар. лекс.), *плятýння* 'балбатуха', *плятýн* 'забаўнік, балбатун' (Нас.), 'пляткар, хлус' (капыл., Нар. словатв.; гор., Мат. Маг.; Нас.).

**Пляткавáць** 'абгаворваць' (ашм., Сл. ПЗБ; смарг., Сцяшк. Сл.). З польск. *plotkować* 'рабіць плёткі' < *plotka* > *плётка*$_2$ (гл.).

**Пляткáр,** *пляткáрка* 'той, хто любіць разносіць плёткі' (ТСБМ; Сцяшк. МГ; іўеў., Сл. ПЗБ; ТС; ваўк., ашм., іўеў., ЛА, 3), *пляткáрыць* 'абгаворваць' (астрав., Сцяшк. МГ). З польск. *plotkarz*, *plotkarzyć* 'тс'.

**Плятнíк** 'пляцень' (лях., Сл. ПЗБ), *плятняк* 'тс' (слон., Жыв. НС; Сцяц.; Сцяшк. МГ; брагін., Мат. Гом.), 'зашчытак ад снегу' (Сцяц.), *плятнёўка*, *плятнюшка* 'плятнёвы хлеў' (Юрч. Вытв.), *плетнíца* 'асобнае прасла плятня', *плятня́* 'галлё, якім заплятаюць пляцень' (ТС). Усе да *плéсці* (гл.). Аналагічна польск. *pletniak* 'плот з галінак, што пераплятаюць вертыкальныя калкі, пляцень'.

**Плятня́**$_1$ 'лазіва, прыстасаванне для лазання на дрэва з мэтай выдзёўбвання борці і паднімання калоды' (Нікан.), 'сплецены з лазы гуж для звязвання плытоў' (чэрв., Сл. ПЗБ). Параўн. польск. *pletnica* 'ліна, вяроўка, перавясла, сплеценыя з канапель і саломы'; рус. *плеть* 'лазіва ў бортніка'. Да *плéсці* (гл.).

**Плятня́**$_2$ 'маток зблытаных нітак' (маст., Сл. ПЗБ), 'калонія, сукупнасць (грыбоў)' (даўг., Сл. ПЗБ). Да *сплятáцца, плéсці* (гл.).

**Плятня́**$_3$ 'хлусня, плёткі' (Нас., ТС). Гл. *плятаць*.

**Плятры́га** (зневаж.) 'ндбайнік' (дзятл., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі *лотр*, *латруга* (гл.) і *плятýн* < *плятáць* (гл.).

**Плятýн** 'майстар па пляценню кашоў' (карм., Мат. Гом.). Да *плéсці* (гл.). Суф. *-ун*, як у *лятýн, хадýн, паўзýн*.

**Плятýха** 'драсён, Polygonum aviculare L.' (бабр., ЛА, 1). Да *плéсці* (гл.): сцябліны драсёну сплятаюцца паміж сабой.

**Плятухáцца** 'блытацца (пра язык)' (Гарэцкі). *З (за)плятáцца* < *плéсці* (гл.) з экспрэсіўным суф. *-ух-*.

**Плятýха** 'саламяны кошык' (смарг., Сцяшк. Сл.), *плятýшка* 'плецены з лазы і саломы посуд' (Касп.; Нік. Очерки). Да *плéсці* (гл.). Суф. *-ух-а, -ушк-а* мае значэнне 'прадмет дзеяння' (Сцяцко, Афікс. наз., 71—72).

**Пляўдýра** 'плявузгала', *пляўдýрыць* 'гаварыць пустое' (міёр., З нар. сл.; Нар. лекс.). Балтызм, параўн. літ. *pliaũpti*, *pliaũkšti*

‘вярзці лухту, абы-што гаварыць’ і суф. *-d-a* з непахвальным значэннем, да якога пазней далучыўся суф. *-ур-а*.

**Пляўка** ‘п’яўка’ (стаўб., карэліц., З нар. сл.; карэліц., Нар. лекс.). Да *п’яўка* (гл.). Аб мене *-j-* > *-л’-* гл. Карскі, 1, 303.

**Пляўсі** ‘платкі, геркулес’ (шальч., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), паходзіць з літ. *plaũšė* ‘вотруб’е’.

**Пляўкі** ‘плады дзікай яблыні’ (в.-дзв., мсцісл., клім., ЛА, 1), *пляўка* ‘тс’ (мсцісл., З нар. сл.), *пыляўкі* ‘тс’ (дубр., горыц., краснап., тамсама); *поляўкі* ‘дзікія яблыні і грушы на полі’ (бяроз., ЛА, 1). У выніку рэдукцыі з *палёўкі*, *паляўкі* < *поле* (гл.), гл. Крывіцкі, З нар. сл., 134.

**Пляўцець** ‘ільсніцца’ (ганц., Сл. ПЗБ). З *бляўцець* ‘тс’ — балтызм. Параўн. літ. *bliaũkti* ‘ільсніцца’ (Грынавяцкене, тамсама).

**Плях!**$_1$ ‘боўць, шабулдых!’ (Шат.), ‘плясь, ляп!’ (Шат.; сміл., Стан.), ‘гук ад удару па мяккім месцы’ (Варл.), *плях!* — пра імклівы бег, пра ўдар (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Роднаснае да *плясь!* (гл.). Сюды ж: *пляхаць* ‘шлёпаць, хадзіць па гразі’ (Шат.), ‘наносіць удары’ (сміл., Стан., Шат.), *пляхнуць* ‘ударыць’, ‘пабегчы’ (Юрч.), ‘ударыць па мяккім месцы’ (Варл.), ‘плюснуць, абліць’ (Касп.), *пляхнуцца* ‘пляснуцца’ (Шат.), *пляхацца* ‘плёскацца (у вадзе)’ (беласт., Сл. ПЗБ; карэліц. Шатал.). Параўн. *плёхаць* (гл.).

**Плях**$_2$ ‘плешына, прагаліна’ (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *плех*$_1$ (гл.). Галосны *-я-* з’явіўся, відаць, у выніку абагульнення асновы з *пляха́* ‘лысіна’, ‘агрэх’ (швянч., Сл. ПЗБ), *пляха́* ‘абсевак’ (паст., ЛА, 2). Не выключана таксама, што *плях* можа быць запазычаннем з ням. *Fleck* ‘пляма’, ‘кавалак зямлі’, ‘лапіна, акравак’.

**Пляха**$_1$ ‘вельмі мокрае надвор’е, слота’ (Клім.), *плёха* ‘непагадзь’ (драг., Нар. словатв.). У выніку перастаноўкі зычных з *хляпа*, параўн. *хляпа* ‘слата’ (чэрв., мядз., уздз., Сл. ПЗБ), сюды ж: кіраў. *пляхі* ‘вельмі мокрая адзежына’ (Нар. сл.), відаць, пад уплывам *пляхаць* ‘шлёпаць, пляскаць’, гл. *плях*$_1$.

**Пляха**$_2$ ‘бутэлька’ (слуц., Шн.), ‘фляга, шкляны сасуд’ (Нас.); параўн. ст.-бел. *пляша*, *хвляша*, *фляша* (з 1538 г.), запазычаныя са ст.-польск. *flasza*, якое са ст.-ням. *vlasche*. Утварылася шляхам рэдэрывацыі: *пляша* > *пляшка* > *пляха*, як *му́шка* — *му́ха*.

**Пляха**$_3$ ‘вельмі вялікі баравік, які звычайна расце ў нізкім сырым месцы’, ‘агульная назва старых грыбоў’ (уздз., Нар.

словатв.). Параўн. польск. *plecha* 'цела грыба', паводле Банькоўскага (2, 603), ужытае для перакладу лац. *thallus*, што адпавядае ням. *pilzkörper*. Няясна. Магчыма, звязана з *плех*$_I$ 'лысіна, плех, плеш', параўн. *плешка* 'галоўка цвіка' (гл.), або вобразная назва на базе імітатыва *плях!* параўн. *пляхáта* 'хлюпка' ў фразе: *шыпшына цвіце пляхата, а ружа — поўна* (паст., Сл. ПЗБ).

**Пля́хі** 'страўнік каровы' (Выг.; кіраў., Нар. сл.), 'складкі ў страўніку каровы', 'кішкі, трыбух' (ТС), *пля́ха* 'прамая кішка' (брагін., ЛА, 1). З польск. *flaki* 'кішкі, унутранасці, трыбух', 'рубец', якое з ням. *Fleck* 'кавалак, латка, пляма', *Flecke* 'вантробы (страва)' < с.-в.-ням. *vlëc, vlëcke* 'кавалак' (Банькоўскі, 1, 374). Сюды ж, магчыма, у выніку пераносу значэння з цэлага на частку, *пля́ха* 'слізь у кішках ці коўбіку жывёл, якая абдзіраецца нажом пры шлямаванні' (брагін., Шатал.), ці пад уплывам *плях*$_I$ (гл.).

**Пляхотка**, *плехóтка* 'вельмі зношаная кашуля' (Юрч.), 'парваная анучa' (Нас.), 'пялёнка' (Бяльк., Растарг.), *пляхóцце*, *пляхóцьця*, *пляхóцінка* 'рвань, старызна' (Нас.; Юрч. СНЛ), *пляхóтнік* 'абадранец' (Юрч. СНЛ). Рус. цвяр., пск. *плехóтка, плехóтина* 'анучка, рызман', смал. 'пялёнка'; славен. *s-plehâno blago* 'зношаная рэч', *s-plichâti* 'знасіць, зрабіць танчэйшым', 'ссохнуцца, змарнець (пра чалавека)', харв. *plejâti* 'ліць', 'ударыць', макед. *плеска* 'танчэць'. Да прасл. **plek-sa-ti* і *plekskati* 'таўчы' > **plexati* (Бязлай—Сной, 3, 53), гл. *плях*$_I$, *плёхаць*.

**Пляц** 'сядзіба калгасніка', 'зямля пад сядзібай', 'незабудаваная тэрыторыя ў горадзе ці вёсцы', 'частка прысядзібнага ўчастка каля хаты ці ў полі' (ТСБМ, БРС, Нас., Сцяшк. МГ, Бір., Яруш., Выг., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., ТС; карэліц.. Янк. Мат.; капыл., Жыв. сл.), 'месца для пасеву, плошча' (Растарг.), 'прастора вакол царквы, цвінтар' (стол., Яшк.), 'прысядзібны ўчастак' (ЛА, 4), 'зямельны надзел (у мінулым)' (ЛА, 3); *плац* 'участак зямлі' (брасл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *пляцъ* 'участак зямлі пад гаспадарчымі будынкамі і агародам', 'роўнае незабудаванае месца ў горадзе, ад якога ва ўсе бакі разыходзяцца вуліцы', *плацъ* 'поле бою' (1441 г.). З польск. *plac* (з 1496 г.), *płac* (з 1434 г.) 'месца, не забудаванае ў горадзе', 'месца пад будынкі', 'месца бою', якія запазычаны з мовы нямецкамоўных мяшчан польскіх гарадоў — з н.-ням., с.-н.-ням. *platz*, апошняе, як і франц. *place*, італ. *piazza*, узыходзіць да лац. *platea* 'вуліца, двор' < ст.-грэч.

πλατεῖα ‘шырокая дарога, вуліца’. Бел. *пляц* ‘плошча для ваенных парадаў і страявых заняткаў’ (ТСБМ) — з рус. *пляц*, запазычанага (пры Пятры I) з ст.-бел. *пляцъ* ці ст.-польск. *plac*; а рус. *плац* ‘тс’ — з ням. *platz* ‘плошча’ (Брукнер, 416; Карскі, БР, 156, Кюнэ, Poln., 87, Булыка, Лекс. запазыч., 189; Банькоўскі, 2, 595; Фасмер, 3, 276). Сюды ж: *пляцава́ць* ‘мераць на ўчасткі’, *пля́цны, пляцовы* ‘які адносіцца да планавай меры’ (Нас.).

**Пля́цак**, *пля́цок*; *пля́цке*, *пля́цкы* ‘блін, аладка’, ‘дранік’ (ЛА, 4; Бес., Вешт.; кам., Жыв. сл., Сл. Брэс.), *пля́цка* ‘пернік’ (Сцяшк. МГ), ‘хлебнае печыва круглай формы’, ‘сухар’ (маст., ашм., Сл. рэг. лекс.). Ст.-бел. *пляцокъ* ‘праснак’ (XVII ст.) са ст.-польск. *placek* ‘плоскае печанае або смажанае цеста’, якое з ням. *Plätzchen* ‘тс’, памяншальнае да *Platz* у спецыяльным значэнні (Булыка, Лекс. запазыч., 117; Банькоўскі, 2, 595). Паводле Вештарт (Бел.-польск. ізал., 17) — заходнеславянская інавацыя, параўн. польск. *plaska* ‘скураны кружок для забівання мух’; таксама Махэк$_2$ (453) дапускае ўтварэнне ад *plácati* ‘ляпіць з гліны, цеста’ для чэш., славац. *placka* ‘ляпёшка’.

**Пляца́к** ‘рукзак’ (воран., Сл. ПЗБ; слонім., Сцяшк. Сл.). З польск. *plecak* ‘тс’, якое з’яўляецца штучным перакладам з ням. *Rucksack* ‘тс’ (< *Rücken* ‘спіна’ і *Sack* ‘мяшок’).

**Пляцéнь**, *плéцень, плéцянь, плэтя́нык*, *пляціэ́нік* ‘агароджа з пераплеценых тонкіх галін’ (ТСБМ; Бір.; Шушк.; Сцяшк. МГ; Шат.; Сл. ПЗБ; Мат. Гом.; ТС; Бяльк.; паўн.-ўсх., КЭС), ‘агароджа з тонкіх кійкоў’ (брэсц., мін., маг., рэч., ЛА, 4), ‘частакол, штакет’ (зах.-бел., в.-дзв., ЛА, 4), ‘палукаш’ (мін., бярэз., ЛА, 4), *пляцéня* ‘плот з жэрдак’ (лун., ЛА, 4), *плéцень* ‘галлё, якім заплятытаюць пляцень’, ‘пляцёнка’, *плеценíк* ‘хлеў з плятнёвымі сценамі’ (ТС). Укр. *плетíнь*, рус. *плетень* ‘агароджа’, польск. *plecionka* ‘агароджа з яловых галін’, чэш. *pleteň* (ж. р.) ‘што-небудзь сплеценае’. Пераважна ўсходнеславянскае **pletьnъ* ‘сплеценая агароджа’ < і.-е. **plek-te-/o-* > *plesti* > бел. *плéсці* (гл.), параўн., аднак, балг. *плетéн* ‘каса’, *плетенíк* ‘сцяна з пераплеценых галінкамі калоў’ (Радопы). Сюды ж: *пліцéнь* ‘танец’ (б.-каш., рагач., Мат. Гом.), *пляцéнь* ‘вязаная посцілка на ложак’ (капыл., Жыв. сл.).

**Пляцёнка**$_1$, *пляця́нка, плецю́нка, плэтю́нка, плытíнка* ‘што-небудзь сплеценае ўздоўж з 2—3 і больш пасмаў, кавалкаў’ (ТСБМ, Мат. Гом.), ‘плеценая вяроўка’ (Касп.), ‘лазіва бортніка’ (карм., рэч.,

ЛА, 1), ‘плецены пояс’ (навагр., З нар. сл.; валож., ЛА, 4), ‘тасёмка’ (шальч., Сл. ПЗБ), ‘карункі’ (добр., Мат. Гом.), ‘мярэжка’ (пін., Шатал.); ‘плеценая кашолка’ (ТСБМ, Мат. Гом.), ‘каробка, сплеценая з сітняку’ (драг., З нар. сл.), ‘палукашак’ (віл., Сл. ПЗБ; віл., ЛА, 4), ‘аснова кроснаў, сплеценая ў касу’ (пін., карэліц., Шатал.; трак., ашм., вільн., стаўб., бярэз., Сл. ПЗБ), ‘прылада для звівання нітак у клубок’ (брагін., Мат. Гом.), ‘сплеценая з саломы дарожка на падлогу’ (дзятл., Сцяшк. МГ), ‘будынак з плеценымі сценамі’ (ТС), ‘падоўжаная вітая белая булка’ (ТСБМ), ‘сеткавая частка сіта’ (свісл., Шатал.), ‘уцяпленне дзвярэй’ (драг., Нар. словатв.), ‘сплецены вянок цыбулі’ (астрав., Сцяшк. МГ; Ян.; ТС, Бяльк., Мат. Гом.; брасл., ганц., бярэз., Сл. ПЗБ; усх.-брэсц., усх.-віц., маг., усх.-гом., ЛА, 2), ‘нізка грыбоў’ (кругл., ЛА, 1), ‘вялікая бутэлька, аплеценая лазой’ (Мат. Маг.; Сл. Брэс.; ТС), ‘вязаная хустка’ (воран., Сцяшк. Сл.), а таксама: *пляцёнка* ‘сплеценая аснова (для красён)’ (пух., Сл. ПЗБ), *плецёнка* ‘ручнік з датыкальных адрэзаных і сплеценых канцоў’ (івац., З нар. сл.), *плэ́тянка* ‘плеценая ёмістасць’ (драг., З нар. сл.), *плёцінка, пліця́нка* ‘аплеценая бутля’, ‘акуратна сплецены кошык’ (Юрч. СНЛ), *пляця́нка* ‘пуня з лазы’ (віл., Сл. ПЗБ). Укр. *плеті́нка* ‘вязаная рукавіца’, ‘род вышыўкі’, *плетя́нка* ‘агароджаная крыніца’, ‘сплеценая з саломы стужка, з якой сшывалі капялюш’; рус. *плетёнка* ‘сплеценая рэч — шнурок, пояс, гірлянда з зелені, кветак, пляцёнка цыбулі; круг з саломы; палавічок для выцірання ног’, ‘карункі’, *плетёнка* ‘заплечны кошык для бялізны’; польск. *plecionka*, *plecianka* ‘што-небудзь сплеценае’, ‘тасьма, плецены шнур’, ‘гірлянда, нізка, вянок; “каса” з саломы для аббівання дзвярэй’, ‘кошык’, ‘пляшка, аплеценая лазой’, ‘саламяны вулей’, чэш. *pletenka* ‘хала’. Прасл. **pletьnъka* < **pletьnъ(jь),* адпрыметнікавае ўтварэнне. Да *плёсці* (гл.).

**Пляцёнка₂** ‘пляткарка’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘весялуха, пахатніца’ (пух., ЛА, 3). Да *плёсці* (гл.).

**Пляцёнка₃** ‘бярозка палявая, Convulvulus arvense L.’ (брагін., ельск., Мат. Гом.). Да *плёсці* (гл.). Названа паводле таго, што расліна ўецца, нібы “пляцецца” па дарозе. Параўн. іншыя назвы, звязаныя з *віць*: укр. *повійка*, чэш. *svlak*, *slatec*, але і *opletník* ‘тс’ (ад *oplétati* ‘абпляпаць’) (Махэк, Jména, 184), параўн. лац. *con-volv-ulus*, дзе *-volv-* < **-vel-* ‘віцца’.

**Пля́цка** ‘ўдар па целу плоскім прадметам, які суправаджаецца асаблівым гукам’ (Нік. Очерки; Нас.). Параўн. польск. *placka* ‘скураны кружок на палцы, прызначаны для забівання мух’, якое (паводле Банькоўскага, 2, 595) увёў А. Міцкевіч замест *packa* < *pacnąć* ‘ляснуць’ < чэш. *plácnout* ‘ляпнуць, пляснуць, шлёпнуць’. Відаць, гукапераймальнае. Параўн. *пля́цкаць* ‘чвакаць, чмякаць разжаванай ежай’ (полац., Нар. лекс.).

**Пляцо́** ‘карніз, гзымс на коміне печы’ (гарад., ЛА, 4). Да *плячо* (гл.). Аб мене *ч* > *ц* у паўн.-бел. і наўгародскіх гаворках гл. Карскі (1, 388—389).

**Пляцоўка** ‘роўнае месца на зямлі’ (ТСБМ). Паводле Германовіча (Аб нек. асабл., 13), памянш. да *пляц* ‘участак’ (гл.). *Пляцоўка* ‘роўнае месца паміж двума лесвічнымі маршамі’ (ТСБМ) — калька з рус. *площадка* ‘тс’.

**Пляць** ‘пяць’ (Чуд.). У выніку “другаснага” *l’*-эпентэтыкум з *пйяць*, у якім *пй-* замест [п’]. Параўн. у той жа гаворцы: *спляць* ‘спяць’, *кпляць* ‘кпяць, жартуюць’ (тамсама).

**Пля́цьма** ‘пляма’ (Касп.; ушац., Жыв. сл.). З *пля́йма* (гл.). Мена *-й-* > *-ц’-*, як (адваротная з’ява) *-дз’-* > *-й-*: *малодзьцы* > *малойцы*, *радьци* > *райцы* (Карскі, 1, 351).

**Пляця́н** (*плецян*) ‘агароджа з тонкіх кійкоў, пераплеценых вертыкальна паміж жэрдкамі’ (кіраў., ЛА, 4). Да *плéсці* (гл.). Суфікс -*’ан* узыходзіць, відаць, да прасл. **-ěnъ*.

**Пляця́нік** ‘вялікі кош’ (карэліц., Сцяшк. Сл.), ‘ез’ (шчуч., Сл. ПЗБ), *плётя́ньік* ‘пастаўнік’ (іван., ДАБМ, камент., 784). Утворана шляхам семантычнай кандэнсацыі са словазлучэннем з прыметнікам *плéцены*. Да *плéсці* (гл.).

**Плячо**, *плечо́, плечэ́, плічо́, плычэ́, плечко́, плычко́, плячу́к, плячáк, плéчухна, плéчы, плэ́чэ, плэ́чы* ‘частка тулава ад шыі да рукі’, ‘частка рукі да локцевага сустава’, лудз. ‘частка тулава каня вакол шыі’; *плечы* ‘спіна’, ‘лапаткі’, ‘верхняя частка спіны’, ‘задняя частка вопраткі паміж двума рукавамі’, ‘падкладка ў кашулі’, ‘ватныя плечыкі ў вопратцы’, ‘пройма рукава’ (ТСБМ; Нас.; Бес.; Шат.; Сл. ПЗБ; ашм., Стан., Бяльк.; Сцяц.; Сцяшк. Сл.; Сцяшк. МГ; ТС; Клім.; З нар. сл.; Ян.), сюды ж *плячкí* ‘плечы’ (латг., Нар. сл.), навагр. *плячу́к* ‘шво на плячы’; (тамсама); *плéчы* ‘тарэц, зад’ (ТС), *плéчыкі* ‘спінка ў ложку’ (бых., ЛА, 4), *плэчувы́й стовб* ‘шула’ (драг., Нар. лекс.), *плячны́й* ‘прызначаны

на плечы' (чэрык., Мат. Гом.), *плячысты* (ашм., Стан.), *плячэць* 'раздавацца ў плячах' (Нар. Гом.). Укр. *плече́* 'плячо', 'шула'; рус. *плечо*, дыял. *плеча́* 'плячо', 'пярэдняя чвэрць тушы барана, цяляці'; *пле́чко* 'частка рукі ад пляча да локця', стараж.-рус. *плече*; польск. *plec*, *plecy* 'спіна', 'спінка ў вопратцы', *plece* 'лапатка'; палаб. *plicĕ;* н.-луж. *placo* 'шынка', 'сцягняк', в.-луж. *pleco* 'тс', чэш. *plec*, *plece*, мар. дыял. *pl'eco*, славац. *plece* 'плячо', славен. *pléče*, серб.-харв. *пле̏ће*, макед. *плеќи*, балг. *плещи́, пле́щи*, ст.-слав. плеште 'плячо', плешти 'спіна', перан. 'крылы'. Прасл. **plet'e* (Бязлай, 3, 52; Махэк$_2$, 457), **pletje* (Банькоўскі, 2, 602; БЕР, 5, 351; Борысь, Czak. stud., 64); калі ж улічыць рус. *плёко* 'плячо', *белоплёкий* 'белакрылы', *подоплёка* 'падкладка', зыходнай формай можна было б лічыць **plektį-* і параўноўваць з лат. *plęcs* 'плячо', літ. *plókščias* 'плоскі', ст.-грэч. πλάξ, Р. скл. πλακός 'горная раўніна', ст.-ісл. *flá* 'ўступ стромай скалы', лац. *placidus* 'роўны' (Фасмер, 3, 281), а таксама з ірл. *leithe* 'лапатка', літ. *plė̃sti* 'рассцілаць', *platùs* 'шырокі'. Гл. таксама Міклашыч (250), Фрэнкель (581 і 606), Траўтман (225), Голуб-Копечны (227).

**Плячу́к** 'плячо, плечавы сустаў' (чэрв., мін., лях., Сл. ПЗБ). Пераафармленае пад уплывам прадуктыўнага на балтыйска-славянскім памежжы суфікса *-чук-* зыходнае *плячо* (гл.) або *плячáк* 'плечавы сустаў; пройма рукава' (Сл. ПЗБ), магчыма, у выніку выцяснення формы н. р., адсутнай у балтыйскіх мовах.

**Плячы́ца**, *плечыца* 'сустаў у плячы' (ТС), 'месца стыку пярэдняй і задняй частак вопраткі' (Сцяшк. МГ). У выніку кантамінацыі лексем *плячо* і *ключыца*. Аналагічна ўкр. *плечи́ці* 'плечы'.

**Пля́ша**, *пля́шка*, *пле́шка*, *пля́жка, пля́ўшка*, 'шкляная пасудзіна, бутэлька', 'паходная бутэлька, фляшка', *пляшачка*, *пле́шэчка*, 'бутэлечка для лекаў' (ТСБМ, Нас., Дразд., Сцяшк. Сл., Мік., Мядзв., Шпіл., Гарэц., Бір., Федар. 6, Чуд., Мал., Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк., Растарг., Ян.; мін., КЭС; драг., Сл. Брэс.; ЛА, 5; Мат. Гом.; ТС); 'шкло ад лямпы' (Ян.), 'шкляная ці гліняная пасудзіна, у якой захоўваліся алей і інш. вадкія рэчывы' (палес., З нар. сл.), 'паўлітровая бутэлька' (Сцяшк. МГ). Ст.-бел. *пляша*, *фляша*, *фляжка*, *хвляша* 'пляшка, бутэлька' (1538 г.) запазычаны са ст.-польск. *flasza* 'тс', якое з с.-в.-ням. *vlasche*, ст.-в.-ням.

*flasca*, сучаснае ням. *Flasche* (Булыка, Лекс. запазыч., 1102; Фасмер, 4, 200), што выводзяць з ням. *flechten* 'плесці', на думку Банькоўскага (1, 374), неправдападобна. Параўн. таксама *пляга*$_6$ (гл.).

**Пляшко́** 'патоўшчаная частка зуба ў драўляных граблях' (брасл., Сл. ПЗБ). Да *плешка* (гл.). Параўн. таксама польск. *pleszka* 'галоўка цвіка ці шрубы', *plesznik* 'від цвіка'.

**Пля́шніца** 'жанчына лёгкіх паводзінаў' (Скарбы). Магчыма, звязана паходжаннем з *плю́ха*$_4$ (гл.) або з *пля́ша, пля́шка* (гл.), г. зн. 'аматарка выпіць'.

**Пляшня́** 'прылада ў выглядзе рычага для даставання з зямлі вялікіх камянёў' (Скарбы). Відаць, з $^+$*плячня́* < *плёчны, плячны́* < *плячо* (гл.), параўн. *плячо каромысла*.

**Пляшча́к** 'абчасанае з двух бакоў бервяно' (ашм., Сл. рэг. лекс.). З *плашчак*$_1$ (гл.). Мяккае *-л'-* — рэгіянальная палаталізацыя, уласцівая і польскай мове, параўн. ст.-польск. *plaskaty* 'плоскі', *plask* 'далонь' — польск. *płaskaty* і да т. п.

**Пляшы́ць** 'накрываць страху на стыку' (Сцяц.). Адназоўнікавы дзеяслоў, да *плеш* (гл.).

**Пнаць** 'ісці' (арго), укр. *пна́ти*, рус. *пнать*, польск. *pnajać* 'ісці', *pnajka*, *knajka* 'нага'. З грэч. πνέω 'дуць', 'веяць' (Бандалетаў, Этимология—1980, 70).

**Пнéвішча**, *пнéўе*, *пні́шча*, *пёння*, *пéнішча*, *пнéшча*, ст.-бел. *пнеўшчыны* 'месца, пакрытае пнямі, якое засталося ад ссечанага лесу; выкарчаваны лес' (ТСБМ; Нас.; Сцяшк. МГ; Яўс.; люб., Сл., ПЗБ; Яшк.; Булахаў, Працы, 8). Да *пень* (гл.).

**Пнець** 'гібець, карчэць' (ТС). Паланізм. Параўн. польск. *pnieć* 'вісець, быць падвешаным, распятым', якое з чэш. *pnĕti, pníti* 'быць распятым' (Варш. сл., 4, 274; Махэк$_2$, 464), што да зыходнага **pęti*, **pьne-* 'прыбіць, прыкаваць' (Банькоўскі, 3, 636), параўн. *распя́ць* (гл.).

**Пні**, *пнéўе, пню́хі, пнушкі, пнюшкі* 'адросткі пер'яў пасля ліанькі' (круп., Нар. сл.; в.-дзв., Сл. ПЗБ; Юрч. СНЛ; ЛА, 1). У выніку семантычнага пераносу з *пень* 'пень' (гл.).

**Пні́ва** 'месца, якое займае пень' (Нас.). Да *пень* (гл.).

**Пнічо́к** 'шпянёк ніжняга каменя, на які ўздзяецца паўпрыца (жалезная планачка) у верхнім камені' (чэрв., ЛА, 4). З $^+$*пнячок* < $^+$*пняк* < *пень* (гл.).

**Пну́цца** 'напружвацца, натужвацца, пяцца', 'лезці, праціскацца праз натоўп наперад' (Гарэц., Шат., Касп., Сцяшк. МГ, ТС, Растарг., Стан.), 'сердаваць, злавацца' (Ян.), *пнуць* 'перці, напіраць' (Растарг.), 'штурхнуць, піхнуць' (Ян., ТС). Укр. *пнутися* (< *п'ясти*) 'нацягваць', рус. *пнуть*, *пинать* 'даваць выспятка, штурхаць, удараць нагою', старaж.-рус. *пяти*, *пнути* 'штурхануць', польск. *piąć (się)* 'звязваць', 'караскацца ўверх, лезці', 'віцца (аб раслінах)', 'рушыць, накіравацца', н.-луж. *pěś*, в.-луж. *pjeć* 'нацягваць, напружваць', 'злучаць', чэш. *pnouti se* 'ўзвышацца', 'віцца, паўзці', славац. *pnút'sa* 'тс', славен. *pę́ti* 'цягнуць', 'імкнуцца', *pę́ti se* 'ўзыходзіць, паднімацца', серб.-харв. *пе́ти се* 'паднімацца, лезці ўверх, узыходзіць (на гару)', макед. *напне се* 'нацягнуцца', 'напружыцца', 'націснуць, наваліцца', балг. *пъ́на* 'нацягваю', *напъ́на се* 'напружыцца', ст.-слав. съ-пинати 'звязваць'. Прасл. **pęti (sę), pьnǫti*, роднасныя літ. *pìnti* 'плясці', лат. *pît* 'заплятаць', 'путаць (каня)', літ. *pynẽ* 'каса (валасоў)', арм. *hanum* 'тку, сшываю', ст.-грэч. πένομαι '(цяжка) працую', гоц. *spinnan* 'прасці', нова-в.-ням. *spinnen*, *spannen* 'нацягваць', 'напружвацца', тахар. А *pänw-*, В *pänn-* 'цягнуць', 'напружваць' (Фасмер, 3, 292; Махэк$_2$, 464—465; Бязлай — Сной, 3, 31).

**Пнюшок** (пам.-ласк.) 'пянёк' (Яўс.; кліч., Жыв. сл.), з *пнюх*, якое з *пень* (гл.), параўн. *пянчук*.

**По́-** прыстаўка для абазначэння розных прасторавых, часавых і іншых адносінаў. Надае значэнні: назоўнікам — 'прадмет, падобны да таго, што названа ўтваральным словам, але не з'яўляецца ім у поўнай меры': *по́гуд* 'невыразны гул' (Сцяшк. Сл.), *по́кут* 'покуць', *по́кліть* 'свіран, клець' (Тарн.); прыметнікам і прыслоўям — 'некаторае ўзмацненне якасці' ці 'прысутнасць яе ў малой меры': *по́даўна* 'даволі даўно, даўнавата' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. ПЗБ, ТС), *по́дыўна* 'тс' (Бяльк.), *по́даўка*, *по́цесна* 'цеснавата', *по́вісокі* 'высакаваты', *по́малы* 'малаваты', *по́цемна* 'цемнавата', *по́весел* 'пад чаркай' (Нас.), *по́велікі* 'велікаваты' (ТС). Паводле Цвяткова, *по-* ў апошніх формах генетычна суадносіцца з паказчыкам вышэйшай ступені параўнання ў балгарскай мове: *по-висок* 'вышэйшы' (Цвяткоў, Запіскі, 51); а таксама ў македонскай мове: *помлад* 'маладзейшы'. У тым жа значэнні вядома большасць славянскіх моў: укр. *по́широкий* 'трохі шы-

рэйшы', *по́твердий* 'цвердаваты', польск. *pobielawy* 'белаваты', чэш. *posilný* 'даволі моцны, трохі мацнейшы', в.-луж. *počorni* 'чарнаваты', н.-луж. *pocarny* 'тс', славен. *počrn* 'тс', серб.-харв. *подобар* 'даволі добры'; гэта дазваляе рэканструяваць праслав. **po-* з адпаведным значэннем, параўн. лат. *padargs* 'задарагі, дарагаваты', што выводзіцца са значэння 'пасля, за' адпаведнага прыназоўніка (ESSJ, 1, 189; БЕР, 5, 395; Скок, 2, 692—693; ESJSt, 11, 667), гл. *па$_1$, па$_2$*.

**По́бак** 'побач' (Шат.; шальч., Сл. ПЗБ), *по́бок* 'паўзбок' (ТС). Укр. *по́бік*, разм. *обок*, польск. *obok*, *pobok* 'побач'. Ад **po boku* 'пры боку' (гл. *бок*), параўн. *поза́ду* 'ззаду' (ТС), польск. *pozad* 'тс' (Банькоўскі, 2, 643), рус. *по́задь* 'ззаду' 'тс'.

**По́бацень** 'планка, якая ідзе ад загнутага канца полаза ў санях да першага капыла' (Маслен.), *по́буцень* 'тс' (ТС). Да *бок* (гл.); у названых формах можна бачыць захаванне архаічнага чаргавання *к > ц*: *по боце*, параўн. *на том боцѣ* (XVII ст.), *при боцехъ* (Сл. Скар.) і пад. (адносна гэтай з'явы гл. Карскі, 1, 366), гл. таксама *по́буцье* 'тс̌' (ТС), або цоканне (пераход *ч* у *ц*), як у *валацня* (гл.) ад *валачыць*. Далей *ц* магло быць успрынята як першаснае і пры змене пазіцыі перайсці ў *т*: *поботня* (< **побоцня*) 'бакавая вяроўка ва ўвязаным возе сена' (ТС), не выключана, пад уплывам іншых лексем, напрыклад, *пле́це́нь* 'галлё, якім заплятаюць пляцень' — *плетня* 'тс' (ТС). Параўн. *пабочына* (гл.); суфіксацыя на *-ень* характэрна для назваў частак саней, воза і пад., параўн. *по́перадзень* 'вяз, якім замацоўваюцца галоўкі саней', *па́маразень* 'брусок на капылах саней' (Сл. ПЗБ).

***По́баўка**, *по́боўка* 'прыказка' (пін., Сл. ПЗБ). Форма з неарганічным оканнем у другім складзе, магчыма, з *по-баўка* ад *бава* 'гутарка' (Байк. і Некр.), 'доўгая гутарка' (Бяльк.), 'забава, пацеха' (Сцяшк. Сл.), параўн. рус. *бава* 'дастатак', 'забава' < прасл. дыял. **bava*, што суадносіцца з **baviti* (гл. *бавіць*), якое, у сваю чаргу, разглядаецца як каўзатыў ад **byti* (ЭССЯ, 1, 168). Брукнер (18) выводзіць **bawa* ад *być*, як *sława* ад *słyć*. Параўн. *по́казка* (гл.).

**По́бач** 'побач' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Сл. ПЗБ), 'побач, збоку' (Касп.). Укр. *по́біч* 'побач'. Да прасл. **pobočьnъ(jь) > пабочны* 'неасноўны, дадатковы', *бачны* 'бакавы' (Крыўко, вусн. паведамл.), рус. *побо́чень* 'перакідная сумка', гл. *бок*. Словаўтваральная мадэль, як у *поруч* (гл.), *поплеч* (гл.).

**Пóбачні** 'бакавая частка воза' (раг., Сл. ПЗБ). Гл. папярэдняе слова.

**Пóбыт**$_1$ 'быт' (ТСБМ). Укр. *пóбут, пóбит* 'тс', рус. *пóбыт* 'звычка'. Ад **po-* і **bytъ*. Развіццё семантыкі: 'быццё, знаходжанне' > 'агульны ўклад і ўмовы існавання, быцця'. Паводле Булахава (Развіццё, 43), запазычана з украінскай. Да *быт, быць* (гл.).

**Пóбыт**$_2$ 'знаходжанне' (ТСБМ). Ст.-укр. *побытъ* 'быццё', польск., в.-луж., чэш., славац. *pobyt* 'знаходжанне'. Ад *po-* і **bytъ*, якое ад **byti* (ЭССЯ, 3, 155). Да *быт, быць* (гл.).

**Пóвад**$_1$ 'прывязаная да аброці вяроўка або рэмень, на якіх водзяць каня (цяля, карову)' (ТСБМ, Янк. 1, Янк. Мат., Шат., Касп., Маслен., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *пóвыд* (Бяльк.) 'тс'; 'сцябло гарбуза' (Мат. Гом.), *пóвод* 'тс' (Шатал., ТС), *пóвад* 'гульня: гульцы становяцца ў лінію, бяруцца за рукі, утвараючы "повад" (ЭБ), ст.-бел. *поводъ* 'кіраванне' (1596). Укр. *пóвід*, рус. *пóвод*, польск. *powód*, серб.-харв. *пóвод* 'повад'. Прасл. **povodъ* ад **povoditi*, параўн. *повóдить* 'кіраваць валамі ў вупражы' (Маслен.) < **po-* і **voditi*, ст.-бел. *водца* 'вуздэчка', чэш. *vodítko* 'аброжак, павадок'. Гл. *вадзіць, весці*.

**Пóвад**$_2$ 'парода (жывёлы)' (Касп.). Ст.-укр. *поводъ* 'пачатак, паходжанне', рус. *пáвод* 'парода', чэш. *původ* 'паходжанне', славац. *pôvod* 'тс', параўн. яшчэ *вывадак,* рус. *завóд* (гл.) 'гаспадарка па развядзенні жывёлы'. Да *повад*$_1$ (гл.).

**Пóвад**$_3$ 'прычына, падстава' (ТСБМ). Ст.-бел. *поводъ* 'падстава' (1423). Да *повад*$_1$ (гл.); што да семантыкі, параўн. англ. *breed* 'парода' > 'быць прычынай чаго, выклікаць што'. З іншай прэфіксацыяй параўн. *прывад (прівод)* 'слушнасць, дарэчнасць' (Нар. лекс.), гл.

**Пóвадзь** (*пóваць)* 'разводдзе, паводка' (астрав., воран., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *поводь* 'тс' (Сл. Скар.). Укр. *пóвідь*, рус. *пóводь* 'паводка', польск. *powódź* 'тс', чэш., славац. *povodeň* 'тс', славац. *povodie* 'басейн ракі'. Ад **po-* і **vodь* 'водная прастора, шмат вады' — бязафікснае ўтварэнне са значэннем зборнасці ад *вада* (гл.), параўн. *бáгаць* 'мноства' (ТС) ад *багацце*. Банькоўскі (2, 738) узводзіць да *powodzić* 'весці', што сумнеўна з пункту погляду семантыкі. Сюды ж *пóвадзь (пóваць)* 'многа' (астрав., воран., Сл. ПЗБ), параўн. укр. *пóвідь* 'паводка', перан. 'безліч', польск. *powódź* 'тс'. Перанос паводле падабенства: 'вялікая колькасць

вады' > 'вялікая колькасць чаго-небудзь'. Параўн. яшчэ семантыку ст.-грэч. πέλαγος 'мора', перан. 'акіян (вялікая колькасць), бязмежнасць'.

**По́вадыр** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, камент., 809). Хутчэй за ўсё, дэфармаванае *ко́вадыр* (ДАБМ, к. 243), *ко́ведар* 'тс' (гл.) < *ко́варат* (гл.) пад уплывам *по́чап* 'тс' (гл.).

**По́ваз** 'воз' (Федар. 6). Ст.-бел. *повозъ* 'павозка' (1645), 'павіннасць па перавозцы грузаў' (1495). Укр. *по́віз* 'павозка; экіпаж', ст.-укр. *повозъ* 'павіннасць дастаўляць даніну ў двор феадала', чэш., славац. *povoz* 'павозка', польск. *powóz* 'тс', 'павіннасць дастаўляць падводы ў панскі ці каралеўскі двор'. Ад **po-* і **voziti* > *вазіць* (гл.).

**По́валак** 'след пахучай прынады, пракладзены з мэтай прывабіць звера' (гродз., Жыв. НС). Бязафіксная ўтварэнне ад *павалакці* < *валакці* (гл.): *...курыцу ці якую пташку ... цягнуў на вяроўцы па сьнезі, рабіў повалак. Потум на гэтум повалаку расстаўлёў петлі ці пасткі* (тамсама); параўн. *по́валакам* 'поцягам, волакам' (Жыв. сл.).

**По́вала̑ч** 'пацяганы, зблытаны лён ці інш.' (Нар. сл.). Ад *павалачы* 'пацягнуць' (Касп.) < *валачы* (гл.).

**По́вань** 'разводдзе; паводка' (віл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *поводня* 'тс' (XVII ст.). Укр. *повінь* 'тс', ст.-рус. *повонь* 'тс', ст.-слав. *поводнѣніе. Магчыма, сцягнутая форма **поводнь* ад *по* і *вада* (Фасмер, 3, 294); так ужо ст.-рус.: *повони же при Нои*, што ва ўкр. *повінь* прыраўняна да ўтварэнняў з суф. *-інь* < *ень* (Німчук, Давньорус., 157).

**По́вар** 'кухар' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *по́варка* 'кухарка' (Нас.), ст.-бел. *поварь* 'кухар' (Сл. Скар.). Укр. *по́вар*, рус. *повар* 'тс', 'той, хто падае пачастунак удзельнікам вясельнага паязду', *пова́рнік* 'кухар', польск. *powar* 'тс'. Ад *по-* і *варыць* (гл.).

**По́вецер** 'нячысцік у выглядзе дзіка' (ТС), *паве́трыкі* 'нячысцікі' (Нік., Няч.). Табуізаваная назва, да *вецер* (гл.). Няясная дэталізацыя (чаму дзік?), параўн. славац. дыял. *povetrica* 'віхура, моцны вецер'. Семантыка 'вецер' > 'нячысцік' таксама ў нова-в.-ням. *Schrat(t)* 'лесавік', дыял. 'віхура; д'ябал' (Дукава, Этимология—1982, 62). Параўн. яшчэ *верцень* 'вецер; нячыстая сіла' (гл.).

**По́вірак** 'невялікі моцны кол, на якім двое нясуць якую-небудзь ношу' (Мядзв.), *по́верка* 'тс' (Нас., Жыв. НС); польск. *powerek*,

дыял. *powyrek* 'тс', 'каромысел', чэш. *povĕrek* 'кій насіць цэбар', дыял. *povĕrak* 'загнуты жалезны шворань для рэгуляцыі глыбіні арання', ст.-чэш. *povyrek* 'насіла', славен. *povêrek* 'каромысел'; з іншай суфіксацыяй балг. *повúрица* 'кол, пры дапамозе якога носяць судзіну, поўную вадкасці', 'спосаб нашэння цяжкага грузу на кіі'. Праслав. **povirъkъ, *povĕrъk* < **povirъ, *povĕr*, утвораны ад варыянтных ітэратываў **virati/ *-vĕrati* 'прасоўваць, закладваць' (Варбат, ОЛА, Исследов., 1972, 228—230), гл. *напóверку*. Дзеясловы ў славянскіх мовах звычайна ў прэфіксальных формах, параўн. балг. *провúрам* 'прасоўваць', серб. дыял. *сповúрам* 'адсоўвацца, соўгацца, валачы', *повúра се* 'совацца сюды-туды' і інш. (Влаіч-Попавіч, HJ, 33, 112—117), польск. *poniewierać się* 'дрэнна адносіцца да каго-небудзь; мець непрыемнасці; совацца, бадзяцца; прападаць' (Борысь, JP, 71, 22), што, ўрэшце, узыходзяць да **verti, *vьrǫ* (Махэк$_2$, 477; Бязлай, 3, 98; БЕР, 5, 405; Трубачоў, ЭССЯ, 21, 196; Скок, 3, 627—628), параўн. рус. *вирáть* 'піхаць', балг. *вра* 'засоўваць'. Гл. *аўраць*, *вор$_2$*, *ворык*.

**Пóвязь** 'сувязь' (ТСБМ). Да *вязаць*, параўн. *сувязь* (гл.). Сюды ж *powiezi* 'падоўжныя жэрдкі, што кладуцца наверх плыта' (барыс., JP, 54, 1—2, 29), паводле Бяднарчука (тамсама), па фанетычных прычынах (*e* < *ę* на месцы чакаемага *ja* запазычана з арх. польск. *powięź* 'звязка, пута', што неабавязкова, параўн. пераход *я* > *е* ў паслянаціскной пазіцыі (*зáец, пóес*) у некаторых беларускіх гаворках.

**Пóвяс**, *пóвес* 'пояс; спавівач' (Федар., Сл. ПЗБ). Да *пояс* (гл.); паводле Карскага (1, 303), замена *j* > *в* мае нефанетычны характар і, відаць, не звязана з уплывам *вязаць*. Параўн., аднак, *пóвяска* 'тонкая жардзінка, з дапамогай якой прымацоўваецца да страхі рад саломы' (Жыв. сл.) < *пóвязка*, гл. *повязь*.

**Пóгань** 'гадасць' (Касп.). Укр. *пóгань* 'гнюс'. Бязафікснае ўтварэнне ад *погáны* (гл.).

**Пóгеладзь** 'імжа' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, можна суаднесці з *óжолыдь* (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), укр. *ожеледиця* 'галалёдзіца', рус. *ожеледь* 'тс', 'наледзь на дрэвах', *гледзь*, *глюдь* 'галалёдзіца', *поглёздка* 'галалёдзіца; коўзанне па лёдзе' (гл. *гладкі*). Мог адбыцца перанос значэння з выніку на прычыну: наледзь на дрэвах ці галалёдзіца часта з'яўляюцца пасля адлігі з імжой.

**По́граб₁** ‘яма з крытым верхам і сценамі з бярвенняў; склеп’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Нас., Янк. Мат.), ‘яма’, ‘курган’ (Сцяшк. Сл.), *по́гріб*, *по́грыб*, *по́граб* ‘тс’ (Бяльк.), *по́гбар*, *по́ргаб* ‘пограб’ (Мат. Гом.). Ад *грэбці* ‘капаць’, *грэбаць* (гл.), параўн. рус. *по́ко́п* ‘пограб’ ад *копа́ть*.

**По́граб₂** ‘хаўтуры’, ‘пахаванне’ (Нас.; воран., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *погребъ* ‘тс’ (1481). Польск. *pogrzeb*, в.-луж. *pohrjeb*, чэш. *pohřeb*, славац. *pohreb*, славен. *pogrèb* ‘тс’. Архаізм, параўн. зыходнае ст.-бел. *погребати* ‘хаваць; закопваць нябожчыка ў зямлю’ (1489) < *гребти* ‘тс’, параўн. *загрэбці: умёр чоловек, повезлі на могліца і загрэблі* (ТС), *грабкі́* ‘хаўтуры’ (ЛА). Параўн. яшчэ славен. *pokòp* ‘пахаванне’ ад *pokopáti* ‘пахаваць’ > *kopáti* ‘капаць’. Гл. *грэбці* ‘капаць’, *грэбаць*.

**По́д-** — прыстаўка, якая надае назоўніку значэнне знаходжання ніжэй ці паблізу прадмета, выражанага ў каранёвай частцы: *по́дклець* ‘прастора пад клеццю’; няпоўнага падабенства да прадмета, больш нізкай вартасці ў параўнанні з ім: *по́дтрус* ‘трусяня, малы трусік’ (Ян.), *по́дмур* ‘невялікая прыбудова да хлява’ (Шушк.); *по́дверасак* ‘разнавіднасць верасу’ (Сл. ПЗБ), *пад’язік* ‘невялікі язь’ (З нар. сл.); аддзеяслоўныя назоўнікі набываюць значэнні накіраванасці дзеяння, паўторнага, дадатковага або няпоўнага дзеяння, характэрнага для адпаведных дзеясловаў: *по́дмазка* ‘кавалачак сала, здору, каб падмазваць патэльню’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Сл. Брэс., ТС), *по́дбіўка* ‘абшыўка знізу сукенак, спадніц’ (Шат., Бяльк.), ‘падкладка’ (Ян.), *по́двіўка* ‘тс’ (Мат. Гом.). Да *пад* (гл.).

**Под** ‘гарызантальная паверхня ўнутры печы, на якую кладзецца паліва’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Гарэц., ТС, Шат., Касп., Сл. ПЗБ), *по́дак* ‘падэшва гары’ (Гарэц.), *пэд* ‘дашчаная шуфляда ў жорнах, на якой ляжыць ніжні камень’ (лун., Шатал.), ‘месца ў гумне для складання снапоў, саломы’ (Янк. 2; петрык., Шатал), ‘скрынка жорнаў’ (Выг., Тарн., Дразд., Касп., Сл. ПЗБ), ‘ніжняя частка вулея’ (Сержп. Бортн.; Сл. ПЗБ), *по́дка* ‘ніз, под у вуллі’, *по́дзік* ‘памост для вулля на дрэве’ (ТС), *по́дзіне*, *по́дзішча* ‘подсцілка пад стог’ (Сцяшк. Сл.), *по́днік* ‘ніжні камень у жорнах (Сл. ПЗБ). Укр. *під* ‘нізкае месца; дно’, рус. *под* ‘ніжняя паверхня ў печы’, ‘падлога; дно; ніз’, польск. *spód* ‘ніз’, н.-луж. *spódk* ‘глеба; дно’, в.-луж. *póda* ‘тс’, чэш. *půda* ‘зямля, глеба, грунт’,

славац. *pôda* 'зямля, глеба; тэрыторыя', славен. *pod* 'падлога', серб.-харв. *пȍд* 'тс', балг. *под* 'тс', ст.-сл. подъ 'ніз'. Прасл. **podъ*. Роднасн. літ. *pãdas* 'падэшва; гумно; под', лат. *pads* 'падлога', ст.-інд. *padá-m* 'крок, след нагі; месца' (Фасмер, 3, 295—296).

**По́дан** 'столь' (беласт., Жыв. НС). Хутчэй за ўсё, да *под* (гл.), параўн. чэш. *půda* 'столь', балг. *под* 'тс', серб.-харв. *под* 'тс'; суфіксацыя няясная, магчыма, выражае значэнне падабенства (Сцяцко, Афікс. наз., 147). Параўн., аднак, балг. *по́тон* 'столь', якое Младэнаў (498) звязвае з **tęti* 'цяць, рэзаць', што ставіцца пад сумненне, паколькі балгарскае слова лічыцца запазычаннем з навагрэч. πάτωμα, вытворнага ад πατώνω 'насцілаць падлогу' (БЕР, 5, 557).

**По́даць** 'падушны падатак', 'даніна' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), 'падатак' (Бяльк.), *по́дыць* 'тс' (Бяльк.), *по́дач* 'падатак' (Мат. Гом., ТС). Гл. *падатак*.

**По́дбічка** 'абручык з ільнянай кудзелі, частка галаўнога ўбору' (Сл. ПЗБ). Гл. *падвічка* 'тс'. Гук *б* замест *в* — вынік асіміляцыі, або па аналогіі з *по́дбіўка* 'падкладка' (Янк. Мат., Сл. ПЗБ). Параўн. яшчэ рус. *побойник* замест *повойник* 'намітка' (Даль).

**По́двалкі** 'тонкія жэрдкі наверсе плыта' (барыс., ЯР, 54, 1—2, 29). Паводле Бяднарчука (тамсама), ад *падвалі́ць* 'падкласці', гл. *падва́л, падваліна* 'падруба'.

**По́дверць** 'падгерац' (смарг., Сл. ПЗБ). Народная этымалагізацыя запазычанага слова *падгерац (падгэрц)* 'жалезны прэнт у возе': *-герц* > *-верць*, не выключана, што пад уплывам *по́верка* 'моцны кол для пераноскі грузаў' (гл.). Гл. яшчэ *падгерац, подгур*.

**По́дгур** 'доўгая драўляная плашка, якая злучае пярэднюю і заднюю частку воза' (Сцяшк. Сл.), 'падгерац' (шчуч., Сл. ПЗБ). Сцягнутая форма ад *падгерац* (гл.) 'жалезны прэнт, які злучае шворан з трайнёю калёс' (параўн. рус. *подтро́йник* 'тс'), а таксама *падгерц* 'тс' (Стан.). Магчыма, утворана на базе ням. *Herzes* 'стрыжань'. Такім чынам, *пад-герац* 'тое, што трымае асноўны стрыжань (у дадзеным выпадку шворан)'. Параўн. літ. *šerdẽsas* 'шворан' ад *šerdìs* 'стрыжань'. З пункту погляду семантыкі параўн. *падпалак*$_2$.

**По́дзвіг**$_1$ 'геранчны ўчынак; важнае дзеянне' (ТСБМ). Бел. слова запазыч. з ц.-слав.; параўн.: *май месец пройшоў у холодном подвігу* (ТС), што можна растлумачыць як "у змаганні з хола-

дам”. Значэнне “барацьба, змаганне” ў гэтым кантэксце блізкае да значэння ст.-слав. подвигъ. Можна дапусціць, што ў тураўскай гаворцы яно захавалася з часоў непасрэднага ўплыву кірыламефодзіеўскай традыцыі (Цыхун, Зб. Талстому, 423). Укр. *по́двиг* ‘подзвіг’, рус. *по́двиг*, славен. *podvíg*, серб.-харв. *по̏двӣг*, балг. *подвиг* ‘тс’. Паводле Станкевіча (Зб. тв., 1, 527), у гэтым значэнні — русізм. Гл. наступнае слова.

**По́дзвіг$_2$** ‘зрух у рабоце’ (мядз., Нар. словатв.), *по́двіх* ‘лямеш у плузе’ (ДАБМ, камент., 827). Рус. *по́двиг* ‘рух; ход, развіццё (справы, падзеяў)’, *подвиг* ‘рух’. Прасл. **podvigъ* ад **dvig(a)ti* ‘падымаць, перамяшчаць’, якое выводзяць ад **dvigъ* або **d(ъ)vigъ* ‘развіліна, раздвоены сук, які служыў сродкам падымання ці перамяшчэння’, роднасны ням. *Zweig* ‘галіна’ (Трубачоў, ЭССЯ, 5, 168). Але Мартынаў (Зб. Крапіве, 211—212) мяркуе, што ўсх.-палес. *pódwih* ‘дубовая галінка для ўмацавання правай паліцы сахі’ выводзіцца з **pod-vig*, дзе другая частка слова звязана з серб.-харв. *вигови* ‘сіло, пута’, *виг* ‘пастка’, што, магчыма, сведчыць пра аманімію формаў.

**По́дэсь** ‘прасніца’ (Бес.), *по́дюс* ‘тс’ (кам., Жыв. НС). Гл. *потась*.

**По́д’ездзень** ‘ліслівец’, ‘той, хто ўмешваецца не ў сваю справу’ (Нас.). Конфіксальнае ўтварэнне з экспрэсіяй непахвальнасці ад *ездзіць* (гл.), прыстаўка *под-* тут мае значэнне набліжэння з напрамкам знізу ўверх. Распаўсюджаны тып словаўтварэння для абазначэння лісліўца або сапраўды прыхільнага чалавека, хітрых паводзінаў: *пад-/под-* + дзеясловў руху, параўн. *пад’ехаць* ‘паддобрыцца да каго-небудзь’ (Нас., Юрч. Вытв.) < *ехаць*; *падбегі* ‘хітрае абыходжанне’ (Байк. і Некр.) < *бегаць*; *падходлівы* ‘тавáрыскі’ (ЛА, 3) < *хадзіць*; *падла́знік* ‘падыходлівы чалавек’ (Юрч. СНЛ) < *лазіць*; параўн. яшчэ рус. *подкатиться* ‘падлізацца’ < *катиться*.

**По́дзякала** ‘ануча для гаршкоў’ (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да літ. *padėklas* ‘падстаўка, падкладка’.

**По́дкіпень** ‘памылка пры снаванні красён’ (Ян.). Можа, фанетычна зменена *по́дкідень* ‘памылка ў ткацтве’ (Уладз.), ад *падкідаць, падкінуць* (гл.).

**По́дкур** ‘памост на дрэве, на які ставяцца вуллі для пчол’ (Некр.; Мат.; Сл. ПЗБ), ‘драўляны памост вакол бортнага дрэва,

што ахоўваў борць ад мядзведзяў' (ЭБ), 'дымар' (ЛА, 1). Рус. *подку́р* 'памост, пад якім раскладаецца дымнае вогнішча', *пад-курыць* 'пусціць дым, каб выгнаць пчол' (Сл. ПЗБ): перш чым забірацца на памост з вуллямі, пад ім раскладалі дымнае вогнішча, каб адагнаць пчол. Да *курыць* (гл.).

**По́длабка** 'планка, якая прыбіваецца пад з'езджаны полаз у санях'(Мат. Гом.), *по́длапка* 'тс' (Сцяц.). Відаць, таго ж паходжання, што і *падлу́бак* 'планка на полаз', каранёвая частка якіх выступае таксама ў *на́далабка* 'вузкая планка, што набіваецца на капылы паверх вязоў', *на́дулубкі* 'вязок ў санях', *на́дубень* 'намаразень', што ідэнтыфікуецца з *-dъlb-*, гл. *даўбаць* 'дзяўбаць, рабіць выемку' (Цыхун, SOr, 39, 281), параўн. таксама *надаўб, на́длапкі.* Сцяцко выводзіць *по́длапка* ад *падлапіць* 'даць латку' (Сцяцко, СНЛ, 183). Хутчэй за ўсё — народнаэтымалагічнае асэнсаванне, гл. *лапіць.*

**По́дле₁** 'каля; побач' (Нас., Бяльк.); ст.-бел. *по́дле* 'каля, пры; з, за, блізка да', падрабязна пра семантыку і ўжыванне гл. Булахаў, Веснік БДУ, 1973, 61; Груца, БЛ, 10, 64—70. Укр., рус. *по́дле* 'каля; побач', польск. *podle* 'тс', чэш. *podle* 'побач, уздоўж', н.-луж. *pódla* 'каля, побач' (пры *pódlan* 'сусед'), в.-луж. *pódla* 'тс'. З прасл. **podьlja* або * *podьlě* < **dьlja* 'даўжыня', параўн. польск. *podług* 'паводле' ад *długi* 'доўгі' (Фасмер, 3, 297; Копечны, ESSJ, 1, 192).

**По́дле₂,** *подлі* 'паводле; мяркуючы па' (Нас., Бяльк.); ст.-бел. *подле* 'па, згодна з, адпаведна з, на падставе чаго-небудзь; у залежнасці ад', чэш. *podle* 'тс', славац. *podľa* 'па, паводле'. Звычайна разглядаецца як далейшае развіццё семантыкі ад *подле* 'каля, побач'. Параўн. яшчэ англ. *along* 'уздоўж, па' > 'паводле, згодна з' < *long* 'доўгі, працяглы'. Аднак, паводле Карскага (1, 352), *подля* (подлѥ, *подлѣ*) < **по для*, апошняе з *дзеля* (дѣлꙗ) 'для, дзеля' (гл. таксама Чарных, 2, 49), параўн. *того для* ў грамаце Вітаўта XV ст.: *того для церковь оскудела.*

**По́длетак** 'маладая птушка, якая толькі пачала вылятаць з гнязда', 'блазан, недарослы, дзіця' (ТСБМ, Некр., Янк. 1, Мат. Гом, ТС), *по́дляцень, подлётыш* 'птушаня' (Мат. Гом.), *падлятýха* 'дзяўчынка-падлетак' (Сл. рэг. лекс.). Ад *падлятаць* < *лятаць.* Першапачаткова 'птушаня, якое вучыцца лятаць', потым — 'хлопчык або дзяўчынка ў пераходным узросце'. Параўн. рус. *падлётух* 'тс', польск. *podlotek* 'тс'. Семантыка, несумненна, у

выніку ўзаемадзеяння блізкіх па форме *падлётак* 'птушаня, якое крыху лятае' (гл.) і *падлéтак* 'хлопчык або дзяўчынка ў пераходным узросце' (гл.), ад *лéта* 'год'.

**Пóдлуг** 'адпаведна, адносна' (Сл. ПЗБ), 'у параўнанні' (Сцяшк. Сл.). Ст.-бел. *подлугъ* 'паводле, згодна, у адпаведнасці з, на падставе чаго-небудзь' < ст.-польск. *podług* 'тс' (Карскі, 2—3, 81; Цвяткоў, Запіскі, 59; Кюнэ, Poln., 87; Булыка, Лекс. запазыч., 200).

**Пóдлы** 'нізкі ў маральных адносінах; несумленны' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'шкодны (пра дзіця)' (Сл. ПЗБ). Укр. *підлий*, рус. *подлый*, польск. *podły*, чэш., славац. *podlý*, славен. *podel*, серб.-харв. *пȍдао*, балг. *пóдъл* 'тс'. Паводле Станкевіча (Зб. тв., 1, 61), у беларускай мове "барбарызм" замест *нягодны*. Прасл. **podьlъ*, **podьlъjь* ад **podъ* (гл. *под*) і суф. *-ьl-*, як у **svět-ьl-ъ* (Чарных, 2, 49); першакрыніца ў польск. *podły* 'нізкі, подлы, дрэнны', 'убогі', дыял. і арх. 'дробны, нязначны', 'просты, грубы, простанародны' (параўн. рус. *подлый* 'халопскага паходжання; бедны'). Версія Шанскага і інш. (КЭСРЯ, 347) пра вытворнасць *podły* ад *podlec, podlegać* 'падпарадкоўвацца' (гл. *падлеглы*) неімаверная як фармальна, гэтак і семантычна. Паводле іншай распаўсюджанай версіі, польск. *podły* — другаснае ўтварэнне ад прыметніка *podlejszy* 'абы-які, збочны, нізкага гатунку', чэш. *podlejší* 'тс', вытворнага ад *podle*, але зразуметага як форма параўнальнай ступені (Махэк, 467; Банькоўскі, 2, 660); развіццё значэння 'які знаходзіцца побач, з краю' > 'другасны' > 'дрэнны', але гэтая версія пры ўсёй яе пераканаўчасці не вычэрпвае разнастайнасці гэтай лексічнай групы (гл. таксама Брукнер, 424; Праабражэнскі, 2, 87; БЕР, 5, 473). Шэраг лексем у славянскіх мовах (рус. *подлёнок* 'ніжняя галінка дрэва', *пóдлина* 'падкладка', чэш. *podlina*, серб.-харв. *pódla* 'падшыўка ў спадніцы') сведчаць пра паходжанне прасл. **podьlъjь* ад **podъ* 'ніз, аснова' (Варбат, Этимология—1994—1996, 283—286). Параўн., аднак, *пáдлы* (*пáдлый*) рус. 'падший' і 'нізкі ў маральным плане' (Нас.), што магло быць зыходным для *подлый*, дзе адбылася фанетычная і семантычная змена (пеяратывізацыя), і адкуль гэтая форма распаўсюдзілася ў іншых славянскіх мовах (Цыхун, Супр. чыт. III, 129). Вытворнае *пóдлость* 'подласць' (ТС), *пóдласць* 'тс' (Бяльк.).

**Пóдмасні** 'падмосткі' (Мат. Гом.). Ад **под-мост-ні* — **под-мост*. Гл. *памост*, *мост*, *масніца*.

**По́дмазка** ‘кавалачак сала ці здору для падмазвання патэльні’ (Сл. Брэс.; хойн., Шатал.). Да *пад-* і *мазаць* (гл.).

**По́днязь** ‘падсцілка’ (Мат. Гом.). Рус. *по́днесь* ‘ніжні вянец зрубу ў калодзежы’, *по́днизь* ‘махры з бісеру, якія завязваюцца пад хустку’. З **под-ніз* (гл. *ніз*), параўн. *нызь* (іншая назва *пудо́шва*) ‘ніжняя частка кавадла’ (драг., Жыв. сл.),

**По́дступ** ‘падыход’ (РБС), ‘каварства’ (Нас.). Ад *под-* і *ступаць* (гл.). Значэнне ‘каварства’ пад уплывам польск. *podstęp* ‘падман, хітрасць’. Гл. яшчэ *падступства*.

**По́езд** ‘цягнік’, ‘шэраг павозак’ (ТСБМ), ‘цягнік’ (вільн., Сл. ПЗБ), *по́язд* ‘цягнік’ (кам., Жыв. НС), ст.-бел. *поезд* ‘паездка, ад’езд’ (Сл. Скар.). Укр. *по́їзд* ‘цягнік; шэраг павозак’, рус. *по́езд* ‘тс’, польск. *pojazd* ‘транспартны сродак’, гл. *паязд*.

**По́жаг** ‘ражон’ (ТСБМ), ‘дзяржанне, чаранок’ (воран., LKK, 16, 186). Рус. *пожо́г* ‘качарэжнік’, ‘кол’, польск. (з бел.-літ. пагранічча) *pożoch* ‘тс’. Грынавяцкене і інш. (тамсама) лічаць запазычаннем з літ. *pãžagas* ‘качарэжнік’, у такім выглядзе зафіксаваным і на беларускай тэрыторыі: *пажагас* ‘тс’ (ЛА, 4); мяркуецца, што пра гэта сведчыць сувязь з *žãgas* ‘штабель дроў’, а таксама па фанетычных, марфалагічных і лінгвагеаграфічных прычынах. Сумнеўна, асабліва ў святле сінанімічнай формы *во́жаг* (гл.). Прасл. **požegъ*. Форма *пажага́ч* ‘прут’ (шчуч., Сл. ПЗБ) магла ўтварыцца пад уплывам літаратурнай формы або самастойна ад *пожаг* з экспрэсіўным суф. *-ач*.

**По́жарка** ‘трэшчына на лёдзе’ (Сл. Брэс.), *пожо́ра* ‘вада паверх лёду, верхаводка’ (ТС); параўн. *абжо́ра* ‘вада паверх лёду’ (ЛА, 2), рус. *обжо́р* ‘тс’, *зажо́ра* ‘палонка’, ‘яма’, *зажо́ры* ‘талая вада пад снегам, у ямах на дарозе і палях’, чэш. *požírka*, *požeradlo* ‘прадонне, глыбокае месца ў вадзе’. Узыходзіць да прасл. **žerdlo*/**žьrdlo* (гл. *жарало*), з якога ў некаторых дыялектах развілося значэнне ‘крыніца’: параўн. укр. бойк. *žereło* ‘крыніца’, польск. *źródło* ‘тс’ і пад. У якасці назвы балота гэтая аснова ў рус. *жорло́* ‘правал; багністае месца на балоце’ (Куркіна, Этимология—1967, 132). Са значэння ‘крыніца’, г. зн. ‘вада, якая выступае з-пад зямлі’, развілося значэнне ‘вада, якая выступае з-пад лёду ці снегу’. Параўн. яшчэ *нажор*.

**По́жня** ‘зжатае хлебнае поле’, ‘сенажаць’ (ТСБМ, Янк. Мат., Некр., Нас., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Сл. Брэс., Шатал., Выг., Сцяшк. Сл.,

ТС, Бяльк.), ‘іржэўнік — салома, скошаная на іржышчы’ (ТС), *пóжань*, *пóжня*, *пóжанька* ‘невялікі лужок сярод ворыва’ (Касп.), *пóжынька* ‘абложная зямля’ (ДАБМ, камент., 858). Укр. *пижня* ‘сенажацць’, рус. *пóжня*. Бязлай (Eseji, 140) далучае сюды тапонімы харв. *Požanj*, *Požnja*, што дазваляе рэканструяваць на славянскай тэрыторыі дзве арэальныя сельскагаспадарчыя падсістэмы: **požьnь*— **sěnožęťь* і **pokosъ* — **sěnokosъ*. Аддзеяслоўны наз. ад формы 1 ас. **žьnǫ*, *žęti* ‘жну, жаць’, гл. *жаць*.

**Пóза** ‘пастава, становішча цела’; няшчырыя паводзіны’ (ТСБМ). З руск. *поза*, якое з франц. *pose* ‘становішча цела; поза’ ад *poser* ‘размяшчацца, стаяць; пазіраваць’, што з нар.-лац. *pausare* ад лац. *pausa* ‘спыненне, затрымка’ (Чарных, 2, 49—50); паводле Фасмера (3, 303), рус. лексема з ням. *Pose* < фр. *pose*. Гл. яшчэ *паўза*.

**Пóзва** ‘выклік, павестка’, ‘паведамленне’ (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ), *пазывáць* ‘выклікаць’, ‘запрашаць’ (Сл. ЦРБ). Аддзеяслоўны назоўнік ад ст.-бел. *позвать* ‘выклікаць у суд’ (1423) < **pozъvati*, гл. *зваць*. Словаўтварэнне, як у *назва* < *назваць*.

**Пóзірк** ‘погляд’ (ТСБМ); паводле Станкевіча (Зб. тв., 2, 44), у народнай мове ‘імклівы, пабежны погляд’, тады як *пагля́д* (гл.) адпавядае рус. *взгляд*. Да *пазіраць*, *зіркаць* (гл.).

**Пóзні** ‘які набліжаецца да канца, мінае’, ‘які надыходзіць пасля звыклага ці патрэбнага часу’ (ТСБМ), ‘позні’ (ТС), *пóзны* ‘тс’ (Шат.). Укр. *пізній*, рус. *поздний*, польск. *późny*, ст.-польск. *pozdny*, н.-луж. *pózny*, в.-луж. *pózdni*, чэш. *pozdní*, славац. *pozdný*, славен. *pozen*, серб.-харв. *пȍзан* ‘тс’, балг. *пóзден*, ст.-сл. поздьнъ ‘марудны, павольны’. Прасл. **pozdъ* < **posdъ*, корань *poz-* < і.-е. *pos-*, суф. *-d-*, як у **tvьr-d-ъ* > *цвёрды*, або ў **podъ* ‘пад’, **nadъ* ‘над’. Роднаснае літ. *pãskui* ‘тс’, *pãstaras* ‘апошні’, лац. *post* ‘тс’, тахар. В *om-post-am* ‘пасля’, алб. *pas* ‘тс’ (Фасмер, 3, 303; Чарных, 2, 50). Банькоўскі (2, 755) прапануе суаднесці прасл. **pozdъ* (якое з і.-е. **(s)pod-dh-o-s*) з ням. *spät* ‘позні, запозненьі’.

**Пóіва** ‘пітво’ (Нас.). Рус. *пóево* ‘пойла для скаціны’, *пóйво* ‘пойла; вадапой’. Ад *паіць* (гл.) пры дапамозе суф. *-ів-*, які надае значэнне ‘прадмет паводле яго прызначэння’, напр. *мáзіва* ‘мазь’ < *мазаць* (Сцяцко, Афікс. наз., 41).

**Пóіск**, *пóіско*, *пóйск* ‘пчаліная разведка’ (ТС), параўн. *йіск* ‘тс’ (Жыв. НС). Прасл. **pojьskъ* < **po-jьskati* — *поісковáць*, *пой-*

*скова́ць* ‘лятаць у разведку’ (ТС); ст.-бел. *поисковати* ‘шукаць’ (Сл. Скар.). Тая ж семантычная матывацыя ляжыць у аснове наймення *пушук* (Ніканчук, БЛ, 6, 68). Гл. яшчэ *іск*.

**По́істкам** ‘па парадку’ ‘па праўдзе’, ‘праўдзіва, так, як было’ (Стан.), ст.-бел. *поистине* ‘сапраўды, па праўдзе’. Зыходная форма, відаць, у ст.-бел. *исте* ‘тс’ (Сл. Скар.), параўн. *і́стаць* ‘шчырасць’ (Нас.). Гл. яшчэ *пайстком, існасць*.

**По́йка** ‘соска’ (Нар. сл.), ‘спецыяльна падрыхтаваны напітак для дзіцяці’ (ТС). Ад *паіць* (гл.) пры дапамозе суф. *-к-а* са значэннем ‘прадмет дзеяння’ (Сцяцко, Афікс. наз., 47).

**По́йла** ‘пойла’ (Бяльк., ТС), ‘мука, разбоўтаная ў вадзе’ (Варл.), *по́іла* ‘тс’ (Шат.). Ад *паіць* (гл.) пры дапамозе суф. *-л-* са значэннем ‘прадмет дзеяння’ (Сцяцко, Афікс. наз., 49). Гл. *поіла*.

**Пойм** ‘злаўленне’ (Нас.). Бязафіксны назоўнік ад асновы дзеяслова *пайма́ць* ‘злавіць, схапіць’, што да **pojьmъ* < **po-* + **jęti*. Да *імаць* (гл.).

**По́йма₁** ‘частка рачной даліны, якая затапляецца вадой у час разліву’ (ТСБМ), ‘разводдзе’ (Сл. ПЗБ), ‘сена, скошанае ў такім месцы, якое было заліта ракою, што выйшла з берагоў’ (Нас.). Параўн. укр. *по́йма* ‘пойма’, *пойма́ти* ‘пакрываць; залівзць (пра ваду)’, рус. *паём* ‘пойма’, ‘глыбокае месца ў рацэ з вірам’, *займа* ‘пойма’, ‘заняты ўчастак зямлі’, *поимать* ‘заліваць вадой у паводку’. Ад **pojęti* < **jęti*, да *імаць* (гл.).

**По́йма₂** ‘астаткі нітак з боку бёрда’ (ТС). Гл. *па́йма* ‘тс’.

**По́йсаваць** ‘паўторна малаціць каласы пры малацьбе коннай малатарняй і ўручную’ (Мат. АС, Варл.), *по́ясаваць*, *по́ісаваць*, *по́льсаваць*, *по́йсаваць*, *пэ́йсаць* ‘аддзяляць зерне ад асцюкоў (пра ячмень)’, ‘біць каго-небудзь’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). З літ. *paisýti* ‘тс’ (Грынавяцкене, там жа; Лаўчутэ, Балтизмы, 48). Параўн., аднак, рус. дыял. *полсова́ть* ‘моцна біць; паласаваць’, *полыса́ть* ‘рваць на часткі; біць, хвастаць’, арэальна не звязаныя з балтыйскай тэрыторыяй, паходжанне якіх застаецца нявысветленым.

**По́йсы** ‘пісягі на кепска вымытай кашулі’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), слова паходзіць ад літ. *paišos* ‘плямы сажы’, параўн. *paišaĩ* ‘сажа, куродым’, *pajšýti* ‘мазаць’. Субстратны балтызм?

**По́казка** ‘прыказка, байка’ (Янк. 1, Сл. ПЗБ). Ад *по-казка* > да *по-* і *казаць* (гл.).

**По́каст** ‘пакост’ (бар., Сл. ПЗБ). Гл. *пакост* ‘тс’. Банькоўскі (2, 682) польск. *pokost* выводзіць ад дзеяслова *pokościć* ‘пакрыць дрэва палітурай, прыдаўшы фактуру паліраванай косці’, што да *kość* (гл. *косць*), параўн. у выразе *ў одном поко́сце* ‘ў нязменным стане, выглядзе (пра чалавека)’ (ТС), і *покосці́ць* ‘пакрываць пакостам’ (там жа).

**По́кат**$_1$ ‘кола’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), параўн. рус. *покато́к* ‘невялікі валік, цурка, якія падкладаюць пад вілы, каб лягчэй соваць саганы’. Бязафікснае ўтварэнне ад *пакаціць* < *каціць*, гл. *пакот*$_2$ ‘тс’.

**По́кат**$_2$ ‘гульня, пры якой выпрабоўвалі моц велікодных яек’ (Мат. Гом.). Бязафіксны назоўнік ад *пакаціць* < *каціць* (гл.).

**По́кат**$_3$ ‘прыстасаванне для пагрузкі лесу’ (Мат. Гом.), *по́кот, покоты́* ‘лагі, па якіх закочваюць бярвенні на зруб’ (ТС). Гл. *пакат*$_1$.

**По́катам** ‘адзін каля аднаго, упокат’ (ТСБМ), *по́котом* ‘тс’ (ТС), укр. *по́котом* ‘тс’, польск. *pokotem* ‘тс’ (паводле Банькоўскага — украінізм, гл. Банькоўскі, 2, 682). Да *пакаціць* ‘паваліць’, параўн. рус. *вповалку* ‘тс’, польск. *na powal* ‘тс’. Гл. *каціць* ‘валіць, куляць’.

**По́каць** ‘лопацца (пра пупышкі), перыць бялізну’ (Сл. ПЗБ), ‘без меры есці ці піць’, ‘рвацца; надрывацца’, ‘раздувацца (ад гневу)’: *цебе сянни покаець* (Нас.), *по́кыць* ‘лопаць, гучна ляскаць; прагна есці’ (З нар. сл.), *покнуць* ‘трэснуць, лопнуць’ (Варл.), ‘разбіць’ (Сл. ПЗБ), ‘выцяць’ (Бяльк.), *по́кацца* ‘лопацца, трэскацца’ (Касп.), ‘распускацца (пра пупышкі)’ (Варл.), *по́кала* ‘пражора’ (Бяльк.). Укр., рус. *покать* ‘стукаць, калаціць’, палаб. *păknĕ* ‘падае’, славен. *pókati* ‘ляскаць, грымець’, балг. *по́кам* ‘стукаць’, макед. *по́кнуват са* ‘трэскацца (пра вусны)’. Ад гукапераймальнага **pokъ (*pukъ)*: *пок* ‘гук падзення; гук стрэлу’ (Юрч. СНЛ), ‘гук трэскання’ (Нас.), *покаўка* ‘ляскаўка’ (Нас.), рус. *пок* ‘гук пры разрыве; трэск’, славен. *pȍk* ‘трэск’ (параўн. Цвяткоў, Запіскі, 69; БЕР, 5, 482; Сной, 463). Гл. *пукаць*.

**По́кі** ‘пакуль’(ТСБМ, Нас., Касп., Сл. ПЗБ). Укр. *по́ки*, рус. *пока́, поки*, польск. *póki* ‘тс’. Сцяжэнне выразу **po kъj časъ* ‘як доўга; да якога часу’, дзе **kъjь* ‘які’ — ад’ектыўнае вытворнае ад займенніка **kъ* ‘хто’ (Фасмер, 3, 304; 2, 280; ЭССЯ, 13, 176—177; Банькоўскі, 2, 750). Сюды ж *по́кіль, покі́ль* ‘пакуль, дакуль’, ускладненае канцовай партыкулай *-ль*.

**По́клад** 'яйка або прадмет падобны на яго, які кладуць там, дзе хочуць, каб несліся куры' (ТСБМ, ТС, Касп.), *подклад* 'яйка, якое падкладваюць пад курыцу' (Мік.). Ад **po-klad-ti* > **po-klasti, po-kladǫ* < **klasti, kladǫ*. Да *класці* (гл.).

**По́клуска** 'палка, якую клалі на воз, каб пашырыць яго плошчу' (драг., Сл. ПЗБ). Параўн. таксама *паклеска* і *по́пліска* (гл.).

**По́крупне** 'высеўкі' (Сцяшк. Сл.); сюды ж *падкру́пніца* 'тс' (пух., Сл. ПЗБ), *падкру́п'я* 'дробныя грэцкія крупы' (Бяльк.). Рус. *подкрупка* 'мука, высеяная з крупаў', *подкру́пье* 'тс'. Першапачаткова, магчыма, *покруп'е* з далейшым пераходам *-п'е* ў *-пне*. Семантыка: тое, што застаецца 'па крупах', г. зн. пасля таго, як зерне змелена. Да *по-* і *крупы* (гл.). Формы з *пад-*, відаць, пад уплывам народнай этымалогіі з семантыкай 'нібы крупы; не зусім крупы', параўн. *под-* (гл.).

**По́круцень** 'вяртлявы хлапец' (Арх. Бяльк.). Ад *по-* і *круцень*, параўн. *круцень* 'вір' (Яшк.), да *круціцца*, *круціць* (гл.). Параўн. яшчэ рус. *по́верть* 'пра легкадумнага чалавека'.

**По́круць** 'помесь паляўнічага сабакі з дварняком' (Жыв. НС), *по́круч* 'дзіця ад бацькоў розных нацыянальнасцей' (Нікан.). Укр. *по́круч* 'помесь', польск. *pokurcz* 'помесь'. Да *по-* і *круціць* (гл.).

**Покрык** ст.-бел. 'назва травяністай расліны з шырокімі лістамі і тоўстым коранем, Mandragora officinarum'. Параўн. у Бярынды: "Мандрагора: Покры*к*". Паводле "Хронікі" Бельскага (пач. XVII ст.), "Зовут покриком, ѡ которо*м* мно*г* люде[s] поведаю*т*, же то е*ст* ѩки[s]сь коре*н* маючи зуполное выраже*не* человека, и коли его выкопаю*т* кричи*т*" (гл. Крамко, БЛ, 41, 85). Да *крык*, *крычаць* (гл.). У часы Сярэднявечча лічылася цудадзейнай раслінай. Параўн. таксама польск. *pokrzyk* 'воўчыя ягады, красаўка, Atropa belladonna', паводле Банькоўскага (2, 684), няяснага паходжання. З польскай укр. *покшик* 'тс' (ЕСУМ, 4, 485).

**По́куць** 'кут у хаце, дзе віселі абразы і стаяў стол' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'галоўны кут у хаце' (Сцяшк. Сл.), 'ганаровае месца ў куце пад абразамі' (Нас.), *по́кут*, *по́куць* 'тс' (Бяльк.), *по́куць*, *по́куцье* 'тс' (ТС). Укр. *по́куть*, *по́куття* 'тс', рус. *покуть* 'тс'. Этнаграфічныя адпаведнікі ёсць у ст.-швед. *drotsäte* 'ганаровае месца' < швед. дыял. *dröste* 'лаўка ля сцяны насупраць уваходных дзвярэй; ганаровае месца'; літ. *krikštãsuolė* 'ганаровае месца, дзе дзве лавы сыходзяцца за сталом, утвараючы кут', таксама

*krikštãsuolis* 'тс', рус. *красный угол* 'тс' (Непакупны, Общ. лекс., 56—57). Ад *по-* і *кут* (гл.), да семантыкі гл. *кут* 'пачэснае месца ў хаце' (Шат.), першапачаткова, відаць, 'найбольш абароненае месца', як бачна з *пакутаць* 'загарадзіць', гл. *кутаць*.

**По́куцянь** 'дамасед', 'спекулянт' (Жыв. НС). Ад *по-* і *кут* (гл.) з суф. *-янь/-ень* з экспрэсіяй непахвальнасці (Сцяцко, Афікс. наз. 241) пра чалавека, які сядзіць або хаваецца па кутах. Значэнне 'спекулянт', магчыма, ад польск. *pokątny* 'патаемны; нелегальны'.

**Пол₁** 'сукупнасць уласцівасцей, якія характарызуюць мужчынскія і жаночыя арганізмы' (ТСБМ). З рус. *пол* < ст.-слав. полъ 'sexus' (Фасмер, 3, 306). Да *паў-*, *палова* (гл.); тыпалагічныя ўгра-фінскія паралелі: мард. *pola* 'жонка', вод. *pal* 'палова; муж або жонка' (Бяднарчук, Stosunki, 107, з літ-рай) не даюць падстаў лічыць запазычаннем.

**Пол₂** 'палаткі, нары' (ТСБМ, Варл., Сл. ПЗБ), *по́лік* 'нары' (Юрч. СНЛ), 'ляжанка' (ТС), мн. л. *по́лы* 'высокі памост у лазні, на якім парацца' (Сцяшк. МГ). Укр. *піл* 'падлога', рус. *пол* 'тс', 'зямля'. Прасл. **polъ* 'дошка'. Роднаснае ст.-інд. *phálakam* 'дошка, планка', ст.-ісл. *fjol* 'тс' (Фасмер, 3, 306). Чарных (2, 50), як вартую ўвагі, прыводзіць версію Пагодзіна, які выводзіў *полъ* ад **podlъ* (прасл. **podъ* 'ніз, аснова, дно', гл. *под*), што, магчыма, пацвярджаецца значэннямі *пол* 'ніз (у супрацьлегласць верху), зямля, глеба, дно ракі, возера', параўн. выраз *до пола́* 'датла, дашчэнту' (ТС).

**Пол₃** 'полымя' (смарг., Сл. ПЗБ), мн. л. *полы* 'тс': *по́лы шугаюць* (у печы) (ашм., Стан.). Лакальны наватвор на аснове каранёвай часткі дзеясловаў тыпу *по́лаваць* 'палаць' (Сцяшк. Сл.), *пола́ць* 'палаць, гарэць полымем' (ТС), што ўзыходзяць да праслав. **polti* 'гарэць', гл. *полымя*, *палаць*.

**По́ла** (*по́ло*) 'выгук, якім падганяюць валоў' (ганц., Сл. ПЗБ). Няясна, магчыма, з выраза *ў поле!* (**у полё!*) з дэпалаталізацыяй канцовага склада; гл. *по́ле*.

**По́лаб** 'столь' (ДАБМ, камент., 776; Сл. Брэс., Нар. сл.). Ад **по́луб* < *луб* (гл.), параўн. *луб* 'накрыўка для чоўна' (гродз., Нар. лекс.). Параўн. *полап* (гл.).

**По́лаг₁** 'пасцель парадзіхі', 'палок' (Бяльк.), 'роды' (Сл. ПЗБ), *pólah* 'хвароба жанчыны ў час нараджэння дзіцяці' (Варл.). Укр. *поло́ги*, *по́лог*, *зло́ги* 'роды', польск. *połóg* 'роды; час пасля

родаў'. Прасл. **pologъ* ад **po-lěgati*, гл. *лягаць, ляжаць* з чаргаваннем у корані, параўн. выраз *логма ляжаць* 'ляжаць, не маючы сіл падняцца' (Нар. сл.), *пóлог* 'палатно над ложкам або калыскай' (ТС), гл.

**По́лаг₂** 'завеса над ложкам, шырма', (Бяльк., Сл. ПЗБ), 'вялікая посцілка, якой апіналі дзіця ў калысцы' (светлаг., SOr, 39, 356), 'посцілка насіць траву' (Жд. 3). 'рэдкае палатно' (Ян.). Укр., рус. *пóлог* 'полаг'. Прасл. **po-logъ* < **logъ* (гл. *лог, логава*). Відаць, першапачаткова 'месца ляжання, пасцель', потым 'посцілка' > 'кавалак тканіны' > 'заслона'. Значэнне 'рэдкае палатно', відаць, пад уплывам *пологі* 'слаба спрадзены' (Уладз.), параўн. антанімічную пару *кру́та і полога́ пре́жа* (тамсама) і рус. дан. *пóлог* 'грубая мешкавіна', што суадносяць з рус. *пологий* 'плоскі, пакаты' (Фасмер, 3, 313); гл. *палогі*.

**По́лаз₁** 'дэталь саней, полаз' (ТСБМ, ТС), *полозінец* 'след ад палазоў' (Сл. Брэс.), *палазóк* 'дэталь плуга, якая слізгаціць па зямлі' (Сл. ЦРБ). Укр. *пóлоз* 'полаз', рус. *пóлоз* 'полаз', 'санны след', польск. *płoza* 'полаз', *płóz* 'частка плуга, якая слізгаціць па зямлі', чэш. *plaz* 'тс', славен. *plaz*, серб.-харв. *плаз* 'частка плуга', балг. *плаз* 'полаз; частка плуга'. Прасл. **polzъ*, і.-е. корань **polg'*- (Чарных, 2, 53). Фасмер (3, 314) прыводзіць роднаснае англ.-сакс. *fealg* 'вобад, барана', ст.-в.-ням. *fëlga* 'тс'. Анікін (Этимология—1980, 44, 48) выключае магчымасць сваяцтва з герм. **felgō* 'вобад', і, зыходзячы з семантыкі 'след', якая развілася з першапачатковага значэння 'паўзці', прапануе іншыя адпаведнікі: герм. **fulg*- 'рухацца ўслед', англ.-сакс. *folgian*, *fylgan* 'рухацца ўслед, ззаду', англ. *follow* 'ісці ўслед, суправаджаць', ням. *folgen* 'тс'; рэканструяваныя і.-е. **pelg'h-/*polg'h* са значэннем 'паўзці, слізгаць' з далейшым развіццём семантыкі ў асобных індаеўрапейскіх мовах ('паўзці, слізгаць' > 'след' > 'ісці па следзе' > 'рухацца ўслед'), якія маюць надзейную паралель у сям'і слоў, што групуюцца вакол і.-е. кораня **(s)leigh-/*(s)loidh-/*(s)lidh-* 'слізгаць', параўн. прасл. **slědъ*, **slěditi*, **slědovati*. Гл. яшчэ *паўзці*.

**По́лаз₂** 'крыло брадніка' (КЭС), *палазэ* 'рыбалоўная крыга' (ЛА, 1). Называецца так паводле падабенства: прылада складаецца з двух палазоў, за якія яе цягнуць па дне, параўн. іншую назву гэтай прылады — *сані* (ЛА, 1). Да *полаз₁* (гл.).

**Полаз**$_3$ 'неядавітая змяя сямейства вужоў' (ТСБМ), 'капрызная асоба' (Юрч. СНС). Укр. *пóлоз*, *плазýн*, рус. *пóлоз* 'тс'; польск. *płaz* 'земнаводнае' Банькоўскі (2, 621) лічыць біблейскім багемізмам са ст.-чэш. *plaz*, чэш., славац. *plaz* 'тс'. Прасл. **polzъ*, ідэнтыфікуецца з *полаз*$_1$ (гл.), Фасмер, 3, 314.

**Пóлам** 'полымя' (смарг., глыб., Сл. ПЗБ), *пóламя* 'тс' (шальч., беласт., Сл. ПЗБ), *пóламень* 'тс' (пух., Сл. ПЗБ), *пóлань* 'тс' (в.-дзв., брасл., віл., Сл. ПЗБ). Гл. *полымя*.

**Пóлап** 'столь' (беласт., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё, запазычана з польск. *połap, półap* (1437), *pułap* 'тс', паводле Банькоўскага (2, 965), "мазавецкае слова" ад *łapić, łapać* 'хапаць', гл. асабліва *pułapka*, *połapka* 'пастка', *połapić* 'схапіць', параўн. *аблапіць* 'абхапіць'. Іншае паходжанне можна дапусціць для *пóлаб* 'столь' (гл.), што, магчыма, сведчыць аб старых мазавецка-палескіх сувязях (Тарн.).

**Пóласць** 'парожняя або запоўненая прастора ў жывёльным арганізме' (ТСБМ). Да *полы* (гл.).

**Пóлах** 'спалох, перапуд, пярэпалах' (Др.-Падб., Гарэц., Яруш., Нас., Касп.). Укр. *полóх* 'страх', рус. *полóх* 'тс', н.-луж. *płoch* 'тс', сюды ж чэш., славац. *plachý* 'палахлівы; нясмелы', славен. *plah* 'нясмелы', серб.-харв. *пла̏х* 'хуткі, рэзкі', балг. *плах* 'нясмелы, палахлівы; страх'. Прасл. **polxъ*, магчыма, роднаснае грэч. παλλω 'ўзбуджаю, ураджваю' (Фасмер, 3, 317). Паводле Сноя (448; гл. таксама SR, 35, 3, 269—275), узыходзіць да і.-е. **polo-* 'страх', вытворнае ад **pel-* 'устрывожыць', сюды ж гоц. *us-filma* 'перапалоханы' і пад.

**Пóле** 'абшар зямлі, прызначаны для ворыва', 'вялікая роўная прастора' (ТСБМ). Укр. *пóле*, рус. *пóле*, н.-луж. *pólo*, в.-луж. *polo*, польск., чэш., славац. *pole*, славен. *polje*, серб.-харв. *по̏ље*, балг. *полé* 'тс'. Прасл. **polje* суадносіцца з *пóлы* (гл.) 'пусты, адкрыты, незапоўнены', роднаснае ст.-швед. *fala* 'раўніна', лац. *palam* прысл. 'адкрыта', хец. *palhi* 'шырокі і плоскі' (Фасмер, 3, 307; Сной, 467; Чарных, 2, 51). Можа суадносіцца са значэннем 'выпаленая (у лесе) дзеля пасеву прастора' ад і.-е. **pel-* 'паліць', г. зн. 'лес, выпалены для сяўбы', аналагічна лац. *area* 'адкрытая прастора' і *arēre* 'паліць' (Макоўскі, Мир сл. и знач., 151), магчыма, другаснае збліжэнне пры першасным і.-е. **pel-* 'светлы, шэры', параўн. *пялясы* 'з белымі палосамі', літ. *laũkas* 'поле',

літаральна — 'белае', г. зн. 'палоска засеянай зямлі сярод лесу' (Трубачоў—Фасмер, 3, 307; Куркіна, Зб. Слаўскаму, 155). Гл. таксама *пу́львына* 'бязлесная раўніна'.

**По́лецам** 'спрытна, згодна': *сталі по́лецам працаваць* (Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, пераносна ад *по́лец* 'кавалак' (гл. *полць*) — 'як адно цэлае' (?).

**По́ліва** 'тое, што трэба палоць або што праполата' (ТСБМ, Янк. 2, Гарэц., Нас., Шат., Сл. ПЗБ, Бяльк.). Ад *палоць* (гл.) пры дапамозе суф. *-ів-*, які надае значэнне 'аб'ект ці вынік дзеяння', напр., *жаць* — *жаціва* 'поле са збажынаю' (Сцяцко, Афікс. наз., 41).

**По́лік**₁ 'божая кароўка' (гродз., Шат., З жыцця). Паводле Шаталавай (там жа, 171), звязана з *палі́к* (гл.), укр. *пола́к* 'вышыты наплечнік жаночай сарочкі' (з-за стракатасці), параўн. *по́лка* 'кавалак тканіны'; хутчэй, фанетычна зменёнае *Паўлюк* (гл.), параўн. *пётра-паўла* 'божая кароўка', або да *поле* (гл.): *калі пагода, ляці ў поля* (там жа, 169).

**По́лік**₂ 'аб'ём у бутэльку' (Нас.), 'мера спіртнога; паўлітровая бутэлька' (смал.); параўн. рус. *полишка* 'палова чаго-небудзь; мера гарэлкі'. Ад **пол-* 'палова' (гл. *паў-*) з памянш. суф. *-ік* па тыпу ўтварэнняў ад лічэбнікаў *сямік*, *асмік*, параўн. аналагічныя славен. *polič* 'кубак', харв. *pòlič* 'палова меркі' і пад.

**По́ліўка** 'суп; вадкая частка стравы, жыжка' (ТСБМ), 'рэдкая страва, поліўка' (Бяльк., Сл. ПЗБ, Нар. сл., Вешт.), 'верашчака', 'зацірка', 'бульбяны суп', 'кісель з аўсянай мукі' (ЛА, 4), *по́леўка*, *по́лыўка* 'малочны суп' (Сл. Брэс.). Укр. *поливка*, польск. *polewka* 'поліўка', в.-луж. *poljewka*, н.-луж. *polěwka*, чэш. *polévka* 'суп', славац. *polievka* 'тс'. Ад *по-* і *ліць* (гл.), як *помачка* ад *мачаць*; паводле Банькоўскага (2, 687) — няяснае.

**По́лішка** 'папіхач' (віл., Сл. ПЗБ). Калі тут не памылка — *по́пішка* ад *папіхаць*, экспр. суф. *-ішк-* (як *запін* — *запішка*), параўн. *папі́шка* 'штурханне ў дно вяслом' (Касп.), то, хутчэй за ўсё, да *лі́шак*, *лішка* 'лішняе', г. зн. 'непатрэбнае'.

**Полк** 'вайсковая адзінка' (ТСБМ), 'род, племя' (Бяльк.), 'вельмі многа' (шчуч., Сл. ПЗБ). Укр. *полк*, рус. *полк*, польск. *pułk*, ст.-польск. *pełk* (імя ўласнае Świętopełk), в.-луж. *połk*, чэш., славац. *pluk*, серб.-харв. *пук* 'народ, тлум', балг. *пълк*, ст.-слав. плъкъ. Прасл. **pъlkъ*. Адзінай думкі наконт паходжання гэтага

слова няма. Найбольш верагодным лічыцца праславянскае запазычанне гоцкага **fulk(s)* ‘вайсковы атрад’, параўн. ст.-в.-ням. *folc* (суч. *Volk*) — ‘народ’, ‘войска’, але гэта не бясспрэчна (Чарных, 2, 53). Векслер (Гіст., 125) тлумачыць адсутнасць пераходу *л* > *ў* аднаўленнем *л* пад уплывам рус. *полк*. Банькоўскі (2, 526) параўноўвае з лат. *palks*, літ. *pulkas* ‘мноства, тлум, статак; войска’, *pulkáuti* ‘збірацца ў статак (пра птушак)’, санскр. *pr̥nakti* ‘злучаць’, што сумнеўна (гл. Фасмер, 3, 311). Гл. таксама *пулк*.

**По́лка₁** ‘кавалак тканіны’, ‘пялёнка’ (Ян.), ‘пялёнка’ (Жд. 1), ‘крысо’ (Сл. Брэс.), ‘адно палотнішча (у дзяружцы, мяшку і інш.)’ (ТС), ‘пасцілка’ (ЛА, 2). Укр. *пілка* ‘полка’, рус. *полка* ‘кавалак тканіны ва ўсю шырыню’, *по́лочка* ‘пярэдняя частка жаночай вопраткі’, славац. *polka* ‘кавалак палатна спавіваць дзіця’, ‘адно палотнішча’, балг. *полка* ‘верхняя жаночая вопратка’, ‘блуза’. Памяншальная форма ад прасл. **pola*, якое ад **polъ* ‘палова, бок’ (гл. *паў-*), параўн. польск. *poła* ‘палова’, славац. *pola* ‘полка; крысо’, балг. *пола́* ‘ніжняя частка вопраткі’, ‘палавінка варот’. Гл. *пала́*.

**По́лка₂** ‘палок у лазні’, ‘насціл для сушкі гароху і інш.’ (Ян). Рус. *полка* ‘паліца’, польск. *półka* ‘тс’. Памянш. да *пол₂*, першапачаткова ‘дошка, плашка’; Банькоўскі (2, 689) рэканструюе **polъka* ‘расколатае напалову бервяно, што служыла паліцай’, што да праслав. **pelti* ‘раздзіраць на дзве часткі’ з і.-е. **(s)p(h)el-* ‘расколваць’. Ідэнтычнае *polъ* ‘палова; бок, край’, параўн. *апо́лак* ‘крайняя дошка з бервяна’. Гл. *паў-, палова*.

**Полць**, *польць*, *полец* ‘кавалак’ (Нас., Сцяшк. Сл.), *пэлць* ‘ТС’; *пэльц* (лун., Шатал.). Укр. *півть*, *пілть*, рус. *полть*, польск. *połeć* ‘сала, бок тушы; кавалак’, в.-луж. *połć* ‘сала’, чэш. *polt* ‘бок тушы’, славац. *pôlt* ‘шматок сала (вэнджанага)’, славен. *plȃt* ‘рассечаная палова’, балг. *платъц* ‘вялікі кавалак сала’. Прасл. **polъtь*, варыянт **poltь* ад *polъ* ‘бок’, аснова на *-t-*, як у **nogъtь*, **lapъtь* (Фасмер, 3, 316). Гл. таксама *аполец*.

**По́лы** ‘пусты ўнутры, нічым не запоўнены’ (ТСБМ). Рус. *полый* ‘тс’, ‘адчынены; раскрыты насцеж’, *по́ло* ‘свабодна, нічым не занята’, стараж.-рус. *полъ* ‘пусты, адкрыты’, ст.-чэш. *polo* ‘полае, пустое месца’. Прасл. **polъ*, **polъjь* ‘адкрыты’, суадносіцца з прасл. **polje* (гл. *поле*), корань і.-е. **pel-* ‘шырокі, адкрыты’ (Чарных, 2, 54). Беларускае слова, хутчэй за ўсё, запазычана з рускай мовы.

**По́лымя** ‘агонь, які ўзнімаецца над тым, што гарыць’ (ТСБМ), *по́лым’е, по́лом’е* ‘тс’ (ТС), сюды ж *по́лань* (Сл. ПЗБ), *по́лынь* ‘тс’ (Нар. сл.), ст.-бел. *полома* (XVI ст.). Укр. *по́лум’я*, рус. *поломя, по́лымя, пламя*, польск. *płomień*, н.-луж. *płomje*, в.-луж. *płomjo*, чэш. *plamen*, славац. *plameň*, славен. *plámen*, серб.-харв. *пла̏мен*, балг. *пла́мен, пла́мък, плам*, ст.-слав. пламы, пламень. Прасл. **polmy*, **polmenь*; аснова **polmen-* (дзе *-men-* — суфікс, параўн. *пол* ‘полымя’ (Сл. ПЗБ)), ад **polti*, **polěti* ‘палаць’ (гл. *пала́ць*); роднаснае літ. *pelenaĩ* ‘попел’, лат. *pȩ̃lni* ‘тс’, ст.-прус. *pelanno*, літ. *pelẽnė* ‘ачаг’, магчыма, таксама алб. *pjalmë* ‘слуп пылу’ (Фасмер, 3, 273). Паводле Карскага (1, 254), формы з *-лы-* другасныя, у выніку аналогіі да слоў тыпу *блыха́*.

**По́лынь** ‘верхавая вада’, *по́лань* ‘тоня’ (докш., Сл. ПЗБ). Да *по́лы* (гл.), першапачаткова *полае* (адкрытае, пустое) *месца*, параўн. *по́лонь* ‘палянка’ (ЛА, 1), ‘лапіна сярод поля, лесу’ (Сл. ПЗБ), *поло́ня* ‘паляна’ (Клім.), ‘месца, дзе не ўзышло пасеянае’ (Сл. Брэс.), гл. яшчэ *палонка*. Словаўтварэнне, як *голы* — *галынь* ‘паляна’ (ЛА, 1).

**По́лыск** ‘бляск’ (Сл. ПЗБ), *по́лоск* ‘тс’ (Клім.). З польск. *połysk* ‘тс’ (Мацкевіч і інш.; Сл. ПЗБ, 4, 45), што ўзыходзіць да прасл. **lъskati/*lyskati*, суадносіцца з **lъskъ* ‘бляск’ > бел. *лоск* (гл.).

**По́льза,** *по́лза* ‘карысць’ (ТС), *по́льга* ‘палёгка’ (А. Чэмер), *по́лза* ‘добры ўзятак’ (Анох.), *по́льзаваць* ‘мець карысць’, ‘лячыць’ (Юрч. СНЛ). Укр. *пі́льга* ‘палёгка, супакаенне’, рус. *по́льза* ‘карысць’, *по́льга* ‘карысць, выгада; палёгка (паляпшэнне здароўя)’, палаб. *pü’ölga* ‘карысць’, славац. *polaha* ‘палёгка; дапамога’, балг. *по́лза*, ст.-слав. польѕа, польза. З прасл. **polьga* ад **lьga* (Фасмер, 3, 321; Чарных, 2, 54; БЕР, 5, 497). Гл. *льга, ільга́* ‘лёгкасць, палёгка’, формы з *-з-* — у выніку т. зв. трэцяй палаталізацыі.

**По́лька** ‘танец у хуткім тэмпе’ (ТСБМ). Найбольш імаверна ад чэш. *půlka*, *polovina* ‘палова’, магчыма, сцяжэнне ад *půlkrok* ‘паўкрок’, бо назва паходзіць ад паўтактавага памеру (Брукнер, 682; Чарных, 2, 55). Неверагодная думка пра тое, што танец з’явіўся ў Празе ў 1831 г. і названы ў знак салідарнасці з палякамі (Голуб — Копечны, 285; Фасмер, 3, 321), бо першыя згадкі пра яго як пра бальны танец — у 1825 г., а ў 40-я гады XIX ст. ён набыў папулярнасць у Расіі, арганічна ўвайшоў у беларускую народ-

ную харэаграфію, бо ў беларускім фальклоры існавалі танцы накшталт полькі (Чурко, 229). Банькоўскі (2, 688) не выключае, што крыніцай магло быць скажонае **folka* ад ням. *Volkstanz*, паколькі танец папулярызавалі як *tschechischer Volkstanz*.

**По́льны** 'палявы' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Гарэц., Касп., Сл. ПЗБ), 'які пасецца ў полі' (Нас.), 'які працуе ў полі' (Сцяшк. Сл.), 'які жыве ў бязлеснай мясцовасці' (Сл. ПЗБ), *польныя дзверы* 'другія дзверы, вароты, якія выходзяць у поле' (Мат. Гом.), *польны* 'палявы; дзікі' (ЖНС), ст.-бел. *польныи* 'палявы' (Сл. Скар.); параўн. польск. *polny* 'палявы', чэш. *polní*, славац. *poľný* 'тс'. Словаўтваральная мадэль, як *воля — вольны*. Гл. *поле*.

**По́льскі**: *польскі грыб* 'падгрыб, *Xerocomus badius*' (навагр., слонім., Расл. св.). Хутчэй за ўсё, запазычанне з рускай, параўн. рус. *по́льский*, *польско́й* 'палявы, стэпавы', 'дзікі': *польские гуси* 'дзікія гусі'; н.-луж. *pólski*, славен. *poljski*, серб.-харв. *по̀љски* 'палявы', балг. *по́лски* 'тс': *полски пазач* 'палявы сторож'. Семантыка 'грыб, які расце на адкрытых месцах', звычайна — *палявы грыб* (ТС, паст., Жыв. сл.), *палёвік* (Жыв. сл.), *палявы баравік/ польскі баравік* (Расл. св.), навуковыя назвы — *махавік (казляк) руды, зайцаў грыб* (Сяржаніна, Грыбы, 18). Ад *поле* (гл.), параўн. рус. *земля — земский*.

**По́люс** 'пункт перасячэння з паверхняй уяўнай восі вярчэння Зямлі' (ТСБМ). З лац. *polus* 'тс' < грэч. πόλος 'паваротны пункт, вось вярчэння', ужо ў Арыстоцеля — πόλος αρκτικος і πόλος ανταρκτικος (Ванякова, Зб. Слаўскаму, 220). Увёў ва ўжытак усходніх славян Ілля Капіевіч (Сацута, РС, 1997, 11, 88).

**По́люх** 'ручка касы' (ДАБМ). Узыходзіць да *палюх*, якое з *палюк* (гл.). Параўн. рус. *палец* 'ручка касы; ручка вясла; драўляны брусок; калок'. Да *палец* (гл.)

**По́маг**, *по́мяг*, *помяжо́к* 'воблака' (Сл. Брэс.), *помегы́* 'дажджавая хмара' (ЛА, 2), сюды ж *па́мжа* 'напасць, ліха (Касп.). Укр. *па́мег* 'хмара', рус. *па́мга* 'туман', *па́мжа* 'дрэннае надвор'е; дрымота'. Прасл. **pamě̆gъ* ад **mьga/mьža* 'імжа, туман' (ЭССЯ, 21, 93). Інакш і менш пераканальна гл. *памяг*.

**По́маз** 'падмазка', 'квач' (Бяльк.). Бязафікснае ўтварэнне ад *па-мазаць*, гл. *мазаць*.

**По́мак** 'куль ільну, замочанага ў вадзе' (гродз., дзятл., Сл. ПЗБ). Гл. *памак*.

**По́мач**, *по́мыч*, *по́мац*, *по́машч*, *по́муч* 'дапамога' (ТСБМ, Янк. БП, Др.-Падб., Гарэц., Шат., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., ТС, Юрч. СНЛ). Укр. *по́міч*, рус. *помощь*, *по́мочь*, польск., н.-луж., в.-луж., чэш., славац. *pomoc*, славен. *pomóč*, серб.-харв. *пȍмоћ*, балг. *по́мощ*, ст.-слав. помошть. Прасл. **pomokъtь* < **pomogъtь* < **mogъtь* < **mogti*. Гл. *магчы*. Форма на *-ц* запазычана з польскай, а на *-шч* — з царкоўнаславянскай праз рускую мову.

**По́мачка** 'мачанка' (Сцяшк. Сл.), 'вада для змочвання пальцаў пралді' (Варл.). Рус. *пома́чка* 'соус', *помаку́шка* 'рэдкая страва з канопляў, у якую макалі хлеб'. Да *па-* і *макаць* (гл.).

**По́меж** 'поруч, побач' (ТСБМ), 'побач, праз мяжу' (ЖНС), 'паміж' (Бяльк.), *по́між* 'паміж' (ТС). Польск. *pomiędzy* 'паміж', *między* 'тс', славац. *pomedzi* 'паміж', *pomedzie* 'мяжа'. Ад *по-* і *меж* (гл.). Параўн. *помéжнік* (гл. *памежнік*) 'сусед па палетку' (ТС). Гл. яшчэ *мяжа*.

**По́мні** 'штаны' (Сл. Брэс.). Да польск. *spodnie* 'тс'; відаць, адбыўся шэраг фанетычных змен: прыпадабненне *сподні* > *спонні*, як у *спадніца* > *спанніца* (ДАБМ), далей зноў распадабненне, але з іншым месцам утварэння *понні* > *помні*.

**По́мнік** 'помнік' (ТСБМ). Польск. *pomnik*, чэш., славац. *pomník* 'тс'. Аддзеяслоўны назоўнік ад *помніць* (гл.), як *цягнуць* > *цягнік* (гл.). Хутчэй за ўсё, запазычана з польск. *pomnik*, што пашырыўся ў XIX ст. як калька з ням. *Denkmal* 'тс', адсюль і чэш. *pomník* (Банькоўскі, 2, 694, насуперак Орлась, JP, 76, 4—5, 299—302), што, магчыма, паўплывала і на ўтварэнне рус. *памятник* 'тс' (Кохман, Sprawozd. Opol. TPN, wydz. 2 B, 24, 25—27), параўн. паралельнае ўжыванне ў Міцкевіча *pomnik*, *pamiętnik*, *monument* 'тс'.

**По́мніць** 'памятаць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.), *помліць*, *помляць*, *поўніць* 'тс' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *помнити* (Сл. Скар.). Рус. *по́мнить*, польск. *pomnieć* 'тс'. Прасл. **po-mьněti* (Махэк, 490) < **mьněti*/ **mьniti* 'думаць, меркаваць', гл. *памяць*. Станкевіч (Зб. тв., 1, 59) лічыць, што па-беларуску мае быць *по́мнець*, што неабавязкова, паколькі магчыма і ўтварэнне **po-mьniti* 'тс', параўн. літ. *miñti* 'помніць' і *minéti* 'прыпамінаць, успамінаць'.

**По́мны** 'памятны' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, з польск. *pomny* 'тс'; Банькоўскі (2, 694) лічыць польск. *pomny*, *niepomny*, *wiekopomny* штучнымі паэтычнымі ўтварэннямі.

**По́мпа**₁ ‘прыстасаванне для пампавання; насос’ (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ). З польск. *pompa* ‘тс’ < франц. *pompe* ‘тс’, якое, магчыма, з ісп., партуг. *bomba* ‘тс’, гукапераймальнае (БЕР, 5, 513), лац. *bombus* ‘гудзенне, шум’ < грэч. βόμβος ‘тс’, параўн. *бомба* (гл.).

**По́мпа**₂ ‘паказная пышнасць’ (ТСБМ), ‘пыха, гонар’ (Нас.). З польск. (Булыка, Запазыч.) або непасрэдна з лац. *pompa* ‘ўрачыстае шэсце; пышнасць’ < грэч. πομπή ‘пасылка, суправаджэнне, урачыстае шэсце’ ад πομπεύω ‘суправаджаць, урачыста несці, важна ісці’.

**По́мста** ‘адплата за зло’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Сл. ПЗБ, Яруш., Бяльк.), *помства* ‘тс’ (Мядзв., Касп.). Укр. *по́мста*, польск., славац. *pomsta*, чэш. *pomsta*, *msta* ‘тс’. Форма *помсты* ‘помслівы’ (ТС), відаць, ад *по́мстны* ‘тс’ (Варл.) з выпадзеннем суфіксальнага -*н*-. Да *мста* (гл.).

**По́мут** ‘каламутнасць’ (Нас.). Бязафіксны назоўнік ад *памуціць* ‘зрабіць мутным’ (ТСБМ). Да *мут* (гл.).

**По́мча** ‘бура, ураган’ (ТС). Прасл. **pomъča* < **mъčati* ‘імчаць; несціся’. Да *імчацца* (гл.). Параўн. яшчэ рус. *помчать* ‘панесці, пагнаць (ветрам)’.

**По́мысл** ‘намер’ (Нас.), *помыслы* ‘мыслі, думкі’ (Бяльк.), *помысл* ‘задума’ (Сл. Скар.). Рус. *помысел* ‘намер’, польск. *pomysł* ‘думка; задума’. Ад *по-мысліць* > *мысліць* (гл.), аналагічна *по́думка*, *по́думы* ‘ўрокі’ ад *думаць* (ЛА, 3).

**По́начы** ‘ноччу, уночы’ (ТСБМ, Касп.), ‘апоўначы, сярод ночы’ (Сл. ПЗБ), *по́ночы* ‘тс’ (ТС), ‘цёмна’ (Клім., Жыв. НС), *по́вночы* ‘тс’ (Жыв. НС). Укр. *по́ночі* ‘цёмна’, ‘у цемры’. Ад **па начы* ‘ўначы’, з далейшым развіццём семантыкі да ‘цёмна’, дзе *па/по* мае значэнне ‘пры’, параўн. *по́дню* ‘ў дзённы час’, г. зн. ‘пры дзённым святле’ (Варл.). Цікавую паралель уяўляе серб. дыял. *по̏ноћи* ‘ноччу’, поводле якога ўтворана *по̏дне(в)и* ‘днём’ (Мілеціч, СДЗб, 9, 434); параўн., аднак, *по́ноћ* ‘сярэдзіна ночы’, што адпавядае прасл. **polъnoktь* (гл. *поўнач*), на думку Вукавіча (ЈФ, 17, 77) — другаснае, утворанае ад *поноћи*. Да *ноч* (гл.), параўн. яшчэ **паначота* (гл.). Інакш Цыхун (Загароддзе-2, 112), за зыходную прымае форму з *поў-* (*пов-*): *по́внучэ на улыцэ*, першапачаткова ‘поўнач, сярэдзіна ночы’, з якога развілося значэнне ‘цёмна’, чаму пярэчыць ЕСУМ (4, 470): укр. *по́вночі* з *по́ночі* пад уплывам *пі́вніч* ‘сярэдзіна ночы’.

**По́ні** ‘парода нізкарослых коней’ (ТСБМ). З англ. *pony* ‘тс’, што, відаць, з шатл. кельц. *pown(e)y* ‘тс’, паходжанне якога няяснае.

**Понт** ‘бачнасць (памылковая)’ (Мат. Гом.), *панто́вы* ‘добры’ ў выразе: *Яна дзеўчына пантовая, што і казаць* (Жд. 1) — магчыма, тут маецца на ўвазе ‘добры з выгляду’. Найбольш верагодна з рус. жарг. *понт* ‘падман, хітрасць’, *для понту* ‘для выгляду’, *понт бить* ‘выяўляць з сябе чэснага чалавека’, паходжанне якіх не да канца высветленае. Параўн. балг. жарг. *пунт* ‘падман’ ад тур. *punt* ‘падман, хітрасць’ < італ. *punto* (БЕР, 5, 854), параўн. таксама італ. *puntèllo* ‘хітрасць’; серб.-харв. *punta* ‘падман’ Скок (3, 78) выводзіць з ням. *Bund* ‘узрушэнне ад несапраўднай весткі’ і суадносіць з *bunt* ‘узрушэнне, бунт’, што сумнеўна. Танкоў (Опыт исследования воровского языка, Казань, 1930, 15) звязвае з франц. *ponter* ‘панціраваць, рабіць стаўку ў гульні’, што тлумачыць рус. жарг. *пантер* ‘ігрок-аферыст’.

**По́нускам** ‘як папала’ (карэліц., Шатал.) у выразе: *пускай у яго понускам палкаю*. Відаць, памылковы запіс, гл. *попускам*, параўн. рус. *по́дпуск*, *по́дпускам* ‘ад кідка, калі прадмет ляціць блізка да паверхні, нібы падскокваючы’.

**По́нцы** ‘рамка ў калодачным вулеі’ (гродз., Сл. ПЗБ). З рус. *по́нцы*, *по́нка* ‘перакідная сетка на птушак; сіло ў выглядзе сеткі, нацягнутай на абруч’, *понса* ‘рэшата’. Паводле Даля (3, 750), *понцы* ад *понимцы*, *нять, брать*. Паводле Фасмера (3, 326), звязана са ст.-слав. пьнѫ, пѧти ‘нацягваць’, опона ‘завеса’, што больш імаверна. Рамка ў вулеі мае выгляд сеткі — відаць, перанос паводле падабенства.

**По́нчка** ‘пухір, бурбалка’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *pączek* ‘пупышка, бутон’. Гл. *пончык*.

**По́нчык** ‘круглы смажаны ў тлушчы піражок’ (ТСБМ), *по́нчка* ‘булачка’ (Сцяшк. МГ), укр. *по́нчик*, рус. *по́нчик* ‘тс’. З польск. *pączek* ‘пончык, пышка’, ад першаснага ‘пупышка, бутон’, што ў сваю чаргу ад *pąk* ‘пупышка, бутон’ — да *pękać* ‘трэскацца, лопацца’ (Банькоўскі, 2, 520).

**По́ныр’ю** ‘ўніз галавой’ (Сцяшк. Сл.), *панырну́ць* ‘спатыкнуцца’ (Сл.). Рус. *по́ныр* ‘падземны паток’, ‘сыход патоку ў глыб зямлі’, *поныром* ‘нырком’, макед. *понор* ‘месца, дзе паток сыходзіць пад зямлю’. Ад *по-* і *ныраць* (гл.).

**Поп**$_1$ 'праваслаўны святар' (ТСБМ), 'святар' (ТС); укр. *піп*, рус. *поп*, балг. *поп*, с.-харв. *пȍп*, славен. *pòp*, чэш., славац., польск., в.-луж. *pop*, палаб. *püöp* 'святар; настаўнік'. Са ст.-польск. *pop* < ст.-в.-ням. *pfaffo* 'святар; поп' < познелац. *papa* 'тс' < лац. *papas* 'настаўнік' < грэч. πάππος 'дзед, продак' (Фасмер, 3, 327; Чарных, 2, 56). Банькоўскі (2, 698) адмаўляе сувязь з апошнім, мяркуючы, што першапачаткова назва адносілася да паганскага святара, параўн. *поп* 'снегавік' (ТС).

**Поп**$_2$ 'адуванчык, *Taraxacum*' (Мат. Гом.), *папóк, пупóк* 'тс' (Кіс.), *папы́, папкí, папáўка* 'нівянік, *Leucanthemum*' (Кіс.), *папы́, папакí* 'скабіёза, *Scabiosa*' (Кіс., ЭПБ), *папкí, пóпікі* 'паўночнік, *Knautia*' (Касп., Кіс.), *папóўнік* 'пірэтрум, *Pyrethrum*' (ЭПБ), 'вятроўнік, *Filipendula*' (Касп., Кіс.), 'баркун, *Melilotus*' (Кіс., ЭПБ), *папóк* 'канюшына, *Trifolium*' (Бяльк.). Найбольш імаверна, названы гэтыя расліны так паводле вонкавага выгляду іх суквеццяў ад *пуп* (гл.) з пераходам *у* > *о/а*, параўн. яшчэ бел. *пуп* 'бацюшка' (ЖНС), што, магчыма, звязана з уплывам лексемы *поп* (гл. *поп*$_1$) і магло прывесці да ўзнікнення такіх назваў, як *ксёндз* 'адуванчык' (Кіс.). Параўн. яшчэ рус. *пупóк* 'кветкавая галоўка', *пуповник* 'расліна, *Scabiosa arvensis*', *пупавка* 'рамонак', *попóк* 'упрыгожанне спінкі ложка ў выглядзе шарыка'. Польск. *pępawa* 'адуванчык' Банькоўскі (2, 538) таксама ўзводзіць да **pǫp-ava* < **pǫp* 'пуп'. На першасную матывацыю 'нешта пукатае, шарападобнае' паказвае і назва *бабок* (гл.). Інакш гл. *папаўка*.

**Поп**$_3$ 'пер'е цыбулі, часнаку' (Мат. Гом.). Хутчэй за ўсё, да *пуп* (гл.). Параўн. *пупóк* 'калок, які мацуецца да касся' (Жд. 3, Мат. Гом.), *пупóк* 'зашпілька з кавалачка дрэва', іншыя назвы для гэтай рэаліі *цýрка, пáлачка* (ЛА, 4), *пупны* 'адросткі пер'яў' (ЛА, 1), параўн. яшчэ *дýдкі, трýбкі, пáлкі* (ЛА, 1). Сюды ж, відаць, укр. *піп* 'вертыкальна пастаўленая цурка', рус. *поп* 'цурка ў гульні, якую збіваюць палкамі', 'прадмет, які стаіць старчаком', *попы́* 'гарадкі', балг. *пóпак, пóпок, пóпък* 'пень', *пóпокь, пóпук* 'пуп', чэш. *popek* 'жалезны калок для рэгуляцыі глыбіні арання'. Магчыма, ранейшае значэнне *пуп* 'прадаўгаваты кавалак пупавіны, які пакідаюць пры яе пераразанні' > 'адсечаны кавалак дрэва, цурка, калок' > 'старчак, цурубалка'. Параўн. *пуп* (гл.). Фасмер (3, 327) лічыць этымалагічна тоеснымі *поп* 'цурка' і *поп*

'святар', але не дае матывацыю. Паводле Будзішэўскай (SFPS, 26, 119—122), балг. *поп* 'слуп, на які апіраецца верх страхі' — у выніку замены першапачатковага **dědъ* 'тс' пад уплывам хрысціянства (гл. *поп₁*); паводле БЕР (5, 522), выводзіцца з *попник, попницъ* 'тс' ад **pьnǫ, pęti*, гл. *пяць*, што сумнеўна.

**По́пад** (*по́пыд)* 'пакаранне', 'гібель' (Юрч., Фраз. 1), 'лупцоўка', груб. 'пагібель' (Юрч., Фраз.), *по́пыддзе* 'пакаранне' (Юрч. Вытв.). Ад *папасціся* 'трапіцца на дрэнным учынку' > 'быць пакараным'. Параўн. укр. *попада́ти* 'апынацца ў неспрыяльных умовах', рус. дыял. *попа́дывать* 'атрымліваць прачуханку'. Да *папасці* (гл.).

**По́парсак** 'кароткая вяровачка-прывязка ў баране з каблуком' (Мядзв.). Відаць, да *поўраз, паўро́за* 'матуз, шнур' (гл.), першапачаткова **по-паўрозак*, вытворнае ад **verzti*, гл. мяркуемае **po-povorzъkъ* аналагічнае па ўтварэнню **motovorzъk* 'матузок', параўн. гродз. *матарзак* 'абрывак вяроўкі' (Цых.), рус. *мотороска* 'шнур, якім прывязвалі кудзелю да прасніцы' (адносна апошняга гл. Калашнікаў, Этим. иссл., 7, 89—90).

**По́паўзень** 'маленькая птушка атрада вераб'іных, якая вельмі спрытна лазіць па дрэвах уверх і ўніз галавой, *Sitta europaea L.*' (ТСБМ, Жыв. св.), сюды ж *попыўзінь* 'паўзун (пра дзіцё)' (Бяльк.). Назва птушкі, хутчэй за ўсё, запазычана з рус. *по́ползень* 'Sitta europaea', у аснове якой *ползти* (гл. *паўзці*), што да **pъlzati*, **pъlzti*, параўн. балг. дыял. *плъзаница, пълзáч* 'усякая жывая істота, што поўзае' (БЕР, 5, 45, 65), славен. дыял. *plezár, plezárček* 'Sitta europaea L.', *plezúh, pležúh* 'Certhia familiaris', *plázica, plazíca* 'назва птушкі або рэптыліі' (Бязлай, 3, 57). Суфіксацыя характарызуе носьбіта якасці ці дзеяння, параўн. *пе́вень, ле́жань*, рус. дыял. *ле́жень* 'рыба налім', *глушень* 'глушэц' і пад. Народныя назвы Sitta europaea L. — *каваль, дзятлік*, якія Ластоўскі адносіць да сям'і "попаўзьнеў" (навуковы тэрмін?); параўн., аднак, *паўзуно́к* 'Certhia familiaris' (Ласт.), у аснове якога тая ж адзнака. Іншыя назвы *поўзнік* (стол., ЛП), *глінянка, сівы дзя́тлік* (Федз. — Даўб.).

**По́паўзкам** 'паўзком' (Нас.), *по́паўзкі* 'тс' (Ян.), *по́поўзом, у по́поўзок* 'тс' (ТС), *по́пыўзкым* (Бяльк.). Прыслоўе ад *паўзці* (гл.), параўн. *бягом, бежкі* і пад.

**По́пел** 'рэшткі згарання, спальвання чаго-небудзь' (ТСБМ), ст.-бел. *попелъ* (1269 г.), у іншых славянскіх мовах варыянты з

пачатковай альтэрнацыяй *по-/ пе-*: укр. *nóniл*, рус. *пéпел*, рус. дыял. *пóпел*, ст.-рус. *пепелъ / попелъ*, польск. *popiół*, каш. *pop'ół*, в.-луж. *popjeł*, н.-луж. *pop'eł*, палаб. *pűpél*, чэш. *popel*, славац. *popol*, славен. *pepêl*, славен. дыял. *popêl*, харв. *pèpeo*, серб. *nèneo*, серб. дыял. *nonео*, балг. *пèпел*, ст.-слав. пепелъ/попелъ 'тс'. Найбольш пашыраная этымалогія (Міклашыч, 235; Брукнер, 431; Фасмер, 3, 234; Махэк$_2$, 429; БЕР, 5, 157—159) выводзіць слова з варыянтаў кораня **-pel- / *-pol-*, прадстаўленых у *палена, паліць, полымя* з агульным семантычным кампанентам 'гарэць, паліць', параўн. ст.-прус. *pelanne* 'попел, парахно', літ. *pelenaĩ* (мн. л.), лат. *pęlni* 'тс'. Зусім верагодна, што прасл. **po-pelъ* літаральна 'спаленае рэчыва' — аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння. Банькоўскі (2, 699) разглядае **pepelъ* як старэйшую рэліктавую форму, а **popelъ-* — у якасці паўн.-слав. інавацыі, выводзячы рэдуплікаванае прасл. **pe(l)-pel-ъ* 'пыл' ад **pol-nǫ-ti* 'палымнець'. Паводле Карскага (2—3, 87), пачатак слова з падваеннем кораня зменены пад уплывам прыстаўкі **po-*. Іншая версія ўзводзіць слова да і.-е. **pel-* 'парахно, пыл', 'мукá', 'нешта сцёртае ў муку' (Голуб—Копечны, 286; Сной, 436), што прадстаўлена ў лац. *pellō* 'біць, калаціць', *pollen* 'пыл, мука', грэч. πάλη, таксама з рэдуплікаваным пачатковым элементам παι-πάλη 'дробна змолатая мука', ст.-інд. *pálala* 'працёртае зерне, каша'. Адсюль прасл. **po-pelъ* азначае 'нешта дробнае, стоўчанае, сцёртае ў муку'. Назіраецца таксама сумяшчэнне ў слав. мовах семантыкі 'падгарэлы, спечаны' і 'выраб з мукі', параўн. бел. *падпалак* 'блін, ляпёшка', *падпалонік* 'тс', польск. *podpłomyk* 'тс', а таксама *паляніца/ пеляніца* (гл.).

**Пóперадзень** 'вяз, якім замацоўваюцца галоўкі саней' (рагач., Сл. ПЗБ), *пóперэдзень* 'пярэдні вяз у санях; дошкі, што кладуцца на перадок воза; пярэдняя вяроўка для ўвязвання сена' (ТС), *пóпяразань* 'галоўкі палазоў' (лід., Сл. ПЗБ), *пóпырыдэнь* 'вяроўка для ўвязвання сена, саломы на возе', драг. *попырыднé* 'тс' (кам., Сл. ПЗБ), *пóпырыдэй* 'тс', *папéрадзень* 'вяроўка-пярэдня' (свісл., Шатал.). Назва з конфіксам *па-/ по-* + *-ень* па адносінах да месцазнаходжання: *перад, перадок* воза, саней і пад. (Сцяцко, Афікс. наз., 242). Параўн. *пóпарсак* (гл.).

***Пóперадня**, *пóпэрэдня* 'чалавек, які перабівае другіх' (бяроз., Сл. Брэс.). Назва асобы па схільнасці да адпаведнага дзеян-

ня з экспрэсіяй непахвальнасці ўласціва народнай мове. Можа быць утворана з суф. *-ня* ад *папярэдзіць* / *папярэджваць* або ад *папярэдні*, дзе акцэнтавана значэнне 'быць першым, перад кімсьці', параўн. *по́перэдзь, пэперэду* 'спераду, папераде, першы' (ТС), укр. *попере́д* 'перад кімсьці, чымсьці', рус. дыял. *по́передь* (придти) 'першым, напачатку', *попере́жане* 'тыя, хто едуць наперадзе', польск. *poprzednik, poprzedca, poprzedziciel* 'той, хто быў першым, перад кімсьці', славац. *popredku* 'спераду'. Гл. *перад, пярэдні*.

**По́пінка** 'шафран' (іўеў., Сцяшк. Сл.), *папі́нька* (Сл. ПЗБ). Народная адаптацыя назвы гатунку яблык *пепін шафранны* (гл.), што ад франц. *pépin* 'семка, зернейка'.

**По́плаў**₁ 'заліўны луг у пойме ракі' (ТСБМ, Некр., Гарб., Нікан., Шат., Сл. ПЗБ; петрык., Мат. Гом.; ТС, Сл. Брэс.), *поплыў* 'тс' (Бяльк.), 'незабалочаная сухадольная сенажаць' (Янк. 2; лун., Сл. Брэс.), 'луг каля вёскі' (Бір. Дзярж.; Сл. ПЗБ; драг., Сл. Брэс.), 'месца на рацэ, возеры, якое зарасло трысцём' (Інстр. 1; слуц., КЭС), 'сенажаць на высокім месцы' (лун., Шатал.), 'пясчанае месца каля ракі' (Сл. ПЗБ), *по́плаза, по́плаво* 'тс' (Скарбы), *поплава́* 'выган' (в.-дзв., лід., Сл. ПЗБ) *по́плавына* 'тс' (бяроз., Сл. ПЗБ), 'смецце, нанесенае паводкай' (Ян., ТС), укр. *по́плав* 'заліўны луг', рус. бранск. *по́плав* 'заліўны луг, выган', польск. *popław* 'заліўны луг', 'сена з такіх лугоў'. Вытворнае ад прасл. **pluti* / **plavati* ў першасным значэнні 'ліць, цячы', 'заліваць вадой', параўн. славен. *poplàva* 'паводка', *poplaviti* 'заліць'; азначае як месца, якое заліла вада, так і месца, ад якога вада адступіла з агульным значэннем 'пасля паводкі'. Гл. *плаваць*.

**По́плаў**₂ 'расліна маннік, Glyceria R. Br.', *паплаво́к,* мн. л. *плаўкі́* (ТС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-*, гл. *плаваць* і *плаў* як агульная назва для раслінага покрыва на вадаёмах (Расл. св.).

**По́плаў**₃ 'сетка для падлёднай лоўлі рыбы' (ТС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* ад *плавіць* 'сплаўляць па плыні ракі', перанос семантыкі на прыстасаванне, што дзейнічае, выкарыстоўваючы ток вады, параўн. рус. *плавная сеть* 'самаплаўная сетка', польск. *popław* 'плынь, ток вады'.

**По́плеч** 'у непасрэднай блізкасці, поруч, побач' (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Мядзв.; Нік. Очерки; Шат., Касп.,

Сл. ПЗБ, Бяльк.). Утворана па мадэлі *по* + назва часткі цела, аналагічна *по-бач* ад *бок*, *по-руч* ад *рука*, *по-плеч* ад *плячо*, літаральна ‘каля пляча’. Першапачаткова, магчыма, адвербіялізаваны назоўнік, параўн. польск. *pobocz* ‘абочына’, ‘месца на водшыбе’, даўнейшае ‘цуглі, лейцы’ (Брукнер, 423). Сюды ж таксама *паплечнік* ‘найбольш блізкі ў справе калега’, параўн. ст.-польск. *poplecznik* ‘памочнік воіна-рубакі, які стаіць у яго за спіной і бароніць ззаду’.

***По́плісак**, *по́плюсок*, *пу́плюсок* ‘невялічкая лужына, мелкаводдзе’ (ТС), укр. *по́плісок* ‘вялікая лужына пасля паводкі ці дажджу на месцы, зарослым травой’. Вытворнае пры дапамозе прыстаўкі *по-* ад альтэрнантных формаў *пліскаць, плюскаць* ‘пырскаць’ (гл.). Прыстаўка *по-* ў беларускай мове надае слову значэнне выніковасці ці нязначнай ступені праяўлення семантыкі ўтваральнага слова (Сцяцко, Афікс. наз., 241), аднак, ва ўкр. *поплісок* ‘вялікая лужына’, імаверна, першаснае **poplisk-* з міжкансанантнай устаўкай: **poplisъk-* > **poplisok-* > *поплісак*.

**По́пліска**, *по́плеска, по́плюска, по́пляска* ‘кій, палка’ (ТСБМ), ‘палка паганяць быдла’ (брэсц., Нар. словатв.), ‘абломак палкі; лёстачкі ў драбіне’ (Клім.), ‘дошка на нізе воза’ (гродз., Сл. ПЗБ; свісл., Сцяшк. Сл.), ‘стрыхоўка для раўнання страхі’, ‘дошчачка, якой раўняюць стагі (снапы ў стозе)’ (ст.-дар., шчуч., гродз., Сл. ПЗБ.), ‘рубель для прыціскання сена, снапоў’ (рэч., Мат. Гом.), ‘дошка, якую кладуць на ніз воза’, ‘аб худым чалавеку’ (гродз., З нар. сл.). Вытворнае ад імітатыўнага дзеяслова з варыянтным вакалізмам, зыходным з’яўляўся дзеяслоў *пляска́ць* (гл.) са значэннем ‘дзеянне, што сплюшчвае, робіць плоскім, раўняе’, магчыма, таксама ‘ўдар па плоскай паверхні’ ($Сной_1$, 456). Развіццё семантыкі ад ‘кій для сплюшчвання, выраўноўвання’ да ‘плоская дошчачка, палка’. Гл. таксама *папліска, пліска.*

**По́прадкі**, *по́прады* ‘вячоркі’, ‘збор дзяўчат у адну хату прасці’, ‘час дзявочых пасядзелак за калаўротам і прадзеннем’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Уладз., Шат.; ст.-дар., віл., Сл. ПЗБ; карм., нараўл., Мат. Гом.; в.-дзв., Шатал.; ТС; Бяльк.). Сюды ж таксама *по́прадка* ‘дзяўчына, што прыйшла да сваёй кумпанкі з кудзеляй, каб разам прасці’ (Варл.). Вытворнае ад *прасці* паводле агульнаславянскай мадэлі, параўн. рус. *посиделки*, польск. *pogawędki* ‘размовы’, славац. *posiedka* ‘тс’ і пад. Гл. таксама *папраду́ха*.

**По́прык** ‘невялікі, малы’ (карэліц., Сл. ПЗБ), *по́ўпрык* ‘малое дзіця’ (Скарбы), ‘надуты, упарты хлопец, непаседа’ (Некр.). Няясна. Калі за зыходную прыняць форму *поўпрык*, то з улікам лінгвагеаграфіі слова можна параўнаць з *паўпурык, паўпурак* ‘мера вагі’ (ЭСБМ, 8, 227), што звязана з літуанізмам *пур* (гл.); тады *поўпрык* > *попрык* ‘той, хто мала важыць’. Аднак пры гэтым нельга, відаць, разглядаць асобна ад *по́ўпрыца* ‘пупышка’ (гл.), што дазваляе звязваць названыя словы з назвай дэталі ў жорнах або млыне, параўн. ст.-бел. *полприца* < польск. *paprzyca* ‘частка ў млыне, жорнах’ (з XVI ст.) (Булыка, Запазыч., 236), гл. *паўпрыца*. Дадатковым аргументам можа быць падабенства семантыкі ў літ. *pumpùrė* ‘паўпрыца’ і *pumpuras* ‘пупышка’, а таксама выраз *як поўпрык перакідаецца* (Цых.), што перадае характэрныя рухі дэталі, параўн. балг. *пръприца, пърплица, пъприца*, чэш. *papřice*, серб. *прприца*, *паприца*, сярод значэнняў якіх і ‘юла, вяртушка’ ці ‘вяртун, непаседа, бутуз, карапуз; той, што паўсюль лезе, круціцца’, што выводзяцца з гукапераймання (Брукнер, 394; БЕР, 6, 825). Тады *поўпрык*, *попрык* — утварэнне м. р. ад першаснага слова ж. р.

**По́прыскі** мн. л. ‘трэскі’ (ТС). Вытворнае ад *пры́скаць, пы́рскаць* (гл.), параўн. *попырскі* ‘пырскі’ (навагр., Нар. словатв.), а таксама рус. дыял. *по́прыски* ‘адросткі на расліне, дрэве, парасткі’, *о́тпрыски* ‘парасткі, нашчадкі’, аналагічна да *побеги* ‘адросткі, парасткі’. Цікавае ў семантычным плане (‘трэск’ і ‘трэскі’) параўнанне са славен. *praskati* ‘трашчаць, рыпець’.

**По́прыч** ‘асобна, паасобку’ (Нас., Байк. і Некр.), *попры́ж* ‘тс’ (ТС), параўн. укр. *по́пріч* ‘насуперак’. Відавочна,звязана з *апры́ч* ‘асобна’ (Нас.), *апры́чна* ‘асобна, паасобку’ (Нас.), што разглядаюцца як вынік кантамінацыі з *апрача́* (гл.). Украінскае слова выводзяць з прыназоўнікаў *попри* ‘пры, насуперак, паўз’ і *пріч* ‘акрамя’ (ЕСУМ, 4, 519). З улікам формы *попры́ж* можна дапусціць сувязь з *пры́гаць, пры́жыць* ‘скакаць’ (гл.), параўн. *по́прыг* ‘асобна, паасобку’ (Нас.), *пры́жкі* ‘скакучы’, тады семантычна ідэнтычнае слову *адскок* ‘адыход, аддзяленне’ (гл. *адскока*).

**По́пур** ‘крывасмок’ (Шн. 2), рус. смал. *попуря* ‘мярцвяк, які з’яўляецца да жывых і мучыць іх’ (Шн. 2). Няясна. Фанетыка не дазваляе звязаць з *вупы́р*, *ву́пар* ‘тс’ (гл.).

**По́пуска** ‘вяроўка (у рыбалоўнай сетцы)’ (хойн., Мат. Гом.), *по́пусок* ‘вяроўка ў невадзе’, ‘вяроўка, за якую трымаюць і цягнуць сетку ў вадзе’ (ТС; жытк., Нар. словатв.), параўн. польск. *popust, popusta* ‘шнур у сетцы, што выкарыстоўваецца ў час лоўлі рыбы’. Імаверна, ад *папусціць* ‘паслабіць’ ці ‘дазволіць’, параўн. укр. *попуска́ти* ‘паслабіць’ і ‘дазваляць’, рус. *попускать* ‘дазваляць’, славац. *popustit’* ‘паслабіць’ і пад.

**По́пушкі** ‘пупышкі (люб., Сл. ПЗБ). Гл. *папу́ха.*

**По́пуха** ‘нізка лістоў тытуню’ (ТС). Гл. *папу́ша.*

**По́пыт** ‘патрабаванне на рабочую сілу, тавар, патрэба’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр.), укр. *по́пит* ‘запатрабаванне (тавару, асобы), патрэба; папулярнасць’, польск. *popyt* ‘запатрабаванне (тавару, асобы), патрэба, папулярнасць’. Насуперак Банькоўскаму (2, 702), які лічыць польск. *popyt* калькай ням. *Nachfrage* ‘тс’, можа разглядацца як самастойнае славянскае аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* і семантыкай выніковасці дзеяння ад *пытацца* (гл.), як і шэраг падобных утварэнняў, параўн. *набо́р, пада́так, паку́пка*, рус. *побо́р, поку́пка, по́дать,* польск. *pobór, podatek,* ст.-польск. *pokup, popłat, podaż*, чэш. *poptávka*, славац. *poplatok* ‘плата, збор’, славен. *poprašanje* ‘запрос, пытанне, апытванне’, *poplača* ‘заробак’, *popúst* ‘зніжка’, якім адпавядаюць рознапрыставачныя, у тым ліку беспрыставачныя формы з ням мовы: *Kauf* ‘пакупка’, *Lohn* ‘заробак’, *Befrage* ‘запрос’, *Unterlass* ‘зніжка’ і інш. У першасным значэнні *попыт*, імаверна, азначала ‘запытанне, распытванне пра належнасць тавару’.

**Пор** ‘галоўка цыбулі’ (Сцяшк. Сл.), *пора*: *пайшла ў гарод па салеру і пору* (Наша Ніва, 2002, 20 верас.). Звычайна абазначае ‘цыбуля-парэй, Allium porrum L.’, параўн. польск. *por*, чэш., славац. *pór*, што з лац. *porrum* і *porrus* ‘тс’.

**По́ра** ‘маленькая адтуліна на скуры, сітавіна, кіпра’ (РБС). Запазычана ў славянскія мовы, у тым ліку іншыя еўрапейскія з лац. *porus* < грэч. πόρος ‘шлях праз нешта, праход’ (Махэк$_1$, 384), магчыма, праз ням. *Pore* ‘маленькая адтуліна на скуры’ (Сной, 472), рус. *по́ра*, польск. *pora*, чэш. *pór*, славен. *pora* ‘тс’, літ. *porà* ‘тс’. У беларускай, імаверна, праз рускую, дзе праз нямецкую (з XVIII ст.) (Фасмер, 3, 328; Цыганенка, 318). Роднаснае лац. *porta* ‘вароты’, *portus* ‘порт, гавань’ (Цыганенка, 318).

**По́рад** ‘радавая спадчына’ (Варл.). Да *род* (гл.).

**Пóрах₁** ‘пыл’, ‘парушынка’, ‘прах’ (Нас., Нік., Уладз., Байк. і Некр.; круп., Сл. ПЗБ), укр. *пóрох* ‘тс’, рус. дыял. *пóрох* ‘тс’, польск. *proch* ‘пыл’, *prochy* ‘астанкі’, славац. *prach* ‘пыл’, чэш. *prach* ‘тс’, славен. *prah* ‘пыл’, *pȓh* ‘пыл; попел’; ‘плесня’, серб.-харв. *prâh* ‘тс’, балг. *прах* ‘пыл, парашок’, макед. *прав* ‘тс’, ст-слав. прахъ ‘тс’. Прасл. **porxъ* ‘пыл’, вытворнае ад варыянтнай асновы **porx-* /**pъrx-* / **pьrx-* < і.-е. **pers-* / **porso-* ‘марасіць’ > ‘пырскаць’, ‘дробна сыпаць, абсыпаць’, прадстаўленай таксама ў *персць* ‘шчопаць’ (гл.), рус. дыял. *персть* ‘пыл, прах, зямля’, укр. *персть* ‘зямля’, балг. *пръст* ‘зямля, попел, прах’. Гл. *пóрскаць, парахня, парахно.* На падставе славен. *pȓh* ‘пыл’ Сной₂ (573) супрацьпастаўляе прасл. **pьrxъ*, якое звязваецца з **pьrati* ‘ляцець’, што неабавязкова, гл. Куркіна, Этимология—1994—1996, 199.

**Пóрах₂** ‘выбуховае рэчыва’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Бес., Нас., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), укр. *пóрох*, рус. *пóрох*, польск. *proch (strzelniczy)*, запазычанае літ. *pãrakas* ‘тс’. Тэрміналагізаванае ўтварэнне на базе *порах₁* (гл.) з поўнагалоссем, што не ўласціва паўднёваславянскім мовам; звязана з дамешкай у склад выбуховага рэчыва вугальнага пылу, парашку. У ст.-бел. з XVI ст., у рус. сустракаецца з канца XVI — пачатку XVII ст. (Чарных, 58; Цыганенка, 319—320).

**Пóрацца**, *пóрыцца* ‘працаваць у хаце, па гаспадарцы’ (нараўл., Арх. ГУ; Сл. Брэс., Ян., ТС; брагін., Нар. словатв.), ‘корпацца’ (Мат. Гом.), *пóранне* ‘работа на гаспадарцы’ (Ян.). Прасл. **porati sę* ‘знаходзіцца ў руху’, параўн. укр. *пóратися* ‘працаваць, гаспадарыць, прыбіраць’, польск. *porać się* ‘клапаціцца, круціцца ў працы, рабіць старанна і доўга’, чэш. *párati se* ‘рабіць чорную, брудную работу’, чэш. дыял. *párat se* ‘капашыцца, працаваць павольна’. Казлова (Регионализмы, 11) выводзіць з прасл. дыял. **porati* ‘дзейнічаць, рабіць’, рэканструяванага на базе н.-луж. *poraś* ‘прывесці ў рух’ (Трубачоў, Серболуж. сб., 168); параўноўваюць з рус. *отпóр* ‘адпор, супраціў’, *порнóй* ‘моцны, здаровы’, што ўзыходзіць да **perti* (гл. *перці*), гл. Шустар-Шэўц, 2, 1134. Куркіна (Этимология—1994—1996, 53) выводзіць з **porati*, ітэратыў да **porti* ‘пароць’ з далейшым развіццём ‘нешта рабіць, займацца, корпацца’, што падаецца больш верагодным. Бань-

коўскі (2, 703—704) польск. *porać się* 'працаваць па дому' лічыць запазычаннем з усх.-слав. Гл. таксама *поркацца, поркаць.*

**По́рва** 'разрыў', 'разрыў унутранных органаў ад вялікага напружання', 'надрыў' (Нас., Байк. і Некр., Юрч. Вытв.), *по́рвішча* 'цяжар' (Юрч. Вытв.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння. Да *рваць* (гл.).

**По́ркацца** 'корпацца, капацца ў чым-небудзь', 'рабіць марудна', 'марудна збірацца' (ТСМБ, Нас., Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк.), 'ухаджацца (па гаспадарцы)' (Ян.), 'варушыцца' (петрык., Мат. Гом.); сюды ж *по́ркла, парка́ч* 'няўмелы, гультай' (міёр., З нар. сл.). Гл. *порацца*, *поркаць.*

**По́ркаць** 'тыкаць, пароць' (ТСБМ, Нас., Шат.), 'калупаць', 'рыць, рыцца' (Янк. 3, Нас.; брасл., Сл. ПЗБ), 'ныраць' (ельск., Мат. Гом.), 'падкопваць бульбу, не вырываючы націння' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Імаверна, утворана з экспрэсіўным суфіксам *-к-* ад *пораць, порацца* (гл.), магчыма, аналагічнае да *торкаць* (гл.) 'капаць, калупаць, тыкаць', параўн. гукапераймальныя варыянты **prk- / *trk-*, для якіх зыходным падаецца семантычнае тлумачэнне Сноя (684) 'удар аб нешта цвёрдае'. Гл. *по́ркацца.*

**По́рплік**, экспр. пра малога, недарослага (шарк., Цыхун, вусн. паведамл.). Да *парпліца* (гл.), гл. таксама *попрык* 'тс'.

**По́рскаць** 'фыркаць, як конь', 'паказваць незадавальненне', 'чыхаць', 'фыркаць са смеху' (Касп., Нас., Байк. і Некр.; віл., беласт., Сл. ПЗБ), *порс!* — для перадачы фыркання, чыхання і пад. (Нас.). Прасл. **pъrskati*, утворанае ад гукапераймання з асноўнай семантыкай 'пырскаць; фыркаць', што адлюстравалася ў варыянтнай аснове **porx- / *pors - / *pъrsk-* (Куркіна, Этимология—1994—1996, 48), параўн. укр. *по́рскати* 'тс', рус. *по́рскать* 'пырскаць', 'фыркаць са смеху', польск., в.-луж. *porskać* 'фыркаць, пырскаць', н.-луж. *porskaś* 'тс', чэш. *prskati* 'тс', славац. *prskat'* 'тс', *pŕchat'* 'крапіць', славен. *prhati* 'пырскаць'. Роднасныя і.-е. формы — літ. *pùrst* 'пырх', *purslas* 'слінная пена', *purkiti*, *purkšti* 'фыркаць, пырскаць, імжэць', лат. *pùrskât* 'фыркаць, пырскаць, імжэць', ст.-ісл. *fors* 'вадапад', хец. *papparš* 'пырскаць, апырскваць', ст.-інд. *pŕsat-* 'кропля', тахар. A, B *pärs-* 'пакрапіць', што ўзыходзяць да і.-е. **pers- / *porso-* 'марасіць' > 'пырскаць', 'дробна сыпаць, абсыпаць' (Фасмер, 3, 333; Бязлай, 3, 119; Сной, 496; Шустар-Шэўц, 1137).

**По́рсткі** 'хуткі, жвавы' (ТСБМ, Некр.), 'гарачы, прыткі' (слонім., Арх. Бяльк.), 'запальчывы' (калінк., Мат. Гом.), 'які балюча рэагуе на заўвагі ці парады' (докш., Янк. Мат.; Янк. 1, Шат., Ян.), 'наравісты (пра жывёлу)' (чэрв., Сл. ПЗБ), *по́рскі* 'хуткі' (Мат. Гом.). Хутчэй за ўсё, да *порскаць* (гл.) пад уплывам семантыкі 'незадаволена рэагаваць'; 'фыркаць', што суадносіцца і са значэннем 'пырхаць', параўн. літ. *pur̃st* 'пырх', укр. *порски́й* 'хуткі, жвавы (пра каня)', *порськи́й* 'тс', гл. ЕСУМ 4, 528.

**По́рт₁** 'прыстань, месца для прыходу і стаянкі караблёў' (ТСБМ, Ласт.); ст.-бел. *портъ* 'тс' (з XVI ст.), што, паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 122; Запазыч., 253), са ст.-польск. *port* (з 1471 г.), якое ад лац. *portus* 'тс' (Банькоўскі, 2, 706). Не выключана другаснае запазычанне праз рус. *порт* з ням. *Port* або франц. *port* 'тс'.

**По́рт₂** 'льняная, канапляная або баваўняная тканіна ці пража', 'тканіна з ільняных ці пяньковых нітак' (ТСБМ, Нас., Уладз., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, ТС), 'кудзеля, чэсаная напалам — воўна з лёнам' (Бяльк., Байк. і Некр.), 'пах ад гарэлага адзення з лёну' (Нас., Байк. і Некр.), 'рэшткі спаленай анучкі' (Скарбы), ст.-бел. *портъ* 'тканіна; адзенне': *портъ царскыи* (Альтбаўэр, 165), сюды ж *по́ртны, по́ртавы* 'парцяны' (хойн., Мат. Гом.; Байк. і Некр.), *по́рця* 'бялізна' (гродз., шчуч., Сл. ПЗБ), *по́рце* 'тс' (Сцяшк. Сл.); параўн. укр. *порт* 'канапляная або льняная нітка ў ваўнянай тканіне', рус. *порт* 'ільняная або баваўняная тканіна', ст.-рус. *пъртъ* 'кавалак тканіны; шматок; пялюшка', польск. *part, parć* 'адрэз тканіны на адзенне', славен. *pŕt* 'кавалак палатна; прасціна', харв. *pȑt* 'адзенне з лёну', серб. *пр̏тен* 'ільняны', балг. *пъртуши́на* 'паношаныя апранахі', ст.-слав. прьтъ 'кавалак палатна'. Прасл. **pъrtъ* выводзяць з **porti* 'пароць' (Фасмер, 3, 334); можа разглядацца як аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння ад **rūti* > **ryti* / **rъvati* > **po-rъtъ* 'тое, што адрэзана, адарвана' > 'тканевы адрэз, шматок'. Першасным для *порт* можна дапусціць значэнне 'адрэз сукна', ці, як падае Сной (511), — 'адарваны кавалак тканіны'. Малаверагодна роднаснасць з літ. *spartas* 'завязка' і грэч. *σπάρτος* 'расліна, з галін якой скручвалі вяроўкі', параўн. Бязлай 3, 130.

**По́ртачка** 'зрэбны, палатняны ніз у кашулі' (баран., ваўк., Сл. ПЗБ), *по́ртычка* 'прарэх у сарочцы' (бабр., КЭС). Звязана з

назвай тканіны *порт* (гл.) і матывывана значэннем ‘кроіць, разразаць’, адсюль значэнне ‘прарэх’.

**По́ркі** мн. л. ‘штаны, летнія штаны’, ‘нагавіцы з саматканага сукна’, ‘гаці’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл.; гродз., зах.-мін., ДАБМ, к. 326; Мал., Малч., Касп., Сл. ПЗБ, Ласт.), ‘кальсоны’ (Мат. Гом.), ст.-бел. *порты* ‘шаты, адзенне’: *и подрал мордохаи порты свои* (Альтбаўэр, 159), *поръты* ‘назва для споднiх палатняных штаноў’ (Сл. Скар.), рус. *портки́* ‘тс’, польск. *portki, porciaki, porty, portasy* ‘мужчынскія звычайныя штаны’, ‘шырокія штаны’, ‘абы-якія мужыцкія штаны’, ‘шляхецкія штаны мясцовага крою, у адрозненні ад замежных’, ‘два камлі дрэва з аднаго кораня, вілы’, ‘сцёгны нагі’. Усходнеславянскае ўтварэнне ад *порт₂* (гл.); адсюль, хутчэй за ўсё, цюрк. *pyrty* ‘зношанае, парванае адзенне, лахманы, шмаццё’. Аг.-польск. *portki* лічыцца запазычаннем з усх.-слав., бо замест **partki* Банькоўскі (2, 706) адзначае з’яўленне польск. *portki* ў XVI—XVIII стст. Мабыць, *порты, порткі* ў першасным значэнні ‘сшытыя два кавалкі порта без дадатковага крою’ з выразнай канатацыяй ‘простае адзенне’, ‘адзенне простага чалавека’, параўн. рус. дыял. *по́рты / порты́* ‘сшытае палатно, сшыты порт’, ‘шматы’, польск. *portka* ‘доўгі і вузкі мяшэчак, падобны да калашыны’: *pszenica w portkach.*

**По́руб₁** ‘сутарэнне’ (Гарэц.), рус. *по́руб* ‘калодзежны зруб’, ‘яма, каталажка, вязніца, астрог’, польск. *porębina* ‘сцены, што акружаюць кош у млыне’. Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння, хутчэй за ўсё, да прасл. **rǫbiti* ‘сячы, высякаць’. Ст.-польск. *porubie* ‘вязніца’ без насавога галоснага можа быць усходнеславянізмам ці чэхізмам, параўн. польск. *rąbać*. Паводле Зубатага (Зубаты, Studie, 1, 360—363), чэш. *ruby* ‘кавалкі, акрайкі тканіны’, *obruba* ‘верхняя частка калодзежа’, ‘кром стала’ звязаныя з шырокім значэннем ‘край, кром’, параўн. таксама славен. *paróbek* ‘узлесак, край лесу’. Адсюль *поруб* магло азначаць: ‘забудова ці памяшканне на ўскраіне, збоку’, ‘сумежнае памяшканне’ ці ‘яма, падобная на зруб калодзежа, што служыла вязніцай’.

**По́руб₂** ‘парубка’ (добр., Мат. Гом.), рус. *пору́бка* ‘патаемная высечка лесу’, польск. *poręba, porąb, poręb* ‘месца ў лесе, дзе высякаюць дрэвы’, ‘гай’, ‘пасечаныя на дровы дрэвы’, *porębisko,*

*porębowisko*, *poręb* 'месца пасля вырубкі лесу', 'агароджанае месца ў лесе для пасекі', славац. *porub* 'парубка лесу'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння ад *рубаць* (гл.) < прасл. **rǫbati*.

**Поруч** 'побач, поплеч, рука пры руцэ' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр., Мал.; слонім., Арх. Бяльк.; навагр., Сл. ПЗБ; ТС, Шат., Федар.), *паручкі* 'тс' (Шат.), укр. *поруч* 'тс', ст.-польск. *porącz* 'побач, у адзін рад'. Адвербіялізаваны назоўнік, утвораны пры дапамозе прыстаўкі *по-* ад назоўніка *рука* са значэннем месца адносна ўтваральнага слова **porǫkjь* < **po-rǫka* даслоўна 'які знаходзіцца каля рукі, пад рукой' альбо 'апора, памагаты', параўн. *поручань* 'брусок пры лесвіцы, уваходзе, дзвярах, за які трымаюца рукамі, парэнчы' (ТСБМ), рус. *порука, поручательство* 'падтрымка', польск. *poręcz* 'падпора для рук, выступ, рэйка, па якой пасоўваецца рука пры хадзьбе па сходках', славац. *poruke* 'побач, пад рукой'. Гл. таксама *побач, поплеч*.

**По́ручні** 'апора для рук, парэнчы' (ТСБМ). З рус. *поручни*, параўн. адпаведнік для апошняга *поручы* 'тс' (Некр. і Байк.).

**Порх** 'калодачка для гульні, падобнай на хакей': *кочалі порха коцубою* (ТС). Няясна.

**По́рхаўка**, *порхолка, порхыўка, пурхаўка* 'шарападобны грыб, мякаць якога, высыхаючы, пераўтвараецца ў цёмны пыл, *Lycoperdon gemmosum Batsch'* (ТСБМ, Нас., Янк. БП, Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Байк. і Некр., Сержп.; слаўг., гарад., Яшк.; Ласт, Станк., Шат., ЛА, 1), *порхва* 'тс' (Сцяшк. Сл.; стаўб., бераст., Яшк.), *порахаўка* (маст., жыт., Яшк.), укр. *порхавка, порховка*, рус. дыял. *порховка*, польск. *purchawka* 'тс', в.-луж. *porchawa*. Прасл. **pъrxavъka*, вытворнае ад **pъrxavъ(jь)* 'які ператвараецца ў пыл' (ЕСУМ, 4, 532), што ўзыходзіць да асновы **pъrx-//*porx-*, якой уласціва шырокая семантыка 'пыл', 'цвіль', 'порскаць', 'пырскаць', 'кідаць', 'сыпаць'. Параўн. балг. *пърхова гъба* 'Lycoperdon bovista' (БЕР, 5, 10). Варыянт пераноснага ўжывання з поўнагалоссем — *порохоўка* 'рыхлы, тоўсты чалавек' (ТС), гл. *порах$_1$*; у польск. — нерэгулярнае развіццё **purx-* з лабіялізацыяй пасля губнога.

**По́рцыя** 'пэўная колькасць чаго-небудзь' (ТСБМ), 'луста хлеба' (Нас.), 'чарка' (Дразд.; Нас.; пін., Сл. ПЗБ), 'частка' (Ласт.),

*пóрца* 'тс' (Федар.; Шат.), 'шклянка; невялікая шклянка на гарэлку' (бяроз., Сл. ПЗБ; палес., З нар. сл.). Параўн. рус. *порция* 'пэўная колькасць, доза', 'чарка гарэлкі'. Лацінізм, ад лац. *portio* 'частка', у Ластоўскага (Ласт., 513) адзначаецца як запазычанне з франц. Імаверна, звязана з аптэкарскай тэрміналогіяй, адсюль магло засвоіцца непасрэдна з лаціны.

**Пóрч** 'шкода; псаванне', м. р. або ж. р. (ТС; петрык., Мат. Гом.; Юрч. Вытв.), *пóрча* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ; ТС). Укр. *пóрча*, рус. *пóрча* 'тс' выводзяць з *спортúти*, *пóртить* 'псаваць' (ЕСУМ, 4, 533; Фасмер, 3, 337), сюды ж польск. *parcieć* 'сохнуць, вянуць (пра садавіну і гародніну)' і 'прарастаць у вільгаці і цяпле', што дазваляе рэканструяваць прасл. **pъrtiti* 'псаваць'. Сувязь з *пароць* (гл.) (Міклашыч, 243; Фасмер, 4, 335) непрымальная. Імаверна, роднаснае да *прэлы, спёрты, заперці, запор* (гл.). Параўн. ст.-рус. *прътити* 'патраціць, не захаваць', славен. *prtíti* 'пакаваць'. Сной (512) звязвае апошняе з *порт* 'тканіна, перавязь' (гл. *порт₂*). Параўн. таксама літ. *pir̃sti* 'гніць', *pìrtiti* 'трасці, боўтаць', *perė́ti* 'выседжваць птушанят'. Корань захаваўся ў **za-pъrt-ъkъ*, параўн. укр. *запóрток*, польск. *zapartek* 'яйка-баўтун', 'тухлае, сапсаванае яйка', параўн. рус. *испорченное (яйцо);* адсюль першаснае значэнне 'тое, што сапрэла, сапсавалася ў закрытай прасторы'.

**Пóрша** 'адходы ад воску' (паст., Сл. ПЗБ). Не зусім ясна. Хутчэй за ўсё, звязана з *поршы* 'парша' (гл.), параўн. польск. *parch* 'лускавінка, струп', што ўзыходзіць да **pъrxъ* ад **pъrxnǫti* 'лушчыцца', параўн. Банькоўскі, 2, 500. Параўн. *парх* (гл.).

**Пóршань** 'дэталь рухавіка, помпы, кампрэсара' (ТСБМ). Як тэхнічны тэрмін, імаверна, з рус. *поршень* 'тс'. Праабражэнскі (2, 111) звязвае з семантычным гняздом рус. *пóрхать* (гл. таксама КЭСРЯ, 357), можа, у сувязі з функцыяй помпы ці распыляльніка, што, аднак, няпэўна. Трубачоў у Фасмера (3, 337) не бачыць падстаў аддзяляць ад *пóршень* 'сялянскі абутак з аднаго кавалка скуры', гл. *поршні*. Можна выказаць здагадку пра зыходнае **порушень*, што ад *рухаць, рухацца,* параўн. варыянтныя назвы абутку рус. дыял. *поршень / порушень / порошень*. Адсюль варыянт *поршань* як дэталь рухавіка, звязаны з рухам, а не з распырскваннем. Параўн. бел. *парýханы* 'ўзняты, патурбаваны', *парýхлівы* 'рухлівы, хуткі', *парушáцца* 'рухацца з месца',

*пару́шыць* ‘крануць, зрушыць, пасунуць’ (Байк. і Некр.), славен. *porušenje* ‘тачэнне’ і ‘тачылка’. Тады **po-rux-ěnь* ‘тое, што рухаецца, соўгаецца, хутка працуе’, параўн. літ. *rušus / ruošus* ‘дзейны’, *raũsti* ‘рыць, капацца’, лат. *rušinât* ‘тс’, *rùoss* ‘рухлівы, спраўны’, нова-в.-ням. дыял. *ruscheln* ‘хутка працаваць’.

**По́ршаўлі** мн. л. ‘грузды’ (Сцяшк. Сл.). Імаверна, роднаснае да *порхаўка* (гл.), звязанае з *порхлы* ‘рассыпісты’ ці з іншымі значэннямі слоў з аднаго гнязда з коранем *порх- / порс-*, такімі, як ‘сыпаць, кідаць’, ‘прарастаць’, ‘выскокваць’, ‘даваць парасткі’, ‘лушчыцца’, параўн. рус. дыял. *по́ршни* ‘высыпка прышчоў на твары’, чэш. дыял. *perša* ‘рабацінне’ (Мяркулава, Этимология—1970, 154). Магчыма, балтызм, параўн. літ. *purslas* ‘пеністая сліна’, *pur̃sti* ‘разбухаць’ і пад.

**По́ршні** мн. л. ‘абутак з кавалка ялавай або свіной сырамятнай скуры’ (ТСБМ, Анім.), рус. *по́ршни, по́ру́шни* ‘абутак, зроблены з загнутага кавалка скуры з поўсцю’, ‘гатунак абутку з адрэзанага кавалка скуры, сандалі’, *по́рошень* ‘тс’. Не зусім ясна. Фасмер пагаджаецца з Сабалеўскім (Фасмер, 3, 337), выводзячы слова ад *порт* > *порчни* > *поршни* (гл. *порт₂*); Вахрас (Наим. об., 161) зближае рус. і бел. *поршни/ поршні* з *порхлый/ порхлы* ‘рыхлы, мяккі’, што падаецца семантычна далёкім, аднак уключае названыя словы ў шырокае гняздо прасл. **pъrxъ* ‘россып; бухматасць’. Малаверагодным падаецца старажытнае германскае запазычанне, бо падабенства (гл. Лявіцкі, 2, 98) прасочваюцца ў ням. *Borste* ‘шчацінне, шчэць’, дзе другую частку слова можна звязаць з *Riester* ‘кавалак скуры для рамонту абутку’, дац. *ros* ‘абрэзкі’, нарв. дыял. *rus* ‘шкарлупінне, скурка’, ст.-ісл. *hold-rosa* ‘мяса са скурай’, ням. *rauh* ‘шурпаты, грубы, неапрацаваны’, англ. *rough* ‘тс’, ст.-англ. *rūh* ‘пакрыты валасамі’. Тады *поршні* — утварэнне з прыстаўкай *по-* ад **-rug- / *-rъg* > **-ruz- / *-rъz-* >**-rus- / *-rъs-*. Паводле Краўчука (Бел.-укр. ізал., 37), рус. *по́ршни* ‘від прымітыўнага абутку’ разам з *бо́ршни* ‘чаравікі з аднаго кавалка скуры без падэшваў і абцасаў’ праз рус. смал. *борсни́* ‘скураныя пасталы’, бел. *барсні* ‘лапці з пяньковых вяровак’ узыходзяць да *барсаць* (гл.).

**По́ршы** мн. л. ‘парша’ (Шат.; лях., Сл. ПЗБ), ‘парша, шалуды’ (Байк. і Некр.), ‘перхаць’ (Юрч. СНЛ), сюды ж *пархаты* ‘што мае паршу; вашывы, якія чэшацца’, рус. дыял. *перх* ‘перхаць’,

польск. *parch*, каш. *pjëřx*, н.-луж. *parch* 'кароста', славен. дыял. *pȓh*, параўн. таксама лац. *porgō / porrīgō* 'струп, перхаць'. Першаснае значэнне 'тое, што сыплецца', прадстаўленае ў роднасных *порскаць / пырскаць* 'кідаць, сыпаць, цярушыць' (Мяркулава, Этимология—1970, 153, 154, 170). Вытворнае ад прасл. **pъrx-* > **pьrx-* > **porš-*, гл. *перхаць*.

**По́рэзь** 'рэдзь у трыгубіцы' (ТС). Відавочна, з *по-рэдзь* < *рэдкі* (гл.).

**По́сад** 'посуд, пасуда' (беш., Касп.). Відаць, з *посуд*, дыялектная мена *у* > *а* (Карскі, 1, 247), хаця магчыма кантамінацыя з маёмасным паняццем, параўн. польск. *posiad, posiadło* 'маёмасць'.

**По́садзь** 'від падаткаў у ВКЛ з 1484 г.', ст.-бел. *поседь, посѣдь*, укр. *посідь*, польск. *posadź* (з 1632 г.) 'тс'. Няма падставы меркаваць, што слова прыйшло з літ. *posėdis* 'тс' (так Яблонскіс, гл. Непакупны, Мовознавство, 1970, 6, 30; Лаўчутэ, Балтизмы, 94), хутчэй, наадварот: утварэнне пры дапамозе прыстаўкі **po-* (гл. *по-*) ад кораня **sěsti* < **sědti* з семантыкай 'уласнасць, маёмасць, набытак', параўн. *посе́сці* 'сесці, заняць месца; атрымаць' (ТС). Паводле ЕСУМ (4, 535), укр. *по́сід* 'уласнасць, валоданне' — калька з польск. *posiadać* 'мець, валодаць', што ўзнікла на базе лац. *possideo* 'валодаю, маю', роднаснага *posiadać* 'сесці, заняць месца', што, паводле Банькоўскага (2, 711), калькуе ням. *bezitzen*; фанетыка пад уплывам *пасадзіць/ posadzić*, параўн. таксама славац. *posadnúť'* 'ахапіць, завалодаць'. Прыстаўка *па-* (*по-*, *po-*) часта ўжываецца для ўтварэння назваў аплаты — бел. *паземшчына*, рус. *подать*, польск. *pogłówne*, славац. *poplatok* 'абавязковая плата'. Параўн. *пасаг, посах*$_2$ (гл.).

**По́сарам** 'сарамнавата' (Нас.), параўн. укр. *посоро́мити* 'выставіць на сорам', польск. *posromić* 'зняважыць, зняславіць, выставіць на сорам', ст.-польск. *posromać* 'прысароміць'. Адвербіялізаванае ўтварэнне ад *пасаро́міць* 'пасарамаціць; знясла-віць', гл. *сорам*. Падобным чынам у кантэксце адвербіялізаваўся польск. *wstyd* 'тс'. Прыстаўка *по́-* надае значэнне меншай ступені праяўлення якасці, параўн. *по-мала* 'малавата', *по-многа* 'многавата', *по-ценко* 'танкавата' (Нас.).

**По́сах**$_1$ 'доўгі кій, на які апіраюцца пры хадзьбе; жазло святара' (ТСБМ), *по́сох* 'кіёк, палка', 'прылада, якой палохаюць і

заганяюць рыбу ў сетку' (ТС), ст.-бел. *посохъ* 'кій' (Сл. Скар.), укр. *пóсох*, рус. *пóсох*, ц.-слав. *посохъ*, ст.-слав. посохъ 'тс'. Вытворнае ад **soxa* 'расоха, разгалінаванне', што дае падставы рэканструяваць першаснае значэнне 'палка з загнутым канцом' (Праабражэнскі 2, 113). Гл. *сахá.*

**Пóсах₂**, *пусóх* 'яйка (наседжанае)' (хойн., Мат. Гом.). Відавочна, таго ж паходжання, што і *пасáг* (гл.), рус. *посáг*, польск. *posag*, чэш. *posah* 'тс'. Насуперак прынятай этымалогіі, якая ўзводзіць *пасаг* да **sōg-os*, што звязана з літ. *ségti* 'прышпільваць, далучаць' (Махэк₁, 385; Фасмер 3, 338), мэтазгодна ўзводзіць да прасл. **sědti* > **sěsti*. У Брукнера (432) побач з усходнеславянскім *посаг* 'месца, дзе маладая сядзіць падчас шлюбнага абраду' адзначаецца і варыянт *посад*, што лічыцца другасным, памылковым. Тым не менш, *посаг* і *посад* могуць быць варыянтамі адной формы, параўн. укр. *осуга* 'асадак', рус. *осяжать* 'асядаць (пра асадак)', вытворнае ад дублетных форм **sięg- / *sied-* і **sąg- / *sad-* (Анікін, Этимология—1983, 48), сюды ж ц.-слав. *посагати*, ст.-рус. *посагати* 'выходзіць замуж'. Такім чынам, гэта аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* ад **sěsti*. Форма *пóсох* — вынік гіперправільнага окання ў корані *-саг-*. Гл. *пасáг*. Відаць, не мае падстаў меркаванне Кліменкі (Язык, слово, действительность, 1, 139), якая звязвае *пóсах* 'яйка (наседжанае)' з рэліг. святам *Пасха* і магчымымі трансфармацыямі гэтай назвы.

**Пóсвет**, *посвéт, посвэт, пасвéт* 'камінок пры печы' (ельск., Хрэст. дыял.; мазыр., Шн. 3), 'лучнік, жалезная рашотка, дзе гарэла лучына, асвятляючы хату' (Эрэм., Нікан., ТС; лун., Шатал.), *пóсвіт* 'лоўля рыбы на святло' (нараўл., Мат. Гом.), укр. *посвіт* 'святло, агонь', рус. пск., цвяр. *посветец* 'лучнік', польск. дыял. *poświat, poświt* 'асвятленне пры лоўлі рыбы'. Утварэнне з прыстаўкай **po-* ад **světiti* са значэннем выніку дзеяння; у польскай — з палескіх ці ўкраінскіх гаворак. Гл. *свет, свяцíць.*

***Пóсвістал₁,** бяроз. *пóсвыстол, посвыстóл*, брэсц. *пóсвыстэл* 'свісток', 'распуснік' (Сл. Брэс., Шатал.), *пасвісцёл* 'дудка, жалейка' (Арх. Бяльк.), *пасвісцёлка* 'тс', 'свісток' (Сцяшк. Сл.), *пасвíстушка* 'тс' (Нас.). Аддзеяслоўная назва прылады ці выканаўцы дзеяння, утвораная пры дапамозе прыстаўкі *по-* і суф. *-л-* ад *свістаць* (гл.). Мадэль, якая часта сустракаецца ў антрапонімах —

мянушках і прозвішчах, параўн. рус. *посмотрил* 'той, хто падгледзеў', *пострелил* 'той, хто стрэліў' (Анамасцікон, 59), польск. *Pomagiel* — прозвішча ад мянушкі са значэннем 'памагаты, памочнік', чэш. *Pospíšil*. Значэнне 'распуснік' аналагічнае польск. *fujara / fujarka* 'дудачка, жалейка' і *ten fujara* 'расцяпа, недарэка'.

***По́свісталь**$_2$, *по́свістол* 'дуднік лясны, *Angelica silvestris L.*' (ТС), назва матывавaная формай сцябла, што нагадвае дудку ці свісток. Да *посвісталь$_1$* (гл.), *свісцець*.

**По́седам**: *сядзець поседам* 'доўга, не ўстаючы, сядзець' (ТСБМ). Ад *пасядзець, сядзець* (гл.), параўн. польск. *posiad* 'прысест, пасяджэнне'. Экспрэсіўнае ўтварэнне тыпу *подбегам бегчы, поедам есці* і пад.

**По́сеўка** 'посцілка'. Імаверна, звязана з сумежнымі функцыямі кавалка тканіны, у тым ліку выкарыстанне для пасеву (яго па даўжыні завязвалі на плячы, ствараючы на баку кішэнь для зерня). Адсюль, магчыма, *посеўка* 'кавалак палатна, які можна было пасцяліць ці выкарыстаць для пасеву', параўн. польск. *posiewnica, siewnica* 'сеўнік'.

**По́сець** 'хвароба, пошасць' (ТС). Імаверна, першаснае *посесць* ці *поседзь* (у фанетычным запісе слова адбілася аглушэнне канцавога зычнага) ад *посе́сці* 'набыць' (ТС), параўн. польск. *posiadać* 'мець пры сабе', адсюль *посесць / поседзь* 'набытая хвароба'; падобным чынам славен. *nahod* 'хвароба' 'тое, што найшло, з'явілася'. Тады да *сесці*, *сядаць* (гл.). Параўн. таксама славен. дыял. *pošast* — тое, што і *nahod* 'хвароба, запаленне, насмарк, катар', аналагічна, як і *пошасць*, утворана ад **pošedti*, таксама каш. *pošedło* 'зараза' (Куркіна, Диал. структура, 171). Не выключана таксама, што гэта эўфемізм ад **sětь* 'госць', параўн. рус. *посетить* 'наведаць', ст.-сл. посѣтити 'тс'.

**По́сік** 'надуты мачавы пузыр свінні, якім гуляюць дзеці, альбо з якога робяць капшукі' (гродз., Мат. АС.; Бір. Дзярж.; Сцяшк. Сл., Шат., Сл. ПЗБ, Скарбы), драг. *по́сюх* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), 'мачавы пузыр' (Клім.), 'канал ад мачавога пузыра' (Сержп. Грам.); параўн. таксама рус. сіб. *по́сик* 'вонкавы мачавод самца', чэш. *posek* 'палавы член быка', славац. *pasek* 'тое ж у быка, каня, барана'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *сікаць* (гл.) з прыстаўкай *по-* і семантыкай выніковасці дзеян-

ня, даслоўна 'вынік сікання' ці 'тое, што пырскае, сікае'. Версія Махэка$_2$ (473) аб прасл. **pes-ъkъ*, родн. да лат. *pēnis* 'пеніс, чэлес', грэч. *πέος, πόσϑη* 'тс', ст.-інд. *pásas* 'тс' непрымальная.

**По́сілка,** *по́селка, по́сялка, (в)о́сілка, по́сілно* 'дужка вядра з вяроўкі, дроту або скручанай лазы' (Янк. 1, Шат., Мат. Гом.; петрык., Шатал.; чэрв., дзярж., Сл. ПЗБ; Байк. і Некр.; карэліц., 3 нар. сл.), 'вяроўка ў калысцы для калыхання рукой ці нагой', 'вешалка ў адзенні', 'почапка ў торбе' (чэрв., пух., Сл. ПЗБ), 'кавалак моцнай сырамяці, што чапляецца да пугаўя' (Варл.), польск. сен. *osiłki, usiłki* 'дужка ў вядры'. З літ. *ąsẽlė, ūsẽlė* 'вушка, пятліца' < *ąsà* 'вушка ў посудзе, пятля' (Зданцэвіч, LP, 8, 345; Лаўчутэ, Baltistica, 6 (2), 201; Лаўчутэ, Балтизмы, 48; Непакупны, Kalbotyra, 25 (2), 76). З'яўленне *п-* няяснае, магчыма, пад уплывам *почапка* (гл.). Гл. *во́сілка.*

**По́сканне** 'мужчынскія каноплі, Cannabis sativa mascula' (бярэз., Сл. ПЗБ). Гл. *паскані́* 'тс'.

**По́скудзь** 'нягоднік' (Варл.), 'брыда' (Стан.), 'нечысць' (Байк. і Некр.), *по́шкудзь* 'гнюс', 'благі чалавек' (стаўб., Сл. ПЗБ). Гл. *паскуда*; сумненні ў традыцыйнай этымалогіі **pa-skǫda* (< **po-skǫditi*, гл. *шчадзіць, ашчаджаць*) па семантычных і словаўтваральных прычынах выказвае Банькоўскі (2, 510): мяркуе пра сувязь са стараж.-рус. *кудити*, параўн. *пракуда*, гл.). Саўка (Запісы 23, 55—56) выводзіць з літ. *paskaũdinti* 'выклікаць боль' < *skaudùs* 'балючы, пакутлівы, хворы', чым тлумачыцца таксама варыянтнасць *по-/па-* і "традыцыйная" для балтызмаў альтэрнацыя *с/ш*, што пры ўліку верагоднага ўсходнеславянскага паходжання польск. *paskuda* (Банькоўскі, там жа) здаецца мажлівым.

**По́слуга** 'прыслуга, наймічка' (Бяльк), параўн. укр. *по́слу́га* 'служба, паслуга', польск. *posługa* 'выкананне задання гаспадара' і 'служка, чэлядзь, прыслуга', славац. *posluhovat'* 'працаваць прыслугай, гувернанткай', славен. *poslúžiti* 'служыць, абслужыць'. Да *служыць* (гл.), як *прыслуга* ад *прыслужваць*. Няясным застаецца словаўтварэнне з націскной прыстаўкай *по-*.

**По́слух**$_1$ 'сведка на судзе ў старажытнасці' (ТСБМ), ст.-бел. *послухъ* 'тс', сюды ж варыянты з нарашчэннем суфікса *послух-ачъ, послух-а-тель* (Сл. Скар.), рус. *по́слух* 'тс', ст.-рус. *послухъ* 'тс', польск. *posłuch* 'праслухоўванне', чэш. *posluchy* 'выведван-

не, разведка’, славац. *posluch* ‘тс’, ст.-слав. послоухъ ‘сведка’. Да *слухаць* (гл.) (Фасмер, 3, 340); прыстаўка *по-* нясе семантыку выніковасці дзеяння, даслоўна — *пóслух* ‘тое, што пачута’ ці ‘той, хто пачуў’.

**Пóслух₂** рэліг. ‘паслушэнства’, ‘абавязак манаха ці паслужніка’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), ст.-бел. *послушание, послушенство* ‘тс’ (Сл. Скар.), укр. *пóслух* ‘паслушэнства’, польск. *posłuch* ‘тс’, ‘паслухмянасць’, ‘абавязак’, серб. *пòслух* ‘тс’. Магчыма, калька з грэч. ‘υπ-ήκοος ‘паслухмяны, падданы, падначалены’. Да *слухаць* (гл.).

**Пóслух₃** ‘чутка, пагалоска’ (ТСБМ), рус. *послух* ‘недакладныя звесткі, цёмныя, хлуслівыя чуткі’ (Сл. Салж.), ст.-рус. *послухъ* ‘тс’, польск. *posłuch* ‘чутка’, у іншых славянскіх мовах семантыка ‘слых, магчымасць чуць’: чэш. *posluch* ‘тс’, славен. *posluh* ‘тс’. Параўн. *пóслух₁* (гл.). Да *слухаць* (гл.).

**Пóслух₄** ‘дапамога, палёгка’ (Сцяшк. Сл.). Відавочна, фанетычны запіс бел. *послуг* з фрыкатыўным [γ]. Да *паслуга, служыць* (гл.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння.

**Пóсмак** ‘засаўка ў кубле’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Фанетычны варыянт да *пóсмык* (гл.), што да *смыкаць* ‘цягаць, тузаць’.

**Пóсмык₁** ‘прыстасаванне з жэрдак для пашырэння плошчы саней’ (лід., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *посмыкъ* ‘тоўстая жэрдка’ (1679 г.), польск. *postyk* ‘шост, жэрдка, высокі прамы ствол дрэва’, ‘элемент розных прыстасаванняў — бараны, драбінаў’, ст.-польск. *postyk* ‘тоўстая жэрдка’. Дапушчэнне запазычання з польск. *postyk* (з XVII ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 98; Запазыч., 254) не мае падстаў. Да *смыкаць* (гл.).

***Пóсмык₂**, *пóсмук* ‘вязка лазовай кары (на лапці)’ (ТС), укр. *пóсмик* ‘вяроўка са ствала маладога дрэва, якою барана прывязваецца да ворчыка і пастромкаў’, польск. *postyk, postycz* ‘прывязь, павадок’. Да *пасмыкаць* ‘абадраць, наскубсці’, *смыкаць* (гл.).

***Пóсмыч**, *пóсмуч* ‘чорнагаловік крывасмокавы, *Poterium sanguisorba L.* або *Saguisorba minor*’ (ТС); іншая назва *смучай: ёго зовуць чэрноголоў, а осенью смучай, целят кормяць*; варыянт *смычай* ‘асака на мокрых месцах’ (ТС). Да *смыкаць* ‘скубаць, рваць’ (гл.).

**По́спа** ‘пасыпка, мука, якую сыплюць у корм свойскіх жывёл’ (Касп.), рус. разан. *по́спа* ‘пасыпка ў корм’, ст.-рус. *посъпа, поспа* ‘збожжа ў зерні’, серб. *пŏспа* ‘пасыпка, прысыпка’. Ад (*па)сыпаць,* прасл. **posъpa*, па мадэлі *по- + зва < *pozъva* ад *зваць.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння. Гл. *сыпаць.*

**По́спал** ‘разам, побач, сумесна, супольна’ (глус., Янк. Мат.; Байк. і Некр.), ‘запар’ (глус., Янк. Мат.; калінк., З нар. сл.), *поспаль* ‘тс’, ‘папалам’ (Гарэц., Др.-Падб., Нас.; віл., Сл. ПЗБ; стол., Сл. Брэс.), *по́споль, поспо́ль* ‘запар, падрад’ (ТС; дзятл., Сцяшк. Сл.), ‘скрозь’ (ТС), ст.-бел. *посполу* ‘разам, супольна, сумесна’ і ‘побач’ (Сл. Скар.), укр. *по́спіл / по́спіль* ‘тс’, польск. *pospół, pospołem, pospolnie* ‘разам, агулам’, ст.-польск. *pospołu* ‘тс’ (з XIV ст.), н.-луж. *pospol, pospołu*, в.-луж. *pospołu* ‘тс’, чэш. *pospolu* ‘тс’. Вытворнае ад **polъ* ‘палова’ > **sъpolъ* ‘палова ад цэлага, род, пол (мужчынскі, жаночы)’, параўн. славен. *spol* ‘тс’. У першасным значэнні — ‘злучэнне дзвюх палавінак разам, спалучэнне, размяшчэнне іх побач’, параўн. *супо́льны* ‘агульны’. Адвербіялізаваны субстантыў. Булыка (Запазыч., 255) лічыць ст.-бел. *посполу* запазычаннем з польск. *pospołu*, сумнеўна.

**По́спех**1, *паспе́х* ‘удача ў дасягненні чаго-небудзь’, *поспехі* ‘добрыя вынікі ў рабоце, вучобе’ (ТСБМ., Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., ТС), укр. *поспіх* ‘поспех’, ст.-рус. *поспѣхъ* ‘дапамога’, ‘стараннасць, руплівасць, подзвіг’, польск. *pośpiech* ‘хуткасць, спешнасць’. Звязана з *паспяшаць — паспець* ‘(з)рабіць хутка, на час, удала’. Адсюль *поспех* у першасным значэнні ‘справа, зробленая хутка, спрытна, на час, удала’ > ‘добры вынік’ > ‘подзвіг’, ‘поспех’. Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння.

**По́спех**2, *паспяшо́к* ‘грузік на верацяне, каб яно даўжэй круцілася пры прадзенні; круглае, звычайна металічнае колца, якое надзяваецца ў пачатку прадзіва на верацяно, каб яно стала цяжэйшым і лепш (даўжэй) круцілася’ (Бір.; слуц., Нар. словатв.; З нар. сл.). Назва прыстасавання, звязаная з *паспяшаць* ‘паскараць’, гл. *паспе́х.*

**Пост** ‘устрыманне ад скаромнай ежы’, ‘перыяд устрымання’ (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ, Бяльк.), ‘сама посная страва’ (Шат.). Параўн. укр. *піст*, рус. *пост*, польск. *post*, н.-луж. *spót*, в.-луж.

*pόst*, чэш. *půst*, славац. *pôst*, славен. *pòst*, серб. *пôст*, макед. *пост*, балг. *пост*, ст.-слав. постъ. Сюды ж *пóснікаць, пóснікаваць, постувáць* 'тс' (калін. Мат. Гом., ТС), *пóстуваць, пóставаць* 'пасціць, пасціцца' (Бяльк., Нас., Мат. Гом., Байк. і Некр., Ласт.), *пóсціць* 'тс' (светлаг., хойн., Мат. Гом.), *пoставáнне* 'нястачы' (Юрч. СНЛ), *пóстываць* 'цярпець нястачы' (Юрч. Вытв.), *пóсны, пасны́* 'без мяса і малака; нятлусты', (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк., Ян., ТС, Сл. Брэс.; воран., Сл. ПЗБ), 'цвярозы' (карм., Мат. Гом.), 'худы' (Ян.), 'неўрадлівы (пра глебу)' (в.-дзвін., Сл. ПЗБ), *пóсніна, пóсніца, паснатá* 'посная ежа' (Шат., Касп.; брасл., Сл. ПЗБ; добр., Мат. Гом.). Старажытнае агульнаславянскае запазычанне са ст.-в.-ням. *fasto* 'пост' (Міклашыч, 260; Фасмер, 3, 340—341; Шустар-Шэўц, 2, 1139), паводле іншых, **postъ* < **postiti sę* 'пасціцца' < гоц. *fastan* або ст.-в.-ням. *fasten* 'тс' (Махэк$_2$, 500—501), параўн. ням. *fest* 'стойкі, трывалы, трывушчы'. Банькоўскі (2, 716) следам за Ліндэ выводзіў з грэч. ἄπαστος 'галодны'.

**Пóстаражня**, *пóсторожэнь*, *пóстаражань* 'вуда, наматаная на рагульку (вілачку)' (карэліц., Янк.1; віц., гом., маг., Браім, Рыбалоўства; саліг., Нар. словатв.), 'таўсцейшая за вуду снасць для лоўлі шчупакоў' (лях., Сл. ПЗБ; ТС), параўн. польск. *postroga, nastroga* 'прылада, насаджаная на вуду'. Утворана ад *старажыць* (гл.) пры дапамозе прыстаўкі *по-* і суф. **-ěn- /-ьn-*. Магчыма, існавала прамежкавая форма **po-storgjь* > **постараж*, параўн. *старóжка* 'вуда-рагулька' (гл.).

**Пóстары** 'пажылы чалавек, стараваты' (Сл. Брэс.; ТС), н.-луж. *pόstary* 'стараваты', серб. *пòстар* 'даволі стары', параўн. балг. *пó-стар* 'старэйшы', макед. *постар* 'тс'. Прыстаўка *пó-* (< **po-*, гл.) нясе семантыку меншай ступені праяўлення якасці, абазначанай утваральным словам (Сцяцко, Афікс. наз., 241), параўн. *по-высокі* 'высакаваты' (Нас.). Да *стары* (гл.).

**Пóстаў** 'ніжні і верхні камяні ў жорнах' (Шатал.). Гл. *пастаў$_2$*.

**Пóстаўка**, *пóстыўка, пастáўка* 'ніжняя палавіна жаночай кашулі (звычайна з горшага тоўстага палатна)' (Нас., Байк. і Некр., Мік., Касп., Бяльк., Мат. Гом.; клім., Мат. Маг.; рас., Шатал.), параўн. балг. *постáвка* 'кусок палатна для пашырэння рукавоў'. Зыходнае, відаць, *пóстаў* 'сувой самаробнага палатна' (гл. *пастаў*), параўн. балг. *пóстав* 'кавалак палатна, адрэзаны ад

стана', серб.-харв. *пòстав* 'кавалак тканіны', *пòстава* 'падкладка', польск. *postaw*, *postawa* 'сувой палатна', што дае падставы рэканструяваць прасл. **postavъ* (ЕСУМ, 4, 537); адсюль *постаўка* 'кавалак такой тканіны, падточаны знізу'. Выкарыстанне *постаўкі* тлумачыцца эканоміяй добрага матэрыялу і заменай яго на горшы там, дзе ён не бачны. Ад *паставіць*, *ставіць* (гл.).

**По́стаць**₁ 'палоска жыта ці іншай збажыны, занятая адной жняёй у час жніва' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Байк. і Некр., Мядзв., Дзмітр., Др.-Падб., Касп., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; івац., Хрэст. дыял.; парыц., Янк. Мат.; пін., Кольб.; навагр., Шн., Федар.), 'участак збожжа, скошаны касцом' (гродз., Мат. АС), 'раскладка снапоў для малацьбы' (дрыс., ДАМБ, камент., 872), 'наперадзе' (Кольб.), 'паласа, загон жыта' (петрык., Мат. Гом.), укр. *по́стать* 'палоска нівы, занятая адной жняёй', рус. *по́стать* 'тс', 'поле', ст.-рус., ц.-слав. *постать* 'доля, частка', польск. *postać* 'пастава, форма, фігура, асоба', дыял. 'шэраг жняцоў у полі', ст.-польск. *postać* 'род, пакаленне', чэш. *postat* у старэйшым значэнні — 'частка поля, на якім стаіць адзін жнец', славац. *postat* 'тс', славен. *pȏstât* 'рад работнікаў у полі', серб. *пòстат* / *постȃт* 'палоска, рад пры жніве', балг. *по́стат* 'паласа, якую жнуць некалькі жняцоў адначасова'. Прасл. **postatь*, утворанае ад **postati* (гл. *стаць*) са значэннем выніковасці дзеяння, даслоўна 'тое, што пастаўлена; рад, шэраг'. Паводле Праабражэнскага (2, 113): *по-стать* 'шчыльна пакладзенае'), паводле Трубачова (Ремесл. терм., 123—125): **po-statь* 'стаяць нерухома'. Адсюль першапачатковы сінкрэтызм 'асоба, фігура, пастава' і 'задача, што пастаўлена перад асобай для выканання', параўн. *постаць* 'стан, фігура' і 'паласа (пры жніве)' (ТС), рус. *стать* 'пастава' і *по́стать* 'участак, які косіцца жняцом за адзін раз' (Банькоўскі, 2, 715; БЕР, 5, 549).

**По́стаць**₂ 'стан, фігура'. Гл. папярэдняе слова.

**По́страх** 'жах, застрашэнне; пудзіла' (Байк. і Некр.; драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), ст.-бел. *пострахъ* (XVI ст.). Паводле меркавання Жураўскага, запазычанне са ст.-польск. *postrach* (Жураўскі, SOr, 10 (1), 40). Не выключаны самастойныя ўтварэнні ў асобных славянскіх мовах, параўн. чэш. *postrach* 'навальніца', 'страшыдла', славац. *postrach* 'пудзіла, страшыдла', славен. *postrašiti* 'напужаць'. Да *страх* (гл.).

**По́стрык** ‘доўгі шост з крукам для падавання снапоў’ (Шат.). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *по-* ад **strьk-* / **strek-* / **strok-*, параўн. *стрык* ‘прыстасаванне ў возе для прыпрэжкі другога каня’, *стрыкаць* ‘пстрыкаць’ (ТС), укр. *стрікати* ‘калоць, джаліць’, рус. дыял. *стрека́ло* ‘вастрыё, джала’, *стрека́ть*, *стрекну́ть* ‘калоць, пырскаць’, польск. *strzykać* ‘пра боль, што коле’, чэш. *střikati* ‘тс’, ст.-слав. стрѣкало ‘джала’, ‘востры кій, якім падганяюць валоў’, стрѣкати ‘джаліць’, ‘укалоць (у тым ліку пра ўкус насякомых)’. Даслоўна ‘тое, чым колюць, наколваюць’, ‘шост, якім наколваюць сена’.

**По́ступ**$_1$ ‘хада’ (ТСБМ), параўн. укр. *по́ступ* ‘крок, хада’, рус. *по́ступь* ‘тс’, ст.-рус. *постѹпь, постѫпь* ‘рух, дзеянне’, польск. *postęp* ‘ход, захад, працэдура’, чэш., славац. *postup* ‘ход, метад, рух наперад’, балг. *по́стъп* ‘тс’. Прасл. **postǫpь*, з арэальным зацвярдзеннем канцавога губнога. Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* з семантыкай выніковасці дзеяння. Да *ступа́ць* (гл.).

**По́ступ**$_2$ ‘прагрэс, рух наперад’ (Байк. і Некр., ТСБМ), у значэнні ‘прагрэс’, магчыма, з польск. *postęp* ‘тс’. Гл. *по́ступ*$_1$.

**По́суд**, *по́сыд, посу́док, по́судок, пасу́да, пасу́дак* ‘ёмістасць для розных, пераважна кухонных, патрэбаў, пасуда,’ (ТСБМ, Бяльк., Нас., Шат., Сцяшк. Сл., Клім., ТС; бых., Янк. Мат.; рагач., Сл. ПЗБ), ‘сельскагаспадарчае начынне і прыборы’ (Гарэц., Нас.), ‘сасуд, ёмістасць’ (ТС), мн. л. *по́суды* ‘пярэдні куток у хаце’ (Анім.), *пасу́дзя* ‘драўляны посуд’ (лід., Сл. ПЗБ), *пасу́дзіна* ‘асобны прадмет посуду’, ‘драўляны сасуд’, ‘любое сельскагаспадарчае начынне’ (ТСБМ, Мік., Нас., Шат., Касп.), сюды ж *пасу́днік* ‘паліца для посуду’ (ТСБМ, Ян.), ‘кухонны ручнік’ (Ян.). Параўн. укр. *посу́да, по́суд* ‘посуд’, рус. *посу́да* ‘тс’, славен. *posôda* ‘тс’, серб.-харв. *pȍsuda* ‘посуд’, ‘сасу́д’, макед. *посатка* ‘посуд’. Вытворнае ад прасл. **sǫdъ-* пры дапамозе прыстаўкі **po-*, паводле Сноя (Бязлай, 3, 91; Snoj$_2$, 549), зборная назва ў адносінах да **sǫdъ* (гл. *суды*).

**По́сусць** ‘перхаць’ (чэрв., Сл. ПЗБ). Гл. *посець*, *пошасць*.

**По́суха** ‘засуха’ (беласт., Сл. ПЗБ.), параўн. укр. *посу́ха* ‘тс’, рус. *посу́ха* ‘тс’ (Сл. Салж.), польск. *posucha* ‘тс’. Вытворнае ад прасл. **suxъ-* пры дапамозе прыстаўкі **po-* з семантыкай вы-

ніковасці, даслоўна 'тое, што пасушыла зямлю'. Да *сухі, суша, сушыць* (гл.).

**По́суш** 'няскошаная пасохлая трава' (ганц., Сл. ПЗБ), 'дрэва, засохлае на корані' (беласт., Сл. ПЗБ), *по́сушы* 'захворванне збожжавых' (Выг. дыс.). Гл. *па́суш.*

**По́сцілка**, *пасці́лка, по́сцялка, по́стэлка* 'саматканая коўдра' (ТСБМ, Бір., Сл. ПЗБ, Бяльк., Сл. Брэс.; гом., нараўл., Мат. Гом.), *про́сцілка* 'тс' (Уладз., ГЧ), *по́стілка* 'гунька' (кам., Сл. ПЗБ). Да *пасцілаць, слаць* (гл.). У першасным значэнні 'тое, што распасцёртае, пасланае'.

**По́сых** 'ежа з кавалкаў печанага цеста' (Мік.). Відаць, да *сухі, сушыць* (гл.), параўн. таксама славац. *posuch* 'ляпёшка з хлебнага цеста'. Цікавым з'яўляецца супрацьпастаўленне з *пато́пцы* 'страва з хлеба і малака' (мазыр., З нар. сл.), што ад *тапі́ць* 'мачыць у вадкасці'.

**По́ська** (Мік.) 'мужчынскі палавы член'. Гл. *посік.*

**По́сял** 'чалавек, які ходзіць па сяле без справы' (барыс., лях., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *сяло, па сяле,* аналагічна *пахату́ха* 'тс' ад *хата, па хатах* (Янк., 1; Сцяц., Афікс. наз., 243; Панюціч, 106). Параўн. віц. *пайшоў на сяло* 'пайшоў у госці да суседа' (Непакупны, Связи, 82—84). Гл. *пасялда́.*

**По́сяч** (ганц., Сл. ПЗБ) 'высечаны ўчастак лесу', рус. *посе́ча* 'месца рубкі лесу' (Сл. Салж.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з прыстаўкай *по-* ад **-sekti* > **-seči* з семантыкай выніковасці дзеяння. Роднаснае да *пасека, сячы, секчы* (гл.).

**Пот**$_1$ 'вадкасць, вылучаемая падскурнымі залозамі', 'вільготны налёт на прадметах' (ТСБМ; пух., бяроз., КЭС; драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.; Сл. ПЗБ, Ян., ТС, Бяльк.), ст.-бел. *пот* (Сл. Скар.), сюды ж *путкі* 'потны' (Нас., Касп., Байк. і Некр.). Параўн. укр. *піт*, рус. *пот*, польск. *pot* , в.-луж. *pót*, чэш. *pot*, славац. *pot*, славен. *pôt*, серб. *по̏т*, харв. *pôt*, балг. *пот*, макед. *пот*, ст.-слав. потъ 'тс'. Няма адпаведнікаў у балтыйскіх мовах. Агульнапрынятая этымалогія (Міклашыч, 260; Махэк$_2$, 474; Скок, 3, 17; Фасмер, 3, 343; Голуб—Копечны, 288; Шустар-Шэўц, 2, 1141; Бязлай, 3, 94) ад **pok- / *pek-* (што звязана з *пячы*, гл.) > **pok-tъ* (дзе *-tъ-* — суфікс, як у *мост, молат* і пад.) > **potъ*. Даслоўна азначае 'выпек', 'вынік перагрэву'. Семантычна блізкія н.-луж. *znoj* 'пот', ст.-слав. варъ / вара 'тс'.

**Пот₂** ‘воск’ (Анох.). Звязана з уяўленнем пра тое, што воск так выдзяляецца ў пчол, як пот з цела чалавека: *пчолы воск поцяць*. Гл. *пот₁*.

**Пот₃** ‘рыжы, непрыдатны асадак у дзёгці’ (Бяльк.). Няясна. Магчыма, да *под* ‘ніз’ (гл.)

**По́так₁,** *по́дак, по́тах* ‘прыстасаванне для навівання нітак’ (Уладз., Тарн., Сл. Брэс.; палес., З нар. сл.), ‘уток’ (бяроз., Шатал.), ‘ручная машына для навівання цэвак’ (маст., Шатал.), укр. *по́та́к* ‘прыстасаванне для намотвання нітак на шпульку’, польск. *potak* ‘тс’, славац. *potak* ‘калаўрот’. Старажытны ткацкі тэрмін, у аснове якога значэнне рытмічнага руху, параўн. славен. *potóčiti, potâkati* ‘круціць, сукаць’, славац. *potákat’ sa* ‘ківацца’; апошняе, на думку Махэка₂ (174), “інтэнсіўная форма” ад *téci* ‘рухацца’ < **tekti*. Іншы варыянт кораня з чаргаваннем прадстаўлены ў чэш. *potáč* ‘верацяно з навітымі ніткамі’, в.-луж. *potač* ‘тс’, н.-луж. *pótac* ‘верацяно, шпулька’ < **točiti*, ітэратыў **potačati* (Шустар-Шэўц, 2, 1139—1140; Бязлай, 3, 95), што дае падставы рэканструяваць дзве зыходныя формы **potakъ* і **potač* (ЕСУМ, 4, 539).

**По́так₂** ‘воз для перавозкі сена’ (маст., Сцяшк. Сл.), *по́так* ‘воз для гною аднаконны’ (свісл., Арх. Федар.). Параўн. славен. *potâč* ‘кола’, што дае падставы бачыць у аснове дзеяслоў руху, які ўзыходзіць да **tekti* ‘рухацца, каціцца’ (Бязлай, 3, 95). Гл. *потак₁*.

**По́талак** ‘чарэнь, ляжанка на печы’ (рас., Шатал.). Няясна; калі параўноўваць з рус. *потоло́к* ‘столя’, то можа ўзыходзіць да **tьl* ‘зямля, глеба’, гл. *тло* (Фасмер, 3, 345). Не выключана таксама этымалогія, што належыць Далю (3, 320), аб сувязі з *талачыць* (ад *талака*) ‘убіваць, утоптваць’, што адлюстроўвае тэхналогію складвання печы, тады гэта адпавядае аддзеяслоўным утварэнням з *по-* са значэннем выніку дзеяння. Параўн. *паталок* (гл.). Гаўлава (Etym. Brunensia, 24—25) рус. маск. *по́толока* ‘гарышча’ суадносіць з прасл. **tьlo* ‘дашчатая падлога’, ‘столь’ з іншай ступенню аблаўта, паралельнай прус. *talus* ‘падлога’, літ. *tìles* ‘дашчатая падлога ў лодцы’, і аманімічным *потоло́ка* ‘талака’, што ўзыходзіць да прасл. **tьlkǫ* (> *таўку*).

**По́таптам** ‘нацянькі’ (Ян.): *пабегла потаптам за цялём* (Ян.). Прыставачнае ўтварэнне ад *таптаць* (гл.) з азначэннем спосабу дзеяння, як у *попіхам* ‘піхаючы’, *попаўзкам* і пад.

***По́тарач** ‘жанчына непрыстойных паводзін’ (Бес.). Гл. *патарочa.*

**По́тарч,** *по́тырч* ‘старчаком, тарчма, тварам уніз’ (ТСБМ, Янк. БП, Шат.), ‘імгненна ўпасці тварам уніз’ (Гарэц., Др.-Падб.), ‘кулём, дагары нагамі’ (Сцяшк. Сл.), ‘стрымгалоў’ (Байк. і Некр.). Вытв. ад **-trk- > *torč- > *tyrč-*, гл. *патарчака, потырч.*

**По́тась,** *по́тэсь, по́тюсь, по́цюсь* ‘прасніца’, ‘дэталь у прасніцы, да якой прывязваецца кудзеля’ (Клім.,Тарн., Чач., Сл. Брэс.; пін., Шатал.; ТС; слонім., Сцяшк. Сл), *по́тюс* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ), *по́цесь* (Нас.), *по́цясь* ‘тс’ (лях., баран., Сл. ПЗБ; віц., Нар. словатв.), укр. *по́тесь* ‘грэбень у калаўроце’, *по́тюс* ‘кудзеля’, рус. наўг. *по́тесь* ‘вясло’. Паводле ЕСУМ (4, 541), запазычана з польск. *pocieś* ‘прасніца’, што ўзыходзіць да **potesь*, вытворнага ад **tesati* (гл. *цясаць*).

**По́твар**: *даць потвар* ‘разбалаваць, распесціць’ (маг., Наша слова, 2002 г., 16 кастр.). Гл. *патвор.*

**По́тка** ‘пеніс’ (гродз., Цых.), ‘палавы орган’ (Нас., Байк. і Некр.; гродз., кобр., Сл. ПЗБ), ‘прарэх у штанах’ (гродз., Сл. ПЗБ), укр. *по́тка* ‘жаночы палавы орган’, *по́та́к* ‘мужчынскі палавы орган’, рус. *по́тка* ‘membrum virile (у хлопчыкаў)’, палаб. *pótkă* ‘жаночы або мужчынскі палавы орган’ (Олеш, Thesaurus, 805). Прасл. **pъtъka* ‘палавы орган’, роднаснае літ. *paũtas*, мн. л. *paũtai* ‘муды, мужчынскія геніталіі’, што паўплывала, паводле Грынавяцкене, на ўжыванне множналікавай формы: *яго поткі відаць — які срам* (гродз., LKK, 12, 194), адсюль, верагодна, першаснае значэнне ‘testicula’. Гэта, аднак, не дае падстаў лічыць слова запазычаннем, насуперак Карскаму (РФВ, 49, 16). Далейшыя сувязі няясныя. Паводле Сноя$_2$ (502), *потка* ‘пеніс’ узыходзіць да прасл. **pъtьka*, роднаснага **pъt’ka* ‘пупышка’ (гл. *почка*), для якіх рэканструююцца першасныя значэнні ‘яйка’ або ‘орган размнажэння (у раслін)’, што сумнеўна. Часцей прымаецца перанос назвы птушкі, параўн. рус. *по́тка* ‘птушачка (асабліва пеўчая)’, на назву *membrum virile* (у дзяцей) (Фасмер, 3, 344; ЕСУМ, 4, 539; 545), што мае шматлікія тыпалагічныя паралелі (параўн. балг. *патка* ‘качка, гуска’ і ‘палавы орган у малога хлопчыка’; англ. *cock* ‘певень’ і ‘пеніс’ і пад.), што дае падставы Тапарову (Зб. памяці Талстога, 2, 266) гаварыць пра membrum virile ў “арніталагічным” кодзе: **pъt-ъka* (< і.-е. **put-uk-*) ‘птушачка’

і ‘пеніс’ параўноўваецца з лац. *putus* ‘хлопчык’ (< і.-е. **pōu-: *pəu: *pŭ* з пашырэннем *-t-*), параўн. утворанае ад яго арум. *puţă* ‘penis, membre virile’ (Скок, 3, 88).

**Потр** ‘глянь!’ (Касп.). Відаць, адаптаванае польск. *patrz* ‘тс’ — дз. заг. ладу 2 ас. адз. л. ад *patrzeć* ‘глядзець’.

**По́тра** ‘сумесь ячнай саломы і сена’ (Сцяшк. Сл.), *по́тра, пу́тра* ‘пацяруха’: *сено перасохло, і багато по́тры насыпалосо* (Мат. Гом., ТС). Утворана ад *пацёрці* (< *по-* і *цёрці*, гл.), параўн. *пацяру́ха, по́труха* (гл.).

**По́трох** ‘вантробы’ (ТС), *по́трахі* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *патрахі́.*

**По́труха**. Гл. *по́тра*, *труха.*

**По́туль** ‘датуль, да таго месца, да таго часу’ (Янк. 1; Сцяшк. Сл.). Гл. *пату́ль.*

**По́тым** ‘праз некаторы час’ (ТСБМ, Шпіл., Нас., Касп., Сл. ПЗБ), *по́том* (ТС), *по́тымака* ‘тс’(Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *потымъ, потомъ* ‘тс’, рус. *пото́м*, укр. *по́тім*, чэш., славац. *potom*, славен. *potȅm*, серб.-харв. *pȍtom*, макед. дыял. *потом*, в.-луж. *potom*, н.-луж. *pótom.* Утворана ў выніку зрашчэння прыназ. *по-* (гл. *па-*) ‘пасля’ і ўказ. займ. *той* (гл.), М. скл. *тым* (**tъjь* > ст.-бел. *тый*), варыянт *том.*

**По́тырч**, *по́тарч* ‘стаўма, старчком’, ‘тварам уніз’ (ТСБМ). Ад *по-* (<**po*) і *тырча́ць* (гл.), параўн. *тырчма́, тарчма́, тырчко́м* ‘стаўма’, ‘у вертыкальным становішчы’. Да гукапераймальнага кораня **tъrk-* (Фасмер 4, 83).

**По́тыч₁**, *по́тычкам* ‘уніз галавой’ (лях., чэрв., Сл. ПЗБ; Нікан.), ‘потырч’ (Мат. Гом.; Ян.), ‘спатыкнуўшыся, потырч’ (Сцяшк. Сл.), укр. *по́тич* ‘спатыкаючыся’, ‘уніз галавой’. Ад *по-* і *тыкаць* ‘пароць чым-небудзь’ (гл.).

**По́тыч₂**, *поты́ч'е* ‘тычкі’ (ТС). Ад *по-* і *ты́каць* (гл.). Параўн. *паты́к.*

**По́ўдзень**, *поўдзе́н, поўдзё́н, по́ўдэнь* ‘супрацьлегласць поўначы’, ‘мясцовасці з цёплым кліматам’, ‘сярэдзіна дня’ (ТСБМ, Некр., Маш., Касп., Сл. ПЗБ, ТС), *по́ўдзенне* ‘поўдзень’ (Нас.), ‘полудзень, абед’ (Бяльк.), *по́ўдзень, паўдня́* ‘напрамак свету’ (Шат.), ст.-бел. *полудень* ‘сярэдзіна дня’, *полудне, полдень* ‘напрамак свету’, укр. *південь* ‘поўдзень (сярэдзіна дня; напрамак

свету)', рус. *по́лдень* 'сярэдзіна дня; напрамак свету (паэт.)', польск. *południe* 'тс', палаб. *pǫlni* 'тс', славац. *poludnie* 'поўдзень' (старое), чэш. *poledne* 'тс', в.-луж., н.-луж. *poł(d)njo* 'сярэдзіна дня, поўдзень', серб.-харв. *пла́дне, подне* 'сярэдзіна дня, поўдзень', балг. *пла́дне* 'сярэдзіна дня, полудзень', дыял. 'поўдзень', макед. *пладне* 'сярэдзіна дня', ст.-слав. полоудьниѥ 'сярэдзіна дня, поўдзень'. Прасл. **polъdьnь, *polьdьne, *poludьne, *poludьnьje, *poludьnъ* 'сярэдзіна дня; поўдзень', у складзе якога **polъ* (**polu* — Р., М. скл. адз. л.) і **dьnь* (**dьne* — Р. скл. адз. л.), гл. *паў-, дзень* (Махэк$_2$, 469; Шустар-Шэўц, 2, 1123—1124; Скок, 1, 379; Банькоўскі, 2, 691; БЕР 5, 291—292). Мяркуецца, што ў праславянскай мове назіраліся тры фазы фармальных змен назвы: **poludьne > polъdьne > *poldьne* з далейшай рэдукцыяй у асобных славянскіх мовах (Маньчак, JP, 76, 286, з літ-рай). Найменне напрамку свету па часе сутак назіраецца ў балтаў, румынаў, угра-фінаў, ёсць у цюркскіх мовах, параўн: ням. *Mittag* 'поўдзень (сярэдзіна дня, напрамак свету)', 'абед', літ. *piẽtūs* 'поўдзень (напрамак свету, сярэдзіна дня)', лац. *vesper* 'вечар', 'захад' (Ніканаў, Этимология—1984, 163). У славян, побач з гэтай сістэмай, існавала іншая, арыентаваная на назвы вятроў і ўзыход—захад сонца (параўн. рус. *восток—запад, север—юг*), якая ўзнікла на славянскім поўдні і трапіла да ўсходніх славян разам са старaславянскай мовай (Німчук, Давньорус., 47—50).

**По́ўднік** 'снеданне' (Яруш.). Запазычанне з рус. *по́лднік* 'харчаванне паміж абедам і вячэрай'.

**По́ўжык$_1$** 'птушка' (Мат. Гом.). Можна меркаваць, што маецца на ўвазе *по́паўзень* 'птушка Cerphia familiaris L.', якая ўмее хутка і спрытна поўзаць па ствале дрэва, рус. *попо́лзень*, польск. *pełzacz*, чэш. *plháček*. Ад *по́ўзаць* (гл.). Верагодна, назва набыла такое фанетычнае афармленне пад уплывам слова *жэўжык.*

**По́ўжык$_2$** 'жэўжык' (Мат. Гом.). Ад *по́ўзаць* (гл.).

**Поўз** 'каля, уздоўж': *ішоў поўз прасла* (Бяльк.). Гл. *паўз* 'тс'. Адсутнасць акання сведчыць, відаць, пра захаванне ўласнага націску.

**По́ўза** 'карысць' (Ян.). З руск. *по́льза* 'тс' з зацвярдзеннем *л* і пераходам яго ў *ў*.

**По́ўзаць**, *по́ўзць* 'паўзці' (Нас., Касп., ТС, Бяльк.), 'качацца на зямлі (пра карову)', 'доўга, позна бадзяцца' (Сл. ПЗБ), ст.-бел.

*ползати.* Сюды ж *поўзанка* 'спадніца, якую апранаюць, калі капаюць бульбу' (Сцяшк. Сл.). Ітэратыў да *паўзці* (гл.).

**По́ўздаль** 'уздоўж і побач, паралельна' (Др.-Падб.). Ад *далёка* (гл.) з дапамогай прыставак *по-* і *ўз-* на ўзор прыслоўя *наўздалёк.*

**По́ўзіна**, *по́ўзіны, по́ўзіньне, пэ́взіны, пі́ўзыны, по́ўзнік, по́ўзе, по́ўзя* 'апоўзіны на саламяных стрэхах ці на стагах' (Маш., Сержп., Дразд., Выг. дыс., Мат. Гом., Сл. Брэс., Шатал.; добруш., ЛА, 2), 'лата (на страсе)' (Скарбы), 'жэрдкі для замацавання саламянай страхі' (ваўк., гродз., Сл. ПЗБ), *па́ўзіна, па́ўзіны, па́ўзье* 'апоўзіны на стозе, на страсе' (ТС), *по́ўзе* 'жэрдзі' (Сцяшк. Сл.), *по́ўзнік* 'галіны' (ганц., Сл. ПЗБ), *по́ўзіна* 'дубец, галіна' (Сцяшк. Сл.), *по́ўзіна* 'рубель' (бых., бабр., нараўл., Працы ІМ, 7). Прасл. **po-ǫzъ, *pa-ǫzъ (< *vęzati,* гл. *вязаць),* параўн. укр. *па́вуз, па́взіна,* польск. *pawąz, powąz,* чэш. *pavuz,* дыял. *póza, púza,* славац. *pavúz,* славен. *povoz(a)* 'рубель для прыціскання снапоў, саломы'. Зближэнне з *апаўзаць* (гл. *апоўзіны*) — другаснае.

**По́ўнач**, *по́ўныч, пуовночь, по́ўноч* 'глыбокая ноч, сярэдзіна ночы', 'адзін з напрамкаў свету' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Мік., Бес., Шат., Касп., Бяльк., ТС), ст.-бел. *полночъ* 'сярэдзіна ночы', 'напрамак свету', *полнощъ* 'напрамак свету', укр. *північ* 'поўнач (напрамак свету, сярэдзіна ночы)', рус. *по́лночь* 'поўнач (напрамак свету)', польск. *północ* 'палова ночы; напрамак свету', чэш. *půlnoc* 'сярэдзіна ночы', славац. *polnoc* 'тс', в.-луж. *połnóc* 'сярэдзіна ночы; напрамак свету', н.-луж. *połnoc* 'тс', серб.-харв. *по́ноћ* 'сярэдзіна ночы', славен. *pólnoč* 'тс', балг. *полуно́щ* 'тс', макед. *полноќ* 'тс', ст.-слав. полоуношти 'пасярод ночы', 'поўнач'. Прасл. **polъnoktь, *polunoktь* 'сярэдзіна ночы' ад **polъ-/ polu-* (гл. *паў-*) і **noktь* (гл. *ноч*). Ужыванне назваў частак сутак для перадачы напрамкаў свету характэрнае для шэрагу індаеўрапейскіх і неіндаеўрапейскіх моў, параўн. ням. *Mitternacht* 'поўнач (напрамак свету; сярэдзіна ночы)' (Ніканаў, Этимология—1984, 163). Мяркуецца, назва *поўнач* у абодвух значэннях з'яўляецца паралельным утварэннем да сапраўднай "салярнай" назвы — *поўдзень* (гл.), якая аб'ядноўвала ў сваім значэнні астранамічна-часавае і геаграфічна-арыентацыйнае паняцці (Німчук, Давньорус., 47).

**По́ўніца** 'паўната якой-небудзь меры': *есці на по́ўніцу* 'прагна есці' (Нас.). Утворана ад *по́ўны* (гл.), як *лішніца* 'лішак, дастатак'.

**По́ўны** ‘напоўнены да самага верху, перапоўнены’, ‘цалкам ахоплены’, ‘тоўсты’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Ян., ТС, Бяльк.), ‘цэлы’ (Бяльк.), *по́вен* ‘поўны’, ‘вельмі многа’ (валож., в.-дзв., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *полный*, укр. *по́вний*, рус. *по́лный*, польск. *pełny*, в.-луж. *połny*, н.-луж. *pói̯ny*, палаб. *påu̯në*, чэш., слав. *plný*, славен. *pȍln*, серб.-харв. *пу̏н*, балг. *пълн*, макед. *полн*, ст.-сл. плънъ. Прасл. **pъlnъ, *pъlnъjь* (< і.-е. **pl̥-no-s* ‘поўны’); роднаснае літ. *pìlnas*’поўны’, *pìlti* ‘наліваць’, прус. *pilnan* ‘цэлае’, англ. *full*, франц. *plejn*, інд. *prāna-* і *pūrnás* ‘поўны’, ст.-грэч. πλήρης, лац. *pleo* ‘напаўняю’ (параўн. *камплéкт*), *plēnus*, ням. *Fülle, voll* — ад кораня са значэннем ‘напаўняць, наліваць’ (Глухак, 512; Брукнер, 402; Фасмер, 3, 312, з літ-рай).

**По́ўня,** *по́вня, по́ўна, по́ўнае, по́ўная* ‘поўная фаза Месяца’ (ТСБМ, Нас., Сцяшк. Сл., Гарэц., Др.-Падб., Клім., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 2), *по́ўняе* ‘поўня’ (Ян.; барыс., валож., рагач., бых., ЛА, 2), *по́ўната* ‘поўня’ (Касп.; в.-дзв., брасл., Сл. ПЗБ; Шатал.), *по́ўна* ‘поўня’ (ЛА, 2). Ад *по́ўны* (гл.), паколькі ў час гэтай фазы Месяц бачны поўнасцю. Лексема *по́ўнік* ‘поўня’ (ТСБМ, Янк. 3, Мат. Гом., пух., Сл. ПЗБ) утварылася паводле назвы іншай фазы Месяца — *маладзíк.* Тое ж у іншых індаеўрапейскіх мовах, параўн. рус. *полнолу́ние*, літ. *pìlnatis* ‘поўня’ (< *pìlnas* ‘поўны’), англ. *full moon* ‘поўня’ (< *full* ‘поўны’, *moon* ‘Месяц’), франц. *pleine lune* (< *plein* ‘поўны’, *lune* ‘Месяц’). Паводле Німчука (Давньорус., 29), укр. *по́вня* ‘тс’ абстрагавана са спалучэння *місяць въ пълнѣ* (суч. *місяць уповні*), у якім выступае М. скл. нячленнага прыметніка м. р., што зусім не абавязкова на фоне прадуктыўных утварэнняў тыпу *ро́ўня* і пад.

**По́ўпрык** ‘надуты і ўпарты хлапец’ (Некр.), ‘непаседа’ (Сцяшк. Сл.), ‘малое дзіця’ (Скарбы). Няясна. Магчыма, да *паўпрыца* (гл.), параўн. экспрэсіўную назву малога непаседлівага дзіцяці — *шпунт* ‘затычка’. Параўн. наступнае слова і *попрык* (гл.).

**По́ўпрыца** ‘пупышка’ (Шат.). Няясна. Магчыма, звязана з папярэднім словам.

**По́ўраз** ‘самаробны паясок; кавалак вяроўкі’ (Скарбы), ‘вяроўка’ (Нас.), *по́ўразка* ‘завязка ў фартуху’(смарг., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., Ян.), ст.-бел. *повrозъ, па́врозъ* ‘вяроўка’ (XVI ст.), *поворозъ* (Альтбаўэр, 147), укр. *па́вроз, по́вороз,* польск. *powróz* ‘шнур, пастронак, вяроўка’, славац. *povraz* ‘вяроўка, канат’,

чэш. *povz* 'вяровачка' (< **povraz*), славен. *pòvràz*, серб.-харв. *пȍвра̄з* 'дужка вядра', 'вяроўка, пятля'. Прасл. **po-vorzъ* 'вяровачка з нітак' < **vьrzti* 'вязаць'. Няпоўнагалосныя формы запазычаны з польскай мовы, гл. Карскі (1, 251): *поврозы* — "несомненные полонизмы"), Цвяткоў (Запіскі, 62), Кюнэ (Poln., 88: "wegen *ro* und Betonungsübereinstimmung"). Гл. *паўро́за*. Аднак нельга выключыць і рэдукцыю поўнагалосся: *по́вараз* > *по́ўраз*, што дае падставы разглядаць некаторыя ўсходнеславянскія формы як другасныя, у карысць чаго сведчыць шырокая геаграфія слова. Пра гэта гл. Векслер, Гіст., 119.

**По́ўрэй**, *по́вэрэй, по́вэр* 'вырай' (ТС). Да *вырай, выр* (гл.). Пачатак слова, магчыма, звязаны з *павярну́ць (поверну́ць)* 'вярнуць (назад)'.

**По́ўсць,** *по́ўсь, по́ўсьть* 'шэрсць', 'падшэрстак', 'пыл, валаконцы, якія збіраюцца пад кроснамі або пры апрацоўцы нітак ці кужалю' (ТСБМ, Янк. 1, Гарэц., Уладз., Касп., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.), 'асцюкі ў коласе' (пух., асіп., ЛА, 2), 'шэрсць, якая вылазіць з жывёлы' (Шат.), 'футра' (смарг., Сл. ПЗБ), *по́высць* 'воўна' (Мат. Маг.) , укр. *повсть* 'лямец', рус. дыял. *полсть* 'лямцавая посцілка', 'полка', *полсти́на* 'лямец', ст.-рус. *пълсть* 'лямец, дыван з лямцу', польск. *pilść*, чэш. *plst* 'лямец, фетр', в.-луж., н.-луж. *pjelsć*, славац. *plsť*, славен. *pȏlst*, серб.-харв. *пȕст* 'лямец', балг. *пълст*, макед. *pólst* 'тс' (Lex. mac. du XVI-e siecle). Да прасл. **pьlstь*, роднаснага ст.-в.-ням. *filz* 'воўна', англ.-сакс. *felt*, швед., дац. *filt*, лац. *pilleus, pilleum* 'лямцавы капялюш', грэч. πῖλος 'лямец', што ўзыходзяць да і.-е. **piles-* 'волас' (БЕР 5, 372; Скок, 3, 81—82; Фасмер, 3, 318; Шустар-Шэўц, 2, 1078; Снoй$_2$, 542).

**По́ўтарка** 'кусок матэрыялу, які ўшываецца ў рукаў' (Ян.). Няясна. Магчыма, да *по-* (<**po-*) і *ўто́ркнуць* 'усунуць', гл. *торкаць*.

**По́ўх**$_1$, *повх* 'крот' (беласт., Сл. ПЗБ; драг., Сл. Брэс.; Шатал., Сцяшк. Сл., Скарбы), 'мыш-палёўка' (Сіг.), 'воўк' (Бяльк.), 'гарнастай' (Бяльк.), 'ласка' (ЛА,1), *повух* 'крот' (бяроз., Выг.); укр. дыял. *повх*, польск. *pilch* 'жывёліна Myoxidae, грызун з вушамі без поўсці', н.-луж. *pjelch*, чэш., слав. *plch*, славен. *pólh* 'соня', харв. *pȕh* , балг. *плъх, плъф* 'пацук, Mus rattus'. Некаторыя няслушна (гл. Шустар-Шэўц, 2, 1077) лічаць запазычаннем

са ст.-в.-ням. *pilich*, с.-в.-ням. *bilch* ‘від мышы’ (Голуб—Копечны, 278). Да прасл. **pъlxъ* < **pelsъ(jь)* < **polsъ(jь);* сюды ж *пялёсы*, *пялясы* ‘з белымі палосамі на цёмным фоне’ (гл.), рус. *пелёсый* ‘плямісты (пра жывёлу)’, параўноўваюць з літ. *pelẽ* ‘мыш’, лат. *pele* ‘тс’ < і.-е. **pel* ‘сівы, белаваты (пра колер)’, дапускаючы, што тут мае месца намінацыя паводле лысых вушных ракавін грызуноў; Немец (Этимология—1997—1999, 128) параўноўвае са ст.-чэш. *oplchaly* (БЕР, 5, 374—375, з літ-рай; Махэк$_2$, 460; Сной$_2$, 539; Глухак, 511). Аднясенне сюды назвы ваўка па колеравай прыкмеце (“шэры”) з’яўляецца вынікам табуізацыі; зрэшты, параўн. і ўкр. *вовчо́к* ‘соня’. Сюды ж *повхото́чыны, повховы́ньне* ‘паточаная кратамі зямля’ (Сл. Брэс., Шатал.).

**По́ўх$_2$** ‘пячкур (рачная рыба)’ (Крыв.). Няясна. Магчыма, з *по́ўх$_1$* (гл.) з-за плямістай афарбоўкі.

**По́ўха** ‘ўдар па шчацэ’ (Нас., Сл. ПЗБ), ‘аплявуха’ (Бяльк., Шат., Касп.), *по́ўшына* ‘ўдар па вуху’ (Бяльк.), *по́ўшыць* ‘біць у вуха’ (Шат.). Хутчэй за ўсё, назоўнік абстрагаваны са спалучэння *даць по (в)уху* (гл. *па, вуха*). Малаімаверна адносіць да ўтварэнняў ад *аплявýха* (гл.) шляхам народнаэтымалагічнага суаднясення са словам *вýха* (ЭСБМ, 1, 127—128), больш верагодна бачыць у ім кальку на базе літ. *añtausis* ‘аплявуха’, ‘частка шчакі насупраць вуха’ (Чэкман, Baltistica, 8, 2, 153), параўн. таксама дзеяслоўнае ўтварэнне *antausiúoti* ‘даваць аплявуху’, аднак несупадзенне прыставачнай семантыкі (літ. *ant* ‘на’) ставіць пад сумненне магчымасць калькавання.

**По́ўш** ‘землярыйка’ (ТС). Ад *по́ўх* (гл.). Канчатак *-ш*, як у *мыш*.

**Поўць.** Гл. *полць*.

**По́хад$_1$** ‘рэшткі пры ўзважванні бульбы, мукі і інш.’ (паўн.-усх., КЭС). Ад *хадзíць* (гл.) з дапамогай прыст. *по-*, параўн. *адыхо́д, адхо́д* ‘рэшткі чаго-небудзь’.

**По́хад$_2$** ‘месца над асеццю’ (Мат. Маг.), ‘яма перад печкай у асеці’ (Мат. Гом., Бяльк.). Ад *хадзíць* (гл.) з дапамогай прыст. *по-*, аднак матывацыя застаецца нявысветленай.

**По́ханне** (*похыньня, похкыньня*) ‘глухія адрывістыя гукі’ (Юрч. СНЛ). Утворана ад гукапераймальнага дзеяслова **по́хаць*. З іншым варыянтам кораня гл. *пыхаць, пýхаць*.

**По́хап** ‘спрыт, хватка’ (ТС), *по́хапкам* ‘наспех’ (Сцяшк. Сл.); параўн. укр. *по́хапки, по́хапцем* ‘спяшаючыся’, ст.-польск. *pochop* ‘хватка, захоп’, ‘пачатак’, чэш. *pochop* ‘разуменне’, старое ‘памочнік ката’, ‘зборшчык падаткаў’, славац. *pochop* ‘разуменне; уяўленне’. Да *па-хапі́ць,* гл. *хапа́ць*, параўн. *по́хват.* Банькоўскі (2, 647), іранізуючы над ужываннем слова *pochop* у Міцкевіча (“użyte normalnie tylko 2 razy”), не ўлічвае магчымы ўплыў беларускага слова.

**По́хараны,** *по́харань*, ‘пахаванне’ (віл., паст., шальч., калінк., Сл. ПЗБ), *по́хорон* ‘тс’ (ганц., тамсама), *похороні́ці* ‘пахаваць’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *похоронене, похоронение, похоронити* (побач з *поховати*). Сучаснае запазычанне з рус. *похоро́ны* ‘пахаванне’, якое з *по-* (**po-*) і *хоронить,* бел. *хараніць* (гл.).

**По́хаць,** *по́хоць* ‘хаценне, сквапнасць’ (ТС), рус. *по́хоть* ‘грубая палавая цяга’, укр. *по́хіть* ‘тс’, ‘жаданне’, балг. *по́хот* ‘тс’, ст.-слав. поҳоть ‘юр’, поҳотьнъ ‘юрлівы’, поҳотѣниѥ ‘жаданне’. Прасл. **po-chotь* (БЕР 5, 564), гл. *хаце́ць*, але Сной$_2$ (536) мяркуе, што гэтыя словы, як і славен. *pohóta* ‘пажадлівасць’, з’яўляюцца самастойнымі ўтварэннямі асобных славянскіх моў, аднак параўн. балг. *по́хта*, для якога Экерт (Зб. Бернштэйну, 488—490) рэканструюе прасл. **poxъta* (гл.).

**По́хва** ‘ножны’, ‘футарал’, ‘vulva’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Гарб., Мік., Гарэц., Яруш., Касп.; маст., смарг., беласт., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), ‘навалочка’ (Сцяшк. МГ; маст., Сл. ПЗБ), *по́хвы* ‘пахавыя часткі цела ў жывёл’ (віц., Шн. 3; Нік. Очерки), ст.-бел. *пахва, похвы* ‘ножны’, укр. *пі́хви* ‘ножны’, рус. дыял. *пахва́, пахвы* ‘падхвостныя рамяні ў збруі’, польск. *pochwa, poszwa* ‘ножны’, ‘рэмень-падхвоснік’, ст.-польск. *pochwa, pochew* ‘ножны’ (XV—XVII стст.), ст.-чэш. *pochvy* ‘тс’, чэш. *pochva, pošva* ‘ножны’, *pochvy* ‘збруя’, славац. *pošva* ‘ножны’, серб.-харв. *pohve* ‘тс’. Відаць, вандроўны тэрмін не зусім яснага паходжання, асабліва ў значэнні вайсковай прылады. Паколькі польскае слова лічыцца запазычаннем са ст.-чэш. *pochvy* (Банькоўскі 2, 648—649), то, насуперак Кюнэ (Poln., 88) і Булыку (Булыка, Запазыч., 256), можна меркаваць, што ў беларускую мову слова магло трапіць непасрэдна са ст.-чэш. і было збліжана з утварэннямі ад *хава́ць, пахава́ць* ‘схаваць’ (Нас., 486). Імаверным падаецца таксама меркаванне пра сувязь з прасл. **paxy* (**paxъve*) або з **poxy*

(*poxъve), гл. *паха*, што выводзяцца з *pax- / *paz- / *pag-*, варыянтнасць *pa- / *po-* тлумачыцца старажытным чаргаваннем галосных (Фасмер 3, 221; Шустар-Шэўц, Etym. Brun., 1, 30). Нацягнутым здаецца збліжэнне з ням. *Facht* 'паліца', 'скрыня', *Fuge* 'паз', 'шво', 'жалабок', лац. *pango* 'ўганяць, убіваць', 'засаджваць чым-небудзь' і ўзвядзенне да і.-е. кораня *pāk- / *pāg-* 'замацаваць' (Скок, 2, 695; Голуб—Копечны, 283—284).

**По́хват** 'спрыт' (люб., Сл. ПЗБ), 'кірунак, палёт' (Гарб.), укр. *по́хватом* 'паспешна', польск. дыял. *pochwat* 'хапанне', балг. *похва́т* 'прыём'. Ад *по-* і *хватаць* 'хапаць' (гл.), параўн. *по́хап.*

**По́хлапні** 'моцныя, густа сплеценыя лапці з анучамі да кален' (Сержп., Отч., 5; паўн.-усх., КЭС). Да *пахлапе́нь* (гл.), паводле тыповай мадэлі, параўн. *пыхрясьні* 'прыгожыя лыкавыя лапці', *шчарбатні* 'лапці, якія складаліся толькі з падэшвы' і пад. Падрабязней пра назвы абутку гл. Мацкевіч, Грынавяцкене, БЛ, 43, 3—19, а таксама Вахрас, Наим. об., 29.

**По́хля** 'палоска, участак сенакосу' (Мат. Гом.). Няясна.

**По́хнуць** 'пухнуць' (астрав., в.-дзв., віл., даўг., брасл., Сл. ПЗБ), *по́хці* 'пухнуць' (Нас.), *по́хлы* 'пухлы', 'апухлы' (Нас.). Няясна. Паводле Карскага (1, 246), паралельнае да *пу́хнуць* (гл.), што ўзыходзіць да кораня *pъx-*. Цвяткоў (Запіскі, 69), параўноўваючы з польск. *pęcherz* 'пухір', лічыць, што тут "маем у палякаў і ў беларусаў розныя віды каранёў (з насавым інфіксам і без яго)".

**По́цемак**, *по́цемкі, по́цем* 'цемната' (ТСБМ, Нас., Сцяц., Бяльк.), *по́цемку, по́цямку* 'ўпоцемку' (Сл. ПЗБ). Ад *по-* (*po-*) і *цьма* (Сцяцко, Афікс. наз., 243). Утворана, як *до́світак*. Сюды ж *по́цемак* 'скрытны чалавек' (Сцяшк. Сл.).

**По́ценко** 'танкавата' (Нас.). Ад *по́-* (гл.) і *ценка* (гл.), як *по́цемно, по́цесна.*

**По́цесна** 'цеснавата' (Нас.). Ад *по́-* (гл.) і *цесна* (гл.), як *по́ценко, по́цемно.*

**По́цераб**, *по́тэребы, поцерэб, по́цяраб, по́церэб* 'расчышчанае ад лесу поле ці сенажаць' (Янк. 3, Некр.; Сержп. Борт.; Бес., Выг. дыс.; Касп.; дзятл., калінк., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., ТС, Сцяшк. Сл.;), *по́цяраб, по́цярабкі* 'бурачнік' (шчуч., Сл. ПЗБ), стараж.-рус. *потеребъ* 'расчышчанае пад раллю месца' (1499). Аддзеяслоўны назоўнік, утвораны з *пацерабіць*, якое з *по́- (па-)*

і *церабíць* (< прасл. **terbiti*) ‘высякаць дрэвы, прачышчаць лес’. Гл. *пацярóб.*

**Пóціць** ‘утвараць’: *пчолы воск пóцяць, выдзяляюць з цела* (ваўк., Сл. ПЗБ). Утворана ад *пот* (гл.) на базе народных уяўленняў пра ўтварэнне мёду. Менш верагодна з літ. *paũsti* ‘класці яйцы’ (Грынавяцкене і інш., Междунар. конф. балтистов, 148).

**Пóцькало** ‘сава’ (Сцяшк. МГ; ваўк., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), *пуотькач* ‘дзікая птушка’ (Бес.), ‘сыч’ (беласт., Сл. ПЗБ), параўн. укр. дыял. *пýтькало* ‘від чаплі; сыч’. З гукапераймальнага *поць-поць*. Параўн. таксама *пýцкела* ‘перапёлка’(гл.).

**Пóцяг** ‘шавецкі рэмень’ (Гарэц., Др.-Падб.), ‘частка ярма (за якую вол цягне воз)’ (Выг.), ‘пуга’ (Бяльк.), *пóцяг, пóцяж* ‘вяроўка або ланцуг, якім прывязваюць барану ці плуг да ярма’ (ТС), *пóціг* ‘рамень у шаўца, якім ён трымае на калене “работу” (Нас.), польск. *pociągacz, pocięgiel* ‘шавецкі рэмень’, чэш. *potěh* ‘рамень, якім шавец трымае работу’. Да **po-tęgnǫti* > *цягнýць* (гл.).

**Пóцяж** ‘сутарга’ (Сцяшк. МГ). Ад *по-* (**po-*) і *цягнýць* (гл.). Тое ж у літоўскай мове, параўн. літ. *traukulỹs* ‘сутарга’ (з *tráukti* ‘цягнуць, валачы’), якое, аднак, цяжка разглядаць як крыніцу калькавання.

**Пóчапка**, *пóчап*, *пóчапак, пóчапень, пóчэп, пóчэпка, почóпка* ‘вяровачка для падвешвання чаго-небудзь’ (ТСБМ, Шат., Мат. Гом., Ян.), ‘дужка ў вядры’ (ТСБМ, Бяльк.), ‘прывязка (пугі да пугаўя)’, ‘вяроўка, прывязаная да калыскі’ (Сл. ПЗБ), *сесці на пóчапку* ‘на кукішкі’ (гродз., Сл. ПЗБ), *пóчэп* ‘вілы’ (Сл. Брэс.), ‘месца вешаць адзенне’ (Сцяшк. Сл.), *пóчып* ‘вочап’ (Юрч. Вытв.), ст.-бел. *почепити* ‘зачапіць’, укр. *почепúти* ‘зачапіць’. Утворана ад дзеяслова *пачапíць* (гл.), як *завязка* ад *завязáць* (Сцяцко, Афікс. наз., 24, 46—47). Гл. таксама *пачапéйка.*

**Пóчарадзь**, *пóчырэдь* ‘чарга пасвіць кароў’ (Сл. Брэс.). З’явілася ў выніку зрашчэння выраза *па чарадзе* пад уплывам рус. *óчередь* ‘чарга’ (параўн. адаптаваны русізм *вóчарадзь*).

**Пóчасць** ‘частаванне’ (Нас.). Укр. *пóчесть*, рус. *пóчесть*, ст.-усх.-слав. *почьсть, почесть* ‘частаванне’ (XII ст.), чэш. *počest*, серб.-харв. *пȍчаст*, макед., балг. *пóчест*. Да прасл. **po-čьstь*, якое з **po* (гл. *пó-*) і *čьstь* >*чэсць* (гл.). Гл. таксама *пачостка* ‘частаванне’.

**По́часъ** 'кароста' (Касп.). Утворана ад дзеяслова *часа́ць* з дапамогай прыстаўкі *по́-* (**po-*). У большасці і.-е. моваў гэта ўніверсальная семантычная мадэль для ўтварэння назваў скурных хваробаў: лац. *scabō* 'чашу, скрабу' > *scabies* 'часотка, парша', лат. *kasît* 'часаць' > *kass* 'часотка', ням. *kratzen* 'часаць' > *Krätze* 'часотка' (Мяркулава, Этимология—1970, 165—186).

**По́чат₁** 'аднастайнасць, падабенства; узор': *на почат гэтага здзелай, боты не адным початам пашыты* (Нас.). Можна меркаваць, што мае тое ж пахожданне, што і рус. дыял. *чи́тать* 'лічыць', 'рабіць тое, што патрабуе падлічэння: плесці сетку, вышываць, вязаць', параўн. *счёт* 'падлік', *не счесть* 'не злічыць', польск. *poczet* 'лічба; колькасць; падлік; рахунак' (XVI—XIX стст.), чэш. *počet* 'лічба, падлік, рахунак', славац. *počet* 'лічба, мноства, колькасць', якія ўзводзяць да **počьtъ* з **po-čisti* 'пачытаць'=**po-čitati* 'падлічыць'(> бел. *чыта́ць* 'успрымаць вачамі, вымаўляць напісанае'), г. зн. класці прадметы (і літары) адзін за адным або адзін пад адным (Голуб—Копечны, 282; Трубачоў, Эт. сл., 4, 123; Банькоўскі 2, 651). Сюды ж, відаць, ст.-бел. *почотъ* 'світа, картэж', г. зн. лік суправаджаючых, тых, хто едзе адзін за адным.

**По́чат₂** 'павага, пашана' (Бяльк.). Хутчэй за ўсё, архаізм, звязаны з папярэднім словам, параўн. укр. *по́чет*, рус. *почёт*, балг. *по́чет*, *по́чит*, макед. *почит* 'тс', ст.-слав. почьтениѥ 'павага, пашана' і пад. Усе да **počisti*, **-čьtǫ*, гл. *почтаваць*, *пачцівы*. Гл. таксама *пачо́т*, хутчэй за ўсё, з рус. *почет*.

**По́чка₁** 'нырка' (Дразд.; Ян.; паст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *почка*, укр. *по́чка*, рус. *по́чка*, ст.-рус. *почька*. Лічыцца вытворным ад *пяку́*, параўн. у семантычных адносінах *пе́чань* і каш. *povarka* 'нырка' < прасл. **variti* 'варыць' (Фасмер, 3, 348; Праабражэнскі, 2, 118). Гл. таксама *па́чка*.

**По́чка₂** 'пупышка' (ТСБМ), *по́чачкі* 'пупышкі' (паст., Сл. ПЗБ), рус. *по́чка* 'тс', укр. *по́чка* 'пладовая костачка; семечка гарбуза', польск. *pestka* 'семечка', ст.-польск. і дыял. *pecka* 'сярэдзіна плода з насеннем', чэш. *pecka* 'семечка; каменьчык', в.-луж. *počka*, дыял. *pačka* 'тс', н.-луж. *packa*, дыял. *pecka* 'тс', харв. кайк. *pečka* 'ягада вінаграду', чак. *pačka* 'семечка, сярэдзіна плода; ягада вінаграду', славен. *pečkà* 'пладовая костачка', *pečèk* 'костачка віннай ягады'. Беларуская лексема, відаць, запазычана

з рус. *почка* 'тс', якая не мае пэўнай этымалогіі (Фасмер, 3, 348). Борысь (Czak. stud., 99) узводзіць да прасл. **pъt'ъka-* 'штосьці круглае, камячок, каменьчык, семечка, пупышка', вытворнае з суф. *-ьka* ад рэдкага прасл. **pъt'a* 'нешта круглае, груда, камень', што рэканструюецца на базе польск. *pce* 'падстаўкі пад бочкі ў склепе', дыял. *peca* 'камяк гліны, вапны, снегу, зямлі', 'вашчына з мёдам', 'бохан хлеба' і памяншальных дэрыватаў ад яго: харв. *pajca* (< **pъt'ьca*), *paćak*, славен. *peček* (< **pъt'ъkъ*) 'вінаградны атожылак; семечка; гарошак', роднаснае літ. *paũtas* 'яйка, ядро', лат. *pàuts* 'тс' і далей з літ. *puntù, puntaũ, pùsti* 'набухаць' (Мацэнаўэр, LF 14, 414). Гл. таксама Банькоўскі, 2, 522; Бязлай, 3, 19. Спробы аддзяліць форму **počьka* ад іншых славянскіх слоў і аднесці да рус. *чкать, чикать, чкнуть, прочкну́ться* 'лопацца (пра пупышкі)' (Міклашыч, 38; Бернекер, 1, 166) маюць пэўныя семантычныя падставы, бо ў аснове намінацыі — значэнне 'раскрывацца', параўн. *по́каць, по́кацца* 'распускацца (пра пупышкі)' (гл.) і паралельнае ўтварэнне ад *пу́каць, пу́кацца* 'лопацца' — *пучча* 'кветканоснае сцябло, стрэлка' (гл. *пук*). Параўн. *по́каўка* 'пупышка' (Стан.).

**По́чтаваць** 'карміць, дагаджаць' (Сцяшк. Сл.), рус. *по́тчевать*, дыял. *по́штовать* 'частаваць'. Архаізм; з **почьтовати, *почьщивати* 'выказаць пашану'. Да **čtiti* > бел. *пачці́вы* 'паважаны, шаноўны' (Трубачоў, Эт. сл., 4, 176). Гл. *частава́ць.*

**По́чут**: *і по́чуту няма* 'нічога не чуваць пра каго-, што-небудзь', 'слых пра каго-небудзь', 'чутка, вестка' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Шат.), *почу́тка* 'чутка' (ТС), *по́чат* 'дух' (дзярж., Сл. ПЗБ), 'след, знак'(Сцяшк. Сл.). Утвораны ад *пачу́ць* (гл.), якое з **po-čuti*, як *по́гляд, по́зірк*.

**По́чынак** 'штыр у кроснах' (Мат. Гом.). Гл. *пачынак.*

**По́чырк** 'манера пісьма' (ТСБМ), рус. *по́черк*, укр. *по́черк*, старое *начерк*. Да *чыркаць* 'праводзіць лінію', пісаць' (<**čьrkati*).

**По́шалець:** *каб це пошалець узяла!* 'паўтарамесячная гарачка' (гродз., Шн. 2). Ад *шале́ць, шал* (гл.) пад уплывам *по́шасць.*

**По́шань** 'стрэмка' (Сцяшк. Сл.), параўн. укр. *по́шениця* 'насмарк, катар'. Няясна. Магчыма, утварэнне ад **пашануць* (<-*шануць*), параўн. з рус. дыял. *шануть* 'моцна піхнуць, кінуць', якое ў сваю чаргу тлумачыцца, як *шатну́ть* ад *шата́ть* (Фасмер, 4, 405). Імаверна, аднак, што гэта слова можа ўзыхо-

дзіць да *пашынуць (пóшынь > пóшань) ‘піхнуць, ударыць’ (Гарачава, Этимология—1985, 63), параўн. славац. *ošinulo ho* ‘яго хапіў удар, разбіў параліч’ (< *ošibnulo*), гл. *ашыбаць*.

**Пóшап** ‘шум’ (Сцяшк. Сл.), *пóшапак* ‘шэпт’, *пóшапкам* ‘шэптам’ (ТСБМ), ‘ціха’ (свісл., Сцяшк. Сл.), укр. *пóшепка* ‘вельмі ціха’. Ад *по-* (*па-*) і *шаптáць* (гл.), як *пóкрык, пóсвіст*.

**Пóшар** ‘корм для скаціны’ (Карскі, Труды, 415; Скарбы), ‘грубы корм для жывёлы’ (Сцяшк. МГ, Сл. ПЗБ; воран., Шатал.), ‘зялёная маса сумесна пасеяных вікі і аўса’ (Шчарб.), ‘адходы, смецце’ (лід., Сл. ПЗБ), перан. ‘тытунь’ (паст., Сл. ПЗБ); сюды ж, відаць, *пóшур* (< *пóшыр* < *пóшар*) ‘пацяруха’ (Мат. Гом.; Сцяшк. Сл.). З літ. *pãšaras* ‘корм’ < *šérti* ‘карміць’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 49). Гл. таксама *пáшары*.

**Пóшасць**, *пóшусьць, пóшысьць, пóшэсць, пóшась* ‘хвароба, эпідэмія, зараза’, ‘насланнё’, ‘падзеж жывёлы’ (ТСБМ, Нас., Сцяшк. МГ, Гарэц., Чач., Клім., Яруш.; нараўл., лельч., Арх. ГУ; Шат., Касп.; ваўк., Сл. ПЗБ; Мат. Маг., ТС, Бяльк.), ‘парша’ (іўеў., Сл. ПЗБ), *пóшліна* ‘пошасць’ (віл., Сл. ПЗБ), *пóшарсць* ‘пошасць’ (Бяльк.). Укр. *пóшесть, пóшерсть*, рус. пск. *пóшесть*, польск. *posześć,* каш. *poszedło* ‘эпідэмія’, чэш. *pošlý* ‘здохлы’, славен. *pošâst* ‘здань, пачвара, шкодныя насякомыя’, харв. кайк. *pȍšāst* ‘эпідэмія, чума’, ‘дух, здань’. Прасл. **pošьstь* ад *по-* (**po-*) і **šьd-* (> бел. *ішóў*, гл. *хадзіць*; стараж.-рус. пошестиѥ ‘рух’, ‘імкненне’) паводле семантычнай мадэлі ‘рух’ > ‘эпідэмія’, тыповай для назваў эпідэмій у славянскіх мовах, параўн. рус. дыял. *повéтрие, пошáва, пошáтка*. У гэтай групе шырока прадстаўлены прыст. *по-* са значэннем пачатку дзеяння. Сюды ж *пóшлінь* ‘пошасць’ (Юрч. СНЛ).

**Пóшва**$_1$ ‘шво’ (чэрв., Сл. ПЗБ; рэч., нараўл., добр., Мат. Гом.; брагін., Шатал.; Ян.). Ад *по-* (**po-*) і **šьvъ* ‘шво’ (Фасмер, 4, 443—444, 463—464). Да *шво, шыць* (гл.).

**Пóшва**$_2$, *пóшавачка, пóшаўка, пóшыўка, пóшуўка, пошувка* ‘навалачка’ (баран., в.-дзв., маст., віл., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.; маладз., карэліц., Янк. Мат.; Інстр. 1, Бес.), ‘насыпка’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *пошва, пошовка* ‘пасцельная бялізна’, укр. *пóшивка, пошúванка* ‘навалачка’, польск. *poszewka* ‘навалачка’, *poszwa* ‘навалачка’, ‘насыпка’. Ад *пóшва*$_1$ (гл.) па мадэлі ‘дзеянне’, ‘спосаб дзеяння’ >

'прадукт дзеяння'; літаральна *пóшва* 'тое, што пашылі', якое да **posjъva* < **po-sjy-ti* (Банькоўскі, 2, 719).

**Пóшва₃** 'прошва' (паст., Сл. ПЗБ). Ад *прóшва* (гл.) з выпадзеннем зычнага *-р-*, магчыма, пад уздзеяннем *пóшва₁* 'шво' (гл.)

**Пóшва₄**, *пóшвіна* 'тонкая жардзіна, якая накладаецца на разасланую кулявую салому і прывязваецца віткаю за латы' (Янк. 1), рус. дыял. *пóшва* 'дошка, якую прыбіваюць да борта лодкі, каб падоўжыць яго', *пóшвы, пóшевни* 'абшытыя лубам сані'. Да *шыць* > *пашыць*(гл.), параўн. *зашыць* 'забіць дошкамі, шалёўкай', *абшыць* 'абабіць дошкамі, лістамі бляхі'.

**Пóшліна** 'мыта; дзяржаўны грашовы збор за тавары, якія ўвозяцца або вывозяцца' (ТСБМ, Бяльк., Юрч. СНЛ), ст.-бел. *пошлина*, рус. *пóшлина*, старaж.-рус. *пошьлина* 'старажытны звычай', *пошьлъ* 'старажытны, спрадвечны, звычайны', літаральна: *чьто пошьло есть* (Праабражэнскі, 2, 119). Параўн., аднак: *взял мецъ со собою по нашей пошлине* (Пісьмо Рыжскай рады XIII ст.), што, паводле Станкевіча (Зб. тв., 1, 368), значыла 'як мы паслалі, загадалі, па нашаму загаду', якое трэба выводзіць з *пасылаць, слаць* (гл.).

**Пóшлы₁** 'нізкі ў маральных адносінах, пазбаўлены духоўных інтарэсаў і запатрабаванняў' (ТСБМ). З рус. *пóшлый* 'тс' < *по* + *ходить*, *шел* (Праабражэнскі, 2, 119; Фасмер, 3, 349).

**Пóшлы₂** 'дужы, моцны' (Крыўко, вусн. паведамл.; ушац., Пан.), параўн. таксама *няпóшлы* 'малы, худы, кволы' (Пан.), *недапóшлы* 'кволы', *абнепашлéць* 'зрабіцца слабым, нядужым', рус. дыял. *пóшлый* 'поўны, тоўсты чалавек', 'сыты, тлусты (пра жывёлу)', 'спелы, узмужнелы, у гадах'. Даль тлумачыць яшчэ як *дóшлый*, г. зн. той, хто дасягнуў фізічнай і духоўнай кандыцыі, што сведчыць пра зыходнае *дайшóў*, гл. *ісці, хадзіць*. Параўн. *нядошлы* (гл.).

**Пóшмаркам** 'з размаху' (Сцяшк. Сл.). Хутчэй за ўсё, да *шмóргаць* 'церабіць', 'абрываць з галінак лісце і кветкі, захапіўшы ўсёй жменяй', *шмарганýць* 'парнуць рогам', 'хутка правесці бруском па касе'. Імаверна, аднак, што гэта балтызм, параўн. літ. *pasmárkauti* 'шалець, лютаваць', *pasmar̃kinti* 'стаць больш жорсткім, хуткім, моцным'. Сумніўная сувязь з рус. дыял. *шмáрить* 'біць, секчы', укр. *шмáрити, шмаряти* 'кідаць'; можна лічыць запазычаннем з польск. *smarować* 'шмараваць', 'маляваць, пісаць', 'брудзіць', 'хутка ехаць' (Фасмер, 4, 458).

**По́шта₁** ‘ўстанова для перасылкі пісем, грошай, лёгкіх грузаў’ (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ), *по́чта* ‘паштальён’ (пруж., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *почта, почтовый, поштовый* (1685), рус. *по́чта*, укр. *по́шта*. Запазычана з італ. *posta* ‘пошта’ (< лац. *positus, posita* ‘прыпынак, станцыя, дзе мяняюць коней’) ва ўсе еўрапейскія мовы. Лічыцца, што ва ўсходнеславянскія мовы трапіла праз пасрэдніцтва польскай, параўн. польск. *poczta*, ст.-польск. *poszta* (Булыка, Запазыч., 257; Фасмер, 3, 348; Брукнер, 424).

**По́шта₂** ‘нашто’ (Нас.). Гл. *пашто́*.

**По́шчак** ‘трэль, перарывісты дрыжачы гук’, ‘рэха’ (ТСБМ, Сцяшк. МГ), *по́ушчак* ‘пошчак’, ‘рэха’ (Сержп., 1911). Утворана з дапамогай прыстаўкі *по-* (**po-*) ад гукапераймальнага кораня **šček-*, вядомага толькі заходнім і ўсходнім славянам (Фасмер, 4, 499—500; Брукнер, 544; Чарных, 2, 431), параўн. ст.-бел. *щекати* ‘брахаць’, рус. дыял. *щёкот* ‘пра шчабятанне птушак’, *щеко́тка* ‘сарока’, *пощектать* ‘пабалбатать’, *щёкать, щечи́ть* ‘гаварыць голасна і хутка’, ‘сварыцца’, стараж.-рус. *щекотъ* ‘песня салаўя’ (“Слова пра паход Ігаравы”), польск. *szczekać* ‘брахаць’, чэш. *štěkati* ‘брахаць’, в.-луж. *šćekać so* ‘кпіць, жартаваць’. Гл. *шчакаць*.

**По́шчака** ‘сківіца’ (Сцяшк. МГ). Гл. *па́шчака*.

**По́шыбень** ‘кій, палка’ (Ян.); рус. пск., цвяр. *пошиба́лка* ‘прадмет (камень, палка), якімі можна ў каго-небудзь кінуць’. Ад *по-* і *шыба́ць* ‘кідаць, шпурляць’ (гл.). Пра суфікс гл. Сцяцко, Афікс. наз., 39.

**По́яс₁**, *пая́с, по́іс, по́ес* ‘рэмень, шнур і пад., якімі падпярэзваюць адзежу на таліі’, ‘паясніца, талія’, ‘што-небудзь размешчанае паласой’, ‘брус паміж кроквамі ці слупамі’, ‘гарызантальныя планкі ў раме кроснаў’, ‘спавівач’ (ТСБМ, Бес., Сцяшк. Сл., Уладз., Шушк., Інстр. 1, Тарн., Маш., П.С., Касп., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС, Бяльк.), ‘паясніца’ (жлоб., Мат. Гом.; ТС), петрык. ‘падбрушнік’, талач. ‘спавівач’, свісл. ‘папярочная планка ў лаве’; лун. ‘папярочная планка ў кроквах’ (Шатал.), ‘вянок у калодзежным зрубе’, *поесні́ца* ‘пояс ў штанах’, *поесо́к* ‘выступ, карніз’ (ТС), ст.-бел. *поясъ, поѣс, поесокъ, поясок* ‘рэмень, шнур’, ‘паясніца, талія’, укр. *по́яс*, рус. *по́яс*, польск. *pas*, в.-луж., н.-луж. *pas*, чэш., славац. *pás*, славен. *pojâs*, серб.-харв. *по̏јас, па̂с, pâs*, балг. *по́яс*, ст.-слав. поꙗсъ. Да прасл. **po-jasъ*, якое з’яўляецца адваротным дэрыватам ад **po-jasati* (< і.-е. **jōs-* ‘падпаясаць’ ‘апая-

сацьʼ; літ. *júosti* ʻапаясвацьʼ, *júosta* ʻпоясʼ, лат. *jûôsta* ʻпоясʼ, *juôzt* ʻапаясвацьʼ, грэч. ζῶμα ʻпоясʼ, авест. *yāsta-* ʻпадперазаныʼ), дзе **po-* — дээтымалагізаваны прэфікс (ESSJ, 1, 187), гл. *па-*, параўн. бел. *апаясаць* ʻпадперазацьʼ, і **jasati*, адкуль ц.-слав. ıасало ʻпоясʼ (Фасмер 3, 351; Глухак, 429), сюды ж *пóвяс, пóвес* (гл.).

**Пóяс₂** ʻвясёлкаʼ (іван., стол., ДАБМ, камент., 901—902), *паяс* (брасл., шарк., ДАБМ, камент., 901—902), *бóжы паяс* ʻтсʼ (брасл., там жа), укр. *бóжій пóйас, пóйас Бóжойі матери,* балг. *пóяс, гóспод'ов пóяс, богородичен пояс*, макед. *појас*, славен. *svete Marije pâsec*, серб.-харв. *bôžji pasȉć, božji pâs, božji pojas, Marijin pas.* Пра геаграфію распаўсюджання значэння *пóяс* ʻвясёлкаʼ гл. Талстой, ОЛА, Исследов., 1974, 35—38. *Пóяс* ʻвясёлкаʼ на Браслаўшчыне лічаць славянскай калькай літоўска-латышскай назвы, параўн. літ. *dievo juosta* (літаральна ʻбожы поясʼ), *malonės juosta* (літаральна ʻдобры поясʼ), лат. *dieva josta.* Непакупны (Связи, 64—66), насуперак Талстому, палеска-паўночнаславянскую лексіка-семантычную ізаглосу адмяжоўвае ад літоўска-латышскай і лічыць іх прыкладам незалежнага семантычнага развіцця агульнай балта-славянскай лексемы (семантычная універсалія, параўн. франц. дыял. *ceinture* ʻвясёлкаʼ, літаральна — ʻпоясʼ). Лічыцца, што асновай метафары ʻпоясʼ — ʻвясёлкаʼ разам з формай пояса мог паслужыць звычай насіць шматколерныя паясы ў Латвіі, Літве і Балгарыі (Непакупны, тамсама; Чэкман, Baltistica, 8, 2, 155). Мяркуецца, што існаваў агульны міф на балта-славяна-грэчаскай і заходнееўрапейскай тэрыторыі, у якім вясёлка выступала ў якасці пояса жаночага бажаства (Алінеі, Зб. Івічу, 78).

**Пóяс₃** ʻМлечны Шляхʼ (Мат. Гом). Такая назва існуе і ў іншых народаў, параўн. рус. дыял. *пóяс* ʻтсʼ, лац. *Caeli Cingulum* ʻнябесны поясʼ і лагічна выцякае з гаспадарчай дзейнасці і побытавых рэалій гэтых народаў. У назве *пóяс* адлюстроўваецца форма Млечнага Шляху, які ўяўляе сабой серабрыстую туманную паласу, што апаясвае нябесную сферу (Карпенка, Назв., 14—23). Пра іншыя назвы і геаграфію іх распаўсюджання гл. таксама Гладышова, Wiedza, 77—89; Купішэўскі, Słown., 106.

**Пра-** — прыйменная прыстаўка з градацыйным значэннем (гл. *празелле*, *прарадзіма* і пад). Агульнаславянскае, за выключэннем палаб. і н.-луж., параўн. рус., укр., ст.-рус., ст.-слав., балг.,

серб.-харв. *пра-*, польск., чэш., славац., славен. *pra-*. Прасл. **pra-*. Звязана чаргаваннем галосных з дзеяслоўнай прыстаўкай і прыназоўнікам **pro-*. Падаўжэнне галоснага адбылося, як мяркуе Сольмсен (KZ, 35, 468), на канцы слова па рытмічных прычынах. Роднаснае літ. *prõ*, прыназ., ст.-інд. *prā-* побач з *prō-*, лац. *prō* 'перад', ст.-в.-ням. *fruo* 'рана' (Мюленбах—Эндзелін, 3, 400; Вальдэ—Гофман, 2, 364; Фасмер 3, 351; ESSJ, 1, 205 і наст.).

**Пра-** — прыназоўнік і прыстаўка. Рус. *про*, *про-*, укр. *про* 'пра', ст.-рус. *про*, *про-* 'дзеля', ст.-слав. про-, балг. *про-*, серб.-харв. *про-*, славен. *pro-*, чэш. *pro* 'для', *pru-*. Праслав. *pro, pro-*. Звязана аблаўтам з *pra-* (гл. папярэдні артыкул). Роднаснае ст.-прус. *pra-* 'цераз, для', *pra* 'пра, пера-', літ. *pra-* 'тс', грэч. πρо 'перад', πρα-, лац. *pro- (prō),* гоц. *fra-*, нова-в.-ням. *ver-* 'пера-, за-', ст.-інд. *pra-* 'перад, за-' і г. д. (Траўтман, 229; Вальдэ—Гофман, 2, 364 і наст.; Фасмер 3, 370; ESSJ, 1, 216 і наст.).

**Прабава́ць** 'правяраць стан або якасць чаго-небудзь; рабіць пробу' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'каштаваць' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *проба* 'проба' (Ст.-бел. лексікон). Рус. *про́бовать*, *про́ба*, укр. *про́бувати, про́ба.* Праз польск. *próba, probować* з ням. *Probe* 'проба' < с.-лац. *probe* 'тс' < *probāte* 'правяраць, выпрабоўваць' (Фасмер, 3, 370).

**Прабача́ць** 'даравацъ, знімаць віну за што-небудзь' (ТСБМ, Шпіл., Гарэц., Янк. 2; Нас., Шат., Касп.). З польск. *przebaczać* 'тс' < *baczyć* 'бачыць'. Значэнне 'даравацъ' узнікла на аснове першаснага 'прапусціць, недагледзець' (Брукнер, 10).

***Прабе́га**, *пробе́га* 'смелая, дзейсная жанчына', *пробе́глы* 'дзейсны, пранырлівы, рызыкоўны' (ТС). Адваротныя ўтварэнні ад *прабегчы*; у семантычным плане параўн. *прайдзісвет, прайдоха* < *прайсці*.

**Прабе́л** 'недахоп, недагляд', 'пропуск у тэксце, прагал' (ТСБМ). Рус. *пробе́л*, ст.-рус. *пробѣлъ* 'белы (які не запоўнены) прамежак' ад *про-* і *белый*, якія былі крыніцай запазычання.

**Прабі́нда** экспр. 'дасціпны' (смаляв., Сл. ПЗБ.). Значэнне, мабыць, вызначана недакладна, параўн.: *я прабінда была, усюды залезу*, г. зн. 'пралаза, пройда і г. д.'. Дэрыват ад *бінда* (гл.) з прыст. *пра-,* якая — з семантычна блізкіх *пракуда, пралаза* і да т. п., параўн. *бінды біць* 'гультайнічаць' (Нас.).

**Прабі́рка** ‘шкляная трубачка з дном’ (ТСБМ). З рус. *проби́рка* ‘тс’, утворанага ад **пробировать* < ням. *probieren*. Адносна рус. слова гл. Праабражэнскі, 2, 128; Фасмер 3, 370. Параўн. *проба*.

**Прабітнік** ‘непаседа’ (Інстр.), *прабітны́* ‘пранырлівы’ (Мат. Гом.). Да *прабіць*. Параўн. таксама *разбітны* (гл.), рус. *про-бо́йный* ‘пранырлівы’, чэш. *probitý* ‘пранырлівы, пракуда; мах-ляр’.

**Праблюда́нне** ‘зберагание’ (Нас.), *праблюда́ць* ‘зберагаць’, *праблю́сць* ‘зберагчы’ (Нас.). Прэфіксальны дэрыват ад *блюсць* (гл. *будзіць*).

***Прабо́ец**, *пробо́ец* ‘крук’ (ТС), параўн. серб.-харв. *про̏бојац* ‘прабойнік’. Дэрыват ад *прабіць* < *біць* з суф. *-ец*.

***Прабо́іч**, *пробо́іч* ‘прабойнік’ (ТС). Дэрыват ад *прабіць* з суф. nomina instrumenti *-іч*. Адносна словаўтварэння гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45.

**Прабо́й** ‘металічная дужка, на якую навешваецца замок’ (ТСБМ, Гарэц., Касп.; шчуч., Сл. ПЗБ), *прабо́й* ‘верхняя частка вулля-калоды’ (Анох.). Рус. *пробо́й*, укр. *пробій*, польск. *przebój*, серб.-харв. *пробо̏ј*, славен. *probój*, балг. *пробой* у розных значэннях — ‘прабоіна, прарыў (куды-небудзь)’ і г. д. У значэнні ‘металічная дужка, на якую навешваецца замок’ з’яўляецца бел.-рус. семантычнай ізаглосай. Прасл. **probojь* — аблаўтны дэрыват ад **probiti* < **biti* ‘біць’. Не выключана, аднак, што гэта больш позняя аналагічная форма па тыпу **bojь* < **biti*.

**Прабо́р** ‘лінія, якая ўтвараецца на галаве, калі расчасаць на два бакі валасы’ (ТСБМ). Рус. *пробо́р* ‘тс’. Да *прабіраць* < *пра-бра́ць* < *браць*.

**Прабо́рка** ‘прачуханка’ (ТСБМ, Шат.). Да *прабіра́ць* ‘даваць прачуханку’, *прабраць* < *браць*.

**Прабразі́ць** ‘пратаптаць’ (ашм., Сцяшк. Сл.). Да *брадзіць* (гл.). Пераход *дз* > *з*, як у польск. *bardzo* > *barzo*; гл. Брукнер, 128.

***Прабэ́ндзуваць,** *пробэ́ндзуватэ, пырыбэ́ндзуватэ* ‘прайсці, мінуць (аб часе)’, ‘правесці час’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Утварэнне на базе асновы цяп. часу польскага дзеяслова *być* — *będz-* паводле мадэлі *прабыць*.

**Пра́ва** ‘сістэма агульнаабавязковых норм, якія выражаюць дзяржаўную волю пануючых у грамадстве класаў’, ‘правамоцтва

асобы', 'падстава, прычына' (ТСБМ), *пра́во* 'справядлівасць' (мазыр., ГЧ), ст.-бел. *право* 'сістэма абавязковых сацыяльных нормаў; гарантаваная свабода; судаводства'. У юрыдычным значэнні запазычана ў XIV ст. з польск. *prawo*, што калькуе ням. *Recht*, якое ў сваю чаргу з'яўляецца перакладам лац. *ius, iuris* (Золтан, Из истории, 52, з літ-рай; Банькоўскі, 2, 764). Аднак, відаць, у значэнні 'свабода выбару; справядлівасць' узыходзіць да прасл. **pravo*, параўн.: *ты сваё права правіш*, гл. *правіць*; рус., укр. *пра́во*, ст.-рус. *право*, польск. *prawo*, чэш., славац. *právo*, серб.-харв. *пра̏во*, славен. *právo*, балг. *пра́во*. Да *правы* (Фасмер, 3, 352; Махэк$_2$, 481).

**Правава́цца** 'судзіцца, мець цяжбу' (Нас.; віл., Сл. ПЗБ), 'спрачацца, сварыцца' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), 'апраўдвацца' (Шат.), *правува́ты* 'крыўдзіцца' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *правоватися* 'кіравацца прававымі нормамі, судзіць па закону' (Ст.-бел. лексікон). Да *пра́ва* (гл.); першапачаткова 'дамагацца права'. Сюды ж *правова́ць* 'кіраваць' (ТС).

**Права́дзіць** 'праводзіць' (Нас.; швянч., Сл. ПЗБ). Аўтары апошняга слоўніка параўноўваюць з польск. *prowadzić*, што, відаць, справядліва, улічваючы месца націску і арэал. Сюды ж *правадзі́ны* 'провады ў армію' (лід., Сцяшк. Сл.).

**Правады́р** 'ідэйны, палітычны кіраўнік партыі, клана', 'той, хто кіруе племям, войскам, атрадам' (ТСБМ, Гарэц.). Укр. *прово́да́рь*, *проводи́рь* 'праваднік, важаты'. Ад *праводзіць* з усх.-слав. суф. **-yr'*, параўн. *павадыр*. Меркаванні Кюнэ (Poln., 90) пра польскі ўплыў беспадстаўныя, гл. Банькоўскі, 2, 796.

**Правroutingжа́ты** 'той, хто суправаджае каго-небудзь з мэтай аховы ці паказвае дарогу', 'той, хто праводзіць на поезд, самалёт і пад.' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *провожа́тый* 'тс' < *провожа́ть* 'праводзіць'; параўн. адаптаванае *провожа́тор* 'суправаджальнік', паралельнае да *проводáтор* 'павадыр' (ТС).

**Правака́цыя** 'наўмыснае падбухторванне', 'штучнае выкліканне праяў хваробы' (ТСБМ). Праз рус. *провока́ция* з польск. *prowokacja* або ням. *Provokation* 'тс'. Апошнія — з лац. *prōvocātiō* 'правакацыя'.

**Правале́нны** 'акаянны, пракляты, надта скупы' (Шат.), параўн. рус. перм. *прова́льный* (*человек*) 'акаянны, прапашчы чалавек'. Да *правалі́ць* < *валіць*. Параўн. семантыку *прапашчы* < *пасці, падаць*, а таксама праклён *каб ты праваліўся!*

***Пра́вальваца**, *прова́льваца* 'праломваца, дзіравіцца' (ТС), сюды ж палес. *провалі́лосо небо* (пра залеву, навальніцу), якое Талстыя (ПЭСб, 10) супастаўляюць у якасці палеска-паўднёваславянскай паралелі з серб.-харв. *провалио се облак* 'прайшоў лівень', *про̏вала облака* 'лівень, залева'. Да *праваліць* 'прабіць, праламаць', што да *валіць* 'біць, ламаць', параўн. ням. *Volkenbruch* 'лівень', літаральна 'пралом воблака, у воблаках' (Гарачава, Этимология—1984, 45).

***Права́лле**, *прова́лье* 'правал': *от ужэ провалье, лье і лье дождж*, 'прорва, пропасць' (ТС). Рус. паўд. мн. л. *прова́лья* 'пропасці, пячоры', укр. *прова́лля* 'пропасць, роў'. Ад *праваліць* < *валіць* з суф. *-ьје*, або ад *правал* з суф. зборнасці. Адносна суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 201. Гл. папярэдняе слова.

**Правanса́ль** 'соус з яечных жаўткоў і алею з дабаўленнем воцату, гарчыцы і іншых вострых прыправў' (ТСБМ). З рус. *прованса́ль* 'тс', дзе ад франц. *á la provençale*, літар. 'соус, які зроблены па-правансальскі' ад назвы вобласці ў Францыі *Provence*.

**Пра́вапіс** 'агульнапрынятая сістэма правіл напісання слоў, арфаграфія' (ТСБМ, Гарэц.). Запазычанне з польск. *prawopis*; змена месца націску пад уплывам *пра́вы*. У польск., таксама як у рус. (*правописа́ние*), калька з грэч. 'ορυογραφία < όρυός 'правільны' і γράφω 'пішу'.

**Праваро́к** (*проворо́к*) 'прылазнік' (брасл., Праблемы філал.). Паводле Непакупнага (там жа, 93), з літ. *prãvaras* 'тс'. Сюды ж *права́рнік* 'курнік' (Нік. Очерки), *правары́на* 'стойла' (міёр., Нар. словатв.), што да літ. *pravarìnė* 'адгароджанае месца ў хляве' (Лаўчутэ, Балтизмы, 71).

**Праваро́ніць** 'прапусціць, не выкарыстаць чаго-небудзь з-за няўвагі' (ТСБМ). Рус. *проворо́нить* 'тс'. Ад *варона* 'варона; разявака, цюхцяй'. Апошняе значэнне ўсталявалася, магчыма, пад уплывам баек, адным з персанажаў якіх з'яўлялася варона.

**Праварьы́на** 'бервяно, брус' (Сл. рэг. лекс.). Параўн. літ. *pravarìnė* 'жэрдка, перагародка', што лічыцца запазычаным з польск. *przeworzyna* < *przewora* 'перагародка'; на думку Лаўчутэ (Балтизмы, 71), хутчэй, да літ. *prãvaras* 'прылазнік'. Параўн., аднак, *праварьі́на/про́ворына* 'разворка ў возе' (лельч., Нікан., Трансп.), што звязана з *вор*$_2$ (гл.) са значэннем 'соваць, піхаць'. Гл. *праваро́к*.

**Праваслáўе** ‘адна з хрысціянскіх канфесій’ (ТСБМ). З ц.-слав. *православие* ‘тс’, якое з’яўляецца памылковай калькай с.-грэч. ὀρθόδοξία <ὀρθός ‘прамы, правільны’ і δόξια ‘вера’ і ‘слава’. Сюды *праваслаўны* (ТСБМ) з ц.-слав. *православьнъ* — калька з грэч. ὀρθόδοξος (Слаўскі, Зб. Машынскаму, 279—280).

**Прáве** ‘амаль, амаль што’ (маст., Сл. ПЗБ, гродз., Сцяшк. Сл.). З польск. *prawie* ‘тс’.

**Правéдкі** ‘наведванне парадзіхі’ (Шат., Касп.). Ад *праведаць< ведаць*. Параўн. *адведкі*.

**Прáведны** ‘які не парушае правіл рэлігійнай маралі; справядлівы, правільны’ (ТСБМ), ‘справядлівы, сумленны’ (Шат., ТС). З ц.-слав. *правьдьныи* ‘праўдзівы, верны, справядлівы’, якое ўтворана ад *правьда* з суф. *-ьн-*.

***Правéндзіцца**, *провéндытыс, провэ́ндытысь* ‘мала што зрабіць’ (пін., драг., Бел.-рус. ізал.). На думку Клімчука (там жа, 52), суадносіцца з рус. дыял. *вéньгаться* ‘рабіць павольна, бязладна; поркацца’. Хутчэй, экспрэсіўнае ўтварэнне на базе польск. *wędzić* ‘капціць, вэндзіць’, гл. *вэ́ндзіцца* ‘марудзіць’.

**Правéрзгаць** ‘прамыць збольшага, абы-як’ (смарг., Шатал.). Хутчэй за ўсё, да *вэ́дзгаць* ‘мазаць, пэцкаць’ (гл. *вэ́зґаць*); менш верагодны прэфіксальны дзеяслоў ад **верзгаць* < польск. *wierzgać* ‘брыкацца (аб конях)’, ст.-польск. наогул аб мятанні, кіданні (параўн. Брукнер, 618).

**Правéсня** ‘прадвесне’ (баран., лях., Сл. ПЗБ). Укр. *прóвесінь, прóвесна*, рус. дан. *прóвесни* ‘тс’. Утворана ад *вясна* з прыстаўкай *пра-* (гл.), першапачатковае значэнне якой ‘перад’, г. зн. ‘пара года, якая папярэднічае вясне’, параўн. *прадвесне* ‘тс’ (гл.). Канец слова передае канчатак М. скл., захаваны ў спалучэнні *на правесня* (< *провеснѣ*), параўн. аналагічнае балг. *прóлет* ‘вясна’ (ад **lěto*, г. зн. ‘перад летам’), *прóлети* ‘вясной’ (БЕР, 5, 758).

**Правéц**, *праўцáк* у выразах: *стаяць праўцóм* ‘стаяць прама’ (стаўб., Нар. сл.), *стаяць праўцакá* ‘не даваць магчымасці паварушыцца’ (калінк., З нар. сл.), *на праўцакá браць* ‘аб стане непрытомнасці’ (Ян.), *праўцакóм* ‘дыбам’ (гом., Нар. словатв.), *правцёвый* ‘той, які стаіць старчаком’ (брэсц., З нар. сл.). Укр. *правцéм поставити* ‘выпраміць (руку, ногу), не даць сагнуцца’. Да *правы* ў значэнні ‘роўны, прамы’.

**Правíдла** '(драўляная) прылада для выраўноўвання чаго-небудзь' (ТСБМ, Шат.). З польск. *prawidło* 'правіла, капыл' (параўн. *правíла*). Таксама *правідлóвы* 'натуральны (мёд)' (смарг., Сл. ПЗБ) з польск. *prawidłowy* 'тс'.

**Прáвіла** 'палажэнне, якое выражае тую або іншую заканамернасць', 'норма паводзін, прывычка' (ТСБМ), *правíло* 'ачэп' (ганц., Сл. ПЗБ), *правыло* 'тс' (бяроз., Шатал.), *правíла* 'тоўстая доўгая жардзіна, пры дапамозе якой злучаюць зад і перад калёс, калі возяць бярвенне' (в.-дзв., Шатал.). Рус. *прáвило* 'правіла', *правúло* 'руль, лінейка', укр. *правúло* 'руль; частка шавецкай калодкі', польск. *prawidło* 'правіла; частка шавецкай калодкі і да т. п.', чэш., славац. *pravidlo* 'правіла', в.-луж. *pravidło*, н.-луж. *pšawidło*, серб.-харв. *прȁвило*, славен. *pravilo*, балг. *правило* 'правіла'. Прасл. **pravidlo*. Як сведчаць значэнні слова ў рус. і інш. славянскіх мовах, першапачаткова гэта было nomina instrumenti з суф. *-dlo* ад *praviti* (гл. *правіць*). Адцягненае значэнне з'явілася ў выніку пераносу 'тое, што вызначана прыладай', параўн. лац. *rēgula* 'лінейка' і 'правіла'.

**Правілéц** 'роўнае, прамое дрэва' (ТС). Дэрыват ад асновы *правіл-* (*правіла, правільны*) з суф. *-ец*. Параўн. і значэнне прыметніка *прáвы* 'роўны, прамы' і да т.п.

**Прáвілка** 'распорка' (жлоб., ельск., Мат. Гом.). Да *правіла* (гл.).

**Прáвіржына** 'лаз у плоце' (Мядзв.). Відаць, балтызм, параўн. літ. *prãviras* ' прыадчынены'.

**Прáвіца** 'куль, тоўсты сноп прамой саломы для пакрыцця страхі' (Сцяшк. Сл., Выг. дыс.), *правíца* 'непамятая аржаная салома' (Касп., пін., Сл. ПЗБ), 'прамая салома' (ТС), *провíца* 'раскладка снапоў для малацьбы' (стол., ДАБМ, камент., 872). Укр. *правúця* 'непамятая прамая салома'. Да *прáвы* ў значэнні 'сапраўдны, добры, роўны'.

**Правíца**$_1$ 'правая рука' (Нас.), ст.-бел. *правица* 'тс'. Укр. *правúця,* польск. *prawica*, чэш. *pravice* 'тс'. Ад **pravъ* 'правы' з суф. *-ica* (параўн. прасл. **desьnica* < **desьnъ* 'правы').

**Правíца**$_2$ 'дарожная кашолка' (пін., Мат. І дыял. канф.). Бясспрэчна, дэрыват ад прыметніка *правы*, але зыходная кропка намінацыі няясная. Магчыма таму, што насілася з правага боку?

**Прáвіцца** 'ачуньваць пасля хваробы' (Шат., Мат. Гом.), 'упраўляцца з работай' (Сл. ПЗБ, лях.), 'сыцець, гладчэць' (ТС), 'спраўджвацца' (Ян.). Да *правіць*.

**Пра́віць₁** 'маючы ўладу ў сваіх руках, кіраваць чым-небудзь', 'адпраўляць імшу' (ТСБМ, Мік.), 'кіраваць (лейцамі)' (Сл. рэг. лекс.), 'выконваць, рабіць': *правіць гаспадарку* (Байк. і Некр.), 'рамантаваць, папраўляць (недахопы, памылкі)' (ашм., Стан.; Гарэц.). Рус. *пра́вить* 'кіраваць; выпраўляць; адпраўляць царкоўную службу', укр. *правити* 'рабіць, выконваць, выпраўляць; адпраўляць царкоўную службу', ст.-рус. *правити* 'кіраваць; выконваць; адпраўляць (імшу)', польск. *prawić* 'адпраўляць (імшу)', серб.-харв. *пра̀вити* 'рабіць; ствараць', балг. *пра́вя* 'рабіць', макед. *прави*. Прасл. **praviti* < *pravъ* (гл. *правы*) (Махэк₂, 481).

**Пра́віць₂** 'гаварыць' (Шат.; воран., астрав., віл., беласт., драг., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; паст., ДАБМ, камент., 916), 'сцвярджаць, паўтараць адно і тое ж' (ашм., Стан.). Польск. *prawić* 'тс'; у гэтым значэнні дзеяслоў вядомы яшчэ ў чэш. (*praviti*), славац. (*vyprávať*, *rozprávať'*) і славен. (*praviti*). Брукнер (435) выводзіць з *правіць₁*, але Махэк₂ (481) аддзяляе яго ад *правіць₁*, таму што не бачыць семантычнай сувязі паміж імі і параўновае з хец. *palvāi* 'тс'. Няпэўна. Хутчэй за ўсё, ад **pravъ* (гл. *правы* ў другасным значэнні 'які мае рацыю; правільны'), параўн. *сваё правіць* 'даводзіць сваю рацыю'.

**Паво́дніца** 'наступная нядзеля пасля Вялікадня (Пасхі)' (Гарэц., Мядзв.), *право́дная (нядзеля)* 'памінальная' (Нас.), *право́дная нядзеля, право́дніца* 'Фаміна нядзеля' (Шат.), *право́дны* 'паслявелікодны' (Мат. Гом.), *про́вад* 'паніхіда' (Нас.). Рус. дыял. *про́воды* 'радаўніца, памінанне памёрлых', 'пахаванне', 'праводзіны вясны', *прово́дная неделя* 'Фаміны тыдзень', укр. *про́води* 'Фаміны тыдзень', 'праводзіны русалак песнямі ў першы панядзелак пасля свят Сёмухі', польск. *przewodnica, przewodniczna, przewodna niedźiela* 'першы тыдзень пасля Вялікадня', чэш. *provod, provodní neděle* 'першая нядзеля пасля Вялікадня'. Да *праводзіць*. У рымска-каталіцкай абраднасці назва тлумачыцца тым, што ў гэты дзень новаахрышчаныя людзі ішлі "провадам" да храма, або тым, што ў гэту нядзелю адбывалася працэсія да храма з вяночкамі. Але, відаць, першаснае значэнне — гэта сляды дахрысціянскага культу памерлых і ўшанавання духаў прыроды, як гэта захавалася ва ўсходніх славян (гл. Махэк₂, 452).

**Право́рны** ‘рухавы, спрытны’ (ТСБМ), *правóра* ‘рухавы хлопчык або дзяўчынка’ (Нас.), рус. *проворный, провóр* ‘спрытны чалавек’, укр. *провóрний* ‘тс’, *проворя́ка* ‘рухавая, спрытная асоба’. Хутчэй за ўсё, запазычана з рускай мовы, што канстатуецца і для ўкраінскай (ЕСУМ, 4, 592). Рускае слова звязваюць з балг. *провирам* ‘прасоўваць’, літ. *varyti* ‘гнаць’, лат. *vert* ‘бегаць’ (Фасмер, 3, 372). Параўн. *вірýтнік* ‘узбаламучаны, кручаны чалавек; злачынец, злодзей’ (гл.), *уверáцца* ‘чапляцца’ (гл.). Варбат рэканструюе прасл. *provorъ < *proverti (Супр. чыт., II, 15; Слав. языкозн., XII, 119). Гл. таксама Калашнікаў, ОЛА, Исследов., 1994—1996, 217—218.

**Прáвы** ‘супрацьлеглы леваму; справядлівы, праўдзівы; невінаваты, маючы рацыю’ (ТСБМ, Ласт.), ‘роўны’ (пін., Сл. ПЗБ), *прáву* ‘прамы’ (ТС), ст.-бел. *правы* ‘правы, неілжывы, невінаваты’ (Стан.), укр. *прáвий* ‘тс’, рус. *прáвый* ‘тс’, польск. *prawy* ‘тс’, чэш., славац. *pravý,* в.-луж. *prawy*, н.-луж. *pšawy* ‘тс’, славен. *pravi* ‘правы, прамы; правільны’, серб.-харв. *пра̏в, prȃvi* ‘прамы; невінаваты; правільны’, балг., макед. *прав* ‘прамы, справядлівы, сапраўдны’, ст.-слав. правъ ‘прамы; правільны, справядлівы’. Прасл. **pravъ(jь)* звязваюць з **pьrvъ* (гл. *першы*) і значэннем ‘які стаіць наперадзе, першы’, корань той жа, што і ў **per* (гл. *перад*) (Бязлай, 3, 105; Сной$_2$, 559); іншыя збліжэнні: лац. *probus* ‘добры, сумленны, прыстойны’ (< **prō-*, гл. *пра-*), ст.-інд. *prabhúḥ* ‘выдатны; хто перавышае іншых’, ст.-англ. *fram* ‘моцны, дзейны, смелы’, ст.-ісл. ‘той, што стаіць наперадзе; хто імкнецца наперад’ (гл. Фасмер, 3, 352; ЕСУМ, 4, 551; БЕР, 5, 581). Паводле Мартынава (Балто-слав.-итал. изогл., 15—16; Язык, 61—62), роднаснае лац. *pravus* ‘крывы, разбэшчаны, злавесны’, змяніўшаму значэнне ‘прамы, спрыяльны’ на супрацьлеглае ў выніку семантычнай перабудовы. Першаснае значэнне ‘прамы, просты’ лепш захавалася ў паўднёваславянскім арэале, аднак вядома і на іншых тэрыторыях, параўн. *прáва* ‘прама’ (калінк., З нар. сл.). Згодна з Німчуком (Давньорус., 46), пераход ‘прамы’ > ‘правы’ звязаны са становішчам рук пры паказванні (“една випрямлена — prava, друга ненапружена — lěva”).

**Правэ́йдацца** ‘праваландацца’ (Скарбы). Гл. *вэ́йдацца* ‘сноўдацца, хадзіць без справы’ (там жа), няяснага паходжання; маг-

чыма, ад польск. *wajda* 'цыганскі кіраўнік' (з венг. *wajda* < *wojewoda*, гл. Брукнер, 599).

***Правэ́ндзіцца**. Гл. *правендзіцца.*

**Правэ́нда** 'бурклівы, надакучлівы чалавек' (ушац., Нар. лекс.). Дэрыват ад *пра́віць₂* з суф. *-энда* (аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 98).

**Праг** 'моцнае жаданне, жадоба', 'пажадлівасць' (Шат.), *пра́га* 'тс' (там жа), 'жаданне піць, смага', 'моцнае жаданне, жадоба' (ТСБМ), *прага* 'жаданне піць' (Варл.). Гл. *прагнуць, спрага.*

**Пра́га** 'жэрдка, якая закрывае праход на агароджаную пашу' (Сцяшк. Сл.), *про́га* 'жэрдка, якой закрываюць праход', 'праход у агароджы' (смарг., Сл. ПЗБ), сюды ж *прагве́нь* 'бервяно ці нізенькая сценка, якая аддзяляе ток у гумне' (віл., Сл. ПЗБ). Паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 50), з літ. *pragà* 'адтуліна, пралаз, пралом'. У бел. словах адбыўся семантычны пераход 'праход, пралаз' — 'тое, чым іх закрываюць'.

**Прагаворны** 'гаваркі' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *прагаварыць*, аднак словаўтварэнне нетыповае. Магчыма, паўплывала і польск. *przegwarzyć* 'прабалбатаць, прабалакаць'.

**Прага́л**, *прагалак, прага́ліна, прога́ліна, прогу́ліна, прага́н, праго́л* 'незарослае дрэвамі месца ў лесе, палянка' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Мік., Шат.; в.-дзв., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., ТС), 'прагаліна', 'абсеў', 'лапіна з вымаклым збожжам' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.). Рус. *прога́л, прога́ль, прога́лина* 'прагаліна', укр. *прога́лина* 'просека ў лесе, палянка', *прога́льовина* 'палянка ў лесе', *прога́люватина* 'абсеў сярод збожжа'. Дэрыват ад усх.-слав. *прогалити,* параўн. рус. *прога́лить* 'агаліць, ачысціць месца ад хмызняку', звязана чаргаваннем з *голы* (гл. Фасмер 3, 372). Гл. яшчэ *гала.*

**Прагаласо́піць** 'патраціць без патрэбы' (навагр., Нар. словатв.). Няяснае слова. Можна было б параўнаць з *галас* 'крык, шум, бойка', *галасаваць* 'гучна крычаць' і да т. п. (гл.). Але ў гэтым выпадку няяснай застаецца семантыка.

**Прага́піць** 'празяваць' (івац., Нар. сл.), *прога́пыты* 'тс' (брэсц., З нар. сл.). Да *гапа* 'разявака' (гл.).

**Прага́ра** 'пражора' (Сцяшк. Сл.). Запазычанне з літ. *prãgaras* 'тс'. Сюды ж *прага́рны* 'працавіты' (тамсама), відаць, 'прагны да работы'.

**Прагáрына** ‘выгарэлая частка якой-небудзь паверхні’ (ТСБМ). Да *гарэць* (гл.).

**Прагло́** ‘вага ў студні з жураўлём’ (любан., ДАБМ, камент., 809). З *пругло₂* (гл.).

**Праглу́здацца,** *прыглу́здацца* ‘трохі апаматацца ад перажытых моцных узрушэнняў’ (Мядзв., ТС). Да *глузд*.

**Прáгля** ‘дрыгва’ (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, з **кракля*, **крагля* < *крактаць* (гл.). Параўн. *крактавінне, кракавіца* ‘дрыгва’.

**Прагно́й₁** ‘сітавасць (у драўніне)’ (ТС). Да *прагніць* з аблаўтам у корані.

**Прагно́й₂** ‘вір’ (брагін., Шатал.), *прогно́й* ‘багністая мясціна на балоце’ (ТС). Укр. *прогні́й* ‘незамярзаючае месца на балоце, топкае месца’, *прогно́іна* ‘дрыгва’. Да *прагніць* з чаргаваннем галосных у корані. Адносна семантычнага пераходу ‘вір’ — ‘балота’ гл. Талстой, Геогр., 213.

**Прагно́з** ‘прадбачанне, прадказанне, заснаванае на пэўных дадзеных’ (ТСБМ). Праз рус. *прогно́з* ‘тс’ (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 75 і наст.) з грэч. πρόγνωσις ‘даведванне наперад; прадвызначэнне’ ад грэч. προ- ‘наперад’ і γνωσις ‘веданне’.

**Прáгнуць**, *пря́гнуць* ‘жадаць; мець моцнае жаданне; мець страсць’ (Нас., Касп., Сл. ПЗБ), *прагці́* ‘жадаць’ (Сцяшк. Сл.), *прагчы́ся* ‘злоўжываць пітвом, ежай; пэнкаць ад абжорства, п’янства’ (Др.-Падб.), ‘ганяцца’ (Яруш.), ‘імкнуцца’ (Касп.). Запазычанне з польск. *pragnąć* ‘жадаць, мець моцнае жаданне’ (Кюнэ, Poln., 89; Сл. ПЗБ, 4, 71). Слова таго ж кораня, што і *прáжыць* (гл.). Паводле Шустар-Шэўца (2, 15, 1148), прасл. **pragnǫti* ‘адчуваць смагу, смягнуць, высыхаць’, прадстаўлена пераважна ў заходнеславянскіх мовах.

**Прагóн₁** ‘дзеянне паводле дзеяслова *прагнаць*’ (ТСБМ), ‘абгароджаная з двух бакоў дарога, па якой ганяюць жывёлу’ (ТСБМ), ‘праход (для жывёлы)’, ‘равок для сцёку вады’, ‘пратаптаная сцежка’ (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС), ‘сцежка ў лесе, вытаптаная жывёлай’ (Шатал.), ‘дарога за гумном’ (Сцяшк. Сл.), ‘бэлька, ачэп’ (Мат. Гом.), *прогóны* ‘падоўжанае тоўстае бервяно, на якое насцілаюць мост’ (лун., Шатал.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *прагнаць* < *гнаць*. Аналагічныя дэрываты ва ўсіх славян у розных значэннях: рус. *прогóн*, укр. *прогíн*, польск. *przegon*,

чэш. *průhon*, славац. *priehon*, серб.-харв. *прогон*, славен. *progòn*. У значэнні 'дарога для прагона жывёлы', адзначаным ва ўсходнеславянскіх, заходнеславянскіх і сербска-харвацкай мовах, магчыма, прасл. **progonъ*. Гл. яшчэ Куркіна, Этымалогія—1968, 97.

**Прагóн₂** 'ачэп', 'кладзь, якая служыла апорай страхі на сохах' (брэсц., кобр., Нар. сл.). Рус. *прогóн* 'кладзь, ляжачая частка рыштавання вакол будоўлі', 'палка ў невада, якой ён прапускаецца пад лёд', укр. *прогін* 'палка ў невада, якой ён прапускаецца пад лёд'. Этымалагічна тое ж, што і папярэдняе.

**Прагóны₁** 'слупкі, якія ставяцца на бэлькі' (Сцяшк. Сл.), *прогóны* 'падоўжаныя тоўстыя бярвёны, на якое насцілаюць мост' (лун., Шатал.). Рус. *прогóн* 'ляжачая частка рыштаванняў'. Да *прагнаць* < *гнаць*.

**Прагрáма** 'план дзейнасці, работ', 'парадак правядзення', 'кароткі змест (курса, канцэрта)' (ТСБМ). Праз рус. *прогрáмма* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 97) з франц. *programme* < грэч. πρόγραμμα 'аб'ява, загад'.

**Прагрэ́с** 'рух наперад, пераход на больш высокую ступень развіцця' (ТСБМ). Запазычанне XIX ст. (Гіст. лекс., 250) з рус. *прогрéсс* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 97), дзе праз польск. *progress* або ням. *Progress* < лац. *progressus* 'поспех' (Фасмер 3, 372).

**Прагумéнак**, *прогумéнок, прыгумéнок, прогмéнок, пругмéнок, пругумéнак* 'месца на двары, дзе пабудаваны хлеў' (Сл. Брэс.), 'месца ля гумна', 'павець ля гумна, месца перад хлявом', 'двор паміж с.-гасп. будынкамі' (ТС). Гл. *прыгуменак*.

**Прад**, *прада* — прыназоўнік і прыстаўка. З ц.-слав., ст.-слав. прѣдъ (параўн. спрадвечна бел. *перад*, рус., укр. *перед*) < прасл **perdъ*, якое з *per* (гл. *пра*) і ўзмацняльнай часціцы *-dъ* (гл. *над, под*) (ESSJ, 1, 173).

**Прáда** 'мяшэй зялёны, Setaria viridis (L.) P. B.' (маг., Кіс.). Рус. *пря́да* 'від проса', укр. *пря́да* 'расліна Setaria viridis'. Паводле Фасмера (3, 393, з літ-рай), ад *праду, прасці*. Расліна названа так па падабенству з калаўротам (рус. *прялка*). Іншыя версіі лічаць сумнеўнымі ў фанетычных адносінах. Параўн. *прáнуць* (гл.).

**Прадава́чка** ‘прадаўшчыца’ (ігн., Сл. ПЗБ). Лічыцца калькай літ. *pardavéja* ‘тс’, паралельнай да *kaséja* ‘капачка’, *siuvéja* ‘швачка’ і пад. (Baltistica, 26, 2, 167), параўн., аднак, у Скарыны *продавач* і балг. *продава́чка*, што сведчыць аб магчымасці самастойнага ўтварэння ад *прадаваць*, гл. *прадаць* (Цыхун, Зб. памяці Талстога, 1, 329).

**Прададнём** ‘досвіткам’ (астрав., Сл. ПЗБ). Да *прада* (гл. *прад*) і *дзень* (гл.). Запазычанне або калька польск. *przedednie* ‘канец ночы, час перад світаннем’.

**Прада́жа** ‘продаж’ (Др.-Падб., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *продажа* ‘грашовая пеня за злачынства, за нанясенне ран; пакаранне продажам’, рус. *прода́жа* ‘продаж’, ст.-рус. *продажа* ‘продаж; штраф за злачынства’. Прасл. **pro-dadja*, ад *pro-* і *dati*, г. зн. ‘плата за тое, што некаму дадзена’ (Праабражэнскі, 2, 129; Патабня, РФВ 3, 181; Фасмер 3, 372).

**Прадаля́ты** (мн. л. *продоляты*) ‘затрымка; зацяжка’ (Нас.). Няясна. Паводле заўвагі Насовіча (там жа), запазычана з польскай мовы. Відаць, з *do lata* ‘да лета’, пры атрыманні пазыкі “да лета”, да будучага ўраджаю. Гл. *пра;* значэнне ‘адкладванне на будучы час’ таксама ў *упрадаляты* (*впродоляты*) ‘тс’ (Нас.). Цвяткоў (Запіскі, 53) лічыць слова паланізмам, але адзначае, што ў польскай мове яму няма адпаведніка. Ён выводзіць яго з польск. *lato* ‘лета; год’ і прыставак (прыназоўнікаў) *пра+да-*.

**Прадаўгава́ты** ‘падоўжаны; большы ў даўжыню, чым у шырыню’ (ТСБМ). Конфікснае (*пра-* + *-аты*) утварэнне ад *доўгі*.

**Прада́ўні** (*прода́ўні*) ‘вельмі даўні’ (ТС). З ц.-слав. *прѣдавьнъ* ‘тс’ (Цыхун, Зб. Талстому, 419).

**Прада́ць** ‘аддаць за пэўную плату’, ‘здрадзіць’ (ТСБМ), *прода́ць* ‘тс’ (ТС). Рус. *прода́ть*, укр. *прода́ти*, ст.-рус. *продати*, польск. *sprzedać*, але старое *przedajny* ‘прадажны’, чэш. *prodati*, славац. *predat*, серб.-харв. *про̏дати*, славен. *prodáti*, балг. *прода́м* ‘прадаць’. Відаць, ужо прасл. **prodati* (Трубачоў, Проспект, 721). З **pro-* (гл. *пра-*) і **dati* ‘даць’.

**Прадве́сне** ‘час, што папярэднічае вясне’ (ТСБМ). Да *вясна* (гл.). Калька польск. *przedwiośnie* ‘тс’.

**Прадве́сце** ‘прыкметы наступлення чаго-небудзь новага’ (ТСБМ). З рус. (ц.-слав.) *предве́стие* ‘тс’, утворанага па прыкладу *изве́стие* з прыстаўкі *пред-* і *-вестие*. Да *ведаць, вестка*.

**Прадве́чны** ‘спрадвечны’ (брасл., Сл. ПЗБ). З польск. *przedwieczny* ‘тс’ < *przed* ‘прад-’ і *wieczny* ‘вечны’.

**Прадзе́л** ‘дробныя грачаныя крупы’ , ‘прамежак паміж зубамі’ (іўеў., Сл. ПЗБ). З рус. *продел* ‘дробныя грачаныя крупы’, ‘адтуліна, праём’, ‘прабор ў валасах’ і г. д. < *проделывать // проделать* < *делать* < прасл. **dělati*. Параўн. у спец. значэнні *проделывать крупу* ‘малоць, драць крупы’.

**Прадзе́лкі** ‘махлярства’, *прадзе́луваць* ‘махлярнічаць’ (Ян.). Тэрыторыя распаўсюджання сведчыць на карысць пранікнення з рус. *проде́лки* ‘махлярства, хітрыкі’, *проде́лывать* < *проделать* < прасл. *dělati* ‘рабіць’.

***Прадзе́ль**, *праді́ль* ‘прабор’ (Сл. Брэс.). З укр. *проді́ль* ‘тс’. Далей гл. *прадзел*.

***Прадзе́льніца,** *праді́лныця* (драг., Клім.), *прадзе́нніца* (жытк., Мат. Гом.), *прадіе́льніця* (беласт., Сл. ПЗБ) ‘пралля’. Укр. *прядзі́нница* ‘тс’, польск. *przędzałnik* ‘прадзільшчык’. Дэрываты ад *прадзільны* < *прасці* (гл.).

**Прадзеньгу́біць** ‘прамарнаваць час’ (Нас.). Да *дзяньгуб* (гл.).

**Пра́дзіва**, *пра́дзева, прадзіво, прадзьво* ‘кудзеля, лён, прыгатаваныя для прадзення’ (ТСБМ, Гарэц., Янк. 3, Бесар., Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ), ‘прадзенне’ (Нас., Сл. ПЗБ), ‘пража’ (Мат. Гом.). Укр. *прядіво, прядиво* ‘пянька, прыгатаваная для прадзення’, рус. *пряде(и)во* ‘кудзеля, пянька, прыгатаваныя для прадзення’, польск. *przędziwo* ‘матэрыял для прадзення, пража’, чэш. *předivo* ‘матэрыял для прадзення’, в.-луж. *předźvo*, серб.-харв. *предиво* ‘тс’, славен. *predívo* ‘тс’, балг. *пре́диво*. Прасл. **pręd-ivo*. Да *прасці* (гл.).

***Прадзькаве́цкі**, *прэцькове́цкі* ‘старасвецкі’, ‘спрадвеку’ (ТС). Са спалучэння *з прэдкоў векоў* ‘тс’ (ТС), гл. Цыхун, Зб. Талстому, 419.

**Прадзяльні́к,** *прадзянні́к* ‘галоўны пастух’, ‘хто пасе скаціну па чарзе’ (воран., шальч., Сл. ПЗБ), *прадзянні́к* ‘чарга пасвіць карову’ (Сцяшк. Сл.). З літ. *pradienykas* ‘тс’ (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 4, 74). Лаўчутэ (Балтизмы, 71) прыводзіць іншую зыходную форму *pradieniñkas* ‘тс’ < *pradieniu͂* ‘кожны другі дзень’.

**Пра́дка** ‘пралля’ (Бес., Уладз.; петрык., Мат. Гом.; свісл., Шатал.), ‘калаўротак’, ‘папрадухі’ (Уладз.), ‘прасніца’ (нараўл., Мат. Гом.). Параўн. укр. *прядка* ‘прасніца; пралля’, польск. *prządka* ‘пралля’, чэш. дыял. *přád* ‘прасніца’. Да *прасці, праду*.

**Прадлу́жыць** ‘прадоўжыць’ (ашм., Сл. ПЗБ). З польск. *przedłużyć* ‘тс’. Ад гэтага ж кораня ўтвораны па беларускай мадэлі прыметнік *прадлугава́ты* (шальч., Сл. ПЗБ) ‘прадаўгаваты’.

**Прадме́сце** ‘пасёлак, размешчаны непадалёку ад горада, але за яго межамі’, ‘ускраіна горада’ (ТСБМ). Як і рус. *предме́стье* ‘тс’, з польск. *przedmieście* ‘прадмесце’ ад *miasto* ‘горад’. Гл. *места*.

**Прадме́т** ‘канкрэтная матэрыяльная з’ява, рэч’, ‘з’ява рэчаіснасці’, ‘вучэбная дысцыпліна’ (ТСБМ). Праз рус. *предмет* ‘тс’ з польск. *przedmiot* ‘тс’, якое ў сваю чаргу калькіруе лац. *objectum*; паводле Векслера (Гіст., 151), непасрэднае запазычанне з польскай. Можна дапусціць абодва шляхі запазычання, пра што, мажліва, сведчыць розны націск і адрозненні ў семантыцы, параўн. *пре́дміт* ‘прадмет’ і *прідме́т*, *прядме́т* ‘рэч, прадмет’ (Бяльк.).

**Пра́днік**, *пра́льнік*, *пра́ньнік* ‘пранік’ (чырв., З нар. сл.). Гл. *пранік*. Форма *празнік* з *праньнік* у выніку дысіміляцыі *нн* > *дн*.

***Прадо́ліна**, *продоліна* ‘доўгая лагчына’ (ТС). Конфікснае ўтварэнне ад *дол*: *пра-дол-іна*.

**Прадонне** ‘бездань, бяздонне’, ‘прорва’ (ТСБМ, Др.-Падб., Гарэц., Нас., Касп., Сл. ПЗБ), *прадо́нная* ‘тс’ (Нас.). Гл. *бездань*; аднак у дадзеным выпадку цяжкасці ўзнікаюць з семантыкай прыстаўкі. Не выключана, што гэта калька (прынамсі, частковая) літ. *pragaras* ‘пекла, апраметная’ або *pragarmė* ‘бездань, прорва’.

**Прадпако́й** ‘пярэдняя’ (Яруш., Нас.). З польск. *przedpokój* ‘тс’.

**Прадпрые́мства** ‘вытворчая ці гандлёвая ўстанова’ (ТСБМ). Калька рус. *предприятие* ‘тс’ (Баханькоў, Гіст. лекс., 282), дзе каранёвая частка *-ем-* узыходзіць да прасл. **ęti, jьmo* ‘браць’ (гл. *ёмкі*). Рус. слова ў сваю чаргу калькуе ням. *Unternehmung* < *nehmen* ‘браць’ і ўтворана з дапамогай царкоўнаславянізмаў *пред-* і *приять* (Фасмер 3, 357).

**Прадпрыма́льнік** ‘арганізатар або ўласнік гандлёвага ці прамысловага прадпрыемства’, ‘арганізатар выгаднай справы’ (ТСБМ). Калька рус. *предприниматель*, якое ў сваю чаргу калькуе ням. *Unternehmer* ‘тс’ ад *unter-* ‘прад’ і *nehmen* ‘браць, прымаць’; паводле Станкевіча (Зб. тв., 1, 259) — русізм, замест *прадпрыемца* ‘тс’.

**Прадрака́ць** 'наперад прадказываць тое, што будзе' (ТСБМ), *прадрачэ́ння* 'прадраканне' (Бяльк.). Праз рус. *предрекать* (Крукоўскі, Уплыў, 56) з ц.-слав. прѣдъречи, предречи 'прадракці' да прасл. **rekti, rekǫ* 'гаварыць'.

**Прадсяда́цель** 'старшыня калгаса' (Сцяшк. Сл.). Сучаснае запазычанне з рус. *председатель* (колхоза). У літаратурную мову ўпершыню было запазычана ў пач. XX ст., але потым выйшла з ужытку (Гіст. мовы, 2, 258). Ад *прадсядацель* утвораны *прадсяда́целіха, прадсяда́целька* 'жонка старшыні калгаса' (Сцяшк. Сл.).

**Прадстаўні́к** 'асоба, якая прадстаўляе чые-небудзь інтарэсы, пэўную групу людзей' (ТСБМ). Неалагізм пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 240). Калька рус. *представи́тель* 'тс', першапачаткова *предста́витель* як пераклад франц. *représentant* 'тс' (Вінаградаў, Этимология—1963, 104), зыходнае ст.-слав. прѣдъставити 'прапанаваць'.

**Прад'ява** 'прадказанне' (мядз., Сл. ПЗБ). Гл. *праява*.

**Прадузя́ты** 'заснаваны на думцы, якая загадзя беспадстаўна была прынята за правільную' (ТСБМ). Калька рус. *предвзятый* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 83), якое з *пред-* і *взяты* < *взять*.

**Праду́кт** 'вынік працы чалавека', *праду́кты* 'харчовыя прыпасы' (ТСБМ). З рус. *проду́кт (проду́кты)* 'тс', якое праз ням *Produkt* з лац. *prōductum* 'тое, што выраблена' (гл. Фасмер 3, 373). У пачатку XX ст. з рус. *продукция* 'сукупнасць прадуктаў вытворчасці, разумовай працы' запазычана бел. *праду́кцыя* (Гіст. лекс., 241). Ст.-бел. *продукт* 'працэс у судзе' (Гарб.), *продуктъ* 'даклад' з польск. *produkt* < лац. *productus* (Булыка, Запазыч., 266).

**Прадулба́цца** 'прадзёўбвацца' (паст., Сл. ПЗБ). З польск. *prodłubać się* 'тс'.

**Праду́ха**₁, *праду́шына, продух(ы)* 'адтуліна для выхаду паветра, дыму' (ТСБМ, Нас., Шат., Сцяшк. Сл., Др.-Падб., Гарэц., Клім.), 'перавод дыхання; адпачынак' (Нас.), 'прамежак паміж печчу і сцяной' (чэрв., Сл. ПЗБ), 'палонка' (Сл. ПЗБ). *праду́хавіна* 'адтуліна ў лёдзе, палонка' (Нас.), *праду́хліна* 'адтуліна ў балоце' (Касп.), 'багністае месца' (Сл. ПЗБ), *пра́душнік* (у фундаменце) 'душнік' (Мат. Гом.), *про́дух, про́духа* 'прадушына' (Сл. ПЗБ, ТС), *про́духа* 'адтуліна' (Сцяшк. Сл., Сл. Брэс.). Рус. *про́дух* 'адтуліна для выхаду паветра, дыму, комін', *проду́шина* 'палонка; адтуліна ў лёдзе, каб рыба не задыхнулася', укр. *про-*

*дýхвина, продýховина* 'прадуха; палонка', чэш. *průduch* 'прадуха', балг. *продух* 'прадзіманне'. Звязана з *дýх* у значэнні 'паветра'; Махэк$_2$ (133) звязвае з **duchъ* 'дух; душа нябожчыка', быццам бы адтуліна ў коміне прызначалася для выхаду душ памёрлых, але гэта, відаць, залішняе тлумачэнне. Гл. яшчэ *здуха.*

**Прадýха$_2$**, *прадóха* 'пралля' (ТС). Да *праду, прасці.*

**Прадчувáць** 'загадзя адчуваць' (ТСБМ), *продчувáць* 'здагадвацца' (ТС). Да *чуць*. Сюды ж *прадчуванне.*

**Прадчуццё** 'прадчуванне' (Др.-Падб., Гарэц.). Кантамінацыя *прадчуванне* і польск. *przeczucie* 'тс'.

**Прад'явíць** 'паказаць (дакумент і г. д.); заявіць' (ТСБМ). З рус. *предъявúть* 'тс' (Пацюпа, Гармонія, 11).

**Праéрх** 'разрэз у штанах, спадніцы' (Сцяшк. Сл., Шатал.). Метатэза з *прарэх(а)* (гл.).

**Праём** 'адтуліна ў сцяне для акна, дзвярэй' (ТСБМ), 'вушка (у іголцы)', 'праход, шчыліна' (Гарэц., Нас., Др.-Падб.), параўн. рус. *проём* 'праём', чэш. *průjem* 'панос'. Бязафіксны дэрыват ад *пранімаць.*

**Прáжа**, *прéжа* 'напрадзеныя ніткі', 'прадзенне' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Маш.). Рус., укр. *пря́жа,* ц.-слав. *пражда*, польск. *przędza,* в.-луж. *přaza*, н.-луж. *pśěza*, чэш. *příže*, славац. *priadza*, серб.-харв. *пре̏ħа* , чак. *preja,* славен. *preja*, балг. *прéжда*. Прасл. **pręd-ja*, **pręsti,* **pręd*ǫ 'прасці' (Фасмер 3, 394; Махэк$_2$, 494).

**Пражагнáцца** 'перахрысціцца' (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *przeżegnać się* 'тс' (там жа, 4, 76) < *żegnać* (гл. *жагнаць*), звычайна *перажагнацца*, гл. *жагнаць.*

**Пражалот** 'дзяцеліна горная, Trifolium montanum L.' (гродз., Кіс.). З польск. *przelot* 'расліна пералёт, Anthyllis L.'. Гл. *пералёт.*

**Пражанíна** 'ежа, прыгатаваная з тушанага мяса і сала, падкалочаная мукой, або без мукі' (ТСБМ, Касп., Мік., Шн. 8), 'што-небудзь смажанае ў густым соусе' (Мядзв.), *пражóнка, пряжóнка* 'смажанае сала' (Мат. Маг.), 'каласы, смажаныя на агні' (Мат. Гом.) 'мачанка' (Шатал.), *пражэ́ня* 'просты сялянскі соус' (Нас.). Рус. *пря́женик* 'выраб з цеста, смажаны ў масле', *пря́женица* 'яечня на патэльні або ў латку', укр. *пря́жанка* 'адтопленае малако', *пряжéня* 'яечня з малаком', польск. *prażucha* 'ежа з запаранай грачанай або жытняй мукі з салам', чэш. *praženka* 'запраўлены суп'. Да *прáжыць* (гл.).

**Пражану́ць** ‘выгнаць, прагнаць’ (Др.-Падб.), ‘прагнаць (смагу, голад)’ (Ян.). Гл. *жэнуць, гнаць.*

**Пра́жка** ‘спражка’ (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., Шатал., Ян.). Рус., укр. *пря́жка*, славен. *préga* ‘засцёжка’. Дэрыват з суф. *-ка* ад праслав. **pręgǫ, *pręgti* (гл. *запрэгці*, *упрэгці* і г. д.); параўн. Фасмер (3, 394). Гл. таксама *спра́жка.*

**Пражмо́**$_1$ ‘паджаранае на агні калоссе недаспелага жыта’ (Нас., Бяльк., Юрч., Мат. Маг., Мат. Гом., Сцяшк. Сл.). Рус. смал. *пря́жмо* ‘калоссе жыта, пражанае на масле’, польск. *prażmo*, ст.-чэш., суч. дыял. *pražma* (відаць, мн. л.) ‘паджаранае на агні калоссе недаспелага жыта’. Прасл. **pražьmo*. Ад **pražiti* (гл. *пражыць*) з суф. *-то* (Адносна суф. гл. Слаўскі, SP, 2, 15). Махэк$_2$, 482 падкрэслівае, што слова можа лічыцца старажытным ужо з прычыны даўнасці такога спосабу ўжывання ў ежу калосся ў час неабходнасці. Гл. яшчэ Брукнер, 434.

**Пражмо́**$_2$ ‘адлегласць паміж слупамі ў клеці, дзе складваюць збожжа’ (Касп.). Не зусім ясна. Відаць, дэрыват ад *-прагу* (гл. *запрагаць*, *упрагаць*) з суф. *-ьмо*, г. зн. прастора, якая звязваецца, спалучаецца (рус. *сопрягается*) слупамі. Няясна, ці сюды адзначанае ў Даля бесар. *пря́жина* ‘лінейная мера’ (= 3 сажням 12 вяршкам) і ўкр. закарп. *пра́жина* ‘від зямельнай меры’, якія таксама не маюць пэўнай этымалогіі.

**Пражо́к** ‘драўляны пруток’ (Сл. ПЗБ). Да *пражыць*, параўн.: *наторкаем на яго грыбоў і — ў печ.*

**Пражо́нка.** Гл. *пражаніна.*

**Пражо́ра** ‘абжора’ (ТСБМ, Мат. Гом.), *прожо́ра, пражы́ра* (Сл. ПЗБ), *про́жар* ‘калі шчупак адразу хапае ўсю прыманку’ (паўн.-усх., КЭС). Рус. *прожо́ра, прожера*, укр. *про́жирь, про́жра* ‘тс’. Да этымалогіі гл. *абжора.* Сюды ж прыметнікі: *пражорны, пражорлівы, пражырны, пражарысты* ‘пражорлівы’.

**Пражо́рка** ‘адтуліна ў агароджы праз раку, у якую ўстаўляюць “нерат” (паўн.-усх., КЭС). Дэрыват з суф. *-к-* ад *пражэрці* < *жэрці*. Гл. *жарало* і *жэрло*; у семантычным плане параўн. асабліва рус. смал. *жерло́* ‘адтуліна ў печы’.

**Пражы́гнуць** ‘хутка дайсці, дасягнуць чаго-небудзь’ (Нас.). Да *жы́гаць.*

**Пра́жызне** ‘перажыванне’ (шальч., Сл. ПЗБ). Да *жызнь* (гл.). Відаць, калька польск. *przeżycie* ‘тс’.

**Пражы́ліна** ‘кладзь’ (смарг., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *прожи́лина* ‘бэлька, жэрдка’. Прэфіксальна-суфіксальны дэрыват ад *жыла*, гл. *жыліна* ‘трама, жэрдка’; апошняя параўноўваецца таксама з серб.-харв. *жила* ‘дапаможная кроква, лата’ (Ареал. исслед., 1971, 98), а таксама з балг. *жи́лици* ‘тонкія жардзіны для пакрыцця страхі вясковай хаты’, *жи́лник* ‘лата’ (БЕР, 1, 545).

**Пражы́так** у выразе: *на пражытак — для таго, каб пражыць.* (ТСБМ, Нас.), *пражыткі* ‘пражыванні’ (астрав., Сл. ПЗБ). Рус., укр. *прожи́ток* ‘жыццё; сродкі для жыцця’, польск. *przeżytek* ‘перажытак, рэлікт’, чэш. *prožitek* ‘тое, што перажыта’. Суфіксальны дэрыват ад *пражыць* < *жыць*.

**Пра́жыць,** *прэ́гчы, прагці* ‘падпякаць перад полымем’, ‘апрацоўваць зерне, арэхі, насенне моцным жарам перад спажываннем’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Бір. Дзярж., Гарэц., Нік. Очерки, Яруш., Касп., Клім.). Рус. зах. *пря́жить, пря́гу* ‘смажыць (у масле)’, укр. *прягти, пряжу́,* ц.-слав. *пръжити, пражити* ‘смажыць, сушыць’, польск. *prażyć*, в.-луж. *pražić,* н.-луж. *pšažyś* ‘падсмажваць, паліць, сушыць’, чэш. *pražiti* ‘падпякаць, смажыць арэхі’, славац. *pražit’* ‘падсмажваць, паліць, сушыць’, серб.-харв. *пр̏жити*, славен. *prážiti, pŕžiti* ‘смажыць, падпякаць’, балг. *пържа* ‘тс’, макед. *пржи* ‘тс’. Прасл. **pražiti; -ŕa-* ў рус. і ўкр. гіперграматычнае. Роднаснае літ. *spraga, spragéti* ‘смажыцца’, ‘трашчаць (аб драўніне’), нарв. *spraka* ‘трашчаць’, ст.-інд. *sphūrjati* ‘бурчыць, грыміць, вырываецца надвор’, авест. *sparja* ‘парастак’ (Фасмер 3, 383; Траўтман, 276 і наст.; Махэк$_2$, 482, Брукнер, 434). Гл. таксама *прагнуць*.

**Пражэ́ктар** ‘асвятляльны прыбор, які з дапамогай аптычнай сістэмы пасылае яркі пучок праменняў у пэўным напрамку’ (ТСБМ). Праз рус. *прожéктор* (Крукоўскі, Уплыў, 83) з англ. *projector* ‘тс’.

**Пражэ́ло.** Гл *пражаніна*.

**Пражэ́ня.** Гл. *пражаніна*.

**Праз** — прыназоўнік ‘цераз; пасля’. У гаворках мае таксама значэнне ‘з-за’ (Нас.), ‘а, аб’ (Шат., Стан., Сл. ПЗБ), ‘па якой прычыне’ (Сл. ПЗБ), ‘больш, як адзін раз’ (Сл. ПЗБ). Паводле Фідроўскай (Зб. Багародзіцкаму, 145), *праз* супрацьстаіць *цераз* як больш абстрактнае — канкрэтнаму. Рус. *през* ‘тс’, ст.-рус. *прѣз*. Запазычанне з ц.-слав. *прѣзъ* (Фасмер, 3, 358) або з польск.

*przez* (Станкевіч, Зб. тв., 2, 61); сюды таксама і *прэз* (*през*) 'праз' (Нас., ТС) (Цвяткоў, Запіскі, 63). Гл. *пераз*.

***Празале́тась,** *прозале́тось* 'тры гады таму' (ТС). З *пра-* і *залетась*.

**Празантава́ць** 'ганіць, ганьбаваць' (Юрч.), 'абгаворваць' (лях., Сл. ПЗБ), сюды ж *празент*, *прэзент* 'віднае месца' (карэліц., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *празентава́цца* 'хваліцца' (ашм., Сл. ПЗБ). З польск. *prezentować* 'прадстаўляць, рэкамендаваць, знаёміць' (там жа), што з лац. *praesentāre* 'прадстаўляць, паказваць у наяўнасці', сучаснае франц. *présenter*, ням. *präsentieren* 'тс'. Гл. *прэзентаваць*, *прэзент*. Ст.-бел. *презентация* (1605 г.) < польск. *prezentacja* (Булыка, Запазыч., 258). Адмоўнае адценне мае іранічны характар.

**Празарыць**, параўн. у песні: "Чаму, чаму, бабуленько, курчат ні чуваці? // Не чуваці дзедку, і чуці ні будзет,/ Выпусціла на падвуор'е, *прозарылі* людзі". (Федар.; навагр., Шн.). Значэнне няяснае: пакралі, ураклі? З іншай ступенню чаргавання *празырыць* 'прагнаць энергічна, не даючы апамятацца' (Янк. 2, Мат. Гом.). 'праматаць, праіграць (грошы, дабро)'(ТС). Паралелі ў рус. *проза́риться* 'прагна, карысліва глядзець некаторы час; пакваліўшыся, прамахнуцца ад прагнасці ў продажы, абмене', што да *за́риться* 'прыходзіць у азарт у гульні', 'разарацца', *за́рить* 'разараць; забіваць', 'глядзець, выглядваць'. Відаць, усе гэтыя розныя значэнні можна аб'яднаць адзіным семантычным кампанентам, прадстаўленым ў рус. *за́ркий* 'прагны, юрлівы; гнеўны, сварлівы', якое Фасмер (2, 80) не аддзяляе і ад *за́рить* 'глядзець, не адрываючыся' < прасл. **zьr-* / **zor-* (гл. *зорыць, зыр*). Роднаснымі лічацца ст.-інд. *háryati* 'ён кахае, прагне', ст.-в.-ням. *gern* 'прагны', гоц. *gaírns*, авест. *zara-* 'цэль, імкненне'.

**Праза́рыты** 'празорлівы' (Мат. Гом.), *празары́ты* 'вельмі разумны' (Ян.), 'уніклівы' (мазыр., Г4). Слова па паходжанню з'яўляецца залежным дзеепрым. прошл. часу ад *празарыць*. Слова таго ж кораня, што і *зрэнка*, *узор* з іншай ступенню агаласоўкі. Параўн. рус. дыял. *за́рить* 'глядзець на што-небудзь, не адрываючыся'.

**Празве́ўкі** 'мянушкі' (шчуч., Сл. ПЗБ). Ад *празваць* 'даць мянушку' < *зваць* з суф. *-еўка* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 62, 89).

**Праздóнніца** ‘бяздонне, бездань’ (Касп.). Да *дно*; утварэнне аналагічнае польск. *przezden* ‘тс’, дзе, паводле Банькоўскага (2, 923), выступае *przez* ‘без’, што ў такім значэнні лічыцца “выключна польскім”. Паланізм? Параўн. *бездань*, *прадонне, праз* (гл.).

**Праздрáвіць** ‘павіншаваць’, ‘вылаяць’ (Юрч.), *праздраўляць* ‘віншаваць’ (Мат. Маг.; ветк., Мат. Гом.). Вуснае запазычанне народнага рус. *проздрáвить* ‘павіншаваць’ < *поздравить,* апошняе запазычана з ц.-слав. (Фасмер 3, 303). Гл. *здаровы*.

**Празéбрыць**, *прозéбрыць* ‘прадраць вочы’ (петрык., Шатал.). З **празéкрыць* < *зéкры* ‘вочы’ (гл.). Пераход *к* > *б*, магчыма, пад уплывам *зябры* або дэфармаванага *празéрыць* ‘пачаць бачыць’ (Нас.).

**Празéлле** ў выразе *на празельле* ‘на лякарства’ (чавус., Мат. Маг.). З *пра-* і *зелле* (гл.). Параўн. актыўныя ў гэтым рэгіёне дэрываты з прыстаўкай *пра-: пралотр, пранеслух* і інш.

**Прáзем** ‘мінерал, разнавіднасць кварцу светла-зялёнай афарбоўкі’ (ТСБМ). Праз рус. *прáзем* ‘тс’ (параўн. Крукоўкі, Уплыў, 87) з ням. *Prasem* ‘тс’; крыніцай з’яўляецца лац. *prasinus* ад грэч. πράσινος ‘светла-зялёны, фарбы цыбулі’ (Мацэнаўэр, LF, 14, 81; Фасмер 3, 353).

***Празёра,** *прозёра* ‘разора’ (кам., Сл. ПЗБ). З ілюстрацыі выцякае таксама значэнне ‘прастора паміж градкамі’. Таму, відаць, слова з’яўляецца кантамінацыяй *разора* і *празéрыць* ‘пачаць бачыць’ (Нас.) ад **zьr-* (гл. *зеркі, зрок*). Параўн. яшчэ ўкр. *прозір* ‘адтуліна ў страсе для выхаду дыму; прасвет, адтуліна паміж зложанымі бярвёнамі’.

**Прáзі** мн. л. ‘чуткі’ (віл., Сл. ПЗБ). Няясна, магчыма, да польск. *frazes* ‘фраза’, старое ‘слова, зварот, выраз’ з адаптацыйнай зменай *ф* > *п*.

**Празмýста** ‘спакушальнік’ (Бяльк.). Вытворнае пры дапамозе прыстаўкі *пра-* (гл.) ад *змýста* ‘спакуса; дрэнны прыклад’ (Нас., Гарэц.), *змусціць* ‘спакусіць’ (Нас., Гарэц.), параўн. рус. *смусти́ть, сомусти́ть* ‘збянтэжыць, спакусіць’, *сомусти́тель* ‘спакушальнік’, якія разглядаюцца як вынік кантамінацыі *мутить* і *мясти́* ‘бянтэжыць’ (Фасмер, 3, 694), што да **męsti* ‘бянтэжыць, блытаць’, ітэратыў *mǫtiti* ‘тс’ (гл. *муціць*), параўн. ст.-бел. *смятатися* ‘бянтэжыцца, хвалявацца’ (Ст.-бел. лексікон). На ка-

нец беларускага слова, несумненна, паўплываў назоўнік *знýста* ‘падбухторванне’, утвораны ад *знушчáцца* ‘глуміцца, здзекавацца’ (гл.).

**Прáзнік** ‘свята’ (Нас.), *прáзнікам* ‘на свята’ (брасл., Сл. ПЗБ), *прáзнікаць* ‘святкаваць’ (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *празникъ* ‘свята’ (1489 г.), *празновать* ‘святкаваць’. З ц.-слав. *праздникъ*, утворанага на базе *праздьнъ* < прасл. **porzdьnъ*, параўн. ст.-бел. *празный* ‘свабодны, пусты, парожні’, сучаснае гл. *парожні*. Выпадзенне *д* у групе *-здн-* (<*здьн-*) адбылося на ўласнабеларускай глебе (Карскі, 1, 352). Балгарскую словаўтваральную паралель дэманструе *празникувам* ‘святкаваць’. Падрабязна аб семантыцы гл. яшчэ Тапароў, Этимология—1986—1987, 47 і наст.

**Празнóг** ‘хвароба жывёлы (*калі... каровы кроўю мочацца*)’ (брагін., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, сапсаванае *непроз* < *нефроз* ‘хвароба нырак’.

**Празнýсціць** ‘правесці’ (Полевой, О языке, 33). Гл. *знушчацца*.

**Празóрлівы** ‘здольны прадбачыць будучае, пранiклівы’ (ТСБМ), *празóрлівец* ‘тс’, *празóрлівасць* ‘здольнасць да прадбачання’ (ТСБМ, Стан.). Рус. *прозорли́вый* ‘здольны прадбачыць’, серб.-харв. *прозòрлив*, балг. *прозорли́в* ‘тс’. Да *празéрыць* ‘стаць відушчым; уцяміць, зразумець’ (Нас.), *зóрыць* ‘глядзець’ (гл.).

**Празóрны** ‘празрысты’ (Др.-Падб.), ‘чысты, ясны’ (Чэрн.), ст.-рус. *прозорныи* ‘празрысты’, ст.-слав. прозорьнъ ‘пранiклівы; празрысты’. Сюды ж, відаць, адваротны дэрыват *празóра* ‘празрыстасць’ (Стан.). Да *празóр* ‘прасвет’ (Юрч. Фраз. 1), гл. *зóрыць* ‘глядзець’.

**Празрэ́ткі** (мн. л.) ‘прыстасаванне для навівання пражы на вал красён’ (стаўб., Сл. ПЗБ). Апісанне прыстасавання адсутнічае, таму можна выказаць толькі некаторыя меркаванні. Да *рэдкі*?

**Празры́сты** ‘які прапускае святло, пранiклівы’, ‘ясны, які можна разгадаць’ (ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Некр.), ‘зоркі’ (лях., Сл. ПЗБ), укр. *прозри́стый* ‘ясны; які прапускае святло’, польск. *przejrzysty* ‘тс’, ст.-польск. *przeźrzysty* ‘тс’; параўн. рус. *прозрачный*, польск. *przezroczysty* і г. д. Арэальнае ўтварэнне ад прыставачных дзеясловаў тыпу *празéрыць*, укр. *прозирáти*, польск. *przezirać* < **zьrěti* ‘глядзець; той жа корань, што і ў *зрок, зрэнкі, зара*.

**Празýка** ‘разумнік’ (Нас.), *празýх* ‘тс’ (Нас.), *празуквáты* ‘разумны, кемлівы’ (Нас.), *празýкуваты* ‘прабіўны’ (мсцісл.,

Падлужны, вусн. паведамл.). Рус. пск., смал., маск. *прозу́ка* ‘прайдоха, прайдзісвет’. Не можа разглядацца асобна ад *азу́ка, азукаваты* ‘спрытны, жвавы’ (гл.), якое Мартынаў (SlW, 68; ЭСБМ, 1, 97) узводзіць да *зух* (гл.). Тады *празух*, відаць, з прыст. *пра-* (гл.), параўн. *прадзіва* ‘цуд, дзіва’, *пранеслух*, а *празука*, улічваючы фанетыку рускага слова, відаць, ад **празукаваць* па мадэлі *пройда, праныра* і г. д. Тапароў (Балтийские яз., 45) рус. маск. *прозу́ка, прозу́кий* ‘спрытны, пранырлівы, прайдоха’ ўзводзіць да літ. *zùiti* ‘снаваць, шныраць, бегаць’ (**pra-zu(i)-k-*). Паходжанне слова застаецца няясным, асабліва ў словаўтваральным плане.

**Разуме́нты** ‘пазументы’ (Дзмітр.). Гл. *пазументы*.

**Празы́вы** ‘мянушкі’ (шальч., в.-дзв., астрав., Сл. ПЗБ). Ад *празываць, прызываць* (< *зваць*) ‘даваць мянушку’.

**Празы́рыць** ‘прагнаць энергічна, не даючы апамятацца’ (Янк. 2; Мат. Гом.). Да *зы́рыць* ‘дысцыплінаваць’ (Варл., Стан.), гл. *зыр*.

***Праіва́ніць**, *проіва́ніць* ‘праваронiць’ (ТС). Ад імя *Іван* у значэнні ‘прастак; дурнаваты чалавек’. Параўн. рус. *мишуля* ‘дурань’, якое звязваецца з імем *Міхаіл* (гл. *абмішуліцца*), чэш. *kuba* ‘селянін, неадукаваны чалавек’ < *Ja-kub*.

**Праізво́днік** ‘паклёпнік, пляткар’ (Нас.). Да *зводзіць, звадыя́ш* (гл.).

***Прайдак**, *пройда́к* ‘прайдзісвет’ (ТС), *прайда́чка* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *пройдаковаты* ‘пранырлівы’ (ТС). Да *про́йда* (гл.).

**Прайдзісве́т** ‘пранырлівы, лоўкі, хітры чалавек’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ). Ад формы заг. ладу дзеяслова *прайсці* і *свет*. Параўн. *верціхвост, верцішыйка*.

**Прайдо́шлівы** ‘энергічны’ (Сцяшк. Сл.). Да *прайдоха* (гл.).

**Прайдо́ха** — тое ж, што і *прайдзісвет* (ТСБМ, Бяльк.), *прайдзёха*, *пройдо́ха* (Сл. ПЗБ), *прайда́ха, прайду́ха* (Шатал.) ‘тс’. Рус. *пройдо́ха* ‘тс’. Да *прайсці, прайду*. Параўн. *про́йда* (гл.).

**Прайма́цца** ‘перажываць’ (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *przejmować się* ‘тс’ (там жа).

**Прайма́ць** ‘прабіраць, пранізваць (пра мароз, холад, вецер і пад.); глыбока, моцна дзейнічаць, рабіць вялікае ўражанне на каго-небудзь’ (ТСБМ), ‘прасоўваць (нітку) праз ігольнае вушка’, ‘пранікаць (аб ветры, марозу)’ (Нас.), *пройма́ць* ‘праймаць, пра-

біраць' (ТС), зак. тр. *пройняты* 'спехам прашыць, прыхапіць ніткай' (Клім.), ст.-бел. *проимати* 'разабраць, зрабіць у чым-небудзь адтуліну'. Прыставачны дзеяслоў ад *імаць* (гл.). З семантычных паралеляў параўн. рус. *пронимать* 'прабіраць (аб холадзе)' і ўкр. *проймáти* 'абхапіць (аб холадзе); прасоўваць нітку (у іголку)'.

**Пра́йня** 'месца мыцця бялізны на рацэ' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *праць* (гл.), афармленае прадуктыўным суфіксам *-ня*, што ўтварае назвы памяшканняў і пад.: *стайня*, *майстроўня* і інш.

**Прайсцёвы** 'кароткачасовы' (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *przejściowy* 'часовы, дачасны' (там жа).

**Прак**: *ад праку веку* 'здаўна, спрадвечна' (ТСБМ, Ян.), *прокувéку* 'спрадвеку' (круп., Сл. ПЗБ), *пракавéтны* 'вельмі стары, векавечны' (ТСБМ, Некр., Мат. Гом., Ян.), *пракавéтаўскі* 'спрадвечны' (светлаг., SOr, 39, 356), *пракавéчны* 'тс' (бярэз., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *прокъ* 'астатак, рэшта'; параўн. укр. *прік* 'рэшта', рус. *прок* 'перад; продкі; будучае; карысць, запас'; дыял. *напрок* 'на будучы год'; *прочий* 'іншы', *прочны* 'моцны', ст.-рус. *прокъ* 'рэшта', *въпрокъ* 'назаўсёды', ст.-польск. *prokny* 'кожны', польск. *oprócz* 'акрамя', ст.-чэш. *prokni* 'кожны', ст.-слав. прокъ 'рэшта'. Прасл. **prokъ* утворана ад прыназоўніка **pro-* (гл. *пра-*) шляхам пашырэння з дапамогай элемента *-ко-* (параўн. *перак*), як у лац. *reciprocus* 'той, які накіраваны наперад і назад' (**reco-* + **proco-*), ст.-лац. *procum* 'знянацку, той жа час'. Першапачатковая форма ўзнаўляецца як **prokos* 'той, хто (што) знаходзіцца наперадзе' (гл. Фасмер 3, 373; там жа і інш. літ-ра). Зыходзячы з формы **prokъ*, зыходнай для бел. слова трэба прызнаць форму прыметніка: *пракавечны* (ад **прокавечны* з *прок* і *век*), адкуль быў выабстрагаваны назоўнік *прак*.

**Пракавуліна** 'маленькі завулак, пад'езд да двара' (Юрч. Фраз. 1). Утворана ад *прак* (гл.) і *вул-*, гл. *вуліца*, *завулак*, першаснае значэнне 'тое, што знаходзіцца перад вуліцай'.

**Прака́за**, *пракажóны* (ТСБМ), ст.-бел. *прокáза* 'лепра'. Рус. *прокáза, прокажéнный*, укр. *прокáза, прокажéнний* 'тс', ст.-рус. *проказа* 'зло, шкода; хвароба', серб.-харв. *про̏каза* 'вадзянка; лепра', балг. *прокáза* 'лепра', макед. *проказа* 'тс', ст.-слав. проказа 'тс', прокаженъ 'хворы праказай'. Прасл. **prokaza*, першапачаткова 'перашкода, шкода, вада', утворана пры дапамозе пры-

стаўкі **pro-* (гл. *пра*) ад **kaziti* 'псаваць, нішчыць' (гл. *казіць*). Звязана чаргаваннем галосных з *чэзнуць* (Фасмер 3, 373; Мяркулава, Этимология—1970, 166—168).

**Прака́зваць**, *праказа́ць* 'гаварыць некалькі разоў, паўтараць словы', 'дапамагаць вучню пры чытанні' (Шат.), *прока́зваць* 'расказваць' (ТС). Да *казаць*.

**Пракалаці́ць** 'памыць' (лід., Сл. ПЗБ). Да *калаці́ць* 'мяць, біць, трэсці'. Семантычна да *праць* 'мыць з пранікам'.

**Пракале́ташні** 'колішні, даўні' (стрэш., Наша слова, 2002 г., 16 кастр.). Да *прак* (гл.) і *ле́та* 'год' (гл.), аналагічна да *пракавечны* 'даўні, спрадвечны'.

**Пракалі́цца** 'добра высахнуць' (Сл. ПЗБ). Да *калі́ць₁* (гл.).

**Пракамя́шыць** 'прайсці па бруку' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Няясна. Іранічнае ўтварэнне ад *кама́шы* 'чаравікі з паўхалявамі' (гл.)?

**Праканя́нне** 'пераканаенне' (Касп., Жд. 2). З польск. *przekonanie* 'тс'. Аналагічна *праканя́цца* 'пераканацца' (ігн., Сл. ПЗБ) з польск. *przekonać się* (там жа).

**Пракаро́нкаваты** 'каржакаваты' (Мат. Гом.). Да *корань, каранасты* (гл.).

**Прака́т** 'перадача рухомай маёмасці ў часовае карыстанне за пэўную плату' (ТСБМ). З рус. *прока́т* 'тс', якое ад *прокатить, прокатать* (гл. *каціць*). Першапачаткова, магчыма, адносілася да экіпажаў, якія даваліся на *пракат*.

**Праквóльней** 'вальней' (калінк., Сл. ПЗБ). Да *вольны* (гл.). Не зусім ясная прыставачная частка. Магчыма, узята з слоў *пракалеташні, пракавечны,* дзе яна была асэнсаваная як прыстаўка з узмацняльным значэннем, гл. *прак*.

**Пракі́ва** 'крапіва' (Булг., Мат. Гом.), *прокы́ва, проке́ва* (Сл. Брэс.), *прокі́ва* (ТС) 'тс', сюды ж *прокі́ўнік* 'байструк' (ТС). Метатэза з *крапіва* (гл.), магчыма, пад уплывам польск. *pokrzywa* 'крапіва', дзе яна была адзначана спачатку ў заходняй Вялікапольшчы (1393 г.), а пасля распаўсюдзілася на рэшту польскамоўнай тэрыторыі (Банькоўскі, 1, 795); параўн. таксама *pokrzywnik* 'байструк' ("spłodzony w pokrzywach", гл. Банькоўскі, 2, 684).

**Пракіда́ць** 'кідаць праз што-небудзь; не пападаць, прамахвацца; прапускаць' (ТСБМ), *пракіда́цца, пракідваць, пракідаваць* 'запраўляць ежу чым-небудзь' (брасл., Сл. ПЗБ), *пракінуць*

'заправіць, засмачыць' (мядз., Сл. ПЗБ), *пракіняны* (аб ежы) 'запраўлены' (паст., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *пракінуты* 'тс' (івян., даўг., Сл. ПЗБ), *пракідáцца* 'трапляцца', 'прачынацца' (ТС), *прóкідзь* 'заправа' (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *прокидáтися* 'трапляцца; прачынацца'. Да *кідаць* (гл.). У значэнні 'запраўляць ежу' калька літ. *pramèsti* 'пракідваць; запраўляць, прыпраўляць (ежу)'.

**Пракідкí** 'які знаходзіць выхад з цяжкіх абставін; знаходлівы, пранырлівы, прабіўны' (ТСБМ). Гл. *кідкі*.

**Праклáдзіна** 'стрэшка над стогам' (Мат. Гом.). Да *пракласці* < *класці*.

**Пракламавáць** 'абвесціць (абвяшчаць), аб'явіць (аб'яўляць)' (ТСБМ). З польск. *proklamować* 'тс', якое у сваю чаргу ўзыходзіць да лац. *proclamare* < *clamare* 'зваць, клікаць'.

**Праклама́цыя** 'агітацыйны лісток палітычнага зместу' (ТСБМ). Праз рус. *проклама́ция* або польск. *proklamacja* < лац. *prōclāmātiō* (параўн. *пракламаваць*).

**Праклён** 'лаянкавае слова, лаянка, абурэнне', 'крайняе асуджэнне' (ТСБМ, Шат., Касп., Др.-Падб., Гарэц.; карэліц., зэльв., Сл. ПЗБ), *проклён* 'тс' (ТС). Да *праклінаць* < *клясці*.

**Праклíмкаць** 'пражыць як-небудзь' (Мат. Гом.). Экспрэсіўны прэфіксальна-суфіксальны дэрыват ад *клімкаць* (гл.).

**Пракóбацца** 'пракорпацца' (Янк. 3), *кóбацца* 'корпацца, марудна рабіць нешта' (Янк. 1), параўн. серб.-харв. дыял. *кобати се* 'спаборнічаць у дзіцячай гульні ў шарыкі'. Прасл. **kobati sę*, роднаснае прасл. **kobь* 'варажба па палёту птушак', 'прадвесце; чараўніцтва', **koba*, **kobъ* (падрабязна гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 86—87, 101).

***Пракóвец**, *прокóвэць* 'пярсцёнак' (пруж., Брэн), *пруківэць* 'тс' (брэсц., Нар. лекс.). Укр. *прукíвець* 'тс'. Дэрыват ад **пракаваць* < *каваць* (гл.). Гл. таксама: Цыхун, Зб. Абрэмбскай-Яблонскай, 49.

**Пракóлісні** 'спрадвечны' (ТС). З *пра-* і *колісь* (гл.).

**Пракóс** 'адлегласць паміж радамі скошанай травы (або збожжа)' (ТСБМ), *прокóс* 'тс' (ТС), 'радок скошанай травы' (Шат., Сл. ПЗБ). Бяссуфіксны дэрыват ад *пракасіць* < *касіць*.

**Пракóша** 'пакос' (чэрв., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад *пракос* або *пракасіць* з суф. *-ja*.

**Пракрóчваць**, *пракрóчываць* 'грашыць' (Нас.), *пракрачэнне* 'пераход, перасячэнне граніцы' (трок., Сл. ПЗБ). З польск. *przekroczwać* 'пераступаць; парушаць'.

**Праксцінкі** 'другі дзень пасля хрысцін' (маг., Шн.). Да *ксціны* (гл.).

**Пра́ктыка** 'жыццё, рэчаіснасць як галіна прымянення і праверкі ведаў, палажэнняў; скарыстанне ведаў, навыкаў на справе; дзейнасць урача або юрыста' (ТСБМ), 'нечаканы выпадак, абставіны' (Нас.), *пра́хтыка* 'практыка' (Шат.), *пра́ктык, практыкава́ць, практы́чны*. Ст.-бел. *практика, практыка* 'інтрыгі; прароцтва' < ст.-польск. *praktyka* < лац. *practica* (Булыка, Запазыч., 257). Сучаснае *пра́ктыка* праз рус. *пра́ктика* (гл. Крукоўскі, Уплыў, 78) узыходзіць да той жа лацінскай крыніцы і, далей, да грэч. πρακτική (Фасмер 3, 353).

**Праку́да** 'ахвотнік да свавольстваў, розных штук; гарэза; смешны' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Гарэц.), 'кемлівы' (Нас.), 'незвычайная з'ява' (Яруш., Нас.), 'насланнё, вера ў забабоны', (Сцяшк. Сл.), 'надакучлівы' (Сл. ПЗБ), *праку́днік, -ніца, праку́дны*. Рус. *проку́да* 'бязглуздая выхадка; шкода; прайдзісвет', *кудь* 'злы дух, вядзьмарства, чары', ц.-слав. *прокуда* 'вядзьмарства', серб. дыял. *про̏куда* 'нягоднік', балг. *проку́да* 'дрэнная звычка; выгнанне з роднага месца', ст.-слав. прокѹда 'сорам, ганьбаванне', прокоудити 'ганьбіць; рабіць шкоду'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *праку́дзіць* 'гарэзнічаць, вычвараць', параўн. рус. *проку́дить* 'тс', польск. *przekudzic* 'псаваць; дакучаць', балг. *проку́дя* 'рабіць выгнанцам; праганяць', ст.-слав. коудити, коуждѫ 'караць, асуджаць, ганьбаваць'. Да незафіксаванага **кудзіць* (гл. *кудзеснік*), што ўзыходзіць да прасл. **kuditi*. Гл. Фасмер, 3, 374, з літ-рай.

**Пракулі́ка** 'нешта незвычайнае, цуд (аб чалавеку)' (слонім., Нар. лекс.). Дэрыват ад **пракулікаць* з суф. *-а* або, паколькі няясна значэнне прыстаўкі, утварэнне з прыстаўкай *пра-* ад **кулік* (гл.). У такім выпадку, відаць, звязана з *кулікушкі* 'гульня ў жмуркі', пры якой той, што жмурыць *кулікае* (пераймае крык куліка?), параўн. рус. *кули́ки́* 'дзіцячая гульня ў хованкі'. Больш верагодна, аднак, непасрэдная сувязь з рус. *кулік* 'пераадзеты', *куликать* 'п'янстваваць', польск. *kulik, kulig* 'масленічная забава, калі пераапранутыя едуць на санях з музыкай і песнямі і адведваюць па дарозе суседзяў', ст.-польск. *kulig, kulik* 'удзельнік масленічнай забавы'. Польскія і рускія словы параўноўваюцца з назвай птушкі *кулік*, паколькі гэтая забава ў Польшчы мае наз-

ву *kuliga gonić, na kuliga jeździć* (гл. Брукнер, 281; Фасмер 2, 411). Паводле Банькоўскага (2, 851), завадзіла ў гэтай забаве быў у масцы з доўгім птушыным носам, удзельнікаў называлі "начнымі кулікамі", а сам звычай трапіў у Польшчу "z Rusi". Слаўскі (3, 350 і наст.) лічыць гэту версію народнай этымалогіяй і спасылаецца на параўнанні Міклашыча (147) і Мацэнаўэра (LF, IX, 37) з лат. *kuluos lēkt* 'гуляць на масленіцу, браць удзел у маскарадзе', якія, паводле Мюленбаха (2, 309), роднасныя лат. *kuls* 'грамада', *kulâ* разам', ст.-інд. *kúla-* 'грамада'. На карысць гэтай версіі, магчыма, і *акулі́ць* 'адрынуць, адцурацца, аднесціся з пагардай' (Нас.), што звязваюць з *куля́ць* (гл. *акуляцца*). Сувязь гэтай групы слоў з рус. *о-кула* 'падманшчык' і далей з лац. *occulere* 'ўкрываць, таіць' < і.-е. **kel-* 'зачыняць', якую прапануе Патабня (РФВ, 3, 167 і наст.), Фасмер (2, 411) лічыць сумнеўнай.

**Пракура́т** 'прайдзісвет' (ТСБМ, Нас.), *пракура́тка* 'прайдзісвет (аб жанчыне)' (Нас.). Рус. *прокура́т* 'свавольнік, гарэза', *прокурати́ть* 'гарэзаваць'. З польск. *prokurat* 'адвакат, паверааны ў справах', якое паходзіць з лац. *prōcūrātor* 'апякун, кіраўнік, правіцель' (Фасмер 3, 374). Значэнне магло змяніцца пад уплывам *пракуда, прайдоха* (гл.) (параўн. Праабражэнскі, 2, 130; Зяленін, РФВ 54, 116).

**Пракура́тар** (гіст.) 'асоба, якая кіравала чыёй-небудзь маёмасцю, маёнткам, гаспадаркай' (ТСБМ), ст.-бел. *прокураторъ* 'адвакат, абаронца, апякун' (1509 г.), са ст.-польск. *procurator* 'апякун, упаўнаважаны, дарадца' (Булыка, Лекс. запазыч., 44). Сучаснае польск. *prokurator* 'адвакат; распарадчык маёмасцю ў манастыры', што непасрэдна ўзыходзіць да лац. *prōcūrātor* 'кіраўнік маёмасцю; апякун; дарадца' (Банькоўскі, 2, 782).

**Пракуро́р** 'асоба, якая ажыццяўляе нагляд за дакладным выкананнем законаў; дзяржаўны абвінаваўца ў судовым працэсе' (ТСБМ). Праз рус. *прокурор* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78) з франц. *procureur* ад лац. *procurare* 'клапаціцца' або ад лац. *procuro-* 'наглядаю'. Запазычанне XIX ст. (Гіст. мовы, 237).

**Пракуя́чыць** 'прапіць, прамантачыць' (Мат. Гом.). Бліжэйшыя адпаведнікі ў *куя́* 'злосная жанчына', укр. *куя́* 'пануры чалавек, стары буркун', рус. *куя́ва* 'неахайная, раскудлачаная жанчына', польск. *kujava* 'неўрадлівы, бясплодны ўчастак поля', якія ўзыходзяць да прасл. **kujati*, параўн. рус. ц.-слав. *куѩти*

‘наракаць, бурчэць’, серб.-харв. *кујати* ‘хварэць’, славен. *kujati* ‘злавацца’ (падрабязна гл. Трубачоў, Эт. сл., 13, 85; Слаўскі, 3, 322 і наст., Сной$_2$, 333). Бел. дзеяслоў быў утвораны прэфіксальна-суфіксальным спосабам па тыпу *прамантачыць, насвіннячыць* і г. д.

***Пра́ла**, *пра́ло* ‘жывёльны могільнік’ (ТС). Дэрыват ад *праць* (гл.) з суф. *-ло*. Адносна суфіксацыі гл. Сцяцко, Словаўтв., 49. Утварэнне, якое фармальна ўзыходзіць да **pьradlo*, параўн. укр. *пра́ло* ‘месца на рацэ, дзе мыюць бялізну’. Магчыма, першаснае значэнне — ‘месца, дзе забівалі хворую скаціну’. Семантыка дзеяслова *пе́рыць* (гл.), *праць* ‘біць, калаціць’ яскрава выступае ў чэш., славац. *pračka* ‘бойка’.

**Прала́за** ‘пранырлівы чалавек, прайдзісвет, спрытнюга’ (ТСБМ). Рус. *прола́за* ‘тс’. Дэрыват ад *пралазіць* < *лазіць*. Семантыка аналагічная *пройда, прайдоха* і інш.

**Пралангава́ць** ‘прадоўжыць (прадаўжаць) тэрмін чаго-небудзь’, *пралангá́цыя* ‘прадаўжэнне дзеяння’ (ТСБМ). Праз польск. *prolongować*, дзе з лац. *prolongare*, якое з *pro-* і *longus* ‘доўгі’ (Банькоўскі, 2, 782). Ст.-бел. *проленгованый* ‘працягнены’ < ст.-польск. *prolengowany* < *prolongować* (Булыка, Запазыч., 266).

**Прала́саваць** ‘патраціць, вы́даткаваць’ (Нас.). Да *ласы, ласунак* (гл.).

**Пралé́дві** ‘ледзь-ледзь’ (Нас.). Да *пра-* і *ледва* (гл.).

**Пралé́жань** ‘хворае месца ад доўгага ляжання’ (Касп.). Гл. *про́лежань*.

**Пралес** : *шкіра ў лес, на пралес, здароўе ў хаце, хвароба ў лес* (Шн. 3), *пралé́с* ‘пералесак’ (Нікан.). Прыназоўнік *на* (*пралес*) у прыкладзе з Шэйна, як быццам бы, сведчыць аб тым, што значэнне тут ‘нейкае месца ў лесе’, магчыма, ‘прагаліна, паляна’ (параўн. значэнні *пралесак*). Тады *пралес* — дэрыват ад *пра-* (< *пера-?* гл.) і *лес*, у адрозненне ад укр. *пралі́с,* польск. *pralás* і чэш. *prales* ‘некрануты, даўні лес’, якія ад *пра-* і *лес* (параўн. Банькоўскі, 2, 756). Параўн. *пра́мара.*

**Пралé́сак** ‘сцежка, паласа паміж лесам’ (Касп.), *пролé́сак* ‘пералесак’ (Мат. Гом.). Рус. дыял. *пролé́сок* ‘доўгая прагаліна ў лесе’, укр. *проліс́ок* ‘прагаліна, паляна’, польск. *przelasek* ‘лясок сярод поля’. Конфіксны дэрыват *пра-* + *-ак* ад *лес.*

**Пралéсачка** ‘прыгажуня’ (Нас.). У Насовіча дзве формы: *пролесочка* і *прелесочка*. Тады да рус. *прелесть*, якое з *пере-, пре-* і *лесть* ‘ліслівасць’ (аб рус. слове гл. Фасмер 3, 358). Магчымы ўплыў наступнага слова.

**Пралéска**, *пралéшка* ‘травяністая лясная расліна з сінефіялетавымі кветкамі, Hepatica Mill. nobilis gartsult’ (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Дэмб. 1, Сцяшк. Сл., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, Кіс.), ‘кураслеп, Anemone nemorosa L.’ (віц., брэсц., Кіс.), ‘сон раскрыты, Pulsatilla potens L.’ (мін., Кіс.), ‘падснежнік, Gallanthus nivalis L.’ (Касп., Сл. ПЗБ). Рус. *пролéска, перелéска* ‘расліна Mercurialis, Iris, Scilla’, укр. *прóліска, підліска, перелíска* ‘Hepatica’, чэш. *podleska, podliška*, ст.-чэш. *podlěščka*, польск. *przelaszczka, przylaszczka, przedlaszczka* ‘расліна Hepatica’. Этымалогія застаецца няяснай. Праабражэнскі (2, 131) лічыць вытворным ад *лес*. Махэк (Jména, 48), зыходзячы са ст.-чэш. і польск. форм, узводзіць слова да прасл. **lěska* ‘лясны арэх’, г. зн. ‘расліна, якая расце *pod lískou*’, і параўноўвае з ням. *Hasselblaume* < *Hassel* ‘арэх’. Гэтаму пярэчыць батанічная характарыстыка расліны, паводле якой яна расце на палянах і адкрытых месцах у лесе. Гл. яшчэ Фасмер 3, 374; ЕСУМ, 4, 596; Банькоўскі, 2, 857—858. Пра іншыя назвы раслін гл. Кісялеўскі, Аб нек. асабл., 25—26.

**Пралéтак** ‘аднагадовае жарабё, цялё’ (Нас.). Да *пра-* і *лета*. Калька польск. *przelatek* ‘аднагадовая жывёліна’.

**Пралетáрый**, *пралетáр* ‘наёмны рабочы’, ‘незаможны грамадзянін у Старажытным Рыме’ (ТСБМ). Для гэтых дзвюх форм магчымы дзве крыніцы запазычання. *Пралетарый*, відаць, праз рус. *пролетарий* ‘тс’, якое праз ням. *Proletarier* узыходзіць да лац. *prōlētārius* ‘грамадзянін, які служыць дзяржаве толькі тым, што мае дзяцей’ < *prōlēs* ‘патомства, нашчадкі’ (гл. Фасмер 3, 375). Форма *пралетáр* магла ўзнікнуць з польск. *proletariusz* у выніку адпадзення нязвыклага канчатка *-usz*, аднак, параўн. франц. *prolétaire*, з якога, відаць, чэш. *proletář*, польск. *proletarz* (Банькоўскі, 2, 782) і ўкр. *пролетáр* (ЕСУМ, 4, 596). Не выключана, аднак, што яна паходзіць ад *пралетарый* з усячэннем *-ый*. *Пралетарыят* з рус. *пролетариат* (Крукоўскі, Уплыў, 81).

**Пралёт** ‘скразная адтуліна, праём’ (ТСБМ), ‘франтон’ (віц., ДАБМ, камент., 778), ‘градка, рад’ (Сцяшк. Сл.). Рус. *пролéт*

‘скразная адтуліна, праём’, укр. *проліт* ‘тс’, ‘дыяметр’, польск. *przelot* тэхн. ‘адтуліна’, ‘дыяметр (трубы, канала)’, чэш. *průlet* ‘пералёт’, серб.-харв. *пролет* ‘тс’. Бязафіксны назоўнік ад *праляцець* < *ляцець*. Значэнне ‘адтуліна, праём’ — праз прамежкавае значэнне ‘адтуліна, праём для пралёта, прахода’.

**Пралётма** ‘хутка’ (Нас.). Ад *праляцець* з суф. *-ма*. Аб суфіксацыі гл. Карскі, 2—3, 67. Параўн. таксама чэш. *letmo* ‘мелькам, мімаходам’.

**Пралётная.** Гл. *праметная.*

**Пралётны** ‘рухавы’ (брасл., Сл. ПЗБ), ‘праліўны (дождж)’ (лід., Сл. ПЗБ). Да *праляцець* з суф. *-н-*.

**Пралётка** ‘лёгкі адкрыты двухмесны экіпаж’ (ТСБМ). З рус. *пролётка* ‘тс’, якое, паводле Даля (3, 493), ад *пролетать* ‘хутка працякаць, прабягаць пэўную адлегласць’.

**Пралі́к** ‘памылка пры лічэнні’ (Нас.). Зваротны дэрыват ад *пралічыцца* < польск. *przeliczyć się*.

**Пралі́ў** ‘вузкая паласа вады, якая злучае два водныя басейны ці дзве часткі воднага басейна’ (ТСБМ), ‘пераліванне крыві’ (лудз., Сл. ПЗБ). Рус. *проли́в* ‘праліў; дзеянне па дзеяслову проливать’; чэш. *průliv* ‘праліў’ (з рус., слова ў Махэка$_2$ адсутнічае). Да *праліваць* < *ліць* (гл.). Літаратурнае *праліў*, магчыма, з рус. (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 86). Сюды ж *праліўнік* ‘праліўны дождж’ (Сцяшк. Сл.).

**Пра́ліца** ‘калаўрот’ (Касп.), ‘прасніца’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад асновы *прал-* (параўн. *пралля*) з суф. *-іца.*

**Пра́лля$_1$** ‘папрадуха’ (ТСБМ, Касп., Шат., Сл. ПЗБ), *пра́льня* ‘тс’ (ганц., Сл. ПЗБ), *пра́йля* ‘тс’ (брасл., Сл. ПЗБ), *пряльля* ‘тс’ (Бяльк.). Укр. *пряля* ‘тс’. Да *прасці* (гл.), параўн. папярэдняе слова.

**Пра́лля$_2$** ‘водмель, дзе мылі бялізну’ (чэрв., Сл. ПЗБ), *пра́йня* ‘тс’ (шчуч., Сцяшк. Сл.). Укр. *прало* ‘тс’. Да *праць*.

**Пралóг$_1$** ‘дарога, вымашчаная дошкамі’ (Мат. Гом.). Рус. *пролог* ‘даліна, лагчына ў гарах’. Бязафіксны назоўнік ад **пралагаць,* параўн. *пралажыць*< *лажыць* (гл.). Разыходжанні ў семантыцы ўказваюць на самастойнае ўтварэнне пры прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі.

**Пралóг$_2$** ‘уступная частка літаратурнага ці музычнага твора’ (ТСБМ). Праз рус. *пролог* ‘тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 85) з ням.

*Prolog* або франц. *prologue*, якія, у сваю чаргу, праз лац. *prologus* узыходзяць да грэч. πρόολογος (гл. Фасмер 3, 375).

***Пралоз**, *пролóз* 'месца выхаду вады між кустоў у час разліву', 'праход у лазе для рыбы (у жаку)' (ТС). З *пралáз* (гл. *праласа, лазіць*) з гіперкарэктным дыялектным *о* на месцы *а* і ад'ідэацыяй да *лаза* (гл.).

**Пралóй**: *нядзелю цэлую ішоў пралой* (Янішчыц), *пролóй, пролый* 'лівень' (Сл. Брэс.), *прарóй* 'тс' (бяроз., Шатал.). Укр. *пролій* 'тс'. Дэрыват ад *праліць* < *ліць* з суф. *–jь*, як *прабіць: прабой* і інш.

**Пралóмка** 'палонка ў лёдзе; чыстае ад лёду месца на рацэ' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, навагр., Дзмітр.). Кантамінацыя *палонка* і *праламаць*.

**Пралупíцца** 'абудзіцца рана' (добр., Мат. Гом.,). Конфікснае ўтварэнне (*пра-* + *іцца*) ад *лупы* 'вочы' (гл. *лупа*).

**Прáльнік** 'пранік' (маг., Крачк.; лун., Шатал.), 'качалка (з зубамі) для бялізны' (жытк., Мат. Гом.). Рус., укр. *прáльник*, польск. *pralnik* 'тс'. Да *праць* (Фасмер 3, 353). Параўн. *пранік*.

**Прáльніца** 'папрадуха' (слуц., Сл. ПЗБ). Да *прасці* (гл.).

**Прáльня**₁ 'пралля' (ТС). Да *прасці* (гл.).

**Прáльня**₂ 'памяшканне для мыцця бялізны' (ТСБМ, Стан.). Да *праць* (гл.).

**Прáльшчыца** 'пралля' (Мат. Гом.). Да *прасці*.

**Пралякáць** 'напалохаць' (пруж., Сл. ПЗБ; пруж., Сцяшк. Сл.) З польск. *przelęknąć* 'тс' (там жа).

**Прам** 'трама' (лун., З нар. сл.). Відаць, з польск. *tram* 'трама' пад уплывам *прамы*, *просты* і г.д.

**Прамавáць**₁ 'надаваць, узводзіць у вышэйшую (духоўную) ступень' (Нас.). Праз польск. *promować* 'пераводзіць у наступны клас; прысвойваць вучоную ступень і пад.' < лац. *promovere* 'перасоўваць, рухаць наперад' (гл. Банькоўскі, 2, 783).

**Прамавáць**₂, *прамовáты* 'лаяць, сварыцца' (горк., бяроз., Шатал.). З польск. *przemawiać (się)* 'папікаць адзін аднаго, спрачацца, лаяцца'.

**Прамáнваць** 'зbліжацца, дружыцца' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Да *праманýць*₂ (гл.).

**Прамáнка** 'мянушка, якая даецца чалавеку жыхарамі вёскі' (Сцяшк. Сл.). З *праманýць* 'даць мянушку' (Сл. ПЗБ), якое з літ. *pramanýti* 'тс' (Грынавяцкене, там жа).

**Праману́ць**1 ‘баднуць, укалоць рагамі’ (ваўк., Сл. ПЗБ). З літ. *pramáuti* ‘пракалоць’ (Грынавяцкене, там жа).

**Праману́ць**2 ‘панадзіцца, узяць за моду’ (слонім., Нар. словатв.), *праманíць* ‘прывыкаць’ (Грынавяцкене і інш., LKK, 16, 186), *праману́цца* ‘панадзіцца’ (шальч., Сл. ПЗБ), *прамóнаць* ‘тс’ (астрав., Сл. ПЗБ). З літ. *pra(si)manýti* ‘выдумаць, надумаць’ < *manyti* ‘думаць, меркаваць, мець намер’; гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 71.

**Пра́мара**, параўн. у замове: *на моры, на прамары стаіць дуб кракарысты, на ім дванаццаць какатоў* (светлаг., SOr, 39, 354). Да *мора* (гл.) з прыстаўкай *прá-*, што выступае ў традыцыйнай формуле замоў і, відаць, мае функцыю ўзмацнення ў адрозненне ад польск. *pramorze*, чэш. *pramoře*, серб.-харв. *pramore*, дзе прэфікс мае значэнне ‘першасны, даўні’, параўн. ESSJ, 1, 206. Гл. *пра-*, параўн. таксама *пралес*, *калісь-пракалíсь* ‘вельмі даўно’ (б.-каш., ГЧ), *праколісні* (гл.).

**Прама́рчыцца** ‘высахнуць, знясілець’ (Нас.). Да *марчыць* (гл.).

**Прамаслóіна**, *прамаслóйна* (аб дрэве) (Мат. Гом.). Рус. *прямослой, прямослóина* ‘дрэва з роўнымі, не звітымі слаямі’. Да *прамы* і *слой* (гл.).

**Праматóрніца** ‘жанчына, поўная радасці жыцця’ (Федар. 7). Да *маторны* (гл.). Прэфіксальная форма пры адсутнасці ў гэтым гняздзе славянскіх слоў дзеясловаў наводзіць на думку аб кантамінацыі захаванага ст.-бел. *промоторъ* ‘пратэктар, заступнік’ (Ст.-бел. лексікон), што з польск. *promotor* ‘натхніцель; заступнік, апякун’, якое ўзыходзіць да лац. *prōmovēre* ‘рухаць наперад’ (параўн. SEJC, 396), і *маторны* ‘рухавы, жвавы’ з афармленнем суфіксам *-іца*. Параўн. яшчэ і *прамаваць*.

**Прама́шка** ‘промах, памылка, недагляд у чым-небудзь’ (ТСБМ), *прамáшына* ‘тс’ (Нас.). Суфіксальныя дэрываты ад *промах* (гл.).

**Прамгну́ць** ‘крышку падкіснуць’ (мсцісл., З нар. сл.). З **прамзгнуць* у выніку спрашчэння групы зычных; параўн. рус. *промзгнýть* ‘тс’. Гл. *прóмзлы*.

**Праме́жак** ‘прастора паміж чым-небудзь’, ‘час, які аддзяляе адно дзеянне, з’яву ад другога’ (ТСБМ), ‘мяжа’ (Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *промéжек* ‘прамежак’, укр. *промéжка* ‘прамежак’, *про-*

*мéжок* ‘палявая дарога па мяжы паміж палёў’. Дэрыват ад *прамеж* з суф. *-ак*.

**Прамéжы**, *прамéжку, прóмеж* (Нас.), *прóмеж, промéз* (ТС) ‘між’. Рус. дыял. *промéж, промéжу, промéжи*, укр. *промéж, промéжку, промéжу*. Прасл. **pro-medju* і інш. З **pro-* (гл. *пра₂-*) і **medji/ medju* (гл. *меж*) (гл. ESSJ, 1, 221). Копечны (там жа) мяркуе, што, магчыма, тут была не прыстаўка **pro-* (гэта адзіны прыклад спалучэння **pro-* з іншым злучнікам), а **po-* , якая змянілася аналагічна *brez-< *bez* у некаторых славянскіх мовах.

**Прамéнь** ‘вузкая паласа святла’ (ТСБМ, Яруш., Др.-Падб.), параўн. ст.-бел. *промени солнечныи* (XVII ст.; БЛ, 29, 52). Паводле Кюнэ (Poln., 89), з польск. *promień* ‘тс’; гл. таксама Станкевіч (Зб. тв., 2, 167), які звяртае ўвагу, што ў гэтым значэнні ў народнай мове ўжываецца слова *каса* (гл.) і вытворныя ад яго, што ўскосна пацвярджае этымалогію прасл. **pormy*, Р. скл. **pormene* з першасным значэннем ‘пасма валасоў’ і пад. (Махэк₂, 479). Німчук (Давньорус., 32) дапускае для ўкр. *прóмінь* выпадзенне першага *о* ў *пóромінь* ‘тс’, што малаверагодна.

**Прамéр** ‘дыяметр’ (Байк. і Некр.). Наватвор 1920-х гадоў на ўзор чэш. *průměr*, што калькуе ням. *Durchmesser* ‘тс’ (Запрудскі, Stud. Russica, 20, 487).

**Прамётная** ‘нябачная сіла, якая рухаецца вельмі хутка’ (Нас.), *прамéтнік* ‘хуліган, гарэзнік’ (Сл. ПЗБ), *прамётнік* ‘той, хто бегае, не звяртаючы ўвагу ні на што’ (Нас.), *прамéтла* ‘турбота, непакой’ (шальч., Сл. ПЗБ); сюды ж *пралётная* ‘нябачная сіла, якая хутка праносіць што-небудзь, каго-небудзь з аднаго месца на другое’ (Нас.) з ад’ідэацыяй да *лятаць*. Гл. *апраметная.*

**Праміж** ‘між’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *промíж* ‘тс’ (ТС). Гл. *прамéжы*. Аб змяненні *е < і* гл. *між.*

**Прамíзна** ‘прамы шлях’ (Нас.). Да *прамы* (гл.) з суф. *-ізна*, аб якім гл. Карскі, 28 і наст.; Сцяцко, Афікс. наз.; 41. Сюды ж *прамавáць* ‘ісці напрамкі, напраські’ (гом., Нар. лекс.). Гл. таксама Куркіна, Этымалогія—1968, 67.

**Прамíн** ‘прамінка, перапынак’ (Нас.), сюды ж *прамíнак* ‘спакой’ (=перапынак) (шальч., Сл. ПЗБ), *праміноўваць* ‘мінаць’ (ТС). Да *мінаць.*

**Прамінтáцца** ‘прабавіць час’ (Сцяшк. Сл.). Да *мéнетаць* (гл.).

**Праміца**, *пряміца* ‘прамая, не зламаная цэпам пры малацьбе салома’ (Нас., Касп.). Да *прамы* (гл.).

**Пра́мка** ‘лучына, шчапаная ўздоўж з цэлай сасны (ад камля да вершаліны), якая апошняй дадаецца ў кацёл пры гонцы смалы’ (Маш.). Дэрыват з суф. *-к-* ад *прамы*; параўн. чэш. *přímka* ‘прамая’.

**Прамо́ва** ‘публічнае выступленне’ (ТСБМ, Яруш., Гарэц.). Укр. *промо́ва*, польск. *przemowa* ‘тс’. Аддзеяслоўны назоўнік ад *прамовіць* < *мовіць* (гл.). Не выключана і запазычанне з польскай мовы.

**Прамо́склы** ‘вельмі мокры’ (брэсц., Нар. словатв.). З **прамозглы* ў выніку аглушэння групы зычных *зг* > *ск*. Крыніцай слова з’яўляецца рус. *промо́зглый* ‘гнілы, сыры (пра надвор’е)’, гл. Фасмер, 3, 375; параўн. *мазглявы, про́мзлы*.

**Прамочка** ‘прамакатка’ (Сцяшк. Сл.). Суфіксальны дэрыват ад *прамачыць* < *мачыць*.

**Прамýга**, *прану́да* ‘прамежак паміж чым-небудзь’ (Сл. ПЗБ), *прамýда* ‘прастора паміж тылавой сценкай печы і сцяной хаты’ (лях., Янк. Мат.; Жд. 2, Сцяшк. Сл.), *прамы́га* ‘закутак, цёмны куток’ (Скарбы). Паводле Арашонкавай і інш. (Весці АН БССР, 1969, 4, 126), запазычанне з польск. *framuga*, дыял. *farmuga* ‘ніша, выемка’ або з літ. *pramū̃gà* ‘ніша, яма на дарозе, прамежак паміж лесам і возерам, пралом, прасека’, *pramū̃ge* ‘тс’, параўн. *prasimùginti* ‘праціскацца’. З семантычнага пункту погляду версія аб запазычанні з літоўскай мовы менш верагодная.

**Прамýда.** Гл. *прамуга.*

**Прамýза** ‘падпечак’ (пруж., Сл. Брэс.; маст., Сцяшк. Сл.). Відаць, трэба было б пісаць *прамýга,* параўн. прыклад: *У прамузе ляжаць стальнякі.* Тады — да *прамуга* (гл.).

**Прамы́** ‘роўны, выцягнуты ў якім-небудзь напрамку, без выгібаў, некрывы; непасрэдны, без прамежкавых ступеней’; ‘шчыры, праўдзівы, прынцыповы’ (ТСБМ). Рус. *прямой*, укр. *прямій*, ст.-рус. *прямъ* ‘прамы, правільны; справядлівы, просты’, чэш. *přímý* ‘прамы’, славац. *priamy* ‘тс’, славен. *prę̂m* ‘прамы’, ст.-слав. прѣмь ‘прамы, правільны’; сюды ж польск. *uprzejmy* ‘ветлівы, шчыры’ (< ‘прамы, правільны’), серб.-харв. *према* ‘насупраць’, *прама, прам* ‘насупраць’. З прычыны наяўнасці ў корані галосных *а* і *е* прасл. форма вызначалася па-рознаму:

або як **prętъ* (Зубаты, AfslPh 15, 496 і наст.), або як **prētъ* (Голуб—Копечны, 301). Фасмер (3, 395) абедзве рэканструкцыі лічыць спрэчнымі і дапускае кантамінацыю **prēmos* і **prōmos* (**pramъ*). Славянскія словы роднасныя грэч. πρόμος 'пярэдні, той, хто стаіць на чале', з інш. вакалізмам: πράμος 'тс', окс. *promom* 'першы', ст.-ісл. *framr* 'добры, смелы, прыдатны', ст.-в.-ням. *fruma* 'карысць, выгада' і інш. Гл. таксама Махэк$_2$, 493; Скок 3, 33—35. У беларускай мове магло захавацца толькі на ўсходзе тэрыторыі, паколькі ў сучаснай літаратурнай мове ўспрымаецца як русізм (Станкевіч, Зб. тв., 1, 32; Пацюпа, Гармонія, 25). Тое ж адносна славенскай сцвярджае Сной$_2$ (566).

**Прамы́іна** 'ўпадзіна, прамытая ліўнем, утвораная патокам вады', 'незамёрзлае месца на ледзяной паверхні ракі, возера' (ТСБМ). Ад дзеяслова *прамыць* з суф. *-іна* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42).

**Прамыка́ць** 'пратыкаць дзірку ў вусе для навушніц' (Малч.). Да *мыкаць$_2$*.

**Прамы́сласць** 'хатняя вытворчасць' (шальч., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад *промысел* з суф. *-асць*. Параўн. *промысловасць*.

**Прамысло́васць** 'галіна матэрыяльнай вытворчасці', 'сукупнасць прадпрыемстваў якой-небудзь вытворчасці' (ТСБМ, Гарэц.). Дэрыват з суф. *-асць* ад прыметніка *промысловы* < польск. *przemysłowy* 'тс', на што ўказвае націск. Калька рус. *промышленность*. Далей гл. *промысел*.

**Прамышлёны** 'кемлівы' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад **прамысліць*; апошняе, магчыма, з польск. *przemyśleć* 'прадумаць, абдумаць'. Параўн. яшчэ і польск. *przemyślność* 'кемлівасць, вынаходлівасць'.

**Прамышляй** 'невялікі невад, сетка з вялікімі ячэйкамі на дзвюх вертыкальных палках' (Дэмб. 2). Да *прамысловы, промысел*, або, хутчэй, да рус. *промышлять* 'дабываць сабе пракармленне промыслам'. Аб суфіксе *-яй* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 145.

**Прандзэ́й** 'хутчэй' (Сл. ПЗБ). З польск. *prędzej* 'тс' (там жа).

**Пра́нец** 'шкодлівае, неслухмянае дзіцё' (Нікан.). Да *пранцы* (гл.).

**Праніка́ць** 'ныць (пра сэрца)' (навагр., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з польск. *przenikać* 'пранікаць, пранізваць'. Але ні фанетычных, ні семантычных падстаў для гэтага няма.

Відаць, гэта канкрэтызацыя значэння *пранікаць* (< *нікаць*, гл.) 'пранізваць'.

**Праніґкнуць** 'прайсці куды-небудзь, трапіць праз што-небудзь', 'распаўсюдзіцца' (ТСБМ). Да *нікнуць* (гл.).

**Праніґна** 'менструацыя' (ТС). Дэрыват з суф. *-іна* ад *праць* (гл.). Эўфемізм, параўн. *праннё* 'бялізна для мыцця' (Юрч.).

**Праґнкі** ў выразе *нъ праґнкі* 'на раннюю паству' (полац., Нар. сл.). Хутчэй за ўсё, з **на паранкі* (**нъ пъраґнкі*). Менш верагодна з **нъ абранкі*, параўн. рус. пск., цвяр. *обраґнок* 'раніца да ўзыходу сонца, на зары', *обраґнеть* 'настаць раніцы, развіднець'; параўн. яшчэ і бел. выразы *аб дзень, аб ноч*, у якіх прыназоўнік яшчэ не пераўтварыўся ў прыстаўку. Да *рана, раніца*. Глухасць першага зычнага можна тлумачыць дээтымалагізацыяй выраза.

**Праноґзаваґты** 'пранізлівы' (ТСБМ), 'пранырлівы' (Некр., Ян.), *проноґзлівы, проноґзны* 'тс' (ТС). Рус. *проноґза* 'праныра', укр. *проноґза* 'тс', *пронозуватий* 'пранырлівы'. Дэрыват ад **пранозіць*, параўн. ст.-рус. *пронозити* 'пранізаць'. Роднаснае *заноза, нізаць* (гл.), параўн. Фасмер 3, 375.

**Пранcаґк** 'вантрабянка' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Гл. *пансак, панцак*.

***Пранӯза**, *пронуґза* 'праныра' (ТС). Да *пранозаваты, праноза* (гл.).

**Праґнуць** (*пряґнуць*) 'стукнуць, ударыць' (Нас.), *пряґдаць* 'бегаць' (Растарг.). Рус. *пряґнуть, воспряґнуть*, дзеяслоў зак. тр. да *пряґдать* 'скакаць, варушыць', укр. *пряґнути* 'кінуць', серб.-харв. *пре̏дати* 'баяцца', *пре̏нути се* 'ўстаць, ажыць', 'ускочыць спрасонку', славен. *oprésti, prédem* 'валіцца з ног'. Прасл. **prędati* — ітэратыў ад **pręsti* (гл. *прасць*) (Скок 3, 33). Роднасныя ст.-ісл. *spretta, spratt* 'прабівацца (узыходзіць), лопацца', англ. *sprint* 'бегчы на кароткую дыстанцыю, веславаць з усяе сілы', с.-в.-ням. *sprenzen* 'ірваць, пырскаць' (Фасмер 3, 394, з літ-рай; Борысь, Зб. Відоескаму, 51—54). Параўн. таксама з іншым вакалізмам *пруд, прудкі*. Гл. яшчэ *напрануць*.

**Праґнцы** мн. л. 'заразная венерычная хвароба; сіфіліс' (ТСБМ, Шат., Касп., Др.-Падб., Гарэц., Мядзв.; лельч., Арх. ГУ; ТС), 'скулы' (Бір. Дзярж.), *пранцэґі* 'блазнота, дурасліўцы' (ТС), *пранц, праґнэць, праґныц, праґнцы* 'брыдота' (Сл. ПЗБ), *пранцаваґты* 'пракажоны' (Зап.). Укр. мн. л. *пранці* 'сіфіліс', рус. паўдн., зах. *праґнец* 'залатушная высыпка'. Бел. і ўкр., відаць, з

польск. *pranca* 'сіфіліс; заразная венерычная хвароба', калісьці называлася "chorobą dworską" (Віл. сл.), з натуральнай заменай *ф* на *п*, параўн. народнае *пасоля* < *фасоля* і пад. (хвароба распаўсюдзілася ў пачатку XVI ст.), з даўняга ням. *franze, franzose* 'француза, французская хвароба', першапачаткова *französische Krankheit*, таму што першая эпідэмія сіфілісу ўспыхнула ў Францыі каля 1496 г. (Банькоўскі, 1, 385). Паводле Фасмера (3, 353), слова ўзыходзіць да гал. *frans* 'французскі', ням. *Franz* — у складаных словах тыпу *Franzbrot* 'французскі хлеб' і да т. п. Брукнер (127) і Махэк$_2$ (146) адзінай крыніцай лічаць нямецкую назву французаў. Параўн. яшчэ рус. *французская болезнь* 'сіфіліс' і чэш. *franská nemoc* 'тс'.

**Праны́ра** 'пранырлівы, прабіўны чалавек' (ТСБМ, Шат., ТС). Рус. *проны́ра* 'тс', ст.-слав. проныръ, пронырикъ 'дурны, нягодны, сапсаваны'. Звязаны з *ныраць* (Міклашыч, 213; Праабражэнскі 1, 611; Мацэнаўэр, 11, 327; Фасмер 3, 375). Версія аб запазычанні з грэч. πονηρός 'дурны, нягодны' (Брант, РФВ, 23, 89) адмаўляецца па фанетычных прычынах; гл. Фасмер, там жа. Кохман (Polonica, 71) настойвае на стараславянскім запазычанні з грэчаскай мовы.

**Прангэ́лька** старое 'сукенка' (Скарбы). З польск. *prunela* 'тканіна прунэль', што ўзыходзіць да франц. *prunelle* 'тканіна колеру сушаных сліў' (ад *prune* 'сліва'), прыметнік *prunelowy* фіксуецца з 1859 г. (Банькоўскі, 2, 805). Параўн. рус. *прюне́ль* 'тс' (Фасмер 3, 392).

**Праняха́ць** 'пусціць на шармака, прапусціць удалы момант, выпадак' (Нас.). Гл. *няхаць, няхаіць*.

**Праня́ць** 'прабраць, пранізаць', 'моцна падзейнічаць, уразіць', 'пранесці (аб паносе)' (ТСБМ), *праня́цца* 'знервавацца' (ваўк., Сл. ПЗБ). Прэфіксальны дзеяслоў ад прасл. **ęti*, **jьmǫ* 'мець, валодаць' з інфіксам *-н-*. Гл. *іма́ць*. Аналагічна ў іншых слав. мовах, параўн. рус. *проня́ть*, укр. *проня́ти* і г. д.

**Прапаве́даваць** 'распаўсюджваць якое-небудзь веравучэнне, растлумачваючы яго слухачам', *прапаведнік* (ТСБМ). У Насовіча слова адсутнічае. Відаць, кніжнае запазычанне з рус. *пропове́довать, пропове́дник* 'тс', якія працягваюць ст.-рус., ст.-слав. прьповѣдати, проповѣдьник і калькуюць лац. *praedicāre* 'гаварыць (аб прадмеце)', *praedicātor* 'прапаведнік' (Фасмер 3, 376). Лац.

словы ўзыходзяць да *prae-* 'пра' і *dicare* 'гаварыць' (Голуб—Ліер, 391).

**Прапага́нда** 'распаўсюджванне ў масах і тлумачэнне ідэй, ведаў, вучэння' (ТСБМ). Запазычанне пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 239) з рус. *пропага́нда* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 77). У рус. мове праз ням. *Propaganda* або франц. *propagande* з нова-лац. *congregātiō de propagandā fidē* — назвы арганізацыі для распаўсюджання каталіцкай веры, якая была заснавана папам Урбанам VII у 1263 г. (Фасмер 3, 376); паводле Банькоўскага (2, 784) — папам Грыгорыем XV у 1622 г. для падтрымкі каталіцтва ў заморскіх калоніях Іспаніі, Партугаліі і Францыі з мэтай абмежавання рэлігійных уплываў з боку Англіі і Галандыі (валодала значнымі фінансавымі сродкамі, прызначанымі для гэтай мэты). Далей слова ўзыходзіць да лац. *propago* (родн. з *propaginis*) 'парастак, атожылак', г. зн. уласна 'размнажэнне' (Голуб—Ліер, 397).

**Прападо́бій** 'накшталт' (брасл., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з рус. *наподобие*, магчыма, з мовы старавераў (?).

**Прапа́жа** 'тое, што прапала' (ТСБМ), 'шкода' (ігн., Сл. ПЗБ). Рус. *пропа́жа* 'тое, што прапала'. Ад *прападаць* з суф. *-ja* (< **padja*) (гл. Фасмер 3, 376).

**Прапазі́цыя** 'прапанова' (ТСБМ). Ст.-бел. *пропозиция, про-пазыцыя* 'прэтэнзія аднаго з цяжэбнікаў пасля следства' < польск. *propozycja* < лац. *prōpositiō* (Булыка, Запазыч., 267). Сучаснае беларускае слова было паўторна запазычана з польск. *propozycja* або рус. *пропозиция* 'прапанова' (Гіст. мовы, 233), якія ўзыходзяць да той жа лацінскай крыніцы. Лац. *prōpositiō* ад *proponere* 'прапанаваць'.

**Прапазы́ка** 'прапанова' (Др.-Падб.). Няма ў іншых слав. мовах. Відаць, аўтарскі нараватвор ад **прапазычыць* (гл. *зычыць, пазыка*) або ад *прапазыцыя* (гл.) шляхам замены фіналі на прадуктыўны суф. *-к-а*, параўн. характэрныя для народнай мовы *ста́нца* (< *станцыя*), *палі́ца* (< *паліцыя*) і пад. (Стан.).

**Прапанава́ць** 'заявіць аб жаданні, гатоўнасці дапамагчы', 'выказаць, унесці прапанову, параіць', 'даручыць выканаць' (ТСБМ, Гарэц.). З польск. *proponować* 'тс' (Кюнэ, Poln., 89). Польск. з лац. *proponere* 'тс' < *pro-* 'перад' і *ponere* 'класці' (Голуб—Ліер, 397).

**Пра́паршчык** ‘вайсковец на службе звыш устаноўленага тэрміну ў царскай арміі, самы малодшы афіцэрскі чын’ (ТСБМ). З рус. *пра́порщик* ‘тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 74), якое ўтворана ад *пра́пор* ‘сцяг’ і калькуе ням. *Fähnrich* ‘прапаршчык’, г. зн. ‘той, хто носіць сцяг’ < *Fähne* ‘сцяг’. Аб рус. слове гл. Фасмер 3, 354.

**Прапа́сны** ‘які марна траціцца’ (свісл., навагр., Сл. ПЗБ), ‘няякасны; прапашчы’ (ваўк., навагр., Сл. ПЗБ). Да *прапасці* (гл.).

**Прапасня́** ‘вельмі многа’ (Бір. Дзярж.). Да *прапасці*. Аб суф. *-ня* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 58 і наст. Да семантыкі параўн. рус. *про́пасть* (чаго-небудзь) ‘вельмі многа’ (ад *пропа́сть*).

**Прапашны́** ‘які сеецца радамі з шырокімі міжраддзямі для апрацоўкі’ (ТСБМ). З рус. *пропашно́й* ‘тс’ < *пропахать* < *пахать* ‘араць’.

**Прапашча́** ‘той, хто прападае’ (Касп.). З рус. *пропащий*, незалежн. дзеепрым. цяп. часу ад дзеяслова *прапасть* (гл. *прапасці*).

***Прапека**, *пропэ́ка* ‘здобны пірог’ (Сл. Брэс.). Зваротны дэрыват ад *прапячы* < *пячы* з узнаўленнем першаснага *-к-*, гл. *прапячы́* ‘спячы’: *свежага хлеба прапякла* (ігн., Сл. ПЗБ); да семантыкі прэфікса параўн. *проварыць* ‘зварыць’ (ТС).

**Прапі́жэнь** ‘перагародка (у пакоі)’ (шальч., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *przepierzenie* ‘тс’ (там жа, 4, 91), гл. там жа *прапярэня*, *прапярэння* (гл.).

**Прапой** ‘п’янства; горкі п’яніца’ (Нас.). Аддзеяслоўны назоўнік да *прапіць* (гл. *піць*), у апошнім значэнні часцей — *прапойца*, параўн. рус. *ты пропоица двора, ты пропил мое житье* (параўн. Экерт, Этимология—1997—1999, 220).

**Прапо́л** ‘прапаліс’ (астрав., Сл. ПЗБ). З *прапаліс* з адпадзеннем неарганічнага для славянскіх моў канчатку.

**Прапаліс** ‘пчаліны клей, вуза’ (ТСБМ), *прапа́ліс, прапаліс, про́пуліс* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). З рус. *прапо́лис*, якое з грэч. πρόπολις < πρό- ‘перад’ і πολις ‘горад’ (СИС, 413). Назва ўзнікла, відаць, таму, што прапаліс служыць для замазвання шчылін у вуллі і для іншых мэт і тым самым, як быццам, абараняе пчаліны “горад”.

**Прапорцыя** ‘суаднесенасць частак паміж сабой’ (ТСБМ). Ст.-бел. *пропорция* (*препорцыя*) XVII ст. < ст.-польск. *proporcyja* (Булыка, Лекс. Запазыч., 154). Сучаснае беларускае з рус. *про-*

*по́рция* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 78), якое, відаць, праз польск. *proporcja* з лац. *prōportiō* 'суаднесенасць' (гл. Фасмер 3, 376, з літ-рай).

**Прапуска́ць** 'праводзіць', 'распускаць' (Сл. ПЗБ; LKK, 30). Паводле Грынавяцкене (там жа), семантычная інавацыя пад уплывам літ. *palydė́ti* 'праводзіць' (< *lydė́ti* 'тс'), *praléisti* 'прапускаць' (< *léisti* 'пускаць, таяць').

**Прапяка́нка** 'від самаробнай стрэльбы' (ТСБМ), *прапе́ка* 'тс' (жлоб., Кошчанка, вусн. паведамл.). Паводле Кошчанкі, гэтая стрэльба ўяўляла сабой металічную трубку, якая сплюшчвалася з аднаго боку. Там, дзе сплюшчана, прасвідроўвалася маленькая дзірачка; потым трубка прымацоўвалася да драўлянага бруска. У адтуліну з другога боку запіхвалі серу з запалак і пыж з моху або пянькі. Калі трэба было стрэліць, да дзірачкі падносіўся агонь і пыж ляцеў на пэўную адлегласць. Як відаць з апісання рэаліі — ад дзеяслова *прапякаць* (дзірку) (гл. *пячы*), хутчэй за ўсё, першапачаткова ў драўлянай дэталі стрэльбы.

**Прапярэ́ня**, *прапярэ́ння, прапярэ́нне* 'перагародка' (трак., астрав., Сцяшк. Сл. і Сл. ПЗБ). Фанетычна адаптаваны паланізм, параўн. польск. *przepierzenie* 'тс'.

**Прара́б** 'выканаўца работ, непасрэдны кіраўнік работ' (ТСБМ). Запазычанне новага часу з рус. складанаскарочанага *прораб* 'производитель работ' (Крукоўскі, Уплыў, 70).

**Прарадзі́ма** 'самае старажытнае, першапачатковае месца пражывання таго ці іншага племені, народа, той ці іншай пароды жывёл і пад.' (ТСБМ). Рус. *прарóдина*, польск. *praojczyzna* 'тс' і да т. п. З *пра-* і *радзіма*. Паводле Борыся (Prefiks., 86), словы гэтага словаўтваральнага тыпу з'явіліся ў XIX ст. у якасці навуковых тэрмінаў першапачаткова ў польскай і чэшскай мовах як калькі ням. слоў з прыст. *ur-* (напр., *Urheimat* 'прарадзіма', *Urwald* 'пралес, старажытны запаведны лес') а потым распаўсюдзіліся ва ўсходнеславянскія мовы. Борысь (там жа) нават бачыць тут новую функцыю славянскай прыстаўкі **pra-* пад уплывам ням. *ur-* і лац. *prae-*.

**Прара́зіцца** 'жахнуцца' (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *przerazić się* 'тс' (там жа).

**Прара́зіць** 'нанесці моцную абразу' (Нас.). Да *разіць, ўразіць* (гл.).

**Прара́мак**$_1$ ‘вузкая палоска зямлі, лесу’ (Ян.). Адпаведнікі стараж.-рус. *ра́мены* ‘густы лес; лес, які мяжуе з палямі’, *ра́ма* ‘ўскраінная вобласць’, усх. і паўн. *ра́менье* ‘рубеж, край раллі, які ўпіраецца ў лес’, ст.-рус. *рама* ‘рубеж, граніца; ралля, якая мяжуе з лесам’, *раменье* ‘лес па краю раллі, узлессе’, *рамьнъ* ‘моцны, вялізны’. Фасмер (3, 440) звязвае гэту групу слоў са стараж.-рус. *рамяный* ‘багаты, моцны’, рус. ц.-слав. *рамѣнъ* ‘гвалтоўны, моцны’. Ільінскі (ИОРЯС, 23, 1, 179) параўноўваў са ст.-ісл. *rót* ‘корань’, якое, далей, роднаснае лац. *rādix* ‘тс’, *rāmus* ‘галінка’ (Вальдэ—Гофман 2, 415). Па фармальных і семантычных паказчыках найбольш пераканаўчым з’яўляецца тлумачэнне Аткупшчыкова (Из истории, 197) аб роднасці славянскіх слоў літ. *armuõ* ‘ралля’, лац. *armen-tum* ‘рабочая скаціна (тая, якая выкарыстоўваецца на раллі)’. Яны вызначаюцца як і.-е. дэрываты на *men-* ад асновы, прадстаўленай у ст.-рус. *орати*, літ. *árti* ‘араць’.

**Прарóбкі** ‘страты’ (Нас.). Ад *прарабíць* з суф. *-к*. Відаць, аказіянальнае ўтварэнне, якое суадносіцца з *заробкі*; параўн. кантэкст: *не заробкі, а праробкі* (Нас.).

**Прарóдзікі** ‘продкі’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *prarodzicie* ‘прабацькі’ з адаптацыяй суфіксальнай часткі, магчыма, па тыпу *бацькí* (гл.).

**Прарóк** ‘прапаведнік волі Бога, пасланы Богам; прадказальнік будучыні, вяшчун’ (ТСБМ), *прарок, прарока* ‘тс’ (Нас.), ст.-бел. *пророкъ* ‘тс’. Рус. *проро́к*, укр. *пророк, пророк, пророка* ‘тс’. У сучасных усх.-слав. мовах запазычанне са ст.-слав. пророкъ, што з’яўляецца калькай грэч. προφήτης ‘прарок, прадвяшчальнік’. Ад **pro-* ( гл. *пра-*) і **rekti* ‘гаварыць’ (гл. Фасмер 3, 465; ЕСУМ, 4, 600), параўн. ст.-бел. *пророкуе* (XVI ст.), паводле Карскага (1, 158), пад уплывам *реку, ректи* — “в живых белорусских говорах это слово неизвестно” (там жа, 261). Форма *прарока* па тыпу народных ўтварэнняў на *-а*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 76.

**Прарумя́ніць** ‘працерці, памыць, пачысціць’ (Ян.). Няясна. Магчыма, да *румяніць* (гл.), якое ўжываецца тут пераносна: ‘зрабіць светлым, ясным’.

**Прару́ха** ‘правал, падзенне’, (перан.) ‘пагрэшнасць’; толькі ў прымаўцы: *і на старуху бываіць прарýха* (Нас.). Аналагічна ў рус. мове: *и на старуху бывает проруха*. Адваротны дэрыват

ад **прарушыць* з узнаўленнем першапачатковага зычнага *-х-*. Гл. *рух, рушыць*.

**Прарэ́зка** 'пятліца' (Касп., Мат. Маг., Шатал.), *пра́разка* 'тс' (Ян.), *про́рузка* 'тс' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *прорэ́зка* 'падоўжаны разрэз у сарочцы' (лун., Шатал.). Суфіксальны дэрыват ад *прарэзаць* < *рэзаць* (гл.). Сюды ж *прарэ́зь* 'нарэзы на мянташцы' (навагр., Сл. ПЗБ).

**Прарэ́х**, *прарэ́ха* 'разадранае або разрэзанае месца ў адзенні; дзірка', 'пярэдні разрэз у штанах' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), *прарэ́х* 'агрэх (у полі)' (Скарбы), *прарэшка*, *прарэшак* 'пятля для гузіка' (Інстр. 3), 'незасеянае месца на полі' (Сцяшк. Сл.; гродз., Шн. 3), 'каўнер кашулі' (Нас.). Рус. *проре́ха*, *проре́шина*, *проре́ховина* 'распоратае або разадранае месца ў адзенні', ст.-рус. *проръха*. Этымалогія няпэўная. Лічыцца дэрыватам з другасным *-х-* (як *праха*, рус. *сваха*) ад *прорэ́заць* (гл. Фасмер 3, 376 і наст.). Праабражэнскі (2, 137) узводзіць слова да рус. *редкий* і спасылаецца на *проредь*. Параўноўвалі таксама са ст.-інд. *rēkhā* 'паласа, рыса', лац. *rīma* 'расколіна, шчыліна' (Ільінскі, РФВ 69, 16) і з лат. *risums*, *rìsiens* 'трэшчына, разрэз' (Мацэнаўэр, LF, 14, 92).

**Прас** 'прылада для гладжання бялізны, адзення' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Мік., Сцяшк. Сл., Гарэц., Сл. ПЗБ), *прац, пра́сло* 'тс' (Сл. Брэс.), 'два валы, па якіх спускаецца вытканнае палатно на варштаце' (Уладз.), 'электраплітка' (Сл. Брэс.). Польск. дыял. *prasa, praska* 'прас'. Прымаючы пад увагу адрозненні ў родзе, трэба лічыць бел. слова, насуперак Кюнэ (Poln., 89), адварототным ўтварэннем ад *прасаваць* (гл.). Значэнне 'электраплітка' ўзнікла, відаць, у выніку пераносу значэння 'электрычны прас' — 'іншы электрычны прыбор'.

**Прасаве́нье,** *прасаве́лье, прасяве́ньне* 'прасяная салома' (ганц., Сл. ПЗБ). Ад *проса* з суф. *-авенне*; аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 144.

**Прасава́ць** 'гладзіць прасам' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп.). З польск. *prasować* 'тс' (Кюнэ, Poln., 89). Польскае слова ўзыходзіць да ням. *pressen* 'націскаць' (гл. Фасмер 3, 354), паводле Банькоўскага (2, 760), першапачаткова пра выцісканне алею, соку; друкаванне (1542 г.).

*__Прасáрня__, *просáрня, просярня* ‘месца, дзе абрушвалі прасяныя крупы’ (ТС). Ад *проса* з суф. *-арня* па тыпу *малатарня.*

**Прасвадавáць**, *прасвядавáць* ‘раіць, угаворваць’ (ашм., шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *perswadować* ‘тс’, што ўзыходзіць да лац. *persuārē* ‘пераконваць, схіляць’ (Банькоўскі, 2, 531).

**Прасвéт** ‘светлая паласа на неасветленым’, ‘прамежак, свабодная прастора паміж блізкімі прадметамі’ (ТСБМ, Нас.), ‘праём акна’ (ТСБМ, Шушк.). Рус. *просвéт*, укр. *просвíток*, польск. *przeswit*, чэш. *průsvit*. Нульсуфіксальны дэрыват ад *прасвяціць* < *свяціць*. Сюды ж *прасвéтны* ‘празрысты’ (ашм., Стан.).

**Прасвéта** ‘асвета’ (Др.-Падб.). Запазычанне з укр. *просвíта* ‘тс’, якое, верагодна, з *просвіцáти* ‘рабіць каго-небудзь асвечаным’, што, у сваю чаргу, паходзіць са ст.-слав. просвѣштати ‘асвятляць; асвячаць’ ад про- і свѣтити ‘свяціць’ (ЕСУМ, 4, 601).

**Прасвíрка**, *просвіра* ‘белая круглая булачка з прэснага цеста, якая выкарыстоўваецца ў абрадах набажэнства’ (ТСБМ), параўн. укр. *просвирка* ‘тс’, рус. *просвúра, просвúрка*, ст.-слав. просфора, просвора ‘тс’, што да грэч. πρoσφορά ‘дар, паднашэнне’ (Праабражэнскі, 2, 131; Фасмер, 3, 377; ЕСУМ, 4, 601). Гл. таксама *праскура*.

**Прасвірэ́джваць** ‘прарываць, прарэджваць (напр., буракі)’ (навагр., Сцяшк. Сл.). Нейкая кантамінацыя. Магчыма, польск. *świdrzyć* ‘свідраваць’ і *-рэджваць* (< *рэдкі*), ці ў сувязі з *свірэ́па, свірэ́пка* ‘сурэпка’ (гл.) як пустазелле.

**Прасéка** ‘ачышчаная ад дрэў паласа ў лесе, якая служыць граніцай участка, дарогай і пад.’ (ТСБМ), гл. і *прóсека*. Да *прасякаць, сячы* (гл.). Аб гэтых словах як дарожных тэрмінах гл. Куркіна (Этимология—1968, 94).

**Прасéліна** ‘шчыліна, расколіна’ (Нас.). Чэш. *prosedlina* ‘даліна, лажбіна’, серб.-харв. *prosjelina* ‘расколіна’. Прасл. **prosědlina* (Варбат, Морфонология, 204). Да **prosědati* ‘прасядаць’, уласна ад дзеепрым. прошл. часу на *-l-* з суф. *-ina*.

**Прасéсць,** *прóсесць, прóсясць, прóсяць, прысéсць, просíсць, прóсість, прóсець, прóсест, просіест, прашэ́сць, прошвýст, прóшаст* (Сл. ПЗБ, Бяльк., Шатал., Уладз., ТС, З нар. сл., Ян., Мат. Маг., Нар. сл.). Асноўныя значэнні: ‘адлегласць на ткацкім станку ад пярэдняга навоя да бёрдаў (нітоў) і кавалак палатна, вытканы на гэтым участку асновы’; ‘частка намотанай на станок

асновы, якая адпускаецца для ткання на адзін раз'; 'верхняя ці ніжняя частка асновы (або прамежак паміж імі), праз якія праходзіць чаўнок'; 'палатно, сатканае за 1 прыём; кавалак саматканага палатна каля 30 см'; 'вытканае, але яшчэ не адрэзанае ад кроснаў палатно'. Рус. *прóшесть* 'палатно ў станку ад калоды або прышвы да бёрда' (Даль), *прасéсть*, *просéсть, прóшесь* 'мера даўжыні палатна або асновы ў працэсе ткання, роўная адлегласці паміж навоем і бёрдамі', укр. палес. *просэсць* 'даўжыня палатна, роўная аднаму абароту нітак асновы вакол навоя'. Чумакова (ЭИРЯ, 1968, 181 і наст.) прыводзіць яшчэ польск. абл. (без дакладнай фіксацыі) *proszejść* 'палатно, якое знаходзіцца ў рабоце на ткацкім станку', але яго фанетычная форма ўказвае, хутчэй, на запазычанне з усходнеславянскіх моў. У спецыялізаваным слоўніку Фаліньскай (Słown., 1) яно не адзначана. Складанае слова, у якім цяжка вызначыць як галосную, так і першую зычную кораня. Чумакова (там жа) на рускай тэрыторыі асноўнай лічыць форму *прошесть* і ўзводзіць яе да кораня **xod-* у ступені рэдукцыі: **pro-xьd-tь*, г. зн. першапачаткова назва дзеяння 'ход чаўнака', якое потым перайшло ў сферу канкрэтных назваў. На беларускай тэрыторыі форма з шыпячым адзначана толькі ў магілёўскіх гаворках. На нашу думку, суаднесенасць гэтых формаў у рускай мове аналагічна пары *насесть, насест / нашесть, нашест* 'седала'. Адсутнасць *ѣ* ў Даля ў формах з шыпячымі, магчыма, тлумачыцца тым, што ён супастаўляе іх з *шест*. Мена *с/ш* можа быць абумоўлена як вядомым чарграваннем у рускіх говарках свісцячых і шыпячых (гл. Філін, Происх., 267), так і проста дысіміляцыяй свісцячых у гэтым слове; на аснове беларускіх формаў галосную ў корані можна ўзнавіць як *ѣ*, Тады зыходная форма — **pro-sěd-tь*, г. зн. месца, дзе атпушчаная аснова прасядае, каб утварыўся зеў і можна было б прасоўваць чаўнок. Параўн.: *Атпусьце прасест, бо малыя зявэ* (Шатал., 139). Словаўтварэнне аналагічна, як у слоў *пропасць* і інш. З пункту погляду вызначэння галоснага ў корані выклікае сумненні ўкраінскі прыклад. Але параўн. укр. палес. *сєдат* 'сядаць', *сєдушка* 'лавачка', дзе галосны ў корані, несумненна, з ѣ. Улічваючы старажытнасць словаўтварэння, можна рэканструяваць прасл. **prosěstь*. Паводле Смулковай (Балто-слав. иссл. — 1980, 208), дыял. *pras'és'c'* — балтызм, што выводзіцца з *prasiskẽti* 'рассунуцца,

рассоўвацца, раскрыцца'; Смачынскі (там жа) адносіць да *siėti* 'вязаць', на думку Смулковай — сумніўна

**Прасе́ў**, *просе́ў* 'агрэх, прапушчаны пры сяўбе ўчастак' (лудз., Сл. ПЗБ, Выг., ТС), *про́сеў* 'тс' (Мат. Маг.). Рус. *просев* 'прасейванне; сяўба ўсяго насення, якое ёсць у сеялцы', польск. *przesiew* 'прасяванне; сяўба'. Нулявы дэрыват ад *прасяваць, прасеіваць*. Семантыка слова развілася пад уплывам такіх слоў, як *пралік* і пад.

**Прасе́ўрыць** 'праветрываць на скразняку' (Касп.). Да *сівер, север*, параўн. *пасе́верыць* 'патрэскацца ад холаду' (Сл. ПЗБ) (гл.). Магчыма, пад уплывам літ. *šiaurė̃* 'поўнач', *šiaurùs* 'халодны, паўночны'.

**Прасе́чка** 'перашкода' (Нас.). Суфіксальны дэрыват ад *прасячы* (гл.). Да семантыкі параўн. рус. *пресе́чь* 'перарваць, спыніць'.

**Прасёлак** 'грунтавая дарога паміж невялікімі населенымі пунктамі' (ТСБМ). Рус. *просёлок* 'тс'. Конфікснае ўтварэнне *пра-* + *-ак* ад *сяло* (гл.). Першапачаткова 'дарога паміж двума сёламі, праз сяло' (гл. Фасмер 3, 377).

**Прасіна́цца** 'прачынацца' (Янк. 1), укр. *просина́тися* 'тс'. Ітэратыў да *праснуцца* (гл.). Ці не сюды і назва месяца прасл. **prosinьcь*, параўн. укр. *про́си́нець* 'студзень; снежань', ст.-польск. *prosiniec*, чэш. *prosínec*, серб.-харв. *про̏синац* 'снежань', славен. *prosinec* 'студзень', ст.-слав. просиньць 'тс', для якіх значэнне 'ажываць, прачынацца' больш падыходзіць, чым сувязь з **sijati* 'ззяць', **sinǫti* 'заззяць', згодна з найбольш прынятай этымалогіяй (гл. Фасмер, 3, 377; Сной$_2$, 585 і інш.).

**Прасі́так** 'сіта' (Інстр. 1, Шат.). Конфікснае (*пра-* + *-ак*) утварэнне ад *сіта*; параўн. рус. *подситок* 'сіта невялікіх памераў'. Сюды ж *прасі́ціціцца* 'прадрацца' (аб лакцях у вопратцы) (Касп.), *просі́чаны* 'працёрты, сітаваты' (ТС).

**Прасі́ць** 'звяртацца з просьбай, дабівацца чаго-небудзь, назначаць цану', 'заступацца за каго-небудзь', 'запрашаць, клікаць', 'жабраваць' (ТСБМ). Рус. *проси́ть*, укр. *проси́ти*, ст-рус., ст.-слав. просити, ітэратыў прашати, польск. *prosić*, в.-луж. *prosyć*, н.-луж. *pŕosyś*, чэш. *prositi*, славац. *prosit'* 'прасіць', серб.-харв. *про̀сити* 'выпрошваць; сватаць', славен. *prósiti* 'прасіць', балг. *про́ся* 'выпрошваць; сватаць'. Прасл. **prositi*. Роднасныя: літ. *prašýti, prašau* 'патрабаваць, прасіць', лат. *prasīt, prasu* 'тс', лац.

*precor, -ārī* ‘прасіць’, *procus* ‘жаніх’, гоц. *fraĥnan* ‘пытанне’, ст.-в.-ням. *fraga* ‘пытанне’, *fragen, fragon* ‘пытаць’, ст.-інд. *praçnás* ‘пытанне’, авесц. *frasa-* ‘пытанне’ і г. д. (Траўтман, 216; Мюленбах—Эндзелін 3, 377; Вальдэ—Гофман 2, 346 і наст.; Уленбек, 173; Фасмер 3, 378). Сюды *прасільнік* ‘чалавек, які запрашае на вяселле’ (Сцяшк. Сл.), мн. л. *просылныкі* ‘тс’ (Сл. Брэс.).

**Праско́к** ‘кадык’ (рас., Шатал.), *проско́к* ‘грыжа’ (ганц., Сл. ПЗБ). Зваротны нульсуфіксальны дэрыват ад *праскочыць, праскокваць* < *скакаць* (гл.), г. зн. рухацца (пры глытанні, націсканні).

**Праско́нак** ‘букет’ (халоп., Стан.). Няясна.

**Праско́ўка** ‘вяроўка, якою прывязваецца барана да ворчыка, каромысла’ (Бяльк.). Няясна. Фармальна гэта слова можна было б суаднесці з **праскаць, праск,* параўн. укр. *праск, пра́скати* ‘трэск, трэскацца’, польск. *prask* і г. д. Параўн., аднак, назвы розных вяровак, прывязак і пад.: балг. *пра́шка* ‘плецены пояс; бакавая прывязка ў сядле’, серб.-харв. *пра̏ħа* ‘прывязка ў сядле’, польск. *proca* ‘рэмень у ярме’, што выводзяць з прасл. **portsa* ‘прашча’, якая названа, верагодна, па матэрыялу, з якога зроблена гэтая прылада для кідання (Сной$_2$, 557), гл. *прашча*, параўн. *праснёвыя ніткі*, ад *про́сцень* ‘верацяно з ніткамі з пяці ручаек’ (Нік. Очерки).

**Праску́ра**, *праскурка, про́скура, праскура́, проску́рка* ‘прасвіра’ (Шат., Касп., Др.-Падб., Нас., Шпіл., Мік., ТС, Маш.; маг., Шн. 2). Гл. *прасвірка.*

**Праску́ркі** ‘мальва пагрэбаваная, Malva neglecta Wallr.’ (Яруш., Гарэц.; маг., Кіс., Дэмб. 1). Мн. л. ад *праскурка* (гл. *праскура*); з-за падабенства пладоў параўн. іншую назву: *перапечкі* (Кіс.).

**Праску́рнік** ‘алтэя, Althaea’ (Нас.), ‘штокружа (сляс) ружовая, Alcea nosea L.’ (віц., Кіс.). Рус. *проскурник, просвирник* ‘розныя віды Althaea, Malva’, укр. *про́скурнак, проскурняк* ‘расліна Althaea officinalis’, польск. *proskurnia* ‘лясны кустарнік’, чэш. *proskurník* (з рус. — Махэк, Jména, 147). Ад *праскура* (гл.). Назва па знешнім выглядзе, форме пладоў (Махэк$_2$, там жа; Мяркулава, Очерки, 127).

**Праскурня́** ‘жанчына, якая пячэ прасвіры’ (Нас., Мал.), *просвірня* ‘тс’ (Маш.). Рус. *проску́рня, просві́рня* ‘тс’, укр. *проску́рня* ‘месца, дзе пякуць прасвіры’, *проскурні́ца* ‘жанчына, якая пячэ

прасвіры'. Ад *праскура, просвіра* з суф. *-ня.* Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 118.

**Пра́сла₁** *пра́сло*, *пра́смо, пра́сно* 'частка агароджы-паркана паміж двума слупамі' (ТСБМ, Янк. 3, Сцяшк. Сл.; слуц., КЭС, Др.-Падб., Шат., Гарэц., ТС), 'пралёт плота на даўжыню жэрдак' (Бір. Дзярж.; Шымк., Собр. і Шушк.), 'плот з неабчасанага колля' (Сл. Брэс.), 'частка сцяны паміж вокнамі' (Сцяшк. Сл.), 'праход у плоце' (паўн.-усх. КЭС; Касп.), 'жэрдка, якой закладваюць праход у агароджы' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), 'частка застаронка' (Сл. ПЗБ), 'некалькі жменяў зжатага збожжа' (Сл. ПЗБ), 'вузкі ўчастак зямлі' (трак., Сл. ПЗБ), 'паласа, якую камбайн займае за адзін раз' (Сл. ПЗБ), 'пасма пражы пры тканні' (Др.-Падб.). Рус. *пря́сло* 'частка калаўроту; частка агароджы, паркана'; укр. *пря́сло* 'звяно плятня', польск. *przęsło* 'частка паркана паміж двума слупамі; ярус', чэш. *přáslo* 'тс', славен. *préslo, préslica* 'станок, станіна, да якой прымацоўваецца пража; калаўрот; частка млыну'. Прасл. **pręslo*. З **pręd-slo*, звязанага з *прасці* (Фасмер 3, 395 і наст.). Роднасныя з лат. *sprieslis* 'скляпенне', англ.-сакс. *sprindel* 'крук' (Траўтман, 278; Мюленбах—Эндзелін 3, 1022; Прабражэнскі, 2, 144). Махэк₂ выводзіць **pręslo* з **(s)pręg-slo*, ад кораня, які ў літ. *sprengto* 'ўціскаць нешта да вузкай шчыліны' і ў слав. **pręgo* (гл. *упрэгці*). Бязлай (3, 115) славен. *pręslo* 'калаўрот; верацяно' лічыць амонімам да слоў са значэннем 'звяно плота', апошняе да **prętslo* ад **prętati* (гл. *пратаць*), на думку Куркінай (Этимология—1994—1996, 204), беспадстаўна.

**Пра́сла₂** 'агульная назва любой агародніны' (быx., Касп., Янк. Мат.). Семантычны рэгіяналізм. Ад *прасла₁*, як *агародніна* ад *агарод* < *гарадзіць*, г. зн., 'тое, што за праслам, за агароджай'; параўн. таксама *пра́сла* 'некалькі жменяў зжатага збожжа', 'вузкі ўчастак зямлі' (Сл. ПЗБ).

***Прасле́дак,** *прослі́док* 'след, зроблены ўпершыню' (Сл. Брэс.). Укр. *прослідок* 'след'. Конфікснае *пра₂-* + *-ок*-утварэнне ад *след* (гл.).

**Праслён** (*прэслён*), *прэ́сленка*, *прэ́слёнка* 'каменьчык з дзірачкай, прасліца' (ТС), параўн. рус. *пря́слен, пря́слень* 'тс', ст.-польск. *przęśleń* 'матавіла', чэш. *přeslen* 'прасліца', славац. *prasleň* 'тс', в.-луж. *přasleń* 'тс', н.-луж. *pśěslin* 'тс', палаб.

*prąslen* 'тс', серб.-харв. *пре̏шљен* 'прасліца; пазванок', славен. *preslèn* 'прасліца', балг. *пре́шлен* 'прасліца; пазванок', макед. *прешлен* 'прасліца'. Прасл. **pręslenъ, *pręslenь*, утворанае ад **pręslo* (гл. *прасла*) з суф. *-*enъ*, *-*enь* (Махэк$_2$, 491; Бязлай, 3, 115; Шустар-Шэўц, 2, 1167; БЕР, 5, 688, з літ-рай).

**Праслі́чны** 'прыгожы' (Нас.). З *пра* і *слічны* (гл.), параўн. польск. *prześliczny* 'прыгожанькі'.

**Праслу́хаць** 'даведацца' (віл., Сл. ПЗБ). З польск. *przesłuchać* 'дапрасіць, выслухаць'.

**Праслядава́ць** 'асуджаць, забараняць' (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *prześladować* 'тс' (там жа).

***Прасме́ргнуць**, *просмэ́ргнутэ* 'прасмярдзець (напр., аб мясе)' (брэсц., Нар. словатв.). Кантамінаванае слова: *прасмярдзець* + *сморгаць*, *шморгаць*. Параўн. яшчэ *сморгі* 'соплі'. Магчыма, мы маем тут і кантамінаванае значэнне 'прасмярдзець і пакрыцца сліззю'.

**Прасміха́ць** 'насміхацца' (швянч., Сл. ПЗБ). З *насміхацца* ў выніку кантамінацыі з польск. *prześmiewać, prześmiewać się* 'жартаваць, кпіць'.

**Прасмулы́жыцца** 'працерціся аж да зямлі (пра зімовую дарогу)' (Касп.). Параўн. *смурыжсыць* 'церці' (Бяльк.), рус. цвяр. *смурыгаць* 'тс'. Апошняе лічыцца пазнейшым ітэратыўным утварэннем ад *сморгать* (Фасмер 3, 693). Гл. *сморгаць*, *шморгаць*.

**Прасна́к**, *праснóк, праснýшка, прасня́к, прасны́к, прыснёк* 'тоўсты блін з прэснага цеста' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Касп., Др.-Падб., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Сл. Брэс.), 'ляпёшка з хлебнага цеста' (Бяльк.). Больш падрабязна аб значэннях слова і іх лакалізацыі гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 115. Слова мае агульнаславянскае распаўсюджанне: укр. *прісня́к* 'праснак, пірог з прэснага цеста', рус. *праснáк, преснóк* 'прэсны хлеб, пірог, ляпёшка', польск. *przaśnik, przaśniak* 'прэсны хлеб', чэш. *přesňak* 'ляпёшка з няквашанага цеста', серб.-харв. *prèsnik, пре́снац, пре́сница* 'прэсны хлеб; прэснае салодкае пячэнне', славен. *presnec* 'няквашаны хлеб', балг. *пресни́к* 'прэсны хлеб', макед. *праснег, преснец, пресник* 'від пірага з падсушаных каржоў, складзеных адзін на адзін'. Суфіксальныя дэрываты ад **prěsnъ* 'прэсны' (гл. Вештарт, там жа). Параўн. таксама *апрэснік*.

Даведачнае выданне

**ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ**

**Том 9**

**П**

**Укладальнікі:**

**Лучыц-Федарэц** Іван Іванавіч
**Волкава** Яўгенія Вітальеўна
**Кур'ян** Інэса Уладзіміраўна і інш.

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*

Мастак *А. А. Кулажэнка*

Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*

Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*

Камп'ютарная вёрстка *Л. В. Харытонава*

Падпісана ў друк 12.12.2004 г. Фармат 60×90$^{1}/_{16}$. Папера афс. № 1. Гарнітура Times New Roman. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 23,0. Ум. фарб.-адб. 23,0. Ул.-выд. арк. 20,0. Тыраж 1000. Заказ 3810.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Выдавецтва "Беларуская навука".
ЛИ № 02330/0056800 ад 30.04.2004 г.
220141. Мінск, Старабарысаўскі тракт, 40.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства
"Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня". ЛП № 02330/0056846 ад 30.04.2004 г.
225409. Баранавічы, Савецкая, 80.

